№1(74)
/студзень-люты/ 2015

ДЗЕ
дзеяслоў

ЗМЕСТ

Віктар Казько



...я не БНФ, – сказаў Моця. –
І гавару з вамі на мове грошай...

# Свята мужчынскага смутку

***Два апавяданні***

## Моця – пакутнік сучаснасці

*На берегу пустынных волн*
*Сидел он, дум высоких полн...*

А.С. Пушкін і Моця.

Упяклі, загналі. Як рыбу ў нерат – ні назад, ні ўперад. Працярэбішся праз дзень, кладзешся спаць – заўтра ўсё пераменіцца. З сонейкам – пазбаўленне. Разам з цемрай адыдзе і прымус. Воля.

Але гэта табе толькі мроіцца. Зноў усё спачатку. Нібыта і не было абяцання надзеі. Згулялі з табой твае мары, мроі і летуценні. Падманулі, горка і няўцешна.

Жыццё, па ўсім, вялікая памылка. Прынамсі, з той пары, як нованароджаны чалавек пачынае разумець сябе. Хаця да гэтага ён здаецца самому сабе шчаслівым. Шчаслівым вачыма, ротам, галавой, думкамі. Так было. Так было, зда-

ецца, зусім нядаўна. Абяцанне, бясконцае абяцанне працягу яго, шчасця. Абяцанне нават большага. А таму і штодзень шчымлівае чаканне гэтага большага. І ён, узрушаным нетрываннем, нецярпеннем смеху і замілаваннем кожнага світанку імкнуўся як мага хутчэй наблізіць сябе да светлай будучыні наперадзе. Веры ў тое, што ўсё лепшае там, за рогам яго хаты, яе парогам, толькі за ім бразне клямка, пстрыкне замок.

Але так ужо заведзена – за вялікім чаканнем такое ж вялікае расчараванне. Амаль сусветны падман, разбуральны падман прывабнага снення. Часам незапамінальныя праблёскі яго гоняцца за табой у калавароце сумнай рэчаіснасці і помсцяць, помсцяць табе нязбыўнасцю. Нешта накшталт сутыкнення з неспакойнай, незразумелай самому табе навальніцай – сварліва незгаворлівай памяццю даўно збытых зямлёю і людзьмі стагоддзяў. Гулліва грукотнае абуджэнне іх – мо пераглыд, мо адмаўленне з адмыццём, а мо і забіцце. Пахаванне ў спапяляльных бліскавіцах зямных скляпенняў пад ляскатныя выбухі ўгневанага нябеснага незадавальнення грому – раздраю сусвету. Выкрыццё мінуўшчыны ці прадказанне будучыні. Маланка асвятляе зямлю да парушынкі. І не толькі дае магчымасць зірнуць на яе з неба, але і слепіць вока. Гром агаломшвае памятных і беспамятных. І ў супольнай руплівай векавечнасці грому і маланкі стоена хто ведае што. Надзея з бласлаўленнем, мінулае ці будучыня, а мо пакаранне, вырак. Гэта суддзі і каты, яны мілуюць і адначасова ў сваім бліскавічным азарэнні гучна і святочна забіваюць і ўваскрашаюць.

У якой ступені і меры гэта тычылася яго, Моці, ён не ведаў. Але падсвядома адчуваў такі сэнс, такі вырак усяму жывому на свеце. Гэтае адчуванне агарнула яго, калі ён пайшоў у дзіцячы садок. Так прагнуў, так чакаў таго садка, што тыдзень перад ім жыў, як адшараваны. Спрэс асветлены будучым шчасцем. Толькі садковая навіна хутка патрэскалася, паблякла і пачала лупіцца. Шалупінне карасліва зняможыла яго ўжо недзе праз два ці тры тыдні, калі скончылася лета, укарацелі дні, і Моцю было загадана раней класціся спаць і раней, пад будзільнік, прачынацца. Мо гэта было і не так цяжка. Але ж прымус ёсць прымус. А яго Моця не трываў. Нягледзячы на гэта, насуперак самому сабе ён тры ці чатыры гады, закуты неабходнасцю, можна лічыць, годна вытрымаў сваё першае зняволенне.

Хаця, калі папраўдзе, не так ужо і годна. Па першым часе горка нудзіўся, пакрыўджаны здзекам і падманам лёсу, здрадай бацькоў. Ці не год, а мо і болей стоена насіў гэта ў сабе – пяць дзён на тыдні цярпеў. Стоенасць, крыўда і адзінота прымусілі яго ўпарта думаць наступныя ці не два гады. Пасля якіх ён пачаў прымаць захады, дзейнічаць, хаця магчымасці былі вельмі і вельмі куцыя. Але ўсё ж яны былі, бо, як кажуць, пад ляжачы камень і вада не цячэ.

У агароджы садка ён наглядзеў дзірку, праз якую лазілі каты і сабакі. Дзірка была не надта культурная, са шматлікімі пазнакамі тых жа бамжаватых катоў і сабак, але тут ужо не да пераборац. Зноў жа, што ўсім, тое і бабінаму ўнуку. Якраз да бабы пачаў свае першыя ўцёкі з садка Моця. Але менавіта баба і здала яго з рук у рукі выхавацелям і нянечкам дзетсаду. Ды каб яшчэ проста здала, а то з выпрабаваннем вушэй. Да іх прыладзіліся і выхавацельніца з нянечкай.

Вушы апухлі на тыдзень, так калектыўна над імі пашчыравалі. Але гэта толькі павялічыла Моцеву прагу да волі: нішто так не собіць набыццю веры ў сябе і ў сваю праўду, як боль і не пралітая ў сэрцы сляза дзяцінства, а

ў дадатак да іх аладкавыя вушы. Праўда, ёсць яшчэ адно месцейка, але пра яго лепей не згадваць.

Моця, хаця і бярог, ашчаджаў тое месца, але амаль ніводнага дня не мінаў дзіркі ў плоце садка, як яго ні сцераглі, як за ім ні сачылі. Усе дзённыя і лупастыя насельнікі садка, не выключаючы яго верных дружбакоў, з каторымі ён еў за адным сталом і побач спаў. Як на дзіва тыя аказаліся і самымі пільнымі даглядчыкамі і самымі настойлівымі здраднікамі. Варта было Моцю толькі наблізіцца да свайго патайнога лазу, як яны пачыналі лямантаваць, уздымаць угару рукі і паказваць пальцам: “Во-во, зараз-зараз, зноў-зноў. Трымайце, пакуль яшчэ тут...”

І, здаецца, ні ў каго з Моцевай групы не было больш справы, як толькі выкрыць яго, данесці і пасмяяцца з пакарання над ім. Дурні. Яны не ведалі, што іншым разам такім чынам ён проста пацвельваў іх, адводзіў ім і выхавацелям вочы. Дзеля выйсця з садка ў яго ўжо меліся свае адмысловыя хады і лазы. Ён даўно ўжо гуляе і гуляецца з усімі. Тое, што напачатку было глыбока і ўсур’ёз, на справе пераўтварылася ў нешта зусім іншае. Ва ўласцівасць і патрэбу захаваць сябе, зацятае – быць, быць, быць. Не вылучыцца, а мець сваю прастору, дапушчальную магчымасць прараслай у ім невядома калі непакоры. Якую ён упадабаў пасля першага ж прымусу і цяпер не меў сілы і не хацеў развітвацца з ёй.

За гэтай яго падсвядомай непакорай цікавалі ўсе дзеці ў садку і дарослыя, не выключаючы бацькоў і нават яго ж бабулі. А ён быў “сабе на ўме”. Была ў ім ужо такая вынаходлівая патрэба быць самому сабе на ўме. Мо нават і хвароба па мянушцы не дзіця, а божае пакаранне. І Моця з вартасцю нёс свае божае пакаранне ў вялікі і надта ж прывабны яму свет. За вароты падпарадкаванага пісьмовага раскладу дня садка з яго ціхімі гадзінамі, прагулкамі пад наглядам, за вароты, на вуліцу, дзе ўсе паасобку і таксама сабе на ўме. Ён налаўчыўся выпадаць з казённага вока выхавацеляў і аднагрупоўцаў, не прыкладаючы вялікіх намаганняў, па ўласным загадзе быць нябачным. Нават дзіркі ў плоце яму цяпер былі без вялікай патрэбы, бо часцей за ўсё карыстаўся варотамі, брамкай, якія іншым разам з-за розных гаспадарчых патрэбаў, а то і безгаловасці забываліся замкнуць.

Незалежна і задуменна шпацыраваў па ходніках гарадскіх вуліц і завулкаў. Часам не грэбаваў і лужамі, але не злоўжываў, за станам абутку ў садку сачылі ўважліва. Ішоў больш бязмэтна, куды вочы вялі. Куды вочы вядуць – гэта была яго старая зімовая гульня з бацькам. Ён сядаў у санкі, бацька пытаўся:

– Ну, куды едзем?

– А куды вочы вядуць, – углядаючыся ў сумёты снегу, у бясконцасць дарогі і неба з заміраннем сэрца адказваў Моця. І не памыляўся, вочы заўсёды вялі ў невядомасць, якой Моця быў замілаваны.

Вось і цяпер яны вялі Моцю ў *лю*бую да шчымлівасці невядомасць. Толькі невядомасць невядомасцю, чаму так толькі атрымлівалася, мела ўсё ж і пэўнасць. У большасці гэта была школа, у якую ён так летуценна марыў хутчэй пайсці: збыць садок і стаць вучнем. Бо хаця і за плотам, а там была сапраўдная вольніца. Так ужо атрымлівалася, што Моця дадыбваў да школы падчас перапынкаў. І школяры малодшых класаў, амаль яго равеснікі, як з рагаткі каменьчыкі, у адных касцюмчыках, без паліто і шапак гойсалі па падворку, гарэзілі, часам і біліся за ўстойлівасць на пакінутым

на падворку бервяне. Утрымліваліся і не ўтрымліваліся, скурчана, гнутка падалі долу, смяяліся і цішком плакалі.

Моця аж са скуры вылузваўся ад жадання апынуцца сярод іх, гарэла на ім хапаткім сінім полымем скура: хутчэй, хутчэй першы раз у першы клас.

І гэтае хутчэй надышло. Адбылося, трасца яго бяры, як любіць гаварыць бабуля. Збылося. І які ж гэта зноў быў вялікі жыццёвы падман: «Мечты, мечты, где ваша сладость? Ушли мечты, осталась гадость»: дзесяць гадоў, а цяпер ужо цэлых дванаццаць, сабаку пад хвост, што ў некага лічацца адукацыяй. Вось такая горкая яго доля.

Што ж гэта атрымліваецца, табліцы множання не хапае падсумаваць страшэннае, жахлівае зняволенне ў самым росквіце сілаў і жаданняў: чатыры, а мо і пяць гадкоў – садок. І адразу без перапынку дванаццаць – школа, два – войска, пяць – інстытут. Складі разам – амаль чвэрць веку. А жыць калі?

Не, не выжыве, не ацалее чалавек, калі так пойдзе і далей. А яны ўсе як заведзеныя: цяжка ў вучобе, лёгка ў жыцці. У труне ён бачыў такую палёгку. Лепш быць маладым і стройным невукам, чымсьці гарбатым вучоным, акадэмікам нават...

Моця не лічыў сябе ні невукам, ні вучоным і не жадаў імі быць. Ён самотна сядзеў на беразе невялікай рэчкі-пятлянкі, і было яму да невыказанасці прыкра і горка. Так горка, што хацелася пляваццa. Але гэтага ён не мог сабе дазволіць. Па-першае, ён ужо ў свой час адпляваўся. Было, было. Ніяк не мог убіцца ў трамвай. Народу процьма, а сярод яго нейкі нахабны дзяцюк, які перашкаджаў яму, адштурхоўваў. Моця злаўчыўся і пралез у вагон пад яго шырока расстаўленымі локцямі. У тую ж хвіліну трамвай крануўся. Дзяцюк застаўся на супынку, а Моця на падножцы, ачаперыўшы парэнчы, пачаў ад яго аддаляцца. І ўзрадавана плюнуў дзецюку ў твар. Ён яшчэ працягваў жыць помстай, як трамвай нечакана спыніўся. Дзяцюк дагнаў і назаўсёды адвучыў Моцю пляваццa. Але цяпер ён быў гатовы аднавіць былую звычку.

Толькі ў ваду, у рэчку, адчуваў, пляваць было нягожа. Гэта ўжо забарона і навука бабулі, якая любіла паўтараць: на свеце ёсць толькі тры вартыя і любыя чалавеку справы. Гэта сачыць за агнём у печы, за цёкам вады ў рэчцы і наглядаць за чужой работай. Вось адну з гэтых трох справаў і меў зараз Моця, таму і няздольны быў парушыць і згадзіць чаравальна ціхую плынь ракі. А яна, рачулка, была, што лялечка, даверлівая і чыстая тварам у зялёнай і рудзенькай апраўе ніцых прыпясочных ракітнікаў і бялявых асок: непарушнасць і лагода нябеснага блакіту ў кваяцістай хусцінцы. І донейка яе было жоўценькае, пясочнае, каляровае, з праблiскам дробных, блакітных ад вады, роўненькіх з усіх бакоў каменьчыкаў, падобных на ціхія зоркі ў тумановым прадвячэрнім небе ці дасціпныя вочкі маленькіх дзяўчынак. Апроч гэтага на дне яшчэ мелася і безліч раструшчаных да друзу ракавінак, зіхоткіх, што перліны. І таму здавалася, што рэчка імкнецца нешта сказаць, перадаць яму, Моцю, хоча нешта мовіць, а не можа, толькі падміргвае вочкамі, шчочкамі і вілюшкамі плыні. Рэчка, вада яму спачувалі.

Але Моця не паддаўся іх спачуванню, хаця адчуў, што ў сваёй ахвярнай самотнасці яму таксама хочацца не застацца нелюдзем, душа прагне голасу, мовы, слова. Толькі гаварыць не было з кім. А калі ўжо зусім папраўдзе, то на тую хвіліну і ўласны голас быў яму брыдкі, ён і без таго ўжо нагаварыўся сам з сабой. Наваколле, рака жахаецца.

Моця крутнуўся, як певень на седале, ляпнуў сябе па кішэнях, выцягнуў мабільны тэлефон і спраўна, што жаўна караедаў, пачаў выдзёўбываць з яго тлустыя літаркі.

“Я ў пекле. Усё пагана. Лагер паганы. Ні хвілінкі вольнага часу. А сёмай гадзіне раніцы пад’ём. А сёмай дваццаць фіззарадка. А восьмай сняданак. Потым ангельская да пятнаццатай трыццаці разам з абедам, строем. Ціхі час. І з сямнаццатай да дваццаць першай уключна з вячэрай, строем, рэпетуем. А дваццаць другой з паловай адбой. Вакол усе геніі, чалавечай мовы не чутно. Усе спікаюць, шпрэхаюць, кільдзяюць і маніторацъ. Джунглі, малпы, толькі белыя. Адно без хвастоў. Ні да каго не прытуліцца, некаму пажаліцца ці морду набіць. Я больш у прывілеяваны замежны лагер памру, а не паеду. Ваш сын і ўнук Моця. P.S. Усё пагана!!!”

Моцеў крык душы, плач Яраслаўны, абмяркоўвалі ў той жа дзень увечары на сямейнай радзе. Бацька, праўда, паставіўся да яго несур’ёзна:

– У сына, відавочна, літаратурны талент. Мо што-небудзь атрымаецца з яго людскае. Пісьменнікам будзе, не ў прыклад мне.

Бабуля адбрыла яго:

– Што не скажаш, то як у лужу...

– Ён у нас такі, – пацвердзіла матуля. – Змала любіць лужы...

Тут магла ўжо ўсчацца лаянка. Але бабуля, цвёрда трымаючы рэй, не дазволіла адхіліцца ад галоўнага пытання:

– Ратаваць хлопчыка трэба. І неадкладна, – сказала яна. – А то нарадзілі і збылі з рук. Адкупіліся замежным пернікам.

– А каму з нас і як у тое замежжа пранікнуць? – спытала маці.

– Бяру на сябе, – запэўніла яе бабуля. – Партызанскімі сцежкамі. Наш партызан сёння і ў Зімбабве партызан, хоць і дэмакратам спляжаны. Пакуйце перадачу, хоць і ў бліжняе, але ў чырвонае савецкае замежжа.

Тут усталявалася працяглая паўза, бо ніхто не ведаў, не меў вопыту, што дазволена кантрабандна пераносіць праз мяжу. Разгубілася і бабуля, але ненадоўга – такую-сякую мела памяць на мінуўшчыну.

– Як я мяркую, ласункаў і прысмакаў яму там хапае – чорны хлеб, іржаны, барадзінскі ці нарачанскі. Сушыце сухары, бо сапраўдны беларускі іржаны хлеб ужо даўно ў нас звялі, ці глёўкі, ці на другі дзень зацвітае і зелянее, што восеньская рунь.

– Прапазіцыя зразумелая, – адобрыў бацька. – А што яшчэ?

– А тое, што заўсёды ў нас да хлеба. Сала, селядзец...

– Пляшку гарэлкі , – у тон ёй здзекліва мовіў бацька.

– Гэта было б дарэчы, – не звярнула ўвагі на яго здзек бабуля.

– Малому? Гарэлку?

– І малому, і старому. Не рабі з мяне дурную. Падручны матэрыял. Пропуск, аўсвайс для памежнікаў.

– Залыгаюць цябе з тваім аўсвайсам, – не ўхваліла гарэлку і дачка.

– Восьмы дзясятак на свеце жыву, і пры Сталіне, і пры Хрушчове, і пры Брэжневе, пры камуністах і дэмакратах надзейней аўсвайса не ўведала. Пры ўсіх гарэлка бывае толькі добрая ці вельмі добрая, – паставіла пераможную кропку бабуля і зірнула на зяця, нібы чакаючы ад яго падтрымкі, і той спраўдзіў яе спадзяванні, згодна кіўнуў галавой.

– А што б яшчэ? – спыталася дачка. – Мо ўсё ж цукерак якіх, шакаладу?

– Шакалад не пройдзе, – адмовіла ёй бабуля. – Што трэба ў лесе і

пры рэчцы хлопчыку малому, бабінаму ўнуку? Ну? – запытальна зірнула ўбок зяця.

Той толькі паціснуў плячыма.

– Не быў ты хлопцам і ў маленстве, – з дакорам сказала баба.– Нож, ножык. Яго складнік, сцізорык на дзесяць прылад. Вудачкі, шпінінг...

– Цяпер гэта спінінг, – паправіў старую зяць.

– Адзін чорт. Заўсёды з аднаго боку кручок, напрыканцы чарвячок, а пры іх дурачок накшталт цябе. Дзяцінства трэба помніць і паміраючы.

Вось так і сабралі бабулю па яе ж наказах і выправілі раніцой ў недалёкае савецкае замежжа. І яна толькі ёй вядомымі сцежкамі, гаямі і дубровамі, далінамі і пагоркамі, зямля была адна і тая ж, як і ў гады яе маладосці, кантрабандна дапяла да чужой цяпер краіны. У вайсковым ці міністэрства па надзвычайных сітуацыях стракатым камуфляжы, з нажом у кішэні, вудамі за плячыма вылузнулася недзе пад абед з хмызоў пры беразе рачулкі-пятлянкі каля лагера, у якім пакутваў яе ўнук. І аўсвайс застаўся незапатрабаваны памежнікамі, што надавала ёй упэўненасці і нават мужнасці, веры ў сябе колішнюю, маладую.

І яна, падобна, была не адна такая тут праніклівая. Якраз быў выходны дзень. І бацькоў на беразе ракі назбіралася што груздоў у кашы ў грыбное ўрадлівае лета. Грыбнымі чортавымі зялёнкавымі-падзялёнкавымі кругамі, чародамі, зграямі яны абселі ўсё наваколле, песцілі і лашчылі словамі і позіркамі, хатнімі і казённымі, пакупнымі прысмакамі сваіх нашчадкаў. Бабуля яшчэ падумала: “Глядзі ты, час ідзе, а нічога не змяняецца. Усё як тады, пры Саветах. Нават пляшкі і чаркі ў некаторых з мужыкоў савецкія, хаця болей посуду штучнага, пластмасавага. Такі, пэўна, век надышоў. Падробна натуральны, імгненна штучны. І п’юць, і ядуць падробна”.

Моца больш за ўсё ўзрадваўся вудам. Тут ужо што дагадзіла баба, то дагадзіла. Адразу ж разматаў іх, з-пад нейкай адзінай пры лагеры трухлявай калодзіны выкалупаў некалькі плюскіх ад цяжару дрэва смуглявых чарвякоў і пацёг бабулю на ўлюбёнае ім месца на беразе рэчкі, дзе было не так людна, зацішна.

А на рэчцы, у вадзе як нехта чакаў яго. Чакаў даўно. Паплавок толькі лёг на ваду і яшчэ пагойдваўся, калі яго нечакана пацягнула ўніз і ўсцяж, супраць плыні. Пасля чаго ён адразу ж знік. Толькі лёска напялася, нібыта запрашаючы, цягнучы за сабой і Моцу. Ён адразу ж парадніўся, паяднаўся з вадой і плынню ракі, як павучок бабіным летам са сваёй хістка напятай ў паветры і небе празрыстай і цененькай павуцінкай, і шморгнуў угару вуду.

Рыбка выхапілася з матчыных абдымкаў ракі, развітальна скінула ў яе некалькі слязінак са слюдзяна трапяткога хвосціка, злёгку і на імгненне парушыла плынь і ў паветры пайшла ў скокі, ва ўсе бакі выгінаючыся гнуткім і пругкім целам у рознакаляровых уборах.

Да гэтага часу ніхто, здаецца, не звяртаў на Моцу ніякай увагі. Тлумны натоўп мройна калыхаўся ў прасцягу сонечнага дня, заняты сваёй справай. Моца ж ніколькі не прыналежаў да яго, самотна зліты, знітаваны з ракой, прыпнуты да яе. Але варта толькі было ўзвіцца над яго галавой рыбцы, як сонны, ачмурэлы ад дзённай спёкі натоўп нібы прачнуўся. Абудзіўся. І ў адзінай неўтаймаванай узрушанасці, напятай жарсці рушыў да яго, да Моці. Ды так згуртавана, шматгалова, шматрука, шматножна, шматвокава, што Моца спужаўся: абломяць, абрынуць бераг.

Што і як адбылося далей, Моцу няўцямна і праз гады. Сам сурочыў

ён сваю ўдачу. Ці мо гэта было загадана, задумана некім, хто тут, на беразе ракі нябачна пасяліўся ў ім, жыў яго падсвядомасцю, кіраваў ім. І не толькі ім, небам, ракой, усім існым на тую бясконца доўгую хвіліну яго любасці да той жа існасці. І гэтай любасцю Моця не жадаў ні з кім дзяліцца. Гэта было яго і толькі яго, і ён доўжыў сябе, забараняючы сваім рукам дакрануцца да таго, што ўжо трапіла ў іх, трымаючы сваю вясёлкавую радасць, сваё трапяткое шчасце на цененькай лёсцы, на вазе, пад задуменным паглядам разважлівага спакою вады і неба, адчуваючы сябе ці не ў вечнасці, умольна прагнучы, жадаючы гэтай вечнасці.

І рыбка як зразумела, пачула яго. Высока скочыла ўгару, вызваляючы лёску выструненай напятасці, легла плазам у паветры і гэтым вышмаргнула з губы кручок. Праўда, не без Моцевай дапамогі, бо ён міжвольна пацёг на сябе і зноў на сябе лёску. Кручок вылузнуўся з рота рыбкі, як арэхлузанчык са сваёй калыскавай пладаножкі перад тым, як упасці долу, ці ў чые-небудзь, часцей дзіцячыя, рукі. А рыбка, гэта была стронга, фарэль, упала ў сваю адвечную калыску, раку-пятлянку.

У Моці зашчымела сэрца. Ён пусціў нават слязу. Але гэта была салодкая сляза. Яна пазначыла яму толькі павекі, расінка на блакітным верасе, сярод якога стаіўся малады рудзенькі баравічок. Так апякла, апаліла золатам і срэбрам яго вочы залатая рыбка. І Моця не хацеў, каб хто-небудзь бачыў у тую хвіліну яго вочы, яго залатую рыбку. Ёсць вялікае імгненне, якое трэба таіць і таіць у сабе. Імгненне пазнання сапраўднага шчасця і прыгажосці. Не напаказ, а дзеля захаванасці сябе да схону, таго, што тоіцца ў агне і вадзе. А яшчэ ў зайздрасці і замілаванні вока і рук сваіх і чужых да працы.

Бабуля ўжо даўно пакінула Моцю, апусцеў і прылагерны бераг ракі, а Моця ўсё яшчэ працягваў сядзець на беразе. Рыбаліў. Цяпер, застаўшыся адзін, ён прагнуў зноў злавіць упушчаную ім рыбку. Сваю залатую стронгу. Зірнуць ёй у вочы, дакрануцца сваімі вуснамі да яе вуснаў. Пачуць і мовіць слова. Адзінае, яшчэ нікім не чутае і не моўленае. Якое і не трэба мовіць услых. Бо яно глыбока, глыбока ў існасці кожнага жывога. Тут, на самоце, ён загадаў жаданне, і рыбка павінна была паказацца і спраўдзіць яго. Жаданне на поўны яго век, на яго доўгае-доўгае жыццё. Але рыбка, пэўна, забавілася і забылася на Моцю. Толькі ён быў, як заўсёды ўвечары, упарты. Чакаў, верыў і спадзяваўся. Хаця не-не ды і варушыўся ў галаве чарвячок: надзея – маці дурняў. А пальцы выцюквалі на мабільніку пасланне бацьку і маці: “Жыццё, здаецца, наладжваецца”...

## Моця ў дзень свята мужчынскага смутку

Так з самага ранку пазначыў той дзень бацька:

– Са святам мужчынскага смутку! – бадзёра прамовіў ён маці, калі тая была яшчэ ў ложку, а Моця сядзеў у адзіноце за сямейным сталом, дапіваў каву. Каву яму чамусьці піць не дазвалялі, таму, калі выпадала, яна была яму вельмі смачная, як і сёння. Дзень быў асаблівы – восьмае сакавіка, жаночае, а таму крыху і яго, з паслабленнем і дапушчальнымі парушэннямі, свята.

Святы Моцю падабаліся, дыхалася вальней. Бацькі адзначалі з адпаведнымі, зразумела, наступствамі, і ён напоўніцу карыстаўся гэтым, таксама з наступствамі, сваімі і не надта кідкімі. Мяжу ведаў і ніколі

не пераступаў. Святочных дзён бацькам па магчымасці імкнуўся не псаваць. Таму яму было не зусім зразумела, чаму бацька ў святочны ранак адразу засяродзіўся на смутку. І гэта затрымала яго за сталом значна долей, чым ён планаваў.

А планы былі ўзвышаныя. Вялікія, мужчынскія. Святочныя планы. Ён ужо з месяц, а то і два не даядаў і не дапіваў на перапынках у школе, абыходзіў бокам усе спакуслівыя шапікі з іх незлічонымі кіндэрсюрпрызамі і марсамі, якіх у гэты час як чорт панаставіў на яго шляху. Збіваў капейку. Рублікі, пяцёрачкі, дзясятачкі і дваццатачкі. На чым і пагарэў. Гэтыя грошыкі нечакана выйшлі з ужытку. У хадзе засталіся пяцідзясяткі, сотні і тысячы. Вышэй Моця не сягаў, бо гэта было па-за яго розумам і адукацыяй. Не хапала мазгоў, каб асэнсаваць тысячы і тысячы.

Мо гэтая неадукаванасць і падвяла яго. Неадукаванасць і нахабнасць. Ён кінуўся мяняць сваё кроўна назапашанае не куды-небудзь, а адразу ў дзяржаўны банк, каб ужо без падману ў далейшым і самому выглядаць стала і заможна, як прадпрымальнік ці бізнесовец. У банку яго сустрэлі не вельмі ветліва, на першым жа кроку падазрона. Ужо адчыняючы дзверы дзяржаўнай той установы, ён адчуў вагу сапраўдных грошай, іх непадступнасць яму і амаль грэблівасць: куды прэш, галадранец, асадзі назад.

Далей жа яшчэ болей і горай. У касіркі вочы на лоб палезлі, калі ён выграб са свайго ранца назапашанае і горкае, здабытае з такімі пакутамі і цяжкасцямі строката матыльковае багацце. Да ўсяго некалькі вясёлых дзясятак і пяцёрак упала і на скразняку намерылася распаўзціся, нібы чарвякі пасля дажджу, па падлозе, што выклікала насцярожанасць і цікаўнасць дзяжурнага міліцыянта.

Моця кінуўся выправіць неахайнасць, сабраць да кучы свой скарб, але міліцыянт спыніў, а мо, не выключана, перасцярог яго:

– Можешь не утруждаться, уборщица подметет. – І праз паўзу: – На улице насобирал или бомжа грабанул?

– Крыўдзіце, – спалохана адказаў Моця. –Усё да капейкі зароблена сумленна.

– Понимаю, новое поколение выбирает пепси.

Моця не зразумеў, што меў на ўвазе міліцыянт, але на ўсялякі выпадак запярэчыў:

– Якраз і не. Вада з-пад крана не менш салодкая і карысная, чымсьці пепсі.

– Но, но, – ашаломлена занокаў міліцыянт. – На каком это языке ты со мной разговариваешь? Такой хмырёнок, а уже БНФ?

– Я не БНФ, – сказаў Моця. – І гавару з вамі на мове грошай.

Нахіліўся, падняў з падлогі некалькі купюр і працягнуў міліцыянту.

– Чытайце, чытайце ўслых.

Міліцыянт узяў з яго рук грошы і ці то са здзіўленнем, ці то з павагай услых, як то і прасіў Моця, пачаў чытаць:

– Пяць рублёў, дзесяць рублёў, дваццаць... таксама рублёў. Глядзі ты, ніколі б і не падумаў: рублёў... А когда-то было – рублей.

– Новое поколение выбрало пепси! – паставіў кропку ў іх гаворцы Моця.

Міліцыянт усміхнуўся яму:

– Малайчына, малайчына. Малы, а разбіраешся ў калбасных абрэзках. Далёка пойдзеш, далёка, калі не спыняць і панос не перашкодзіць. – І ўжо касірцы: – Мяняй яму грошы і глядзі, каб новенькія былі.

– З хрустам, – папярэдзіў Моця. – Я люблю новенькія і з хрустам, каб шамацелі і не зводзіліся...

І касірка ў абмен на яго жухлыя і адмерлыя матылькі адарыла Моцю новенькімі пяцісоткамі і нават тысячамі, як ад сябе адарвала, падаравала яму ўпэўненасць і свята. І той святочнасці з цягам часу ў Моці набралася поўныя кішэні. Цяпер надышла чарга падзяліцца ёй і з маці, бо яму было цяжка ўтрымаць яго ў сабе, у сваіх кішэнях. Грошы прагнулі свабоды, волі, бо яны былі ягоныя. Не надта патрэбныя, калі яны былі. І край, калі іх не было. Моцю карцела развітацца з імі. Парадаваць маці сапраўдным святам.

Але гэтаму яго прадчуванню будучай радасці маці нешта з самага ранку пачаў заступаць бацька: са святам цябе мужчынскага смутку, кажа... Была ў яго словах нейкая незразумелая Моцю супярэчлівасць. Была, толькі ён аніяк не мог сцяміць, у чым яна: свята і смутак?

Піць каву крадком – гэта асалода і свята. З аднаго боку, а з другога... Не, з усіх бакоў прыемна. Але, але... Гэтае але, калі цябе зловяць. Толькі, як любіць прымаўляць бабуля, тут Бог надвое мяркуе... Нешта ўсё ж надта складана атрымлівалася ў Моці. Была, была ў словах бацькі нейкая праўда, але ж і вялікая няпраўда. Падпёр жа яго чорт з гэтым святочным віншаваннем маці. Павіншаваў, называецца.

Каб набыць хоць нейкую пэўнасць, душа не прымала, баранілася падваення, Моця заклікаў на падмогу ці не ўвесь свой жыццёвы вопыт, вопыт светлых і чорных дзён. А такі-сякі вопыт наконт гэтага ў яго ўжо меўся. Не дарэмна ж і не пустадомкам ён каторы ўжо год жыў на белым свеце, плакаў і смяяўся – усяго пароўну. Хаця, здаецца, пакуль больш смяяўся. У сонечныя дні. Але ж пракідваліся і дні хмарныя, дажджлівыя.

Пад сонцам людзі больш радыя, пад дажджом – сумуюць. Дарослыя і дзеці. Таксама і ён, Моця, не абсевак жа ў полі. У яго памяці было болей усё ж сонечных дзён, хаця не перашкодзіла б іх трошкі яшчэ, бо менавіта пры сонцы ён адчуваў сябе чалавекам, патрэбным небу, зямлі таму ж сонцу, быў неаддзельны ад іх. Хаця і пры сонцы можа быць не выключана такая падлянка.

Якраз такі праз край дрыготка светлы і сонечны быў той дзень, што сумна прыгадаўся яму цяпер. Даверліва і сакавіта клейка разгарнулі лісце бярозы. Праклюнуліся і апякальна запалалі кветам цюльпаны на клумбах плошчаў і сквераў. Расквецiліся нават не зробленыя памадай вусны людзей. І сонца прамяніла ласкай і радасцю. То быў дзень Перамогі. І ці не ўсе ў горадзе гуртаваліся ў адно. Бацькі з дзецьмі, больш на загорбку, але і поруч і паасобку імкнулі на праспект, да плошчы і помніка Перамогі. Туды ж прыйшоў разам з бацькамі, бабуляй і Моця. Крыху пазнавата, праўда, ужо. На ходніках народу не ўвапхнуцца. Але бабуля, старая і пранікліввая партызанка, схапіўшы за руку Моцю, працерабілася ў першыя шэрагі.

Удала працерабілася, на саменькі пачатак падыходу ветэранаў, удзельнікаў Айчыннай вайны да помніка Перамогі і ўскладання імі вянкоў і кветак. Большасць тых удзельнікаў, а Моці здалося, што ўсе, былі апрануты чамусьці ў чорнае, крыху здзівіла яго: свята ж, урачыстасць, а адзенне, парадныя мундзіры жалобныя. І ўвогуле дзіўнае спалучэнне, ці наадварот – неспалучэнне смутку і радасці, хаўтур і весялосці.

Чорныя, узараныя і прарослыя маршчынамі абранзавелыя руіны парушанага, размолатага ў друз фашысцкага рэйхстагу, Берліна, на імгненне падалося Моцю, паўсталі і рушылі па калісь таксама разбураным да друзу

горадзе, па яго сёння святочна прыбраным праспекце, магільнай сцежцы да велічнай помнікавай магілы і аздаблялі тую магілу ці не крывавай пунсовасцю першых вясновых кветак.

Такой жа пунсовай крывавасцю быў высцелены і шлях ветэранаў. Дарослыя і дзеці, і больш дзеці, кідалі пад ногі ім ці не на працягу ўсяго праспекта кветкі. Гэта было невыносна кранальна і мімаволі выціскала слязу. Праз тую слязу з усёй моцы, як гранату, шпурнуў свой букет бэзу і ён. Здалося, удала. Букет быў ладны, што добры дзяркач. Моця патрапіў ім не пад ногі і не ў рукі якога-небудзь ветэрана, а акуратненька ў твар перакасабочанай бабулькі. Тая ішла да гэтага, абапіраючыся на чорную сукаватую кавеньку. А тут, дыхнуўшы водарам Моцевага букета, рашуча адкінула яе на брук і, баявіта пазвоньваючы бронзай ардэноў і медалёў, пайшла на Моцю, нібыта ў атаку. Пабегла, ды так бордзенька, што ён, не цямячы сябе, кінуўся наўцёкі, па-заечы скідваючы петлі, абмінаючы тых, хто стаяў на яго дарозе. Бег вілюжкамі, мо гэта яго і ўратавала ад гневу франтавічкі.

Сумнае атрымалася свята. Мо недзе і не без падстаў сцвярджае бацька, што каму свята, а каму... Але Моця засмучаўся нядоўга. Усё ж гэта было даўно, збыта ўжо. А сёння свята ў яго маці. Сапраўдныя ж святы толькі тыя і тады, калі ты сам, сваімі рукамі, сваім гарбом іх ствараеш. І не сабе, а некаму іншаму, як той іншы стварае іх для цябе. Такім чынам, свята гэта нешта няўлоўнае, пераходнае. І яно розніцца колерам, адценнем – у жанчын сваё, у мужчын сваё. Сваё і ў малых дзяцей, больш усцешнае і працяглае, як бясконцае вольнае лета – канікулы. Канікулы святаў і шчасця.

Зараз канікулы будуць кароткімі. Але яны будуць. Яго кішэні распірае ад грошай, якія вось-вось пераўтворацца ў кветкі для маці. А кветкі – у яе радасць. Радасць у шчасце, шчасце – у свята. Свята маці. Моця хуценька дапіў каву, апрануўся, скочыў за дзверы і пабег на супынак тралейбуса, які ішоў да рынку, дзе, як ён ужо прыгледзеўся, кветкі былі больш танныя.

Але танныя-то яны танныя, хаця, трэба сказаць, сёння не надта. І рынак зусім не рынак, базар, дэманстрацыя, тое ж шэсце ветэранаў, толькі са змененай вітрынай твараў, амаладжанае і вірлівае. Кветкі куплялі абярэмкамі, скрынямі, а мо і вазамі. І продаж іх, бясконцая плынь паміж гандлёвымі прылаўкамі і сцежкамі на ўваход і выйсце, пад высокім блакітам ужо вясновага неба, галашчока крамянага сонца, рыпучага, маладога, а таму ружовага снегу быў падобны святочнаму салюту. Толькі не ў змроку вечара ці ночы, пры святле і без журбы і смутку, якія ўсё ж, хаця і падсвядома, уласцівы ці не кожнаму пад выбухі гармат і пры распаласаваным, раздзёртым агнямі небе. Таму, пэўна, што ўсе нашыя салюты сведчанне нашых былых нягодаў, няшчасцяў – бяды, слёз і крыві. Таксама ж, як і ўсе нашыя выбітныя і знакавыя святы. Знакі, вехі летапісу былых ліхалеццяў.

Моця доўга не мог ушчаміцца праз натоўпы людзей да прадавачак кветак, наблізіцца і разгледзець цэннікі. А калі гэта атрымалася, там, дзе ішоў бойкі распродаж руж, зніякавеў. Ружы былі відавочна кветкамі не яго і не ягонай маці. Тут ён са сваім жмакам распіханых па кішэнях грошай мог толькі схадзіць у адно месца, куды яго некалі заклікаў рулон паперы з выразным слоганам: «Поддержим белорусского производителя!».

Па яго капіталах былі мімозы. Але іх прагнула столькі маўклівых капіталістаў, што Моця зразумеў, калі ён перастаіць іх, ці то мімозы скончацца, ці то сканае само свята. Да ўсяго ён ведаў, гэтыя даступныя пралетарскія, як казала маці, кветкі не даспадобы ёй. Хаця тут Моця мог і паспрачацца.

Было ў іх жоўтай някідкасці нешта ад раення пчол падчас квету яблыняў, дбайная шчырасць і зацятасць вясны, яе покліч і абвяшчэнне. Цюльпаны, хаця і кусаліся, былі даступныя яму.

Толькі сам Моця быў не такі, каб адразу кінуцца на тое, што першым трапіла на вочы і падышло. Ён заўсёды да канчатковага вырашэння пытання грунтоўна вывучаў яго, таму і цяпер пачаў няспешна абыходзіць усе да апошняга гандлёвыя прылаўкі з кветкамі, шапікі. І не дарэмна.

Пашчасціла ў самым канцы рынку. Самотная старэнькая бабулька маркотна стыла каля клумбы дзіўных кветак. І ўсе кветкі былі сакавітыя і яркія, хаця паходзілі больш не на садовыя – палявыя, якія вельмі і вельмі падабаліся маці. Сам Моця быў не вялікі іх знаўца, але і яго сціплых ведаў хапіла, каб адчуць колер васількоў, рамонак прасцягу і водару вясковых палёў, балацінаў.

Радавала і цана. Усе кветкі вельмі танныя, амаль дарма. Моця выбраў напачатку тры неверагодна прыгожыя кветачкі. Разлічыўся, падумаў – мала. Дадаў яшчэ дзве. Атрымалася пяць. Ён зноў разлічыўся і зноў падумаў: а чаго жмоціцца, гуляць дык гуляць, радаваць маці, дык радаваць. Букет атрымаўся што трэба, абярэмак. Пяшчотна прыцiскаючы яго да грудзей, як малое кацяня, рушыў з базара да супынку тралейбуса.

І тут, на выйсці ўжо, выпаду з абдымкаў натоўпу, яго затрымала старая, што карміла на плошчы галубоў:

– Каму, нябога, столькі кветак накупіў?

– Маці, маме, – з гонарам адказаў Моця.

Старая ўспляснула далонямі:

– Вой-вой-вой, бедны, бедны. Такі малы, а ўжо сіротка.

– Чаму сіротка?.. – няцямна запытаў Моця. – Чаму?

І тут яму нешта цюкнула. Каб упэўніцца і здагадацца, ён паспрабаваў у адной з кветак кончык. Той не даўся, і тады Моця пачаў яго грызці. І адчуў, як крышацца зубы, а смаку дрэва, былкі няма, ні жывога, ні мёртвага – перамолатыя крупінкі ўласных зубоў. Моця выплюнуў іх, павярнуўся і шурупам зноў укруціўся ў дзвюхбаковую плынь базарнага натоўпа.

Мінуў самотную бабулю, якая толькі што прадала яму кветкі. Адным вокам, саромеючыся самога сябе, прачытаў шыльду над яе шапікам: «Ритуальные цветы». Падумаў, ці не аддаць ёй набытыя кветкі і стрэбаваць назад патрачаныя грошы, і адразу ж адкінуў гэтую думку, таксама з-за сораму і горычы, што ўтварыў, што мог утварыць: лепей, калі ніхто гэтага ніколі не ўведае.

Грошай хапіла, хаця і ў абрэз, каб набыць тры цюльпаны. А рытуальны букет ён утыркнуў у снегавіка каля тралейбуснага прыпынку, які ўжо вяснова і сумна канаў, сплываў слязьмі пад сонцам. Няхай гэты халодны вулічны чалавек на схоне свайго веку хоць крыху калярова сагрэецца, адчуе смутак і асалоду мужчынскага, жаночага і яго, Моці, суму і свята. Жалобны той букет пасаваў снегавіку, яго чырвонаму носу-морквіне, адмерлым розкам дворніцкага дзеркача, учарнеламу, без донца вядру, зухавата накінутаму на цукровую галаву.

І на душы ў Моці стала асветлена сумна і адначасова соладка і святочна, без болю і прыкрасці, крыху нават узнёсла. Дзіцячая святочнасць і неспазнаны, неасэнсаваны яшчэ сум – мужчынскае і жаночае, два ў адным. Тое, што Моця будзе асэнсоўваць усё жыццё. Ды так і не асэнсуе і не спазнае.

Васіль Зуёнак



...Няма прарока ў сваёй Айчыне...

– А можа, Айчыны ў прарока няма?..

# Бясчассе

### *ПЕШАХОДНАЯ СКАРГА*

“Мерсы”, “вольвы”... Сучасныя фуры...
І грымяць, і ўваччу мільгацяць:
Бізнесмены пруцца, і фурыі –
Нібы ведзьмы на мётлах – ляцяць.

Насланнё гарадскога пейзажу, –
Гэтак вылузаўся пралетар:
Сам сябе падсмажвае зажыва –
Сам сабе і гандляр, і тавар.

Крута верыць: да неба з грашыма
Дабярэцца – адразу ў рай.
Пазванкі – шарнірамі шыйнымі,
І аблiччаў, і рук – як у Шывы:
Па чатыры, – хапай і знікай!

Сэнс п’янючы: хай беднаму блісне –
Хоць аднойчы – удача з удач.
Ды навошта іменем бізнеса
Аўтатачкі ганяць наўскач?

Спрэс – матоup, маторы, маторы,
І – як чорт – чалавек-матор –
Ні пярэчанняў, ні мараторыяў –
Абганяе маторны затор.

Дзе дарога шырэй, там пырскі,
Дзе вузей – пешаходы ўразлёт.
А жазло паласатай пыскаю
Паставому фіксуе ўмалот.

Адкупіцца – понту вяршыня
Прыдалярнаму смаркачу.
Ну а я – у брудзе з-пад шынаў, –
Я за ўвагу каму заплачу?..

### *БЯСЧАССЕ*

Дзень за днём у труну
Кладуцца з пустымі вачамі...
Келіх жыцця глыну –
І закушу адчаем...

* * *

Смерць – гэта і ёсць вечнасць,
Вечнасць – гэта і ёсць смерць... –
Прычапілася – як недарэчнасць –
Таўталогіі крутаверць.

Кола – *perpetuum mobile,*
Ляціш – з нябыту ў нябыт:
Лягчэй, калі не ўвасоблены,
А горш – калі “вечны жыд”...

Ці гэта шлях запаветны, –
Бяконцасці каляя?
Ці ў калаўроце сусветным
Прадзецца нітка мая?..

Калі ж яна абарвецца?
Здагадка ёсць у мяне:

Такога
не будзе, здаецца, –
У Бога –
круг у цане.

* * *

Як добра, калі ападае раса
На цёплыя дрэвы і травы,
Як цёпла, калі залатая каса
На цябе заваёўвае права.

Тады аддавай свае ўсе правы
Яму аднаму – каханню,
І ўспамінай, покуль будзеш жывы,
Што быў ты боскі абраннік...

### АСУШЭННЕ

Стаю наўскрай канавы марсіянскай –
Тут, на маёй знявечанай зямлі,
Дзе з вечнаю спажываю паганскай
Балоты журавінныя жылі...

А неба чырванее аблачынна,
Нібы агнём займаецца Сусвет:
Лятуць, лятуць у вырай журавіны,
А журавы – глядзяць самотна ўслед...

### САКРЭТ

Сакрэты ў грыбнікоў
Бываюць адмысловыя:
Як вызнаць хітры схоў
І звычкі верасовыя;

Як вызначыць маршрут:
Ці нетрамі, ці ўзлескамі;
Як адшукаць той кут,
Дзе ўдачу неруш пестуе;

І як вайстрыць свой зрок
І ўвагу выштукоўваць... –

Ды ёсць галоўны ўрок
Сям'і баравіковай.

Хоць і ў сляпога кош
Напоўніцца да вечара, –
Але – сакрэт усё ж
Грыбны той рассакрэчваю.

Зважай на зрок, на слых –
Ды сутнасць не мяняецца:
Грыбы не любяць злых,
Грыбы ад злых хаваюцца.

* * *

І прыйдуць новыя людзі –
Зусім не такія, іншыя, –
І новае неба ў іх будзе,
А наша – залічаць у лішнія.

А наша з рахункаў сусвету
Спішуць за непатрэбаю, –
І пасмяюцца пры гэтым,
Нібы з кашулі зрэбнае.

Забудуць аб нашых зорах,
Аб нашым высокім цудзе...
Неба не знае паўтораў.
Неба ствараюць людзі.

* * *

Хто глядзіць з далёкіх зор
Проста мне ў душу?
Смутак чый альбо дакор
Ноч усю нашу?

Знаю: ты ў сусвеце ёсць,
Паралельны свет, –
Толькі я ў цябе не госць,
Нават не сусед.

Што ж у позірку тваім –
Каб жа ды знаццё! –
Промнем падае – а ў ім:
Смерць альбо жыццё?..

Адказаў бы, пэўна, ты,
Мой пакутны цень...

Толькі россып нематы
Замятае дзень...

Сонца вызначыць мяжу,
Што маўчанню знаць.
Я таксама не скажу –
Некаму сказаць...

Непазбежнасці прысуд,
Лёс зямных людзей:
Смерць не ведае пакут,
А жыццё – надзей...

## *УЖО ТАДЫ...*

Калі яшчэ вада і суша
Сябе не зналі, і хаос
Яшчэ з арбіт планеты зрушваў –
Куды хацеў, туды і нёс;

Калі жывога ані кроплі
Яшчэ не знаў стары сусвет,
А да зямлі яшчэ, дзе тропік,
Дзе полюс – не дайшоў сакрэт;

Калі снягі ў Егіпце стылі
(Ды і Егіпта не было!..),
Калі палярнае ў пустыні
Бязмежжа ў сто вятроў гуло, –

Ужо тады Тварэц прароча
Мой дух адзначыў: "Васілю...",
І ўжо глядзелі зорак вочы
Маім паглядам на зямлю.

* * *

Сны бесцялесныя: кветкі і дрэвы,
Людзі і птушкі, дарогі, палі... –
Раптам няўцямна прахопішся:
– Дзе вы?! –
Кінешся ў роспач:
– Былі – і сышлі!..

І не пакінулі весткі, адкуль вы
Сцежку знаходзіце ў хату маю.

Хай бы і мне, покуль век тут звякую,
Шлях падказалі ў краіну сваю.

Хоць бы маленькую брамку адкрылі, –
Я не такі надакучлівы госць...
Вось жа былі вы, са мной гаманілі, –
Як жа не верыць, што недзе вы ёсць?!

Я ненадоўга б да вас – яшчэ трэба
Тут мне нямала чаго ўладкаваць...
Ды ці адступіцца вашае неба –
Згодай – вяртанне адсвяткаваць?..

А па вяртанні – зноў будзеце сніцца,
Родных аблiччы, палёў васількі –
Як прадчуванне, што прыйдзе, каб збыцца:
Сон – на вякі, на вякі, на вякі...

### *Д'ЯБАЛЬСКАЕ ПЫТАННЕ*

Не суджана змовіцца двум прарокам,
Адзінства – не іх узаемны дар.
Прарок – як гэты свет – адзінокі.
Ён толькі сам над сабой валадар.

Прарокі ж самі і навучылі –
Несумяшчальнасцю ў мудрых тамах:
Няма прарока ў сваёй Айчыне...

– А можа, Айчыны ў прарока няма?..

### *У ГЛУХІМ БАРЫ*

Глухамань глуханямая
Вісне на галлі.
Толькі мы з глушцом трымаем
Сувязь на зямлі.

Матыльком тайком лячу я –
Мякка спяць імхі.
Сцеражэ глушцову чуйнасць
Маналіт глухі.

Толькі спыніць такаванне –
Я замру, як цень:
Слых глушцоў, як брытва, стане,
Зрок – нібы прамень.

Такавішча між балотаў
Раз на год звініць,
І каму з глушцоў ахвота
За глухога слыць?!

Ну а мне карціць – падгледзець
Гэты баль вясны, –
То й ступаю не мядзведзем,
А як дух лясны.

І карэньчык абмінаю,
І сучок сухі:
Не глушэц глухі, я знаю, –
Гэта бор глухі.

Франц Сіўко



...яму сёмы дзясятак, у такім узросце спадзявацца ў стасунках з людзьмі на ўзаемную зацікаўленасць – справа марная...

# Цымант

***Аповесць***

**1.**

Тэлефон Клімовічаў адазваўся за трэцім разам – натужліва, перарывіста і разам з тым неяк надта глуха, як з падпола. “Ну, нарэшце... Каб жа толькі не Павел”, – падумала Нана і шчытней, быццам ад гэтага магло залежаць, хто на тым канцы праваду падасць голас, сястра або швагер, прыціснула слухаўку да вуха. Паўла Клімовіча, мужа сястры Алы, яна недалюблівала даўно – не ў апошнюю чаргу з-за падцвельванняў з яе нетутэйшага, грузінскага імя і тутэйшай мовы, якую ён, сам найтутэйшы з тутэйшых, чамусьці цярпець не можа і якую апошнім часам, пасля крывавых падзеяў ва Украіне, дзе Нана з сястрою і маці калісьці, год трыццаць таму, часова аселі пасля Зугдзідзі перад вяртаннем на радзіму, іначай як бандэраўскай не называе. І хаця пасля некалькіх даволі жорсткіх перапалак на гэты конт дамовіліся рызыкоўнай тэмы больш не

кранаць, яна ўсё адно ў гамане на хвалі эмоцый калі-нікалі і вытыркнецца, джгне ў глузды асцюком узаемнага неразумення.

Але асабліва ўзмацнілася непрыязнасць Наны да швагра пасля таго, як ён паспрабаваў чапляцца да яе ў часе другой цяжарнасці жонкі. Нана па-сваяцку ўзахвоцілася тады памагчы яму па гаспадарцы, пакуль Ала знаходзілася ў лякарні, а ён, не доўга думаючы, і распусціў рукі. Меркаваў, напэўна, што калі яна афіцыйна не замужняя, жыве з Раманам у грамадзянскім шлюбе, дык і на ягоныя дурныя заляцанкі-дамаганкі паквапіцца. Аж пакуль не зарабіў аднаго разу каленам у пахвіну, увайшоўшы да яе позна ўвечары ў пакой пасля ванны амаль што голы, з вузкім пасам ручніка вакол цяглістых, зарослых валоссем сцёгнаў. Назаляць, праўда, ад тае пары перастаў, але прыкры асадак у яе ў душы, хоць сястры пра тое ні словам не абмовілася, застаўся.

Можа, і дарэмна яна тады нічога Але не сказала. Ды Бог ведае, як яно лепш. Яны там пасварацца, пару з ратоў выпусцяць, пасля ўваднач ас паміраца, а ты ў дурнях, без віны вінаватая авечка, застанешся – вядомая гісторыя. А што да Алы, дык не сляпая, дзякуй Богу, і без яе сястрынскае падказкі пра мужыковы шуры-муры неяк дала рады дазнацца. І чым усё скончылася? Пабілася колькі дзён маладзіца ў істэрыцы, пралямантавала, паенчыла, узняла сабе ды ўсім наўкола нервы, а потым і даравала любаму здрайцу, быццам нічога і не здарылася. А можа, толькі выгляд зрабіла, што даравала: жанчыне адной з дваімі дзецьмі застацца – вядома, не мёд. Тым больш, калі мужык не п'яніца і не абібок, наадварот, спраўны гаспадар: усё дзеля сям'і, усё ў хату. Зрэшты, гэтае *ў хату ўсё* – таксама як на чый густ. Добра, як абое сужэнкі аднае пожні зёлкі, падобныя. Тады – канечне, добра. А, напрыклад, ёй, Нане, на гаспадарчых клопатах надта не зацыкленай, які б увішны ды цвярозы ні быў заўсёды Павел, аддаць яму перавагу перад легкадумным прыхільнікам чаркі Раманам і ў голаў бы ніколі не прыйшло.

Голас на провадзе, да радасці яе, аказаўся не Паўлаў.

– Відаць, на лініі нейкая няспраўнасць. Званок чую, а здыму слухаўку – каб табе гук у адказ. – Акуратыстка Ала, аднадумца мужа ў стаўленні да мовы – ці не адзінае, у чым яны з Паўлам хоць збольшага салідарныя, – гаварыла ціха, але выразна, старанна вымаўляючы кожнае слова, як школьніца, што чытае па паперцы падрыхтаванае да ўрока хатняе заданне.

– Дык датэлефанавалася таму дзядзьку, Станіславу Міхайлавічу? Не?

– Мікалаевічу, – паправіла сястру Нана. – Станіслаў Мікалаевіч ён, а не Міхайлавіч... Так, датэлефанавалася.

– І што ён сказаў?

– Нічога. Неяк дзіўна ўсё... Жанчына адказала. Мяркуючы па голасе, зусім маладая. Дачка, можа, ягоная ці ўнучка. Спачатку сказала, што пакліча яго. Затым, праз пару хвілінаў, – што няма яго дома і што яна не ведае нават, калі ён вернецца. А потым і наогул пачала штосьці заікацца ды блытацца ў словах, неўпапад адказваць. Такое ўражанне было ў мяне падчас размовы, быццам хтосьці побач з ёю стаіць і нашэптвае, *што* адказваць, а яна ніяк не дасць рады дачуцца ды як след у тых падказках зарыентавацца...

– А можа, ты сама памылілася нумарам? Не? Паглядзі яшчэ ўважліва.

– Ды не. Калі б памылілася, то навошта б тады было ёй, той дзеўцы, казаць напачатку, што пакліча яго? Я ж імя назвала – Станіслаў Мікала-

евіч... Была б памылка – яна сказала б, што няма такога. Не-не, штосьці там не так. Сама падумай: напрасіўся ні з таго ні з сяго на знаёмства, а цяпер пачынае круціць духамі. Быццам І хочацца яму, бач, пагаманіць, і колецца...

– Заінтрыгаваў, аднак, гэты старэча... Яшчэ патэлефануеш, можа, яму?

– Мабыць, патэлефаную, – Нана хвіліну памаўчала. – Але не сёння ўжо. Хіба што з раніцы заўтра паспрабую. А дзясятай, можа, ці крыху пазней. Трэба ж давесці справу да канца, каб потым, як раптам што, не муляла. А не захоча зноў гаварыць – няхай, яго справа, не мы першыя да яго звярнуліся...

– Добра. А я табе неўзабаве пасля таго, як з ім стыкуешся, прыкладна аб адзінаццатай, бомкну. Раскажаш, што ды як. Цікава ж усё-такі... Калі раптам зноў, як сёння, якія непярэліўкі з тэлефонам здарацца, сама мяне набяры. Чуеш? Абавязкова. Буду чакаць. Ад Паўла і хлопцаў табе прывітанне.

– Дзякуй, як яны?

– Добра, што ім зробіцца... Паелі ды сядзяць вунь пры тэлевізары, фільм нейкі пра серыйныя забойствы глядзяць. За вушы, што бацьку, што сыноў, ад скрыні не адцягнуць. Аж млеюць усе трое ад задавальнення, на тыя жахі гледзячы. Папрасіла суцішыць гук – нават не схамянуўся ніводзін. Ну, дабранач.

– Дабранач. – Нана паклала слухаўку, змахнула мімаходзь даланёю з ісподу апарата павуцініну, якую заўважыла яшчэ надоечы, але ўсё забывалася, растузаная хатнімі клопатамі ды думкамі пра таемнага Станіслава Мікалаевіча, прыбраць, пайшла ў залу.

У зале было прахалодна і неяк няўтульна. “Мабыць з-за гардзінаў гэтых новых, шэры колер ёсць шэры, дарэмна не паслухала прадавачкі і тыя весялейшыя бэжавыя фіранкі понізу яшчэ прычапіць не купіла”, – падумала Нана і схілілася ў задуменні перад кампутарам. Адчыніла паштовую скрыню, прабегла збольшага вачыма па тэксце першага ліста ад Станіслава Мікалаевіча.

Вось з яго, уласна, з гэтага ліста, усё і пачалося. Хаця не – пачалося раней, у той вечар месяц таму, калі патэлефанавала ёй прыяцелька з працы, сказала, быццам праз сацыяльныя сеткі яе або Алы адрас расшуквае нейкі мужчына – ці то сваяк, ці то знаёмы іх маці.

Гэта было дзіўна, бо ні пра якіх сваякоў, ні пра знаёмых нябожчыца маці, Ксеня, жанчына даволі лагодная і разам з тым валявая, а то нават часам і вунь як спарудліва-непрыступная, пакуль была жывая, ім з Алаю ніколі нічога не казала. Больш за тое, наогул не любіла пра іх згадваць і злавалася, калі гэта рабіў хто іншы. Варта было каторай з дачок хоць бы і незнарок зачапіць у размове тэму сваяцтва, як яна тут жа замыкалася ў сабе ды змаўкала так надоўга, што, здавалася, да скону ўжо так і будзе хадзіць маўчком. Канечне, з часам мякчэла, адпускалася, але колькі перажыванняў, колькі непрыемных хвілінаў ім, сёстрам-падлеткам, усё тое матчына зацятае, незразумелае маўчанне каштавала!

Што яна ад іх хавала? Якую таямніцу гэтак зацята аберагала, што нават дочкам, якіх, безумоўна, любіла, хоць надта, праўда, і не песціла, не палічыла мажлівым яе даверыць? Даходзіла ж часам і да кур’ёзаў. Неяк аднаго разу ў школе абвесцілі для вучняў конкурс на лепшы радавод. Дык

рэакцыя маці на іх з Алаю намер скласці свой аказалася такою непрыязнаю, што і вокам яны не паспелі міргнуць, як падрыхтаваны для запісаў яе меркаванага расповеду пра продкаў нататнік куляю паляцеў у сметніцу.

Гэтаксама нервова ставілася яна і да іх роспытаў пра бацьку. "Яго няма", – адказвала штоpазу і, даючы знаць, што размова скончана і працягваць яе не мае сэнсу, строга падціснала тонкія свае, у нітачку, вусны. Такі адказ іх, канечне ж, не задавальняў. Аднак гучаў ён так няўмольна і разам з тым так пераканаўча, што іншага выйсця, як хаця б дзеля выгляду даць веры, што ўсё сказанае Ксеняй – праўда, ды змірыцца з тою праўдай, у іх не заставалася. І што цікава – змірыцца без уласцівага гэткага кшталту сітуацыям пачуцця крыўды ці пратэсту, а наадварот – з інтуітыўным, падсвядомым адчуваннем таго, што калі маці гэтак робіць, то гэтак і след, бо робіць яна тое не з прыхамаці, а адзіна дзеля іх жа, дачок, дабра.

Калі праз нейкі час, значна ўжо пазней, па сканчэнні школы, яны ўсё-такі памануліся ўзнавіць размову, яна абарвала іх імпэт яшчэ больш рашуча, і ад таго часу яны ўжо да тэмы пра бацьку пры ёй наогул не вярталіся. Пагаманіць міжсобку, ціха, употай ад Ксені – гэта колькі душа пажадае, але толькі не ў яе прысутнасці. Гэтак яны і рабілі, міжволі прыходзячы з узростам да высновы, што, мабыць, не слаба ж ён, бацька іх, чымсьці жанчыну пакрыўдзіў, калі нават і слухаць пра яго не жадае. Ці, наадварот, можа, яна яго пакрыўдзіла. І так здараецца. Мужчыны – стварэнні крыўдлівыя. Не ўсе, вядома, але ж многія... Не дагадзіла жонка, той жа чаркі, скажам, не наліла дзеля пахмелля – і адыходзіць чалавек у прочкі, і прачкаванне тое часам на ўсё жыццё зацягваецца. Так і сканае бядак дзе-небудзь наводшыбе ад сям'і, уласнага дзіцяці як след не пабачыўшы ды голасу ягонага не пачуўшы.

І вось – іх з сястрою расшукваюць.

Першае, што прыйшло ў той вечар Нане ў галаў, – ці не бацька гэта іх шукае? Між іншым, і пра Рамана таксама яна тады мімаходзь узгадала: ці не пажартаваў гэта ён з бадуна, папрасіўшы каго-небудзь падаць запыт на росшук? Тры гады, як разышліся-разбегліся з ім, а колькі нерваў за гэты час выцягнуў, не даючы праходу, даймаючы просьбамі пачаць усё нанова. Урэшце, збітая з тропу нечаканасцю, яна надыктавала-такі прыяцельцы свой электронны адрас, і тая даслала яго незнаёмцу. І зусім хутка, літаральна на наступны дзень, Нана і атрымала ад яго вось гэты допіс.

Адстаронена-ветлівы – ні намёку на эмоцыю – ліст, бездакорна ўважны, сухаваты і крыху быццам нясмелы, як першы роспіс Дзеда Мароза на не аб'інелай дарэшты на пачатку зімы шыбіне. Яго прозвішча Парфянок, зваць Станіслаў Мікалаевіч. Ён добра ведаў іх маці, шмат год з ёю ліставаўся і цяпер, калі яе ўжо няма, хацеў бы наладзіць хаця б якую-ніякую сувязь з яе дочкамі. Калі яны, вядома, не супраць. Яму сёмы дзясятак, у такім узросце спадзявацца ў стасунках з людзьмі *на ўзаемную* (гэтае слова так і было ў лісце пададзена – курсівам) зацікаўленасць – справа марная, але гэта для яго не галоўнае. Адпішуць яны яму – будзе рады, а не пажадаюць адпісаць – іх воля. Ні хто ён ды адкуль, ні пра акалічнасці знаёмства з маці ў лісце не было ні слова. Некалькі фраз, пажаданне добрага здароўя напрыканцы – і ўсё.

Параіўшыся па тэлефоне з сястрой, Нана ў той жа дзень Станіславу Мікалаевічу на ягоны электронны адрас адпісала. Папрасіла распавесці больш падрабязна пра сябе і пра тое, што лучыла яго з маці. З'яўлялася

хоць нейкая мажлівасць натрапіць на след у мінулае нябожчыцы, а праз тое – і ва ўласнае, і не скарыстацца ёю, адзінадушна вырашылі яны з Алаю, было б неразумна.

А рэшту таго дня Нана прабавіла ў пошуках згаданых старым лістоў да маці. Перагартала ўсе сямейныя альбомы, перашнарыла ва ўсіх шафачках ды шуфлядках і паліцах, але так нічога і не знайшла. Розных допісаў, тэлеграм, паштовак было ўсюды ў доме аж зашмат, а вось хоць бы маленечкай цыдулы ад чалавека па прозвішчы Парфянок – ані блізка.

Станіслаў Мікалаевіч зноў напісаў ёй праз тыдзень. Але яшчэ больш коратка і суха, чым мінулы раз, неяк нават быццам нехаця, праз сілу. Пытанне пра абставіны знаёмства з маці дыпламатычна абмінуў, пра сябе паведаміў тое, што і з папярэдняга ліста вынікала, толькі іншымі словамі. Адзінае, што новага было ў допісе, дык гэта намёк аб спадзеве на сустрэчу ў будучыні. І яшчэ – просьба даслаць нумар хатняга тэлефона. Свайго ці *А*лінага – яму без розніцы, галоўнае правільна напісаць код горада, бо з кодамі заўсёды ў яго, маўляў, непаразуменні. Мабільнікам ён таксама, канечне ж, карыстаецца, але гаманіць з хатняга – і ўтульней неяк, і больш для яго, старога чалавека, звыкла.

## 2.

Станіслаў Мікалаевіч расплюшчыў вочы, прыслухаўся. На дварэ было зусім ціха і, відаць па ўсім, і бязветрана. Гэта яго ўзрадавала: нарэшце можна будзе на колькі хвілінаў, а то і на якую гадзіну выйсці з дому, зрабіць, як кажа Зіна, кватарантка, ранішні праменад. Толькі б не зблытала картаў, не разгулялася, як учора надвячоркам, калена і не даў аб сабе знаць, не схібіў недарэчы матор – сэрца. Шнарамі яно там ужо, халера, дарэшты пабілася, што гэткім болем раз-пораз у грудзях абзываецца і, як на злосць, у самы ж нязручны момант? Варта чаму іншаму, праст*а*це гэтай мярзотнай, да прыкладу, ці калену, ці яшчэ чаму хоць крыху абвастрыцца, як і яно, аслабленае леташнім інфарктам, адразу ж пра сябе нагадвае.

З Зінінага пакоя не даносілася ні гуку – відаць, дзяўчына яшчэ спала. А можа, толькі выгляд рабіла, што спіць: у драбку далікатнасці ёй, рудавалосай гэтай, хуткай на нагу і вострай на язык, грубаватай гаварунні Зіне ўсё-такі, як ні круці, не адмовіш. Хоць з выгляду пра тое і не скажаш. Дзеўка відавочна не з ліку тых, што, трапіўшы неўспадзеў у глухі, поўны ваўкоў лес, разрумзаецца, сядзе ў роспачы пад хвояй і будзе пакорліва чакаць выраку лёсу. Такая хутчэй усю поўсць на тых ваўках павыдзірае, чым свой хоць адзін волас дазволіць ім з галавы выскубнуць. Ды ён, Станіслаў Мікалаевіч Парфянок, дастаткова пажыў на свеце, дастаткова нагледзеўся і на распусных людцаў, і на ціхмяных, каб не ведаць, што меркаваць аб характары чалавека толькі паводле нейкіх знешніх яго праяваў – справа ненадзейная.

Ён падняўся з ложка, чапляючыся рукой за сцяну, пасунуўся да прыбіральні. Ішоў як мага цішэй: спраўляць раніцой малую патрэбу апошнім часам стала надта балюча, а хоць які сведка *такой* старэчай нямогласці для мужчыны, які ўсё жыццё пражыў адзінотнікам і пускаць старонніх у свае асабістыя, інтымныя справы не прывык, – пакута яшчэ тая. Тым больш, калі гэты сведка – дзяўчына дваццаці год, як Зіна. Не дзіва, што з усіх нязручнасцяў, якія ўзнікаюць у абставінах сумеснага жыцця чужых,

да таго ж мала знаёмых і рознага ўзросту, як яны з Зінай, людзей, цяпер, калі вось так усур'ёз занямог, менавіта гэтая – неабходнасць карыстацца адною прыбіральняй з кімсьці, – сталася для яго ці не самай вялікай. Быў бы то мужчына, а не Зіна гэтая, усё нашмат прасцей, канечне, вырашалася б. Бо з чым да мужыка звярнуцца не пасаромеешся, перад дзяўчынаю і не заікнешся нават.

То, можа, і не варта было яму ўсё-такі паддавацца Зіне, адмаўляць таму выпівоху, што месяцы паўтара таму прыязджаў на ровары, набіваўся ў кватаранты-памочнікі. Сам бы ён, напэўна, не адмовіўся, але ж Зіна... Вочы гэтак вырачыла, бровы так пагрозліва да пераносся ссунула, пачуўшы іхнюю размову пра кватаранцтва, што бядак той і развітацца нават, збягаючы, забыўся. Так хуценька знік на сваім ровары ў суседнім завулку, што ён, Станіслаў Мікалаевіч, і імя спытаць у дзецюка не паспеў.

Але, што праўда, і на Зініну прысутнасць яму наракаць таксама не выпадае, якраз наадварот. Тым больш, што дзяўчына з'явілася ў доме куды раней за яго самога. Перайшла, так бы мовіць, яму ў спадчыну ад ранейшай гаспадыні, у якой кватаравала, прыехаўшы пасля вучобы ў медвучэльні працаваць па размеркаванні ў раённую лякарню. Гаспадыня памерла, сын яе і нявестка выставілі будынак на продаж, пакінуўшы Зіну да часу за ім прыглядаць, пакуль хто не купіць. Дамок неўзабаве трапіў на вочы Станіславу Мікалаевічу, і калі ён на пачатку лета ў яго пераехаў, дзеўка так пры ім і засталася.

Заставалася быццам на пару дзён, пакуль не падшукае сталае кватэры, а ў выніку аж во на колькі месяцаў затрымалася. І, хутчэй за ўсё, затрымаецца ўжо і надалей. Ва ўсялякім разе апошнім часам размовы пра пошук іншага, больш выгоднага жытла не распачынае. Яму ж, відаць, сам Бог пасобіў, паслаўшы ў кватаранткі гэтую няўрымслівую, дасціпную, часам аж занадта, Зіну: і весялей удваіх, і сняданак ды абед калі-нікалі пад настрой згатуе. І калі раптам што якое ў плане здароўя з ім здарыцца – медык заўсёды побач. А калі яшчэ ўлічыць, што характар ягоны таксама далёка не мёд, бомба, а не характар, дык і слова благое яму супраць дзяўчыны, якая б ні была яна, грэх казаць.

Новае месца жыхарства ён выбраў не выпадкова. Але не таму, што тут найбольш яму, ураджэнцу сярэдзінных памяркоўных шыротаў, падыходзіў клімат ці так ужо пасавалі, цешылі вока тутэйшыя краявіды. За некароткі працоўны век якіх толькі краявідаў ён ні наглядзеўся, у якія толькі закуткі, часам і вунь як ад звыклых жыццёвых стандартаў далёкія, да жыцця непрыдатныя, не даводзілася яму трапляць. І ўсюды ж неяк прыжываўся, прыстасоўваўся, даваў сабе рады фізічна ды духоўна не апусціцца, не стаць бездапаможным закладнікам лёсу. Цяслярыць не ўмеў па маладосці – навучыўся. Мыць бялізну не меў уяўлення – налаўчыўся. Каніны змалку на смак не ведаў, кумысу не піў – прымусіў сябе падчас працы ў стэпах, куды трапіў па размеркаванні пасля тэхнікума, адно і другое есці-піць, і спраўна так, што пару разоў толькі ад ежы той і пітва зайшоўся з непрывычкі млосцю ды ледзь не званітаваў. Словам, шмат што адолеў. А галоўнае – да высновы, што як бы кепска ні было, якія б пасткі чалавека дзе ні падчэквалі, усё трэба неяк змагчы, уласным розумам, а не праз трактаты якія вучоныя ці чужы досвед, дапаў.

Не, не спрыяльнага клімату і не адметных краявідаў ён, канечне, тут,

у гэтым гарадку, шукаў. Іншы інтарэс пераследаваў. І быў ён, той інтарэс, зусім на першы погляд будзённы і празаічны: дажыць у пэўнасці, што не давядзецца ляжаць па сконе ў адзіноце, не ператварыцца ў мумію да радасці асмялелага пацучча, не зрабіцца аб'ектам плётак для аматараў папаласкаць прамінулаю датай чужую бялізну.

Ахвотнікі пра чужое гаварыць заўсёды адшукаюцца, і хоць наракаць на іх – пустое, бо такая прырода чалавечая, яму цяпер, напрыканцы жыцця, такая ўвага да сябе менш за ўсё была б дарэчы. Зрэшты, то адзін з інтарэсаў, быў і ёсць і другі, не менш істотны ды паважны. Калі наогул не галоўны.

Праўда, клімат тут неблагі. І гарадок нішто сабе, хоць і зусім невялічкі, за пару гадзінаў лёгка ўвесь наўкола пехатою абыдзеш. Хутчэй нават пасёлак гэта, чым горад, з выгляду, аднак, даволі прыстойны. З паўдзясятка крамаў, царква, касцёл, пошта, банк, лазня, іншыя не менш вартыя ўвагі даброты цывілізацыі. Як і паўсюль – мэр, рухлівы, абыходлівы, асабліва, калі датычыць справы ўладкавання ўласнага дабрабыту, дзядзька з неабдымнаю кронаю сваяцтва ў радаводзе. Як і ў большасці невялікіх населеных пунктаў гэткага кшталту – пара прадпрымальнікаў мясцовае гадоўлі ў асобах мэравага ж сына і ягонай жонкі, чэпкай, не без прэтэнзіі на элеганцкасць, дарма што правінцыялка, бізнес-вумэн, уладальніцы прыватнай аптэкі і шапіка па продажы напояў. Але не гэта галоўнае.

Галоўнае для Станіслава Мікалаевіча – за сотню вёрстаў адсюль, у гэткім жа заштатным, як і гэты вось, гарадку, з гэткімі ж, мабыць, кліматам, краявідам, лазняю і мэрам ды параю бізнесоўцаў, куды і наважыўся ён урэшце днямі напісаць. І не толькі напісаць, а нават, пераадолеўшы заўсёдную сваю, узрослую на грунце шматгадовага добраахвотнага адзінотніцтва і наўмыснае адстароненасці ад людзей перасцярогу быць кімсьці пазнаным, напрасіцца на тэлефонныя стасункі

У прыбіральні ён прабыў хвілінаў дваццаць. А калі, збольшага прыбраўшы ўсё за сабою ды сяк-так прыладзіўшы ў роце цеснаваты новы зубны пратэз, вярнуўся ў калідор, Зіна ўжо шчыравала ў кухні, гатавала штосьці на сняданак.

– Не збягайце, зараз есці будзем, – сказала порстка і нават крыху быццам з выклікам, дастаючы з шафкі і ставячы на стол талеркі ды раскладваючы абапал іх нажыкі і відэльцы. Сама яна карыстацца ўсім гэтым інтэлігенцкім сталовым начыннем не любіла і, відаць, не вельмі і ўмела, але парушаць завядзёнку гаспадара не адважвалася: Станіслаў Мікалаевіч ставіўся да такіх рэчаў вельмі строга. Як на яе, Зіны, інтэлігенткі ў першым калене, погляд, дык і занадта ўжо строга, можа, так і не варта было б. – Вось... Сядайце. Сёння яечня ў нас... З кропам і цыбуляй.

– Ну, не штодня ж трусяцінай ды чырванарыбіцай нам ласавацца, – весела намякаючы на святочны абед тыднёвае даўніны з нагоды шумнага Зінінага дня народзінаў, сказаў Станіслаў Мікалаевіч і паслухмяна сеў да стала. Цыбулі ён наогул, а тым больш зранку, не любіў, але псаваць сабе і дзяўчыне настрой з-за такой дробязі не палічыў патрэбным: цыбуля дык цыбуля, такой бяды...

– Чаму ты Зіна? – спытаў нечакана для самога сябе і, быццам агаломшаны нечаканым прыступам уласнае цікаўнасці ды заклапочаны тым, як будзе яна ўспрынята кватаранткай, хуценька, скорагаворкаю, дадаў: – Усе Дар'і наўкола, Настассі, Каці, Хрысціны, а ты – Зіна. У гонар якой-небудзь

стаханаўкі мінулага стагоддзя, ці што, так цябе назвалі? Неяк жа зусім нямодна па сённяшнім часе.

– Якой яшчэ ста... стаханаўкі? – пырснула ў кулак дзяўчына. – Ну, скажаце вось, аж не даразумецца вас... Такое імя, бо бацькі яго далі. Не сама ж я сабе выбірала. Падумаеш – нямодна! А па-вашаму, якая-небудзь Капа ці Ліпа мадней было б?

Станіслаў Мікалаевіч пакратаў рукою шчаку, нягучна, быццам перасцерагаючыся, каб раптам не вываліўся з роту падчас гаманы пратэз, сказаў:

– Ну, хай бы сабе і Капа была. Або Ліпа. Капіталіна, Алімпіяда – як гучыць... Грунтоўна, манументальна. А во Ала яшчэ – чым благое імя? Праўда? Падабаецца? А то – Зіна... Зі-на... Аж холадна ад яго...

– Ну, вось, і скрытыкавалі мяне... Імя як імя, – сказала Зіна і спрытна перавяла размову на іншае: – Ліст сёння будзеце той жанчыне адпісваць? А то надта ж няёмка ўчора атрымалася падчас яе тэлефанавання. Непрыгожа нават. Зусім, да вашага ведама, пане-гападару, непрыгожа. Мяне падманваць змусілі. Не хацелі гаварыць з кабецінай – так бы адразу і сказалі. Ну ж, Станіслаў Мікалаевіч! І што гэта з вамі? Што за паводзіны?

– Не, сёння не буду, – сумысля ігнаруючы другую частку запытання, нечакана зласліва, быццам гэта зусім не яму, а менавіта ёй, Зіне, павінен абыходзіць той меркаваны ліст, выгукнуў ён з раздражненнем у голасе.

– Чаму?

Станіслаў Мікалаевіч хвіліну памаўчаў.

– А таму, што не зразумею, мабыць, нічога з таго, што яна напіша зноў у адказ па-свойму, па-тутэйшаму, вось чаму, – сказаў як мага больш катэгарычна і падчапіў відэльцам шматок яечні.

– Вы? Не зразумееце? – не дала веры Зіна. – Трусяціну трусяцінай называеце – ад зубоў слова адскоквае, а ўжо ліст на мове зразумець рады не дасце? Смех дый годзе! Такі прасунуты, сучасны мужчына, а такое на сябе нагаворваеце!

Праменад скончыўся вельмі хутка: пайшоў дождж. Станіслаў Мікалаевіч так недалёка паспеў адысціся ад дома, што амаль не змок пад ім і хвілін праз пяць па вяртанні з прагулянкі ўжо сядзеў, сухі і бадзёры, на верандзе. Гартаў газету ды слухаў, як Зіна гамоніць з некім па тэлефоне. Па таропкасці яе мовы і па тым, як суцішвае яна час ад часу амаль да шэпту голас ды раз-пораз вызірае з заклапочаным, загадкавым выглядам у калідор, няцяжка было здагадацца, што гамоніць дзеўка з кімсьці старонні і сведкаў размовы мець відавочна не жадае. Двойчы, падалося Станіславу Мікалаевічу, праслізнула ў размове і ягонае імя, але прамаўлялася яно пры гэтым так перасцярожліва-прытоена, што ніякай пэўнасці, ці так гэта насамрэч, ці толькі яму здалося, што пра яго згадвалі, быць не магло.

Зіна скончыла размову, ускінула на плечы плашч, неяк похапкам, няўважна, у адрозненне ад мінулых разоў, развітаўшыся з Станіславам Мікалаевічам, пабегла з хаты. Сёння ёй дзяжурыць у аддзяленні ў начную змену, а гэта значыць, што вернецца яна дадому толькі назаўтра ўранні, не раней восьмай. А яшчэ тое, што бавіць рэшту дня і вечар яму, Станіславу Мікалаевічу, зноў давядзецца ў самоце.

Ён адсунуў убок газету, пайшоў у калідор. Успомніў, што ўчора звечара планаваў памыць сёе-тое з бялізны, памкнуўся да прыбіральні, але тут жа і перадумаў. Звыклы да завядзёнкі ніколі, ні пры якіх, нават самых форс-

мажорных, абставінах не блытаць уласных планаў, апошнім часам ён усё часцей лавіў сябе менавіта на такім жаданні – рабіць насуперак планам. І гэта, надзіва, зусім яго і не бянтэжыла, і не засмучала, і не выбівала, як раней, з каляіны. Наадварот, нават быццам дадавала дзелавітасці і ўпэўненасці. Ён пастаяў у задуменні колькі хвілін перад дзвярыма пакоя, пасунуўся да стала з кампутарам. Машынальна, звыклым жэстам торкнуў штэкер у разетку, застыў у чаканні, пакуль засвеціцца экран манітора.

Кампутарам ён, не ў прыклад большасці старых, авалодаў і даволі хутка, і без асаблівай напругі. Хоць і вучыўся нязвыклай, новай справе галоўным чынам самастойна, похапкам, у вольны ад працы (тады яшчэ падпрацоўваў крыху тэхнолагам на цэментным заводзе) час, засвоіў усю гэтую лічбавалітарную прамудрасць досыць прыстойна. Апроч рамонту і наладкі апарата, канечне, бо гэта ўжо, так бы мовіць, вышэйшы пілатаж, для ягоных старэчых, паточаных шашалем часу і жыццёвых непамыснотаў ды сюрпрызаў лёсу мазгоў недасягальны. Але і засвоенага яму дастаткова. Ва ўсялякім разе, каб напісаць ды адправіць ліст ці пачытаць навіны, звяртацца да кагосьці па дапамогу не трэба. А калі надарыцца які збой у сістэме, то цяпер вось Зіна, дзеўка адукаваная, дасведчаная, паможа даць рады.

То, можа, і дасылаць Нане нумар тэлефона было не варта? Дурасць, канечне, учыніў, як след не падумаўшы. Бо адна справа пісаць ліст, дзе заўсёды застаецца магчымасць абысці тое, што пісаць не жадаеш, і зусім іншая – тэлефонная размова. Там ужо не схітруеш, бо калі пытанне ставіцца, на яго хочаш не хочаш трэба наўпрост адказваць. Не будзеш жа віцца вужакай, вачавідзь хлусіць, як учора вунь давялося падчас Нанінага тэлефанавання. Такі манеўр адразу будзе суразмоўцам заўважаны і, канечне ж, належным чынам ацэнены.

Дык, можа, напісаць Нане зноў? Але што? Што ён сочыць за імі амаль ад іх нараджэння і ведае пра ўсе іх з маткаю вандроўкі па свеце не горш за іх саміх? Што імя Нана яго ані не здзіўляе, бо такія акурат і даюць у Грузіі, дзе яна нарадзілася і дзе дзяўчаты жылі з Ксеняй аж ці не дзесяць год? І што імя старэйшай сястры – Ала – зусім не даніна тадышняй модзе, як, напэўна, некаторыя думаюць, а ўсяго толькі наіўнае жаданне маці дзяўчынкі пакінуць для сябе пры сэрцы хоць кавалачак, хоць драбок мінулага, бо менавіта так звалі яе дачасна спачылую маці?

А вось што яшчэ не варта яму, бадай, ніколі рабіць, дык гэта тое мінулае прылюдна кранаць, як зрабіў гэта неабачліва падчас сняданку, паддаўшыся эмоцыі ды прамовіўшы ў прысутнасці Зіны імя старэйшай з пляменніц. Ці мала як яно ў будучыні павернецца, якім бокам, і ці не прынясе дзеўкам толькі лішні клопат. Гэтулькі год прамаўчаўшы, рызыкаваць на схіле дзён усім, чым таму мусоваму маўчанню абавязаны – і неразумна ў ягоным узросце, і недаравальна. Што да далейшых стасункаў з дзяўчатамі, то, безумоўна, як ні круці, ліст напісаць – лепш за тэлефанаванне.

Ён падключыў кампутар, націснуў кнопку ўваходу ў сеціва. Але толькі паспеў увайсці на хатнюю старонку, як азваўся тэлефон. "Мабыць, Зіна", – падумаў, пераадольваючы боль у суставе, падняўся з месца, каб адказаць.

Голас быў не вельмі выразны, але яму і адной кароткай рэплікі жанчыны было дастаткова, каб узнавіць у памяці характэрны, з лёгкім, ледзь улоўным прыдыхам тэмбр голаса Ксені.

– Станіслаў Мікалаевіч? Вы? Я Нана Шчарбіцкая... Вы пісалі мне... А ўчора я вам тэлефанавала ды не заспела вас дома...

– Нана, – паўтарыў ён і на хвіліну замоўк у няўцямным здранцвенні. – Нана Шчарбіцкая... Канечне. А я, ці паверыце, якраз збіраўся вам зноў напісаць. Калі вы не супраць, вядома...

– Не супраць. Але ж мы маглі б і вось так, па тэлефоне, пагаварыць. Прабачце, я не зусім разумею, што вы хочаце. Усё гэта неяк... нестадзеўна і... незразумела. Я ўжо і з сястрою раілася, што б гэта магло значыць...

– Раіліся з Алаю? – перапытаў ён і, не даючы Нане часу ачомацца ад здзіўлення, што ён не толькі яе, але і сястры імя ведае, хуценька дадаў: – Нічога не бойцеся.

– Я не баюся, але ўсё гэта так дзіўна, згадзіцеся...

– Дзівосаў шмат на свеце, – сказаў ён і глуха паўтарыў толькі што сказанае: – Шмат, аж часам занадта...

І раптам, нечакана нават для сябе самога, паклаў слухаўку. Усё адбылося вокамгненна, неспадзявана, быццам і не з уласнае волі тое зрабіў, а нячысцік тоўхнуў не ў добры час пад руку. І непрыгожа. Куды нават больш непрыгожа, чым мінулы раз, калі наўмысна пераклаў цяжар перамоваў з пляменніцай на Зіну.

Амаль дзве гадзіны мінула пасля размовы з Нанаю, а ён усё сядзеў, бы здранцвелы, пры ўключаным кампутары, тупа глядзеў на спярэшчаны бляклымі знакамі файлаў ды тэчак манітор. Сядзеў і млява, як праз сон, думаў, што няблага было б, бадай, замяніць на экране фонавы малюнак, бо надта ж усё на ім невыразна, ды пра тое, як бы не забыцца папрасіць Зіну аплаціць на пошце падпіску на інтэрнэт на наступны месяц. І толькі калі зноў падаў голас з калідора тэлефон, на хвіліну ажыў, страпянуўся. Але адзывацца не стаў: трэба каму – патэлефануюць пазней, яму ж цяпер не да размоваў.

Тэлефон енкнуў колькі разоў, захлынуўшыся ўласным расчараваннем-абурэннем, рэзка аціх.

Рука Станіслава Мікалаевіча міжволі пацягнулася да мышкі, скіравала курсор да тэчкі са здымкамі.

Усе фоткі ў тэчках на ягоным рабочым стале – са зробленых апошнім часам. І толькі адна – даўнейшая. Яе прыслала год дваццаць таму Ксеня з Закарпацця, калі перабралася туды з дочкамі пасля Грузіі. Дзве дзяўчынкі-пагодкі ў тубыльскіх сукенках з арнаментамі на фоне акаймаванае стажкамі сена гары, са стужкамі ў туга сплеценых косах. А вось дзе каторая – невядома, бо нічога братава пра тое не напісала. І не напісала, і зладзіць сустрэчу з дзяўчатамі, колькі ні прасіў, не пажадала. Цікава, як то цяпер яны, Нана і Ала, выглядаюць? А дзеці Аліны да каго падобныя? Сыну, здаецца, два гады было, як Ксеня памерла. Пэўна ж, і яшчэ Ала потым, хоць і наогул пазнавата, дзесьці пад трыццаць, выйшла замуж, нарадзіла... Дзяўчыну ці хлопца зноў? Ксеня вельмі баялася і не хацела, каб хлопцы былі – кепскіх генаў, мабыць, асцерагалася. Так асцерагалася, што нават, даведаўшыся, што першынец сын будзе ў Алы, надта ж тым пераймалася, перажывала.

Ён падумаў, што няблага было б папрасіць Нану, каб прыслала які-небудзь здымак, свой ці сумесны з сястрой і яе дзецьмі, але тут жа прагнаў думку прэч. Ліставанне – куды яшчэ не ішло, а прасіць здымкі – гэта ўжо, безумоўна, будзе з ягонага боку перабор.

Так, на думцы пра здымкі, ён у крэсле пры кампутары і заснуў. Ды

заснуў, аддаўшыся відзежам мінулага, так моцна, што, калі нейкае аўто спынілася ля хаты насупраць і асвяціла яго праз вакно фарамі, ён не толькі не прачнуўся, а нават не зварухнуўся.

## 3.

Гарачыня, спёка – мабыць, у пекле, калі ёсць яно, пры катлах з грэшнікамі менавіта вось гэтак задушліва. Нябожчык Адам, Стасікаў і Віцюнеў бацька, чалавек у выказваннях трапны і вынаходлівы, дарма што быў ледзь збольшага адукаваны, такое надвор’е заўсёды называў не іначай як скварам. Сапраўды, сквар, адно што не зімовы, калі цела аж пячэцца на марозе, а летні. Бо такога шчодрага на сонца пачатку лета, як сёлета, і самыя старыя жыхары Лучая, бадай, не памятаюць. Куды ні кінь вокам – усюды яго аранжавы дыск, дакучлівы, навязліва-неадчэпны, бы распалены любоўнаю жарсцю певень Здорка, што ўсё кружляе і кружляе напышлівым шляхцюком вакол чародкі курыц і ніяк не спатоліць, распуснік, неўтаймоўнага свайго юру.

Спякота пануе на дварэ ад самай раніцы. І адзіным месцам, дзе можна хоць крыху ад яе ў гэтыя атручаныя флюідамі падазронасці і страху дні ўратавацца, – клуня на ўскрайку Лучая, побач з будынкам санаторыя цэментнага завода, адзінага калгаснага прамысловага прадпрыемства, ад нядаўняе пары – вотчыны ўвішных армянскіх перасяленцаў братоў Асакянаў. Там, у пахілай, пачарнелай ад часу, на траціну ўрослай у глебу дзедаўскай будыніне, у міжсценні з грудаю прапахлых цэментам, які ў пасёлку ўсе называюць паводле старой завядзёнкі цы́мантам, бацькавых рэчаў, загародкаю для куранят і клеткаю для трусоў ды месцам, дзе мачыха трымае свае прычындалы для прыбірання, і туліцца Стасік Тарасевіч каторыя суткі ў марнай надзеі, што вось жа зараз якраз і надарыцца целу палёгка ды з’явіцца ўрэшце імпэт засяродзіць глузды на падрыхтоўцы да ўступных іспытаў у інстытут.

Вечар. Сонечны дыск хіліцца долу, спакваля ператвараецца з аранжавага на агніста-чырвоны, павісеўшы колькі часу нерухомаю патэльняй над аточанай кустоўем рысаю небасхілу, імкліва куляецца ў бездань няпэўнага, але з кожным імгненнем усё больш выяўнага прамежку сутак, хвіліны кароткага – адзін блік, адзін росчырк апошняга промня на небе – спаткання святла і цемры. Дзень прамінуў, як і не было яго, ноч наперадзе, а ахвоты да навукі ў Стасіка так, на жаль, і не дадалося.

“Ну, то заўтра, можа, дасць Бог, зоркі паспрыяюць”, – думае хлопец і бяжыць у хату па цяплейшую коўдру. Чэрвеньскае надвор’е, што ні кажы, падманлівае, няпэўнае. Удзень і не заўважыш, забавіўшыся на сугрэве, як сонца запячэ скуру да пухіроў. А ўначы так неўспадзеў, спадцішка, па-зладзейску абдасць вераломны вятрыска ўсё цела холадам, што не толькі коўдра, а і спраўны дзедаўскі кажух паверх яе не будзе лішнім. Адно добра: камароў пакуль што ўсюды няшмат – не іх пара. Заблукае ў клуню які-небудзь залётны няўдаліца, пакружляе, паенчыць над вухам пранізлівым галодным дыскантам ды і знікне, гнаны самотаю, у густым прадзіве павуціння пад дахам.

Лучай – заняпалае старасвецкае паселішча на ўскрайку балотнага заказніка, вядомае ў акрузе сваімі азяркамі, а найперш мохам. Як апошнім

часам цымант, так здавён, спаконвеку мох – неафіцыйная візітоўка Лучая. Не толькі з наваколля, але і з болей аддаленых мясцін па-ранейшаму прыязджаюць сюды людзі, каб надзерці яго для імшэння зрубаў ці ўцяплення хат ды надворных пабудоваў, цягнуць дадому падводамі, тачкамі, прычэпамі. Канечне, менш, як, напрыклад, у даваенныя часы, здабываюць, але ўсё адно лучаеўскі мох усё яшчэ карыстаецца попытам, і не абы-якім.

Яшчэ адна адметнасць Лучая – яго перасечаны, спярэшчаны пукатымі пагуркамі рэльеф. Ледзь-ледзь балота мінулася – і вось ужо вырастае перад вачыма вясёлы, бы стромая выспа сярод мора, парослы з усіх бакоў чаромхаю, ды рабіннікам, ды арэшнікам вежападобны пагурак пад назовам Касцяніца. Такі нязвыкла для тутэйшых абшараў высачэзны, што, каб убачыць, якія там дзівосы месцяцца ўгары, на яго пляскатай суглініста-пясчанай вяршыні, добра трэба напружыць цяглiцы шыі ды ўзняць як след галаў.

А там, угары, – шырокі, абгароджаны з усіх бакоў рэдкім тынам ды абкладзены понізу тыну шыхтам прыхопленага цымантам камення пляц, пасярэдзіне якога туляцца тры хаты. Адна ўжо пустая, страхавіта зырыць на свет нежывымі аканіцамі пасля нядаўняе смерці гаспадара, вяплаватага маладога старавера-адзінотніка Модзі, і дзве жылыя. Большую, тую, што прыткнулася да агароджы на схіле пагурка, займае гаманкі майстра спанталічыць суразмоўцу то – у залежнасці ад настрою – спецыфічным сваім, грубаватым гумарам, то, наадварот, суворасцю абыходжання дзед Антук па мянушцы Чабан. Гэтак, на цюркскі капыл, ён назваў сябе сам, калі, кінуўшы трунарства ў лучаеўскай канторы пахавальных паслуг, наняўся пасля выхаду ў адпачынак дзеля прыварку да пенсіі пасвіць калгасных авечак. Суворасць так натуральна ўжываецца ў старым Антуку з жартаўлівасцю, што часам і зразумець, ці праўду ён кажа, ці брэша, зусім, зусім няпроста.

У другой, меншай хаце жыве ўдава Алена, ціхмяная блізарукая кабецiна з заўжды сумным, быццам адмыслова арыентаваным на горшае выразам твару. Гуляе пагалоска, што Алена з Антуком па маладосці любіліся, але ці праўда тое, ці плётка, ніхто дакладна не ведае. І не дзіва: пасёлак з пагурка бачны як на далоні, з пасёлка ж, з нізіны, каб і вельмі хацеў, нічога ў Касцяніцы, апроч стрэх ды каміноў хат, не ўгледзіш. Так што адзіная крыніца інфармацыі пра касцяніцкія норавы і падзеі, колішнія ды цяперашнія, – даўгаваты Антукоў язык. І пра ўласныя шуры-муры з гадоў маладосці не праміне дзядуля пры нагодзе пахваліцца, і пра тое, як падчас працы ў пахавальнай канторы быццам бы ўмудрыўся аднойчы па п'янцы памілавацца з нейкаю кабецінай на веку парожняе труны ці то нават у самой труне, распавесці за саромнае не палічыць.

Касцяніца – месца маляўнічае, прывабнае, але і даволі вусцішнае. Асабліва ўначы, калі пачынаюць прывідна гайдацца ўдалечыні на тле зорак сілуэты дрэваў ды адзывацца з балота адна за адной згаладнелыя за дзень совы. Пасля ж трагічнага здарэння з Модзем і наогул ператварылася ціхамірная Касцяніца ў вачах насельнікаў Лучая ды навакольных вёсак у амаль што мясціну д'ябальскую, нялюдскую. І нават пара буслоў, што неўзабаве па адыходзе нябожчыка ўзялася абжываць комін ягонае хаты, прывабнасці хутару ў вачах як тубыльцаў, так і люду прышлага, тыж жа братоў Асакянаў, не дадае.

На наступны дзень Стасік прачынаецца раней, як звычайна, а сёмай. Але ўсё адно ўжо, аказваецца, – запозна. Меркаваў уранні заспець брата Віцюню да ягонага ад'езду на працу, каб пра сёе-тое пагаманіць, але вось жа – зноў праспаў шанец, не скарыстаўся момантам. Віцюні і след астыў, а ягоны тапчан у дальнім куце клуні выглядае так, быццам на ім і наогул не спалі: раўнюткі, без адзінае зморшчыны валік-сеннічок замест падушкі, неруш чысцюткае, каб каліва бруду, прасціны, акуратны, як пад лінейку зладаваны, стосік з наўлечкі і ручнікоў. Брат – чысцёха, такой схільнасцю да чысціні і парадку і жанчына не кожная можа пахваліцца.

На двары, па ўсім відаць, лютуе звыклая спёка. У клуні – ціша, нават мышэй, надзіва, не чутно, мабыць, пазашываліся небаракі па норах пасля несупыннай начной валтузні, ратуючыся ад гарачыні.

Зазірае ў будынак мачыха, бразгае вядром, крышыць куранятам яйка, знікае зноў у зыбкім мроіве па той бок дзвярэй. Праз хвіліну Ксеня, братава жонка, расчыняе дзверы, пастаяўшы моўчкі, немым ценем хвіліну ў праёме, быццам штосьці хочучы сказаць ці запытацца, ды, так і не наважыўшыся тое зрабіць, сумна ўздыхае, гладзіць далонямі заўважна пакруглелы апошнім часам жывот і ідзе далей па сваіх справах.

Стасік разгортвае падручнік, спрабуе заглыбіцца ў чытанне. Можа, удасца ўсё-такі да сняданку нарэшце засяродзіцца на вучобе? І, глядзіш, і потым пойдзе справа з навукаю лацвей, і дзень хутчэй прабяжыць, бы вецер прасвішча легкадумным скразняком ля вуха, а не так нудотна і марудна будзе ліпец, як учора ды заўчора.

Мітрэнгу з паступленнем у інстытут ініцыяваў Віцюня. З разлікам, што вучобу сам жа ён, старэйшы і адзіны Стасікаў брат, і будзе памагаць матэрыяльна асільваць. Бо болей няма каму. Бацька, ажаніўшыся з жанчынай з вёскі паблізу Лучая праз два гады пасля смерці маці, і сам летась раптоўна неяк, амаль уваднача с, наглытаўшыся, няйначай, на заводзе цымантовага пылу, памёр. У мачыхі, якая, як калісьці і Віцюнева і Стасікава маці, робіць за мізэрную плату прыбіральшчыцай у санаторыі, двое сваіх, хоць, праўда, і дарослых ужо, дзяцей, і, як бы добра яна да пасынкаў ні ставілася, дапамагаць Стасіку вучыцца наўрад зможа.

Навошта так высільвацца Віцюню з братавай вучобай – загадка. Тым больш, што ў самога дзіцяці год толькі-толькі споўніўся, і ўжо другое, мяркуючы па Ксеніным жываце, на падыходзе. Але вось жа ўдумаў адно – вучыся ды вучыся і слухаць нічога не жадае. Можа, таму, што ўласную мару яму ў свой час – паступіць пасля тэхнікума ў інстытут – так і не ўдалася з-за недабору бала падчас уступных экзаменаў ажыццявіць. А хутчэй за ўсё проста такая ўжо, відаць, натура ў чалавека – усё для іншых. Нездарма ж вунь і ў раённай газеце днямі ледзь не на паўстаронкі артыкул пра зычлівасць яго ў стаўленні да людзей ды сціпласць і працавітасць змясцілі. Пра абы-каго такое не напішуць, гэта ж зразумела. Што ні кажы, а гэткага брата, як Віцюня, мець – вялікая ўдача і шчасце, далёка не кожнаму такое выпадае.

Адзінае, што час ад часу Стасіка ў танкатварым, шэравокім прыгажуне браце крыху бянтэжыць, дык гэта ягоная няўсмешлівасць, зануранасць. Усё ўсур'ёз, усё з маркоцінкай у паглядзе. А калі зрэдку і прабіваецца на Віцюневым твары праз маску скрушлівае, загадкавае задуменнасці ўсмешка, то заўсёды неяк без усцехі, быццам з-пад прымусу – не ўсмешка, а

праўдзівая грымаса. Быццам які ўнутраны боль абыходзіць чалавеку, а што то за боль і скуль ён узяўся, нізавошта не дазнацца.

Ціха ў клуні, як у склепе, і яснее ад цішы той ды прахалоды Стасікава галава, і святлеюць глузды. Можа, і няблага гэта – вучоба-адукацыя, ды не гэткаю ж вось цаной, чыімсьці, хай і не чужога чалавека, коштам. Вернецца Віцюня ўвечары з працы – і набярэцца Стасік рызыкі-смеласці, і скажа брату ўрэшце ўсё тое думанае-передуманае.

Віцюня працуе загадчыкам майстэрні па рамонце тэхнікі і вяртаецца дахаты не раней сёмай. Але гэта ўзімку, цяпер жа, у пару нарыхтоўкі кармоў, – значна пазней, часам і зусім позна, ледзь не апоўначы. А то і далёка за поўнач, пад ранне. Ставіць абкарэлы за дзень, дазвання збіты па каляінах “Запарожац” ля весніц, забягае на хвіліну ў хату, каб перахапіць што-ніштo з ежы ды пабачыцца з Ксеняй і дачкою Алай, і ідзе класціся ў клуню. Разгоніць збольшага цемру ліхтарыкам, похапкам распранецца і валіцца кулем на зладаваны з дошак, засланы сеннікам тапчан. Бывае, што і загаворыць з братам пад настрой, і пажартуе, і анекдотам пачастуе. А то і ў гульню згуляе – у перакручванкі словаў, якую яны са Стасікам самі ж і прыдумалі колькі год таму, перарабляючы на ўзор найбольш характэрных прозвішчаў розных народаў назовы прадметаў, прадуктаў харчавання або раслінаў: капусцінскі, цыбулеску, сырыдзэ, бульбінзон, гуркявічус. З прыездам у Лучай Асакянаў армянскае ў той пералік адмысловых перараблянак натуральна ўпісалася: малакян, кілбасян, аграсцян... Доўга меркавалі наконт таго, якое больш за ўсё тутэйшаму люду падыходзіць паводле характару, і вырашылі, што, мабыць, на -еня ці -эня: гарбузеня, гусеня, кумпячэня – няспешна, запаволена, мякка, бы самі рухі і мова знячэўку, ды не дарэшты абуджанага ад глыбокага сну тубыльца.

Такая немудрагелістая гульня. Праўда, апошнім часам чамусьці ўсё радзей і радзей яна здараецца, ва ўсялякім разе не так часта, як раней. Зусім, на жаль, не так. Віцюня моўчкі куляецца на тапчан і тут жа засынае, як забіты, быццам пасля немаведама якой цяжкой працы. А ўранні, прачнуўшыся ды быццам жадаючы кампенсаваць перад Стасікам хвіліны вечарова-начнога маўчання, доўга ўзбуджана гамоніць пра ўсё на свеце ды ні пра што ды трэ апантана, да пачырванення вяхоткаю пад рукамыйнікам прапахлыя тэхнікай, але заўсёды наўздзіў чыстыя, каб пляміна, як тыя прасціны на сенніку, далоні. Трэ ды пазірае скоса на брата, быццам ладзіць іспыт на вытрымку ці хоча штосьці запытацца або, наадварот, сказаць.

Стасіку такія няўцямнасці братавых паводзінаў не тое што надта ўжо абыходзяць, проста здаюцца незразумелымі. Як незразумелыя і перапады настрою ды маркота Ксені, якую ўсё часцей заспявае ён у самоце, з мокрымі ад слёз вачыма. З чаго б такое? І па гаспадарцы ж Віцюня ёй, нягледзячы, што гэтак часам бывае моцна заняты на працы, памагае, і гарэлкаю, як іншыя, не злоўжывае, з п’янымі хаўрусамі сяброўства не водзіць, і падарункамі зрэдзьчасу песціць. Як і мачыху, дарэчы, дарма што чужая кабеціна. Вунь два месяцы таму абедзвюм па пярсцёнку залатым да дзён народзінаў прэзентаваў. Не новыя, перакупіў, кажа, у кагосьці на кірмашы, ды ці гэта галоўнае? Рэч не такая ўжо выбітная той пярсцёнак, а, глядзіш, на каронку мачысе, як зубы паехала ў райцэнтр рамантаваць, і прыдаўся.

Ну, але што там Ксеня: дзіця насіць, вядома, – няпростая справа. Таму

і вось пра гэта – пра тое, што, мабыць, усім ім, і тым больш Віцюню як мужу след было б быць больш уважлівымі да сіраты (Ксеня засталася без бацькоў у пятнаццаць год), таксама мае Стасік намер з братам пагаварыць. Канечне, як мага больш далікатна: Віцюня, хоць дзяцюк зазвычай і рахманы, – разам з тым часам і даволі непрадказальны, успыхлівы, і хто ведае, як на такое ўмяшальніцтва ў свае сямейныя справы адрэагуе.

Але ўсё адно ён пагаворыць. Калі, канечне, Віцюня не засне раней, чым паспее ён раскрыць рот. Або калі самога яго сон не зморыць да таго, як брат вернецца. Кроў з носу пагаворыць, калі толькі зямля не перакуліцца, ці метэарыт не ўпадзе няўрокам на панадворак, ці чарговае чэпэ, душагубства шатанскае, не здарыцца ў наваколлі ды не заслоніць сабою, не адсуне ўбок, як колькі разоў вунь ужо тое здаралася, дробныя ягоныя, мабыць, яйка выедзенага нявартыя хлапечыя клопаты і сумненні.

Пяць забойстваў цягам трох месяцаў і для вялікага горада, напэўна, не абы-які быў бы ўзрух, а пра невялікае паселішча і казаць няма чаго. Ад пачатку вясны толькі і гамонкі паўсюль у ваколіцах санаторыя, што пра тыя страхавітыя здарэнні, ды здагадак, як яно ды што. Усе пяць ахвяраў – маладыя жанчыны. Згвалтаваныя, задушаныя шалікамі ці хусткамі з собскіх шыяў і галоваў ды прыхаваныя ў хмызе быццам знарок літаральна за колькі метраў ад старога гасцінца паблізу Касцяніцы.

Ужо і супакоіліся крыху людзі пасля таго, як выцягнулі месяц таму падчас рыбалкі з ракі за пяць вёрстаў ад Лучая, каля штучнага вадаспада на месцы колішняга млына, зашыты ў мех труп адзінадушна западозранага ў нялюдскасці юрлівага касцяніцкага недарэкі Модзі. Аж не, дарэмна: праз тыдзень зноў скалануліся ад гэткага самага падвойнага – згвалтаванне – забойства – злачынства.

З Модзем, які пару год таму спрабаваў схіліць да сужыцельства непаўналетку ды дня не мог прабыць без таго, каб не зачапіць, не скубнуць за клуб якую маладзіцу, за старое і недаказанае новае быццам бы самасудам паквіталіся, але ж вось як было ўсё да самасуду, так і засталося. Усё, апроч аднаго: прыток у санаторый адпачывальнікаў, напалоханых розгаласам ад дзікіх серыйных забойстваў, удвая, калі не на больш, зменшыўся, і міжволі паўстала пытанне скарачэння штату ўстановы. Дзелавітыя Асакяны ўжо двойчы збіралі сход абслугі, папярэджвалі пра тое. Для занятых абслугоўваннем будынкаў санаторыя лучаеўцаў удар асабліва адчувальны. Вось чаму, мабыць, і мачыха ходзіць задуменная, і Ксеня, якая яшчэ да першае цяжарнасці паспела паўгода папрацаваць раздатчыцай у санаторнай сталоўцы, нервуецца, і Віцюню, як бы ён ні ўдаваў то абыякавасць, то весялосць, бачна, не па сабе.

Сняданак прамінае хутка, неяк похапкам. Ксені ад пачатку дня нездаровіцца, у мачыхі ж – свой гаспадарскі клопат. Адзін з загадаваных мінулым летам трусоў моцна, да косткі развярэдзіў дзесьці нагу, кульгае, то трэба яго тэрмінова зарэзаць. Трус вялікі, тлусты, крый Бог, здохне – шкада будзе. Марнаваць гэтулькі далікатэснага харчу гаспадыні не хочацца, а вось хто мог бы зарэзаць жывёліну ды зняць з яе скуру, – не даўмецца. Стасік, канечне, рады не дасць. Віцюню ж прасіць – таксама пустое, той ледзь кроў дзе ўбачыць – белым робіцца з твару, бы крэйда. Такі ўжо далікатны ад маленства да праяваў гвалту і жорсткасці, уразлівы чалавек.

– Дзеда Антука папрасіць, ці што? Схадзіў бы ты, можа, Стасік, да яго ў Касцяніцу, бухнуўся старому ў ногі...

Дзед Антук – чалавек з характарам няпростым, непрадказальны, і да яго ісці з нейкаю просьбай – што па мінным полі ступаць. Але ж ён адзіны, хто можа даць рады ў такой пільнай справе, і Стасіку нічога не застаецца, як згадзіцца з мачыхай.

– Стары любіць чытаць газеты, дык вазьмі з сабою раёнку, пакажы яму допіс пра Віцюню, – раіць Ксеня. – А тады, глядзіш, слова за слова – і лацвей яно ўсё пойдзе пры мужчынскай гамане.

– І праўда, – падтаквае мачыха. – Пакажы пісаніну дзеду. Яго ж хлебам не кармі – дай што-небудзь пачытаць. Валя, бібліятэкарка, кажа, дня не мінае, каб да іх у чытальню па свежыя навіны не завітаў. Газетамі ды часопісамі абкладзецца і чытае-гартае ўсё запар, што ні трапіць на вочы.

Парада падаецца Стасіку слушнай. Дзед Антук, сапраўды, хоць адвеку нідзе, здаецца, не вучыўся, руку на пульсе часу, нягледзячы на ўзрост ды нізкі, як сам пра сябе кажа, сацыяльны статус, трымае спраўна і быць у курсе ўсяго, дзе што ні дзеецца, любіць да самазабыцця.

Мачыха садзіць зраненага труса ў кошык, Ксеня накрывае кошык газетай з допісам пра Віцюню, і праз колькі хвілін Стасік выходзіць з хаты.

– Кладзі газеціну за пазуху, раптам дождж нахопіцца, – крычыць наўздагон мачыха. – Шкада будзе, як змокне. А во яшчэ... Кажуць унучка прыехала да Антука з горада, ладная Чабанішка. Дык не губляйся там надта, чуеш?

– Вось яшчэ мне не хапала клопату з дзеўкай, – кажа Стасік і адчувае, як твар пакрываецца чырванню. Але гэта – не так ад прапановы мачыхі, як ад самога факту яе выказвання: звычайна гэткіх вольнасцяў у стасунках з пасынкамі жанчына сабе не дазваляе. Павучыць, палаяцца нават, як заробіш, – так, канечне, як жа іначай, справа будзённая. Але лезці жывасілам, слатою ў асабістыя, інтымныя справы хлопцаў – не, такое ў сям'і Тарасевічаў і не практыкуецца, і не ўхваляецца.

На двары яшчэ гарачэй, як у хаце, прадзірацца праз густое, праніцанае цымантовым пылам паветра да не так ужо блізкае Касцяніцы Стасіку даводзіцца ледзь не вобмацкам, унікаючы адкрытых месцаў ды трымаючыся засені. Але і засень сёння ратуе слаба: тэмпература пад трыццаць, палахлівец жа вецер калі і не памёр, то схаваўся ад задухі ў нейкім сваім таемным спраце так надзейна, што яго не дагукацца.

У Касцяніцы ціша такая, што ад яе вушы закладвае. Адзінае, што час ад часу яе, гэтую тугую, бы напятая рыбінай лёса, цішыню парушае, – шоргат птушыных крылаў па-над хмызам і дрэвамі. Чаго-чаго, а птушак на вышынным касцяніцкім хутары хапае, аж зашмат, асабліва шпакоў.

Дзед Антук кожную вясну развешвае на ліпах усцяж тыну новыя шпакоўні, і шпакі тут ужо расплодзіліся ў такой колькасці, што баба Алена каму-небудзь на ягоную такую неабачлівую прыязнасць да птаства пры нагодзе ўпотай, дарма што жанчына пабожная і да плётак-нараканак быццам не ахвочая, і паскардзіцца. І мае рацыю: галодных птушыных іртоў у выніку Антуковае дабраслівасці штогод у Касцяніцы болей, вішняку ж ды іншых дрэваў і кустоўя для іх пракорму – наадварот, менее. Тое ўлетку, глядзіш, ссохла, гэта ўзімку змерзла – радзеюць касцяніцкія сады, чэзнуць на вачах.

І дзеду Антуку, і бабе Алене добра за семдзесят, займацца ў гэткім узросце садаводствам – што пра нязбыўнае дарэмна марыць. Дай Бог насаджанае хоць збольшага дагледзець, а ўжо пра будучыню няхай іншыя, маладзейшыя, клапоцяцца. На прыход жа маладзейшых ды іхнюю руплівасць якраз разлічваць старым і не выпадае. Касцяніца – месца глухое, пустэльнае, хто сюды пойдзе бедаваць? Кожны, вядома, ціснецца бліжэй да выгодаў, кожны імкнецца як з меншымі турботамі ды выдаткамі ў жыцці ўладкавацца.

Вунь месяц таму прыязджала пажыць у братавай хаце Модзева сястра з дзецьмі, але нядоўга пабыла: страшна. І праўда, страшна. Асабліва як штосьці там схібіць увечары ў пасёлку трансфарматар і на некалькі гадзін застаецца Касцяніца без святла, сам-насам з тутэйшымі зданкамі ды прывідамі. Вось і запусценне ля хаты, бо нікому сталася не патрэбная. І не дзіва, што лабаззё амаль у рост чалавека скрозь ля падмурка і сценаў выструнілася і ўжо зазірае ў вокны, а да ганка з-за зарасніку з крапівы і дзядоўніку не прабіцца. І нават пара буслоў, што таўчэцца ў любоўным танцы на пожні збоч пуні, весялосці пейзажу не дадае.

Таксама загадка з гэтымі цыбатымі чырвананогімі каханкамі ў пёрах. Кахацца кахаюцца, а гнязда на коміне так да ладу ніяк і не давядуць. Быццам прыглядаюцца да месца і ўсё ніяк не наважацца канчаткова зрабіць яго сваім домам. Няйначай, часовасць, хісткасць усяго тут, у Касцяніцы, нутром сваім птушыным адчуваюць. А можа, гэтаксама, як і людзей, Модзева здань іх адпужвае? Хто ведае.

Адзіная, здаецца, бясспрэчная перавага Касцяніцы перад пасёлкам – чыстае паветра. Завод далёка, пыл сюды не далятае, дык і дыхаць тут куды лягчэй, і раслліннасць больш сакавітай выглядае, і вада ў калодзежы пры спуску з пагурка больш празрыстая. Але гэта таксама як на чый погляд. Баба Алена, напрыклад, лічыць, што ані тут нішто не лепшае. Маўляў, раней венікам ці вяхоткаю, бывала, раз-другі махель гаспадыня падчас прыбірання – і дастаткова таго, і вось табе чыста ў хаце. А цяпер прыбіраеш-прыбіраеш паўдня, стаіш-стаіш крукам, а зірнеш пасля наўкола – быццам і не рабіў нічога, як было да прыбірання, так і засталося.

Ад Модзевай хаты да котлішча дзеда Антука недалёка, метраў трыста, але каб іх адолець, не абы-якія спраўныя трэба мець ногі. Дзед з восені разараў пожню пад жыта, а прыйшла пара сеяць – уваднач занямог і не даў полю рады. Толькі з хваробы выкараскаўся – тут, як на тое, конь, якога заўсёды пазычаў дагэтуль у аднаго свайго старога лучаеўскага прыяцеля, здох. Так і засталася зямля ўзаранай, ды не засеянай, пабілася глыжамі. Глыжы запякліся па вясне на сонцы, скамянелі і цяпер, прымаскаваныя густою лебядой і тлустым, кусцістым пырнікам, нямала ствараюць перашкодаў таму, хто іх не заўважыць ды няўрокам аб каторы спатыкнецца.

На прызбе дзедавай хаты сядзіць дзяўчо ў стракатай паркалёвай сукенцы і вылушчвае са струкоў гарох, прынесены, мусіць, з поля ў нізіне на ўскрайку балота. Дзяўчына, відаць па ўсім, гарадская, хоць і трымаецца прыязна, нават ускоквае з месца насустрач нeспадзяванаму наведніку.

– Да дзеда, напэўна? – кажа, расцягваючы злёгку словы і ідзе да хаты. – Хадзі...

“Ветлівая, аднак”, – збянтэжаны такою нязвыклаю ўвагай да сваёй персоны, думае Стасік і сунецца праз панадворак да ганка.

Дзеўка з выгляду, папраўдзе, як хлопцы-аднагодкі ў кампаніі падчас гульні ў футбол кажуць, хвалячыся адзін перад адным сваімі прыдуманымі перамогамі, – нішто сабе. Быццам і звычайная, а ўсё адно прыцягвае. А вось чым прыцягвае – і не зразумець. Напэўна, вачыма, светлымі, як просінь неба ўвесну, і ад таго крыху журботнымі, крыху задуменнымі. Стасікаў досвед ўзаемаадносінаў з дзяўчатамі такі куртаты, што калі якое пачуццё спатканне з незнаёмкай у яго і выклікае, дык гэта адзіна разгубленасць.

– Марута, хто там? – абзываецца, на шчасце, з хаты гаспадар і, не чакаючы адказу, выходзіць на лядашчы рыплівы ганак.

– О, гэта што! Гэта – семкі! – Дзед Антук хвіліну трымае газету перад вачыма, кладзе на застаўлены парожнімі бляшанкамі з-пад кветак падваконнік. Кветак ён ад часу пахоўнаў жонкі не трымае, выкінуць жа бляшанкі, відаць, старому шкада, вось і прыстасаваў іх для захоўвання нітак, голак, дратвы ды рознай іншай гаспадарскай драбязы. Бачна, што артыкульчык пра Віцюню ён ужо чытаў, а вось чым гэтак ці то расчараваны, ці то незадаволены – невядома. – Падумаеш: працаўнік, дбаліца... От паказаць бы вам, што пра мяне калісь напісалі ў газеціне – ото цымус!

– Пра вас? І што ж? – робіць выгляд зацікаўленасці Стасік.

Гісторыю, пра тое, як перакруцілі калісь, у даваенныя яшчэ часы, Антукову біяграфію журналісты падчас ягонае службы ў войску, зрабіўшы бацьку, простага жывёлавода, партыйным босам сельсаветаўскага значэння, а маці, даярку, лепшай ільнаводкай раёна, бадай, толькі зусім лянівы ў паселішчы не ведае. Ды стары заўсёды распавядае яе так ахвотна, што не выкарыстаць дзеля справы ягонага энтузіязму здаецца Стасіку недаравальным.

– Што, дзед?

Але дзеда Антука падсекчы на зазуб шчырасці і даверлівасці не так проста.

– Што? Сам ведаеш. Быў русавалосым – зрабілі чарнявым, ды і кучаравым яшчэ ў дадатак. Вось што. Напісаць, пане-браце, можна што заўгодна. Усё, што ў галаў узбрыдзе.

– Вы на Віцюню намякаеце, ці як? – збянтэжаны апошняю фразай старога, перапытвае Стасік.

– Можа, на яго, а можа – на каго іншага, – кажа дзед Антук і рэзкім рухам выхоплівае з кошыка за вушы труса. – Прыйшоў па справе, дык і кажы, што трэба, а не круці тут яйцамі. Круцель...

– Дык я гэта... вас жа слухаю.

Стары выцірае рукавом сліну, што асела на вуснах ды барадзе, калі хвіліну таму зайшоўся кашлем, сунецца ў сенцы рыхтаваць месца і начынне для забойства жывёліны.

К поўдню справа зроблена, і дзед Антук падае ўнучцы каманду наконт абеду: папрацавалі – след падсілкавацца.

Стравы простыя, звыклыя, свае: шчаўе, салата з цыбулі і радыскі з кропам, бульба. Затое яечня не абы-якая, а з варанай кілбасой. Кілбасу прывезла з Літвы, дзе жыве з бацькамі-настаўнікамі, Марута, і тут, у Касцяніцы, як і ва ўсім Лучаі, дзе і на смак яе даўно забыліся, бо дэфіцыт, такі пачастунак выглядае ледзь не княскім. Адзінае, што замінае Стасіку адчуць асалоду ад яго напоўніцу, – няўменне карыстацца відэльцам і

ножыкам. У іх дома гэткімі дробязямі не пераймаюцца: галоўнае – пад'есці, а розным там гарадскім выбрыкам кшталту сталовага начыння ўвагі ніхто не надае. Нават Віцюня, які, здаецца, няблага-такі абцерся ў горадзе за гады вучобы, на правілы этыкету за сталом надта не зважае.

Хлопец бачыць, як спраўна дае рады прыборам, быццам нарадзілася з імі ў руках, Марута, і яму ўпершыню ў жыцціі няёмка за сябе. Ён спрабуе рабіць так, як робіць дзяўчына, і сёе-тое ў яго, праўда, атрымліваецца. Але коштам такое напругі, што, здаецца, ускочыў бы з-за стала і пабег куды вочы глядзяць.

Ды – нельга, так што міжволі даводзіцца трываць. І не проста трываць, а яшчэ і на дасціпныя Маруціны пытанні ў перапынках між тымі трыванкамі адказваць. Добра, дзед Антук жуе памалу, дык хоць збольшага зарыентавацца ва ўласных рухах застаецца Стасіку хвіліна. І ён упарта працягвае капіраваць рухі і жэсты дзяўчыны. Ён – упарты ад нараджэння і, нягледзячы на не такі ўжо і значны жыццёвы досвед, дакладна ведае: кінуць у роспачы пачатае – апошняя справа, наступствы якой калі каму і могуць абыходзіць, дык найперш сабе самому.

Праз паўгадзіны абед заканчваецца, час Стасіку адыходзіць дадому. Марута мкнецца ў кухню мыць посуд, але дзед Антук распараджаецца па-свойму: калі ўжо госць у хаце, дык госць, калі ўжо прынялі яго, то і праводзіць трэба як след. Ці то гэтак прыколваецца стары, ці то гаворыць усур'ёз, не зразумець. Хутчэй за ўсё жартуе, ды Марута ўспрымае дзедавы жартачкі за святую праўду і выходзіць следам за Стасікам на двор.

Колькі часу абодва крочаць моўчкі. І толькі параўняўшыся з Модзевай хатай, смялеюць, распачынаюць гаману. Дакладней, Марута распачынае. Зачэпка для гамонкі – спусцелае Модзева жытло. Дзяўчыне карціць зазірнуць у вакно хаты, дагэтуль яна гэта рабіць баялася, а вось цяпер, маючы добрага хаўрусніка, магла б, маўляў, і рызыкнуць.

Ды ўгледзець што-небудзь праз запарушаную пылам шыбіну адзінага не запятага знутры фіранкамі вакна не так проста. Апроч печы, што няўклюдна прыхінулася да сцяны праваруч ад увахода і страхавіта зеўрае ў вакно разнасцежаным чорным прыпекам, нічога не бачна, і дзяўчыну гэта расчароўвае.

– Невясёлае відовішча, -- кажа яна і хукае вуснамі на пласт пылу. – А дзед, уяві сабе, зусім не баіцца. Ссыпаў тут зерне ў сенцах і штодня ходзіць па яго для курэй. Набярэ ў гарнец, а потым сядзе яшчэ на парозе ды папаліць у самоце. Нервы ў чалавека! Мяне ўчора пасылаў па тое зерне, але я не магу адна адважыцца, страшна.

– Марута – літоўскае імя? – знарок, каб перавесці размову на што-небудзь весялейшае, пытаецца Стасік і першы адыходзіць воддадь ад вакна.

– Канечне. Бацькі наўмысна далі такое, каб з літоўцаў не вылучацца. Тыя вельмі любяць сваё, вось і даводзіцца міжволі падрабляцца.

Над студняй ля ўзножжа пагурка нейкая дробная жамяра таўчэ мак, і яе так шмат, быццам зляцелася сюды з усяе акругі. Гэта дзіўна, бо побач балота і іншага, больш вольнага месца разгуляцца крылатаму кузюрству зусім не бракуе.

Хочацца піць. Стасік адчыняе века студні, набірае конаўкай з вядра вады, робіць колькі глыткоў. Спахапіўшыся, што, мабыць, трэба было спачатку прапанаваць дзяўчыне, падае ёй конаўку. Але яна адмаўляецца.

– Я не магу з калодзежа піць, – кажа і, дэманструючы гіду, прыкрывае рот тонкімі, з вузенькімі карункамі манікюру, пальцамі. – Наш сусед па лецішчы ў студні ў сябе на ўчастку летась утапіўся, дык як згадаю пра тое – аж млосна робіцца. Артыст, званнем нейкім не ўганаравалі, то абкруціў сябе ланцугом і сігануў у прадонне. Толькі праз месяц знайшлі, рука з вады вытыркнулася. А датуль ваду пілі... Жах...

– Сапраўды, – кажа Стасік і міжволі дзівіцца, як увадначас перамяніліся пры згадцы пра страшнае вочы дзяўчыны, перарабіліся са светлых-блакітных на цёмна-сінія. Як надвор'е ўвосень: толькі што сонца свяціла, а вось табе – аблачына, ды такая, што да вусцішу адзін крок.

– Ну, мабыць, далей я не пайду. – Марута спыняецца, падае хлопцу руку. – Прыходзь да нас. Дзед як дзед, а я радая буду. Па гарох, можа, разам сходзім, а то адной сумна. І страшна, папраўдзе, такія тут у вас жарсці наўкола... – кажа і, быццам спахапіўшыся ды засаромеўшыся, што вось жа гэтак зляцела з вуснаў двухсэнсоўнае пра сумесную выправу па гарох, адводзіць убок пагляд зноў светлых-светлых сваіх, пад колер не скалыхнутага ані подыхам вятрыска паветра, вачэй.

– Доўга ж штосьці ты бавіўся ў Чабана. – Мачыха вымае з кошыка асвежаваную тушу труса, кладзе на стол. – Ого! Здавалася, такі вялікі звяруга, а во – колькі тут таго мяса, хіба што раз сям'ёю пад'есці. Ну, але ж будзе вячэра, – кажа ды, узброіўшыся нажом, пачынае рэзаць труса на кавалкі.

Мачыха рэжа тушку, а Стасік ідзе ў клуню. Але гэтым разам без падручніка: іншае ў галаве. Іншае мільгаціць у глуздах, адбірае раўнавагу, ды толькі нават самому сабе ў тым прызнацца – хіба адважышся?

Пражаніна дыхтоўная, духмяная: гатаваць абедзве Тарасевічыхі, што мачыха, што Ксеня, умеюць. Ксеня адкладае трусіную лытку на патэльню, ставіць на прыпек – для Віцюні. Ён сёння даводзіць да ладу адзін з камбайнаў і вернецца дахаты добра калі апоўначы.

– А ты што не сядаеш, Стасік? – Мачыха здзіўлена глядзіць на яго, штурхае да стала. – Еш, пакуль цёплае.

– Я, мабыць, крыху пазней, – кажа ён і паказвае разгорнуты падручнік. – Дачытаю раздзел і тады ўжо сяду.

– Відаць, добра накармілі ў дзеда. Ну, глядзі, як хочаш.

Жанчыны пачынаюць есці, а Стасік ідзе на веранду – быццам дачытваць распачатае. Сядзіць на зэдлі пры сходах, робячы выгляд, што чытае, чакае, калі жанчыны пойдуць з кухні.

Першая адыходзіць, саступіўшы Ксені па хвіліне спрэчкі месца пры мыйцы, мачыха. Праз колькі часу і Ксеня ідзе прэч.

– А як жа дзеўка, Стасік? – пытаецца наастатак і гарэзліва ўсміхаецца. – Спадабалася?

– Дзеўка як дзеўка, – адказвае Стасік і, ледзь зачыняюцца за братавай дзверы, ляціць у кухню.

Есці пасля шчодрага пачастунку ў дзеда Антука яму яшчэ не хочацца, ды ахвота патрэніравацца ў карыстанні прыборамі, ды навучыцца валодаць імі так, як умее Марута, такая вялікая, што і аднаго імгнення патрываць няўсцерп.

Прыборы капрызяць, слухацца не жадаюць, быццам толькі і мараць

пра тое, каб не дацца ў рукі, выслізнуць з пальцаў ды паляцець на дол. “Жах”, – узгадваецца сказанае Марутаю ля студні пра чужое страхавітае.

І тое – жах, і свайго, уласнае гадоўлі жахлівага, – з каптуром. Ды толькі думаць пра яго штохвіліны, як наўме зусім іншае, зусім Стасіку не хочацца.

Ён усхопліваецца з месца і адразу ж, яшчэ як след не прачнуўшыся, пачынае шукаць вачыма брата. Шнарыць паглядам па цемнаватай клуні і ўсё ніяк не можа спрасоння даўмецца, ці то вечар гэта яшчэ, ці то ўжо раніца. Так неўпрыцям змарыў яго сон, што ўсё дарэшты ў галаве зблыталася.

Прыкрытая сурвэткаю талерка з некранутаю порцыяй братавай пражаніны на зэдлі збоч тапчана – відаць, Ксеня прынесла, не дачакаўшыся мужа ў хаце – прыцягвае на хвіліну ягоны пагляд, збольшага вяртае да явы. Канечне, раніца ўжо, вось толькі не так штосьці навокал, як заўсёды.

Здорка коратка, быццам нехаця, абзываецца з куросадняў, але тут жа і заціхае, улагоджаны даверліва-прыязным шалясценнем крылаў дзясятка курыц і ціўканнем куранят у загончыку пры перагародцы.

Віцюні на месцы няма, а з хаты даносяцца праз панадворак трывожныя, нязвыклыя для гэткае пары – на дварэ яшчэ шаравата – сцішаныя адлегласцю гукі: ці то шэпт, ці то ўсхліпы.

Стасік ускідвае на плечы саколку, сунецца да выхаду.

Мачыха мітусіцца па пакоі з кута ў кут, падыходзіць раз-пораз да Ксені. А тая сядзіць на канапе, утаропіўшыся нежывым, мутным паглядам у адну кропку, зыбаецца ўбакі шырокім, распухлым ад цяжару ў жываце целам. Затым усхопліваецца з месца, дастае з пудэлка Віцюнеў дарунак, пярсцёнак, кідае на дол і пачынае таптаць яго нагамі. Топча так апантана, што, здаецца, на шчэпкі патрушчыць ім лядашчую, паточаную грыбком падлогу.

Не так у хаце, як было дагэтуль, але што ажно гэтак не так – і не адразу да Стасіка даходзіць. І толькі калі спыняецца ля весніц чужое аўто і трое мужчын уваходзяць, грукаючы чаравікамі, у пакой, ды адчайна пачынае галасіць Ксеня, ды кідаецца вопрамеццю на двор, трымаючыся даланёй за шчаку, быццам хоча пазбавіцца зуба, мачыха, робіцца зразумелым: нешта здарылася з Віцюнем.

## 4.

– Прачніцеся! Ды прачніцеся ж вы! Станіслаў Мікалаевіч! Прачніцеся...

Ён расплюшчыў вочы, хіснуўся наперад амярцвелым пасля доўгага нерухомага трызнення ў крэсле целам.

Зіна сядзела перад ім на кукішках, энергічна шкуматала пальцамі за рукаў джэмпера. За ёю, загароджваючы постаццю дзверы ў калідор і азіраючы спадылба пакой, пераступаў з нагі на нагу атлетычнага складу маладзён год трыццаці з вострымі, як у тхора, вачыма і кірпатым, крыху прыплюснутым, збітым набок, як у баксёра, носам.

– Раніца ўжо? – прамовіў Станіслаў Мікалаевіч і памкнуўся падняцца. – Раніца?

– Дзе ж раніца! Палова дванаццатай, уся ноч наперадзе. Я на хвілінку з дзяжурства прыбегла, уваходжу – а вы тут у крэсле седзіцё... Кампутар падключаны... непарадак, – лапатала Зіна. – Кладзіцеся ў ложак, а то зноў неўпрыцям седзячы заснеце...

– Як-небудзь ужо дам сабе рады, – сказаў ён неахвотна і падняўся з крэсла. І толькі расчыніў рот, каб спытаць, што гэта, маўляў, за староннi чалавек у доме, як Зіна апярэдзіла яго:

– Гэта Валерка, сваяк мой, адведаць мяне прыехаў, – сказала і ўзяла маладзёна за руку. – Калі вы не супраць, хай бы пераначаваў у маім пакоі. Ужо прабачце, што так нeспадзявана, без папярэджання, атрымалася, што ж рабіць... Дазволіце?

І, не дачакаўшыся згоды, хуценька павяла госця ў свой пакой.

– Хай сабе, – не жадаючы пакідаць сітуацыю ў стане двухсэнсоўнай няпэўнасці, хто ж тут у хаце гаспадар, прамовіў ён наўздагон пары і пайшоў да ложка.

– Усё, я адыходжу, – гукнула праз колькі хвілін з калідора Зіна. – Не забудзьцеся зашчапіцца, Станіслаў Мікалаевіч, а то ўлезе хто паначы ў хату, пакуль спаць будзеце.

Зініна заўвага раззлавала яго.

– І што тады? – сярдзіта азваўся ён і ўзяўся рассцілаць ложак.

Кульнуўся не распранаючыся на прасціну, выцягнуў з асалодаю ўздоўж сцяны ногі. Уявіў, як уранні задасць Зіне прачуханца за тое, што прывяла без дазволу ўнаначкі незнаёмага дзецюка, але тут жа і супакоіўся. Што Зіна побач, што незнаёмец гэты, што яшчэ хто – якая яму розніца? Гэтулькі людзі не жывуць, колькі год ён ужо нічога і нікога не баіцца. Быў калісьці страх, і не абы-які, ды сплыў... Адбаяўся сваё, час і якую-ніякую харобрасць, хаця б і дзеля выгляду, хаця б і перад самім сабою, урэшце прадэманстраваць...

Зрэшты, можа, нават і не страх то быў тады, у бацькоўскай лучаеўскай хаце, а хутчэй – памарак. Быццам хто знячэўку ледзяною вадой абліў ці ўшчыкнуў спрасоння так моцна, што ажно ў глуздах ды ва ўсім целе тое ўшчыканне натужліва-спружыністым болем азвалася. Такі страх, што не ад натуры ідзе, як звычайна, а ад свядомасці, ад жадання хаця б збольшага даўмецца, як яно, такое вось нялюдскае страхоцце, магло з табою ды з тваімі блізкімі ўчыніцца.

Ягоны брат Віцюня, пра чалавекалюбства якога ды працавітасць у газеце нават напісалі, – забойца, ды яшчэ і серыйны? Той самы душагуб, пра якога ў наваколлі на сотню вёрстаў адно і размоваў было і якому якіх толькі пастак не стаўлялі, каб злавіць ды абясшкодзіць, пінкертоны мясцовага і нават сталічнага разліву? Не бадзяжка які-небудзь бяздомны з-пад моста, а зычлівы брат ягоны адзінакроўны? З-за якога невінаватага небараку Модзю ў меху ў раку скінулі? А праўдзівы забойца ўвесь гэты час у клуні на тапчанчыку, на чысцюткай прасціне спакойна сабе спаў і гора не ведаў. Прыцемкам высочваў дзе-небудзь у ціхім месцы адзінокую маладзіцу, садзіў у аўто, адвозіў у глухое месца паблізу Касцяніцы, гвалтаваў, накідваў на шыю пельку, душыў, а потым вяртаўся дадому, мыў рукі, падносіў жонцы ці мачысе пярсцёнак з рукі няшчаснай, перакідваўся са Стасікам словам-другім і засынаў, як забіты. І ўсё гэта брат-апякун ягоны, Віцюня?

Ды як ні хацелася верыць, што ўсё гэта няпраўда, лухта, веры даць давялося. Шостая ахвяра, жанчына не баязлівага, відаць, дзясятка, дала рады вырвацца з рук забойцы. Дзеду Антуку закарцела сярэдначы папіць сцюдзёнай вады са студні, пайшоў да яе, а маладзіца тая, ахвяра, убачыўшы святло ад ягонага ліхтарыка, і паклікала ўпомачкі, закрычала штомоцы. Гвалтаўнік збег, а яе паказанні і сталіся потым нітачкай, што прывяла ўрэшце да астатніх братавых злачынстваў.

Віцюня паводзіў сябе падчас следства спакойна, ва ўсім прызнаўся, і нават, як казаў пасля галоўны дазнаўца, даволі ахвотна. На пытанне, ці адчуваў калі-небудзь жаданне задушыць жонку, адказаў станоўча, дадаўшы, што стрымлівала ад фатальнага кроку думка пра дзяцей. Адзінае, што выклікала ягоную нечакана эмацыйную нязгоду, – тое, што ўсіх забітых ім жанчын ён быццам бы гвалціў. “Толькі траіх, а не ўсіх пяцярых, як вы кажаце”, – выгукнуў з выглядам абражанае нявіннасці і пасля гэтага ўжо не прамовіў больш ні слова.

Па годзе дазнаўства Віцюню прыгаварылі да пакарання смерцю. Гэта і быў той момант, ад якога Стасік і перастаў чаго б то ні было баяцца. Раз і назаўсёды пазбыўся страху. Апроч аднаго і, мабыць, самага невыноснага, які толькі можна ўявіць, – заўсёднага, неадчэпнага страху быць пазнаным. Штодня ўдаваць з сябе кагосьці іншага, быць не тым, хто ты ёсць насамрэч паводле сутнасці сваёй і нараджэння, – што можа быць горай?

Першая знікла тады з поля зроку Ксеня – неўзабаве па судзе. З’ехала з дзіцем на руках і з другім ва ўлонні ў Грузію, дзе жыла на той час ці то нябожчыка бацькі яе, ці то сканалай падчас позніх родаў маці нейкая далёкая сваячка, ды і растварылася ў людской масе на дзесяць гадоў. З’ехала б, пэўна, і раней, як толькі ўсё раскрылася, але нельга было, бо мусіла даваць паказанні. І ўсё ў атмасферы падазронасці, касых паглядаў людзей. А то і непрыхаванай нянавісці. Штодня быць з чалавекам упобачкі і не здагадвацца, чым ён жыве, чым дыхае, – як гэта? Хто дасць веры, што такое магчыма?

Дасталося людскога асуджэння і мачысе: залатых каронак, бач, наставіла ў роце з нарабаванага, а спытаць, адкуль тое золата ўзялося, не парупілася – ці можа такое быць? Няўжо не здагадвалася, што да чаго? Жанчына пажыла ў хаце разам са Стасікам да суда над Віцюнем і, як толькі стаў вядомы вырак, пераехала дажываць век у горад да сына з нявесткаю.

А неўзабаве і Стасік з’ехаў з бацькоўскага дому. Не развітаўшыся ні з кім, ні слова нікому, нават самым блізкім сябрам, нават Маруце, якая зноў заявілася на пачатку наступнага лета ў адведзіны да дзеда Антука, не сказаўшы, згроб у пляцак самае неабходнае з рэчаў і падаўся куды вочы глядзяць. Тады ўпершыню за ўвесь час, што доўжыліся дазнанне і суд ды месяцы невыказна пакутлівага існавання ў атмасферы цікаўнасці ды перашэптвання знаёмых і старонніх людзей, і парадаваўся ўпотай за бацькоў – што няма іх ужо сярод жывых, што паспелі сысці, не ўведаўшы ўсяго гэтага жаху, гэтае нялюдскасці.

Невядомасць бянтэжыла яго, але, папраўдзе, палохала не надта. І зразумела: як ні круці, а з усіх адведзеных чалавеку лёсам наканаванасцяў гэтая – няпэўнасці будучыні – у сямнаццаць не самая страшная. Ва ўсялякім разе так яму, Стасіку, тады яшчэ Тарасевічу (прозвішча ён пад заяву аб гарантыі неразгалошвання памяняў ужо пазней, па дэмбелі з войска, у год паступлення на завочнае аддзяленне тэхнікума) думалася.

Што цяпер раніца, а не вечар яшчэ, здагадацца было лёгка па паску сонечнага святла, што прабівалася ў пакой понізу гардзіны. Ды яшчэ па галасах з кухні – нягучных, знарочыста сцішаных, быццам суразмоўцы, што там гаманілі, адно толькі і мелі наўме, каб яго, нямоглую старую саву, няўрокам дачасна не пабудзіць. Адзін з галасоў быў Зінін, другі, мужчынскі,

мяркуючы па ўсім, належаў доктару Мядзюту, мясцоваму медыцынскаму свяцілу. Голасу начнога візіцёра кватаранткі чутно не было.

Ён варухнуўся, звыклым жэстам рукі памкнуўся дастаць з пуфіка адзенне. Адзенне, аднак, там не было, і яшчэ не адна хвіліна спатрэбілася яму, каб уцяміць, што спаў ён, аказваецца, не распранаючыся. Але гэта, надзіва, не толькі не засмуціла яго, наадварот, чамусьці развесяліла ды дадало гумору.

– Вы прачнуліся, Станіслаў Мікалаевіч? – пачуўшы, мусіць, ягонае варушэнне, гукнула праз сцяну Зіна. – Тут Васіль Дарафеевіч да вас. Устанеце, ці яму ўвайсці?

– Падымуся сам, – адказаў ён і паспрабаваў перавярнуцца на бок, каб ямчэй было потым спускаць ногі на дол. Перавярнуцца, аднак, ніяк не ўдавалася: цела быццам скавала абручам, а рукі так спруцянелі, што і з выгляду нагадвалі прыхопленыя прымаразкам капусныя качарэжкі.

– Памагчы вам, можа? – западозрыўшы, мусіць, нешта не тое, зноў гукнула Зіна. – Дык жа кажыце.

– Дарафеевіч... – ціха паклікаў ён і ледзь-ледзь пасунуўся неслухмяным целам да сцяны.

Яны ўжо размаўлялі з доктарам каля паўгадзіны, а да сутнасці справы, да таго, што найбольш цікавіла Станіслава Мікалаевіча і найбольш яму цяпер абыходзіла, так усё яшчэ ніяк і не дайшлі. Дарафеевіч ветліва ўсміхаўся, распавядаў пра нейкія новыя метады лячэння, пра цуды выздараўлення, торкаў пад нос сігнатуры з апісаннямі лекаў, а як толькі даходзіла да галоўнага, адразу пачынаў муляцца, ды штосьці круціць-муціць, ды пераключацца на старонніх тэмы. Урэшце Станіслаў Мікалаевіч не вытрымаў і задаў пытанне наўпрост:

– І колькі, па-вашаму, мне засталося ліпець?

Пытанне, хоць і прагучала неяк, як здалося яму самому, занадта ўжо па-кіношнаму, прасталінейна, доктара, аднак, калі і збянтэжыла, дык ненадоўга, на адно імгненне, не болей. Наадварот, ён быццам даўно ўжо чакаў яго і цяпер мог, да радасці сваёй, скінуць з сэрца цяжар змушаных недагаворак і непрыемнага кружляння наўкола слізкай тэмы.

– Ох, майстар жа вы змушаць, Станіслаў Мікалаевіч, – сказаў і хутка, быццам, з боязі, што пацыент перадумае ведаць праўду, дадаў: – Ох, майстар! Ну, калі меркаваць па выніках ультрагукавога даследавання, то – з месяц. Плюс – мінус... Самі разумееце.

– Месяца мне дастаткова, – сказаў Станіслаў Мікалаевіч. – Упаўне. Упаўне дастаткова.

Лекар, збянтэжаны, мусіць, такою нязвыкла абыякавай рэакцыяй хворага на ягоныя словы, падняўся з месца, зазбіраўся адыходзіць.

– Калі што спатрэбіцца яшчэ – дайце знаць.

– Абавязкова. – Станіслаў Мікалаевіч прыўзняў галаў, варухнуў на развітанне рукою. – Дзякуй вам.

Сказаў тое і ўсміхнуўся: усё, што мела для яго значэнне, ён цяпер ведаў, астатняе, быў упэўнены, – справа характару. Характарам жа ды ўсім, што спрыяе яго гартаванню, як добрым, так і благім, Бог яго не абдзяліў. Галоўнае ж на гэтую вось хвіліну – падняцца.

Праз гадзіну ён быў на нагах. Калені і рукі няўзнак выпрасталіся, і ў

галаве пасвятлела, і цела неяк уваднучас наспружынілася – быццам сам Усявышні вёў яго ў патрэбным накірунку, надаючы моц для здзяйснення задуманага.

Першае, што ён зрабіў, адчуўшы якую-ніякую палёгку, – выправіў Зіну ў краму ды аптэку, хоць пільнай патрэбы ні ў харчы, ні ў леках не было. І, як толькі зачыніліся за кватаранткаю дзверы, адразу пасунуўся да ложка.

Рахунак быў на месцы, ціхамірна ляжаў у выдзяўбанай, відаць, ранейшымі гаспадарамі дома ды прыкрытай шпалерамі нішцы ў сцяне пры самым ложку. Там, дзе паклаў яго год таму, калі пасяліўся ў гэтым лядашчым, не ў прыклад не так ужо і шыкоўнай, але больш-менш дагледжанай сваёй кватэры за паўтысячы вёрстаў адсюль, якую прадаў неўзабаве пасля інфаркту ды выхаду на пенсію па інваліднасці, дамку. У дамку, які і набыў, уласна кажучы, не так дзеля даху над галавой, як не ў апошнюю чаргу і з намеру займець перад сыходам у лепшы свет хоць якую капейчыну з розніцы між прададзеным і набытым. Розніца ж аказалася, зрэшты, не такой ужо малой, на такую ён, папраўдзе, нават і не разлічваў. І цяпер трэба было ёю як след распарадзіцца.

Распараджацца грашыма ён умеў заўсёды. Нават у найгоршыя часы, у разгар перабудовы і пасля яе, калі ўсё наўкола кулялася-грымела і людзі ўваднучас гублялі гадамі наашчаджанае падчас чарговых дэвальвацый, у яго неяк атрымлівалася так, што заставаўся ён калі і не ў выйгрышы, дык і стратаў асаблівых не цярпеў. Можа, таму, што абавязак Ксені памагаць адчуваў, што і рабіў рэгулярна, пераводзячы на яе рахунак раз у пару месяцаў, а то і часцей, нягледзячы на слабыя пратэсты жанчыны, сякія-такія сумы. Ды і сябе крыўдзіць не было жадання на радасць розным ліхвярам-прайдзісветам. Жыць больш-менш прыстойна захочаш – чаму толькі не навучышся.

Што спадкаеміцамі будуць пляменніцы, ён вырашыў даўно і беззваротна. Заўсёды гэта ведаў і, нават калі б яны ягонага дарунка з нейкіх прычынаў прыняць не захацелі, рашэння свайго нізавошта не памяняў бы. І не толькі з-за неабходнасці хоць да каго прыхінуцца душой у шарую, як зараз во, калі зусім занямог, гадзіну, не. Патрэба прыхінуцца – так, канечне, але ж не адна яна ім зараз кіруе. Хутчэй, можа, найболей ім, сем'янінам паводле складу характару ды адзінотнікам па волі лёсу, покліч сваяцтва кіруе, доўг крэўнай повязі, жаданне сплаціць блізкім людзям недададзенае (ці аднятае нават) іншымі блізкімі, тым жа братам. А яшчэ, мабыць, прыроджаная, што дасталася ў спадчыну ад маці, схільнасць да парадку, педантычнае, на мяжы самаедства імкненне ўсё даводзіць да ладу, рабіць так, каб ніякіх прагалаў у любой справе не заставалася. Што, між іншым, у асяроддзі, дзе ўсё неяк збольшага, абы-як, прыблізна, рабіць і не так ужо проста. А зрэшты, як яго, такое імкненне, ні назаві, усё будзе, напэўна, недакладна.

Адзінае, чаго б хацелася пазбегнуць, дык гэта даць падставу для роспытаў-росшукаў і здагадак староннiх людзей. Бо зусім не дзеля таго што Ксеня, што ён, адмовіўшыся ад уласнага мінулага, гэтулькі год жылі, не здымаючы ні на хвіліну масак. Так жылі, што калі дзе што і вытыркнецца з непажаданага – не іх будзе віна.

Час прыспеў, і трэба цяпер зрабіць апошні, рашучы крок. Галоўнае – перадаць спадкі. Не з рук у рукі, вядома, перадаць, а аформіць як след рахунак. Перааформіць або прыпісаць завяшчанне, а пасля ўжо паведаміць

дзеўкам пра яго наяўнасць. І зрабіць усё як мага хутчэй. У такой справе – як з тым цымантам на заводзе. Прамарудзіш хвіліну, глядзь – а замес загуснуў ужо дарэшты, і ўсе старанні тады – кату пад хвост.

Ён падумаў, што вось жа схібіў, не аформіўшы завяшчання пры адкрыцці рахунка, але тут жа супакоіў сябе тым, што не збіраўся ж ён во гэтак хутка, усяго толькі год пажыўшы ў гэтым глухім гарадку, паміраць.

Дзяўчаты, відаць па ўсім, дружныя, таму ён аформіць рахунак на адну Нану. А там ужо яны самі неяк дадуць рады міжсобку разабрацца, родныя сёстры як-ніяк. Толькі вось як гэта зрабіць, каб не навесці, як абяцаў гэта Ксені, на бацькаў след ды не ўцягнуць праз тое няўрокам у злыбяду? Жылі дзеўкі бязроднымі гэтулькі год, пражывуць і далей. Часам яно і лепш таго роду не ведаць, чым штодня сцінацца пад цяжарам ведання.

Завяшчанне – гэта дробязь, напісаць яго – раз плюнуць. Але як пісаць, калі ён і імя Нанінага па бацьку не ведае? Не парупіўся ў свой час спытаць у Ксені, і цяпер лішняя загваздка. Ды і яе поўнае імя як гучыць? Нана? Нанэта? А можа, і зусім неяк іначай.

Зіна ўвайшла ў хату, кінула на стол пакунак з хлебам і лекамі, адчыніла лядоўню, стрэльнула ў ягоны бок няўхвальным позіркам.

– Во, за хлебам паслалі, а тут цэлы бохан амаль не кранұты ляжыць, – сказала дакорліва і ўзялася распакоўваць пакупку. – Ну, Станіслаў Мікалаевіч, ну ж жартаўнік вы, аднак.

– А ты не жартаўніца з гэтым сваім Валеркам! – знарок падпускаючы ў голас як больш непрыязнасці, выгукнў ён і нават тэпнуў сярдзіта, чаго даўно з ім ужо не здаралася, нагою. – Сваяк! Адведаць прыехаў! А як вярнулася на дасвецці з працы, дык з пакоя такія охі-ахі, такія стогны даносіліся, што хоць з дому ўцякай. Ну, Зінаіда...

– І здоба во яшчэ, і баранкі, і пернікі, усяго паўнютка, – ці то знарок не зважаючы на ягоныя словы, ці то прысаромленая пачутым, працягвала Зіна. – Якое марнатраўства, Станіслаў Мікалаевіч...

– Прабач, не здагадаўся паглядзець, – гэтаксама імгненна адыходзячы ад злосці, як і дазволіў ёй авалодаць сабою, адказаў ён і, вось ужо зноў заняты выключна думкамі аб рахунку, націснуў кнопку запуску сістэмы.

**5.**

Неўпрыкмет і надвячорак нахапіўся, а Нана ўсё сядзела пры тэлефоне і ніяк не асьмельвалася набраць нумар Станіслава Мікалаевіча. Двойчы ўжо тэлефанавала ёй сястра, пыталася, як ды што там са старым, угаворвала не камплексаваць, і ўсё дарэмна. Быццам няведамая нейкая, нябачная сіла спалярушыла Наніны глузды, не давала зрабіць тое, што і Але надоечы абяцала, і самой, адчувала, магло б дадаць унутранае раўнавагі. “Адкуль гэтая нерашучасць?” – круцілася ў галаве неадчэпная думка, і цяжка вызначыць было, чаго насамрэч было больш у той нерашучасці – боязі ці зацятага нейкага, незразумелага нежадання прадэманстраваць перад чужым чалавекам зацікаўленасць ва ўсёй дзіўнай гэтай, неспадзяванай, як снег на галаў сярод лета, гісторыі.

Але сядзець вось так склаўшы рукі таксама не выпадала, і яна, так і не наважыўшыся зняць слухаўку, вырашыла Станіславу Мікалаевічу напісаць. Адчыніла скрыню і ўздыхнула з палёгкаю: пакуль яна мучылася пры тэлефоне, стары, не дачакаўшыся, мусіць, ад яе весткі, сам ёй напісаў.

Як і папярэднія ягоныя допісы, гэты быў такі ж самы сухі і ветлівастрыманы: ні эмоцыі, ні намёку на імкненне да хаця б якой-кольвечы большай, чым дагэтуль, ступені шчырасці. Вось толькі аб'ём ліста куды большы – амаль удвая.

Ягоныя справы нішто, але мае ён і сякія-такія клопаты. Па-першае, хоча даслаць ёй і сястры невялікі прэзент, а вось поўнага імя ды адраса ні адной, ні другой не ведае, то ці можна было б гэтую справу хуценька праз элетронны допіс уладзіць? Адрас і імя яму патрэбныя тэрмінова, бо заўтра з раніцы ён пойдзе па справах у горад, то вось і зручнасць была б разам і на пошту зайсці, адправіць падарунак, каб потым адмыслова нягнуткія свае старэчыя ногі лішні раз аб асфальт не біць. Па-другое, вельмі б яму хацелася займець здымак сваёй кампутарнай суразмоўніцы, дык ці не магла б яна што-небудзь на ўсцеху яму прыслаць?

Колькі часу Нана сядзела ў задуменні. Але нядоўга. Напісала поўнае сваё імя, адрас, прымацавала адзін з апошніх, зробленых сёлета падчас святкавання Новага года, здымкаў, не адсылаючы ліста, пайшла тэлефанаваць сястры.

Ала была ці то чымсьці вельмі занятая, ці то проста засмучаная: і слухала неяк наўздзіў няўважліва, і адказвала раздражнёна, быццам нехаця.

“Штосьці зноў з Паўлам, няйначай”, – падумала Нана. І не памылілася: памаўчаўшы хвіліну, сястра гучна ўсхліпнула, агаломшыла знаёмаю, колькі разоў дагэтуль выдаванаю тырадай:

– Усё, буду разводзіцца, не магу больш трываць. Зноў з бухгалтаркай сваёй скруціўся, зноў штодня апоўначы вяртаецца... Як жыць? Ну як, скажы? Гэта ж немагчыма! І яшчэ ўвагі нейкай асаблівай, паскуднік, патрабуе... Ой, прабач, штосьці я зусім расклеілася, і гаварыць нават не хочацца... Ты вось адна, і добра табе... Шчаслівая! І заставайся адна, не купляйся ні на якія мужчынскія абяцанкі.

І толькі калі Нана сказала пра намер Станіслава Мікалаевіча даслаць прэзент, крыху супакоілася, нават нібы павесялела.

– Прэзент? Ну, хай шле, хто ж ад прэзентаў адмаўляецца? А можа, там такі прэзент, што да скону нам яго на пражыццё хопіць... Ці, наадварот, можа, і зірнуць не будзе на што. Старыя – тыя яшчэ дзівакі, ты ж ведаеш... Падорыць на рубель, а думаць і казаць будзе ўсім пасля, што азалаціў.

Штосьці бурчэў, чутно было, шубуршыўся побач пры тэлефоне Павел, але слухаўкі ў Алы, каб, як заўсёды, скарыстаўшыся паўзай, уставіць у размову важкі свой, з'едлівы мядзяк, не выхапіў. Наадварот, неўзабаве, што зусім было на яго не падобна, сціх, быццам вады ў рот набраў – ці не загладжваў гэткім чынам перад жонкай правіну.

– Дык не адмаўляйся, няхай шле, – падсумавала Ала. – Можа, праўда, вартае там што... Не самім жа нам ехаць па той прэзент. Ага... Ад'ехацца не паспееш, як тут, глядзіш, прафураў розных, сучак юрлівых у хату навядуць...

Зноў штосьці жэкнуў, чутно было, Павел, зноў ўсхліпнула сястра, але Нана на тое ўжо ўвагі не звяртала.

– Добра, зараз жа адпраўлю яму адказ, – сказала і падсела зноў да кампутара. Шчоўкнула мышкаю, дачакалася сігналу “Ліст адпраўлены” і тут толькі спахапілася, што за размоваю з сястрой і забылася дадаць да допісу тое, што перад гэтым хацела: папрасіць Станіслава Мікалаевіча, каб прыслаў свой здымак.

Паспрабавала ўявіць, як ён выглядае, ды неўзабаве, дарэмна патужыўшыся глуздамі колькі хвілін, і махнула на справу рукой: можа, таму, што бацькі ані дзеда ніколі не бачыла, знешнасці незнаёмых старэйшых мужчын намаляваць уяўленнем ніколі толкам не магла. Зморшчыны, вусы, магчыма, барада, скроні сівыя, мабыць, як у дзядоў вунь на дварэ ў альтанцы або ў фільмах – усё быццам правільна, ды разам з тым і не, бо на адзін капыл, трафарэтна, ненатуральна.

## 6.

Допіс ад Наны з яе адрасам і поўным імем Станіслаў Мікалаевіч атрымаў акурат дарэчы, так, як і спадзяваўся – дзесьці за паўгадзіны да адкрыцця банка. Перапісаўшы дадзеныя на асобную цыдулу, памкнуўся адчыніць файл са здымкам, але тут жа і адклаў справу: гэта не да спеху, можна будзе паглядзець і пасля, іншае цяпер галоўнае.

– Можа, і мне з вамі пайсці? – падазрона нецярплівым, быццам толькі таго моманту і чакала, калі ж ён урэшце пойдзе з хаты, голасам спытала, ледзь толькі ён падняўся з-за кампутара, Зіна і лісліва ўсміхнулася. – Раптам што якое на дварэ з вамі здарыцца? Вось прыхопіць вас неспадзеўна вашае сэрца – што тады, Станіслаў Мікалаевіч?

– А што, як чужаніцаў мне ў хату без ведама майго ды ў маю адсутнасць навядуць? – сказаў ён і перасмыкнуў знарок як мага больш пагрозліва плячыма. – Нічога мне не зробіцца. Калі што якое – Дарафеевічу з мабільнага патэлефаную. А ці табе...

– Ну, глядзіце самі, як вам лепш. Нейкі... нейкі незразумелы вы сёння, – дадала пад самы ягоны адыход Зіна і пайшла да сябе ў пакой, дзе ўжо колькі часу займалася, чутно было, прыбіраннем.

“Мабыць, зноў крываносага свайго чакае. І добра, менш на мяне ўвагі”, – падумаў ён і пайшоў на двор. Сышоў з ганка, акінуў паглядам лядашчую, аблепленую тонкім пластам тынку сцяну дома. Узгадаў, як, толькі-толькі перасяліўшыся ў яго, хацеў адразу ж заняцца рамонтам і ўжо сёе-тое пачаў перарабляць у верандзе, і міжволі парадаваўся цяпер, што далей гэтага не дайшлі рукі. Выдаткі немалыя, а дзеля чаго яно, усё тое кешканне з рамонтам, з увагі на сённяшні ягоны стан, было б? І галоўнае – дзеля каго? А так во калі і староннямy пяройдзе халупа ў спадкі, той жа Зіне, напрыклад, бо яна адна тут, апроч яго, прапісаная, – і не шкада.

Канечне, на добры лад, і каторай з тройцы жанчын, з якімі больш-менш сур’ёзна зводзіў у жыцці лёс, можна было б што-нішто пакінуць, але дзе іх цяпер, жанчын тых, шукаць? І што патрэбы шукаць – адно толькі клопату сабе ды людзям наробіш. Быццам годнае пачнеш рабіць, а яно, глядзіш, у рэшце рэшт возьме ды кепскім, як яно найчасцей і здараецца, неўпрыцям абернецца. Для яго яшчэ – як бы ні было, а вось для пляменніц...

І што яму тыя колішнія жанчыны – так, забава быццам, часовая прыхамаць. Ні да адной душою па-сапраўднаму і не прыкіпеў. І хацеў, можа, прыкіпець да каторай – а не атрымалася. Страху свайго, сябе самога здолець перамагчы – не атрымалася. А яно ж так заўсёды: чаго баішся, чаго найбольш асцерагаешся, тое і плішчыцца ў глузды, і шкрабе, і не дае спакою. З каханкаю ўпобачкі ляжаць, кахацца-мілавацца, захлынаючыся радасцю, і адначасна кожнае хвіліны баяцца, што вось возьме ды і перавернецца штосьці раптам у галаве, і пасунецца рука зладзейкаю да шыі

сяброўкі – што за пакута... І такое, між іншым, здарылася з ім аднаго разу. Год сорак пяць было яму тады, можа, крыху болей. Добра, тэлефон зазваніў у вітальні, а то невядома чым неспадзеўнае нялюдскае насланнё і скончылася б.

Так вось і сталася, што з усіх ягоных каханняў найбольш вартым тое, бадай, нявіннае з юнацтва – да Маруты – у памяці засталося. Такім помным, наўздзіў трывалым аказалася яно, што аднойчы нават, гадоў дзесьці праз сем-восем па ад'ездзе з Лучая, надумаўшыся-такі пасля доўгіх ваганняў наведаць употай магілкі бацькоў, вырашыў разам і слядоў дзяўчыны пашукаць. Якраз жа на кладах і натыкнуўся на іх, ды запозна: дзед Антук, мяркуючы па надпісе на помніку акурат побач з магіламі Тарасевічаў, тры гады як памёр. Магіла старога з пастаментам ва ўзгалоўі, з купкамі кветак наўкола бардзюраў, папраўдзе, не так тады здзівіла яго сваёй просценькай густоўнасцю, як прыемна здзівілі і ўразілі дагледжанасцю магілы бацькоў. Так выглядалі, быццам учора хтосьці іх прыбраў: ні травінкі нідзе, ні апалага лісціка, ні следу занядбання. Хто б мог іх тут, дзе сваякоў нябожчыкаў нікога не засталося, даглядаць? Хто яшчэ, апроч Маруты, калі кветкі, што пры магіле Антука, што абапал помнікаў ягоных маці і бацькі, аднолькавыя?

Узрушаны ўбачаным на могілках, ён рызыкнуў тады заскочыць на зваротным шляху да станцыі ў Касцяніцу ў надзеі калі не спаткацца з Марутаю, дык хоць што-небудзь пра яе даведацца. Але дарэмна: усе тры касцяніцкія хаты ды подступы да іх так густа зараслі з усіх бакоў здзічэлым вішняком і арэшнікам, што і здалёк стала яму зразумела: хутару кранты. Больш ад тае пары ён Маруты не шукаў. Хоць і ўзгадваў часта – так, як узгадваюць тое, што і высілкаў, каб узгадаць, не патрабуе, што само міжволі ў галаў прыходзіць.

Зрэшты, і вартым апроч Маруты, аднак жа, лёс яго не абдзяліў. Было, было аднойчы. Лічаныя дні заставаліся ўжо тады да шлюбу, як вырашыў, паддаўшыся настрою, распавесці абранніцы сваёй пра Віцюню. Не ўсё, вядома, а так, збольшага, каб настрой яе намацаць ды паглядзець, як жа адрэагуе на гісторыю. Сёння распавёў, а назаўтра ўбачыў, як замітусілася ў клопаце абыходнымі шляхамі што-небудзь яшчэ ў дадатак да таго, што сам ёй сказаў, даведацца. На тым і скончылася любоўная ідылія, змізарнела пад ціскам жаночае перасцярожлівасці ды ўласнае ягонае (што ёсць, тое ёсць, з песні слова не выкінеш) маладушнасці.

Ад таго часу быццам прывід які тоўхаў яго праз усё жыццё ў цемя, не дазваляў нават перад самім сабою, а не тое што перад кім староннім, расчыніць дарэшты шлюзы даверу. І ні кніжкі ніякія не памаглі, ні псіхатэрапеўты вучоныя ды самадзейныя, колькі ні звяртаўся. Такі ён, той прывід, аказаўся на лекаванне няўразлівы. Што за прывід – вядома, але што пра яго ўзгадваць. Такое ўзгадваць – толькі лішні раз сябе цвяліць. Пачнеш занадта цвяліць і не заўважыш, як на прысак перагарыш. Ці ў спаруду ператворышся, захрасшы нагамі, бы тая жамярына ў загуслым цыманце, у лабірынце пакутлівых згадак. І не з такімі камянямі на душы, і не з чужымі, а собскімі, людзі жывуць і надта іх наяўнасцю не пераймаюцца. З такімі камянямі, што ягоны ў параўнанні з імі – нявінны камяк снегу. То што пакутаваць? Тым больш, што наогул цяпер іншы клопат для яго найгалоўнейшы.

З афармленнем завяшчання ўсё вырашылася хутка, за колькі хвілінаў. Дзяўчына ў банку па той бок перагародкі з цікаўнасцю зірнула на яго, штосьці ўсміхнулася, падала чысты аркуш і паперку з узорам запаўнення дакумента. Аркуш быў такі белы, што адбірала тая бель вочы, і Станіславу Мікалаевічу не адна хвіліна спатрэбілася, каб да яе прывыкнуць. Затое астатняе ўсё прайшло, як па масле, і неўзабаве тэкст завяшчання быў гатовы.

– А калі што якое, дакументаў шмат трэба будзе падаваць на атрыманне грошай, ці пашпарта толькі будзе дастаткова? – спытаў ён напрыканцы, перадаючы дзяўчыне паперчыну.

– Дастаткова будзе пашпарта, – адказала тая. – Галоўнае, каб дадзеныя скрозь, у завяшчанні і ў пашпарце, супадалі. Прозвішча, імя, імя па бацьку...

– Гэта добра. Дзякуй, – сказаў ён і пайшоў з памяшкання. Было яшчэ не позна, але адчуваў сябе кепска: у грудзях трымцела, дыханне раз-пораз збівалася з рытму, рукі лекацелі і так раптам узмакрэлі, быццам хтосьці знячэўку абліў іх вадой.

На дварэ было прахалодна. Ён нават сцепануўся ад холаду, выходзячы з брамы на ходнік. Безуважна, усё яшчэ заняты ў думках справаю з завяшчаннем, абмінуў шыхт матацыклаў збоч павароту, наблізіўся да постаці мужчыны з нацягнутай на вочы бейсболкай, што стаяў з роварам пры дзвярах у краму напояў і зацята, быццам толькі гэткага клопату праз дзень і меў, паліў.

– А, вось дык сустрэча! – Мужчына бліснуў вачмі з-пад бейсболкі, шпурнуў недакурак у сметніцу, хіснуўся Станіславу Мікалаевічу напярэймы з відавочным намерам падаць руку. – Як пачуваецеся?

– Як відаць, – адказаў ён і, робячы выгляд, быццам не дае рады пазнаць суразмоўцу, зморшчыў лоб ва ўдавана неўразуменнай напрузе . – Ты...

– Ромак, – не выказваючы ані здзіўлення, ані намёку на крыўду ад забыўлівасці старога чалавека ці панібрацкага ягонага, знарочыста грубаватага – на “ты” – звароту, буркнуў той. – Прыходзіў да вас у кватаранты прасіцца, а вы адмовіліся. Не памятаеце хіба?

– Адмовіўся, бо не меў, мабыць, у тым патрэбы, – знарок як мага больш холадна, нават сувора прамовіў ён і падаў маладзёну руку.

– Можа, і так, але ж не самі адмовіліся, дзеўка вас падсуклеціла... Я ж не сляпы, бачыў, як пяяла вам штосьці ў вушы. Дачка яна вам, ці хто?

– Хто б ні была, – сказаў ён першае, што ўзбрыло ў галаў, але тут жа, адчуваючы, што іншага выпадку задобрыць гэтага ахмялелага, ачмуранага танным півам дзецюка можа не надарыцца, прымірэнча дадаў: – Вядома, жанчыны...

– Ну, не скажыце, – не пагадзіўся той. – Жанчына жанчыне розніца. Мая былая, напрыклад, зусім неблагая... Адно што выпівох не любіць, а так кабеціна – хоць куды.

Маладзён палез у кішэню пінжака, дастаў фотку, з навязлівасцю чалавека, якому ўсё адно, што казаць ці рабіць, абы толькі яго слухалі, падаў Станіславу Мікалаевічу.

– Ну, з выгляду, сапраўды, нішто... Але ж чаму тады, калі гэткая яна ў цябе добрая, дахаты не ляціш, а тут, пры краме, аціраешся?

– А таму, што разбегліся мы... Вось чаму...

– Шкадуеш?

– Каго? Яе?

– Што разышліся – шкадуеш?

– Ёсць крыху. Такія жанчыны, таварыш дарагі, як мая грузіначка, на дарозе не валяюцца. Не тое што вашая гэтая маладая... крыкса.

– Гэта кватарантка, – неяк крыху катэгарычна, быццам падсумоўваючы прамінулую частку размовы, зазначыў Станіслаў Мікалаевіч і тут жа перавёў гамонку на іншае: – Робіш дзе-небудзь?

– Ды так, выпадковымі заробкамі перабіваюся. Разгрузіць што-небудзь пры той жа краме або перанесці ці яшчэ што... Пару разоў капачом на могілкі таксама наймаўся – даволі выгодная справа. І грошы дадуць, і накормяць-напояць замоўнікі, прабачце за выраз, да ўс...ачкі. Ды мне ўсё адно, чым займацца, абы плацілі. То калі што якое, патрэба якая – клічце, пад’еду. Клічце...

– Добра. Можа, калі і давядзецца, хто ведае, – сказаў Станіслаў Мікалаевіч і пайшоў прэч.

І ўвесь час, што шкандыбаў, адпачываючы раз-пораз, да свайго дома, думаў пра тое, як дзіўна паводзяць сябе часам людзі. Вось жа амаль што бомж, як Зіна кажа, амаль што жабрак гэты Ромак, а глядзі ты – і пагаманіць па-чалавечы са староннім дасць рады, і жончыну фотку, дарма, што былая, з такім понтам, падасць у рукі, што хоць ты ў лорды яго запісвай.

Зіна была дома, гэта ён адразу зразумеў, ледзь толькі расчыніў дзверы сянец. З пакоя даносілася нягучная музыка, пацягвала тытунём. Ён падумаў, што, мабыць, няблага было б хаця б стукам падаць кватарантцы знак аб сваім прыходзе, каб не надта ўжо ён стаўся для яе неспадзеўным, і ўжо памкнуўся да яе дзвярэй, як дзяўчына сама выйшла ў калідор.

– А пра вас мужык, той, што раней неяк прыходзіў, пытаўся, – сказала і, быццам хочучы апярэдзіць яго рэакцыю на навіну ды пазбегнуць тым самым лішніх роспытаў, дадала: – Сказаў, што бачыў вас у горадзе ля крамы, нават размаўляў, ды нумар тэлефона свайго забыўся вам даць... Вось ён, нумар, вазьміце... Ого, з такім форсам тармазнуў ды рыпнуў коламі ля ганка, што за вярсту, мабыць, было тое рыпенне чутно. Я раіла пачакаць вас, але ён не паслухаў. Сеў на свой віхлясты дапатопны ровар ды і адваліў. Я не стала ўгаворваць, вельмі мне трэба! Што, зноў не так штосьці зрабіла?

– Чаму не так? Не, якраз усё так. Надзіва...

– Што значыць – надзіва? Так кажаце, быццам я толькі пра тое і мару, каб вам насуперак што-небудзь учыніць... Намякаеце? Ну, дык вось, сказаць вам хачу... Не пра мужыка гэтага, п’янага валацужку, – пра сваё. Вось Валеркам, што начаваў тут, папікаеце мяне, а праўды ўсяе, сутнасці справы і не ведаеце.

– Ну?

– Вось вам і ну... Бацька майго дзіцяці Валерка, вось якое “ну”. Замуж кліча, але я не хачу за яго выходзіць. Бо гультай і яшчэ і лыга ў дадатак, дарма што неблагі спартсмен, па трох відах разрады мае. Несамавіты, бесхарактарны чалавек, куды вецер падзьме, туды і пахіліцца.

– А дзе ж дзіця?

– У маці да часу пакінула, дзе яшчэ. Уладкуецца неяк надзейней з жытлом – забяру да сябе. А можа, і замуж яшчэ пайду, будзе бачна. Вось якія справы. От вам і дзіва...

– Дрэнь, аднак жа, справы. Тое гляджу – нейкія ўсё сакрэты ў маёй кватаранткі. Аж во яно што...

– А то ў вас іх быццам няма, сакрэтаў... Ужо хто тут больш за ўсіх, у гэтым доме, засакрэчаны, дык гэта вы. Хаця б гэтае вось, наконт сваякоў, узяць... Няма нікога, кажаце? Як гэта? Сваякі ў кожнага ёсць. Зноў жа, наконт мовы ўзяць – быццам не разумееце мясцовай гаворкі... Хлусня! Выдатна ж, выдатна разумееце. Кажаце, ні дня тут ад нараджэння не жылі, а то адно, то другое па-тутэйшаму называеце. І іншае рознае... Ці я не бачу нічога, думаеце? Не адчуваю?

– Што ты бачыш? Што адчуваеш? Што раздваенне асобы ў мяне? Ну, дзякуй за такі камплімент.

– Што сакрэтнічаеце вы ўвесь час, вось што. Ужо і самі, відаць, не заўважаеце, як штохвіліны тоіцеся-хітруеце. Таму, пэўна, і... быццам два ў адным вы нейкі... Быццам і добры, і... зласнаваты крыху адначасова.

– Кепскі – лепшага пашукай... Зласнаваты ёй... Добра яшчэ – “дарэшты злы” не сказала.

– Не чапляйцеся да слова: я сказала – быццам. А наконт шукаць іншага... Што мне шукаць? Мне і тут няблага, бо сама гэткая, як і вы... два ў адным, калі не тры наогул.

– Во-во... На хаціну, мабыць, разлічваеш?

– А і не без таго, ведаеце, калі ўжо на тое пайшло.... Пакінеце ў спадкі – адмаўляцца не буду. У маці аднапакаёўка, куды я там з дзіцем? Ды яшчэ брат з дня на дзень павінен з турмы вярнуцца, сваё права на плошчу, канечне ж, заявіць. Што тады? Зноў жа, з Валеркам як ладзіць? Прывалачэцца – і перапіхнуцца, прабачце за праўду, няма як. А вы адзін... Але што тое даводзіць, што і без мяне вам добра зразумела? Вось пагаманілі, і дзякаваць Богу. Не падыходзіць вам такі мой расклад, дык і сысці магу, толькі скажыце. Сысці?

– Ну, навошта ж так... рэзка? Жыві сабе. Трэба ж, каб і фарціла часам людзям на халяву, не ўсё ж нябогам бедаваць. Жыві, пакуль іншы хто не заявіцца...

– Заявіцца – з чаго гэта? Не пужайце дарэмна – не заявіцца ніхто. А заявіцца – так пужну, што ў гэты бок і глянуць, напужаны, пабаіцца.

– Брат твой у турме, значыцца? Так?

– Ага. А што, боязна стала? Спужаліся? Вось, адразу бачна, што ніколі не сутыкаліся з такім. Страшна? Не бойцеся, сюды не прыйдзе. Мы не ў дружбе з ім.

– І за што сядзіць, калі не сакрэт?

– За забойства. Нажом пырнуў аднаго па п’янцы. Быццам папалохаць толькі хацеў, а замест гэтага ў самае сэрца лязом, дурань, патрапіў. І загрымеў...

– А не пахвалілася, бач, ніколі! Не сказала праўды... Не сказала ж....

– Дык вы ж не пыталіся! І не папікайце дарэмна. Праўда такая рэч, што лепш часам і не ведаць яе. Ну, сказала б я вам пра брата – і што наедку вам з таго было б? А мне – толькі нязручнасць лішняя ды турботы. Навошта? Адсекчы на карані мінулае – і ўсяго клопату. Хіба не так?

– Адсекчы? Лёгка сказаць... А як не адсякаецца, тады што? Хм... Хаваць мяне будзеш?

– Што? Хаваць? Хаваць... Вось дык размова... Але што ж – не дзеці мы... Хаваць! А даверыце? Скажыце – даверыце? Як бы вы хацелі быць пахаваным?

– А хоць як. Напрыклад, у крэматорыі спаліць. Выгода: у печ торкнуў

труну, папялок развеяў пасля дзе-небудзь, і ніякага клопату з уносам–вынасам цела, з месцам на кладах ды хаўтурамі. Вось толькі дзе яго тут возьмеш, у гэтай глухмені, той крэматорый. Давядзецца нехаця ў зямлю тачыцца...

– Ну, вось, дагаварыліся... Ой, Станіслаў Мікалаевіч... Пра халяву нейкую, пра пахаванне заводзіце гамонку. Есці будзеце? Бульбы насмажыла, дык магу падзяліцца. З цыбуляю, дарэчы, бульба.

– Канечне, з цыбуляю, як жа без цыбулі, – буркнуў ён незадаволена і пайшоў следам за Зінаю ў кухню. Іншым разам, можа, і абурыўся б, але цяпер было не да таго: карцела як хутчэй улезці ў пошту, паглядзець дасланы Нанаю здымак.

Дзве кабеціны сярэдніх год, абняўшыся, стаялі перад прыбранаю навагодняю ёлкай, засяроджана, як малыя дзеці ў чаканні абяцанай дарослымі птушкі, глядзелі ў аб'ектыў апарата. Выгляд танкавусных светлавалосых маладзіц з засяроджанымі, уважлівымі вачыма сумненняў не пакідаў: Ксеніны дочкі. Толькі крыху, падалося Станіславу Мікалаевічу, больш мяккія абедзве з абрысаў ды больш падобныя асобнымі фрагментамі твару да ніколі не бачанай імі бабулі, ягонай і Віцюневай маці.

Дзе на здымку каторая з пляменніц, пазначана не было, але гэтага Станіславу Мікалаевічу і не патрабавалася: здагадаўся, ледзь адчыніўшы файл ды ўзгадаўшы фотку, прадэманстраваную пару гадзін таму Раманам.

Ён прачнуўся пад ранне – ад болю ў грудзіне. Паспрабаваў прыўзняцца і не змог: цела быццам скалянела. Праглынуў, сяк-так дацягнуўшыся рукою да пудэлка, пару капсул з лекамі, хацеў запіць глытком вады, але шклянка была пустая. Пастукаў кійком у перагародку, каб паклікаць упомачкі Зіну, ды, успомніўшы, як яна збіралася звечара ў начную змену, зноў адкінуўся галавою на падушку. "Канец?" – падумаў і склаў на жываце рукі. Ні роспачы, ні страху не было, толькі нейкі няўцямны, незразумелы сверб у галаве. Усё адно як штосьці там муляла ды, разбітае на дробныя фрагменты, зыбалася-знібела між звілінаў і ніяк не давала рады аформіцца ў адзінае цэлае. Як з парваным ланцужком мітрэнга: звяно выпала, а вось чым замяніць яго – і не даўмецца, і не ўзгадаць.

Тым часам боль у грудзях пачаў пакрысе адпускаць. І неўзабаве, прыглушаны, відаць, лекамі, ужо адно ледзь-ледзь нагадваў пра сябе лёгкім паколваннем у спіне і плячах.

Першы сонечны прамень выбіўся з-пад гардзіны, пазыбаўся ў марыве з пылу і кволага ранішняга святла па-над падлогаю, упёрся ў прастакутнік шпалераў з гадзіннікам на сутыку сценаў. Палова сёмай, да сканчэння Зінінай змены паўтары гадзіны. Значыць, дахаты дзеўка вернецца не раней дзясятай. А можа, і пазней: штосьці ўчора намякала мімаходзь на прыезд Валеркі, дык, мабыць, адразу з працы паляціць на станцыю яго сустракаць. Дзіўная: ганіць каханка, а варта таму пальцам павабіць – і ляціць да яго як не на злом галавы, бы тая жамярына па нектар да кветкі, быццам нікога лепшага за яго і ва ўсім свеце для яе няма. І зразумей ты гэтых жанчын.

Гэтак во акурат, без жаночых дзівацтваў, і з Віцюнем у тое лета не абышлося. Невядома, чым ён іх там браў, тых маладзіц, але тры з шасцярых ягоных ахвяраў, як высветлілася, самі, без прынукі селі да незнаёмца ў аўто, зрабілі крок насустрач уласнай смерці. А падчас суда, сведкі пасля казалі, некаторыя жанчыны ў зале, магнезу ды абаяльнасці асобы забойцы, няйначай, паддаўшыся, нават і спачувалі яму, і слязіну, зычлівіцы, пуска-

лі. А адна, з каханак ягоных быццам бы колішніх, тэхнікумаўскіх яшчэ, дык і наогул як звар'яцела, паўгода па агалашэнні выраку лісты-скаргі на дзеянні следства ў высокія інстанцыі дасылала.

Ён перакуліўся на бок, набраўшы ў рот паболей паветра, у тупым здранцвенні ўпетрыўся паглядам у сцяну. Колькі дзесяцігоддзяў прамінула, колькі забылася ўсяго, быльнягом зарасло, а зацята-неўразуменная ўсмешка братава, быццам учора тое ўсё здарылася, так і засталася перад вачыма. Змушаны, як праз сілу, усмех хворага чалавека, калі даваць веры высновам навукоўцаў, – прыкмета душэўнай неадэкватнасці асобы, так званай некрафіліі. Цікава толькі, як яны, некрафілы, пры іх любові да смерці, да пагрозы ўласнаму жыццю пры гэтым ставяцца? Мяркуючы па паводзінах Віцюні падчас суда, піетэту не выказваюць. Але ж каб і надта баяліся – таксама не скажаш.

Але пра што гэта ён? Ці не час ужо і насамрэч вартым, а не ўспамінамі тымі прадаўнімі, заняцца?

Стрэлка гадзінніка нервова тарганулася на цыферблаце, памарудзіла, бы ў одуме, на лічбе 7, пасунулася далей у адвечным сваім марным клопаце пагоні за часам. Дапяла да прыпарушанай пылам мінулага адзнакі гульні з Віцюнем у перайначванне словаў, хіснулася сюды-туды і спынілася, быццам чымсьці завarожаная.

"Ну, вось, і ўсё, мабыць, – адчуваючы, як слабее ды пачынае новым прыступам болю адзывацца сэрца, падумаў ён і падняўся з ложка. – Справу скончыць, і да пабачэння, белы свет... Як кажуць – быва... бываленя!"

Прыўзняўся на ложку, дастаў з кішэні цыдулу з Ромакавай паспешлівай крамзанінай, набраў нумар.

## 7.

– Усё, заўтра еду па Цёму. – Зіна імкліва паднялася з канапы, прайшлася сюды-туды па пакоі. – Адзін заставацца тут не пабаішся? Раптам гаспадар заявіцца ці яшчэ які прывід...

– Яшчэ чаго! – ускіпеў Валерка. – Знайшла баязліўца! Вось абы ўкалоць... Характар твой: тыдзень усяго разам пабылі, а ўжо колькі чаго ад цябе ні наслухаўся. І што ні слова, то знявага. І прайдзісвет я, аказваецца, і няздара, а цяпер во – і баязлівец яшчэ да ўсяго...

– Цябе зняважыш, ага. Паеду – клункі тыя з вопраткай Мікалаевіча, што ўчора напакавалі з шафаў, не забудзься павыносіць на двор, можа, прыдадуцца каму з суседзяў. Толькі абы-як не кідай, пакладзі акуратна. Не возьмуць – пасля, як вярнуся, у інтэрнат для старых аддамо. На могілкі схадзі. Вецер штоночы, каб вянкі не разбэрсаў... І наогул, падправіць што, можа, там трэба, дык пастарайся ўжо, не палічы за цяжар...

– Схаджу.

– Глядзі. Першае, што спытаю, вярнуўшыся, – ці зрабіў тое, што прасіла? – сказала Зіна і пайшла да кампутара. Пасля пахавання Станіслава Мікалаевіча мінулі чатыры дні, а дагэтуль ніякай весткі ад жанчыны па імені Нана, перадсмяротны ліст да якой знайшла яна ў паштовай скрыні нябожчыка, усё не было, і гэта яе нервавала. Хто яна, тая жанчына? Якіх неспадзевак можна ад яе чакаць?

– Х*а*керка! У чужой пошце корпаешся? – не вытрываў, падкузьміў Валерка. – Пабачыў бы стары, што тут з ягонаю скрыняй вырабляеш...

– Супакойся, ён сам мне пароль даў. Свярбела б мне пахакерыць, і

без дазволу магла б. Толькі звычкі такой, у адрозненне ад некаторых, не маю, не займела. Зайздросціш, што не табе, а мне даверыў гаспадарнічаць?

Яна адчыніла скрыню і адразу ж натыкнулася паглядам на паведамленне аб новым лісце.

Пісала Нана, пыталася, што гэта яму, Станіславу Мікалаевічу, прыйшло раптам у голаў развітвацца, быццам ён паміраць сабраўся. То зухам трымаўся, а то во – усё гэтак неўспадзеў, уваднача перамянілася.

Але больш уразіла Зіну іншае.

– Ты раварыста таго, Рамана, што ўсё тут круціўся ля дома, даўно сустракаў? – гукнула яна ў кухню, дзе чутно было, Валерка раз-пораз ляпаў ужо дзвярыма лядоўні. Ён заўчора чарговы раз кінуў паліць і цяпер нервова шукаў хоць чым заняць рот замест цыгарэціны.

– Не, не бачыў. А што?

– А хадзі сюды, зірні...

Валерка, жуючы на хаду кавалак каўбасы, увайшоў у пакой.

– Бачыш – дзякуе за прэзент. А хто яго, той прэзент, перадаў? Раман. Што за ён? Няўжо гэты самы, што прыязджаў сюды? Пэўна ж ён, хто яшчэ. І калі паспеў? От жа хітраваны!

– Хто?

– Хто! Галава твая... Гэтыя двое: Станіслаў Мікалаевіч і Раман. І калі ўжо дарэшты схаўрусавацца паспелі? Тое лагодны гэткі быў апошнім часам наш Мікалаевіч, да сябе не падобны. Што ні зрабі – усё ўпанараў, усё добра. Нават на цыбулю ды адсутнасць ножыка пры талерцы перастаў наракаць. Аж во яно што, во дзе прычына... Ну, але... Што рабіць будзем?

Валерка пракаўтнуў каўбасу, з выразам маральнае перавагі на твары – ага, маўляў, і я вось прыдаўся – няспешна, быццам жадаючы прадоўжыць хвіліну ўласнага, дарма што ў собскіх толькі вачах, узвелічэння, прамовіў:

– Як што? Скасаваць скрыню, і канец справе. Што яшчэ? Ліха будзіць?

– А з адказам што? Напісаць ёй, гэтай Нане, што ды як? Што памёр, што пахавалі? Пэўна ж, цікава ёй будзе...

– Канечне, напісаць. Каб не чапіліся потым. Адно што Раман гэты... Яшчэ надумаецца знаёміць сюды прывезці... Бачыш жа, запрашаў іх стары...

– Не надумаецца. Я яго пару разоў так пужнула, што не насмеліцца больш назаляць. Ды ў мяне такое ўражанне, што Станіслаў Мікалаевіч і сам пазбягаў з тымі цёткамі спаткання. Спачатку прапанаваў быццам сустрэцца, а потым у хамут ударыў. І не рады ўжо быў, відаць, што напрасіўся...

– Чаму?

– А хто там ведае, у чужую душу не ўлезеш. Не такі быў чалавек наш Мікалаевіч, каб перад кожным стрэчным спавядацца. Меў, мабыць, нейкія важкія прычыны для гэтага. Але нам што да таго?

– І праўда.

– Дык што – адпісаць жанчыне?

– Рабі, як лічыш патрэбным. Каб потым, калі што якое, мяне не папікала. Не я тут гаспадар...

– Ну ўжо ж, канечне, не ты, – не стрывала, каб чарговы раз не зыранізаваць, Зіна і рашуча націснула курсорам на пазнаку "адказаць".

Не сумнявалася: менавіта вось гэткае развязкі нябожчык гаспадар больш за ўсё жадаў і ўсё магчымае дзеля таго, каб акурат гэтак, як ёсць, сталася, сам жа і парупіўся зрабіць.

**8.**

– А вы сумняваліся, казалі – падман. Грошы немалыя, ажно падумаць боязна. – Нана разгарнула рахунак, перадала сястры. – Містыка нейкая, дэтэктыў дый годзе.

– Немалыя, праўда, – азвалася Ала. – А во будзе, як заявяцца ягоныя сваякі ды пачнуць яшчэ судзіцца. Клопату тады не абярэшся. І грошай тых не захочаш, як пачнуць па судах цягаць.

– Не ўводзьце староннім у вушы, што гэтак падфарціла, то ніхто і не заявіцца, – падаў голас з калідора Павел. – Падумаеш, сваякі. Былі б тыя сваякі нармалёвыя – чужым не завяшчаў бы майно. Падзеліце ўклад – і ўся містыка, і ўвесь вам дэтэктыў. Працей трэба быць, жанкі, працей...

– Як ты, напрыклад, са сваімі гэтымі... Ага... Ну, а што дзеўка гэная, Зоя, ці як там яе? Патлумачыла яна табе што-небудзь у лісце? – не сунімалася Ала.

– Зіна? Не, нічагуткі. Толькі тое, што пра помнік на могілках турбавацца не трэба, паведаміла. Яна, маўляў, сама ўсё замовіць і зробіць, бо ёй ён таксама сёе-тое пакінуў. А болей – нічога. Ды няхай робіць, як хоча. Дзяўчына, відаць, увішная, гэткая міма рук нішто не прапусціць...

– Няблага ж, ён, відаць, ёй пакінуў, калі гэтулькі на сябе бярэ, – зазначыў Павел.

– Ну, а Раман што? Можа, ён што ведае?

– Раман? Скажаш! Быццам Рамана не ведаеш... Калі ён нават канверта не даўмеўся распакаваць ды паглядзець, што там у ім. Пагаварыць з ім, распытаць, ці што, пра таго чалавека? Мабыць, пасля крыху, як уляжацца ўсё...

– А можа, і не варта, – зазначыла задуменна Ала.

– Можа...

Колькі хвілінаў тройца сядзела моўчкі.

– А памятаеш, як аднаго разу, калі ў Закарпацці мы жылі, нейкі дзядзька падарункі нам да Новага года прыслаў? – парушыла маўчанне Нана. – Мама яшчэ ледзьве прынесла іх з пошты, такі велізарны быў клунак. Лялькі, цукеркі, яшчэ нешта з ласункаў, абутак, вопратка... Памятаеш? То, можа, гэта ён і быў тады, гэты Станіслаў Мікалаевіч?

– Падарункі памятаю, як жа... А вось ці казала яна, ад каго – хоць застрэль, не ўзгадаю. Ды наўрад казала.

– А я памятаю: ад дзядзькі аднаго, сказала, і тут жа змоўкла ды рот даланёй прыкрыла. Быццам і не хацела нічога казаць, а прагаварылася міжволі. То, можа, сапраўды гэты Станіслаў Мікалаевіч нам які сваяк?

– Быў бы сваяк – так бы яна і сказала: ад дзядзькі, маўляў. Канкрэтна б сказала: ад вашага дзядзькі. А то ж – ад дзядзькі *аднаго*! Улоўліваеш розніцу? – зноў вымкнуўся, цяпер ужо з кухні, Павел. – *Аднаго* – значыць нейкага чужога, староннягa. Хіба не так?

– А потым – з імем тваім ды па бацьку імем яшчэ гэтая мітрэнга, – падтрымала мужа Ала. – Ці мог бы ён, каб быў нам сваяк, не ведаць нашых імёнаў па бацьку? Нават калі б і не родны быў дзядзька, а стрыечны, да прыкладу, і то ведаў бы... Канечне, ведаў бы. Не, тут не тое, не тое... Зусім не тое.

– Ну, можа і так, – пагадзілася неахвотна Нана. Мулкае адчуванне, што выслігвае з жыцця штосьці значнае, як выслізгвае з рук ды сплывае прэч

няўдала схопленая лаўцом за хвост, але не ўтрыманая рыбіна, пазыбалася імгненне ў яе растузанай няпэўнасцю падсвядомасці і, заслоненае думкай, што нічога іншага, як пагадзіцца з жалезнай логікай сястры і швагра, не застаецца, патанула ў бясконцай чарадзе цяперашніх і імаверных наступных клопатаў.

## 9.

Была сярэдзіна жніўня. Ала і Павел Клімовічы ехалі на аўто паглядзець слынны на ўсю вобласць штучны вадаспад на месцы разбуранага старасвецкага млына за паўтары сотні вёрстаў ад іх гарадка. Колькі год ужо збіраліся да яго наведацца, ды, хоць і знаходзілася запаветная мясціна не так і далёка ад дома, ніяк не маглі вымеркаваць на тое часу. То адзін на працы, то другому з нейкае прычыны не да вандровак. Сыны, Данька і Лёша, ці не па тры разы ўжо ўмудрыліся з'ездзіць да таго вадаспада з экскурсіямі ад школы, а ім, бацькам, усё не выпадала. І вось нарэшце супалі ў абаіх тэрміны адпачынкаў, і магчымасць такая з'явілася.

Зіхоткая стужка дарогі вілася паміж маляўнічых узгоркаў ды ўзлескаў, то падымалася ўгору, то зноў, залюляная кашлатымі вершалінамі дрэваў абапал шляху, спускалася на дол. У салоне было гарачавата, але фортак не адчынялі: Ала змалку баялася скразнякоў. Гаварылі пра імаверныя выдаткі, звязаныя з набыццём ранцаў, кніжак, абутку ды вопраткі для хлопцаў да школы. Неўпрыкмет, але лагічна ўзбіліся на тэму грошай, завяшчаных сёстрам Станіславам Мікалаевічам, але ўсё яшчэ Нанаю не атрыманых, бо ёй раптам узбрыло ў галаў заняцца лячэннем Рамана ад алкагольнай залежнасці і яна, баючыся пакідаць выпівоху сам-насам з хваробаю ў такі адказны момант, паехала з ім на месяц у нейкую сталічную спецыялізаваную клініку і вярнуцца дахаты мелася толькі праз тыдзень.

– Замыліць твая сястрыца капейкі, і канец будзе справе, – казаў каторы раз Павел, закатваючы вочы ледзь не пад дах салона і нервова шчоўкаючы раз-пораз дзверкаю бардачка. – Бандэраўцы гэтыя – у-у, ведаем іх...

– Кінь ты енчыць, – не стрывала, абурылася ўрэшце Ала. – Вярзеш абы-што. Замыліць... Быццам я сястру сваю не ведаю. І колькі ўжо разоў прасіла не называць яе бандэраўкай – як аб сцяну гарох. А потым наракаеш, што недалюблівае... На сябе паглядзеў бы...

– А што – не так, не бандэраўка? – ці не знарок прапускаючы міма вушэй апошнія словы жонкі, млявым голасам працягваў Павел. – Не бачыш хіба, як Лёшку з дня ў дзень апрацоўвае? Кніжкі нейкія ўвесь час падсоўвае, размаўляць на мове прымушае з сабой па тэлефоне... Мне вунь днямі эсэмэску прыслаў: "Тата, у мяне ўсё клёва!" Тата! Што гэта такое? Хто ў наш час бацьку татам кліча? Смех дый годзе!

– Ну, тата... І што табе так не падабаецца? Хочаш папам, няйначай, быць? Мажа, і рымскім яшчэ? Дык дарасці трэба... Ты ж свайго бацьку як зваў? Памятаеш, ці нагадаць, можа? І ніхто яго не прымушае, сам так хоча. Не хацеў бы – не размаўляў бы на мове і не пісаў. Як-ніяк сямнаццаты год хлопцу – забыўся?

– Хоць і трыццаты! Мне яшчэ ва ўласнай хаце халеры рознай не хапала... Не, каб сваіх нараджаць – чужых выхоўвае. Нараджай і тады і выхоўвай, як лічыш патрэбным. Выхавацелька! Вось грошы аддасць твая Нанка-незачэпа, і займуся гэтаю справай.

– Зоймецца ён... Сабою лепш займіся. Яшчэ раз пабачу з тою цыбатай прафурай з клуба – трываць не буду. Далібог, не буду... Дарогу глядзі, а то віхляемся, бы дупа бабіна між елак. Вунь, бачыш, чалавек галасуе, вазьмі.

На перакрыжаванні з указальнікам "Санаторый "Лучай" субтыльны маладзён год трыццаці ў рудых пакамечаных шортах і з плецаком за спінаю, сапраўды, адчайна сігналіў рукамі ў просьбе спыніцца.

– Вазьмі, – ціха, але настойліва, памятаючы заўсёдную звычку мужа саступаць перад рашучасцю, паўтарыла Ала і кранула дзверку з цвёрдым намерам адчыніць.

– Вельмі трэба – абы-каго падбіраць! Возьмеш, а ён табе па галаве гваздане чым-небудзь каляным замест падзякі, і каюк, – незадаволена зморшчыўся Павел, але не паслухаць жонкі не наважыўся, спыніўся.

– Гваздане! Менш бы серыялы глядзеў, менш бы і дурное мроілася. Сярод дарогі, у ясны дзень – гваздане, – сказала Ала і расчыніла дзверку. Вылезла з салона ды, скарыстаўшыся момантам, хуценька перасела на задняе сядзенне, даючы маладзёну месца побач з мужам. Быццам бы з перасцярогі тое зрабіла, паддаўшыся навеянаму словамі Паўла страху, а насамрэч – адзіна таму, што ўначы, не даўшы рады супрацьстаяць ягоным настойліва-пажадлівым уговорам злітасцівіцца, выканаць хоць збольшага сужэнскі абавязак, недаспала і цяпер хоць на якіх пару хвілін хацела акунуцца ў забыццё.

Ды як ні хацела – заснуць, аднак, не атрымалася. Мужчыны ўвобміг знайшлі агульную мову, загаманілі спачатку пра назоў санаторыя, пра нейкіх армянаў, што колісь, паводле расповядаў тубыльцаў, тым санаторыем апекаваліся, пра нейкі здзічэлы, абязлюдзелы касцяніцкі хутар, пра забойствы ды згвалтаванні жанчын ці не саракагадовае даўніны, якія пры тым хутары адбыліся, пра дыскусіі ў прэсе наконт смяротных прысудаў забойцам, затым пра нейкі фільм жудасцяў, потым пра футбол, яшчэ пра штосьці... Неўпрыкмет пераключыліся на праблемы экалогіі, загаварылі пра тое, як псуе мясцовую прыроду стары, нерэнтабельны цэментны завод, ад якога адно толькі і наедку, бадай, што кепскае паветра ды пыл слупам.

"Як бабы, вось абы мянціць языкамі", – падумала Ала і, задаволеная, што хоць яе не ўцягваюць у нудотную сваю, бясконцую, як нітка з праслíцы ў нядаўняй тэлеперадачы пра народныя промыслы, балбатню, адхінулася плячыма на спінку сядзення. Узгадала ўчарашнюю тэлефонную размову з Нанай пра тое, што няблага было б з'ездзіць на магілу да Станіслава Мікалаевіча ды паспрабаваць усё-такі пра яго сёе-тое ў дзеўкі той, Зіны, даведацца, уявіла, як будзе ўлагоджваць мужа, угаворваючы на вандроўку, і, закалыханая галасамі мужчын ды вокамгненнай зменаю краявідаў за акном аўто, правалілася ў кароткі – да месца заставалася, мабыць, не болей дзясятка хвілін язды – сон.

Вадаспад – невысокі, метры ў два з паловай паток – Алу не тое што расчараваў, хутчэй падаўся нейкім несур'ёзным, быццам цацачным. А вось ваколіцы яго дык і насамрэч расчаравалі: усюды неўладкаванасць, параскіданыя па кустоўі галавешкі ад вогнішчаў, горы смецця, россыпы недакуркаў пад нагамі. Хоць сам сціснуты з абодвух бакоў узгоркамі дыснейлэндаўскі гэты тутэйшы відарысік, канечне, уражваў. Зрабіўшы зводдалеку мабільнікам некалькі здымкаў вадаспада, Ала спусцілася з пагурка на бераг, дзе Павел са сваім спадарожнікам-суразмоўцам у кам-

паніі іншых вандроўнікаў ужо кулогаліся ў кудзелі з пены ды пырскаў ля зарослай аерам і багавіннем плаціны. Толькі пачала распранацца, каб далучыцца да купальшчыкаў, як зазваніў мабільнік, і яна зноў паднялася на пагурак, далей ад шуму.

Тэлефанавала Нана. Размова, як і ўчарашняя, ад першае ж хвіліны закруцілася вакол вераемнае паездкі на магілу Станіслава Мікалаевіча. Сястра неўзабаве павінна была разам з Раманам вярнуцца дадому, таму прапаноўвала, каб не марнаваць дарэмна часу, адразу ж і выправіцца ў ягоны гарадок.

– А калі не пажадае тая дзеўка з намі сустракацца, што тады? – не жадаючы акунацца нанова ў справу і разам з тым і не маючы ахвоты дарэшты адпрэчваць ініцыятыву сястры, слаба запратэставала Ала.

– Дык з суседзямі можна пагаманіць. Ці афіцыйна ў той жа тамтэйшы пашпартны стол, у рэшце рэшт, звярнуцца. Якія ж ніякія ягоныя дакументы, напэўна, там адшукаюцца. Быць такога не можа, каб нічога ад чалавека не засталося...

Па настойлівасці, з якою гаварыла Нана, было зразумела: клопат жанчына ўзяла да галавы грунтоўна і ад намеру свайго ўжо наўрад адступіцца.

“Вось і ў каго такая ўдалася ўпірыстая? Як надумаецца што – кроў з носу, а да канца задуманае давядзе”, – падумала Ала і сказала няўпэўнена ўслых:

– Хлопцам хутка ў школу, турботаў так шмат, што і хвіліны вольнай, ведаеш, не выпадае. Сюды во, да вадаспада, выбрацца ледзь-ледзь часу вымеркавалі...

– Ну, глядзі сама, як хочаш. І адна магу з’ездзіць, не такая ўжо праблема... Адно што аўтобусамі круціцца не хочацца, на сваім аўто – зусім іншы быў бы, канечне, цымус... І ямчэй яно было б, і хутчэй, і весялей у добрай кампаніі.

– Канечне, весялей... Ну, дык паглядзім, можа, яшчэ што і атрымаецца ў мяне, – пераймаючы юрлівую ўсмешку Паўла, які ўсё больш настойліва завіхаўся ў вадзе ля адной з маладзіц, сказала Ала і пачала асцярожна – бераг быў гэтым месцам занадта стромы – спускацца з тэлефонам пры вуху з пагурка да ўзножжа вадаспада. Хацела яшчэ спытаць у Наны напрыканцы размовы пра завяшчаныя Станіславам Мікалаевічам грошы, але не паспела. Пакуль мулялася ў няпэўнасці, ці не будзе такое пытанне занадта абразлівым для сястры, тая перарвала выклік.

Марыя Вайцяшонак



...памяць кахання
павінна
прачнуцца....

# Да зімы тварам

* * *

Вясна вады
дарогу
адпусціла
цяпер дамоў
як і да сэрца
толькі пехатой
ці калясьмі.

### *ЧОРНЫ ДЗЕНЬ*

Так позна
спазнаць
вашу здраду
як з урачыстай
вячэрай
спазніцца

калі ўжо тваё
сонца садзіцца
і не дасі рады
у што апрануцца
на гэтым часе
апошнім.

* * *

Дождж
увайшоў
у ахвоту
маршам
за вокнамі
знікла самота
начніцай
распяўшыся
на ваконнай
раме
быццам не ў хаце
начую
а ў аркестравай
яме.

### ПРЫЧАСЦЕ

Успомніла
забытае
слова
вясковае
услых
вымаўляю
аплатка
на языку.

* * *

Перастаў
прыходзіць
да мяне
жабрак
іншы раз
вельмі дакучаў
стукаючы
ў дзверы
наранку
і я раптоўна
пабяднела.

* * *

Сонцаварот
ад маіх варотцаў
паварот
да зімы
тварам
дзень
будні
не затрымацца
з бабамі
нават ля студні.

* * *

Паляўнічы
стрэл
на балоце
успуджана
птушка
пакуль бачу
яе ў небе
ляту побач
нас лёгка
пераблытаць.

## ПЕЧ

У горадзе раптоўная
гарачая вясна
пасля дажджу
запахла
печчу
гарачым каменнем
цэглай апечанай
калі не ўпільнуешся
пабяжыць
з катла
на агонь
бы з качарэжніка
парасон
у мяне ў руцэ
увесь бераг Нямігі
ў малацэ
і я яшчэ недарослак
я яшчэ й не падлетак
рукамі абдымаю
печ

амаль мяркуюся
коткай
ускочыць на пяколак
вярнуўшыся са школы
ўзімку за вёрст пяць
спаць...
спаць
у запечку
як за плячыма
печ – радзімачка
печ – Айчына.

* * *

Даўно не чапляла
завушніцы
на мне аніводнага
знаку
прывабнасці
ў люстэрка
ўглядаюся –
не адбіваюся
увайшла
ў свой цень
поўдзень
а думала – вечар.

* * *

“Гады падышлі”, –
кажаш, паслухмяна
складаючы
чорны
клунак;
а мне яны падыходзяць
цестам
ў дзяжы,
п’янею
ад паху
саспелай
кіслі,
кладу на апалы
ліст кляновы,
распальваю
печ
на золку
серніком астатнім,

зачыняю
засланку
за сонцам
увечары;
гады падыходзяць
вясковым
разводдзем:
той бераг,
дзе ты,
яшчэ далей
адплывае.

## *АТАРА*

Біліся казлы –
малады і стары,
малады перамагаў,
атара расступілася,
нерухома стаяла,
страхам скаваная;
стары казёл
на зямлю паваліўся,
галаў закінуўшы,
бы ад цяжару
сваіх рогаў прыгожых,
яшчэ і яшчэ падымаўся,
і зноў яго адкідваў
прыбой
маладой злосці;
мужчына стаяў,
глядзеў на бойку,
ягоная жанчына
кінулася разнімаць:
"Гэта прырода....
няхай дужаюцца..." –
запярэчыў.
Жанчына зразумела:
ён з гэтай жа
атары.

* * *

Спрэчкі
паміж намі
з дня ў дзень
як папярэчкі
ўздоўж

маёй вясковай
вуліцы
не здымуць
маю асаду
тваe ружы
з чужога
саду.

### *БЯССОННЕ*

Раніцай
запацелі
вокны
ноччу
дыхае
хата
глыбей.

* * *

Дымнае
асенняе
сонца
вершаліны лесу
паліць
жалуды
пражыць
на мяжы
гарбузом
ляжа
закоціцца
да вясны
пад услон.

* * *

Благі настрой,
не даўмецца
з якой прычыны,
пакуль не пераклала
тры камяні
ў садзе,
з якіх ладзіла
ракарый.
Перабрала іх,
як каралі
на сваёй шыі.

Каторы з іх
ураўнаважыў
мой свет?

## *НОЧВЫ НАЧОЎКІ*

З-за якога мора
выплылі з варыўні
ночвы, начоўкі,
пагойдваюцца ў маёй памяці,
поўныя вугроў жывых,
паскамі, папругамі, дзягамі –
бляск невідонай мужчынскай
збруі;
зімой валіла з іх
пара вантробная –
вепрука разбіралі,
па баках бабы стаялі
з вялікім нажом, бы з вяслом, у крыві,
як піраткі з поўначы,
косы туга перавязаўшы,
вузлом, аніякай гамонкі,
засяроджана вяслуюць
пад КАЛЯДЫ;
прывёўшы дамоў, як не за руку,
народжанае на жніве дзіця,
налівалі ў ночвы вады гарачай,
не даючы веры сваім рукам,
спрабуючы, як не вуснамі,
жменяй чарэпалі,
палівалі раўчуком,
з плёскатам, з гаворкай лясной
галубінымі галасамі;
моцны сон, каб жа не заспаць
дзіця
побач з сабою на ложку,
ночвы выносілі з варыўні “на ваду”,
ужо яны на вяроўках – канатах
карабельных, на жардзіне
пад бэлькай, гушкалка ад сцяны да
сцяны, ад берага да берага...
Бяру іх на рукі,
няньчу сваё дзяцінства...

* * *

Не тую ежу гатуеш,
не тую касу

купіла
пад ногі ёй
кінуў
і адвярнуўся
паклала на ноч лязо
паміж ім і сабой
вочы прымружыла
бабай скіфскай
табун дзікі
праляцеў блізка
твар гразёй
апырскаў
стрэлаў
бліскі
ледзь паспела
адхінуцца...
памяць...
памяць кахання
павінна
прачнуцца.

* * *

Зімовы горад
нязвыклае
крокаў рыпенне
мароз
нетутэйшы
ідзеш
бы па месяцы
срэбным
знаёмца ніводнага
як на зямлі.

* * *

Пад дажджом
лепей пад ліўнем
ісці
і ісці
і сама не ўбачыш
што даўно
плачаш.

*Іслач, Мінск,*
*2014*



Уладзімір Сцяпан



...настаўнік фізікі, якога нечакана кінула жонка, выйшаў з пункта "А" за паўгадзіны да поўначы...

# Задача

***Тры навелы***

**Далягляд**

У дзяцінстве ў мяне быў выдатны зрок. Такі, што я мог бачыць не толькі лапкі дробных казюрак, але мог разгледзець і кручочкі на тых лапках, крыжы і кружкі на бліскучых і цьмяных крылцах, празрыстыя вусікі – быццам дзівіўся праз павелічальнае шкло. Бачыў і тысячы кропачак-зорак у начным небе, малюсенькіх, мігатлівых. І не таму бачыў, што тады паветра было чыстым, а проста яшчэ не паспеў сапсаваць вочы чытаннем кніжак, маляваннем тонкім, як іголка, пёркам дробненькіх літарак, потым тэлевізарам, кампутарам ды іншымі шкоднымі радасцямі. Чаму я пра выдатны зрок, а таму, што прыгадаў вакно на гарышчы чатырохпавярховага, яшчэ да вайны пабудаванага дома. Гарышча пад бляшаным дахам агромністае: чорныя бэлькі, кроквы, слупы, цагляныя коміны, а пад нагамі бясколерны пыл, пілавінне, бруд розны, кавалкі

дошак, скрыні, бочкі, дошкі, запэцканыя фарбай і галубамі, якія вуркочуць, лапочуць крыламі і носяцца ў змроку, бы кажаны. У тым доме, амаль на ўскраіне нашага гэпэ (гарадскога пасёлка), я і жыў. Аднойчы зайшоў на гарышча. Агледзеўся, падцягнуў да вакна скрыню, узлез на яе, паглядзеў і збянтэжана войкнуў...

Вялізная панарама раскінулася, расцягнулася, як гумка. Зямля падалася бясконцай, а неба бязмежным. Аблокі плылі кветкамі півоній з белымі і крышку ружовымі пялёсткамі. Прыгледзеўся, і нават падалося, што бачу ў блакіце горад Гомель – там, злева, і можа разгледзеў бы яго, каб у вочы не пачало свяціць красавіцкае сонца. Школа і спартыўная пляцоўка ляжалі, як на далоні. Хацелася крыкнуць ад радасці, памахаць рукой, хацелася, каб мяне ўбачылі, але стрымаўся. Хлопцы гулялі ў футбол і здаваліся каратканогімі, маленькімі, хоць і былі старэйшымі за мяне, а вось знаёмы гумовы мячык падаўся вялікім і марудным. Падзівіўся на іржавы школьны дах, на шэрых, як алавяных, галубоў, на цагляныя гаражы побач са школай, на мужчынаў, якія вэжкаліся побач з чорным разабраным матацыклам. На рубероідзе, побач з дзвярыма гаража, паблісквалі розныя жалязякі і нагадвалі яшчэ не памытую мясарэзку. Мужчыны курылі і абмяркоўвалі часткі механізма, нагіналіся, сядалі на кукішкі, выдыхвалі блакітны дым. Потым зірнуў на вокны суседняга дома, рыхтык такога ж, як мой... Але гэта мала цікава і да справы адносінаў не мае.

Калі ж прыўзняўся на дыбачкі, то змог убачыць, далёка-далёка, на даляглядзе, нават за ім, нешта сіняе. Яно было цямнейшым за блакіт паветра. Яно было тонкім і яркім, як нітка для вышывання. Давялося мружыць вочы, узірацца, але чым больш стараўся, тым мацней расплывалася далячынь, а нітка то падвойвалася, то разрывалася, ці наогул прападала і яшчэ больш распальвала маю дзіцячую цікаўнасць.

Што гэта? На наступны дзень, адразу пасля школы, я падаўся на гарышча, але на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха нягучна гаманілі дзве суседкі пра сацінавыя халаты, таму давялося перачакаць, пакуль яны разыйдуцца па кватэрах. Хуценька ўзбег, а потым, калі пераступіў парог, то трапіў у гарачую і сухую цемру. Дайшоў да вакна. Узлез на скрыню і пачаў вэжкацца са шпінгалетам, бо нехта зачыніў маё вакно. Нарэшце здолеў даць рады старой раме на чатыры каламутныя шкліны. Падзьмула свежым паветрам. На гарышчы захісталіся, заматлялі рукавамі мужчынскія светлыя кашулі, заварушыліся прасціны... Я зноў, быццам бачыў упершыню, углядаўся ў далягляд, дзівіўся на далёкую сінюю нітку. Але сёння яна не была такой яркай, як учора. У твар дзьмуў вецер, даводзілася мружыцца, пацяклі слёзы, але і высахлі хутка.

Што ж гэта такое сіняе? Згадаў, што калі засынаў, то думаў пра далягляд. Потым, у сне, хацеў да яго наблізіцца, а ён заставаўся на месцы, заставаўся ўсё такім жа далёкім і прывабным, загадкавым. Выцер налітыя слязамі вочы і падумаў, што калі б цяпер мяне заспелі на гарышчы сябры, то пачалі б дражніцца, казаць: “Плакса-вакса гуталін...” Тады ж з’явілася думка, што тое сіняе – мора, але імгненна спахапіўся, адкуль яму тут быць. Я хоць і першакласнік, але не чуў, каб мора было побач. Да яго трэба тры дні ехаць на цягніку, ці ляцець на самалёце. Можа, гэта рака Сож? Але чаму яна такая роўная-роўная? Сіняе заставалася неразгаданым, незразумелым, прывабным і таемным... У мяне пад лыжачкай пачало смактаць ад трывожнай невядомасці.

І ўвечары, і ноччу, і раніцай я толькі і думаў пра загадкавую сінечу. Не вытрымаў і расказаў Сашку, які вучыўся ў трэцім класе і жыў на другім паверсе ў суседнім пад'ездзе. Мы пайшлі пасля школы на гарышча, залезлі на скрыню, адчынілі вакно, але лінуў шчыльны дождж. Ён вісеў махрамі, праз якія не толькі далягляд не ўбачыш, але і школьны дах як след не разгледзіш. Дачакаліся, дождж скончыўся, выбліснула сонца. На даляглядзе з'явілася напятая сіняя нітка, але мой сябар яе не бачыў, як ні ўзіраўся, як ні вырачаў свае лупакі, колькі ні прыціскаў да белых броваў далоні брыльком. Я паказваў у далячынь пальцам, праводзіў у паветры лінію, тлумачыў, адкуль пачынаецца тое сіняе, па-над чым знаходзіцца, расказваў, якое яно роўнае...

Але ён яе, маёй ніткі, не бачыў. Паціскаў плячыма, крывіўся, нават плюнуў у вакно з вышыні. Саскочыў са скрыні, падумаў і прапанаваў злавіць хаця б аднога голуба, кінуць з даху і паглядзець, як ён паляціць... Вядома, Сашка старэйшы на два гады, больш абазнаны ў жыцці, разумнейшы, вучыцца на пяцёркі і на баяне ўмее граць. Калі ён кажа, што няма сіняй ніткі на даляглядзе, то можа і сапраўды яе там няма. Але ж яна ёсць, бачу яе, хоць і расплывіста, але гэта толькі таму, што пасля дажджу паветра мокрае...

На наступны дзень, быццам каб праверыць, што Сашка памыляецца, з партфельчыкам у руцэ я прамінуў сваю лесвічную пляцоўку. Падышоў да дзвярэй на гарышча і ўбачыў цяжкі замок. Паторгаў яго халоднае цела з сашчэпленай дужкай. Замок трымаўся мёртва. Давялося занесці партфель у кватэру, сказаць маме, што забыўся ў школе падручнік. Пабег, каб хутчэй трапіць на гарышча праз суседні пад'езд. Там на дзвярах замка не было. Надвор'е стаяла такое празрыстае, што я адразу ўбачыў сваю сінюю нітку.

Гэта – лес, а перад ім светлы пясок...

Пра тое, што недзе ў тым баку ёсць сасоннік, я колькі разоў чуў ад дарослых. Але казалі яны пра яго неяк расплывіста, асцярожна, з прыхаваным страхам. Ніхто не расказваў ні пра грыбы-баравікі, якіх нарэзаў у ім, ні пра суніцы з чарніцамі. Калі размова заходзіла пра сасоннік, то яна раптоўна перапынялася, быццам нітка пераразалася. Так гавораць пра нешта забароненае, пра тое, што дзецям не варта і ведаць. Цяпер я той сасоннік бачыў. Сіні лес, а перад ім залацісты пясок. Вось таму і здавалася, што нітка напятая ў паветры, па-над зямлёй.

Першае, пра што падумаў, дык пра магілкі пад тымі соснамі, пра жалезныя крыжы і каменныя помнікі, пра мерцвякоў у шэрых прасцінах, пра косткі, чарапы і пра тое, што там жах і жуда. Але чым больш думаў пра нябожчыкаў, тым больш карцела іх пабачыць.

Праз тыдзень да Сашкі прыехаў з Поўначы родны дзядзька – капітан другога рангу, падводнік. Сашка хваліўся корцікам, падводнай стрэльбай з гарпуном, паказваў фуражку, цяльняшку, скуранку, гадзіннік, компас і нават чаравікі. Галоўнае – паказаў вялікі марскі бінокль. Каб выпрабаваць той бінокль, можна было выйсці на балкон, але я пераканаў, што лепш за ўсё залезці на гарышча. Сашка падумаў, бо баяўся выносіць бінокль з дому, але пагадзіўся.

Сашка даў мне бінокль, абачліва перакінуў праз галаву раменьчык, загадаў трымаць моцна і ні пры якіх абставінах з рук не выпускаць. На ўсе парады я згодна ківаў, а ён усё гаварыў і гаварыў.

Гарышча. Скрыня. Шпінгалет. Вакно.

Падношу цяжкі бінокль да вачэй, прыціскаю, і свет кідаецца на мяне, навальваецца так, што ледзь са скрыні не падаю... Па-троху прызвычаіўся да таго, што далёкае робіцца блізкім і неймаверна вялікім. Прызвычаіўся і да таго, што зямля і неба кідаліся ў бакі, ад самага дробнага руху.

Мяне найперш цікавіла далячынь. Убачыў сіні сасоннік, убачыў асобныя дрэвы. Ні крыжоў, ні помнікаў не разгледзеў, прывідаў не заўважыў. Яркая і сіняя нітка таемнага сасонніку – роўная, напятая над светлым пяском, ператварылася ў неахайную стужку размытага брудна сіняга колеру, такога, як на маіх спартыўных штанах. Пачалося вяртанне. Перад сасоннікам пясок з купкамі кустоў... Узаранае цёмна-шэрае поле, зялёны луг, дарогі. Вёскі, сады, палі, вадакачка, вуліца, школьны сад, школьны дах, спартыўная пляцоўка...

На гарышчы з'явілася суседка з тазікам бялізны. Убачыла нас, насварылася, прагнала. Нават сапраўдны марскі бінокль яе не ўразіў.

Праз два гады я даехаў да сіняга сасонніка на ровары. Мяне сустрэлі слупы і густа напяты калючы дрот, які не разгледзіш і праз марскі бінокль. Калі я падышоў бліжэй, калі хацеў дакрануцца да зялёнага слупка, то з'явіўся салдат з карабінам на плячы, і загадаў "хутчэй правальваць!". Але я паспеў заўважыць у сасонніку два пагоркі, на іх лакатары, падобныя на шкілеты крылаў, а крышку далей, схаваныя пад плямістую сетку, цягачы з ракетамі. У мяне тады яшчэ быў выдатны зрок.

*Ліпень 2014 года.*

## Задача

З пункта "А" ў пункт "Б", да якога сем кіламетраў, за паўгадзіны да поўначы выйшаў школьны настаўнік фізікі – Сяргей Антонавіч Касецкі... (У гэты час аўтобусы з райцэнтра да санаторыя не хадзілі, апошні з'ехаў роўна тры гадзіны таму).

Настаўнік фізікі бачыў той паўпусты кароценькі аўтобус з купкай сонных пасажыраў. Некаторых, як і вусатага кіроўцу, ён добра ведаў, бо дачка кіроўцы вучылася ў дзявятым класе. Яму падалося, што ў салоне мільганула жанчына ў бэзавым паліто, рыхтык такім, як і ў ягонай жонкі. Настаўнік стаяў перад вакном свайго кабінета, калі той кароткі аўтобус, з жоўтым святлом у салоне, праехаў па Школьнай вуліцы і павярнуў. Святло фар зрабіла бачным бетонны паркан, сінюю калонку на скрыжаванні, камлі таполяў, краму з высокім ганкам, вуліцу, засыпаную шэрым лісцем, якое за пару тыдняў ператварылася ў смецце... Настаўнік збіраўся ісці дамоў і ведаў, што жонка яго чакае, як і вячэра. Новы дом, на тры пад'езды, стаяў на суседняй вуліцы, там і была кватэра.

Сяргей Антонавіч паправіў стосік сшыткаў, падраўняў на стале падручнікі і дапаможнікі, прыбраў у шуфляду алоўкі. Завязаў цёплы шалік, жончын падарунак, надзеў паліто, праверыў, ці на месцы пальчаткі, зірнуў на сваё адлюстраванне ў чорным шкле вялізнага вакна, патушыў святло, зачыніў кабінет. З шапкай у руцэ пайшоў па шырокім калідоры да лесвіцы. У адным з класаў дзеці яшчэ стомлена спявалі і смяяліся, хліпаў акардэон.

Касецкі аддаў тэхнічцы ключ, развітаўся. На школьным ганку надзеў шапку. Вуліца сустрэла цемрай і сцюжай. Дзьмуў вецер, ляцелі светлыя хмары, папярова шамацела сухое лісце, чаплялася за шурпаты асфальт, мігцелі дзе-нідзе дробныя зоркі, а месяц хаваўся за трохпавярховай шко-

лай. Па вуліцы марудна пратарахцеў матацыкл, пакінуў вострын бензінавы дух, які хутка знік, падхоплены ветрам. У соннай цішыні пахла мёртвым лісцем, мерзлай зямлёй, бражкай, яблыкамі, сцюжай. Звыклы пах раённага гарадка, які за адзінаццаць гадоў працы тут зрабіўся амаль родным.

Настаўнік падняў каўнер, схаваў рукі ў кішэні паліто і адчуў, як моцна стаміўся. Балела спіна і шыя, але ён ведаў, што праз чвэрць гадзіны будзе ў цёплай кватэры, памыецца, павячэрае, паглядзіць тэлевізар, пагаворыць з жонкай і ляжа спаць. Электронны буднік, падарунак вучняў, ён даўно не заводзіў, бо патрэбы такой не меў, прачынаўся зімой і ўлетку роўна ў сем. Калі бадзёрым крокам падыходзіў да свайго дома, то звыкла зірнуў на вокны. У яго двухпакаёўцы, на чацвёртым паверсе, не было святла. Талерка спадарожнікавай антэны бялела на балконе і нагадвала поўню. На першым паверсе, на балконе, суседка развешвала бялізну. Яе абрыс за крыху запатнелым шклом рухаўся, аголеныя рукі ўздымаліся. Сын гэтай маладой жанчыны вучыўся ў восьмым класе і перамог на раённай алімпіядзе па фізіцы.

Суседка заўважыла Касецкага, адсунула раму і бадзёрым голасам павіталася. Ад яе аголеных рук і твару ішло цяпло, ператваралася ў пару. Настаўнік адказаў, намацаў у кішэні халодныя ключы і павярнуў у двор. Там, пад голымі маладымі ліпамі, стаяла колькі легкавікоў і машына з будкай, на якой працаваў муж той жанчыны, што развешвала бялізну. У пад'ездзе па-вясковаму пахла варанай бульбай і тытунёвым дымам. Касецкі падняўся на чацвёрты паверх, адчыніў дзверы, запаліў святло ў калідоры і сказаў гучна, не настаўніцкім голасам, а іншым – мяккім, інтымным: "А вось і я!" Адказу не пачуў. Распрануўся, скінуў чаравікі, зазірнуў у цёмную кухню. На падваконні цямнелі вазоны з кветкамі. Маленькім зялёным вочкам свяціла з кута высокая лядоўня. Касецкі памыў рукі і павесіў на плечыкі пінжак. Ён наважыўся патэлефанаваць жонцы, спытаць дзе яна, калі будзе, пачакаць яе, ці як?

З мабільнікам у руцэ ўвайшоў у залу. На стале, у вялікім пакоі, ляжала паперка – старонка са школьнага сшытка. Ён узяў яе і прабег вачыма. Твар Касецкага спачатку наліўся крывёй, а праз імгненне спалатнеў так, што зрабіліся бачнымі чатыры радзімкі на левай шчацэ. Ён пяць разоў перачытаў тэкст і адчуў, – галава закружылася, пакой нахіліўся, стол паплыў, падняўся ў паветра, амаль наблізіўся да твару, нават дробныя кветачкі на абрусе паспеў разглядзець. Але і кветачкі, і абрус хутка расплыліся, святло раптам згасла.

Потым Касецкі сядзеў на падлозе і глядзеў на свае рукі, на заручальны пярсцёнак. Паспрабаваў зняць яго з пальца, але, калі не атрымалася, тут жа на яго забыўся.

Перачытаў роўныя радкі з маленькімі інтэрваламі і пачаў тэлефанаваць жонцы. Ён не ведаў што скажа, але вельмі хацеў пачуць яе голас – насмешлівы і ўпэўнены. З мабільніка гучала мелодыя з фільма "Гісторыя кахання", якую ён і паставіў. Некалькі разоў, з падлогі так і не падняўся, праслухаў мелодыю.

...Жонка пяць тыдняў як вярнулася з адпачынку. Тыдзень таму, раптам, звольнілася з працы. Сказала, што больш там працаваць не можа, што надакучыла займацца пенсіянерамі, што стамілася выслухоўваць іхнія скаргі. Дзіўнай яна вярнулася з той Турцыі. Расказвала мала, пераважна пра старую турчанку – маці гаспадара гатэля, якая сядзела ў двары, пад

зялёным дрэвам і віталася з усімі, хто заходзіў і выходзіў, па некалькі разоў. Нешта ў жонцы змянілася, з’явілася адчужанасць і запаволенасць, на ўсе пытанні Касецкага яна адказвала жартамі. Дома адключала свой мабільнік, тлумачыла: каму трэба, той і на хатні патэлефануе. У Турцыю Касецкі не паляцеў, бо ў школе пачаліся заняткі.

Успомнілася, як аднойчы ён прахапіўся сярод ночы, жонкі ў спачывальні не было. Ён заспеў яе на кухні. Рыта стаяла і глядзела ў вакно на поўню. На вялікую і залатую. Поўня вісела над райцэнтрам, побач з комінам старой кацельні. На яго пытанне: “Што здарылася, зноў галава баліць?” Жонка адно хітнула, а потым дадала, што поўня, як апельсін. Касецкаму поўня нагадвала круглы плафон. Такі вісеў у кабінеце фізікі. Рыта наліла ў шклянку вады з чайніка і няспешна выпіла. Тады ён адно пашкадаваў яе, параіў не сядзець столькі ў гасцях у Жаны Мікалаеўны. Хацеў абняць, але яна ціхенька адхінулася і пайшла ў спачывальню. Такіх момантаў за апошні месяц было некалькі, але раніцай Рыта ўсміхалася, фарбавалася і спяшалася на працу. Па вечарах, калі заставалася дома, падоўгу і засяроджана маўчала.

Аднойчы, суботняй раніцай, ён пачуў, што жонка спявае, і ўзрадаваўся. Пасля школы, калі вячэраў, то спытаў пра што яна апошнім часам так засяроджана думае, быццам над нейкай цяжкай задачай. Яна не дала дагаварыць і адказала, што думае пра старую турчанку ў доўгай стракатай сукенцы, якая штодня сядзіць на белым пластыкавым крэсле, у цяньку, пад зялёным апельсінавым дрэвам і адчувае сябе шчаслівай... Адказала так, быццам даўно падрыхтавалася і толькі чакала пытання.

У спачывальні, на століку побач з люстэркам, не было жончыных упрыгожванняў, а ў ванным пакоі стаяла толькі адна зубная шчотка і ляжаў напалову выціснуты цюбік з пастай. І чамадана на колцах, з якім яна ездзіла ў Турцыю, у шафе не было. І дакументы свае яна забрала. У кватэры панавала цішыня.

Але галоўнае – ліст, напісаны з гумарам. Заўсёды самае сур’ёзнае, адказнае, неабходнае Рыта гаварыла быццам жартам. І тут было быццам жартам: “...Без мяне табе будзе толькі лепш: алімпіяды, перамогі, дыпломы і медалі. Ты, Касецкі, не вінаваты што я такая, а таму, калі можаш, даруй... Сяргей Антонавіч, я ўзяла ў цябе грошы, лічы пазычыла, але абяцаю хутка вярнуць”.

Нервова, бо пальцы не слухаліся, пазавязваліся матузкі на чаравіках, потым шалік. Запхаліся ў кішэнь пальчаткі, надзелася шапка, паліто зашпілілася на ўсе гузікі. Ад дзвярэй ён вярнуўся ў вялікі пакой, узяў у шафе бутэльку гарэлкі, апусціў яе ў глыбокую кішэнь і выйшаў з кватэры. Дзверы зачыніў на два замкі. Першы раз выпіў на лесвічнай пляцоўцы, закруціў бутэльку і хутка пайшоў, амаль пабег. На вуліцы глянуў на вокны кватэры, пакінуў святло ў спачывальні, але вяртацца не стаў. Суседка стаяла на балконе і курыла. Тая самая, што развешвала бялізну. Яна прасачыла за настаўнікам, пакуль ён не павярнуў на Школьную вуліцу. Потым уздыхнула і вярнулася ў цёплую і светлую кватэру...

Настаўнік фізікі, якога нечакана кінула жонка, выйшаў з пункта “А” за паўгадзіны да поўначы. У пункце “Б” жыла жончына сяброўка – Жана Мікалаеўна. З ёй Рыта лётала ў Турцыю. Магчыма, і зараз Рыта ў яе, а калі няма, то Жана зможа растлумачыць, што было ў той Турцыі.

...На фотаздымках, зробленых на курорце, быў горад, крамкі, кавярні, мора, хвалі, камяні, Жана, загорнутая ў квяцістую хустку, балкон, з якога бачны маяк і сіні-сіні кавалачак мора. Нейкія стракатыя адпачывальнікі,

сярод іх зноў Жана. Трапіўся і мужчына ў белай кашулі з кароткімі рукавамі, які стаяў спінай да камеры. Былі пад шэра-сінім небам рэшткі рымскай крэпасці, паўразбураны амфітэатр і шмат розных вялікіх кветак, у большасці – ружы. На пытанне, што гэта за валасаты тып з келіхам у руцэ, жонка ўсміхнулася, а потым дадала: “Здаецца, адзін з сыноў старой турчанкі, а можа і не”. На колькі імгненняў больш, чым на астатнія здымкі, глядзеў на валасатыя рукі і на спіну ў белай кашулі школьны настаўнік. “А дзе сама знакамітая турчанка, нешта не траплялася?” – расчаравана пацікавіўся Касецкі. “Мне было сорамна яе здымаць, баялася, што ёй гэта не спадабаецца. Кіне ў мяне кульбай”, – напаўжартам і з палёгкай, як цяпер згадваў Касецкі, тады патлумачыла жонка.

Той дужы чорнарукі і чорнагаловы турак не выходзіў з галавы. Вакол яго кружыліся брыдкія думкі... Касецкаму хацелася ведаць яго імя і прозвішча. Цяпер, тут, на халоднай дарозе, калі мястэчка засталося за спінаю, калі паперадзе ляжала поле, за якім пачынаўся лес. Касецкі рашпіліў паліто і нёс шапку ў руцэ.

Ён ішоў па шашы, бачыў сабаку, які перабег дарогу і шмыгнуў у кусты. Над цёмным лесам ляцелі хмары. Яны былі святлейшыя за неба. Настаўнік калі-нікалі спыняўся, націскаў кнопку свайго мабільніка. Твар на імгненне выхоплівала святло, і потым, праз імгненне, пачынала навязліва гучаць знакамітая мелодыя. Пад нагамі хрубасцеў тонкі лёд. Настаўнік спыняўся, рабіў глыток гарэлкі і шыбаваў далей. Пасля поля пачынаўся лес, які сціскаў шашу. Святлела неба і белая паласа пасярэдзіне дарогі. Яркая, свежая, як новая. Вочы Касецкага блішчэлі, але слёзы не цяклі. Ён, настаўнік фізікі, лічы маліўся. Шаптаў, прасіў дапамогі, прасіў вярнуць яму Рыту. Гаварыў гучна, быццам таму, хто ідзе паперадзе і можа пачуць.

Калі Касецкі прайшоў пяць кіламетраў, то з пункта “А” выехала легкавая машына. Кіраваў мужчына, а побач сядзела жанчына са светлымі валасамі ў кароткім бэзавым паліто. Мужчына і жанчына курылі і гаварылі пра свае ўзамаадносіны, пра пачуцці, якія згаслі, пра шасцігадовую дачку. Гаварылі спакойна і нават жартавалі. “Цяпер я магу ездзіць на рыбу, калі захачу”, – казаў мужчына. “І чысціць сваю рыбу будзеш сам, і гатаваць”, – адказвала жанчына.

Машына ўляцела ў лес, дарога падалася вузкай, як тунэль.

“Ты б рэмень накінула”, – папрасіў мужчына. “Нешта ты за мяне пачаў моцна хвалявацца, лепш падай запальнічку”, – нягучна і нервова прамовіла жанчына. “На!” – сказаў мужчына.

Бліскучая запальнічка ляжала на далоні.

Дарога рабіла круты паварот. Кіроўца позна заўважыў знак. Машыну панесла на шашы, крутанула, выкінула на ўзбочыну. Яшчэ б метр і яна завалілася ў кювет, наляцела б на дрэвы. Рухавік змоўк.

Жанчына ў цішыні пстрыкнула запальнічкай, але прыкурыць не атрымалася, бо цыгарэта выпала.

Касецкі ўбачыў машыну, якая стаяла ўпоперак дарогі. Гарэлі фары бліжняга святла, выхоплівалі камлі елак. Ён спыніўся. Працёр вочы. У цьмяна асветленым салоне сядзела яго жонка, а побач вусаты мужчына, нечым падобны да шафёра кароткага рэйсавага аўтобуса. Напалову выпітая бутэлька паляцела ў цемру.

Ён пабег да легкавіка. Мужчына насцярожана таптаўся вакол сваёй машыны і аглядаў яе.

З’яўленне расхрыстанага Касецкага, які выскачыў з цемры, напалохала сваёй нечаканасцю больш, чым толькі што перажытае здарэнне.

“Прабачце, калі ласка, прабачце, вы так падобныя да маёй жонкі, да маёй Рыты!” – зусім не настаўніцкім голасам прашаптаў Касецкі, калі зразумеў сваю памылку.

Школьны настаўнік пайшоў вельмі ціха. Яму было няёмка і крыўдна, бо ў светлавалосай жанчыне пазнаў былую вучаніцу. Свяціла над лесам поўня. Яна нагадвала апельсін, але настаўнік фізікі на яе не глядзеў.

Мужчына з жанчынай сядзелі ў машыне сцішаныя, і кожны думаў пра сваё. Рухавік вуркатаў. Мужчына думаў пра тое, што яны дамовіліся жончыным бацькам пакуль не гаварыць, што разыходзяцца, і пра тое, што цешча пасцеле ім як заўсёды, на канапе, у маленькім пакоі з кветкамі, што гэтай ноччу давядзецца спаць разам. Можа ў апошні раз. Жанчына са светлымі валасамі думала пра школьнага настаўніка фізікі, пра яго спалоханы, пакрыўджаны і расчараваны позірк. Думала пра сваю дачку, якая цяпер спіць...

“Паехалі... Жыццё працягваецца. А рэмень накінь, не жартуй”, – папрасіў мужчына, і машына не кранулася, пакуль жанчына не начапіла рэмень.

Легкавы аўтамабіль будзе ў пункце “А” праз дзесяць хвілін. Пешаход будзе ў пункце “Б” праз дваццаць.

*Лістапад 2014 год*

## Цімка І Ванька

Ванька не думае пра Цімку. Нават, калі чуе яго імя, бачыць жоўта-блакітны дом, цімкавых братоў, маці, чорнага калматага цуцыка па мянушцы Калмык, карычневую тэлескапічную вуду, якая даўно не складаецца, а стаіць побач з ганкам, то і тады не думае, бо ведае, што Цімку не вернеш, што ён пайшоў назаўсёды...

Ванька думае пра футбол, пра ўдар з левай нагі, які не атрымліваецца, пра тых, з кім гуляе ў адной камандзе, пра трэнера – настаўніка фізкультуры. Цяпер ён думае пра раку, пра капронавую нітку, пластыкавыя бутэлькі на два і паўтара літры, да рыльцаў якіх тая нітка прывязаная, пра жалезныя павадкі, кручкі-трайнікі і невялікіх карасікаў з чорнымі плаўнікамі і хвастамі, якія падаюцца бруднымі.

Ён прачнуўся і адразу пачаў думаць пра карасікаў, ці не здохлі яны там, ці не плаваюць цяпер пузам дагары побач са шчыльнымі лістамі гарлачыкаў. А вось пра пра свайго сябра Цімку не думае, бо шмат часу прайшло – зіма доўгая і снежная, вясна нудная з халоднымі дажджамі, і амаль тры вясёлыя летнія месяцы. Ванька добра падрос, ператварыўся ў цыбатага падлетка, старыя красоўкі не лезуць, зрабіліся цеснымі, але і бацькавы балотнікі – рыбацкія гумовыя боты пакуль яшчэ трохі вялікаватыя.

З трохлітровага слоіка Ванька налівае халоднае малако ў вялікі кубак. Адразае белы хлеб, але перадумвае і адразае лусту чорнага. На слоік свеціць яркае ранішняе сонца і малако падаецца залацістым, як масла, а там, дзе цень, малако, як першы лёд на рацэ – сіняватае. Ванька п’е халоднае малако з белым хлебам, глядзіць у вакно. Па двары ходзяць куры і певень, якога хутка, на Ванькаў дзень нараджэння, зарэжуць. У будцы спіць сабака. З вакна бачныя вербы і алешыны, за якімі рака. Далей, на высокім беразе тры хаты, за імі цёмны лес, а над ім кучаравяцца жнівеньскія аблокі.

Ванька ідзе да ракі і грызе яблык, а ў левай руцэ кавалак хлеба. Чырвоная маладая кабыла спяшаецца да хлопчыка, цягне за сабой па траве доўгі ланцуг, ад якога скачуць-пстрыкаюць конікі. Ванька гладзіць кабылу пад грывай, частуе хлебам, выцірае мокрую далонь аб калашыну, адганяе аваднёў, потым і свой недаедзены яблык аддае кабыле. Яблык яна бярэ, але без ахвоты, не так, як падсолены хлеб. Да ракі крокаў дваццаць. Але кабыла пайсці за хлопчыкам не можа, ланцуг нацягваецца, і кабыла б'е ў мяккую зямлю капытом, выгінае шыю, торгаецца. Ванька не азіраецца, бо ні кабыла, ні хуткі даўгадзюбы кулік, ні брудны бусел на пожні яго цяпер не цікавяць. Ён ператварыўся ў зрок і асцярожна падыходзіць да берага нешырокай ракі. Вада цячэ, і водарасці выгінаюцца цяжкімі гірляндамі, дробныя рыбкі мітусяцца над светлым пясочкам, а дакладней, над залатым, бо на яго свеціць ранішняе сонца. З-пад ног, з густой травы, плёхаецца ў раку жаба і торгае лапкамі, плыве над залатым пясочкам і прападае на глыбіні. Там вада здаецца цёмнай, непразрыстай і нерухомай, бо там струмень, там плынь, там глыбака. Рака не вельмі шырокая – палкай перакінеш, але той бераг за зялёнай сцяной трыснягоў.

Ванька стаіць і лыпае шэрымі вачамі, цярэбіць крысо кашулі. Бутэлькі на месцы няма. Ён падыходзіць да вады зусім блізка, але бутэлькі няма. Учора ён пакідаў яе тут, пад самым берагам. Нават паклаў паміж лістамі гарлачыкаў, а карасік адплыў трошкі і пачаў круціцца, але бутэльку сцягнуць ён не здатны, а плыні тут пад самым берагам няма, бо тут зацішак. Можа, бацька забраў, калі прыводзіў на пожню кабылу? Калі заганяў у мяккую вільготную зямлю доўгі жалезны прэнт, да якога прымацаваны ланцуг.

Мінулым летам, такім жа пагодным днём, на гэтым жа месцы Ванька вудзіў рыбу. Спрабаваў злавіць галаўня на кавалак белага хлеба. Ванька вудзіў, а Цімка ляжаў на траве і ціха стагнаў. Яму было кепска, але чым яму мог дапагчы адзінаццацігадовы Ванька? Цімкавы старэйшы і малодшы брат паехалі па гарэлку, а Цімка застаўся іх чакаць і пакутваць. Ванька шкадаваў Цімку, хоць і не любіў п'яных. "Пайшлі, не зловіш ты тут сёння вялікага галаўня. Не твой дзень, Ванька, дзе ж гэтыя падлы? Колькі можна ездзіць? Я куплю табе новую вуду, доўгую, такую, што пад той бераг будзеш закідваць. Вось яшчэ трохі пагуляем і паедзем. Месяцы тры папрацуем, заробім і зноў дамоў. Учора тэлефанаваў наш начальнік, усё пра работу трындзеў, пра добры аб'ект, а пра грошы ні слова..."

Ванька выцягвае вуду, размяклы хлеб падае ў ваду, і яго пачынаюць дзяўбсці дробныя рыбкі.

"А пад зіму прыеду і прывязу табе тэлескоп... Усе галаўні твае, Ванька, будуць. Шкада, што цябе зімой не пускаюць, але, калі я добра папрашу, то бацькі пусцяць. Пойдзеш са мной зімой на возера? – трасе галавой Цімка і адварочваецца ад ракі. А можа заўтра ў раён пад'едзем і купім табе новую вуду. Так і зробім. Ну калі ж яны вернуцца?" – кажа Цімка і цяжка ўстае.

Ванька ківае. Ён ведае, што калі Цімка паабяцае, то абавязкова зробіць. Абяцаў прывезці плэер – прывёз. Абяцаў новы мабільнік – купіў. Яны ж сябры, яны, калі Цімка цвярозы, то сядзяць на беразе ракі і плотак ловяць, ці з кладкі акунёў цягаюць... А калі дождж, ці няма надвор'я, то пра абы што гавораць, смяюцца, мульцікі па тэлевізары глядзяць і ліманад п'юць.

Наступным днём, пасля поўдня, Ванька сядзеў у машыне, у суседскім

легкавіку, на заднім сядзенні. Паперадзе невысокі Валодзька, а побач высокі і шырокаплечы паголены Цімка. Мужчыны курылі, праз адчыненыя вокны ў салон легкавіка ляцеў гарачы вецер і выдзімаў горкі дым. Цімка лаяўся, ляпаў па назе пашпартам, цяжка ўздыхаў і расказваў, як служыў прапаршчыкам пасля войска пад Мінскам. Калі Валодзька трэці раз нагадаў Цімку пра штраф, то той неахвотна перакінуў праз плячо рэмень. Ванька глядзеў на Цімкаву патыліцу, на яго вялікія вушы і слухаў як мужчыны ляніва размаўляюць пра легкавікі, разважаюць, якая з машынаў лепшая. "Памяняем "расію", закупімся і дамоў паляцім. Загудзім, праўда, Ванька?" – упэўнена казаў Цімка і круціў галавой.

Валодзька спыніў машыну побач з крамай аўтазапчастак, за пяць крокаў ад сіняй калонкі, выцягнуў ключы і сказаў, што хутка вернецца, бо купляць не будзе, а толькі паглядзіць, колькі тая жалязяка каштуе. Дзверы крамы за Валодзькам зачыніліся. Цімка ўзяў запальнічку, пару разоў пстрыкнуў і пачаў прыкурваць. Потым вырашыў глынуць вады з калонкі, але рэмень не вышчоўкваўся. Ванька хацеў вылезці з машыны следам. Але Цімка раптам знерухомеў, напружыўся, шыя пачырванела, і ён пачаў аб'язджаць, згінацца. Ён ссунуўся наколькі мог, далонямі прыкрыў твар, незапаленая цыгарэта выпала. Да сіняй калонкі ішла дзяўчынка ў рабой сукенцы і белых красоўках. Дзяўчынка ўважліва глядзела на машыну, на калонку. Пераскочыла калюжыну і спынілася побач з калонкай. У пластыкавае чырвонае вядзерца палілася вада. Вядзерца пару разоў хіснулася, вада пералілася праз край. Ванька дзівіўся на бліскучую ваду, якая зіхцела на дарозе, плыла пад колы машыны. Цімка скурчыўся, сцяўся, а калі ў машыну сеў Валодзька, то зашаптаў, каб той хутчэй ехаў адсюль, як мага хутчэй. Валодзька ўставіў ключы, здаў назад і паехаў. Легкавік праехаў побач з дзяўчынкай, якая акуратна несла поўнае вядзерца. Толькі калі машына павярнула на пляцоўку побач з банкам, то Цімка выпрастаўся і пачаў выціраць успатнелы твар.

Потым Цімка пайшоў мяняць грошы, а Валодзька сказаў ціха, быццам сам сабе: "Бляха, мог бы дачцэ цукерак купіць, а то адно толькі гарэлка і гарэлка ў галаве..." Ванька нічога не адказаў. Ён думаў пра тэлескапічную вуду даўжынёй пяць метраў. Яму хацелася, каб яна была лёгкай і зручнай.

Вуду ў той дзень не купілі, бо на дзвярах вісела паперка, што крама сёння працаваць не будзе па тэхнічных прычынах. Цімка набраў гарэлкі, піва, цыгарэт, але ўсю дарогу маўчаў і курыў, прыпальваў цыгарэту ад цыгарэты. І Валодзька маўчаў, быццам не было пра што гаварыць, і Ванька маўчаў.

Зімой, праз тыдзень пасля Новага года, гадзінаў у дзевяць вечара, Цімка засіліўся ў дрывотні. Ён быў цвярозы, збіраўся наступнай раніцай ісці на рыбу, нават Ваньку абяцаў узяць з сабой, калі моцнага марозу не будзе... Потым Ванька ездзіў у раённую бальніцу з бацькам, завозілі ў морг новую адзежу і абутак. Чорныя летнія чаравікі былі ў кардонцы. Ванька чакаў у ярка асветленым калідоры. Стаяў і чакаў, калі выйдзе бацька з-за жалезных дзвярэй. Бацька выйшаў з пустымі рукамі і засяроджаным тварам. Ён пагладзіў Ваньку па валасах і прасачыў, каб сын зашпіліў куртку і надзеў шапку. У машыне ехалі да вёскі моўчкі. За вокнамі – белы свет, машына імчала, але здавалася, што свет стаіць на месцы. Праехалі побач з возерам, на якое Цімка абяцаў узяць Ваньку. Пад далёкім берагам сядзелі нерухомыя рыбакі, як чатыры кропкі.

Ванька раптам убачыў бутэльку. Яна выторквалася з-пад травы, паблісквала пукатым донцам пад самым берагам. Узрадаваны сваёй знаходцы, хлопчык палкай пачаў падцягваць бутэльку бліжэй. Ён яшчэ не ўзяў яе ў руку, не дацягнуўся, але ўбачыў, што капронавая нітка разматалася і сыходзіць у глыбіню. Схапіў бутэльку і пачаў выбіраць мокрую нітку. Яна ішла лёгка, і рыбак адчуў расчараванне. Праз імгненне нітка слаба тарганулася. Ванькаў позірк збягаў у глыбіню, туды, дзе нітка рабілася нябачнай. Падумаў, што карасік заблытаўся, але нітка тарганулася так моцна і так рэзка, што ледзь не выслізнула з пальцаў. Ванька сутаргава пачаў яе выбіраць далей, спалоханы, але не разгублены. Ён цягнуў нітку, а потым, пад самым берагам, вада раптам завіравала так, што лісце гарлачыкаў павываварочвалася, паказала свой непрывабны спод. Ванька ўбачыў рыбіну і спалохаўся яе нечаканай велічыні. Праз чвэрць гадзіны ён здолеў выкінуць шчупака на бераг, на траву. Адцягнуў яго далей ад ракі. Ванька плакаў ад радасці і хацеў дастаць кручок, расціснуць шчупаку сківіцы. Не змог! Так і панёс сваю здабычу. Бутэлька цягнулася следам. Шчупак торгаўся, выгінаўся, біўся аб ногі, але Ванька цягнуў яго. Нават побач з кабылай не прыпыніўся.

Ад ракі было дзве сцежкі. Адна да дома, дзе жыў Ванька, а другая да таго, дзе жыў Цімка. Ногі самі панеслі хлопчыка з вялікім шчупаком да жоўта-блакітнай хаты. Да той, дзе побач з ганкам стаяла тэлескапічная вуда, даўно без катушкі і кручка. Ванька спачатку ішоў, а потым пабег. Ён хацеў быў крыкнуць: “Цімка, Цімка, глядзі!” Але не крыкнуў, не паспеў, бо з агарода выйшла Цімкава маці. Яна несла ў кашы зялёную траву, каб карміць трусоў, а ў левай руцэ касу.

Ванька спыніўся. Рыбіна не торгалася, вісела, як нежывая.

“Ванечка, ты сам злавіў... А божа ж мой, дзетачка!” – сказала Цімкава маці і павярнула ў двор, за хату, туды, дзе побач з дрывотняй былі клеткі з трусамі.

Ванька падаўся да свайго дома. Ён не будзе думаць пра Цімку, не будзе, не будзе.

*Травень-кастрычнік 2014*



Валеры Дубоўскі



...Не ведаючы жыцця,

жыву.

Каб спазнаць...

# Родавыя аскепкі неба

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Вечалле.
Тут пачынацца душы,
Крыяць і не хіліцца.
Тут стажок свой першы вяршыў,
Піў, асмяглы,
З першай крыніцы.

І скрозь пальцы
Пускаў недарэчнае.
Чалавека вітаў і звяра.
На зямлю
З-пад зор пазіраў.

Вечалле.
Вечнае.

*23. 08. 2011 г.*

* * *

Сабе,
гарадскому зверу,
той звер,
што яшчэ лясны,
я здзіўлена,
з'едліва
веру –

у прадчуванні
чалавечай вясны.

*08. 08.2014 г.*

* * *

Спрабаваў гаварыць,
і не хапала слоў.
Маляваў, і не хапала
фарбаў.
Клаў чырвоную – занадта.
Змякчаў яе энергію
белым.

Адным белым
пазначаў на палатне свет,
але нічога белым
не выяўлялася.

Белы, які складаецца
з усіх колераў,
усе іх увабраўшы,
рабіўся
нябачнай чысцінёй,
празрыстасцю бессэнсоўнага.

Браў сіні.
Нечы празорны голас
пытаў,
чаму я пагрэбаваў
колерам сланечніка,
без якога няма жыцця.

Кранаў клавішы,
расчыняў моц нотаў,
і яны былі падабенствам
слоў і колераў.
Ноты прамаўлялі, але
не мелі сэнсу.

Музыка была душой,
небам, птушкай,
дажджом, сумненнем,
дыханнем, але
заставалася эмоцыяй.
Настроем імгнення,
даўжынёю ў адно гучанне.

Слова – запісаны сэнс,
занітаваная рэальнасць,
эмоцыя,
якая здабыла абалонку.

Стаў запісваць словы.
Дадаў рытму, мелодыкі,
колеру, адценняў.
Святла.
Птушынага лёту.
Успаміну. Мары. Злосці.
Адчаю. Надзеі.
Вар'яцтва спасціжэння.
Магнетызму.
Роздуму старога.
Усмешкі дзіцяці.
І ўсё яшчэ дадаю.
Мужчынскага і жаноцкага.

Іншым разам, спадзяюся,
З гэтага мусіць нараджацца
паэзія.

*14. 11. 11.*

* * *

Не ўмеючы ісці – пайшоў
і навучыўся ісці.

Не ўмеючы маліцца,
іду з малітваю.

Не ведаючы, што такое
каханне,
пакахаў.

Не ведаючы жыцця,
жыву.

Каб спазнаць.

*15. 11. 11.*

* * *

Першы радок вылеплю
з волклае гліны.

Радок нечаканы другі –
з летняга воску.
Пчолы яго вытварылі сотамі,
пакуль не спалохаў іх гром
над ліпнёвай залевай.

Трэці  будзе з аскомы,
бясілля і горычы
ўчорашняга расчаравання.

Чацвёрты
мушу не ляпіць.
Пастаўлю на яго месца чацвер.

Пяты радок будзе
з лёгкасці тваёй і воблака,
упадабёнага
расцярушанай атаве.
Касіў яе бацька, варушыла маці,
а я, малы, дапамагаў
вачыма.
Была такая лёгкасць.

Шосты, няпэўны радок
паўстане ізноў
з гліны.
Яна прымае форму
рукі і душы.

Гліна – глыбіня нашага
"пасля".

*29. 10. 11.*

## *ЧЭРАВА ВЕЧАРА*

пераплятаеш уплётамі
выдых мой
у хадзе неадыхлай
нібы ў небыццё
у нязбытную вабную
набыць

праду майго
праўдзівая парадзіха

з табой белакрыла
бяседна
з месяца ў месяц
нябёсіць

землячуйна
ў чэрава вечара
чэрвенем вечным
падаць

*12. 08. 14.*

## ***РАЗДАРОЖЖА***

Дыхаю.
Іду ў здзіўленні дзіўны.
Быццам бы –
За простае прасцей.
З ценю гэтага
Знікаю ў новы цень.
Дзівацкія наіўныя навіны.

Залеваю сатканаму радну,
Сінечы пятніцы,
Уікэнду пакланюся.
Ў птушыную ізноў
Збягу радню –
Да крумкача,
Да вераб'я,
Да гусі.

Запамятаваць ці
Запамятаць мацней
Гламур ліловы
Гарадоў – вар'ятаў.
І смех,
І пыху
Марных і заўзятых,
Згубіўшыся
На Свіцязі, на Цне,

На Кромані, на Прыпяці,
На Сожы,
Пад кронамі
Празрыстых светлаценяў,
Дзе хронасна, урачыста
Летуценю
Ў сваім зямным
Адзіным раздарожжы...

*21. 08. 2014.*

### *УБАЧЫЦЬ*

Над яблыневым садам
Не аблокі –
Яблыкі нябелага наліву.
Кіслейшы яблык я
Распалавіню:
Сабе і небу
За абедзве шчокі.

Пярун!
Да часу памаўчы,
Не грукні!
Яблыневым садам дай
Далюбавацца.
Убачыць,
Як на гэтай жа палянцы
Смачнейшы яблык
Дастаюць унукі.

*22. 08. 2014.*

### *НЕ СВЯТЛО*

уціскваюся ў расколіну
між вялізных
цяжкіх
гор

там недзе далёка
за гарамі
за расколінай
прасвет

адны называюць
жыццём
горы
іншыя расколіну
а па мне
дык гэта
прасвет

хоць ведаю
што за ім
не святло

*25. 08. 2014.*

## *ЗАСЦЯРОГСЯ*

Снегавейная, смешная
Памяць
Ці то з нашай зімы,
Ці не з нашай.
Ты умела ўсмешкай
Параніць,
Дасканаласць насмешкі
Не ўзяўшы.

Снег агромністы, аграмадны.
Я вучыўся яго адольваць.
Не прымаўшы
Пакутлівай долі,
На усмешку глядзеў
З пагардай.

Ты сустрэла
Замерзлага госця.
Покуль свечка гарэла
Між намі,
Мы адтайвалі,
Мы ажывалі...

Госцем быць у зімы
Засцярогся.

*03. 09. 2014.*

* * *

Неба,
даруй за радасць вялікую.
Радасць зямную
дапамажы прайсці.

Сюды для нечага
мяне паклікалі

Каб
не загасціўся,
а ўсмак пагасціў.

*25. 09. 2014.*

* * *

Мне воля,
як і несвабода,
цяжыць.

Праз дзікі лес –
праз подумкі свае
нясу прыдбаную ў свеце
нажыць.

Так нечага балюча
не стае...

*28. 09. 2014.*

* * *

Гняздо чорнага дразда
пад страхой
майго лецішча.

Цела ўчорашняга ветра
заснула ў ім.

Цела заўтрашняга дня –
маладыя птахі –
пабралася з новым
ветрам-шмыгам.

Шкарлупінкі пад гняздом –
родавыя аскепкі
неба.

*06. 08. 2011.*

* * *

Падзьмула пылам.
Скуль воблачка –
з Рыму, з Вільні,
з Хацькова?
Сусветная змова
вятроў.

І тло, і пыл
бываюць натхненнем.
Покуль сам яшчэ –
вецер
і апранаеш душу
у чысты аркуш
быцця.

*07. 08. 2011.*

## *УТРОП ТАЛМУДА*

Сачы за думкамі,
Яны стануць тваімі словамі.

Сачы за словамі,
Яны стануць тваімі справамі.

Сачы за справамі,
Яны стануць звычкай.

Сачы за звычкай,
Яна стане табой.

Сачы за сабой,
Гэта стане лёсам.

Сачы за лёсам,
Гэта стане паэзіяй.

*08. 01. 2014 г.*

* * *

Усяісны двайнік
усяіснага – цень.
Ляжыць. Ходзіць. Лётае.

У адной думкі
няма ценю.
Цень думкі –
Сама думка

Знікаюць
камень, чалавек, птушка –
цень памірае разам з імі.

Цень думкі
вечны.

*07. 08. 2011.*

* * *

Услон.
Сон
па захадзе сонца.

Мяне незаснулага сніць –
Спіць
мой парасон.

*10. 08. 2011.*

* * *

Імгненне ў рамцы.
Міфаграма пачуцця.
І крок
Ад неспазнанасці пачуццяў.

*05. 10. 2014.*

## ПАВОДЛЕ АПАЛІНЭРА

Слухаеш?
Пялёскаецца Слова
Вялікай неспайманай рыбай
Адчування.

*05. 10. 2014.*

* * *

З улікам велічы
нябёсаў і цябе
жыццё, увогуле,
прыдатна
для жыцця.

*10. 10. 2014.*

* * *

Ледзь-ледзь
Губляе медзь
Рукасты дуб – лістоўе.
Зазімаваць паспець
Каб мажна і прыстойна.
На волі каб настоены
Адзін матыў прапець.
У голас,
Не ледзь-ледзь.

*23. 10. 2014.*

* * *

Без
Успаміну
Бэз.

*24. 08. 2014.*

* * *

Тая ж рука,
якая вітае вас у храме
(можа й недабрахоць, але па рытуале),
Адштурхоўвае другую руку
у натоўпе.

І тое ж сэрца
прадае
праз легкамыснае падзенне
духу
па схіле чалавечай існасці,
схаванай з іншага,
цёмнага боку Месяца.

Я ведаю вас, людзі!
Але я не ведаю:
гэта цемра ці святло –
такое веданне.

і застаўся б чалавекам я
без гэтага ведання
ва ўсёй ягонай
страшнасці?

*18. 11. 2014.*

***ПРАДЗІМ'Е***

Перад зімой –
Душэўнае прадзім'е.
І снег на галаву —
Не снег, сяцільня.
Цінь – цінь:
Сінічка ноту сі выціньвае.
І ранак падаецца нам
Язмінным.

Згукнуцца з ёй –
Як з небам згаварыцца,
Прабыць маўчанне
Мудрае зямное.
Мне з птушкай весела.
Ёй радасна са мною.
Якая праўда!
І няпраўда быццам...

*10. 12. 2014.*



Вінцэсь Мудроў



...першы раз бачу
савецкага настаўніка,
які не п'е...

# Песні ранняй вясны

***Апавяданне***

*Под окном у нас растёт красная смородина,*
*Жизнью радостной цветёт молодая Родина!*

"Лірычныя прыпеўкі". Выканаўца К. Шульжэнка.
Запіс 1951 года.

Вось жа так бывае: у сярэдзіне сакавіка, калі зямля крыху прагрэецца, калі на вярбе пачынаюць прабівацца катахі, а на праталінах ужо шпацыруюць гракі, выглядаючы якой спажывы, раптам – звычайна сярод ночы – налятае страшная непагадзь з завірухай, сіпатым ветравеем і снежнымі заносамі. І там, дзе надоечы хадзілі гракі, такім часам паўзуць шэрыя дуйкі-вужакі, і гнуцца пад ветрам зледзянелыя галіны вярбы...

Вілен Налівайка ляжаў на тапчане, з галавой накрыўшыся ліхенькай коўдрай, і спрабаваў заснуць. Дзеля гэтага ён раз за разам лічыў да ста, заціскаў, каб пазбыцца дакучных думак, далонямі вушы, урэшце выторкваўся з-пад коўдры,

глынаў свежага паветра і ўражана слухаў – як лютуе за вакном сакавіцкая замятуха. Выў – то зласліва, то жаласна – вятрыска; дзынкалі кепска закітаваныя шыбы; знадворку роспачна біліся-лапаталі сцягі і штосьці зморана рыпела на гарышчы, усё адно як нейкі стары сядзеў там ды здушана кракаў. І кожнага разу ён уяўляў гэтага старога: кудлатага, зеленатварага, з уедліва-пукатымі зекрамі, і зноўку спалохана хаваўся пад коўдру. Але там, пад коўдрай, яго апаноўвалі яшчэ больш страхаморлівыя відзежы і думкі.

“А як не прыйдуць? Чорт іх ведае, тых палякаў... А то прыйдуць, ды не ўсе... А тут яшчэ дарогі замяло – паспрабуй, дабярыся з дальніх хутароў”, – і ад такіх думак, а можа ад недахопу паветра, Вілену ў нейкі момант стала зусім не па сабе і ён падхапіўся на ногі.

Ціхенька, на дыбачках, падышоў да стала. Трафейны “Mauthe” з фасфарычнымі стрэлкамі паказваў палову трэцяй. Вілен пацёр шчымлівыя павекі, чарговым разам прыслухаўся. Дзядок на гарышчы ўжо не кракаў, снежныя хлапякі не білі ў шыбу – вецер, відаць, змяніў напрамак, – але затое штосьці бухнула знадворку, ды так хвацка, што са столі сыпанула парахня. Неўзабаве буханне паўтарылася, і Вілен, нядобрым словам згадаўшы нейкага Жвірблю, нацягнуў на ногі порткі.

Наглядную агітацыю прыбіваў Юзік Жвірбля – тутэйшы актывіст. Ды, відаць, скраў пару цвікоў, бо транспарант з надпісам “Усе на выбары!” з аднаго боку адарвала ветрам і цяпер ён матляўся і біўся ў сцяну.

“Добра яшчэ, што ноччу адарвала, ніхто не бачыў”, – падумаў Вілен, памацаў рукой другі транспарант, з надпісам “Заданні партыі – выканаем!”, але той, на шчасце, быў прыбіты як мае быць.

Вярнуўшыся ў сваю бакоўку, Вілен скінуў долу суконны палітон, выцягнуў абцугамі каваны цвік, на якім той вісеў. Узяўся раўняць цвік абцугамі – малатка пад рукой не было, – пабіў палец, голасна мацюкнуўся і згадаў, што надоечы паклаў малаток ля выбарчых скрыняў. Давялося адчыняць школьныя дзверы, прабірацца навобмацак у клас. У класе ён чыркнуў запалкай, запаліў газніцу. Зыбкая яснасць ад кволага святла прабегла па сценах, засяродзілася на вялікім плакаце. На ім мажная цётка ў кажусе, наваліўшыся грудзямі на тын, паказвала рукою на вясковую школу. Надпіс пад плакатам заклікаў аддаць галасы за кандыдатаў блоку камуністаў і беспартыйных.

Вілен уздыхнуў, агеньчык газніцы страпянуўся, па сценах папаўзлі выгінастыя цені і сэрца ягонае ёкнула: чырвоная скрыня, што стаяла ў дальнім куце класа, падалася яму труною.

Летась Вілен Пятровіч Налівайка скончыў Рагачоўскі настаўніцкі інстытут і быў як выдатнік вучобы накіраваны на працу ў Гарадзенскую вобласць. Тут яго адразу ж прынялі ў партыю ды прызначылі дырэктарам Раздзярышкаўскай школы-сямігодкі. Вёска Раздзярышкі – глухая, аточаная пракаветным лесам ды балотамі, – месцілася за тры кіламетры ад літоўскай мяжы. Школу тут арганізавалі адразу па вайне і Вілен быў яе чацвёртым па ліку дырэктарам. Першы знік на першым жа годзе дырэктарства, калі сюды завіталі “лясныя браты” – удзельнікі польскага падзем’я. “Браты” яго так напужалі, што небарака збег, нават не прыхапіўшы майна. Другі быў больш увішным: пабраўся з кабетай-фінінспектарам і пераехаў жыць у райцэнтр. Ну а трэці дапіўся да белай гарачкі і кінуўся з рагачом на загадчыка РАНА, калі той прыехаў з праверкай: прыняў за нячысціка.

Вілен і дагэтуль ведаў, што тут, на Гарадзеншчыне, жыццё для настаўніка ніякае, і мог застацца ў родным Рагачове, аднак паклікала далёкая дарога ды яшчэ магчымасць займець уласную хату. Бо шмат хто з выпускнікоў інстытута, што падаліся на захад і працавалі вясковымі настаўнікамі, атрымалі ўласнае жытло: засяляліся ў хаты вяскоўцаў, якія з'язджалі ў Польшчу. Але апошнім часам за Буг нікога не выпускалі, у Сібір, пасля смерці бацькі-Сталіна, не дэпартавалі, і Вілену давялося пасяліцца пры школе – у цёмным катуху, дзе дагэтуль захоўваліся паламаныя, яшчэ польскага ўзору, парты, наглядныя дапаможнікі, мётлы, дзіравыя вёдры ды іншы хломазд. Праўда, у раённым аддзеле адукацыі паведамілі, што рыхтуюцца новыя спісы на выезд людзей за мяжу і не сёння, дык заўтра ён, Вілен Налівайка, атрымае чыёсьці прыстойнае жытло.

Апрача дырэктарства, Вілену даводзілася выкладаць у школе алгебру з геаметрыяй, а таксама батаніку з фізкультурай. Да таго ж, ён вёў атэістычную прапаганду сярод насельніцтва – за паўгода прачытаў восем лекцый, – і кіраваў школьным драмгуртком. А надоечы на ягоныя плечы абрынуўся новы цяжар: Вілена Пятровіча Налівайку прызначылі старшынём выбарчай дзяльніцы па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета, і бедалака зусім пазбыўся сну. Некалькі разоў, на спадарожных машынах, ездзіў у раён на нарады, якія ладзіў старшыня акруговай камісіі Макаловіч, наведаў як агітатар ледзь не кожную хату ў Раздзярышках і суседніх Каўбасішках, уласнаручна намаляваў тры плакаты і – з вялікай цяжкасцю! – сфармаваў выбарчую камісію.

Тут, на Гарадзеншчыне, Вілен пачуваў сябе ніякавата. Першы тыдзень, як толькі прыехаў, нават не ўсё разумеў, што кажуць тутэйшыя людзі, а таму завёў слоўнік, куды ўпісваў дзеля памяці гарадзенскую лексіку: ровар – веласіпед; лонскі – леташні; катанка – палітон; загарак – гадзіннік... Ну а настаўніцу расейскай мовы й літаратуры Вілен Пятровіч напачатку зусім не разумеў. Спытае: “Ванда Данатаўна, каму вы аддалі сшыткі?” Адказвае: “Галіне Вацлаваўнай”. “Каму-каму, Вацлаваўне?” – “Ну я ж і кажу: Вацлаваўнай”. Дарэчы, Ванда Данатаўна – сакратар выбарчай камісіі. Адзіная, каго не трэба было туды цягнуць жывасілам – сама напрасілася.

Сеўшы за стол, Вілен чарговым разам, падслепавата мружачы вочы, перагледзеў спісы выбарцаў, з пакутлівым уздыхам закінуў рукі за патыліцу.

“Усё ж у плане культурных мерапрыемстваў у нас відавочная недапрацоўка”, – падумаў начны бяссоннік і тут жа сцепануўся, згадваючы: дзе ён чуў такія словы? Галава была тлумнай, таму і не адразу згадаў, што пачуў іх на нарадзе ў раёне, з вуснаў Макаловіча. Не, тое-сёе ён усё ж такі зрабіў: развесіў наглядную агітацыю; у калідоры, на партах, паклаў леташнія падшыўкі “Гродненской правды” і “Советской Белоруссии”; цётка Эліза, школьная прыбіральшчыца, абяцала прынесці патэфон з кружэлкамі, а Юзік Жвірбля, вядомы ў наваколлі гарманіст, атрымаў ад Вілена партыйнае заданне: развучыць колькі савецкіх патрыятычных песень. А то ж полькі Юзік грае так, што віхура ўздымаецца, а папрасі сыграць “Широка страна моя родная” – гучна ссоўвае васільковыя мяхі і панурвае вочы. Мінулай серадой Вілен ішоў паўз Юзікаў двор і чуў, як у адрыне пілікаў гармонік – музыка падбіраў нейкую мелодыю. Але што гэта была за песня, ён так і не зразумеў.

Першай, як заўсёды, прыйшла цётка Эліза. Цётка хоць і была сталага

веку, але яе таксама ўключылі ў выбарчую камісію – ад працоўнага калектыву школы. Як і дамаўляліся, прыбіральшчыца прынесла патэфон і цэлы стос кружэлак. Вілен узяў адну з іх, паднёс да газніцы. На пацёхканай налепцы польскімі літарамі было напісана: “To ostatnia niedziela. Tango”. Дрогкімі рукамі перабраў астатнія “плыты” – усе скрозь даваенныя, фірмы “Карона-Рэкорд”.

“Добра, што дагледзеў, – старшыня камісіі зморана перавёў дых, – гэта ж трэба... выбарцаў на дзяльніцы вітае даваеннае польскае танга... за такія рэчы могуць і з партыі паперці”.

– А савецкія песні ёсць? – гукнуў Вілен Элізе, якая падхапіла ўжо анучку і збіралася штосьці выціраць.

– Ест една, – адгукнулася прыбіральшчыца, – цурка з Шчуціну прывезла. – Мястэчка Шчучын мясцовыя людзі ўпарта менавалі Шчуцінам.

– І што за песня, патрыятычнага характару?

Эліза лыпнула вачыма.

– Якась кабета сьпева.

– Нясіце. А гэтую пілсудчыну, – Вілен узважыў на руках стос кружэлак, – забярыце. І, па магчымасці, нікому не паказвайце.

У класе гарэла толькі адна газніца, Вілен дастаў запалкі, каб запаліць яшчэ дзве, і застыў у здранцвенні.

“Усё ж такі меў рацыю ўпаўнаважаны. Трэба пільнавацца, прыглядацца да кожнай драбязы”, – бязгучна прашаптаў Вілен, згадаўшы, як падчас раённай педканферэнцыі да яго падышоў нізенькі дзядзька ў кіцелі, пацiснуў руку і з робленай весялосцю паведаміў, што дырэктар школы ў вёсцы – гэта вочы і вушы савецкай улады. “Раён у нас складаны, а апошнім часам, пасля смерці таварыша Сталіна, прыкметна актывізаваліся антысавецкія элементы. Так што будзьце пільнымі і інфармуйце – хто ў Раздзярышках і наваколлі выступае супраць ліквідацыі хутароў, хто агітуе за выезд у Польшчу, нарэшце, хто з вяскоўцаў адмоўна ставіцца да дзяржаўных пазыкаў. Пажадана, каб вы інфармавалі нас штомесяц, і ў пісьмовым выглядзе”, – дзядзька ў кіцелі, які назваўся ўпаўнаважаным, яшчэ раз пацiснуў руку і паведаміў, што неўзабаве завітае ў Раздзярышкі і тады яны пагамоняць больш змястоўна.

Пальцы апаліў агонь, і ён папляваў на прыпечаны пазногаць.

– Божухна, як адчапіцца ад гэтага ўпаўнаважанага? – цяпер ужо ўголас, з плаксівай ноткай, прамовіў Вілен і страпянуўся: гэта грукнулі, гулкім рэхам адбіўшыся ў калідоры, ўваходныя дзверы.

Пані Эліза выплыла з цемры, трымаючы ў руках кружэлку ў чырвонай капэрце.

– “Лирические припевки”, исп. Клавдия Шульженко”, – прачытаў, нахіліўшыся да лямпы, Вілен, рушыў да патэфона, устурбавана крутнуў корбу.

...Хорошо идут дела
У колхозного села.
Я молоденька девчонка,
От того-о и весела-а!

Песня была ніштаватай, аднак голас пяюхі перакрывала аднастайнае шыпенне і мернае храбусценне – усё адно, як карова жавала трасянку. Вілен выцягнуў з патэфона іголку, навастрыў аб пячную цагліну.

Апошнім з сяброў камісіі заявіўся Юзік Жвірбля, з гармонікам пад

пахай. Пазалетась Юзік скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і працаваў у калгасе заатэхнікам. Нядаўна заатэхніка прынялі ў партыю і, вядома, ён быў не шараговым сябрам камісіі, а намеснікам старшыні.

– О, усе сабраліся... А я думаў – першым прыйду.

Вілен заклапочана крутнуў галавой, хацеў згадаць пра адарваны ветрам транспарант, але перадумаў, моўчкі кіўнуў на гармонік.

Юзік ускінуў на плечы рамяні, прайшоўся пальцамі па гузіках, гучна керхануў.

– Над Москвою знамё-ёна славы,
Торжествует победу народ.
Здравствуй, город Вели-икой Державы,
Где любимый наш Сталин живё-от...

У класе, здаецца, задрыжэлі шыбы, і натхнёны Вілен далучыў свой голас да мужнай песні.

– Будем вечно тобою гордиться,
Будет жить твоя слава в веках,
Дорогая моя столица,
Золотая моя Масква...

Вілен махнуў рукой сябрам камісіі, каб і тыя падхапілі, але кабеты сядзелі моўчкі, утрапёна пазіраючы на Юзіка, а цётка Эліза дык наогул пераважгнулася і выслізнула ў калідор.

“Ну і людзі, – падумаў Вілен, ціснучы на знак падзякі халаднаватую Юзікаву далонь, – у нас на Рагачоўшчыне паляндвіцы ў вочы не бачылі, людзі там-сям яшчэ ў зямлянках жывуць, а на выбары ідуць як на свята, а гэтыя...” – старшыня камісіі зірнуў на гадзіннік і пацёр звільгатнелыя ад хвалявання далоні: стрэлкі выпрасталіся ў вертыкаль. Да шостай гадзіны заставалася пяць хвілінаў.

– Таварышы сябры камісіі! Віншую вас з пачаткам нашай працы, – голас Віленавы зрываўся і клекатаў у перасохлым горле. Адна з трох запаленых газніцаў пачала куродымець, і гэта змазала ўрачыстасць моманту. Давялося прыкруціць кнот.

– Пачынаем апячатванне выбарчых скрыняў па выбарах у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасцяў.

Старшыня камісіі падхапіў адну са скрыняў, кульнуў у паветры, дэманструючы, што яна пустая, хацеў быў, з пампезнай павольнасцю, забіць цвікі ў рассохлую фанеру, ды малаток, які мусіў ляжаць пад рукой, некуды знік. І толькі пачухаўшы патыліцу, згадаў, што пакінуў яго на школьным ганку.

Праз пяць хвілін, дарэшты ўпрэлы, старшыня камісіі выкуліўся з класа. Няўклюдна, нягнуткімі пальцамі скруціў цыгарку. Неўзабаве ў калідор выйшаў і ягоны намеснік.

– Малайчына, з заданнем справіўся, – Вілен дастаў запалкі, – гэта я пра песню кажу. Думаў, ты апроч кадрыляў ні на што сур’ёзнае не здатны. А чаму ў адрыне рэпеціраваў?

– Жонка з хаты выгнала. Даняў яе сваёй музыкай, – Юзік таксама зрабіў самакрутку, прыпаліў ад дырэктаравай цыгаркі. – Рукі Віленавы дробна калаціліся.

– Ды не хвалюйся ты, Пятровіч... Усё будзе добра, – Юзік з шумам выпусціў дым.

– Як тут не хвалявацца... Чуў, якую задачу паставіў Макаловіч? Забяспечыць стоадсоткавую яўку! А ты бачыш, што чыніцца – усе дарогі перамяло. А як коні ў снезе захраснуць?

– Нашы коні не захраснуць, – каб надта не дыміць у калідоры, старшыня з наменнікам выйшлі на ганак. – Вунь, дарэчы, Мазур едзе, – Юзік кіўнуў у прыцемак вясковай вуліцы. – Гэты конь самога нячысціка на выбары прывязе. Так што Мазура і выправім да Шукелойціхі. Старых, інвалідаў і Часнойця таксама на санях падвязем, а астатнія на сваіх нагах пабягуць, прычым, подскакам. Бо ведаюць: не прагаласуй, дык можаш не ў Польшчу паехаць, а зусім у іншы бок.

Жвірбля вёрз антысаветчыну, але словы такія Вілена не толькі не насцярожылі, але нават узрадавалі.

– Галоўнае, Шукелойціху прывезці з яе глухім сынам: жывуць на краі свету, – цыгарка Юзікава загасла, і Юзік, шукаючы запалак, ляпнуў па кішэнях. – Але, думаю, праблемы тут не будзе. А вось з кім будзе праблема, дык гэта з Часнойцем. Таго, баюся, з месца не ссунеш. На мінулых выбарах зусім не галасаваў.

– Гэта той франтавік, што на хутары Рычкяны жыве?

– Ён самы... Як з фронту вярнуўся, так адразу паперу ў раён падаў... на выезд у Польшчу. А яго й дагэтуль не выпускаюць. Шверніку лісты пісаў, а цяпер, кажуць, Варашылаву піша.

– Смелы дзядзька, – Вілен з прагным задавальненнем глынуў махорачнага дыму.

– А што яму баяцца. На вайне двойчы паранены, ордэн Славы мае. А цяпер во бацька-Сталін памёр, дык зусім асмялеў.

Мазур, мажны дзядзька з сівой барадой, спыніў каня ля самага ганку, і Жвірбля пабег у школу па гармонік – каб песняй сустрэць першага выбарца.

За дзве гадзіны прагаласавала ўсяго некалькі чалавек. На дварэ ўжо днела, і газніцы патушылі – каб не марнаваць газы. Вілен сядзеў, абхапіўшы рукамі галаў, паныла глядзеў на прастакутнік вакна і прыгадваў родную Рагачоўшчыну. Там ужо, відаць, добрая палова прагаласавала. І людзі ехалі на выбары, як на свята: з песнямі, са сцягамі; на конях, упрыгожаных жычкамі...

Але вось канчаткова развіднела, размытыя плямы твараў усё часцей выплывалі з калідорнага прыцемку, а неўзабаве, як і казаў Юзік, народ пабег на выбары подскакам. Раз-пораз да Ванды Данатаўны, што запісвала нумары калгасных кніжак і выдавала бюлетэні, нават выстройвалася калейка.

Але свята не было. Вяскоўцы заходзілі на дзяльніцу хапатліва, з трывожнымі вачыма, моўчкі бралі бюлетэні, укідвалі, нават не прачытаўшы прозвішча кандыдата, у скрыні і гэтак жа паспешліва ішлі да выхаду. І хаця Вілен спрабаваў жартаваць з выбарнікамі, а сакратарка камісіі Ванда Данатаўна абдорвала іх слінявымі ўсмешкамі, людзі заставаліся непрыступна-суворымі. Мужчыны, праўда, дахаты адразу не разыходзіліся – збіваліся ў кучкі, як гэта бывае на хаўтурах, і палілі, з падазронасцю ў вачах пазіраючы на школьны ганак. З культурнай праграмай таксама ўзніклі праблемы: Юзік, пабачыўшы аднавяскоўцаў – спрэс незадаволеных, а мужчын, да таго ж і няголеных, – не рашыўся браць у рукі гармонік, і толькі на калідоры дзве гарэзы-дзеўчынёхі раз за разам заводзілі Шульжэнку.

На адзінаццаць гадзін не прагаласавалі ўсяго чатыры чалавекі: аднаногая Шукелойціха са сваім глухім сынам, інвалід з дзяцінства Ядвіга Канапацкая з суседняй вёскі Каўбасішкі і ветэран вайны Часнойць з хутара Рычкяны. За ўсімі імі ад раніцы паслалі падводы, але тыя дагэтуль не вярнуліся. І толькі апоўдні за вакном заржаў конь, і Юзік, прыпаўшы шчакою да шыбы, з урачыстасцю ў голасе абвясціў:

– Шукелойціху прывезлі! Пайду дапамагу...

На калідоры чарговым разам заспявала Шульжэнка.

– Мінай нагу адарвала, – патлумачыла Ванда Данатаўна, вышукваючы ў спісе патрэбнае прозвішча.

На двары тым часам заенчылі, уваходныя дзверы расчыніліся, і да шульжэнкавай песні далучыўся немы жаночы лямант. Прычым быў ён надта шырокага дыяпазону – ад нуднага выцця на нізах да істэрычнага віскату.

– *Что умею я плясать...*

– А сьвеньці паньсцы!

– *Это дело личное...*

– А лю-удцы мае добрыя!..

– *Не скажу, что я красива...*

– А куды ж вы мяне цягніце-э?!

– *Просто си-импатичная-а!*

Мяркуючы па голасе, ён мусіў належаць кабеце далікатна-танклявай, але ў клас занеслі васьміпудовую цётухну. Неслі Шукелойціху, зморана дыхаючы, утрох: Юзік трымаў кабету пад пахі, яшчэ двое – сівабароды Мазур ды даўгалыгі хлопец у аблавуху – трымалі за нагу і куксу. Небараку паклалі на падлогу, і тая, падобна, зусім абамлела: ляжала, раскінуўшы рукі, і ледзь чутна стагнала.

– Нашатырнага спірту трэба! – падхапілася Ванда Данатаўна, але тут жа села і стала паказваць на мігах даўгалыгаму хлопцу, каб той зарэгістраваўся і браў бюлетэні.

Шукелойціха, на шчасце, хутка ачуняла, уражана залыпала вачыма, і яе ізноў панеслі да возу. Цяпер ужо неслі ўчатырох – Вілен таксама далучыўся да справы.

– Под окном у нас растёт красная-я смородина-а, – зацягнула Шульжэнка, калі яны выцягвалі выбарніцу ў калідор, і Юзік, стукнуўшыся плечуком аб вушак, крыкнуў дзяўчынёхам, што круціліся ля патэфона: – Ды выключыце вы гэтую бравэру!

Шукелойціху ўскінулі на развалкі, але не да Мазура, а на іншы воз, – і Жвірбля выцер далонню ўзмакрэлы лоб.

– Яшчэ адна такая выбарніца, і мяне адсюль таксама панясуць.

– Трэба было растлумачыць чалавеку, што яе не ў Сібір вязуць, а на выбарчую дзяльніцу, – з дакорам у голасе прамармытаў Вілен, зірнуў на гадзіннік і прысвіснуў. Якраз гэтым часам ён мусіў тэлефанаваць Макаловічу.

Адзіны на ўсю вёску тэлефон месціўся ў сельсавеце. Вілен шыбаваў аснежанай вуліцай, і галава ягоная гула ад бязладных думак.

"Дарма Шукелойціху тармасілі... усё ж такі інвалід... прыехаў бы сын, прагаласаваў за дваіх... Макаловіч, відаць, будзе задаволены: усяго двое не прагаласавалі... цікава, а як на іншых дзяльніцах?" – і з перакананнем, што ў суседзяў сітуацыя значна горшая, Вілен узбег на высокі ганак.

Маладая сельсаветаўская сакратарка, якой у сувязі з выбарамі давяло-

ся выйсці на працу, сустрэла яго з кіслай гіморай на разамлелым твары: спала, відаць, седзячы за сталом.

– Адразу не злучаць, лінія перагружаная, – прыспана папярэдзіла дзяўчына, выклікаючы раённы камутатар, але тут жа перадала слухаўку Вілену.

– Налівайка?.. Як там у цябе? – голас Макаловіча быў дарэшты асіплы, і Вілен яго адразу не пазнаў.

– Усё нармальна... двое толькі не прагаласавалі...

– Якое там нармальна! Суседзі твае, Сабакінцы з Грумойцямі, ужо гадзіну таму канцы падбілі. Дарэчы, Часнойць прагаласаваў?

Вілен у адказ кашлянуў у жменю.

– Ты там не керхай, а выяўляй ініцыятыву... На кані яго вязі, цягні на ўласным карку, а стоадсоткавую яўку мусіш забяспечыць. І вось яшчэ што. Машына, відаць, да вас не праб'ецца. Так што будзь на астрынскай паваротцы – з бюлетэнямі і пратаколамі. Усё!

Дагэтуль дзяўчына глядзела на Вілена з іранічнай ўсмешкай, але калі той паклаў слухаўку, зірнула са спачуваннем. Зразумела, што ў раёне чымсьці незадаволеныя.

– Наступны званок а шостай вечара, – прамармытаў старшыня выбарчай камісіі, выйшаў на ганак і на поўныя грудзі ўдыхнуў салодкага, працятага пахам вільготнага снегу, паветра. Мяцеліца, што віравала ўсю ноч, аціхла, і цяпер з неба дробным шротам сыпаліся ледзяныя крупы.

Юзік сустрэў яго ля школы: стаяў ды скручваў немаведама ўжо якую па ліку цыгарку.

– Яшчэ адну хваравеку прывезлі, Ядвігу Канапацкую. Дарма, што інвалід, а на гарышча ўзлезла. Ледзь адтуль сцягнулі. А вось з Часнойцем, – Юзік сплюнуў махорачныя крыхоткі, – нявыкрутка. Адмовіўся ехаць, нават з хаты не выйшаў.

– Ну, і што будзем рабіць? – пазіраючы на Юзіка, Вілен таксама дастаў капшук. – У Сабакінцаў з Грумойцямі ўжо даўно сто адсоткаў...

Юзік азірнуўся, прыцішыў голас.

– Быў бы хто іншы, укінулі б тыя паперкі – і дуды ў торбу. А гэты запрыдух можа і ў Маскву напісаць: маўляў, не галасаваў, а бюлетэнь падлічылі. Так што хапаем скрыні, сядаем да Мазура, я якраз яго затрымаў, і гілазуем у Рычкяны.

Ладная жменя тытуню сыпанула на ганак.

– Ты што?! Выносіць скрыні забаронена! Артыкул 77-мы: “Кожны выбарнік галасуе асабіста, у памяшканні для галасавання”.

– Ой, Пятровіч, – Юзік балесна перакрывіўся, – схавай ты свае выбарчыя кантычкі куды далей... Ёсць армейскі статут, а ёсць рэальнае жыццё. У мяне жонка з Сабакінцаў. Там у наваколлі адных хутароў штук трыццаць. Так што хлопцы з тамтэйшай камісіі кінуліся, відаць, у сані ды паехалі па коле.

Вілен пацёр удумлівы лоб.

– А як Макаловіч з праверкай завітае, ці яшчэ хто з раёна? Прыйдуць – а на дзяльніцы ні старшыні, ні ягонага намесніка, ні выбарчых скрыняў. І што тады?

– Пятровіч... ну хто да нас цяпер праб'ецца? Тут нават “студэр” застрагне... Ты лепш падумай – што скажуць у райкаме. На ўсіх дзяльніцах яўка 100 адсоткаў, а ў Раздзярышках – 99 з капейкамі.

Нечакана з прамывіны шэрых хмар – на кароткі міг – зірнула мутнае вока сонца, і Вілен з рашучасцю і адчаем адкінуў канчар самакруткі.

– Добра... толькі Мазура дахаты выпраўляй. Удвух паедзем.

Зладзеявата азіраючыся, Вілен вынес скрыні са школы, забег у бакоўку, падхапіў з падлогі суконны палітон. Потым, стайма, сербануў з чыгунка халоднай заціркі, запіў малаком, пазіраючы праз акенца на двор, і суцішна вылаяўся. Думалі выехаць цішком, без сведкаў, а тут, як на грэх, да школы пад'ехалі на *і*ртах два ягоныя вучні – Чэсь і Франак. Укруціўшы скрыні ў палітон, Вілен выйшаў з бакоўкі.

– Заўтра, хлопцы, раней у школу прыйдзіце. Дапаможаце парты ў клас занесці, – Вілен паклаў каштоўны груз на сані, прыцярушыў саломай.

– Прыйдзем! – адказаў Франак – нізенькі смаркаты хлапчук, адламаў ад капяжа даўжэзны лядзяк, піхнуў у рот.

– Кінь брызгуль смактаць, глотка забаліць! – крыкнуў яму Юзік Жвірбля, які стаяў ля каня й падцягваў дугу. – І так смаркаты, а яшчэ брызгулі смокчаш! Во скажу бацьку – ён цябе адпалянтуе!

Франак кінуў лядзяш, але яго падхапіў з-пад ног Чэсь – даўгалыгі, апрануты ў падзёртую ватоўку падшыванец, – і дэманстратыўна лізнуў.

Юзік дакорліва паківаў галавой.

– Няма, Чэсю, каму з цябе гілос выбіць. Чыстай расколінай расцеш. Хаця б ватоўку зашпіліў – прастудзісся!

Чэсь стаяў расхлістаны, паказваючы свету навюткую цяльняшку. Яна яму была завялікай і агаляла пасінелую ад холаду грудзіну.

– Н-но, жэбы на цебе ліха! – гракнуў Юзік і ляснуў пугай хударлявага дарашаватага каня.

Конь тузануў развалкі, зморана пырхнуў, пайшоў лёгкім трухам. Падшыванцы паспрабавалі ехаць следам, але як ты ўгонішся за канём на самаробных іртах, якія, да таго ж, кепска слізгалі.

– Апошні раз, відаць, на іртах выехалі. Заўтра, маці казала, адліга будзе, – буркнуў Юзік, не паварочваючы галавы.

– А што, Чэсевага бацьку на вайне забілі, ці як? – запытаўся Вілен, пазіраючы на няўклюдныя хлапечыя постаці.

– Ды дзе там... у Карэла-Фінскую завербаваўся, на лесапавал. Абяцаў неўзабаве вярнуцца, ды, няйначай, да нейкай бабы прыбіўся.

– А цяльняшку дзе ўзяў?

– Брат прыязджаў на пабыўку. На Паўночным флоце служыць.

Праязджаючы міма сваёй хаты, вознік спыніў каня, скочыў з саней.

Можна было падумаць, што Юзік пабег у хату з'есці якое каліва, але той адразу ж і выйшаў, піхаючы штосьці за пазуху кажуха. Крутнуўшы над галавой лейцы, намеснік старшыні камісіі хвастануў каня, з вар'яцкай весялосцю загарлаў:

– Н-но, халера ясная!

Адразу за Раздзярышкамі ляжала роўнае, без адзінага кусціка поле. Яно было аднолькавага колеру з нізкім небам, і калі б не цёмны пас лесу на даляглядзе, які іх падзяляў, немагчыма было б адрозніць зямлі ад неба.

Вілен сядзеў спінай да каня і неадрыўна глядзеў на санны след. Яшчэ колькі хвілінаў таму паездка ў Рычкяны здавалася яму вясёлай вандроўкай, і вось цяпер, пабачыўшы бязмежна-самотны прасцяг і змрочнае неба над галавой, захваляваўся. Напярэдадні выбараў ён абышоў усе вёскі і некаторыя хутары, але вось Рычкяны не наведаў. Не хапіла часу. А чорт

яго ведае – хто там жыве. А як выйдуць са стрэльбамі ды адбяруць бюлетэні? А можа там, на хутары, наогул засада? Сядзяць якія акоўцы ды паглядаюць з гарышча на дарогу.

Засоплена дыхаў конь, ціхенька рыпалі пастронкі, і гэтыя мерныя зыкі крыху ўлагодзілі душу.

Ехаць давялося па снежным цаліку. “Чаму няма слядоў? Нехта ж ездзіў да Часнойцяў? А можа ехалі другой дарогай?” – падумаў Вілен, хацеў быў пра тое спытаць, але, закалыханы дарогай, прамаўчаў і салодка, да болю ў вушах, пазяхнуў.

– Усю дарогу перамяло, Войт ледзь цягне, – азваўся возьнік. – Самы моцны конь у калгасе... Пару гадоў таму цягаў вазы, не раўнуючы як трактар СТЗ. Вядома, гаспадар яго аўсом карміў. А ў калгасе што... кінуць якой трасянкі, а то й зусім нічога не дадуць... І дагэтуль, відаць, гаспадара чакае, а той з Сібіры аніводнага ліста так і не прыслаў.

Лёгкі спалох, што панаваў у Віленавай душы, змяніў непраглядна-смуродны куродым: два месяцы прамінула, а ён так і не сабраўся напісаць інфармацыю для ўпаўнаважанага. А што ён мог напісаць? Што камуніст Жвірбля наракаў на цяжкую конскую долю ў савецкім калгасе?

Лес, у які яны неўзабаве заехалі, выглядаў маўклівым і насцярожаным. Асабліва ўражвалі тоўстыя, як дваім абхапіць, хваёвыя камліны.

– Вячысты бор, – паведаміў Юзік, перахапіўшы ўражаны Віленавы позірк. – Мы яго Скачылясаўскай пушчай называем. Ляснік тут жыў да вайны, Скачыляс. Хадзіў, як велькі пан – у ахвіцэрскіх ботах, са стрэльбай за плячыма... У саракавым годзе, узімку, выслалі некуды, разам з жонкай. А сына іхняга, Тамаша, тады не знайшлі – хаваўся недзе. У вайну Тамаш гэты да акоўцаў прыбіўся, а па вайне, у 46-м, яго пад Салечнікамі забілі. Казалі, тры гадзіны ў пуні сядзеў, адстрэльваўся.

Пасля такога аповеду лес падаўся вусцішна-таямнічым. Цяпер, у памкненні хутчэй прамінуць гэтую мясціну, Вілен неадрыўна глядзеў наперад, і лясная прасека, па якой яны ехалі, здавалася яму выратавальным тунэлем, які павінен вывесці на светлы прасцяг.

– Тут уся дарога трыбай ідзе, а ўжо ля самых Рычкянаў на гал выедзем, – Юзік прыўзняўся, пляснуў лейцамі Войта. Конь увесь час наравіўся і задзіраў голаў.

– У вас што, прасеку трыбай называюць?

Юзік моўчкі кіўнуў.

– Яшчэ за першымі немцамі прасеклі. Збіраліся, нібыта, вузкакалейку будаваць, ды штосьці не атрымалася.

Дзесьці непадалёку са жвавай упартасцю застукаў дзяцел, і Вілен, па прыкладзе Войта, задзёр галаву.

– У нашай гаворцы шмат розных словаў намешана... – азваўся ў працяг перарванай размовы Юзік, – і польскіх, і расейскіх, і літоўскіх. Ведаеш, што азначае па-літоўску маё прозвішча? Жвірбля – значыць верабей! Мой дзед яшчэ крыху ведаў жамойцкую мову. Прыйдзе, памятаю, з карчмы на Каляды ды спявае: “Аш мажас вайкяліс, кайп пупу пядзяліс...”

– Гэта што, песня такая? – запытаўся Вілен.

– Калядка літоўская... – Юзік ізноў падагнаў каня, з сарамлівай усмешкай зірнуў на суразмоўніка. – Я вось даўно хацеў спытаць: а што гэта за імя такое... Вілен?

Суразмоўнік злёгку паморшчыўся.

– У гонар Уладзіміра Ільіча Леніна назвалі.

– Эх-х! – запальчыва выдыхнуў Юзік. – А мяне дык назвалі ў гонар Пілсудскага. Яму якраз шэсцьдзесят гадоў спраўлялі, як я нарадзіўся.

Пачуўшы прозвішча Пілсудскага, Вілен на момант зніякавеў і міжволі адсунуўся ад Юзіка. І потым, аж да самых Рычкянаў, яны не прамовілі ні слова.

Хата Часнойцева стаяла пасярод голага поля і патанала ў снезе.

– Сто гадоў таму пабудаваная, – загаварыў нарэшце Юзік, калі яны пад'ехалі да весніц. – Мы яе кітайскай фанзой называем – бачыш, як страха прасела.

Госці злезлі з саняў, гучна патупалі па ганку. Пастаялі крыху, прыслухаліся, нясмела прачынілі рассохлыя дзверы. У прысенку было цёмна, Юзік наскочыў на пустое вядро, вылаяўся, адшукаў вобмацкам дзвярную клямку, і яны ўвайшлі ў святліцу.

Гаспадар стаяў ля стала і трушчыў кухонным секачом даўгія, іржавага колеру бадылі.

– Самасад?

Часнойць не азірнуўся, не падаў голаса.

– Вось яна, савецкая ўлада... Садзі хоць табаку, хоць махорку – ніхто слова не скажа. А пры паляках, браце ты мой, за гэтую справу вой як ганялі. Манаполія паньствова! Бацька мой пасадзіў быў махоркі ўпотай, дык солтыс воміг угледзеў. Прыйшоў, выдзер, і паліцыянтам настрашыў, – Юзік дастаў з кішэні абрывак газеціны, прыхапіў са стала каліва тытуню, – дай хоць зёлак тваіх пакаштаваць.

Казелячы вокам на жалезнае крэсіва, што ляжала на стале, Юзік прыпаліў цыгарку, кінуў поруч пушку запалак.

– Ты што, хочаш мяне кубаркай сярнічак купіць? – падаў нарэшце голас Часнойць.

– Ну што ты, дзядзька... мы да цябе з усёй душой. Ехалі во міма з Віленам Пятровічам... дарэчы, пазнаёмцеся – наш новы дырэктар школы, – думаем, давай зазірнем...

– Е-ехалі... мі-іма... А гэта што? – гаспадар кіўнуў на чырвоныя скрыні, якія госці паставілі ля дзвярэй.

– Як што? Урны для галасавання! Мы што, павінны былі іх на двары пакінуць? Там жа важныя дзяржаўныя дакументы! Эх, дзядзька, няма часу языкамі лемзаць, – з гэтымі словамі Юзік піхнуў руку пад сэрца, выцягнуў з кажуха бутэльку самагонкі.

Гаспадар, як падалося, з лёгкім спалохам зірнуў на бутэльку, ні слова не сказаўшы, выйшаў у прысенак. Госці насцярожліва пераглянуліся, і Вілен перасмыкнуў галавой, маўляў, чорт яго ведае, куды пайшоў чалавек. Але гаспадар неўзабаве вярнуўся, цягнучы перад сабой невялічкі цабэрак.

– Во... насаліў грыбоў цэлую пасачку, а есці няма каму.

– А што за грыбы? – Юзік, агледзеўшыся, зняў з паліцы тры мутныя шклянкі.

– Грышке... іх тут такрок было – хоць касу закладай.

– Рыжыкі, – патлумачыў Юзік, шпокнуў кіяховым коркам, нюхнуў бутэлечнае рыльца

– Бімбер? – у голасе гаспадара чулася прытоенае захапленне.

– Ён, ён, родны... Нагрэўся, праўда. Дарэчы, за палякамі можна было за такую справу і ў Лукішкі патрапіць. А цяпер, пры Саветах... ну, вядома, з аглядкай, утуліўшы галаву ў плечы, але ж гонім... гонім!

На стале з'явіўся ладны, густа пасыпаны соллю скрыль сала, пара цыбулін ды міса кіслай капусты.

Бяседнікі ўзялі па-першай. Бімбер быў моцны. У Вілена з галадухі злёгку закружылася галава, і калі Юзік стаў наліваць удругарадзь, прыкрыў шклянку далонню.

– Першы раз бачу савецкага настаўніка, які не п'е, – са з'едлівай усмешкай выдыхнуў гаспадар.

Госцю такія словы відавочна не спадабаліся. Ён перастаў жаваць, панурыў голаў, і гаспадар, каб улагодзіць сітуацыю, з панылаю ноткай у голасе прамармытаў:

– Ну, чаго вы сваё прычындалле ў памяльнік паставілі? Стаўце ўжо на стол, прагаласую.

Намеснік старшыні выбарчай камісіі кінуўся да дзвярэй, падхапіў скрыні.

– А чаму дзве?

– Адна па выбарах у Савет Саюзу, другая ў Савет Нацыянальнасцяў, – буркнуў старшыня выбарчай камісіі і ўжо не прыкрываў шклянку, калі праз хвілю Юзік узяўся за пляшку.

Пасля трэцяй чаркі Юзік прыпаліў загаслую цыгарку, пусціў пад столь дымны струмень, і Вілену таксама закарцела пакаштаваць Часнойцевага самасаду... Ядучы дым перахапіў дыханне, выбіў гарачую слязіну, госць закерхаў, закашляўся, выцер кулакамі вочы і, нібыта са здзіўленнем, зірнуў на гаспадара.

– Самасад у мяне што тая 152-міліметровая гаўбіца, б'е напавал, – з задавальненнем мовіў гаспадар.

– А вы што, былі артылерыстам?

Адказам быў глыбокі, з парывістым сіпам, уздых

– І дзе давялося ваяваць?

– На Трэцім беларускім, Другая гвардзейская армія.

– А за што атрымалі ордэн?

– За штурм Гольдапу. Там жа мяне і параніла. Цэлы дзень праляжаў на снезе. На сутанку сабакі на санках выцягнулі. Санкі такія былі... нізенькія. Калі ёсцека сілы, узвалішся на іх, сабакі і цягнуць.

Юзік разліў рэшткі бімбера па шклянках.

– Добра тут у цябе, дзядзька Часнойць, ды час прыцiскае. Так што давайце, як у нас кажуць, возьмем аглаблёву...

– Як жа гэта вы... пралівалі кроў за Радзіму, а цяпер у Польшчу сабраліся, – Вілен зірнуў на гаспадара нецвяроза-дакорлівым вокам.

– А што мне тут, на радзіме, рабіць? Жонка памерла, хата збуцвела... прыходзілі тут з сельсавету, хацелі яе ў Раздзярышкі перацягваць, ды ўбачылі, што рассыплецца па дарозе, і адчапіліся. Сабаку й таго ваўкі з'елі. Адзін во Базыль застаўся, – Часнойць кіўнуў на печ, на якой сядзеў, неадрыўна пазіраючы на сала, вялізны шэры кот. А ў Польшчы ў мяне старэйшы брат жыве ў Катавіцах... ці як іх цяпер... у Сталінагрудзе. Ліста надоечы прыслаў. Пытаецца – калі прыеду?

Часнойць крэкнуў, падняў шклянку:

– Дый я ж не ў Амерыку сабраўся, а ў народную Польшчу. Тамака ж цяпер не Рыдз-Сміглы з Масціцкім кіруюць, а Берут з маршалкам Ракасоўскім.

Пасля “аглаблёвай” Вілен зусім ахмялеў і нават хіснуўся, як падымаўся на ногі.

– Ох, і начвэндзілі мы тут, дзядзька, – Юзік дзьмухнуў у столь, разганяючы шызы дым.

Пабраўшы пад пахі выбарчыя скрыні, госці няцвёрдай хадой падаліся на двор.

– Руіна па наваколлі бегае, – прамовіў ім у спіну гаспадар, але Юзік у адказ махнуў рукой і п’янаватым голасам заспяваў песню, што ад самага ранку гучала ў школе:

День работы позади, месяц на землю глядит.
Вот в такую ночку дома-а попытайся – усиди-и!

Юзік кінуў скрыні на развалкі, грукнуў па адной з іх кулаком.

– Ну вось, справа зроблена. А ты хваляваўся.

Вусны Віленавыя кранула ўсмешка, а душа ягоная таксама прасіла песні.

“Усё ж такі Юзік добры хлопец, дарма, што названы ў гонар Пілсудскага. Вясёлы, увішны, з людзьмі добра кантактуе, усіх тут ведае. А без яго – паспрабуй, знайдзі таго ж Часнойця!” – Вілен задаволена паваліўся на воз, скруціў цыгарку.

– А што за руіна тут бегае? – пацікавіўся цёзка правадыра, глынуўшы ядучага самасаднага дыму.

– Зграя ваўчыная. Ваўкі цяпер лютыя – самы канец гону, – з гэтым словамі Юзік хвастануў каня. – Цяпер яны пацішэлі... А што па вайне рабілася! Аднойчы шэры злодзей нават у наш свіненчык плішчыўся. Дык мой бацька – тады яшчэ жывы быў – схапіў аглоблю ды пайшоў напярэймы, – Юзік на хвіліну сціх, прыпаліў цыгарку з пазычанага ў Часнойця самасаду. – Ды што там распавядаць... ты вунь на Войта глянь. Бачыш, на крыжы мецiна? Ад ваўчыных зубоў. Мазур тады з раёна ехаў. З двух бакоў напалі. Конь яшчэ малады быў, цягавіты, здолеў адарвацца. А Мазур пасля таго збялеў як лунь – і барада стала белай, і галава...

Вілен ляжаў на развалках, чэравам долу, невідушчымі вачыма глядзеў на снег, які рухавым шэрым палатном бег пад самым носам.

“Вось і ўсё... і навошта, сапраўды, было так хвалявацца?” – Юзікава гамонка нагнала салодкую дрымоту, і Вілен адчайдушна пазяхнуў. Ён паспрабаваў быў ачуцца, страсянуў галавой, штосьці нават спытаў у Юзіка, але тут жа абрынуў у хмельна-мімалётны сон. Дзіўны быў гэты сон: суцішны, крыху сумны і светлы, як вада ў Друці, на беразе якой ён стаяў і слухаў, як з другога берага ракі надрыўна спявала Шульжэнка: “У развёрнутой гармони василько-овые меха-а”.

– Н-но! Пайшоў, каб на цябе!.. – абудзіў яго немы Юзікавы воклік.

Конь гучна фыркаў, уздымаўся на дыбкі, казеліў на лес шалёным вокам.

– Што з ім? – крыкнуў Вілен.

– Ваўкі побач! Зараз наляцяць!

Падняўшыся на ногі, Юзік хвастануў каня пугай, засвістаў у два пальцы.

– Ну, Войцік, наперад! Ратуй і нас, і сябе!

Конь ірвануў аглоблі, ды так, што Юзік пляснуўся на азадак, балюча адціснуўшы Віленавую руку. То панурваючы храпу да зямлі, то задзіраючы яе ўгору, Войт пайшоў наўскач.

Дарогу з левага боку перамяло, развалкі ехалі перакошаныя, іх матляла

ўбокі, і Юзік, немаведама як трымаючыся на нагах, лупцаваў зняможанага каня і не сваім голасам гарлаў:

– Вунь яны, бягуць поруч! Давай, Войцік, а то задзяруць... падлюкі шэрыя!

Вілен перапудзіўся не на жарты. Стоячы вокрач і трымаючыся за разvалы, ён уражана круціў галавой, але ваўкоў так і не ўбачыў. Неўзабаве ўваччу забрынілі прасветліны між дрэваў, Войт пайшоў павольным крокам, і яны выехалі ў поле. У вёсцы шалёным брэхам заходзіліся сабакі.

– Ну ўсё... сюды яны ўжо не сунуцца, – Юзік скочыў з возу, хістаючыся, пайшоў да каня. – Ці не загналі мы цябе, бедачыну? – набраўшы прыгаршчы снегу, ён пацёр ім конскую пысу.

Вілен сцягнуў з галавы шапку, выцер угрэтую лабаціну, памацаў рукой пад саломай і абамлеў: адной скрыні не было.

– Паварочвай! Скрыню згубілі!

– Куды паварочваць? На ваўкоў узбіцца? – Жвірбля расцёр снегам конскую шыю. – Войт з ног валіцца – ужо і пена праступіла.

– Ну і стой тут са сваім Войтам, – Вілен кульнуўся з возу, – адзін пайду.

Спачатку пайшоў рашуча, гучна шоргаючы ботамі па снезе, аднак, зачапіўшыся за пень і зірнуўшы на цёмны, пакрэслены шэрымі стаўбурамі бярэзін лес, спыніўся і прыслухаўся. Лес шумеў хваёвымі верхавінамі, і сярод гэтага неспакойнага пошуму выразна чулася працяглае ваўчынае скавытанне. Душу абвеяла трывожная пройма, якая, да таго ж, выпетрала з галавы рэшткі хмелю.

– Ну куды ты, далібог... з'ядуць там твае бюлетэні? Конь астыне і паедзем, – крыкнуў здалёк Юзік.

Хвіліну Вілен стаяў у нерашучасці. Ісці ў лес было страшна, але й вяртацца да возу таксама было не з рукі. Таму, махнуўшы Юзіку рукой, маўляў, пачакаю цябе тут, ён плюхнуўся на пень і, змагаючыся з дрыготкаю ў пальцах, дастаў з-за пазухі капшук.

Чэсь і Франак, дарэшты змерзлыя і змораныя, павярнулі ўжо дахаты, як наткнуліся на нечыя сляды: колькі пасаў узаранага снегу, перакрыжоўваючыся адно з адным, пераціналі лясную паляну.

Чэсь прысеў на кукішкі.

– Ваўкі прабеглі, цэлая зграя.

– І што рабіцьме? – шморгнуў смаркатым носам Франак.

– Што-што... гонім адсюль у кірунку норд-осту, – словы такія Чэсь запазычыў у брата-матроса.

Падшыванцы, азіраючыся на бокі, выехалі на лясную дарогу, па якой, відаць, зусім нядаўна, праехалі сані. Паставіўшы адну ірціну ў санны след, хлопцы паехалі шпарчэй. Чэсь разагнаўся не на жарты – сябар пачаў быў адставаць, – ды нечакана спыніўся, і Франак стукнуў іртамі яму ў пяткі.

Наперадзе, наўзбоч дарогі, ляжала штосьці чырвонае. Падшыванцы пад'ехалі бліжэй і ўбачылі фарбаваную ў чырвань, з вузкай адтулінай на баку, скрынку.

– Можа там цукеркі? – Чэсь дастаў з кішэні падораны братам сцізорык. Такой файнай рэчы не было ні ў каго: сцізорык меў тры лязы, штопар з шылам, і Чэсь штораз дэманстраваў яго не толькі сваім сябрам, але й дарослым.

Падчапіўшы лязом верхняе вечка, хлопец напалову яго аддзёр, піхнуў пальцы ў скрыню і выцягнуў адтуль жмутак паперак, пакінуўшы пры гэтым

крывавы пісяг на мезенцы. На лістках было штосьці напісана. Чэсь хацеў прачытаць, ды тут дзьмухнуў порсткі вецер і лісткі паляцелі ўздоўж дарогі.

– Ох, будзе нам цяпер! – спалохана выдыхнуў за Чэсевай спінай сябар. – Гэта ж лісткі з выбараў. Бачыў, Жвірбля з дзерыкам галасаваць ехалі. Гэта яны і згубілі.

– А каго выбіраюць? – апалым голасам запытаўся Чэсь.

– Як каго... ну тых, што будуць у Крамлі сядзець.

Цяпер ужо і Чэсь зразумеў, што дарма чапаў скрыню. Азірнуўшыся, ён пашыбаваў, ляскаючы заднікамі іртаў па дарозе, ды Франак гукнуў яму ў след:

– Куды ты паехаў?! Зараз Жвірбля вернецца... Трэба ў лес зварочваць.

У гэты момант дзесьці непадалёку раскоціста заскавытаў воўк, і хлопцы, утуліўшы галовы ў плечы, шмыганулі пад яловыя лапы, якія абрынулі на іх снежную лавіну.

Конь быў увесь мокры і з цяжкасцю варушыў нагамі. Цяпер ужо сам Вілен кіраваў Войтам, стоячы на возе.

Яны праехалі метраў трыста, дарога паволі пачала караскацца на пагорак, і змучаны конь спыніўся.

– Вунь яна ляжыць, на ўзбочыне! – выдыхнуў Вілен, выцягнуўшы шыю, і ў гэты момант да мокрай конскай хрыбціны прыбіўся лісток паперы.

Вілен не паспеў працяцца жахам, як адчуў цеплыню, што разлілася раптам ніжэй чэрава. Паволі, як самнамбула, ён ступіў на снег, пайшоў, зачапіўшыся нагой за лейцы, і калі тыя напяліся, паваліўся на калені і да раскурочанай нечай падступнай рукой скрыні поўз вокраччу.

Юзік жа па-ранейшаму сядзеў на санях, спінай наперад, і дасмоктваў цыгарку. Нарэшце падняўся, набраў паветра, каб крыкнуць: “Чаго ты там стаіш ракача?” – ды, адчуўшы нядобрае, таксама рушыў да скрыні.

– На іртах пад’язджалі! – заенчыў з інтанацыяй старой Шукелойціхі Юзік. – Ці не смаркатыя гэта расколіны тут круціліся?

Юзік запусціў руку ў скрыню.

– Паўнюткая. Відаць, толькі некалькі штук выцягнулі. Так што не бяда, іх усё адно ніхто лічыць не будзе. Усё падлічана ўжо.

Вілен, які дагэтуль непарушна стаяў вокрач, падняўся на ногі.

– Ты што, абасцаўся? – уражана запытаў Юзік, паглядаючы на картовыя порткі старшыні выбарчай камісіі.

Але старшыня гэтага пытання як і не чуў. Павёўшы ашклянелымі вачыма, ён ледзяным голасам выдыхнуў:

– Трэба сабраць усе бюлетэні.

– Як жа... збярэш. Іх ужо, відаць, у Літву занесла.

– Трэба іх усе сабраць, – паўтарыў Вілен – ён па-ранейшаму не чуў кампаньёна.

– Ды падсыпле Макалаевіч тых бюлетэняў. Іх жа да халеры надрукавалі... Завядзеш яго ў рэстарацыю, пасядзіце там пад фікусамі, як людзі...

Вілен павёў рукой, як гэта робяць, калі хочуць пазбыцца наслання, і празмерна ўважліва, нібыта ўпершыню яго бачыў, зірнуў на Юзіка.

– Гэта ты, падлюка, усё падстроіў. Падгаварыў скрыні вынесці, а потым, як я заснуў, ускрыў ды выкінуў з возу. Хацеў выбары сарваць, пілсудчык ты недарэзаны, – Вілен схапіў кампаньёна за шыю, пачаў душыць, і кампаньён, выслабаняючыся, піхнуў Вілена тварам у сумёт.

– І навошта мне былі ўсе гэтыя мітрэнгі? – сіпла, з інтанацыяй плачу, прастагнаў Юзік. – У вёсцы падсабачнікам клічуць, матка й дагэтуль плача, што я з камісарамі звязаўся – ксёндз у яе нават ахвяру не прыняў...

– Нічо-ога... хутка нашы органы разбяруцца – і з табой, і з тваім ксяндзом, і з тваёй маткай... – Вілен падняўся, выцер твар ад снегу. – Ён хацеў быў яшчэ нешта сказаць, ды Юзік, пачуўшы пра матку, заехаў яму кулаком у лоб.

...Крыючы расейскімі мацюкамі, Юзік з усяе сілы хвастануў каня і тут жа, зразумеўшы, што едзе не ў той бок, нацягнуў лейцы і на хаду, ужо з польскімі мацюкамі на вуснах, падхапіў са снегу выбарчую скрыню.

Налівайку знайшлі раніцай наступнага дня. Ён сядзеў на дрэве, абхапіўшы рукамі стаўбур, і не адгукаўся на воклікі.

– Відаць, ад ваўкоў ратаваўся, – разважліва прамовіў упаўнаважаны, які адмыслова прыехаў з раёна. – Усё навокал было здратавана ваўчынымі слядамі.

– Я ж кажу: яны на нас з двух бакоў накінуліся! – запальчыва выдыхнуў Юзік Жвірбля, але яго, здаецца, ніхто не пачуў.

Упаўнаважаны загадаў выпрагчы каня з санак, санкі ўзнялі, прыставілі да дрэва, і па іх спусцілі скалелага Налівайку на зямлю. Напачатку падумалі, што ён мёртвы – Жвірбля нават сцягнуў з галавы аблавух, – ды тут бедачына здрыгануў вейкамі, зварухнуў пальцамі, усе падхапілі жмені жарсцвянага снегу і сталі расціраць Налівайку спачатку рукі і твар, а потым грудзіну і ногі. Неўзабаве ўпаўнаважаны дастаў з кішэні шыняля пляскатую біклажку, хуценька адкаркаваў, паднёс да Віленавых вуснаў. У біклажцы, відавочна, быў нейкі моцны трунак, бо Вілен закашляўся, на вачах выступілі слёзы, і ён, застагнаўшы, паказаў дрыжачай рукой на дрэва. Усе задзерлі галовы. Там, пачапіўшыся за тонкую галінку, асінавым лістом дрыжэў на ветры бюлетэнь тайнага галасавання. Жвірбля з запабежлівай хуткасцю шпурнуў снежку, бюлетэнь адарваўся ад галінкі, крутнуўся ў паветры і паляцеў насустрач зыркаму сакавіцкаму сонцу.

<u>Са слоўніка Вілена Налівайкі:</u>

Адпалянтаваць – адлупцаваць
Бімбер – самагонка
Бравэра – балбатуха
Брызгуль – лядзяк
Гілазаваць – гізаваць
Гілос – дурыкі
Запрыдух – упарты чалавек
Застрагнуць – захраснуць
Ірты – лыжы
Кубарка – пушка запалак
Лемзаць – балбатаць
Начвэндзіць – накуродымець
Памяльнік – месца ля печкі, дзе ставяць качаргу і рагач
Пасачка – невялічкі цэбар
Расколіна – нягоднік
Руіна – воўчая зграя
Сутанак – шарая гадзіна
Такрок – летась
Хваравека – інвалід з дзяцінства



Таццяна Будовіч



...я белы верш напісаны
пацыентам пасля наркозу...

# Паветраны змей

* * *

той
хто не з'яўляецца мной
за спінай стаіўся маёй
гартае нататнік мой
і піша заўвагі свае
ў маёй галаве
таму
я не зайздрошчу яму

* * *

выратоўваць не варта мяне
я на лёдзе свае выпраўляю памылкі
я іду след у след
за сабою
за лепшым за іншым
за такім што ўвесь свет захіне

але сам застанецца
на амбразуры
сэрцам
ён не чуе не бачыць мяне
я за спінай ціхутка
быццам позірк аголенай поўні
я хачу каб агонь
што па жылках струменіць яго
і маю ўсю душу без астатку запоўніў

* * *

Сцяна для таго, каб прайсці скрозь яе
і вершы пакінуць на роўным шкле,
не страціўшы хуткасці і вышыні
і зразумець: не існуе сцяны!

* * *

я белы верш напісаны
пацыентам пасля наркозу
позірк сляпы наркамана
ў пошуках дозы

тонкія пальцы ветру
і вузкія плечы ценю
на бела-чырвоным снезе
дзе супергерой перарэзаў вены

сцісні мяне ў далонях
калі паспееш
я твой квіток у іншае вымярэнне
адпачывалі Хічкок з Міядзакі
калі Бог прырабляў мне крылы

* * *

электрапрыборы псуюцца
ў маіх руках
і я назіраю страх
у тваіх вачах
супакойваю я цябе
я не вядзьмарка ты верыш мне
спі спакойна і я засну
каб палётаць на крыхах сну
ў ступе ці на мятле
я не вядзьмарка не

* * *

на плоскасці ракі
што Бог трымае
на далонях
гуляюць коні ў даганялкі
і разам мы ляцім
у зорную прастору
каб угрызнуць
марозіва натхнення

* * *

мёртвыя сувязі
ападаюць
успамінамі ні аб чым
вольнае сэрца
птахам ляціць
на шкло
што як скарынка лёду
будзе прабіта ім

* * *

пакінь душа свой вечны смутак
няісныя ўспаміны аб вайне
(не)перажытыя пакуты
героем быць
застацца жыць
ці згінуць мне
і страх мой холадам у сэрцы
самому  мне шукаць бы смерці
ды смерць не ратаванне не...
згадаць на яве і наноў
прайсці адчаем тых шляхоў
свой страх забіць і каб заўжды
душа мая свяціла ты

* * *

Як хораша мець сэрца вольным
і ў думках жыць не ў заўтра альбо ўчора,
ісці кудысьці ў летні надвячорак
па вузкіх вулках, дзе паволі
тралейбусы кранаюцца з прыпынкаў,
чытаюць птушкі з партытур урыўкі,
нібы між іншым. Горад заціхае.

Блін сонца ледзь за далягляд спаўзае,
як быццам загружаецца. А я спакой святкую.
Ператвараюся ў паветра, цені
і выпадковых стрэчных думкі чую.
Імгненне рэдкае, я не прашу цябе спыніцца.
Нібыта ў песні той, спакой мне толькі сніцца.

* * *

вазьмі маю руку
і да сваёй шчакі прыцісні
калі пустэча пад мастом над Віслай
здаецца паглынае і раку
і мінакоў на набярэжнай
вазьмі маю руку ў сваю
так стыла снежна сэрца
амаль спынілася
і ў сілах толькі ты
ў яго ўдыхнуць хоць нейкі допінг
...і вузкае далоні дотык
пяшчотай смерці

* * *

*В. Гапеевай*

Хай гадаюць нашчадкі потым,
хто таленту мае болей:
я ці мой цень,
ці цень майго ценю.
А цяперака тут
у суаўтарстве з Паннай Смерцю
мы зноў прыдумляем вершы.

* * *

там дзе гор вяршаліны
ўтыкаюцца ў неба як вострыя дзіды
і стаілася сонца нібы птушаня
ў туманных аблоках
там дзе пальцы
шукаюць няроўнасць
на гладкіх
каменных схілах
і жыццё рызыкуе сарвацца
не думаеш пра самавольны сыход

## МАЯ КВЕТКА

*Н. Кучмель*

адзінотай кветка расцвіла ў маім жыцці
як далёка мне не выпала б ісці
і яна са мной паўсюль заўжды
дыхаю яе атрутным ззяннем гарады
ўзводжу ў сэрцы дзе па вузкіх вулках
не шукаючы прытулку
я хаджу з адной
табой

## ВОСЕНЬСКАЯ ЗАМАЛЁЎКА

Наскрозь праменнем сонца парк прашыты.
Чуваць, як зрэдку з дрэва ліст злятае.
І хутка стане гэты дзень пражытым
і восень смак дзяцінства нагадае.

* * *

я ведаю як з табой
аповесці не маёй
герой
трэба
табе нямнога
адно дарога
а мне прыступкі да неба
акурат
зікурат
па асфальце сплыве
за далягляд
твой цень
калі між аблокаў
растане – мой
быў і будзеш заўжды – герой
ёсць і была – вышынёй

* * *

Кожны паветраны змей
марыць палётаць адзін.
Гэтак і мы ўяўляем,
быццам свой лёс вырашаем.



Паліна Качаткова



...можна жыць

і з кракадзілам у ванне...

# Гульні з морам

***Два апавяданні***

## Каменны кот

– Гэта вельмі файныя рэчы, яна вельмі любіла добра апранацца і набывала адзенне толькі ў добрых крамах, – кажа мне жанчына ў сэканд-хэндзе. – Бачыш, – працягвае яна і паказвае рукой на цэлы шэраг адзення.

“Ну, вось, – думаю я, – любіла добра апранацца, а пасля... Што адбылося?”

– І што здарылася з ёй? Чаму так шмат рэчаў?

Гандлярка глядзіць на мяне, нібы ацэньвае: ці варта казаць тое, што ёсць, ці варта выдаваць таямніцу... А ці можа быць таямніца ў сукенкі? Ці звязаныя неяк рэчы і адзенне са сваім першым уладальнікам? Пра люстэркі гэта дакладна вядома, а вось пра сукенкі?

Але гэта думалася ўжо ў Вільні. А перад гэтым было жаданне адпачыць. Пашырыць прастору. І віленскія канікулы я сабе прыдумала сама.

З Менску ў Вільню – на аўтобусе, не на цягніку. Заўсёды выбіраю аўтобус, бо там ёсць магчымасць заняць месца так, каб побач ніхто не сядзеў, каб ніхто не лез у душу, каб ніхто не задаваў пытанняў. У аўтобусе, які ідзе на Вільню, лягчэй застацца незаўважанай. Выбіраю – аўтобус.

Дарога маляўнічая і падзяляецца на два этапы: да Ашмянаў і пасля Ашмянаў.

Кожны раз, як еду, уражвае колькасць паветра ў вежах касцёла ў Ашмянах.

І неба мяняецца пасля Ашмянаў, калі пад'язджаеш да Вільні.

Вільня. Час, калі квітнее ліпа. Дожджык. Вільгаць. Мокрая дахоўка. Бліскучы брук – чорны, чырвоны, ружовы.

Напамін пра людзей, якія жылі ў Вільні раней: пра іх ведаеш з кніг і чужых ўспамінаў. Свае ўспаміны пра людзей, якія жылі ў Вільні і ўжо не жывуць тут. І наогул не жывуць... Нідзе. І застаецца толькі спадзявацца на жыццё вечнае.

Не ўсе анёлы на дахах адразу бываюць заўважныя, каб убачыць тое, што не бачна было раней, трэба глядзець на купалы і шпілі. І тады – бачыш анёла на касцёле святой Тэрэзы. Трэба зварочваць на вуліцы, на якія звычайна не звяртаеш увагі і праходзіш звыклай сцяжынай.

Пачынаецца дождж. Ціхі, цёплы, пасля – цёплы, але моцны і без пяшчоты. Адскокваеш ад водных плыняў пад балкон, але вада ад ветру залівае і сюды. Мусіш з-пад балкона перабегчы ў бліжэйшую краму.

Маленькая крама. Гэта адзін з віленскіх сэканд-хэндаў – не той, што Humana, які працуе па гуманітарнай праграме "Людзі людзям": набудзеш там рэч – і накорміш галодных на Афрыканскім кантыненце. Не, не ў такі сэканд я забегла, а ў прыватны, на вуліцы Sodu.

Спытала, ці ёсць адзенне вялікіх памераў, і мне ветліва адказалі:

– Вельмі шмат у нас такога адзення, якое Вам падыйдзе.

І вось тут і адбылася тая размова пра адзенне, і жанчыну, якая любіла прыгожа апранацца. А цяпер вось яе адзенне тут – у сэкандзе на вуліцы Sodu.

Я спытала.

– Што адбылося?

– Адна жанчына вельмі схуднела і здае сваю вопратку. Калі набудзеце, то дапаможаце ёй. Яна здае адзенне, каб жыць – набываць ежу і плаціць за кватэру.

– Чаму схуднела?

– У яе памерлі бацькі. Яна жыла з імі, вельмі любіла добра апранацца. Ёй падабалася выглядаць прыгожа. Калі бацькі памерлі, яна пачала здаваць нам тое, што ў яе ў шафах.

– А колькі ёй гадоў?

– За пяцьдзясят... Можа, 55 ці 56 – недзе так.

Я набыла сукенку, пакуль ішоў дождж.

Два разы ўсяго пасля апранула – нешта не тое ў ёй было. Так і вісіць.

Вільня. Ліпа. Дождж. Залева. Вада вырываецца з вадасцёкаў. Фатаграфую, як вада вылятае з вадасцёку, пасля – на фотаздымку вада будзе выглядаць падобнай да лёду. Так і бывае зімой – вада замярзае і лёд з вадасцёкаў дугой сягае да прамерзлага асфальту. Але тут не асфальт – брук. На старых вуліцах брук пакладзены адмыслова – так, што вада сцякае хвалямі.

А на вуліцы святога Сцяпана – асфальт – ідзеш ногі ў вадзе – каламутнай, цёмнай. Брудная вада віруе ля ліўнёвак. Як у нядобрым сне ўсё выглядае. Так можаш зрабіць крок у нябачны падводны люк, і панясецца цела ў брудных тунелях – да ракі. А ўсе падумаюць, што ты ўцякла – у сэнсе з'ехала, не захацела быць з імі, а цяпер сама жывеш у прыгожым горадзе і не дбаеш ні пра кога. Але ж не – лёс твой зусім іншы – каналізацыя, водаканал, аслізлыя і тунелі, тунелі з хуткаплыннымі сцёкамі. А на выхадзе – станцыя перакачкі, вадзяны трыснёг, хмызы, андатры і сінія, жвавыя паласатыя малькі-акунькі, якія тут, каля берага, цікуюць сваіх першых ахвяраў. Сінія паскі на рыбках-драпежніках блішчаць у вадзе, калі на іх трапляе сонечны прамень. Зіхцяць на дне ракі і перламутравыя аскепкі ракавінак рачных малюскаў – бяззубак.

Людзі эмацыйна з'ядаюць адно аднаго: заглытваюць – як вялікая рыба маленькую – цалкам. І быццам бы так і трэба.

Хачу верыць, што шмат хто са зніклых без следу – не робіцца ахвярай маньяка і не ляжыць на дне ракі, а з'ехаў, каб жыць сваім жыццём, тым жыццём, якое нарэшце здолеў абраць для сябе. Вось так – самотны і вольны. І гэта не толькі мая фантазія – тое ж сцвярджае і крымінальная хроніка разам са статыстыкай. І фільмаў пра гэта шмат – дакументальныя і мастацкія, кшталту "Без следу". Людзі ўцякаюць, каб быць вольнымі, уцякаюць, як з турмы. Часам доўга рыхтуюць уцёкі, плануюць кожны крок. А бывае, што збягаюць і спантанна – раз і ўсё. Віктар Цой спяваў: "Закрой за мной дверь, я ухожу". Але лепей не прасіць зачыніць дзверы, лепей не папярэджваць пра сыход.

А да гэтага варта навучыцца зусім ніколі не плакаць. Можна ставіць рэальныя мэты ў жыцці, можна пазбыцца ілюзіяў, развітваючыся з імі па чарзе – адна за адной. З вечара пазбаўляешся, а зранку прачынаешся – і на адну ілюзію менш. Ілюзіі, яны такія: пэўны час дапамагаюць жыць, а пасля абцяжарваюць. Вельмі моцна абцяжарваюць. Адкідаеш іх, яны адлятаюць – і позірк ясны, і мудрасць у вачах з'яўляецца. Лёгкасць і мудрасць. Ілюзіі патрабуюць энергіі для падтрымання. Але раптам нечакана пабачыш такое – і слёзы самі наварочваюцца, а ілюзіі зноў вяртаюцца – злятаюцца з цемры, як начныя матылі на вулічны ліхтар. А яшчэ ілюзіі могуць вяртацца пакрысе – прасочваюцца, як вада.

Вільня, vul. Aguonų тут, тут, адразу за будынкам старога, савецкага яшчэ Палаца культуры бачу скульптуру – вялізнага ката, які мае вельмі сумны выгляд, ён як бы плача. Агромністы Кот з ружовага граніту.

Каменны кот – надзейны і трывалы.

І нездарма плача каменны кот. Плача, бо ў яго памерла гаспадыня – пісьменніца і мастачка Юрга Іванаўскайтэ.

Пра ката і яго гаспадыню-пісьменніцу мне распавядае віленская мастачка Хрысціна Балаховіч. Кветкі, якія малюе Хрысціна, неверагодна жывыя. Асабліва мне падабаецца карціна, якая мае назву "Свята званочкаў".

– Гэты кот пастаўлены ў памяць пра пісьменніцу і мастачку Юргу Іванаўскайтэ, скульптура так і называецца: кот Юргі. Пісьменніца памерла ад анкалогіі.

– А чаму скульптура стаіць менавіта на гэтай вуліцы?

– Бо пісьменніца доўгі час жыла на вуліцы Aguonų. Любіла катоў і мела вельмі прыгожага ката, якога пасля забрала яе маці.

– Помнік дужа вялізны...

– Так. З валуна ў 15 тон атрымаўся кот вагой у 10 тон, яго вышыня амаль тры метры, шырыня і таўшчыня паўтара. Мае на спіне 13 паскаў. На вялікі жаль, вандалы час ад часу размалёўваюць гэтую скульптуру. Яе ўжо адмывалі некалькі разоў. Але ёсць людзі, якія падыходзяць і гладзяць ката.

Вільня, vul. Aguonų. Вельмі сумны і самотны выгляд у гэтага ката – ён плача, бо гэта кот, у якога памерла гаспадыня.

– Хто рабіў скульптуру?

– Аўтарка сульптуры Ксенія Ярашавайтэ.

– Хрысціна, я так зразумела, што сквер названы ў гонар пісьменніцы, а кот не падпісаны.

– Так, сквер называецца скверам Юргі Іванаўскайтэ, а ката вырашылі не падпісваць, бо каты гуляюць самі па сабе. Ён і выглядае – быццам выйшаў пагуляць

– А дзе ўзялі вялізны валун?

– Валун знойдзены на другім канцы Літвы ў Келмскім раёне ля вёскі Pašiaušė.

– А пра што творы Юргі?

– У двух словах цяжка пераказаць – сюжэты складаныя, з жыцця мастацкай і калямастацкай багемы, рок – музыкаў і г.д. У цэнтры самага вядомага рамана “Вядзьмарка і дождж” – гісторыя кахання дзяўчыны і ксяндза. Апроч усяго Юрга напісала дакументальную трылогію пра Тыбет. Зрэшты, Тыбетам і будызмам прасякнуты ўсе яе творы.

На развітанне Крысціна мне жадае:

“Бывайце, жывіце свабоднымі!”

*Чэрвень-верасень 2014 года,*
*Вільня-Менск-Адэса*

## Гульні з морам

Пра тое, што я фатаграфавала і не фатаграфавала.

Мядуз дакладна не фатаграфавала, бо яны былі нежывыя, хаця і ў мёртвым стане захоўвалі прыгажосць.

Мядузы, шмат медуз, вялікіх, дарослых і нават старых з прыкметамі былой дасканаласці, і свабоды, якую мелі ў глыбіні мора.

Спачатку не адрознівала мёртвае ад жывога – спрабавала закідваць, вяртаць у мора медуз, якія захавалі, яшчэ не страцілі колер – блакітны і фіялетавы. Не дапамагала, яны ўжо не плылі. Пасля зразумела – вялікая дарослая медуза на беразе – ужо не жывая. Хвалі марскія, хвалі жыцця забілі яе. А можа, яна спакойна памерла ў сінім моры і хвалі толькі выкінулі яе на бераг, канстатуючы канец жыцця, завяршаючы цыкл?

Марскі вецер выносіць – рэальна выносіць з галавы рэшткі ілюзіяў, рэшткі шматгадовых падманаў і самападманаў. Разумееш: можна жыць і з کракадзілам у ванне – галоўнае кантраляваць сітуацыю самой, каб не кракадзіл дыктаваў умовы.

Мора пасля начной навальніцы мутнае, адступіла, і дзеці збіраюць мідыі і рапанаў. Варона дзяўбе ракавіну малюска, выцягвае мяккае цела.

Мора адступіла, і я пагуляла па дне марскім. Упершыню ў жыцці знайшла на пяску ракавіну рапана – ружовую ўсярэдзіне. Раней іх толькі ў акварыумах бачыла і ў наборах, што прадаюцца, каб пасля прыкладаць

да вуха і “чуць шум мора”. І яшчэ некалькі знайшла жывых рапанаў – кінула ў мора

Вучылася рабіць надпісы на пяску, разлічваць інтэрвалы паміж хвалямі – паспяваць напісаць так, каб хваля прыгожа злізала тэкст. Зрабіць надпіс перад хваляй не заўсёды паспяваеш.

І зноў думала пра ілюзіі – яны дапамагаюць жыць на пэўны час, але пасля псуюцца, як малюскі-рапаны ў сваіх ружовых ракавінах, выкінутыя на бераг. Сапсаваныя ілюзіі – харч для варон.

Бераг мора – памежжа стыхіяў.

Ішла ў закатаных па калені джынсах ды ў цяльняшцы па краі мора, і пара – мужчына і жанчына з фотапаратам, відаць, вырашылі, што я мясцовая, запыталіся:

*– Чаму так шмат мёртвых медуз?*

*– Час іх прыйшоў. Можа быць так... Я не ўпэўненая.*

Ці можа медуза ўратавацца? Ці можа не ляжаць нежывой, разлезлай на пяску, а працягваць плаваць, жыць? Ці гэта лёс, прадвызначанасць?

Ну, і google у дапамогу...

**Медуза** *– ад старажытнагрэцкага Μέδουσα – «абаронца, валадарка». Жыццёвы поспех медуз у тым, што імі ніхто не харчуецца. Само слова медуза паходзіць ад імя старажытнагрэцкай багіні Гаргоны Медузы, валасы якой былі пучком змей. Медуза дыхае ўсім целам. У празрыстым целе медузы – 24 вокі. Рот медузы – і для ўжывання ежы, і для яе вывядзення. Медуза ў асноўным складаецца з вады, яе жыццё на сушы немагчымае. Калі медузу выкідвае на бераг, яна гіне, высыхае на сонцы.*

*Не фатаграфавала мёртвых медуз.*

Не фатаграфавала і людзей, якія жылі ў хмызах абляпіхі за цэлафанавай заслонай. Праходзіла, адводзячы позірк, але штосьці ўсё адно бачыла. Там былі два мужчыны – адзін паранены ў нагу. Другі ў плячо. Яны выходзілі, калі на беразе мора амаль нікога не было. Адзін з іх – высокі лысаваты, немалады з вайсковай выпраўкай. Я разгледзела яго, калі ён нёс прэсную ваду ў пластыкавых бутлях. Другі быў маладзейшы. Спачатку іх раны былі ў бінтах, пасля бінты змяніла медыцынская “сетка”. Пасля шторму яны зніклі. На месцы іх жытла засталася, занесеная пяском чырвоная куртка.

Калі я распавяла пра іх сваёй прыяцельцы з Адэсы, яна спытала толькі адно:

*– Цікава: яны нашыя, альбо з ДНР?*

І я яшчэ адно прыдумала пакуль хадзіла па беразе: каб не стаць старой медузай, выкінутай на бераг, трэба быць медузай Гаргонай. Медузай, якая выжыла і стала моцнай, і ўсе камянеюць ад яе позірку.

Шмат нежывых медузаў, разлезлых са слядамі былой красы па беразе, – яны страцілі сілу, здаліся і хвалі забілі іх, выкінулі на бераг, і цяпер яны высыхаюць, раствараюцца – хутка і следу на пяску ад іх не застанецца.

Можна быць сярод іх... Альбо стаць Медузай Гаргонай і ніколі не глядзецца ў люстэрка. І памятаць пра гэта.

*Адэса, верасень 2014 года*

Андрэй Сцепанюк



...З кахання пачнецца Слова
невыразнае і маўклівае
нясмелае і няспелае...

# Бельскае маўчанне

## *ВЕЧНЫ СОН*

*Не стала Юрыя Гуменюка*

адкрываюцца дзверы за якімі нічога няма

нямыя сцены глядзяць беласцю фарбы
падрапанай воўчымі кіпцюрамі

усё паўтараецца як у сне маці
яна расказвала яго
пасля нараджэння дзіцяці

ад замазанага сонца
якое б’е з зачыненых вокан
нікуды ніяк не ўцячы

сонечныя праменні падаюць
на закрытую кніжку вершаў

якіх ніхто ніколі не напісаў
і ніхто ніколі не напіша

не плачу
вершы гэта толькі словы

не плачу
вершы гэта толькі сон
з якога ніколі не абуджуся

*20 студзеня 2012*

## МАЛІТВА ЗЛОДЗЕЯ

Ніколі больш Ты да мяне не падыходзь
Ніколі больш не гавары мне
што я добры і справядлівы
Так не было і не будзе
Жыве ўва мне патрэба неакрэсленага блукання
Ты не першы і не апошні які ніколі таго не зразумее
Калі можаш затрымайся толькі
ля кватэры маёй матулі і паслухай
ці яна яшчэ плача
Потым перадай мне паведамленне
што Ты яе супакоіў і што яна паверыла Табе
Тады мабыць і я паверу ў Цябе

## ГЕРОІ

А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы
І нікому мы не скажам
Будзем ведаць мы
Што зямля паліта сокам слаўнае крыві
А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы

А ў полі там над рэчкай вырасце авёс
І ніхто не памятае
Зерне хто прынёс
І ніхто ужо не скажа, што у час жніва
Там у полі, там над рэчкай
Нікога няма

А ў ветры над зямлёю цішыня гудзе
І нікому мы не скажам
Хто да нас ідзе...

А ў вуснах будзе песня мінулых гадоў
І нікому мы не скажам
Пра хвалу дзядоў
Бо ў думках і ў сэрцы слоў ужо няма
І ніхто тут нам не скажа ў чым наша віна

А пад лесам за дубамі нічога няма
А ў полі па-над рэчкай вырасла трава

## *Я ІДУ ДА ЦЯБЕ*

### *1.*

я іду да цябе словам
дарогай яго крутой і нечаканай

лесам іду
і шолахам траў выпаленых ад свежага сонца

прастораю бягу
ціканнем гадзіннікаў і бляскам стрэлак

крыкам іду і спевам з вуснаў дзявочых
чырвоных ад вішань і яблыкаў недаспелых

я іду да цябе як дзіця і як бабулька
ў срэбры гадоў сваіх аджытых

крыжыкам на грудзях маіх з народзінаў даўніх
і веры накінутай і зразумелай намнога пазней

я іду да цябе
не ведаўшы ці ты чакаеш
у зялёнасці сваёй і ружовасці свежай

на спатканне ці выйдзеш і горача пацалуеш
у вусны мае парваныя ад спёкі і дарогі

я іду да цябе
не лячу самалётам у паветры
а роварам ног сваіх іду да цябе

я іду да цябе
і схіляюся над лёсам усіх што ў дарозе

крыўдай да цябе іду
і плачам маці сыноў загінулых

стрэламі пісталетаў і гармат і кулямётаў халодных
што ляжаць у збраёўнях

з цікавасці вялікай да цябе іду
у кніжках прачытаных не заспакоенай

як драпежная жывёла да цябе іду
з ваўкамі і ястрабамі ў вачах і валасах раскінутых

а ты ў пару тую пісьмо мне пішаш
а ты пісьмо мне пішаш
і слоў адшукаць не можаш
каб сказаць тое чым думка твая жыве

пішаш і дзверы даўно зачыненыя адчыняеш
гладзіш рукі свае белыя
з пальцамі размаўляеш
каб добра на картачцы шэрай схіляліся і пісалі

пішаш мне пісьмо не ведаўшы
што я да цябе іду
і дарога мая яшчэ доўгая
і магу раней ад пісьма твайго дайсці
і не магу

я па картцы пісьма твайго іду
і сляды ступакоў сваіх пакідаю

я іду да цябе і крык свой
у цемру начную кідаю і баюся

я іду да цябе і дайду
а ты скажаш што цябе ўжо няма

***2.***

якая ты невядомая
прачытаў ужо ўсе кніжкі і газеты
і агітацыйныя лістоўкі
і нічога пра цябе не ведаю

ці старая ты ці маладая
ці жанчына ці мужчына
ці алебастравая ці чорная

адчуваю цябе паўнакроўнасцю сваёй
а ведаць не ведаю

пасля кожнай сцяжынкі ходу майго
у памяці не застаецца ніякі твой вобраз

тады плачу і крычу і шалею
і рукамі сваімі цвёрдымі
б'ю ў сцены тваёй невядомасці

а ты маўчыш
не кланяешся да мяне словам і маўчыш

***3.***

бегам тваім я апантаны
даўжынёю крокаў тваіх і ног ашчаднасцю

на карце здарэнняў
твая сцежка размытая
і дарога твая нечаканая ў сваёй непаслядоўнасці

вось пачатак яе і канец
дзве кропкі ці плямы
размываюцца яны і не дазваляюць зразумець
ці месца іх першае ці другое
ці проста твае гэта месца пачатку і канца

***4.***

выходжу з цябе і блукаю
і дарогі знайсці не магу
якая павядзе мяне ізноў у цябе

выходжу з цябе
і кветкі пах свой губляюць
і ў зелле калючае мяняюцца

адвакат я твайго зняволення
і суддзя тваёй непрысутнасці

як малы хлопчык і стары дзядуля
у судзе шчасця твайго прымаю ўдзел
і клянуся на святое пісанне
верыць кожнаму твайму слову

выходжу з цябе ў няспеласці сваёй
неданошаны да дзявятага месяца
і поўдня твайго нараджэння

***5.***

і хачу назваць цябе
і рот адкрываю і бязгучна вымаўляю твае імя

імя твае і мянушку тваю запісаную алоўкам
у школьным сшытку з карткамі ў лінейку ці кратку

кожны след свой пакідае гавару
і замазваю тое што раней напісаў

імя тваё гавару
я надам табе імя тваё
а ты смяешся і шчабечаеш вуснамі сваімі чырвонымі
і крывіш рот свой і крычыш
што няма цябе ў імёнах і прозвішчах няма
але я запісаць цябе хачу
і вусны і рукі мае не могуць

***6.***

я іду да цябе і штораз лепш ведаю
што дарога мая ніколі не канчаецца
і ты не скажаш што я ўжо прыйшоў
магу сесці і адпачыць

я іду да цябе і разумею што дарогі такой няма
якая давяла б мяне да цябе

я іду да цябе хуткасцю думкі сваёй
розуму свайго апантанасцю
і затрымацца не магу і дайсці не змагу

я іду да цябе каб забыць дзён сваіх недахоп
і начэй вочы адкрытыя

я іду да цябе плачам рук і тулава
безвыхаднасцю няшчасця
і шчасцем вызваленым з палону

я іду да цябе і не чакаю
што скажаш мне слова і песню заспяваеш
і хлеб пакінеш на стале з соллю і святой вадою
я іду да цябе

***7.***

не канчаецца дарога дарогі маёй да цябе
і ісці далей хачу і затрымацца хачу

учарашні краявід за вакном вачэй маіх
размываецца ў небасхіле тваёй сукенкі

няхай толькі споўніцца ядро
і ў малітве дарогі сваёй затрымаюся

не дайшоўшы да цябе я аднчасова ад цябе вяртаюся
зачараваны анёламі і людзьмі
што выходзячы з царквы паглядзелі на сваё абмярцвенне

не такая ты як у песнях і вершах
што ляжаць у пустых падзямеллях

малітву сваю складаю з даўніх здарэнняў
і расчараванняў навейшых
і прашу каб словы не паўсталі а доля дазволіла ісці далей

а ісці ўжо не хачу і хачу да яркасці маёй цёмнай
з кароткімі фразамі слоў тваіх непачутых і не выяўленых
у галове і думках маіх

## ***БЕЛЬСКАЕ МАЎЧАННЕ***

Бельск
          Вакзал
Дарога
Чакаю

Цягнікі вязуць пустыя сцены чорных вакон
Чакаю
Можа з’явіцца летняя дзяўчына і пакажа дарогу ў горад
Ноччу не відаць нават літараў тратуараў

Побач з Замкавай гарой вырастаюць як дубы
цені магнатаў і манахаў якія надалей ідуць
у вечную святыню

Мой позірк не бачыць ужо вакзала
Мроя Мікалаеўскай царквы
адбіваецца ў надмагільным рэшаце

Можа хтосьці пакліча і мяне ў недаступнасць
краіны без сну

На жыдоўскіх камянях задума Хрыста над народамі
і лямант Бельскай Божай Маці
Дарога гэта трыпціх з праўдай
                                        верай
і плачам шматлюдным і неадчувальным
побач здзіўленне ў вачах гадзінніка на ратушы

Чакаю

* * *

*Барысу Пятровічу*

З кахання пачнецца Слова
невыразнае і маўклівае
нясмелае і няспелае

Са слова вырасце нескладаны Сказ
граматычна просты і недасканалы ў форме

Са сказам адкрыюцца Вусны
і горла зробіць праверку Голасу

Голас зварушыць Думку
вырве яе са сну і дрымоты

Думка скажа целу змагацца штодзённа
за дасканаласць сваіх Рук

Рукі разваляць старыя сцены
і пабудуюць новую Святыню

Новая святыня будзе краінай Свабоды



Павел Дарохін



...Каго кахаю,
тых забіваю...

# Мая Ітака

## КОНТРЛ-АЛЬТ-ДЭЛІТ

У Бабруйску шыюць ватнікі для войскаў NATO,
Тры жанчыны-ўрачы ў машыну паселі адну,
Серыял пра прыгоды англійскага хлопца цыбатага...
Трэба недзе схаваць вентылятар, мо на вясну?
І так пылу шмат назапасіў, давай прыбірайся,
Запісаўся на курсы нямецкае – вось і навіны,
Засмеціў памяць, чухай на дэфрагментацыю.
Пакінь – і са свету жывёлаў у княства раслінаў.
Бо павам не жыць у важынай і змрочнай хаце,
Незнаёмцам не ўдасца дазнацца, што там вярэдзіць
І што я нясу? Зачыняйце хутчэй, пане-браце,
Бы “ванілька” якая, без пледу й маўклівага Тэдзі.
Трэба сталь гартаваць, а не вежу, як звыкла сам
Зноў будую ад позіркаў гэтых, з косткі слановай.
Хай гарыць яно, а не плыве, не рыбай, Феніксам.
Націсні хто контрл-альт-дэліт, запусціцца б нанова.

## ГО-ГО-ГО

Го-го-го, каза, го-го-го, шэрая, даволі!
Я стварыў на сайце чарговай анлайн-гульні.
Танчы "го-го" ў клетцы, падвешанай да столі.
Грай у "го" супраць майстра, а хочаш – яго падмані.
Мы пралічым рызыку тую на арыфмометры,
Карункі мінных расцяжак супраць яго.
Мозг нагадае ўшчэнт раздзяўбаны Ковентры.
Аванці, Каза, я сказаў, цяпер – го-го-го.
Ты танчыш у клетцы бы канарэйка ў шахце
На нашых вачах. Дыхай, пакуль шчэ ёсць.
Гульні ў "го" – гэта вам не банальныя шахматы,
Грукат у дзверы: з'явіўся каменны госць.
Ты накармі яго, лазню зрабі, керасінам
Можаш з лімонам і содай пачаставаць.
Прыме зямля ўглыб на два свайго блуднага сына:
Хай адпачне, заўтра рана на працу ўставаць.
Усё і адразу, не ў час, не так і не з тымі,
Ад Рабава чуеш звычайнае "каля нуля",
А я – назіральнік, мяне ўпрыгожванні-міны
Так вабяць. Забі, ці хоць танчы, хоць грай, хоць гуляй.

## М.-П.

Выпадкова рукаў акунаю ў каву,
верагодна, я сённяшняй ноччу не спаў
Маршруткі-ложкі, будзьце ласкавыя,
Керуак пра такое зусім не пісаў
Памылкова лічыць, што пад коўдрамі іншых
літаральна адлегласці скоцяцца ў час
Срэбра ночы схавае, збянтэжыць і знішчыць,
бо агульная ніша, ды іншы клас
Там рака падзяляе на існасць і вільгаць,
камяніцы глядзяць, ім справы няма
Іх вачніцы аднойчы газеты зачыняць,
я йду, ці то брама, ці зноў сцяна
І не іхтыязаўр, толькі рыба ў лужыне,
на аблогу не здольны, адно – шпацыр
Праваліся асфальт праз такую мужнасць,
хоць у пляшках портэр, ды не кефір
Я прысніў гібрыд браняносца з ляніўцам,
у адным з прыпынкаў, дзе лёг маршрут
І хто яго вёў – не разгледзеў быццам,
растварыўся сон, йду цяпер і тут
Падымай каўнер, не такое і лета,
і не сутнастна гэта, што ў горле вада
І маўчы пра свае й чужыя сакрэты,
сам сагрэты, ці здольны цяпло аддаць?

Адгукнуцца ў абшары шары амелаў,
маюць ежу сваю ад чужых каранёў
Вечар добры, сёстры, – шапчу ашалела,
дайце мне далучыцца, напіцца б зноў
Ён паказвае месцы, з кімсьці звязаныя,
што і надалей будуць мець кантэкст
Буду складваць у думках пярэсты дыван,
каб аднойчы прайсці суцяшальны тэст
У яго свае справы, мроі, вершы і словы,
адмысловы вопыт, ды каго не міне?
Мапа ў дроце, на постэры
расчараваны ў сансары Боб і малюнкі дачкі на сцяне
Малюнкі выставы, мёртвыя рэчы
стагоддзяў былых і чужых людзей
Бутэлька ў заплечніку, у вокны сонца
святло на шкло так няўдала кладзе
Мінаюць гадзіны, ўжо ў іншай прасторы,
я гляджуся ў крывавае люстра баршчу
Уважліва слухаю, перадача фонам,
і, здаецца, не чую, пра што кажу
Зноў бегчы з кватэры ў кватэру марудна,
бадзяцца па парках, на катэр глядзець
Пад дождж не патрапіў, хоць трэба, бо брудны,
хвіліну з хвілінаю дзень прадзе
Ды з чаго я шчаслівы такі, ягамосьці,
перасоўванняў у хранатопе чакаць
Нехта спіць на плячы, і не нехта, а хтосьці
даўно, і не тут мне пра гэта пісаць
З чатырнаццатай і да сямнаццатай
зноў адсачыць траекторыю наадварот
Падарожжа ў нікуды з нікуды, хаваецца
ў дробязяў водах адвечны ход.

* * *

Нас выпадкова замкнулі ў адным вагоне
У невядомым напрамку, адкуль і куды
Лёгка саскочыць, абапал вартуюць адхоны
Чорныя кіпці варушацца ў небе рудым
У свеце эўклідавым мы – паралельныя лініі
Ані перспектыў, бо ў кропку сысціся няможна
Грэюцца толькі ад руху дзве рэйкі састылыя
Кропак няма, то бясконца йдзе падарожжа
Жыць у кубах, параскіданых дзіцем нязграбна
Парэзаў шпалеры, будзе пастаўлены ў кут
Лунаць у прасторы часам надзвычай прывабна
Ты так далёка, побач, тут і не тут

## ТЭМПЕРАТУРА ПАНІЗІЛАСЯ НА 4 ГРАДУСЫ

Шурпатыя сцены падаюць, усцешна
Годзе мо паляванняў, ці плынь змяце ледастаў?
Малюю і слухаю радыё. Смешна
Дыстанцыйнае замілаванне шыкоўных страў
Не буду, я абяцаў, заганяцца
Але небяспека: пчолы ўжо гудуць
Забіцца ў кудзелю спраў, абараняцца
Не енчыць! І спрабаваць пачуць
У шыбе абраць сабе вобраз
Магчыма так, хачу не грэцца, грэць
На выбар: Блока ці Маякоўскага?
Толькі мастак. Вядома, хто з нас паэт
А тыя насланні манлівыя,
што ва ўяўленні
Бы аблокі, цвёрдай не маюць асновы
Выразы, сэнсы – дробязі мілыя
непаразумення.
Абалонка з мёду. Хто паверыць словам?
Я мог бы звесці сутнасць у адзіную кароткую формулу
Толькі на жаль яна
кантэкстам ахутаная, бы йльдзіна, заўчасна камфортная
На выгляд тая ж мана.
А хай і праўда, ды хто паверыць,
Што пяшчота жыве ў хмызах крапівы
Выбачайце, занадта, калі распавесці
Да чорту вопыт, бо я жывы
Кажуць, золак калі, няма рэфлексій,
Дык аб чым размовы падчас дажджу?
Ані дубляў-ві ці якога месяца.
Восень? Лета палова. Пакуль дыхаю.

* * *

“Ты бачыш, зорка Венера...”
як адзін назіраў паэт
У марныя словы не веру
Ёсць у мяне сакрэт
Няма ніякіх ілюзій
Наўпрост я ведаю, гэта
Не зорка, як кажуць людзі
А блізкая зроку планета
Пад немагчымымі дзеля
Дыхання масамі ветру
Патэльня недзе пад дзвесце
Вось табе зорка Венера

І скажа які летуценнік
Агледзеўшы ўсцяж прасторы
“Нашто мне тыя планеты?
Я б лепей пабачыў зоры”
Але ў мяне іншыя мэты
Адчайна ў віры сягаю
Хочацца сутнасць зведаць
Далёкага блізкага краю
Не буду сакрэтаў агучваць
Але адчыняю скрынку
Каб мець пад дзвесце выключных
Паверхні яе фотаздымкаў
Ды тое ўласны вопыт
Нікому паказваць не буду
Прымаю спакой-турботы
Бо ў блізкія веру цуды

* * *

Маўчу часта, кажу рэдка
Слухайце, дзеткі, страшны сакрэт
Папараць-кветка – не папараць і не кветка
Гэта катлетка.
З дзяцінства ўмейце адрозніваць расліны ад катлет.

***ПАЛЬЧАТКІ СА ШКЛАВАТЫ***

Вось са шклаваты пяшчотна-мяккія
Я апранаю свае пальчаткі
На чоўне гойсаць паміж асновы
Тканіна-памяць, ізноў здарова!
Крыві-аздобы трымай нататкі.
Той горад першы быў на ўзгорку
Старыя вежы глядзелі горка
На металічны шкілет чыгункі
Бутэлькі-лялькі ўсіх гатункаў
І над дахоўкай блішчэлі зоркі
Другі быў горад са шкла й бетону
Трымаў фінансаў віры ў палоне
То звер драпежны, то трусік хатні
Каўнерам белым і ўсім астатнім
Дакладна вучыць сваім законам
А горад трэці – крыніц празрыстых
Вядомы ў свеце вадой карыснай
Куды сышліся пенсіянеры
Бы шолах лісця: усё ў меру
У меру ціха, цягуча й чыста

Чацвёрты горад – студэнцкі лагер
Да алкаголю і ведаў прагі
Раскінуў кіпці ўсцяж па даліне
Гадамі грызці, што за хвіліну
Сярод плакатаў адсутнасць страху
Што за вандроўка ды й без Ітакі
Крукі не цяжка круціць сабаку
Прыём прыбыцця, адбой вяртання
У свідравіну час сузірання
За гэты вопыт мы скажам "дзякуй"
Ды на ніводнай з тых тысяч вуліц
Цябе не ўбачыў, ну што за дурасць
Вярнуся ў горад, дзе ты бываеш
Сярод натоўпу хіба пазнаеш?
Хор чужаніцаў мой боль астудзіць
Палова сутак ды без вай-фаю
Свае пальчаткі я апранаю
І са шклаваты на сто адсоткаў
Усе абдымкі – дубцом салодкім
Каго кахаю, тых забіваю
...
Мая Ітака ў няісным краі

* * *

Вакантная праца для прыстасаванца
З вопытам
Інстынкт пасміхацца, далей карыстацца
Попытам
Нашу ўпрыгожванне, у твар скажа кожны:
Ланцуг.
Да восеньскай пожні датупаў не вожык,
Пацук.
Прылівы й адлівы пад фільмы ды піва
Як след.
З пустэчы на дзіва, малюю рупліва
Сусвет.
Жывёлы й расліны, Раман і Аліна.
Чувачь.
Ужо за гадзіну, у гэтай краіне
Не спяць.
Ні жалю, ні скрухі, навушнікі круцяць
Дваіх.
Да зоркі на гукі, калі яе рукі
Ў тваіх.
Ноч перагарнецца і дзень распачнецца
Наноў
А мне давядзецца у іншае месца.
Дамоў.



Валадзімір Даніленка



...для мужчыны шчасце –

гэта калі яму здаецца, што жанчыны,

з якой ён жыве, хопіць да канца жыцця...

# Цені ў маёнтку Тарноўскіх

***Аповесць***

*Пераклад з украінскай Барыса ПЯТРОВІЧА.*

## 1

Карэта загрукатала на мастку, падскочыла на выбоіне вясковай дарогі, гучна прыкрыкнуў ездавы, зафыркалі коні, і ў кішэні Рамана Бэя зазваніў мабільны тэлефон. Яго мажное цела, схаванае пад чорным плашчом, цяжка пагойдвалася.

– Толькі не раніцай, – сказаў у тэлефон Бэй. – Заўтра пасля дванаццатай.

За іх карэтай, прасеўшы на адзін бок, кацілася брычка, а за ёй – воз з музыкамі. Падымаючы пыл, дзіўная працэсія праімчала праз сяло, і ўслед ёй доўга глядзелі дзве вясковыя жанчыны.

– Што гэта такое? – абазвалася высокая жанчына ў чырвоным плашчы. І ў яе вачах застыла здзіўленне.

– Кіно здымаюць, ці што? – перапытала іншая, лузгаючы гарбузікі.

– А можа, якое вяселле?..

За вёскай стаялі чорны «Ролс-Ройс» і белы аўтобус.

Карэта спынілася, дачакалася, калі пад'едуць брычка і падвода, Бэй вылез з карэты, якая хістанулася ад яго вагі, падаў руку Але Рачкоўскай-Швагуляк і крыкнуў:

– Музыкі і акцёры перасаджваюцца ў аўтобус.

Разлічыўся з ездавымі, і ўсе з шумам пачалі злазіць з павозак.

– У Кіеў, – буркнуў Бэй.

І важны «Ролс-Ройс» з доўгім капотам і вялікімі коламі панёсся выбоістым прасёлкам, уздоўж якога цягнулася засохлае і пыльнае пустазелле, за ім – аўтобус, а карэта, брычка і воз з грукатам пакаціліся назад.

Яны ехалі моўчкі пустым гасцінцам. У вокны аўтамабіля зазіралі пажоўклыя дрэвы. У прыадчыненае вакно ўпаўзаў дым гарэлага бульбянішча і нагадваў, што лепшы час года і жыццё скончылася. Пра гэта падумала Ала і заварушылася на сядзенні.

– Ты б закрыла вакно, – сказаў ёй муж. – Яшчэ прадзьме.

Жанчына не адрэагавала на яго словы і спытала:

– Што вы скажаце пра апошняга Тарноўскага[1]?

– Толькі тое, што ён быў калекцыянерам карцін, зброі і жанчын, – адказаў Бэй.

Ён сядзеў каля яе, гарэзна разваліўшыся на заднім сядзенні побач з мужам, бесцырымонна разглядаў ейныя аголеныя поўныя ногі, і яна заўважыла, колькі ў ім непрыхаванай юрлівасці.

– А каго з вядомых жанчын ён унёс у сваю калекцыю? – пацікавілася Ала.

– Калі малодшаму Тарноўскаму было сямнаццаць гадоў, аканом заспеў яго ў ложку са сваёй жонкай. Гэтым аканомам быў Апанас Марковіч, а яго нявернай жонкай – Марка Ваўчок[2]. Марковіч загадаў сабраць рэчы і без тлумачэнняў пакінуў Качаноўку. Старэйшы Тарноўскі спрабаваў усунуць яму ў рукі дзесяць тысячаў расійскіх рублёў, але Марковіч быў ганарлівы і грошай не ўзяў. Пасля гэтага муж і жонка пасяліліся ў Кіеве і жылі ў страшнай галечы. У іх халупе на Куранёўцы[3] была гліняная падлога, а замест дзвярэй вісела коўдра.

– А што, Марка Ваўчок калекцыянавала мужчынаў? – павярнулася да яго Ала і заўважыла, як ажыў Раман Бэй і як бы няўзнак дакрануўся рукою да яе клубоў.

– У гэтым яна была больш паспяховай за калекцыянераў Тарноўскіх, якім жулікі маглі за вялікія грошы прадаць набытыя ў краме срэбныя лыжкі і сказаць, што гэта з кухні гетмана Мазепы. Марка Ваўчок такіх промахаў не рабіла. Ад кожнага чалавека яна брала ўсё, што хацела, а калі яго вычэрпвала, пераходзіла да іншага. Ад Апанаса Марковіча яна ўзяла літаратурны талент і, дзякуючы яму, стала пісьменніцай. Усе яе ўкраінскія творы ў наплыве пачуццяў былі напісаныя Марковічам.

– А хто навучыў яе мастацтву зачароўваць мужчынаў?

– Гэта прыроджанае, – прыціснуўся да яе Раман Бэй нагой, і яна адчула, як ад яго палае нястрымным мужчынскім жаданнем. – У няпоўныя дванаццаць гадоў яе спакусіў айчым, адстаўны унтэр-афіцэр, а ў пятнаццаць яна завабіла Марковіча, рамантычнага маладога чалавека, сасланага

[1] Васіль Тарноўскі (1837-1899) – украінскі памешчык, мецэнат, калекцыянер.

[2] Марка Ваўчок (Марко Вовчок, 1833-1907) – украінская пісьменніца. Сапраўднае імя – Марыя Вілінская. Ракавая жанчына еўрапейскіх літаратурных салонаў. Зрабіла літаратурную кар'еру пры садзейнічанні ўплывовых мужчынаў.

[3] Куранёўка – раён Кіева.

ў Арол за ўдзел у Кірыла-Мяфодзіеўскім таварыстве[1]. Пятнаццацігадовая Марыя ўжо была вопытнай спакусніцай, здольнай ускружыць галаву любому мужчыне. У дваццаць гадоў у яе калекцыі былі ўкраінскія, рускія, польскія, габрэйскія, італьянскія, французскія, нямецкія, ангельскія, іспанскія мужчыны, яны перакладалі яе творы на розныя мовы, уводзілі яе ў літаратурныя салоны, друкавалі захопленыя рэцэнзіі, бралі ў далёкія падарожжы, дарылі брыльянты і сваю жарсць. Марковічу заставалася роля мужа, лёс яго прадказала павітуха, якая прымала роды ў маці. Калі пасля адзінаццатага плескача па срачцы хлопчык запішчаў, пупарэзка паведаміла, што ў малога будзе літаратурны талент і ён памрэ ад няшчаснага кахання. Марковіч пісаў творы ад імя сваёй жонкі, якая ўсё жыццё марыла пра літаратурную славу, і памёр ад сухотаў, якімі яна яго заразіла.

Раман Бэй нахабна навальваўся на Алу, нягледзячы на яе мужа Тадэя Швагуляка, што курыў цыгару і абыякава сузіраў пейзаж за вакном аўтамабіля. Ала адсунулася да вакна, але нага Бэя прыціснулася да яе лыткі, яна адчула, як загарэліся шчокі, і спытала, каб спыніць абурэнне і хваляванне, ад якіх перахапіла дыханне:

– А чаму Марковіч даў ёй такі псеўданім?

– Далёкі продак Апанаса Марковіча быў габрэем Абрахамам, які ў 1656 годзе далучыўся ў дарозе да шведскага пасла Готгарда Велінга, што ехаў з місіяй да Багдана Хмяльніцкага. Абрахам ведаў украінскую і нямецкую мовы і мог спатрэбіцца ў якасці тлумача. Усю дарогу ён скардзіўся на габрэйскія пагромы, што рабілі ва Украіне казакі, а ў Чыгірыне параіў шведу прадаць скрутак дарагога малдаўскага аксаміту і за тыя грошы набыць сабаліныя футры. Але калі ён прынёс абадраныя старыя скуркі, разгневаны пасол прагнаў яго. На наступны дзень Абрахам вярнуў скрутак аксаміту і забраў скуркі. Калі пасол перамераў скрутак, то аказалася, што палову Абрахам адрэзаў сабе, а атрыманыя ад продажу аксаміту грошы выкарыстаў на ліхвярства і дзёр з усіх такі адсотак, што за гэта яго празвалі Ваўком. З таго часу да аднаго з ліхвяровых сыноў, Марка, прыліпла мянушка Ваўчок.

Пасля род Марковічаў разбавіў сваю кроў і стаў украінскай шляхтай. Таму Апанас Марковіч і абраў для жонкі псеўданім Марка Ваўчок, не падазраючы, што ў яго жыцці гэтае імя сыграе злую ролю, бо ператворыць каханую ў ваўчыцу літаратурных салонаў, што дамагаецца прызнання даступным для жанчын метадам – праз уплывовых мужчынаў.

– Хто б мог падумаць, што ў вялікім XVII стагоддзі паміж украінцамі і габрэямі траўляліся такія крывазмяшальныя неспадзяванкі? – з'едліва заўважыў Аляксандр Мендэль.

– А каханне паміж Вінічэнкам[2] і Разаліяй Ліфшыц[3]? – ажыў Бэй, і на яго шчоках выступіла чырвань.

---

[1] Кірыла-Мяфодзіеўскае таварыства – таемная палітычная арганізацыя, якая ўзнікла ў 1845-1846 гадах у Кіеве. Ставіла на мэце знішчэнне царызму і стварэнне дэмакратычнай федэрацыі славянскіх народаў, на чале з Украінай. Па даносе правакатара была разгромленая, удзельнікі зняволеныя, высланыя пад нагляд паліцыі ў аддаленыя куткі Расійскай імперыі, а Тарас Шаўчэнка сасланы ў салдаты ў Арэнбург.

[2] Уладзімір Вінічэнка (1880-1951) – украінскі пісьменнік, палітычны і дзяржаўны дзеяч Дырэкторыі – вышэйшага органа Украінскай Народнай Рэспублікі: украінскай дзяржавы, якая існавала ў 1917-1921 гадах. Пасля паразы ўкраінскай вызваленчай барацьбы эміграваў за мяжу. Памёр у Францыі, у горадзе Мужэн.

[3] Разалія Ліфшыц – жонка Уладзіміра Вінічэнкі, паходзіла з заможнай габрэйскай сям'і.

– Якое там каханне... – агрызнуўся Мендэль. – Гэта толькі яўрэйская жанчына можа так перажываць з-за інтымных праблемаў свайго мужа, каб вадзіць яму дзяўчынак дзеля аднаўлення эрэкцыі.

– Таму Вінічэнка і абраў Разалію Ліфшыц, бо якая ўкраінская жанчына да такога дадумалася б і тым больш тое трывала? – засоп Бэй.

– Усё гэта пыха тагачаснай разбэшчанай багемы, – з халодным здзекам сказаў Мендэль і адвярнуўся да вакна.

Захоплены сваім аповедам і цёплым сцягном Алы, Бэй хацеў распавядаць далей, але яго перапыніў Тадэй Швагуляк:

– Наш аўтобус спыніўся.

Яны азірнуліся і ўбачылі, што аўтобус, які ехаў за імі, стаіць на збочыне, і з яго выходзяць акцёры з музыкамі і штосьці ўзбуджана разглядаюць на дарозе.

– Што там такое? Трэба вярнуцца, – сказаў Бэй.

Кіроўца развярнуўся – і машына пад'ехала да аўтобуса. Мужчыны з жанчынамі збіліся ў кола і штосьці разглядалі.

– Яна жывая? – спытаў жаночы голас.

– Глядзіце – варушыцца.

Ала пралезла праз шчыльнае кола і ўбачыла збітую лісу.

– Гэта мы збілі?

– Я чула, як нешта глуха ўдарылася ў аўтобус, – сказала нейкая бландынка.

– Што будзем з ёй рабіць?

– Хай здыхае, – прабурчаў кіроўца аўтобуса. – Ці мо дабіць і садраць скуру.

– Вы, дзядзька, жывадзёр? – абурылася высокая жанчына.

– Усё роўна здохне, – агрызнуўся кіроўца. – А каўнер быў бы добры.

– Ён заварочвае яе ў куртку!.. – віскнула некалькі жаночых галасоў. – Яна яшчэ пакусае!

Высокі мужчына асцярожна падняў і панёс лісу да аўтобуса. Ала загледзелася на яго спрытныя рукі, якія абдымалі яе ў маёнтку Тарноўскага, але чалавек з лісой на руках не азірнуўся. Усе з шумам зайшлі ў аўтобус, які завуркатаў і рушыў далей, а Аляксандр Мендэль, Ала, Тадэй Швагуляк і Раман Бэй селі ў аўто і паехалі ў Кіеў.

**2**

У дарозе Ала няўважліва слухала Бэя: яна страціла цікавасць да яго аповеду і замкнулася ў сабе. Жанчына думала, што, насуперак запэўніванням Аляксандра Мендэля, гэтая паездка ў маёнтак Тарноўскага нічога не змяніла ў яе адносінах з мужам.

Па дарозе на Прылукі Бэй спытаў:

– Колькі яшчэ да Кіева?

– Кіламетраў сто дваццаць, – адказаў кіроўца.

Бэй кіўнуў галавой і заснуў. Неўзабаве заснуў і Тадэй, і толькі Мендэль думаў пра штосьці сваё.

Ала ўзгадала, як пазнаёмілася з Тадэем Швагуляком. Гэта было дзевяць гадоў таму. Яна ў невялікай жаночай кампаніі святкавала ў рэстаране Новы год. Ёй ішоў трыццаты год. Быў у яе досвед няўдалага шлюбу, які надоўга адвярнуў яе ад мужчынаў. Дзяцей ад першага шлюбу ў яе

не было. Яе былы муж Барыс працаваў у падатковай інспекцыі. Дадому прыходзіў позна, а на выходныя ехаў з сябрамі на паляванне. Яны здымалі аднапакаёвую кватэру на Караваевых Дачах[1], у якой Ала праводзіла час у асноўным адна. Яна працавала ў Інстытуце фальклору і этнаграфіі, і за час шлюбу абараніла дысертацыю аб пахавальных абрадах на Валыні. Грошай на пражыццё не хапала, і яна вяла калонку ў жаночым часопісе.

Усе хатнія клопаты ляжалі на ёй. Барыс мала даваў грошай на побыт і нічым не дапамагаў. Яна сама купляла на базары прадукты, гатавала яму сняданкі і вячэры, а абедаў ён у «Пузатай хаце» каля Бесарабскага рынку. Праз год сумеснага жыцця паміж імі спыніліся інтымныя адносіны, і на другі год мужчына заявіў, што ў яго ёсць іншая жанчына. Развіталіся без сварак. У іх не было дзяцей і агульнай маёмасці. Пасля разводу ў яе жыцці мала што змянілася. Яна зноў хадзіла на рынак, купляла прадукты, гатавала ежу, а выходныя бавіла адна. Двойчы ў тыдзень наведвала Інстытут фальклору і этнаграфіі, астатні час праводзіла ў рэдакцыі жаночага часопіса.

Дык вось – дзевяць гадоў таму яна святкавала Новы год у рэстаране, стылізаваным пад старадаўнюю карчму з віламі, збанамі, карытам, матавілам, вязанкай цыбулі. Падлога была выслана доўгімі стракатымі дыванкамі-дарожкамі, якія кладуць у вясковых хатах. Іх кампанія складалася з пяці жанчын – незамужніх ці разведзеных. Было весела. У карчме гуляла некалькі кампаній. Да іх падышоў вясёлы карчмар, і яны замовілі крывянку, дранікі са смятанай, варэнікі з сырам і скваркамі, блінцы і бутлік слівянкі. Зала была маленькая, а музыка гучная, таму за сталамі стаяў шалёны шум, бо кожны спрабаваў перакрычаць музыку. Неўзабаве алкаголь разняволіў людзей і пачаліся танцы.

Алу запрасіў жвавы мужчына, і яны весела танцавалі пад гучную музыку. Гулянка была ў разгары. Шалелі музыкі. Гучна гупаталі па падлозе мужчыны і пішчалі п'яныя жанчыны, калі Ала ўпала на грудзі свайму кавалеру.

– Прабачце, – пачырванела і паспрабавала ўстаць на ногі, але зноў упала.

– Асцярожна, – падхапіў яе мужчына.

– Я зламала абцас, – Ала паклыпала да свайго століка. Мужчына яе падтрымліваў.

– Чаму вы не танцуеце? – спытала задыханая ад танцаў Аксана. Яна двойчы была замужам і ад кожнага мужа мела па хлопчыку.

– Бачыш? – паказала зламаны абцас.

– Добрыя танцы, – засмяялася Аксана. Яе падхапіў п'яны мужчына і яны закружыліся, прытупваючы нагамі.

– Гэта сімвалічнае падзенне напярэдадні Новага года, – пажартавала Ала.

– Мяне завуць Тадэй, – сказаў чалавек.

– А мяне – Ала.

– Які ў вас памер абутку?

– Трыццаць шосты. Амаль дзіцячы. А што?

– Паспрабую што-небудзь дастаць. Не кінеце ж вы гулянку і паедзеце дадому пад Новы год.

– Якраз так я і збіраюся зрабіць.

– Я ўсё ўладжу, – дастаў з кішэні тэлефон чалавек.

– Паглядзіце на гадзіннік. Хто ў гэты час прадае абутак? І ў мяне з сабой няма столькі грошай. Зараз выклічу таксі...

---

[1] Караваевы Дачы – раён Кіева.

Але ён пачаў набіраць нумар.

– Нікуды не тэлефануйце. Ад вас я нічога не вазьму, – абурылася яна.

– Лічыце, што гэта будзе пракат на адзін вечар за кошт вінаватага, – усміхнуўся Тадэй. – Тут шумна. Я на хвіліну адыду.

Мужчына выйшаў з залы, а праз некаторы час вярнуўся.

– Гулянка працягваецца, – весела сказаў ёй.

Яны пілі спачатку адны, а потым у кампаніі з яе сяброўкамі. Тадэй замовіў ім яшчэ бутлік хатняй наліўкі. За паўгадзіны да Новага года нейкі чалавек прынёс у пакеце вялікую скрынку. Тадэй з ім разлічыўся і падаў скрынку Але.

– Прымерце.

Гэта былі новыя боты.

– Але я не магу іх прыняць, – запратэставала яна.

– Навагодні падарунак за кошт фірмы, якая нанесла вам матэрыяльную шкоду, – смешна надзьмуў шчокі мужчына.

Усю ноч яны святкавалі Новы год, а пад раніцу Тадэй завёз яе на Караваевы Дачы. Запісаў мабільны тэлефон, і праз некалькі дзён яны сустрэліся.

– Скажы, дзе ты ўзяў ноччу новыя боты? – дапытвалася яна.

– Няхай гэта застанецца маёй маленькай навагодняй таямніцай, – загадкава ўсміхаўся ў адказ ён.

У пачатку дзевяностых Тадэеў бацька з Жоўквы[1] пераехаў у Кіеў, зрабіў палітычную кар'еру, купіў дом і перавёз сям'ю. На час іх знаёмства Тадэй быў разведзены. Яго жонка з'ехала на заробкі ў Італію, выйшла там замуж і забрала з сабой дачку. Ён перабраўся з бацькам у Кіеў. Бацька быў на дзяржаўнай службе і не мог займацца бізнесам, таму весці сямейныя справы даручыў Тадэю з маці. Спачатку яны гандлявалі нерухомасцю і мелі некалькі рэстаранаў, а затым Тадэй стаў уладальнікам вінных буцікаў, бо маці паспяхова спраўлялася і без яго.

Яны сустракаліся паўгода і доўга адно да аднаго прыглядаліся. Тадэй быў з грэка-каталіцкай сям'і, дзе паважалі сямейныя каштоўнасці. Яму патрэбна была інтэлігентная жанчына з традыцыйнай украінскай сям'і без савецкіх рудыментаў. Ала была менавіта такой. Таму праз паўгода сустрэч яны пабраліся. Вянчанне адбылося ў грэка-каталіцкай царкве[2] непадалёк ад Львоўскай плошчы. Пасля вяселля Ала перабралася ў яго дом у Кіеве. А праз год у іх нарадзілася дачка, якую назвалі ў гонар Тадэевай маці Насцяй. Дзевяць гадоў яны пражылі, як узорная шчасная сям'я. Займаліся выхаваннем дачкі, у якой выявіліся гуманітарныя схільнасці, і яна вывучала англійскую, іспанскую і французскую мовы.

Пасля шлюбу Ала расквітнела. У свае трыццаць дзевяць гадоў яна выглядала дагледжанай трыццацігадовай жанчынай, і менавіта ў гэты час яна зразумела, што ў яе жыцці не ўсё так бясхмарна, як здавалася.

Упершыню гэта выявілася падчас наведвання опернага тэатра. Яны сядзелі з Тадэем на балеце «Жызэль» у партэры каля пажылой аўстрый-

[1] Жоўква – маленькі горад з вялікай колькасцю архітэктурных помнікаў эпохі Рэнесансу, размешчаны за 35 кіламетраў ад Львова.

[2] Грэка-каталіцкая царква – украінская царква візантыйскага абраду, падпарадкаваная Папу Рымскаму. Існуе з 1596 года пасля падпісання Брэсцкай уніі. Была знішчана Расійскай імперыяй, а ў часы Савецкага Саюза знаходзілася ў падполлі. Храмы царквы знаходзяцца ў многіх краінах свету, дзе жывуць украінцы.

скай пары. Высокі мужчына гадоў сямідзесяці моўчкі трымаў у вялікай далоні руку сваёй прыціхлай жонкі. Ала паглядзела на аўстрыйскую пару, на старога, уся пастава якога выпраменьвала глыбокі ўнутраны спакой. На яго твары было напісана: гэтая пажылая жанчына – самае дарагое, што ёсць у яго. Яна перавяла погляд на Тадэя і заўважыла: у яе мужу не адчувалася ўпэўненасці, што ён жыве менавіта з той жанчынай, з якой ўсё жыццё марыў жыць. І ціха пазайздросціла аўстрыйскай пары, бо зразумела, што гэты балет нагадваў яе з Тадэем сям'ю. То была старая бяздушная школа балета, узрошчанага на муштры і антыэратызме, якія падыходзілі толькі для гераічных спектакляў. У сваіх бледных пачках балерыны нагадвалі аблокі молі. Эмацыйна скаваныя, без найменшых перажыванняў, яны механічна кружылі па сцэне, як заведзеныя лялькі, дэманструючы добрую дрэсуру. Сваёй халоднай манатоннасцю балет выклікаў дрымоту. Час ад часу Алу адольваў сон, яна засынала, скаланалася і глядзела на трапяткое марыва асветленай сцэны. Пасля балета, падаючы ёй у гардэробе кажушок, муж спытаў:

– Табе не спадабаўся балет?

– Я проста страшна стамілася, – адказала яму.

Дома Ала доўга не магла заснуць і думала, што яе жыццё – гэта такі ж пазбаўлены актыўнага жыцця спектакль, у якім кожны абыякава выконвае адведзеную яму ролю. Але ёй падабалася сям'я, дом, дачка, забяспечанасць. Яна хацела жыць з Тадэем, выконваць ролю добрапрыстойнай жонкі, і каб Тадэй Швагуляк пры гэтым зрабіў яе суўладальніцай сваіх грошай і даходаў.

Ала ўжо даўно не атрымлівала задавальнення ад інтымных адносінаў з мужам і вырашыла выпрабаваць усе магчымыя сродкі, каб захаваць сям'ю. Спачатку сваю незадаволенасць прыглушала купляй адзення, потым ездзіла на Куранёўку ў кандытарскую, дзе гатавалі смачныя тарты і пірожныя. Гэта было яе рытуалам. Яна доўга падбірала вопратку, прыязджала на Куранёўку, сядала за пусты столік, замаўляла пірожныя, каву, і гэты прыемны рытуал доўжыўся амаль год, пакуль не заўважыла складкі на жываце. Непрыкметна Ала набрала вагу, і калі на працы калега сказала, што яна паправілася, запісалася ў трэнажорную залу.

Але наступіла восень, пачаліся кароткія дні, стала менш святла, і яна адчула, як у яе душу зноў упаўзае безнадзейнасць і меланхолія. Муж пракансультаваўся з дыетолагам, які параіў есць больш капусты, бананаў, яблыкаў і кітайскага лімонніка.

– Ты зноў пакідаеш на стале шакалад? Я з цяжкасцю скінула пяць кілаграмаў.

– Шакалад прадукуе гармоны радасці, – буркнуў муж.

– Лепш дрэнны настрой, чым складкі на жываце, – незадаволена сказала яна.

Тадэй не шкадаваў грошай, большасць вольнага часу праводзіў у сям'і, раіўся, калі ўзнікала складаная сітуацыя на працы. Аднак Ала бачыла, што ўжо даўно не хвалюе мужа як жанчына. І калі аднойчы падчас інтыму ён абмяк і доўга не мог прыйсці ў сябе, а потым гэта стала паўтарацца штораз, яна наважылася сказаць, што ім неабходныя змены ў адносінах, каб захаваць сям'ю. І Тадэй прапанаваў запісацца да моднага кіеўскага псіхатэрапеўта Аляксандра Мендэля, які вырашаў такія праблемы. Ён прымаў наведвальнікаў у сваім доме на Старавакзальнай.

## 3

Мендэль аказаўся сталым мужчынам з вялікімі залысінамі і кіслай усмешкай, што надавала ягонаму абліччу выгляд стомленага жыццём прафесара. Ён жыў у тыповай кіеўскай сталінцы з высокімі столямі і маленькімі балкончыкамі. Пасля знаёмства Мендэль правёў іх у свой кабінет.

– Сядайце, – паказаў на крэсла і сеў насупраць. – Калі я працую з сямейнымі парамі, то прымаю па адным. Зараз мы з вамі дамовімся аб сеансах на гэты тыдзень, а далей будзем вырашаць гэта ў тэлефонным рэжыме.

– А сёння? – пацікавіўся Тадэй.

Ала моўчкі назірала за паводзінамі Мендэля, які, здавалася, быў паглынуты размовай, а не аглядам іх.

– Спачатку сфармулюйце, як вы бачыце сваю праблему. Што, уласна, вас да мяне прывяло?

– Ведаеце, – закруціўся ў крэсле Тадэй Швагуляк, – у нас з жонкай ёсць усё: дзіця, дом, грошы, але няма, як бы вам дакладней сказаць, смаку да жыцця.

Ад нечаканасці, што ён знайшоў дакладныя словы, Тадэю ажно перахапіла дыханне і яму стала няёмка за сваю шчырасць перад Алай. Ён пачырванеў, але хутка агоўтаўся.

– А што пра гэта скажаце вы? – звярнуўся да яе Мендэль. – Жанчыны заўсёды бачаць прычыну канкрэтней.

– Мне няма чаго дадаць, – адказала яна. – Муж сказаў усё вельмі дакладна. Мы хочам жыць разам, але, акрамя дзіцяці і жадання, у нас няма іншых прычынаў, каб захаваць сям'ю.

– Дзіця і жаданне – гэта ўжо нешта, – прамармытаў Мендэль.

– Але гэтага недастаткова, – разгублена паўтарыла ўслед за ім Ала.

У кабінеце стала ціха, толькі было чуваць, як за вакном крапае дождж.

– Для пачатку я прапаную, каб кожны з вас успомніў, калі ўпершыню адчуў, што вашыя адносіны страцілі прывабнасць і загадкавасць, – хруснуў пальцамі Аляксандр Мендэль. – Але не абавязкова распавядаць. Важна, каб вы высветлілі для сябе, калі гэта адбылося.

Ала ўспомніла ўсё з дакладнасцю да аднаго дня. Гэта было на восьмы год іх сямейнага жыцця. Яны сядзелі за навагоднім сталом. Насцечка ўжо спала. І калі секундная стрэлка скокнула ў Новы год і за вакном заляскалі і зашыпелі святочныя салюты, яны радасна выпілі шампанскае, і тады Ала спытала:

– Ты восем гадоў хаваў ад мяне, дзе ўзяў боты ў карчме на бульвары Лесі Украінкі, калі я зламала абцас. Ты падаўся мне тады добрым чараўніком. Як ты гэта зрабіў?

Муж наклаў сабе ў талерку крэветак і, вылузваючы іх з панцыраў, распавёў:

– У маёй фірме ёсць Мірась, малады менеджэр з сяла Вялікія Прыцкі за Кагарлыкам. Ён купляе, каму трэба, падарункі на дзень нараджэння. Калі ты зламала абцас, я набраў яго нумар і кажу: «Мірасю, хочаш за дзве гадзіны зарабіць тры тысячы грыўняў?» А ён з нейкай дзяўчынай збіраўся святкаваць Новы год. «Ужо позна, – кажа мне. – Я сяджу за навагоднім сталом». Пяць тысяч, кажу, табе за працу, акрамя кошту ботаў, і дзве тысячы прадаўцу за навагоднія клопаты. Назваў нумар абутак, паўнату.

Ён знайшоў прадавачку, выцягнуў яе з хаты, купіў боты і прывёз у кабак. Як бачыш, усё вельмі проста.

Ала паглядзела на яго тоўстыя пальцы, якімі ён лушчыў крэветак, на задаволены твар і бліскучыя губы, і пашкадавала, што спытала пра гэта. Так знікла загадка іх знаёмства, на якой трымаліся першыя і самыя глыбокія сімпатыі да мужа. І зразумела, што не варта было раскрываць гэты маленькі сакрэт, бо адносіны мужа і жонкі становяцца руцінным тады, калі паміж імі знікаюць непрадказальнасць і загадка. У тую навагоднюю ноч у ёй нешта зламалася, і Тадэй стаў ёй абыякавым. А потым заўважыла, што пазбягае інтымнай сувязі з ім і, як да мужа, страціла да яго ўсялякую цікавасць. Яна была не з тых жанчын, якія шукаюць забаваў, каб кампенсаваць нішчымнае інтымнае жыццё. У Алы хапала хатніх клопатаў і праблемаў, звязаных з выхаваннем дачкі. Яна ўмела стрымліваць свае жаданні, бо ведала значна горшага мужчыну, які прыходзіў дадому ўначы з пахам гарэлкі і танных жаночых духоў, падаў у ложак, раніцай знікаў, а на выхадныя ехаў з сябрамі на паляванне. Сацыяльна яе цалкам задавальняў цяперашні муж. І ўсё ж думка пра тое, што да канца дзён давядзецца адмовіцца ад яркіх эратычных перажыванняў і бурнага інтымнага жыцця выклікала ў яе панічны страх і адчай. Яна была не настолькі свабоднай у гэтай нестабільнай краіне, дзе стабільнымі былі толькі галеча і прорва, якая падзяляе багатых і бедных людзей, у краіне, якую маглі разбурыць сацыяльныя катаклізмы або паглынуць суседняя Расея, ад якой Украіна ніяк не магла канчаткова вызваліцца. Як большасць жанчын, яна баялася адзіноты, старасці, безграшоўя, хваробаў, маладых і нахабных жанчын, якія лічылі, што няма чужых мужчынаў, а ёсць мужчыны, якія часова належаць іншым жанчынам, таму Ала даўно падладзілася пад Тадэя, а ён – пад яе. У трыццаць дзевяць гадоў яна была занадта мудрай, каб ставіць сваё інтымнае жыццё вышэй за свае страхі. І ўсё ж менавіта яно яе найбольш непакоіла.

Кожны вечар, калі клалася з кнігай у ложак, а потым, пачытаўшы перад сном, тушыла святло, некаторы час ляжала з заплюшчанымі вачыма і прыслухоўвалася да роўнага дыхання мужа, які спаў, думала: калі нарэшце пройдзе яе адчай, і яна перастане зважаць на свой бязрадасны шлюб.

Тадэй Швагуляк паглядзеў на Алу і ўспомніў, калі ўпершыню адчуў, што яна яго больш не хвалюе як жанчына. Гэта здарылася падчас паездкі ў Польшчу. Яны ехалі на аўтамабілі з Кракава ў гарадок Крыніца ля падножжа Бескідаў, паблізу славацкай мяжы. І гэтая настальгічная турыстычная паездка па старажытнай Лемкаўшчыне, якая ўжо ніколі не будзе ўкраінскай, стала пераломнай у іх адносінах. Была сярэдзіна чэрвеня. За вакном праплывалі зялёныя горы, пакрытыя далікатнай смугою. Дарогі былі падобныя да ўкраінскіх, і толькі польскія радыёстанцыі нагадвалі пра тое, што яны не дома. У мястэчку было шмат драўляных дамоў, якія мелі ўласныя назвы. Яны спыніліся ў віле «Вітольдуўка», пабудаванай яшчэ за аўстрыйскімі часамі. Насупраць працякала замураваная ў каменныя берагі міленькая рачулка Крынічанка, якую летам мог перайсці і верабей, але значна чысцейшая за раку Свінню, што цякла праз Жоўкву. І Тадэй быў непрыемна здзіўлены неахайнасцю сваіх землякоў у параўнанні з крынічанамі. За некалькі гадзінаў яны абышлі з Алай усю Крыніцу з фантанчыкамі і кветнікамі. Усе кветнікі былі ў форме кошыкаў, ваз, лебедзяў. Недалёка ад кветніка ў выглядзе жабы яны ўбачылі бронзавага

Нічыпара з сабакам і надпісы на польскай мове і лемкаўскай гаворцы. Ён папрасіў нейкую жанчыну сфатаграфаваць іх з Алай ля помніка Нічыпару, і жанчына, віхнуўшы лёгкай сукенкай, па-лемкаўску спытала:

– Шчо мам робыты?

– Вось тут прашу, пані, націсніце – паказаў ёй.

Калі падаваў фотаапарат і дакрануўся да яе поўнай рукі, па яго целе прабег ток, аж на руках падняліся валасы. Адчуў нястрымнае памкненне да гэтай жанчыны, якая выпраменьвала грубую сэксуальную энергію. Ён абняў Алу ля бронзавага Нічыпара, а сам прагна разглядаў незнаёмку з мястэчка ці нейкай лемкаўскай вёскі. Жанчына ўзяла фотаапарат, адкінула ад вачэй пасму валасоў, і ён убачыў, колькі пачуццёвасці ў кожным яе жэсце, быццам яна запрашала да больш блізкага знаёмства. Пад яе лёгкай сукенкай бачыліся цяжкія клубы і грудзі, а на загарэлым твары блукала белазубая ўсмешка. Незнаёмка была добрая ў сваёй жаночай сталасці, як спелая груша, што аж пырскала сокам. Да помніка падбегла крываногая прыблудная сучачка, і жанчына прагнала яе гуллівым жэстам:

– Ідзі на зламанне шыі, жаба цяжарная!

Сучачка адбегла прэч, жанчына націснула на кнопку, і Тадэй папрасіў яе зрабіць яшчэ некалькі здымкаў. Калі яна вяртала фотаапарат, паглядзела на яго так адкрыта, што ад хвалявання Тадэй забыўся ёй падзякаваць. Толькі пачырванеў і кіўнуў галавой.

Абхадзіўшы ўвесь горад, яны наведалі музей Нічыпара Дроўняка[1], недалёка ад якога чалавечак з храшчаватымі вушамі за восемсот злотых спрабаваў прадаць ім гарадскі пейзаж на жоўтай паперы, выдаючы яго за малюнак Нічыпара. Тадэй хацеў купіць, але Ала яго адгаварыла.

– Ты паглядзі, як у яго бегаюць вочкі, – зашаптала яна. – Няўжо думаеш, што ў мужчыны з такімі вачыма могуць быць малюнкі Нічыпара?

Пасля вячэры і прагулкі па Крыніцы яны вярнуліся на вілу «Вітольдуўка», ляглі ў ложак, і Тадэй злавіў сябе на тым, што думае пра незнаёмку. Калі ўявіў яе голай, у яго натапырылася плоць, і яны пачалі з Алай кахацца, але ад таго, што ён думаў пра лемкаўскую жанчыну, хутка абмяк і не змог нічога з сабой зрабіць. Ала доўга круцілася, а калі заснула, ён ляжаў у гасцінічным нумары, думаў пра незнаёмку, дакранаўся рукой да ўзбуджанай плоці, пакуль за вокнамі не пачала днець кволая раніца, а потым праваліўся ў стомлены і цяжкі сон.

Тадэй перапыніў успаміны, развітаўся з Аляксандрам Мендэлем. Яны з Алай выйшлі з яго дома, селі ў машыну і паехалі дахаты. Усю дарогу Тадэй фізічна адчуваў прысутнасць незнаёмкі з Крыніцы – яе цяжкія клубы, лемкаўскі гоман і адкрыты позірк назаўжды разбурылі іх з Алай сямейную ідылію.

## 4

Праз дзень Ала патэлефанавала Аляксандру Мендэлю і дамовілася пра сустрэчу. Яны ўбачыліся пасля абеду ў яго кватэры на Старавакзальнай. Толькі цяпер Ала заўважыла, што самай яскравай адметнасцю яго быў

---

[1] Нічыпар Дроўняк (1895-1968) – украінскі мастак-прымітывіст, што жыў на гістарычных землях Лемкаўшчыны, якія адышлі да Польшчы. Яго творчасць стаіць у адным шэрагу з такімі майстрамі, як Ніка Пірасмані, Фрыда Кало, Анры Русо, Марыя Прымачэнка.

вялікі варонін нос. Мендэль быў у доўгім турэцкім халаце, з-пад якога тырчэлі бледныя ногі, парослыя рудымі валасамі. Ён закінуў нагу на нагу і пагойдваў сваёй кашчавай ступнёй у вялікім пантофлі. Пахрустваючы доўгімі пальцамі, ён спытаў:

– На якой мове з вамі гаварыць?

– На ўкраінскай.

– Добра, – падбіраючы словы, сабраўся з думкамі Мендэль.

Адчувалася, што звычайна ён гаварыў па-руску, бо ад кожнага вымаўленага слова ў яго тонкай шыі выступалі жылы.

– Мы будзем сустракацца з вамі тры разы на тыдзень. Адна сустрэча будзе працягвацца пяцьдзясят хвілінаў.

– А чаму не шэсцьдзясят?

– Так прынята, – адказаў Мендэль. – Для зручнасці вы можаце легчы на канапу.

– Навошта?

– Каб не глядзець мне ў вочы.

– Вы будзеце пытацца нешта непрыстойнае?

– Забудзьцеся гэтае слова, – хітнуў пантофлем Мендэль. – Давайце ўспрымаць усё, што было ў вас не як нешта прыстойнае ці непрыстойнае, а як вашае асабістае жыццё.

– А як доўга будзе ўсё гэта працягвацца? Я маю на ўвазе сустрэчы з вамі?

– Адкуль я ведаю? Год, два, тры, – хруснуў пальцамі Мендэль. – А можа, і больш. Гэта як дарога для падарожніка. Адны праходзяць яе хутчэй, іншыя – даўжэй. Усё залежыць ад вас. Такім чынам...

– Вы настойваеце, каб я ўсё ж легла?

– Так будзе лепш.

Ала прытрымала рукой спадніцу і асцярожна легла на канапу, а Мендэль сеў у галаве. Аднак напружанне не праходзіла. Яе раздражняла тое, як Мендэль з цяжкасцю падбірае словы.

«Хай бы ўжо гаварыў па-руску, – падумала, папраўляючы спадніцу, але раздражнёна адагнала гэтую думку. – Я яму плачу сто еўра за сеанс. Чаму я павінна перад ім запабягаць?»

На імгненне ёй падалося, што ён угадаў яе думкі, бо нервова захрускацеў пальцамі і пакрыўджана засоп.

– Як у дрэва ўсё пачынаецца з каранёў, так у чалавека поспехі і паразы трэба шукаць там, дзе закапаная ягоная пупавіна, – ажыў Мендэль і злавіў моўную хвалю, нібыта яго адпусціла. – Усе нашыя праблемы схаваныя ў той бесклапотнай часіне нашага жыцця. Успомніце, скуль вы сябе ўпершыню памятаеце. Што вас тады больш за ўсё ўразіла?

– Я нарадзілася ў Скамарохах пад Жытомірам, – пачала свой аповед Ала. – Мой бацька быў сельскім кінамеханікам, а маці – вагаўшчыцай на вагавой. Першыя мае ўспаміны звязаныя з фільмам, у якім мужчына цалаваўся з жанчынай. Я не ведаю, што гэта быў за фільм. Памятаю толькі, што сядзела ў мамы на руках у поўнай зале. Таты каля нас не было. Ён круціў фільм дзесьці ў канцы залы, вызіраючы да нас праз маленькае вакенца. Я глядзела, як горача цалуюцца мужчына з жанчынай, як узбуджана блішчаць у цемры маміны вочы, і была зачараваная гэтым відовішчам: тварамі на ўвесь экран мужыны і жанчыны, іх доўгім і гарачым пацалункам і тым, з якім захапленнем, затаіўшы дыханне, глядзела на іх мама. Я адчула, як варухнулася ўва мне нейкае незразумелае пачуццё, падобнае на зайздрасць

або крыўду. Гэтае пачуццё было скіраванае на маму і на тых мужчыну з жанчынай, якія так апантана цалуюцца. Абурэнне разрасталася, быццам ува мне пачала распускацца вялікая чорная кветка, і яе пялёсткі закрывалі мне горла, таму я гучна закрычала.

– Маўчы! Чаго ты? – гладзіла мяне мама.

Але мой крык стаў такім дзікім, што яна вымушаная была вынесці мяне з залы да таты. У апаратнай трашчала кінапракатная машына і круцілася вялікая шпуля са стужкай. Я супакоілася і пачала разглядаць тату, пучок святла, што струменіўся ў вакенца, металічныя скрынкі з кінастужкамі на падлозе.

– Бачыш? – падняла мяне мама да вакенца.

На экране я ўбачыла мужчыну, які нёс жанчыну да ложка, а яна, гледзячы яму ў вочы, штосьці казала. Ад убачанага я закрычала яшчэ мацней, мяне аж затрэсла, быццам у попку ўкусіла аса.

– Нясі яе дадому, – папрасіў бацька, перамотваючы вялікую шпулю са стужкай.

Гэта было першае ўражанне ў маім жыцці, якое назаўжды ўрэзалася ў памяць.

– А што вы запомнілі яшчэ з ранняга дзяцінства?

– Пасля гэтага ў маёй памяці быў правал, – сказала Ала, – быццам я заснула. А наступны эпізод памятаю з часу, калі ўжо добра хадзіла. Не ведаю, колькі мне было гадоў. Можа, тры ці крыху больш. Аднойчы мама павезла мяне ў горад. У аўтобусе было шмат людзей, і нейкі чалавек саступіў маме месца. Яна села і ўзяла мяне на рукі, а я глядзела, як за вакном праскоквалі легкавыя аўтамабілі, тыцкала пальчыкам у вакно і радасна крычала:

– Мама, на тую машынку сядзем! На тую! І на тую!

– Гэтая дзяўчынка свайго не ўпусціць, – сказала поўная цётка, якая сядзела побач.

Мы прыехалі на Жытні рынак, і мама адразу пацягнула мяне за руку да аўталаўкі. Вакол штурхаліся і крычалі людзі. Я не бачыла, што прадавалі.

– Паглядзіце за маёй дзяўчынкай? – папрасіла мама нейкую вясковую жанчыну. – Я зараз вярнуся.

– Толькі нядоўга, – крыкнула жанчына.

Мама кінулася ў натоўп, які штурхаўся каля аўталаўкі, і яе рука з грашыма, як залатая рыбка, затрапятала над чалавечымі галовамі. У тыя гады не хапала ежы і добрага адзення. Краіна рыхтавалася да вайны з усім светам, і ўсе сродкі выдаткоўвала на ўзбраенне, шпіёнскую дзейнасць і падтрымку прасавецкіх рэжымаў. У гастраномах быў набор самых неабходных прадуктаў, а ў крамах з адзеннем віселі доўгія шэрагі кухваек і балоневых куртак. Краіна нагадвала вялікі канцлагер з аднолькава апранутымі людзьмі, а з тых, хто апранаўся лепш і з густам, кпілі і называлі іх стылягамі. Зрэшты, што я вам пра гэта распавядаю? Вы самі ўсё добра ведаеце. Таму я стаяла ля вясковай жанчыны і чакала маму. Яна выскачыла, растрапаная і расхрыстаная, з чалавечага натоўпу каля аўталаўкі і працягнула мне маленькія чаравічкі, чырвоныя, у белы гарошак. Яны былі такія добрыя, што я ўпершыню ўзрадавалася ад таго, што буду іх насіць. Дагэтуль мне было ўсё роўна, у што я абутая і апранутая. А менавіта з гэтых чаравічак ува мне прачнулася свядомасць маленькай жанчыны, я адчула, што мая сутнасць у тым, каб прыцягваць да сябе ўвагу мужчынаў. Мама дастала з сумкі мяшок, паставіла на яго чаравічкі і абула мне.

– Якраз, – узрадавалася яна. – Ты падобная ў іх да маленькага мухаморчыка.

Мне ажно дыханне перахапіла – такія яны былі добрыя.

– Трошкі завялікія, – памацала мама мой вялікі палец, – але навосень будуць якраз. Ну, пойдзем. Нам трэба яшчэ шмат усяго набыць.

Мама схавала чаравічкі ў сумку і пацягнула мяне за руку, а я бегла за ёй. Мяне распірала ад радасці, што ў мяне такія цудоўныя чаравічкі. Мы перайшлі трамвайныя пуці, і калі бразнуў трамвай, я павярнула галаву і застыла ад таго, што ўбачыла. Мая рука выпала з мамінай рукі, а я глядзела, як на лаўцы пад вярбой прагна цалуюцца хлопец і дзяўчына. Ён цалаваў яе ў вусны, вочы, а яна падстаўляла доўгую шыю, цёмныя валасы і плакала. І ў тым было столькі незразумелага мне адчаю, пяшчоты і жарсці, што я зачаравана глядзела на іх, пакуль мама не тузанула мяне за руку. Хлопец быў стрыжаны і ў чорнай кухвайцы, а крыху далей я ўбачыла групу гэтакіх жа пастрыжаных хлопцаў у кухвайках і з заплечнікамі. Каля іх іграў гарманіст, плакалі жанчыны, і палілі вайскоўцы. Мама пацягнула мяне за руку далей, а я ўсё азіралася і азіралася на хлопца з дзяўчынай, якія не маглі адарвацца адно ад аднаго. У той момант у маім дзіцячым сэрцы прарасла дарослая зайздрасць да цёмнавалосай дзяўчыны пад вярбой. Тады я захацела памяняць сваё бесклапотнае дзяцінства на жыццё маладой жанчыны. У той час я нават не магла гэтага растлумачыць так, як цяпер вам расказваю, але менавіта тады ўпершыню адчула, кім я хачу быць – дарослай жанчынай.

Ала змоўкла і прыслухалася. Было чуваць, як цікае ў серванце гадзіннік. Ёй здавалася, што прайшло шмат часу, і Аляксандр Мендэль, слухаючы яе, задрамаў, але ён заварушыўся і спытаў:

– У вас было суро...? Выбачайце, – далікатна пракашляўся, – у вас было строгае выхаванне?

– Бацькі выхоўвалі мяне па старасвецкіх звычаях, у строгай любові. З дзяцінства ў мяне было ўсё неабходнае. Была накормленай, апранутай, мела цацкі, дзіцячыя кніжкі. Але заможным маё дзяцінства цяжка назваць. Я мела не больш і не менш як добрапрыстойную ўкраінскую сям'ю. Бацькі кантралявалі маё навучанне. У канцы тыдня я прыходзіла з дзённікам да мамы, і яна глядзела мае адзнакі. Зрэшты, з вучобай я не давала ім асаблівых клопатаў. Я мела добрую памяць і была старанная. Мне цяжка даваліся дакладныя навукі, але я старалася. Апроч таго, я падабалася настаўнікам сваёй памяркоўнасцю, ахайнасцю і педантызмам. І вось у сёмым класе ў нас з'явілася новая настаўніца хіміі і біялогіі, і гэтая старая панна з Жытоміра мяне неўзлюбіла. Я не магла зразумець, што менавіта ўва мне яе так раздражняла. Але ці ёсць рэальныя прычыны чалавечых сімпатый і антыпатый? Я не была ёй канкурэнткаю і нічога дрэннага гэтай настаўніцы не зрабіла. Аднак яна да мяне няроўна дыхала. Упершыню за сем гадоў навучання ў мяне з'явіліся тройкі, якія шакавалі не так мяне, як маіх бацькоў.

– Што гэта такое?! – крычала мама, трасучы табелем. – Ты ёю цешышся, распавядаеш усім, якая файная і разумная дачка, а яна!.. У гэтым годзе прынесла дзве тройкі ў табелі! А ў наступным – дзіця ў пялёнках?! Дык кідай ужо школу, выходзь замуж і ідзі ў Жытомір вуліцы падмятаць! Знайдзі сабе такога, як сама, які праз пару гадоў сап'ецца, сцягаецца, а ты будзеш вывадак дзяцей за сабой вадзіць! Састарэеш, зносішся! Каму ты пасля гэтага будзеш трэба?

Я зачынілася ў сваім пакоі і горка плакала на канапе, а мама за дзвярыма пералічвала доўгі шэраг прафесій, што чакаюць мяне пасля школы, сярод якіх найбольш крыўднымі былі санітарка ў псіхбальніцы і асенізатар грамадскіх прыбіральняў. Тата спрабаваў яе супакоіць, казаў, што я выпраўлю гэтыя тройкі.

– Куды яе такую возьмуць? – крычала мама. – У Гуйву[1] ці г...но вычышчаць!

У восьмым класе неверагоднымі намаганнямі я выправіла тыя тройкі, вызубрыла хімію і біялогію так, што сніліся сны, у якіх я каля дошкі рашала хімічныя задачы. Гэтыя кашмары на хімічную тэму перасталі мне сніцца толькі пасля таго, як я нарадзіла дзіця.

– Скажыце, а вы закохваліся ў школе?

– Якраз тады, калі ў табель паставілі дзве тройкі, мне падабаўся Віктар Ходас. Ён быў на год старэйшы за мяне. Высокі такі, спартыўны хлопец, некалькі разоў танцаваў са мной на школьных дыскатэках і нават праводзіў дадому. Але тады мяне так запалохала мама, што я баялася аддацца сваім пачуццям. Я была валявой і ўмела сябе трымаць у руках, таму ў школе мяне лічылі ганарыстай. Я пазбягала вясковых дзяцей, была ўся ў кнігах і сваіх фантазіях. Бацькі ўбілі мне ў галаву, што вёска – гэта такое месца на зямлі, дзе паміраюць апошнія надзеі, таму я душыла ў сабе ўсе інстынкты, нават калі яныірваліся на волю, распіраючы школьную сукенку, пад якой ужо наліліся жаночыя формы.

Ала змоўкла і слухала, як цяжка дыхае, паглыбіўшыся ў свае думкі, Аляксандр Мендэль.

– Ну, што ж, – азваўся ён, – для пачатку досыць. Давайце з вамі дамовімся, што сустракацца будзем у адзін час. У панядзелак, сераду і пятніцу ў пятнаццаць трыццаць. Пастарайцеся не спазняцца і не прапускаць свае дні. Ад гэтага будзе залежаць, як паспяхова мы вырашым вашую праблему.

Мендэль правёў Алу ў калідор, і калі зачыняў за ёй замок, дзверы рыпнулі так, быццам у іх грудзях з палёгкай уздыхнулі металічныя лёгкія.

## 5

Тадэй Швагуляк ляжаў на канапе і думаў, што гэтыя сеансы вельмі недарэчныя, прынамсі, цяпер, калі на працы патрэбны асаблівы кантроль. У яго вінных буціках было сабрана да двух тысячаў гатункаў украінскіх, грузінскіх, італьянскіх, французскіх, іспанскіх, нямецкіх, венгерскіх, амерыканскіх, чылійскіх, аўстралійскіх, новазеландскіх, паўднёваафрыканскіх вінаў. Ён пашыраў сетку буцікаў, але не хапала прадаўцоў, якія маглі б цікава распавядаць і зававбліваць пакупнікоў калекцыянаваннем дарагіх вінаў. Падумаў, што было б нядрэнна наняць у прадаўцы паэтаў, якія маглі б метафарамі распальваць калекцыйныя жарсці пакупнікоў. Але да рэальнасці яго вярнуў голас Аляксандра Мендэля:

– Мы ўзгаднілі з вамі дні – панядзелак, серада, пятніца ў васямнаццаць. За прапушчаны сеанс вам усё роўна давядзецца плаціць, таму я параіў бы вам іх не прапускаць.

– А ў чым заключаецца мая і вашая ролі?

[1] Гуйва – псіхбальніца пад Жытомірам.

– Вашая роля заключаецца ў тым, каб распавядаць, а мая – слухаць, – усміхнуўся Мендэль.

– Як хутка я павінен вам усё расказаць?

– Думаю, у вашым мінулым ёсць не толькі райскія сады, але і мінныя палі, таму не буду вас падганяць, – хруснуў пальцамі Мендэль.

– Калі я мушу разабрацца ў сабе сам, – працягваў Тадэй, – дык я так да канца і не зразумеў вашае ролі.

– Калі вы глядзіце спектакль, вы бачыце толькі тое, што на сцэне. Сцэна – гэта вашае мінулае. Я дапамагу вам пракрасціся за кулісы і паказаць тыя механізмы, якія прымушалі іх рухацца і апускаць новыя дэкарацыі. Словам, раскрыю тое, у чым вы не маглі прызнацца нават самому сабе.

На імгненне Тадэю здалося, што ён страціў сувязь з папярэдняй размовай і не разумее, чаго ад яго хочуць. Мендэль злавіў яго адсутны погляд і паспрабаваў знайсці дзеля тлумачэння іншы вобраз:

– Уявіце сабе, што вы спускаецеся ў люльцы, у якой мастакі фарбуюць сцены, міма вокан кватэр высокага дома. Вы зазіраеце ў кожнае вакно і расказваеце, што там бачыце. Вакно кожнага паверха – гэта вашае мінулае. Чым ніжэй вы апускаецеся ў люльцы, тым даўнейшыя ўспаміны бачыце ў вокнах дамоў. Бо тое, што хвалявала вас у дзяцінстве, на самой справе працягвае хваляваць і сёння. Вашыя першасныя эмоцыі і адчуванні развіваюцца менавіта ў такім кірунку, ад ніжняга паверха да апошняга. Мы будзем успамінаць да таго часу, пакуль у мінулым не з'явіцца першапрычына вашых сённяшніх праблемаў.

– Можаце лічыць, што вы мяне пераканалі, – нецярпліва варухнуў нагой Швагуляк. – Давайце пачнем.

Аляксандр Мендэль замоўк. Якую хвілю ён нагадваў азяблага мужчыну на беразе рэчкі, які распрануўся і не адважваецца ўвайсці ў халодную ваду.

– Якія дзяўчынкі вам падабаліся ў школе? – нарэшце спытаў ён. – Чым яны вас прываблівалі?

– Я нарадзіўся ў Жоўкве, у трыццаці пяці кіламетрах ад польскай мяжы, – пачаў свой аповед Тадэй Швагуляк. – Знешне Жоўква была мала сапсаваная савецкай уладай і выглядала амаль, як на акварэлі Кронбаха[1]. З дзяцінства я ведаў, што жыву ў ідэальным горадзе эпохі Рэнесансу. Мы жылі ў шэрым доме каля драўлянай царквы Святой Тройцы, пабудаванай на сродкі прыхаджанаў і каралевіча Канстанціна Сабескага, якая адразу кідаецца ў вочы, калі ўязджаць у Жоўкву з боку Львова. Мая маці з Жоўквы, а бацька – з Макроціна. Яны абодва настаўнічалі ў першай сярэдняй школе. Маці выкладала ўкраінскую мову і літаратуру, а бацька – матэматыку. Я быў паслухмяным настаўніцкім хлопчыкам, што з першага класа ва ўсім павінен быць лепшым за іншых. Мая сям'я з моцнымі нацыянальнымі традыцыямі не магла дазволіць сабе мець няўдалае дзіцё, таму з першага класа я быў выдатнікам, а калі некалькі разоў у мяне з'яўляліся дрэнныя адзнакі, бацькі перажывалі гэта як сямейную драму. Яны былі заўсёды ўпэўненыя, што я нічога дрэннага зрабіць не магу. І я стараўся ні ў чым іх не расчароўваць. Калі згадваю, на чым трымалася маё сямейнае выхаванне, то думаю, што не апошнюю ролю ў ім сыграла рэлігійнасць маіх абодвух дзядоў і бабуль. Мае бацькі былі таксама рэлігійнымі, але ўжо не такімі, як іх. Я сказаў бы, што яны – сучасныя людзі, якія мяркуюць, што

[1] Эмануэль Кронбах – мастак XVIII ст.

чым складанейшы чалавек, тым больш цяжкі і індывідуальны яго шлях да Госпада. А царква ў такіх выпадках больш падыходзіць для простага народа. Прынамсі, так сказаў аднойчы мой бацька. І вось у такой сям'і, дзе спавядалі культ поспеху, фармаваліся мае першыя ўяўленні пра жанчын. Вуліца, вядома, таксама адыгрывала сваю ролю, але меншую, чым сям'я. У савецкія часы ў Жоўкве ваенных было больш, чым цывільных. У тыя гады горад ператварылі ў базу ракетных войскаў. Дзеці рускіх, якія служылі ў Жоўкве, прыкметна адрозніваліся ад украінскіх дзяцей не толькі мовай, але і поглядамі на жыццё. Рэлігійнасць нават у такім сучасным выглядзе, як у маіх бацькоў, стварала больш абмежаванняў у паводзінах, чым у сем'ях без рэлігійных традыцыяў.

У школе я любіў назіраць, як дзяўчынкі гулялі ў «клеткі». Яны скакалі на сваіх тонкіх ножках і кідалі пушачкі з-пад гуталіна, напоўненыя зямлёй, на квадрацікі, накрэсленыя крэйдай на асфальце. У дзяўчынак былі касічкі з банцікамі, і пахлі яны па-іншаму, не так, як хлопчыкі. Але далей назіранняў за дзяўчынкамі ў мяне не заходзіла. Я саромеўся размоваў хлопчыкаў, якія намякалі, што ў дзяўчынак паміж ног усё не так, як у нас.

– У дзяўчынак ёсць маленькая дзірачка, – сказаў мне неяк на перапынку Юрка Басюра. – І калі яны пішчаць, дык хочуць, каб яе памацалі.

Я быў уражаны адкрыццём, якое зрабіў мне Басюра, і, прыглядаючыся да дзяўчынак на ўроках фізкультуры, заўважыў, як выпінаецца ў іх пад трыко маленькі грудок з выямкаю. Асабліва мне падабаліся смелыя і нахабныя дзяўчынкі, якія маглі парушаць законы, устаноўленыя дарослымі.

Напачатку сёмага класа я неяк апынуўся на беразе рачулкі Свіння, якая працякае праз горад. Кажуць, Свіння атрымала такую назву пасля таго, як туды зваліўся п'яны расійскі імператар Пётр І, рэзідэнцыя якога была ў Жоўкве падчас Паўночнай вайны. Дык вось, пасля ўрокаў я стаяў на мастку і глядзеў на рачулку. Мой дзед расказваў, што некалі тут вадзілася стронга і вада была такой чыстай, што яе можна было піць прыгаршчамі. Цяпер вада Свінні была мутнай і смярдзючай, а берагі параслі крапівой. І рачулка стала такая маленькая, што цераз яе можна пераскочыць. Яна працякала праз гарадскі парк пад мастком, на якім я стаяў.

У гэты час недалёка ад мяне спынілася дзяўчынка прыкладна майго ўзросту або на год маладзейшая і з цікаўнасцю разглядала смецце пад мастком. Дзяўчынка ела марозіва, адварочвалася і глядзела на смецце, варонін памёт і скошаную гнілую траву на берагах ракі. У яе былі русявыя валасы, вялікія шэрыя вочы і кірпаты носік з ледзь прыкметным рабацïннем. Яна даела марозіва, задаволена кінула абгортку ў раку і сустрэлася з маім позіркам. Пачырванела і з выклікам паглядзела мне проста ў вочы. І ў тым выкліку я ўбачыў столькі сапсаванасці і грахоўнасці, што ўражаны пабрыў за ёй, пакуль яе не паклікала бялявая дзяўчынка. Яны пачалі размаўляць па-руску і пайшлі да ваеннага гарнізона.

Дома я павячэраў, пачытаў на ноч Станіслава Лема і калі патушыў святло, доўга не мог заснуць. У маёй памяці стаялі шэрыя вочы дзяўчынкі з ваеннага гарнізона, яе грахоўны позірк, і ад узбуджэння я адчуў, як натапырыўся мой пісюнец, які я мацаў рукамі і з жахам успамінаў перасцярогі мамы, што ў маім узросце думкі пра дзяўчынак ні да чаго добрага не давядуць. Гэта было першае дарослае ўражанне ў маім жыцці.

Тадэй замоўк і адчуў, як, затаіўшы дыханне, варухнуўся Аляксандр Мендэль.

– Значыць, з дзяцінства вас цягнула да сапсаваных дзяўчат?

Тадэй адчуў, як загарэліся шчокі, і сам здзівіўся гэтай нечаканай выснове.

– Не да сапсаваных, – паспрабаваў запярэчыць ён.

– Давайце скажам прасцей – да грахоўных.

– Так будзе лепш. Сапсаванасць – гэта тое, што з'явілася пазней, а грэшнасць – тое, што было спачатку. У прыродзе жанчыны.

– Калі гэта нічога не змяняе, хай будзе так, – пагадзіўся Аляксандр Мендэль. – А вашая жонка таксама мела гэтую грэшнасць?

– Не, што вы?!. – запярэчыў Тадэй. – Мая першая жонка была ўзорам цноты. Яна паходзіла з кансерватыўнай рэлігійнай сям'і. Яе клікалі Стэфанія, і ўвесь яе род быў з сяла Блішчыводы. Яе маці, а мая першая цешча Марфа Банцьё, лічыла, што дзяўчынку трэба выхоўваць пад строгім наглядам. З дзяцінства ёй не дазвалялі доўга ляжаць у ложку, каб у галаве не з'яўляліся грахоўныя думкі, і абмяжоўвалі ў ласунках.

– Грэх, Стэфка, салодкі, то хай ты яго не зведаеш з маладосці, – казала Марфа Банцьё, забіраючы ў яе цукеркі.

– Супакойцеся, Марфа, – казала ёй кума. – Хай дзіця пазабавіцца цукеркамі. Гэта ж ёй цётка дала.

Але Марфа была незгаворлівая:

– Ой, не кажыце гэтага, кума.

Увесь дзень Стэфанія выконвала хатнюю работу, рабіла ўрокі, рана клалася спаць і рана ўставала. А з пятнаццаці гадоў, калі была ўжо дзяўчынай і на яе пачалі заглядацца хлопцы, Марфа Банцьё ўзмацніла нагляд за дачкой. Яна баялася, што аднойчы Стэфку ўвядуць у зман, і тая стане жанчынай яшчэ да вянца.

– У нашым родзе ні адна дзеўка не пайшла сапсаванай пад вянец, – казала Марфа Банцьё.

Аднойчы ў восьмым класе Стэфанія затрымалася на дні народзінаў у аднакласніцы і прыйшла дадому позна. Дома яе чакалі цёмны ад абурэння бацька і чырвоная ад злосці маці.

– Ой, людзі добрыя! – закрычала Марфа Банцьё. – Вярнулася з гулянкі нашая сука?! Ніка, паглядзі на сваю дачку. Хіба з такою дупаю ў галаву будзе навука лезці?! З такою дупаю ў галаву будуць лезці толькі хлопцы!

Схапіла яе за валасы і пацягнула ў спальню.

– Ну, здымай трусы! Пагляджу, ці ты яшчэ дзяўчына!

Стэфанія з плачам зняла трусікі, а маці засунула ёй палец паміж ног і злосна зашыпела:

– Ну! Не тузайся, бо натаўку пысай, каб ведала!

– Марфа, бачыла пломбу? – крыкнуў з-за дзвярэй бацька.

– Так! – прыцмокнула Марфа Банцьё і злосна прабурчэла да дачкі. – Глядзі мне, бо не ведаю, што табе зраблю!

Пасля таго кожны позні прыход Стэфаніі дадому суправаджаўся гэтай працэдурай. Маці цягнула дачку за валасы, прымушала здымаць майткі і правярала пальцам яе некранутасць. А калі яна штосьці забывала дома зрабіць, насыпала ў кут грэчкі, ставіла яе на калені і загадвала:

– Стой тут, калі на цябе няма іншае рады.

Аляксандр Мендэль даслухаў гісторыю пра першую жонку Тадэя Швагуляка і пацікавіўся:

– А чаму вы развяліся?

– Так склалася, – адказаў Тадэй, – што ў пачатку дзевяностых гадоў,

калі разваліўся Савецкі Саюз, а ва Украіне пачалося масавае беспрацоўе і раздзяржаўліванне прадпрыемстваў, якія прыватызавалі тыя, хто быў у той час ва ўладзе, з Жоўквы людзі пачалі ездзіць на працу хто ў Польшчу, хто ў Італію, хто ў Партугалію. Мая Стэфанія пакінула дачку ва Украіне, а сама паехала ў Неапаль і там засталася. А потым забрала дачку і даслала дакументы на развод. Мой бацька тады кінуў школу і заняўся гандлем. Спачатку ён паставіў адну палатку пад сценамі Дамініканскага манастыра, потым – дзве, а затым – пяць. А калі захапіўся палітыкай і яму прапанавалі працу ў Кабінеце Міністраў, то пакінуў нам з маці свой бізнес і пераехаў у Кіеў. Пасля ён забраў і нас. Таму я быў увесь у працы, і не было часу сумаваць па былой жонцы і дачцы. Неяк з Неапалю прыехала нашая суседка і распавяла, што Стэфанія выйшла замуж за італьянца, які мае некалькі рэстаранаў. Яна ўладкавала сваё жыццё, а я сваё.

– А ці падобная вашая цяперашняя жонка Ала на Стэфанію Банцьё?

Тадэй Швагуляк замоўк. У пакоі павісла цішыня, у якой чулася толькі ціканне гадзінніка ў серванце і пахрустванне пальцаў Мендэля.

– Як бы вам гэта дакладней сказаць?.. – разгубіўся Тадэй. – Яны абедзве – увасабленне гожасці... Я сказаў бы, што гэта ідэальныя жанчыны для сям'і. Непатрабавальныя, без фанабэрыі, любяць дом, утульнасць. Пра такіх жанчын марыць кожны мужчына, які хоча стварыць ціхі сямейны куток.

– І разам з тым у іх нешта не тое, – зларадна засоп Мендэль. – Адна ад вас сышла, і другая не супраць. Адзінае, што яе трымае, гэта агульнае дзіця, дом, грошы. Можа, галоўная праблема схаваная не ў іх, а ў вас?

– Я б з вамі не пагадзіўся, – запярэчыў Тадэй. – Са Стэфаніяй сыгралі ролю абставіны. Калі б не крызіс у краіне, не беспрацоўе, яна б нікуды не паехала. Адарваная ад дома маладая жанчына ў чужой краіне... Тут спрацавала ўсё: інстынкт самазахавання, палавы інстынкт. Яна ад мяне адвыкла, а побач італьянскія мужчыны з раманскім тэмпераментам. Супраць гэтага рэдкая выстаіць.

– А можа, яна з'ехала ў Італію не ад беспрацоўя? Не ўсе жанчыны адсюль з'ехалі. Большасць засталіся са сваімі сем'ямі.

– Але выехала, пагадзіцеся, таксама шмат.

– Калі ад вас пайшла адна і другой чагосьці не хапае, дык, можа, давайце пашукаем гэта ў вашым мінулым? – прапанаваў Мендэль.

Ён зашамацеў халатам і прайшоўся, каб размяць ногі. Пад нагамі Мендэля зарыпеў паркет, і Тадэй падумаў, што калі-небудзь ён вылаецца на гэтага псіхатэрапеўта і разарве з ім усе дамоўленасці. Але ці ўратуе гэта ад развалу яго сям'ю?

## 6

Ала ляжала на канапе і не магла засярodзіцца. У галавах яе сядзеў Аляксандр Мендэль, і яго гугнявы голас нагадваў надакучлівую мантру:

– Давайце вернемся да вашага дзяцінства. Якія ў вас былі адносіны з бацькам?

– Мой бацька, як я ўжо казала, быў сельскім кінамеханікам, – пачала распавядаць Ала. – З таго часу, як яго памятаю, ён заўсёды мяне разумеў і ставіўся з большай добразычлівасцю, чым да брата. Са старэйшым братам бацькі мелі больш марокі. Ён горш вучыўся, бо не быў такім руплівым, як я. Пасля войска брат скончыў політэхнічны інстытут. Спачатку працаваў

інжынерам, а затым заняўся ўласным бізнесам. У яго ў Жытоміры ёсць некалькі харчовых крамаў, якія дазваляюць яму адчуваць сябе дастаткова ўпэўнена. А я скончыла ў Кіеве факультэт філалогіі, паступіла ў аспірантуру, выйшла замуж і ўладкавалася ў Інстытут фальклору і этнаграфіі. Перад абаронай дысертацыі бацька памёр. У Скамарохах засталася маці, якую глядзіць старэйшы брат. А я туды наведваюся раз у два-тры месяцы.

– З кім у вас было больш разумення: з бацькам або з маці? – заварушыўся Мендэль.

– За ўсё жыццё я не памятаю, каб бацька павысіў на мяне голас. З маці было па-рознаму. У яе цяжкі характар. Яна распачынала скандалы за найменшую правіннасць. А бацька... Бацька мне ўсё дараваў. Ён ведаў, што я нічога дрэннага не зраблю.

– А якія адносіны былі ў яго з маці? Хто з іх быў у сям'і галоўны?

– Усе праблемы дома вырашала маці, – здзівілася Ала ненатуральнасці свайго голасу, быццам гэта казала нейкая іншая жанчына. – Ужо цяпер, калі бацькі няма, я разумею, што мазгавым цэнтрам у сям'і быў ён. Бацька бачыў праблемы глыбей і знаходзіў правільныя рашэнні, але апошняе слова заўсёды было за маці, таму здавалася, што ўсім кіруе яна.

– А ці былі ў сям'і здрады?

– Аднойчы маці прыйшла дадому позна. Часам яна затрымлівалася, але гэта быў выпадак, які я запомніла назаўжды, – сабралася з думкамі Ала і загаварыла так хутка, нібы спрабавала прабегчы праз гэты ўспамін. – У той вечар бацька не быў у клубе і пачаў гатаваць вячэру. Я зрабіла ўрокі і глядзела тэлевізар. З кухні смачна пахла. Ён умеў добра гатаваць. Ужо сцямнела, а маці не было.

– Хачу есці, – сказала я.

Мы селі за стол, і бацька паставіў гаршчок з гарачымі картаплянцамі з сырам, якія ў яго заўсёды добра атрымліваліся. Мы павячэралі і глядзелі тэлевізар. За вакном брахалі сабакі, шалелі цвыркуны, у вокны стукаліся начныя мятлікі. Было ўжо зусім позна, калі прыйшла маці. Ад яе пахла гарэлкай. Яна была задаволеная і абыякавая.

– Вячэраць будзеш? Я напёк картаплянцаў з сырам, такіх, як ты любіш, – выняў з печы гаршчок бацька.

Маці села за стол, адкалупала кавалак картаплянца, апусціла ў смятану і пачала есці. Яе погляд быў далёка, там, адкуль яна прыйшла, а тоўстыя вусны ўсміхаліся. Яна нагнулася над сталом, і з-за пазухі вываліліся вялікія грудзі, на якіх я ўбачыла засос. Я ўтаропілася на свежы сіняк, бацька перахапіў мой позірк і таксама яго заўважыў, але нічога не сказаў. Дастаў з камінка запалкі і цыгарэты і запаліў.

– Толькі не ў хаце, – раззлавалася мама.

Ён моўчкі выйшаў на двор і сеў на лаву, а я каля яго. Абняў мяне, паліў і глядзеў у вячэрняе неба. За Скамарохамі, над Жытомірам, цьмяна мігцела неба, быццам яго хто пасыпаў гарачым попелам. Мы нічога не казалі адно аднаму. Я бачыла, як знікае ў цемры кончык яго цыгарэты, як дрыжаць рукі і як прагна зацягваецца ён дымам. І гэтае маўчанне было красамоўней за ўсялякія словы. Ён паліў цыгарэту за цыгарэтай, а я прыціснулася да яго і адчувала, як прыемна сядзець пад яго рукой, адчуваць, як пахне яго пот і як ён мяне любіць.

– А ваш бацька заўсёды быў такім мяккім?

– Гэта толькі збоку здаецца, быццам ён быў уступлівым. А на самой

справе характар у яго быў цвярдзейшы, чым у большасці мужчынаў, якіх я ведала. Аднойчы мы ехалі на вяселле да сваякоў у лясную вёску Буймір. Аўтобус нанялі ў Жытоміры, і ўсе сябры і блізкія нявесты ехалі з намі. Быў канец траўня. Цвілі акацыі, і ад іх водару, які залятаў у прыадчыненыя аўтобусныя вокны, хацелася ехаць на край свету. Мне было чатырнаццаць гадоў, і маё сэрца напаўнялася радаснымі і хвалюючымі прадчуваннямі. За Тарасаўкаю я ўбачыла, як ад Фастава ішоў таварняк. Усе людзі ў салоне былі святочна ўзбуджаныя, размаўлялі, смяяліся. І толькі бацька занепакоена глядзеў на кіроўцу. Недалёка ад пераезду бацька трывожна крыкнуў:

– Куды ж вы едзеце? Збоку – цягнік!

Мне стала няёмка за бацьку, што ён крычыць на ўвесь аўтобус.

– Хіба ён не бачыць? Ён жа шафёр, – адгукнулася жанчына з букетам белых руж.

Але бацька зноў гучна крыкнуў, аж усім стала за яго ніякавата:

– Павярніце галаву! Там цягнік!

Таварняк быў ужо зусім блізка, калі кіроўца павярнуў галаву на бацькаў крык і затармазіў. Ад рэзкага супынку ўсе пападалі грудзьмі на пярэднія сядзенні. Цягнік са свістам праляцеў перад нашым аўтобусам. Кіроўца спалохана глядзеў, як на адлегласці выцягнутай рукі перад ім з грукатам праскокваюць на платформах танкі і бронемашыны. Цягнік прагрукацеў і знік у напрамку Жытоміра. А кіроўца сядзеў, учапіўшыся рукамі ў руль аўтобуса, і не ведаў, што рабіць далей. У аўтобусе стала ціха, а потым усе зашумелі, закрычалі, а жанчына з букетам белых руж падбегла да кіроўцы і пачала біць яго тым букетам. У яе была істэрыка, яна плакала і хвастала шафёра ружамі, пакуль яе не супакоіў і не адцягнуў высокі чалавек. Кіроўца быў увесь падрапаны калючкамі руж. Дрыготкімі рукамі ён запаліў і моўчкі рушыў далей. Пазней я не раз ўспаміналa гэты выпадак, калі бацька выратаваў усіх, хто ехаў тады ў аўтобусе на вяселле. Ён адзіны заўважыў, што кіроўца задумаўся і не бачыць цягніка.

– Але гэты выпадак яшчэ не сведчыць пра характар, – сказаў Мендэль. – Проста ў вашага бацькі спрацаваў інстынкт самазахавання.

– А чаму ён не спрацаваў у іншых? Іншыя людзі таксама заўважылі цягнік, але думалі, што кіроўца ўсё бачыць і пасаромеліся яму пра гэта сказаць. Зрэшты, калі лічыце, што гэтага недастаткова, каб вас пераканаць, што мой бацька меў цвёрды характар, я распавяду яшчэ адну гісторыю, якая адбылася, калі мне было шаснаццаць гадоў, і мы ездзілі ў Данецк да дзядзькі Паўла.

Старэйшы брат бацькі з’ехаў на Данбас адразу пасля школы, уладкаваўся на шахту, адтуль пайшоў у войска, а калі дэмабілізаваўся, застаўся там жыць. Мы прыехалі ў Данецк у канцы чэрвеня. Дзядзька Павел сустрэў нас на вакзале і на таксі адвёз дадому. Ён жыў са сваёй жонкай у двухпакаёвай кватэры на праспекце Багдана Хмяльніцкага. Яны былі бяздзетныя. Дзядзька працаваў на шахце імя Засядзькі. Ужо ў першы дзень ён атуліў нас увагай, павёў у горад, і я захоплена глядзела на ружы, якія цвілі паўсюль на кветніках.

– Колькі іх тут?! – усклікнула я.

– Мільён, – усміхнуўся дзядзька Павел.

Ён прывёў нас на плошчу і паказаў скульптуру шахцёра, чорнага, быццам высечанага з глыбы антрацыту.

– Бачыш, які вялікі?

У той жа вечар мы хадзілі на балет, у якім танцаваў Вадзім Пісараў[1], і я была шчаслівая, што пабывала ў гасцях у свайго дзядзькі, пра якога так шмат чула з дзяцінства, і ўбачыла гэты вялікі ўсходні горад.

Але назаўтра здарыўся выпадак, які назаўжды пасварыў бацьку з яго старэйшым братам. У абед да дзядзькі Паўла патэлефанаваў нейкі чалавек, і дзядзька запрасіў яго ў госці. Цётка накрыла стол, дастала з халадзільніка запацелую бутэльку гарэлкі, адкрыла слоік марынаваных грыбоў, які мы прывезлі. І калі ў дзверы пазванілі, дзядзька Павел папрасіў бацьку:

– Гавары па-руску.

Бацька нахмурыўся і нічога не адказаў.

У дзвярах заклацаў замок, дзядзька Павел павітаўся з прышлым чалавекам і сказаў, што да яго прыехалі госці. Незнаёмы быў здаравенны, большы за бацьку і за дзядзьку Паўла, з грубым валявым тварам і чырвонымі рукамі з чорнымі абадкамі пад пазногцямі. Цётка запрасіла ўсіх на абед. Мы селі за стол, дзядзька разліў мужчынам гарэлку, яны выпілі і пачалі размаўляць. А мой бацька моўчкі закусваў і не ўмешваўся ў іх гутарку. Калі цётка спытала, хто будзе піць чай, я папрасіла:

– А можна кавы?

– Навошта табе кавы? Лепш папі гарбаты. Не зможаш заснуць, – сказаў тата.

За сталом стала ціха, і я пачула, як на кухні крапае з крана вада.

– Эт кто? По-а-а-ляки? – паказаў на нас відэльцам чалавек, якога дзядзька Павел клікаў Міхайлавічам.

– Мой малодшы брат Мікалай і пляменніца, – пачырванеў дзядзька.

– А почему они разговаривают по-польски?..

– По-укрáински, – паправіў яго дзядзька Павел.

– Хохлы, что ли?..

Бацька ўвесь напружыўся і стрымана спытаў:

– А вас як завуць?

– Семён Михалыч Пендюрко, – пасадзіў грыб на відэлец чалавек.

– Дык вы ўкраінец?

– Я?!. – аж захлынуўся ад абурэння ён. – Да я – шахтёр!

– А адкуль вы родам?

– Я – донецкий.

– А ваш бацька?

– Отец что ли? Мы из Кобеляк[2], – зачмякаў грыбам чалавек. – А ты кто?

– Я – кінамеханік.

– Послушай, киномеханик, – узяў кавалак хлеба Пендзюрка, – я таких, как ты, кормлю, а ты здесь мне мозги пудришь.

– Закусывай, Михалыч, – паляпаў яго па плячы дзядзька Павел.

Бацька выцер сурвэткай вусны, устаў з-за стала і сказаў:

– Не ведаю, хто тут каго корміць, але вы з'ехаліся сюды на шахты з Кабеляк і Скамарохаў і саромеецеся адзін аднаго, нібы выраслі ў прабірцы, і ў вас не было ні бацькоў, ні дзядоў, ні зямлі, з якой вы прыехалі. Ды хто вы такія?! – і павярнуўся да дзядзькі Паўла. – Калі ты саромеешся свайго брата, то мне тут няма чаго рабіць.

---

[1] Вадзім Пісараў (1965 г.н.) – украінскі артыст балета, заснавальнік харэаграфічнай школы ў Данецкім тэатры оперы і балета імя Анатоля Салаўяненкі.

[2] Кабелякі – горад у Палтаўскай вобласці.

Выйшаў з-за стала, і колькі дзядзька з цёткай ні ўгаворвалі яго застацца, сабраў рэчы, і ў той жа дзень мы выехалі з Данецка. З тых часоў і да апошняга свайго дня бацька не размаўляў са сваім старэйшым братам.

Дадому мы ехалі ў купэ з прафесарам Данецкага ўніверсітэта, і ўсю дарогу бацька размаўляў з ім пра кіно. Ужо тады я зразумела, што ўкраінскім сялянам інтэлігенцыя бліжэй, чым працоўны клас, які хутка губляў сувязь са сваімі нацыянальнымі традыцыямі і рабіўся чужым.

Пасля той паездкі я вырашыла, што скончу факультэт украінскай філалогіі. Мяне падштурхнулі да гэтага комплексы дзядзькі Паўла і Сямёна Пендзюркі, учынак майго бацькі і прафесар з Данецка, які размаўляў такой вытанчанай мовай са старасвецкімі абаротамі, быццам выйшаў з раманаў украінскіх класікаў.

Ала замоўкла і паглядзела на скіслы твар Аляксандра Мендэля. А калі выходзіла з яго кватэры, адчула, што гэтая гісторыя была яму непрыемнай, нібы зачапіла нейкія глыбокія механізмы, што стагоддзямі ўзмацнялі міжэтнічныя трэнні ў гэтых землях.

## 7

– Ну... – сабраўся з думкамі Мендэль, – сёння мы будзем гаварыць пра вашых бацькоў.

Тадэй Швагуляк ляжаў на канапе і слухаў, як парыпвае паркет пад нагамі Аляксандра Мендэля.

– Хто больш паўплываў на ваш светапогляд – бацька ці маці? – усаджваючыся ў крэсла, спытаў ён.

– Маім аўтарытэтам заўсёды быў бацька, – адазваўся Тадэй Швагуляк. – Калі ў пачатку шасцідзясятых гадоў быў узламаны апошні супраціў УПА[1], раніцай на ратушы з'явіўся сіне-жоўты сцяг. Адразу ў горадзе ўвялі ваеннае становішча, і ў Жоўкву пад'ехалі танкі, але праз вузкія Глінскія вароты не змаглі прабрацца ў горад. І тады ваенныя заклалі пад вароты выбухоўку, але пасля першых выбухаў брама засталася стаяць, і яе ўзарвалі толькі пад раніцу. Сцяг на ратушы павесіў мой бацька. Гэта было сямейнай таямніцай, пра якую доўгі час мне не расказвалі. А калі я падрос, маці мне гэта распавяла, і я вельмі ганарыўся сваім бацькам. Усе яго ўчынкі заўсёды былі мужныя і пазначаныя мужчынскім стылем мыслення. Бацькава задума са сцягам была ў гістарычных традыцыях горада. Жоўква стаіць на Чорным Шляху, які вядзе з Крыма ў Польшчу. Калісь, каб адагнаць ад горада татараў, з гарадскіх сценаў на галовы татарскай конніцы кідалі соты з мёдам, і пчолы джалілі коннікаў і выклікалі сярод іх паніку. Адчайных людзей у Жоўкве заўсёды шанавалі, таму ўсё, што казаў бацька, было для мяне законам.

Мендэль заварушыўся і абхапіў рукамі калена.

– Вы сцвярджаеце, што выхоўваліся на мужчынскіх ідэалах. А які з відаў мастацтва на вас зрабіў найбольшае ўражанне? Скажам, у музыцы вам падабаліся спевакі альбо спявачкі?

– Мае музычныя густы фармаваліся на мужчынскіх галасах канца шасцідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя. Я памятаю барытон Мікалая

[1] УПА – Украінская паўстанцкая армія. Ваявала за незалежнасць Украіны з Польшчай, Германіяй, Савецкім Саюзам з 1941 па 1953 гады.

Кандрацюка[1]. Яго багаты і поўны любові голас апяваў маё дзяцінства. «Квітнеюць восеньскія ціхія нябёсы», «На даліне туман» – гэта гучала так прыгожа і па-мужчынску. Барытон Дзмітра Гнацюка[2], бас Барыса Гмыры[3]... У дзяцінстве радыё перадавала больш якаснай музыкі, чым тэлебачанне.

– Скажыце, – закруціўся ў крэсле Мендэль, – як бы вам гэта далікатней растлумачыць?.. Вашыя бацькі пры чужых людзях дэманстравалі, што любяць адзін аднаго?

– Што вы маеце на ўвазе? Ці цалаваліся яны на людзях?

– Я маю на ўвазе, як часта яны кахаліся?

– Я не падглядваў, што яны робяць у спальні, – прабурчаў Швагуляк.

– Для гэтага не абавязкова падглядваць. Вы ж маглі чуць рыпенне ложка, стогны, шэпт.

– Мой бацька родам з Макроціна, а маці – з Жоўквы, – сказаў Тадэй, і ў яго голасе пачулася раздражненне. – Мы жылі ўсе разам: дзед, баба, бацька і маці. Дзед з бабай былі людзьмі набожнымі і сачылі, каб дачка гучна не кахалася, асабліва па святах. Увечары, калі бацькі ішлі ў спальню, дзед з бабай заставаліся сядзець у залі за сталом і чакалі. Дзед шамацеў газетай, каментаваў артыкулы і казаў:

– Ады, Магда, саветам ужо нядоўга засталося.

Але баба на гэта не звяртала ўвагі, а слухала, ці ціха ў спальні. І калі пераконваліся, што бацька з маці спяць, хрысціліся і ішлі ў свой пакой.

Аляксандр Мендэль засоп і замыляў пальцамі. Ён сядзеў, абхапіўшы калена счэпленымі ў замок рукамі, і засяроджана слухаў. На кончыку яго пальцаў паднятай правай нагі матляўся стары пантофель.

– Скажыце, а вашай маці падабаліся іншыя мужчыны? Я маю на ўвазе, – спахапіўся Мендэль, – былі ў яе жыцці раманы?

– Пра што вы кажаце?! – абурыўся Тадэй Швагуляк. – Вы не ўяўляеце, што такое маленькі галіцкі гарадок, дзе ўсё на вачах, як у спальні. Нават калі б яна даўжэй затрымала погляд на чужым мужчыне, пра гэта б ужо ведала ўся Жоўква.

Мендэль доўга збіраўся з думкамі, адчуваючы, што Швагуляк нешта не дагаворвае.

– У вашай сям'і галоўным быў бацька?

– Бацька вырашаў усё, – пагадзіўся Тадэй. – Планаваў сямейны бюджэт, купляў адзенне, прадукты. Маці нават не ведала, які ў яе памер станіка.

– А што, ваш бацька купляў ёй бялізну?..

– І абутак, і бялізну. Ён заўсёды ведаў, што ёй трэба, нават колькі грошай у яе кашальку.

– Але пры такім кантролі жанчына ў чымсьці сама захоча праявіць ініцыятыву, – запярэчыў Мендэль. – Павінна ж яна хоць у нейкіх глыбока інтымных пытаннях быць галоўнай. Няўжо вашая маці ніколі не пратэставала?

– Яна для гэтага была занадта правільна выхавана, – прамармытаў Тадэй.

Аляксандр Мендэль іранічна скрывіўся.

– Хоць, – заварушыўся ён, – вашага бацьку можна зразумець. Мужчыны кансерватыўныя ў большасці рэчаў, акрамя сэксу, інтэр'еру спальні і жа-

---

[1] Мікола Кандрацюк (1931-2006) – украінскі оперны спявак (барытон).
[2] Дзмітро Гнацюк (1925 г.н.) – украінскі оперны спявак.
[3] Барыс Гмыра (1903-1969 – украінскі оперны спявак (бас-кантантэ).

ночай бялізны. Даручыце мужчыну самому падабраць інтэр'ер спальні і пасцель – і вы ўбачыце яго сапраўдную натуру.

Аляксандр Мендэль устаў, прайшоўся па пакоі і адчуў, як у каленнай чашачцы штосьці хруснула. Ён вярнуўся да крэсла, сеў і трохі паразмінаў калена.

– Вось у гэтым месцы мы спынімся, – сказаў ён. – Я павінен нагадаць, што самы дробны прыхаваны вамі факт з мінулага бацькоў не дазволіць мне вырашыць вашую сямейную праблему, таму я хачу пачуць ад вас усё, як было, нават калі вам гэта не зусім прыемна ўзгадваць. Такім чынам, мяне цікавіць, ці быў у мінулым вашай маці хоць адзін выпадак ад'юльтэра?

Тадэй Швагуляк заварушыўся на канапе. Яму здалося, што гэты бесцырымонны габрэй занадта шмат хоча ад яго пачуць, бо асабістае жыццё яго бацькоў не мае ніякага дачынення да яго з Алай адносінаў. І ўвогуле, ён зрабіў глупства, што звязаўся з гэтым псіхатэрапеўтам.

– Вы ж разумееце, што без гэтага не можа быць і гаворкі пра рашэнне вашых інтымных праблемаў, – пачуўся зусім побач голас Мендэля.

І, пэўна, таму, што голас быў такі бездапаможны і зусім ціхі, Тадэй распавёў гісторыю, пра якую ўсё жыццё хацеў забыць. Яна ўрэзалася яму ў памяць з дзяцінства.

– Мы жылі ў Жоўкве на трэцім паверсе ў стандартным шэрым доме на вуліцы Львоўскай, якая вядзе ад Вечавай плошчы да трасы на Львоў. Нашыя вокны выходзілі на прыземленую драўляную царкву Святой Тройцы, падобную да шампіньёна, дзе заўсёды тоўпілася шмат людзей. Бацькі працавалі ў школе, а дзед з бабай былі ўжо на пенсіі. Нашая сям'я – глыбока патрыярхальная. Усе пытанні ў сям'і вырашалі дзед і бацька, а жанчынам заставалася толькі кухня і выхаванне дзяцей. І паколькі адзіным дзіцем у сям'і быў я, дык баба і маці ў асноўным займаліся мной.

У нашым доме жылі не толькі мясцовыя жыхары, але і прыезджыя. Над намі жыла сям'я партыйнага работніка Камашні з-пад Харкава. Юрка Камашня вучыўся ў нашай школе і быў на сем гадоў старэйшы за мяне. Тады ён здаваўся мне ўжо зусім дарослым. Як цяпер памятаю яго прышчаваты твар, зрослыя на пераноссі бровы і доўгія рукі, якія раздавалі ва ўсе бакі пстрычкі і выспяткі такім, як я, дзецям.

Гэта здарылася, калі я пачаў хадзіць у трэці клас. У нашым доме быў склеп, у якім дзверы ніколі не зачыняліся, і туды заўсёды лазілі дзеці. Калі над горадам з'явіліся павуцінкі бабінага лета, хлапчукі з нашага дома пачалі гаварыць, што Юрка Камашня водзіць у склеп якуюсьці дзяўчыну з ваеннага гарнізона, і аднойчы я яе ўбачыў. Дзяўчына была рыжая, кірпатая, у кароценькай спаднічцы, з цыгарэтай у зубах. Калі я ішоў са школы, яны з Юркам, размаўляючы на рускай мове, спускаліся ў склеп.

Неўзабаве пра гэта загаварыў увесь дом, і нават дзед з бабай.

– Ой, што ж гэта будзе?! – сказала за вячэрай баба Магда. – Трэба выклікаць камунальныя службы. Няхай штосьці робяць.

Дзед ёй нічога не адказаў, толькі піў кампот і шамацеў газетай.

Бацька патэлефанаваў у камунальныя службы, і адтуль даслалі мужчыну ў кіцелі, галіфэ і хромавых ботах. Бацька быў тады ў школе, а маці – дома. Калі я пачуў, што яна павядзе гэтага чалавека, дык залез у склеп і пачаў назіраць, што будзе далей. У паветры быў застаялы прэлы пах. Недзе крапала вада. Калі пачуліся галасы, я схаваўся ў цёмным закутку за трубамі. Яны былі ўжо зусім блізка, сярдзіты голас маці і вінаваты –

чужога мужчыны. У мужчыне адчувалася былая ваенная загартоўка, але перад маці ён чамусьці пачырванеў і страціў ініцыятыву ў размове.

– Дзе тут замок? – гнеўна крычала яна. – Вы ведаеце, што сюды залазяць дзеці? Чаму нічога не робіце? Хочаце, каб мы напісалі ў Кіеў і вас усіх разагналі?!

– Прабачце, я ўпершыню пра гэта чую, – замармытаў чалавек.

Ён быў удвая большы за маці. З цёмнай хованкі я бачыў, як скурчыўся ён, быццам школьнік перад настаўніцай. А яна схапіла яго за шкіркі, штурхнула з усёй сілы, якой я ад яе не чакаў, і абурана ўсклікнула:

– Вось, паглядзіце, дзе плодзяцца курвы! Вось тут!

Штурхнула яго на брудны матрац, на які Юрка Камашня вадзіў сваю дзяўчыну. Яна гнеўна біла кулачкамі мужчыну ў грудзі, тузанула за рэмень, расшпіліла галіфэ. Потым я ўбачыў, як яна задрала на сабе сукенку, насела на яго і пачала падскокваць, крычаць і біць яго далонямі па шчоках.

– Вось так! Вось так! – злосна выкрыквала мужчыну.

Яна была злосная і прыгожая ў сваёй лютасці. Яе твар гарэў ад абурэння, а чалавек толькі соп і стагнаў.

– Бач, да чаго дайшлі?! – шчыпала і біла яго. – Распусціліся ў сваёй канторы!

А потым, сапучы, яны абцягнулі адзенне, абтрусіліся і моўчкі разышліся. Ад узбуджэння маё сэрца выскоквала з грудзей, ад незразумелых пачуццяў я плакаў, доўга ляжаў і ўздрыгваў ад плачу на матрацы, на якім былі мая мама з мужчынам-камунальшчыкам, пакуль не заснуў і мяне не разбудзілі хлапчукі з нашага дома. Пасля таго склеп зачынілі на замок.

Тадэй змоўк і адчуваў, як гараць ад сораму шчокі.

## 8

Наведванні Мендэля нічога не змянялі ў адносінах Алы з Тадэем. Свядомасць падказвала ім, што трэба трымацца разам, у іх было дзіцё, у іх было кола знаёмых, якія лічылі іх ідэальнай парай, яны прывыклі адно да аднаго, але іх глыбока стоеныя жаданні з гэтым не згаджаліся.

Аднойчы ўвечары Ала была з Тадэем асабліва пяшчотнай. Ёй удалося перахітрыць свае прахалодныя адносіны з ім і зноў увайсці ў ролю той загадкавай жанчыны, што заінтрыгавала яго некалі ў карчме на бульвары Лесі Украінкі. Яны размаўлялі з Насцяй, і дзяўчынка радасна распавяла пра сваю новую настаўніцу французскай мовы.

– Падабаецца яна табе? – спытаў Тадэй.

– Больш, чым інгліш, – надзьмула губкі дзяўчынка,

І Тадэй пацалаваў яе ў маленькія адтапыраныя вушы.

«Ён можа быць добрым і мілым, – падумала яна. – Няўжо мы не здолеем перамагчы ў сабе абыякавасць адно да аднаго? У шлюбе паміж мужчынам і жанчынай столькі ўсяго наблытана. Часам людзі і месяц не могуць пражыць разам. А мы пражылі ўжо дзевяць гадоў».

Яна слухала, як шчабеча Насцечка на каленях у Тадэя, ёй хацелася, каб так было заўсёды, каб ён прыходзіў з працы, і яны ўтрох сядзелі ў гасцёўні, размаўлялі і былі шчаслівыя ад таго, што за іхнім домам змяняецца свет, нараджаюцца і паміраюць людзі, з'яўляюцца і распадаюцца шлюбы, банкрутуюцца прадпрыемствы і краіны, а ў іх доме пануюць спакой і дабрабыт.

«Яна такая, як была дзевяць гадоў таму, – падумаў Тадэй. – Чаму я не магу з ёй жыць? У нас ёсць Насцечка, у нас ёсць бізнес, у нас ёсць грошы, і мы яшчэ не старыя».

Ала назірала за Тадэем і адчувала, што не хоча шукаць іншага мужчыну, зноў прыстасоўвацца, змяняць сваё жыццё і пачынаць усё спачатку. Яна не была ўпэўненая, што праз некаторы час той наступны чалавек да яе не астыне. Тадэй меў свае недахопы, але добрых якасцяў у яго было больш.

«Сёння я паспрабую распаліць у ім агонь, які даўно згас», – падумала яна і загадкава ўсміхнулася.

Тадэй заўважыў яе ўсмешку і ўспомніў, як добра ў іх усё пачыналася. Зрэшты, ён не мог сказаць, што паміж імі дрэнныя адносіны. Знешне ўсё выглядала досыць добра.

«А чаму б і не? – падумаў ён. – Няўжо мы не зможам абысціся без гэтага Мендэля?»

Ала назірала, як яго рукі ласкава дакранаюцца да Насцечкі, папраўляюць пасмачку валасоў, што выбілася з-за вушка.

«Што яму зрабіць, каб ён мяне зноў захацеў і каб у нас усё пачалося спачатку?» – падумала яна.

Размаўляючы з Насцяй, Тадэй злавіў сябе на думцы, што зацягвае час, баіцца інтыму з Алай, бо ведае, што да гэтага не гатовы. І гэта заўважыла нават іх дзяўчынка.

– Тата, а ты баішся маму? – спытала яна.

– З чаго ты ўзяла? – усміхнуўся Тадэй і адчуў, як ненатуральна загучаў яго голас.

– Ты размаўляеш са мной так, быццам не ведаеш, што з ёй рабіць, – сказала Насцечка.

– А з табой я ведаю, што рабіць?

– Са мной ведаеш, а з мамай не ведаеш, – сунула палец у нос дзяўчынка.

– Якая ты некультурная, – выняў яе палец з носа.

– Такая выдумшчыца, – засмяялася Ала.

Але дзяўчынка не звярнула ўвагі на яе смех.

– У нашым класе ёсць Зося Бабеля, – надзьмулася Насцечка, і ад гэтага яе вушкі пачырванелі. – Яе бацька знайшоў сабе іншую цётку, а мама – чужога дзядзьку. Вы ж не збіраецеся мяне кідаць?

– Што ты?.. – успыхнула Ала. – Мы з татам цябе любім.

– І Зосю Бабелю любяць, але кінулі.

Дзяўчынка змоўкла, і ў вячэрняй цішыні стала чуваць, як за вокнамі вые халодны восеньскі вецер. Яны сядзелі, разгубленыя ад гэтага магчымага павароту свайго далейшага жыцця, і Тадэй збянтэжана глядзеў на Алу. Ён параўноўваў яе з жанчынамі са сваёй працы і разумеў, што яна выглядае лепш за іншых сваіх аднагодак і нават маладых жанчын. Але чаму тады яго цела не ўзбуджаецца пры выглядзе гэтай дагледжанай і прывабнай жанчыны? Яна ж падабаецца, напэўна, многім мужчынам, і, мабыць, не адзін хацеў бы апынуцца з ёй у пасцелі.

«Чаму гэты вульгарны струк, які нават саромеюцца паказваць і старанна хаваюць ад чужых вачэй, сам выбірае, на каго яму падымацца, і не слухаецца здаровага сэнсу?» – у роспачы падумаў ён.

– Табе пара спаць, – усміхнулася Ала.

– Дабранач, мамачка! Дабранач, татачка! – расцалавала іх дзяўчынка і пабегла ў свой пакой.

Ала пайшла ў ванну, а ён ляжаў у зале перад тэлевізарам і думаў, што адбудзецца, калі яна выйдзе ў халаце, накінутым на голае цела, ляжа побач з ім, будзе пахнуць маладой недакаханай жанчынай, а ён будзе ляжаць побач і адчуваць, як спалохана б'ецца яго сэрца, бы злоўлены ў клетку верабейка, у прадчуванні бяссілага кахання. Ён пацiскаў сваю расслабленую плоць, але яна не выяўляла ніякіх прыкметаў хвалявання. Засяродзіўся на ўспамінах пра паездку ў Крыніцы, пра незнаёмую лемкаўскую жанчыну, што выпраменьвала грубую жаночую энергію, і адчуў, як пад рукой пачало набракаць і цвярдзець. Падумаў, што так можна падмануць сваё свавольнае цела і прымусіць кахацца з Алай.

Ён доўга блукаў па тэлевізійных каналах, пакуль не знайшоў эратычную сцэну. У ложку ляжалі загарэлы мужчына і маладая жанчына, якая ўздрыгвала ў яго абдымках. На імгненне Тадэй адчуў прыліў крыві і ўявіў замест мужчыны сябе, а замест актрысы – жанчыну з Крыніцы. Любоўная сцэна скончылася, і жанчына размаўляла ў ложку з мужчынам, які паліў цыгарэту і глядзеў кудысьці ў глыбіню спальні. Яны сварыліся, і Тадэй перанёс гэта на лемкаўскую жанчыну, якая ўзбудзіла некалі ў ім кроў.

– Калі мы з табой сустрэнемся? – пусціў да столі струменьчыкі дыму.

– Як вада ўгору пацячэ, – агрызнулася яна.

Ён памацаў яе грудзі.

– Такія цяжкія, – сказаў прымірэнча.

Але жанчына адрэагавала па-свойму. Пачапала яго плоць і зларадна заўважыла:

– Як прамоклая курыца.

Тадэй адчуў, як узбуджае яго гэтая сварка, бы вострая заправа да любоўнага дэсерту.

– Ты такая злая. Хочаш з кімсьці пасварыцца? – зацягнуўся цыгарэтным дымам.

– З табой.

– Што ты ўвесь час агрызаешся? – затушыў цыгарэту і ўважліва паглядзеў у яе насмешлівыя вочы. – Не можаш нармальна размаўляць?

Яна адвярнулася, выклала на коўдру цяжкія ляшкі, і прабурчала:

– З табой нагаворышся, як са смаркатым наясіся.

– Але я не хачу іарваць нашыя адносіны! – у роспачы ўсклікнуў ён.

Жанчына павярнула да яго галаву і насмешліва спытала:

– Так і будзеш хадзіць у чужую капусту?

Гэтая ўяўная сварка ўзбудзіла ў ім пачуццё ўласніка, з рук якога выслізгвае востраязыкая і ненаедная ў каханні незнаёмка з Крыніцы. Ён хацеў ёй сказаць нешта рэзкае, але пачуў голас Алы:

– Ты яшчэ не заснуў? Пойдзем ужо...

Выключыла тэлевізар, кінула пульт на канапу, узяла яго за руку і павяла ў спальню. Калі згасла святло начной лямпы і да яе ног з шоргатам упаў халат, яна зрабіла некалькі крокаў да ложка, і легла ў яго зусім голая, толькі ў млявых разлівах вулічнага ліхтара цямнеў кусцік інтымных валасоў і ўзбуджана блішчалі яе вочы. Ён правёў рукой па яе тугім цёплым целе, прыпаў вуснамі да сараматных губ і адчуў, што яна таксама не гатовая да кахання.

– Ідзі сюды, – папрасіла яна. – Ляж каля мяне.

Яны ляжалі моўчкі адно ля аднаго, жанчына ўзяла рукой яго расслабленую плоць і пацалавала ў лоб.

– Спі, табе рана ўставаць.

Доўга круцілася, а потым ён пачуў яе роўнае дыханне. У сне яна ўздрыгвала і штосьці балбатала. Зазіраючы ў іх спальню праз прадзёртае радно неба, спалохана міргала вялікая зорка.

Раніцай Ала прачнулася, прыгатавала мужу і дочцы сняданак, дапамагла сабрацца ў школу. Тадэй і Насцечка пацалаваліся з ёй, яна правяла іх у двор, паглядзела, як садзяцца ў машыну, і доўга махала ўслед рукой.

Усю раніцу яна наводзіла ў доме парадак, варыла грыбную поліўку, пекла яблычныя пірагі, ад якіх на ўвесь дом струменіўся водар свежаспечанага цеста, а калі пачала збірацца да Мендэля, падумала, што муж ні ў чым не вінаваты. Ва ўсім вінаватая яна.

## 9

Аляксандр Мендэль сустрэў яе ў сваім дамашнім халаце і старых пантофлях. Ала прайшла ў яго кабінет, і Мендэль запрасіў яе легчы на канапу.

– Сёння мы будзем гаварыць пра вашую маці, – сказаў, сядаючы ў мяккае крэсла. – Ці вядома вам што пра яе раннія захапленні мужчынамі?

Яна адчула пах старога дома, пах цвілі і пылу, быццам у памяшканні не прыбіралася з часоў сталінскіх рэпрэсій.

– Пасля вайны, калі маёй маці было трынаццаць гадоў, яна закахалася ў нямецкага палоннага Паўля, – пачала сваю гісторыю Ала. – Палонныя салдаты пракладалі брук ад трасы праз Скамарохі. Непадалёк ад вёскі быў ваенны аэрадром са знішчальнікамі і самалётамі дальняй авіяцыі. Таму калі брукаванку давялі да Скамарохаў, мая маці, якая была яшчэ дзеўчынём, упершыню ўбачыла маладзенькага палоннага Паўля. У яго былі светлыя валасы і сінія вочы, і калі ён усміхаўся, на яго шчоках з'яўляліся ямачкі. Штодня палонных выводзілі на працу салдаты з аўтаматамі. Нямецкія ваеннапалонныя былі абарваныя, з патупленымі поглядамі і ніколі не глядзелі ў вочы. Толькі Паўль меў ясны твар, і ў яго вачах не было ні адчаю, ні агрэсіі, нібы ён выконваў сваю звыклую працу. Калі брукаванку пракладалі каля дома дзеда з бабай, маці набірала з калодзежа ваду і Паўль папрасіў у яе піць. Ахоўнікі трапіліся нядрэнныя і дазволілі. Маці падала яму вядро, палонны прыпаў да вады і калі напіўся, на яго шчоках з'явіліся ямачкі.

– Wie heißen Sie?[1]

– Ксеня, – адказала маці.

– Danke sehr, Ksena![2] – удзячна кіўнуў ёй.

У яго вачах было столькі шчырай радасці, што яна доўга не магла супакоіцца. У ім было так шмат чысціні і нерастрачанага кахання, што яна гэта адчула сваім паўдзіцячым і неспрактыкаваным жаночым сэрцам. Ён не сказаў, як яго завуць, але яна і так ведала, бо чула, як яго называў іншы палонны, калі таксама хацеў напіцца. Перад яе вачыма быў твар палоннага і сінія вочы, пра якія яна думала ўсю ноч, а пад раніцу зразумела, што ўпершыню закахалася. Палонных прыводзілі штодня. Яна чула, як з грукатам праязджалі грузавікі з каменем, і пад крыкі ахоўнікаў палонныя вазілі тачкамі брук. Праходзячы па вуліцы, яна заўсёды працягвала яму яблык і казала:

---

[1] Як вас завуць? (*ням.*)

[2] Вялікі дзякуй, Ксеня! (*ням.*)

– Паўль, вазьмі яблык.

Ён усміхаўся, і калі варта дазваляла, браў з яе рук яблык. Нюхаў, як пахне ён садам і рукамі незнаёмай дзяўчынкі, што так па-дарослаstarting на яго глядзела, угрызаючыся зубамі, адчуваў смак яблыка, які на імгненне засланяў горыч палону. А яна шчаслівa глядзела на яго. І гэты яе штодзённы рытуал ужо ведалі палонныя і ахоўнікі. Гэтае каханне не мела ніякай будучыні. Яна не магла з ім нават пацалавацца, але дзяўчынка пра гэта не думала, яна была шчаслівая, што можа яго бачыць. Дзеля таго, каб заквітнела каханне, трэба трохі рэальнасці, а ўсё астатняе дамалюе ўяўленне закаханых, якія заўсёды хочуць бачыць адзін у адным тое, чаго ім не хапае. Каханне – гэта заўсёды нешта большае за рэальнасць.

Яе безнадзейнае каханне працягвалася паўмесяца, пакуль не з’явіўся новы ахоўнік Бліноў, невысокі, круглатвары, ён гучна лаяўся і біў прыкладам палонных. За два тыдні знаёмства з Паўлем яна ператварылася ў дзяўчыну. Налілася сокам, у яе нават змянілася хада.

Гэта адбылося ў першы дзень выхаду на службу яфрэйтара Блінова. У той дзень яна ўзяла некалькі буйных яблыкаў і пайшла паўз палонных. Грузавікі падвезлі камень, і палонныя ўкладвалі брук. Над дарогай узляталі кіркі і адборная лаянка новага ахоўніка. Паўля яна ўбачыла не адразу. Ён укладаў камень з процілеглага боку дарогі. Перайшла да яго і паклікала:

– Паўль! Паўль!

Ён заўважыў і зажэстыкуляваў, паказваючы на Блінова, які кінуўся напярэймы з аўтаматам, пстрыкнуў затворам і закрычаў:

– Назад! Стрелять буду!

Але Паўль быў ужо зусім блізка. Яна падбегла да яго і працягнула яблыкі. Яе адкінула ўдарам прыклада ў жывот. Падаючы, убачыла зусім блізка твар Паўля. Аўтаматная чарга перапалохала варон у садзе. Паўль упаў, ненатуральна падкурчыўшы руку. Убачыла яго вялікія здзіўленыя вочы, яблыкі ў крыві і ўсмешку на твары.

– Danke, Ksena, – прашаптаў ён.

У раптоўнай цішыні вялікая зялёная муха села на яго шырока расплюшчаныя вочы, і яна гучна закрычала, не пазнаючы свайго голасу. Бот Блінова адкінуў яе ад Паўля.

– Глупая хохлушка! Проваливай, я сказал!

На стрэлы прыбег маладзенькі лейтэнант і строга спытаў:

– Кто стрелял?

– Ефрейтор Блинов! – клацнуў абцасамі і ўтаропіўся на афіцэра той.

– Блинов, блин!.. – гучна вылаяўся лейтэнант, зняў фуражку, выцер рукой мокры лоб і злосна загадаў. – Уберите гражданских! Труп закопать!

Здаравенны салдат з аўтаматам узяў Ксеню за руку і павёў па вуліцы, а яна ішла і азіралася, бачыла, як пасярод дарогі палонныя дзяўбуць кіркамі неглыбокую яму, укладваюць цела Паўля, а зверху трамбуюць і мосцяць брук.

А наступнай раніцай на свежавыкладзенай дарозе салдаты і палонныя ўбачылі букет васількоў, сініх, як вочы Паўля.

Ала змоўкла і паглядзела на Мендэля. Ён сядзеў і не міргаючы глядзеў кудысьці на падлогу, быццам там быў напісаны працяг лёсу Ксені Рачкоўскай, пра якую расказала яе дачка. Ён пацягнуўся і пазяхнуў, прыкрываючы далонню рот.

– З гэтай гісторыі я зрабіў бы выснову, што вашай маці падабаліся рамантычныя і непрадказальныя адносіны з мужчынамі. Але калі гэтае

напаўдзіцячае каханне з нямецкім палонным – пачатак яе ўваходжання ў свет дарослых, то я хацеў бы ведаць, як развівалася яе інтымнае жыццё далей. Аб здрадзе, якую ваш бацька далікатна абышоў, каб не распачынаць сямейны скандал, я ведаю. Але ці было нешта ў яе адносінах з іншымі мужчынамі, што глыбока ўразіла вас на ўсё жыццё?

Ала падумала, што мусіць распавесці гісторыю, якую хацела забыць, бо яна ўразіла яе яшчэ несфармаваную дзіцячую душу прадчуваннем вялікага і гарачага кахання яшчэ больш, чым першы любоўны фільм, які яна бачыла, і развітальныя пацалункі дзяўчыны з хлопцам, якога забіралі ў войска, з яе далёкага дзяцінства.

– Мне здаецца, што ключ да разгадкі вашага нуднага сямейнага жыцця схаваны ў паводзінах вашай маці, – няўпэўнена сказаў Мендэль, і яго голас быццам растварыўся ў прапахлым страхам старым сталінскім доме, што памятаў начныя крокі мужчынаў у скуранках.

– Я не хацела б пра гэта распавядаць, – адазвалася Ала, – але ўжо столькі ператрэсла сваіх і мамчыных старых прасцінаў, што павінна ісці да канца і распавесці тое, што баюся ўспамінаць нават для сябе. Я ўжо казала, што мая маці працавала вагаўшчыцай. З дзяцінства памятаю зашклёную вагавую, машыны і падводы з грузам і маці, якая пасоўвае бліскучую жалезную гіру і запісвае лічбы ў накладныя. Я любіла круціцца ля яе, назіраючы, як заязджаюць на платформу вагавой машыны і жартуюць з маці ездавыя і кіроўцы.

Аднойчы ўлетку, калі з гнёздаў выляцеў першы вывадак ластавак, я блукала каля вагавой. Была жахлівая спякота. Каля крыніцы, у жолабе з вадой, купаліся вераб'і. Высунуўшы слінявыя языкі, у цяню хекалі сабакі, а я гуляла з маленькім прыблудным кацянём, калі маму паклікаў конюх:

– Ксена, ідзі сюды!

– Пабудзь тут, – сказала мама мне. – Я не надоўга.

Паглядзела ў люстэрка, папраўліла прычоску і пайшла. Я бачыла, як яна зайшла ў стайню, і ўслед за ёй увайшоў конюх. Я гуляла з кацянём, і неўзабаве мне стала самотна, і я захацела да мамы.

– Пабудзь тут, – загадала кацяню. – Я не надоўга.

Прыкрыла дзверы ў вагавой і пайшла праз гаспадарчы двор. Пад маімі нагамі падымаўся лёгкі пыл. Адчувала, як пячэ пыл мае ногі, трапляючы ў дзірачкі ў сандалях. Пад клёнамі слінявыя сабакі абыякава правялі мяне поглядамі. Дзесьці ў вершалінах дрэваў пачуўся вуркат голуба. Высока ў небе лавілі мух маладзенькія ластаўкі.

Каля стайні ў летняй загароджы, адганяючы сляпнёў, фыркалі і матлялі грывамі коні. Я прасунулася бокам у прыадчыненыя цяжкія дзверы. Скрозь маленькія акенцы сачылася чэрвеньскае сонца. У стайні вісела вупраж і востра пахла конскім потам. Недалёка ад мяне еў з ясляў канюшыну буланы конь. Я спынілася і прыслухалася. У канцы стайні, дзе стаялі вялікая гнядая кабыла і два жарабцы, я пачула дзіўныя гукі. Мне падалося, што там нехта стогне.

«Мабыць, камусьці кепска», – падумала я і пайшла ў канец стайні.

Гнядая кабыла гучна хрумстала кукурузнымі кіяхамі, і да яе тулілася калматае жарабя. Я абышла кабылу з жарабём і спынілася каля воранага жарабца, што трывожна глядзеў на мяне цёмнымі вачыма, і пад яго ільснянай поўсцю перакочваліся вузлаватыя мышцы. Жарабец быў чымсьці незадаволены, круціў галавою і ляскаў ланцугом. Ён быў такі здаровы і

нястрымны, што калі б захацеў збегчы са стайні, то парваў бы ланцугі і выбіў капытамі дзверы. Я са страхам глядзела на здаравеннага жарабца і баялася, каб ён не ўкусіў мяне і не ўбрыкнуў нагой. Другі жарабец быў не такі дзікі, але тое, што я ўбачыла за ім у пустым стойле, прымусіла мяне забыцца, чаму я сюды прыйшла. Я ўбачыла конюха са спушчанымі штанамі. Яго загарэлыя рукі задралі спадніцу маёй маці і мялі два вялікія белыя шары, якія ўздрыгвалі пад рукамі. Я не пазнала яе, нібыта перада мной была чужая жанчына, якая аддавалася гэтаму загарэламу і мокраму ад спёкі і любоўнага поту мужчыну з такой страсцю, што калі б я закрычала на ўсе Скамарохі і на ўвесь свет, яна б не кінула падстаўляць яму сваё прагнае цела. Абапёршыся рукамі на яслі, яна стагнала. Яе валасы былі растрапаныя, з-за пазухі вываліліся вялікія дрыготкія грудзі, якія мяла прагная рука конюха, высокага і мускулістага, падобнага на племяннога жарабца, што незадаволена матляў галавой. І ў гэтым грубым вясковым сэксе было столькі адкрытасці і прастаты, якія без лішніх цырымоній агалілі вяршыню інтымных адносінаў паміж мужчынам і жанчынай, што я захоплена глядзела на раскудлачаную маці, якая перажывала найбольшае задавальненне, якое можа даставіць жанчыне мужчына, і адчула, што зайздрошчу ёй, бо не магу перажыць таго, што перажывала ў гэты час яна. Я ціхенька залезла ў пустыя яслі насупраць і адтуль праз шчыліну назірала, як разам з маці застагнаў чалавек, як напнуліся яго потныя мышцы, а потым яна задаволена абтрэслася, папраўіла валасы, і яе твар памаладзеў, нібы гэта была не маці, а зусім чужая маладая жанчына. Убачанае ў канюшні атруціла мне жыццё. Я ніколі пра гэта не ўспаміналa. І толькі цяпер, калі распавядаю гэты выпадак, разумею, што ўсё жыццё мая маці хацела шалёнага кахання. Ёй патрэбен быў гарачы рамантычны чалавек, а не далікатны і мяккі тата. Яна адчувала, што ўва мне ёсць яе тэмперамент, таму з дзяцінства палохала і адваджвала мяне ад вялікага запалу, бо добра ведала, што вялікія страсці цягнуць за сабой вялікія пакуты. Самадысцыпліну і кантроль над пачуццямі яна выхоўвала ўва мне з ранняга дзяцінства. Я баялася пачуццяў і хацела іх, і гэта раздзірала маю душу. Я жыла, як манашка, душачы ў сабе агонь любові. Баялася нават марыць пра іншых мужчынаў. Вось што рабіла мяне няшчаснай. І калі я нарэшце дасягнула таго, пра што марыла, зразумела, што спружына, якую шмат гадоў стрымлівала ў сабе, пачала раскручвацца ўва мне і раніць маё сэрца. Гэта толькі збоку здаецца, што ў нас з Тадэем ідэальная сям'я. На самой справе ён і я глыбока няшчасныя. Мы не можам расстацца і не можам быць шчаслівымі. Разумеючы гэта, мы шкадуем адно аднаго і не можам вярнуць хаця б тое, што аб'ядноўвала нас на пачатку знаёмства, бо не хочам, каб пра Насцечку ў школе казалі, як пра Зосю Бабелю. І калі вы можаце нам дапамагчы, зрабіце гэта, і мы вам добра заплоцім.

Аляксандр Мендэль моўчкі сядзеў і слухаў, як смаркаецца ў насоўку і стрымлівае ў сабе плач гэтая дагледжаная і прывабная жанчына.

## 10

Тадэй Швагуляк ляжаў на канапе і назіраў, як меланхалічна ходзіць Аляксандр Мендэль. Яго твар быў пакамечаны і з мяшкамі пад вачыма. На імгненне Тадэю падалося, што ён забыўся пра яго існаванне і пачаў калупацца ў носе, але перахапіў погляд Тадэя і збянтэжана прамармытаў:

– Гэта спрыяе разумовай актыўнасці.

Спыніўшыся насупраць канапы, ён паглядзеў на Швагуляка, і на яго твары з’явіўся сумны выраз.

– Штось не так? – разгубіўся Тадэй.

– Скажыце, – пацікавіўся Аляксандр Мендэль, – як бы вы сімвалічна абазначылі вашыя адносіны з жонкай?

– Аднойчы, корпаючыся сярод сваіх рэчаў, я знайшоў стары механічны гадзіннік, які насіў яшчэ ў Жоўкве, – сказаў Тадэй. – Ён ляжаў у кардоннай скрынцы разам з маркамі, якія я калекцыянаваў у школе. Гэты гадзіннік я не браў у рукі гадоў дваццаць. Але калі яго завёў, убачыў, што ён цікае, але стрэлкі не рухаюцца. Я падумаў, што маё жыццё з Алай нагадвае гэты стары механічны гадзіннік. Як быццам у нас прыстойная сям’я, мы забяспечаныя, не здраджваем адно аднаму, не сварымся, але на самой справе нешчаслівыя.

– Шчасце – даволі размыты панятак, – сеў у крэсла Мендэль і закінуў нагу на нагу. – Кожны чалавек укладвае ў яго нешта сваё. Што гэта для вас?

– Для мужчыны шчасце – гэта калі яму здаецца, што жанчыны, з якой ён жыве, хопіць да канца жыцця.

У Мендэля іранічна заламалася брыво.

– Вы ставіцеся да жанчыны, як да батарэйкі, – закруціўся ён у крэсле і загойдаў пантофлем. – Зрэшты, толькі што вы самі прызналіся, што гэта ілюзія.

– Але гэтая ілюзія стварае адчуванне, што так будзе заўсёды.

– А што такое адчуванне? – пацягнуўся Мендэль. – Сёння ў вас адно адчуванне, а заўтра вы сустрэлі іншую жанчыну, пакалечыліся, збанкрутавалі патрапілі ў аўтакатастрофу – і ў вас раптам усё змянілася.

– Каханне не залежыць ад катастроф, – змрочна сказаў Тадэй. – Гэта тое, што застаецца.

– Каханне – гэта і ёсць самая разбуральная катастрофа, пасля якой людзі губляюць працу, бізнэс, канчаюць жыццё самагубствам ці трапляюць у вар’ятню, – паправіў зморшчыны халата Мендэль. – Вы блытаеце каханне з любоўю і не выкарыстоўваеце перавагі, якія дае вам вашая мова. Бо не ўсе мовы гэта адрозніваюць. У рускай мове «любіць сям’ю», «любіць жанчыну» і «любіць гарэлку» пазначана адным словам. Ужо польскую мову адрознівае «miłość» як любоў у яе глыбокім сэнсе і «kohańe» як палавы юр. Украінскае слова «каханка» больш адпавядае сваім значэнні, чым рускае – «любовница». Каханне праходзіць, як алкагольнае ап’яненне, а любоў – гэта тое, што застаецца. Каханне немагчымае без ап’янення, таму ў старажытных грэкаў яно было звязана з дыянісійскім культам. А калі пасля ап’янення прыходзіць цвярозасць і застаецца нешта, і гэтае нешта набывае іншыя формы, то гэта ўжо любоў.

– Дык што вы ўсё ж укладваеце ў панятак каханне?.. – збянтэжана прамармытаў Тадэй.

– Тое, што глыбей за жарсць, – адказаў Аляксандр Мендэль, – спачуванне, павага, залежнасць, жаданне дапамагаць, весці хатнюю гаспадарку, нараджаць і выхоўваць дзяцей. Калі пасля бурнай ночы асалодаў ад жанчыны хочацца ўцячы, гэта азначае, што паміж вамі няма кахання.

– У мяне некалькі іншыя меркаванні, – варухнуўся Тадэй. – У восьмым класе нас вазілі на экскурсію ў Львоў. Мы зайшлі ў краму і ў аддзеле ца-

цак Аксана Дронь на нашых вачах украла драўляную гуцульскую ляльку. Мы нават анямелі, калі яна пакруціла ляльку ў руках, а потым сказала мне і Свяцiку Годзію:

– Не круціцца. Зараз я гэтую ляльку ўкраду.

І не паспелі мы апамятацца, як яна засунула ляльку ў сумачку і, як ні ў чым ні бывала, выйшла з крамы.

– Ты ведаеш, што ты зрабіла?! – абурыўся Годзій. – Калі б цябе злавілі, ты б зганьбіла ўсіх нас, настаўніцу і школу. Уяўляеш, як прадаўцы выклікалі б міліцыю, цябе ў кайданках адвезлі ў міліцэйскі ўчастак, склалі пратакол. А потым гэтую паперу даслалі б у школу. Навошта ты ўкрала гэтую ляльку?

– Бо мне так захацелася, – спакойна сказала яна.

Я паглядзеў у яе цёмныя вочы і ўбачыў там столькі граху, што ажно анямеў. Раней я ніколі не звяртаў на яе ўвагу. Гэты крадзёж падняў яе ў маіх вачах. Для мяне яна была жанчынай, якая парушыла закон. Замахнулася на тое, што з дзяцінства ўбівалі ў маю свядомасць бацькі, дзед, баба.

– А што вас у гэтым так захапіла?

– Мяне захапіла тое, што яна пагрэбавала сорамам і страхам.

– І што было далей?

– А далей усе выйшлі з крамы. Настаўніца нічога не ўбачыла. Усе астатнія з класа, акрамя мяне і Годзія, таксама. А мы са Свяцікам былі так гэтым шакаваныя, што і ў Жоўкве перажывалі ўчынак Аксаны Дронь, якая нічым не вылучалася ў школе, а была шэрай, пасрэднай дзяўчынай. Пасля гэтага выпадку ўсе эратычныя фантазіі ў мяне былі звязаныя з ёй.

– І як вы сабе гэта ўяўлялі?

– Я ўяўляў, як яна заводзіць мяне ў склеп нашага дома, штурхае на брудны матрац, сцягвае з мяне адзенне, не міргаючы глядзіць сваімі насмешлівымі вачыма і пытае:

– Хочаш?

Здымае маю і сваю вопратку і са мной кахаецца. У мяне нават пальцыі з'явіліся праз Аксану Дронь. Я прачынаўся ад таго, што было вельмі добра, і на прасціне бачыў вялікую крухмалістую пляму.

– У вас былі з ёй інтымныя зносіны?

– Не, што вы! Мае першыя інтымныя зносіны былі з жонкай. Яна стала маёй першай жанчынай, а я – яе першым мужчынам.

– У Аксане Дронь вы бачылі дзяўчыну, якая пазбавіць вас ад рэлігійных і сямейных табу?

– У ёй я бачыў свабодную жанчыну, якая ні перад чым не спыніцца. Усё жыццё я адчуваў, як мяне прыгнятае рэлігійны, сямейны, культурны ўціск, які абмяжоўвае мяне ў паводзінах, прымушаючы выбіраць добрапрыстойную жанчыну, добрую кухарку і няню маіх дзяцей. А тут са дна душы паднялася нейкая каламуць, якая назапашвалася ўсё жыццё. І аказалася, што на самой справе гаспадаром у выбары жанчыны з'яўляецца не розум. Ведаеце, спадар Мендэль, у юнацтве я саромеўся дзяўчат і чакаў, калі яны самі пачнуць да мяне прыставаць. Я ўяўляў, як дзяўчына перада мной распранаецца і цягне да сябе. Я зайздросціў хлопцам, якія карысталіся поспехам у дзяўчат, бо не ведаў, як з імі пачаць... А калі якая з дзяўчат звяртала на мяне ўвагу і была не супраць са мной пазнаёміцца, тая мне не падабалася.

– А якія вам падабаліся?

– Часцей за ўсё – нахабныя і вострыя на язык.

– І што вас стрымлівала?

– Мяне заўсёды вабілі распусныя, злыя, амаральныя жанчыны, але мой розум і выхаванне не дазвалялі мне ў гэтым прызнацца. Я разумеў, што з такой жанчынай нармальнай сям'і не створыш.

Аляксандр Мендэль устаў і прайшоўся па кабінеце. У яго вачах упершыню за час сустрэчаў з Алай і Тадэем з'явіўся азарт, быццам у паляўнічага, які выйшаў на след дзікага звера.

– Уявіце сабе, што вы пабраліся з Аксанай Дронь, – спыніўся пасярод кабінета Мендэль. – У вас востры сэкс, кожную вольную хвіліну вы хочаце адасобіцца, каб зацягнуць яе ў ложак, з ёй вам добра, як ні з кім іншым, і вам здаецца, што так будзе да канца вашага жыцця. Але праз некаторы час вы заўважаеце, што вашая жонка позна прыходзіць, на выходныя ідзе на працу або кажа, што едзе да сяброўкі ў іншы горад. А потым хтосьці вам нашэптвае на вуха, што ў яе – палюбоўнік. Вы не знаходзіце сабе месца, вы пакутуеце, наладжваеце сцэны рэўнасці, бегаеце высвятляць адносіны з тым чалавекам. І чым больш вы ў гэта ўцягваецеся, тым больш брыдкім робіцеся Аксане Дронь. І, нарэшце, яна са скандалам сыходзіць ад вас да іншага мужчыны.

– А чаму вы бачыце менавіта такую развязку?

Мендэль зарыпеў паркетам і зноў сеў у мяккае крэсла.

– Ці ёсць у вас ідэал жанчыны, якая заменіць вам усіх жанчын?

– Я хачу шалёную жанчыну, якая ўмее гэта хаваць. Пра такую жанчыну я марыў усё жыццё, добрапрыстойную ў сям'і і распусную ў ложку.

– Вы хочаце халоднага агню альбо гарачага лёду? – кісла ўсміхнуўся Мендэль.

Тадэй адчуў, як раздражняе яго гэты чалавек. У яго душы варухнулася непрыязь да Аляксандра Мендэля, які за тыдзень зарабляе на яго сямейнай праблеме ўдвая больш, чым кіеўскі прафесар за месяц, і не можа яе вырашыць.

– Паслухайце, – сярдзіта ўстаў ён з канапы, – мяне не задавальняюць гэтыя паездкі на Старавакзальны. У мяне няма часу на шматгадовыя размовы пра маё мінулае, якія нічога не змяняюць у маіх сямейных адносінах. І калі вы не ведаеце кароткай і эфектыўнай тэрапіі, я хачу сёння разарваць нашыя дамоўленасці. Мне гэта ўжо надакучыла! А калі вас сапраўды цікавіць, чаму ў мяне такія адносіны з жонкай, то я скажу. Посная яна мне! Такая ва ўсім правільная, што нецікавая!

Тадэй злосна выйшаў у калідор, прысеў і пачаў абувацца.

– Пачакайце, – спахапіўся Мендэль, спыняючы яго каля дзвярэй, – калі вас не задавальняюць традыцыйныя сеансы, то я магу прапанаваць штосьці карацей.

На твары Мендэля выступілі чырвоныя плямы.

– Чаму вы дурыце галаву ўспамінамі пра маё ранейшае жыццё? – абурыўся Тадэй.

– Мае сеансы – цяжэй за споведзь у святара, але без іх мы не маглі б з вамі зрабіць тое, што я вам прапаную.

– Колькі гэта зойме часу?

– Адны суткі.

– Суткі – гэта не адзін год, – буркнуў Швагуляк. – А гэта хоць штосьці дасць?

– Вынікі могуць быць нечаканыя, – замармытаў Мендэль, – але кошт будзе зусім іншы.

– Цана для мяне не мае значэння. Галоўнае, каб нядоўга.

– Гэта звязана з імітацыяй інтымнага жыцця, – ажыў Аляксандр Мендэль, і ў яго голасе зноў з'явілася ўпэўненасць. – Я падбяру такіх партнёраў і мы змадэлюем такую жарсць, якая прымусіць вас пераацаніць сваю жонку, а яе – пераацаніць вас. Гэта будзе спектакль пра шлюбную здраду са старасвецкімі вынаходствамі, які вылечыць вашыя пачуцці. У гэтым спектаклі вы будзеце акцёрамі і гледачамі адначасова. Бо што можа быць больш тэатральным, чым распуста? Але гэта будзе не ў Кіеве, а ў нейкім палацы. Я знайду рэжысёра, растлумачу, што ад яго хачу, а ён мне зробіць усё так, як я скажу. З каштарысам расходаў я пазнаёмлю вас пасля сустрэчы з рэжысёрам.

– І што гэта будзе, калі не сакрэт?

– Платон лічыў, што ідэальнага партнёра для мужа і жонкі можна знайсці з дапамогай алгебраічнай формулы, – паправіў на халаце пас Аляксандр Мендэль. – Але гэтую формулу ніхто не ведае.

– А вы ведаеце? – зласліва спытаў Тадэй.

– Я здагадваюся, – загадкава ўсміхнуўся Мендэль.

## 11

За вакном раскінуўся змрочны восеньскі пейзаж. Пажоўклыя дрэвы нагадвалі пасівелых жанчын, што дзівяцца на млявае сонца, якое скупа грэла зямлю, над якой гучаў змрочны развітальны акорд па мінулым цяпле, колерах і гучных спевах птушак. Падскокваючы на выбоінах прасёлка, за чорным «Ролс-Ройсам» ехаў белы аўтобус. Дарога была такая разбітая, быццам па ёй прайшла не адна армія.

– Чаму вы нас сюды пацягнулі? – парушыла маўчанне Ала. – Качаноўкі[1] няма нават на мапе.

Тадэй Швагуляк моўчкі курыў цыгару, а Аляксандр Мендэль сумна глядзеў у вакно.

– Гэты маёнтак выпраменьвае нястрымныя эратычныя жаданні, – заварушыўся Раман Бэй, і ад гэтага ў салоне адразу стала цесна. – Там быў самы вялікі прыгонны бардэль для выбітных людзей Расійскай імперыі. Вядомыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары з'язджаліся ў Качаноўку і жылі там па тры месяцы, а некаторыя і па паўгода.

– Прамантачвалі свае ганарары? – хіхікнула Ала.

– Думаеце, яны за гэта плацілі? – прасіпеў Бэй.

– А хіба не?..

– Яны разлічваліся аўтографамі ў кнізе гасцей. Трыста аўтографаў знакамітых гасцей, якія спустошылі маёнтак сваімі бясконцымі дарагімі абедамі, вось кошт праўдзівае гасціннасці, ахвярамі якой сталі паны Тарноўскія.

– А што, Тарноўскія былі такія багатыя?

– Дзевяць тысяч прыгонных, землі на Кіеўшчыне, Палтаўшчыне, Чарнігаўшчыне, бровары, конныя і цукровыя заводы. Тарноўскія былі вельмі багатымі людзьмі.

Раман Бэй сеў, і Ала адчула, як яго цяжкая нага прыціснулася да яе. Адчувалася, што Бэй любіў жанчын і ўволю паесці.

[1] Качаноўка – сяло ў Чарнігаўскай вобласці, на поўначы Украіны, дзе знаходзіцца былы маёнтак украінскіх паноў Тарноўскіх.

«Які ён тоўсты, – падумала яна. – Як ён кахаецца з жанчынамі? У ім, мабыць, паўтара цэнтнера жывой вагі».

– Ганарыстасць і калекцыйныя страсці разарылі Тарноўскага, – сказаў Бэй.

Прыціснуты да прывабнай жанчыны, ён адчуваў, як у ім закіпае кроў, і хацеў падтрымліваць з ёй размову.

– А тут некалі жыў нейкі Качан? – гулліва спытала жанчына.

– У саракавыя гады васямнаццатага стагоддзя пеўчы імператарскага хору Фёдар Качаноўскі купіў у Чарнігаўскай губерніі два хутары. Так з’явілася Качаноўка. Праз трыццаць гадоў яго сядзібу выкупіла расійская царыца Кацярына II і падарыла свайму фельдмаршалу Пятру Румянцаву-Задунайскаму, які заклаў парк і палацавы комплекс. Пасля сядзібу набыў тытулярны саветнік Рыгор Тарноўскі, пабудаваў палац, царкву, акультурыў сажалкі, сабраў вялікую бібліятэку і калекцыю карцін. Пры ягоным гаспадаранні маёнтак наведвалі Гогаль, Шаўчэнка, Панцеляймон Куліш. Наступным гаспадаром Качаноўкі стаў Васіль Тарноўскі-старэйшы, а найбуйнейшым мецэнатам быў Васіль Тарноўскі-малодшы, вядомы калекцыянер украінскіх старажытнасцяў. Ён меў у сваёй калекцыі казацкія кляйноды, гетманскія ўніверсалы, парсуны гетманаў, шаблю Багдана Хмяльніцкага, асабістыя рэчы Івана Мазепы, Паўла Палуботкі і апошняга ўкраінскага гетмана Кірылы Разумоўскага.

– І што, у Качаноўцы дагэтуль усё так, як было пры Тарноўскіх?

– Не так даўно сюды прыязджала з Англіі праўнучка Васіля Тарноўскага Таццяна Хайн-Тарноўская, – як бы няўзнак зачапіў нагу Алы рукой Раман Бэй, – дала некалькі скандальных інтэрв’ю, у якіх расказала пра ўсё, што ўбачыла ў Качаноўцы. А ўбачыла яна джыпы на газонах, рэшткі вогнішча ў парку, дзе адпачывала якаясьці вясёлая кампанія, і была тым вельмі абураная. Мы будзем паводзіць сябе абачлівей. За арэнду палаца заплочана. Так што суткі сюды нікога не будуць пускаць. Ага, вось мы і прыехалі.

Яны спыніліся каля брамы былога палаца Тарноўскіх. Два каменныя львы ахоўвалі старадаўні дваранскі маёнтак. На прысадзе, што вяла да палаца, раслі грабы, падобныя да пакарабачаных падаграй старых жанчын у барадаўках.

Раман Бэй камусьці патэлефанаваў і выйшаў з машыны.

– Можна я з вамі? – выскачыла з машыны Ала.

Яны зайшлі ў дырэкцыю, Ала спытала, дзе прыбіральня, ёй паказалі, Бэй пачакаў, пакуль яна адтуль выйдзе, і яны зайшлі ў адзін з пакояў, дзе абедалі жанчыны. На стале яны ўбачылі бутэльку гарэлкі, хлеб, цыбулю і крышанае сала.

– Мы заплацілі за суткі арэнды, – сказаў Бэй.

– Хадземце, – замітусілася дзябёлая жанчына. – Я пакажу вам, дзе спыніцца, і правяду экскурсію.

Яны выйшлі на паркавую алею. Па тэрыторыі запаведніка бегалі прыблудныя сабакі, якіх падкормлівала абслуга музея. Цэнтральная частка палаца ў стылі класіцызму была ўвенчаная дэкаратыўным купалам на высокім барабане, які завяршаўся невялікай назіральнай пляцоўкай, абароненай жалезнымі кратамі. Сцены палаца былі ўпрыгожаныя рустам, а над вокнамі былі відаць ляпныя ўпрыгожанні. Да палаца прымыкалі два флігелі.

– Акцёры і музыкі пасяляюцца ў гэтым флігелі, – паказаў Раман Бэй.

Гурт мужчынаў і жанчын пацягнуў да флігеля сумкі і музычныя інструменты. Свае рэчы Тадэй, Ала, Мендэль і Бэй таксама перанеслі ў флігель на першым паверсе, а потым пайшлі за жанчынай. Яны зайшлі ў вестыбюль з драўлянай лесвіцай, якая вяла ў сталавальню. На ўсім ляжала пячатка запусцення. Залы палаца былі запоўненыя карцінамі мясцовых аматараў-мастакоў і рэпрадукцыямі рускіх мастакоў украінскага паходжання. Былі тут копіі карцін Мікалая Ге і Іллі Рэпіна. Экскурсію вяла жанчына з залатымі зубамі, ад якой пахла цыбуляй. Распавядала яна сумнавата, і Раман Бэй рабіў ёй заўвагі, на якія яна чырванела і пыталася, адкуль ён пра ўсё даведаўся.

– Тут можна было б зрабіць добры музей памешчыцкага побыту XVIII-XIX стагоддзяў, – сказаў Бэй, падтрымліваючы пад руку жанчыну.

Пад Георгіеўскай царквой ім адкрылі жалезныя дзверы і завялі ў крыпту, дзе знаходзіўся радзінны склеп Тарноўскіх.

– А дзе ж спачываюць Тарноўскія? – пацікавілася Ала.

– У 1935 годзе тут адкрылі прытулак для сіротаў, якія знішчылі склеп і расцягнулі косці, – адказала экскурсавод.

– Хто тут быў пахаваны? – спытаў Тадэй.

– Муж і жонка Рыгор і Ганна Тарноўскія. Яны памерлі ў адзін дзень з розніцай у шэсць гадзінаў.

– Дык дзе ўсё ж такі падзеліся парэшткі памерлых? – не магла супакоіцца Ала.

– Хто ведае? Дзесьці тут, – махнула рукой на маёнтак жанчына. – Часам туманнымі раніцамі па маёнтку блукаюць нейкія цені. Кажуць, гэта душы Тарноўскіх.

Яны выйшлі са склепа і накіраваліся прысадамі.

– Збіранне дарагіх калекцый, бясконцыя банкеты, прыёмы гасцей спустошылі дашчэнту Тарноўскіх, і ў 1897 годзе яны вымушаныя былі прадаць маёнтак цукразаводчыку Паўлу Харытоненку, – сказала экскурсавод і какетліва ўсміхнулася. Было прыкметна, што ёй падабаецца Раман Бэй. – Вось гэтая алея, якая злучае царкву з палацам, цяпер засыпаная жоўтым лісцем. А калі Харытоненка выдаваў сваю дачку замуж, дык маладыя ехалі вянчацца коньмі на санях па сцяжыне з цукру, бо вяселле было летам.

– Якое марнатраўства, – прабурчаў Аляксандр Мендэль.

– Зрэшты, гэта не зрабіла Алену Харытоненка шчаслівай, бо першы яе шлюб быў нядоўгім, – усміхнулася жанчына і паглядзела на Рамана Бэя. – Неўзабаве яна развялася і выйшла замуж у другі раз. Маладая сям'я пасялілася ў Качаноўцы, але праз дзесяць гадоў адбылася бальшавіцкая рэвалюцыя, і ў 1919 годзе маёнтак нацыяналізавалі, а яго ўладальнікі эміగравалі за мяжу. З тых часоў дваранскай сядзібе не шанцавала. Пры новай уладзе ў Качаноўцы пачалі высякаць дрэвы, разбураць скульптуры, расцягваць мэблю. У сельскіх дамах з'явілася антыкварная мэбля, а рэдкія кнігі сяляне круцілі на самакруткі.

Яны даслухалі экскурсавода, абышлі маёнтак, пастаялі каля запушчанай Маёрскай сажалкі і вярнуліся да флігеля. Быў канец кастрычніка. Цямнела хутка. Неўзабаве ў палацы павінна было пачацца вячэрняе дзейства. Раман Бэй падганяў акцёраў, кухараў і гучна лаяўся па тэлефоне з рэквізітарам. У флігелі касцюмеры апраналі акцёраў, Алу, Тадэвуша, Мендэля і Бэя, якія крычаў у слухаўку:

– Праз паўгадзіны ўсе адключаюць мабільныя тэлефоны. Усё павінна быць, як у дзевятнаццатым стагоддзі. Праз пятнаццаць хвілінаў зберацесь у вестыбюлі. І не шкадуйце свечак.

Але ціснулі вузкі гарсэт і невысокія зашнураваныя бальныя туфлікі з выцягнутымі квадратнымі насамі. Яе спадніца нагадвала квітнеючую ружу, глыбокае дэкальтэ адкрывала поўныя грудзі, а дыяментавыя завушніцы з падвескамі надавалі ёй адмысловы шык. Гардэробніца працягнула Але вячэрні веер, распісаны гуашшу ў стылі ракако з залатой фольгай, і яна не ведала, што рабіць. Неўзабаве іх паклікалі. Тадэй узяў жонку пад руку і павёў у палац. За імі йшлі дзве служанкі і меланхалічна сунуўся Аляксандр Мендэль. Тадэя апранулі ў чорны фрак з крухмальным каўнерыкам, а Мендэля – у шэрую венгерку з чорнымі шнуркамі. Мужчыны ў цесных панталонах былі як падстрэленыя, і Алу гэта смяшыла. У вестыбюлі іх сустрэлі Раман Бэй у легкадумнай карычневай візітоўцы і дварэцкі з сурвэткай пад пахай. Тадэй спыніўся насупраць прыслужніка, які ветліва схіліў галаву:

– Абед пададзены.

Дзесьці на другім паверсе загучаў цырыманіяльны марш, і Тадэй з Алай, а за імі – Аляксандр Мендэль, Раман Бэй і якіясьці акцёры ў патрапаных гістарычных касцюмах нявызначанай эпохі рушылі лесвіцай у залу з цяжкімі цёмнымі дзвярыма, чырвонымі калонамі і крэмавай столлю з ляпнінай. Банкетную залу ярка асвятлялі свечкі. Злева, у глыбіні залы, стаяла аблезлае фартэпіяна, каля якога іграў аркестр. На Але была доўгая спадніца з крыналінам, у якой яна ўплыла ў залу, рухаючыся дробнымі крокамі, і ад гэтага прымацаваныя да сукенкі абручы з кітоў вуса смешна калыхаліся. Каля стала на дзесяць персонаў завіхаліся два дагледжаныя старыя лёкаі, на якіх так добра сядзелі ліўрэі, быццам яны ўсё жыццё камусьці прыслугоўвалі. Лёкаі дапамаглі Але сесці. Насупраць яе сеў Тадэй, а каля яго – Мендэль з Бэем. Ала не ведала, куды падзець веер, і непрыкметна схавала яго пад крэсла.

Спачатку падалі гетманскі боршч і юшку з трыбухамі. Мужчыны пілі гарэлку, Ала – густое чорнае віно і слухала, пра што гавораць мужчыны.

– Гэтая мэбля захаваная з часоў Тарноўскіх? – пацікавіўся Тадэй.

– У асноўным закупленая ў антыкварных крамах і музеях, але гэтая мэбля той эпохі, – адказаў Раман Бэй.

– Пратэстую, – адазваўся Аляксандр Мендэль. – Вы павінны весці размовы, быццам знаходзіцеся ў дзевятнаццатым стагоддзі.

– Грэчка ў гэтым годзе не ўрадзіла, – спахапіўся Тадэй. – І буракі. А жыта сабралі шмат.

– Кажуць, у вас Гогаль быў? – сёрбаючы юшку з трыбухамі, спытаў Бэй.

– Ды вось толькі нядаўна паехаў, – глынуў баршчу Швагуляк. – Такі насмешлівы чалавек, скажу я вам. І адкуль у яго столькі той зласлівасці бярэцца?

Калі змоўк аркестр, з-за арэхавага люстэрка выйшаў малады чалавек з бандурай і чубам-асяледцам на галаве, заплеценым у коску. Чуб рэагаваў на кожны рух, падскокваў, пагойдваўся ў такт ігры, а часам у эмацыйным парыве музыкант, матлянуўшы галавой, закідаў яго на спіну. Касічка была яго нервам і перадавала ўсе яго эмоцыі. Іграў бандурыст у нетрадыцыйнай манеры – паклаўшы бандуру на калені. Спачатку выконваў нейкую складаную інструментальную кампазіцыю, якая больш нагадвала музычныя

практыкаванні, але чым даўжэй ён іграў, тым эмацыйней рабілася музыка. І калі змоўкла бандура, Бэй гучна заляскаў у ладкі, Тадэй з Алай – таксама, а Мендэль працягваў моўчкі есці гетманскі боршч.

Пасля бандурыстаў сярод банкетнае залы з'явілася вялікая зялёная спружына з фіялетавымі ўзорамі, якая пад музыку аркестра складалася, павялічвалася, памяншалася і скручвалася ў вузлы. Зялёная спружына нагадвала вялікага вусеня. А тое, што вырабляў гэты вусень, было проста дзіўным. Расцягваючыся, ён завязваўся вузламі, круціўся вакол сваёй восі, падымаўся ўверх і станавіўся падобным да чалавека без галавы, а затым да слана, варушыў хобатам, і зноў ператвараўся ў вусеня.

– А хто ў гэтай спружыне? – спытаў Тадэй.

– Жанчына, – адказаў Бэй. – Вы яе ўбачыце яшчэ ў адным нумары.

Наступным выступіў ілюзіяніст, загрымаваны пад сумнага міма, што выцягнуў з кішэні ланцужкі і ператварыў у металічную палку, а затым у свечку, якую падпаліў сярнічкай. Дастаў з кішэні хусцінку, зрабіў з яе жывога белага голуба і пасадзіў у клетку, выцягнуў з кішэні ліст, запаліў – і з агню вылецеў яшчэ адзін голуб, якога ён таксама пасадзіў у клетку, а трэцяга голуба ён дастаў з кішэні Тадэя Швагуляка і таксама пасадзіў у клетку, якую накрыў хусткай, і клетка знікла разам з галубамі. Ілюзіяніст паклаў Але ў руку чырвоны шарык, зрабіў паветраны пас – і з яе далоні выпала тры шарыкі. Затым паклаў адзін шарык у кішэнь, а два схаваў у кулак, і калі раскрыў яго, на далоні зноў было тры чырвоныя шарыкі.

Танец напаўаголенай жанчыны на маленькай металічнай скрыні быў самым экзатычным відовішчам банкету. Яна так рухалася, выгіналася і скручвалася, быццам у яе целе не было костак. Пад музыку аркестра яе цела, разняволенае і пластычнае, выпраменьвала такі магнетызм, што кожны чалавек, які хоць раз пабачыў яе танец, думаў пра адно: што яна можа вырабляць у ложку. Твар маладой жанчыны быў эмацыйным і выразным, яна перажывала кожную музычную фразу і прайгравала яе сваімі рухамі. І калі жанчына склалася ў куфар, зачыніла за сабой вечка, і двое моцных хлопцаў у казацкім адзенні вынеслі куфар з банкетнае залы, Тадэй, Ала, Бэй і Мендэль захоплена запляскалі.

– Вы пыталіся, хто быў у той зялёнай спружыне? Дык вось там была гэтая танцорка. Яна на нашым вечары выконвае яшчэ ролю пакаёўкі, – апладуючы, павярнуўся да Тадэя Аляксандр Мендэль.

– Што вы маеце на ўвазе? – спытаў Тадэй.

– Яна будзе слаць ложак у вашай спальні і зробіць для вас адзін сюрпрыз.

– Які сюрпрыз? – пацікавіўся Тадэй.

– Вы самі ўсё даведаецеся, – загадкава ўсміхнуўся Мендэль.

Аркестр зайграў бравурны марш, і на сярэдзіну залы выскачыў атлетычны чалавек з дзвюма шаблямі, раскудлачаны, у белай кашулі з закасанымі рукавамі, кароткіх ботах і запраўленых у халявы штанах. Шырокі скураны рэмень падкрэсліваў яго доўгія стройныя ногі і вузкі стан. Рэльефныя мышцы перакочваліся пад кашуляй, а лёгкія рухі былі грацыёзныя і завучаныя. Мужчына так азартна жангляваў шаблямі, што яны са свістам разразалі паветра, выпісваючы складаныя траекторыі. Вострыя лёзы зіхацелі пры святле свечак і зліваліся ў мігатлівыя паветраныя фігуры. Ён танцаваў з шаблямі, як з дзвюма жанчынамі, кожная з якіх хацела адабраць яго ў іншай.

«Я таксама хацела б яго адабраць у іншай», – нечакана падумала Ала, і сама здзівілася гэтай думцы.

Чалавек выпісаў шаблямі апошнія росчыркі і грацыёзна пакланіўся. І адразу падалі судака, запечанага з грыбамі і ракамі, качку з яблыкамі, а да Тадэя падышла апранутая ў кароткую сукенку з фартухом жанчына, якая танчыла на металічнай скрыні, і штосьці зашаптала яму на вуха. Тадэй папрасіў у іх прабачэння і сышоў у глыбіню залы за жанчынай, якая абярнулася да Алы і змерала яе бессаромным позіркам, ад якога Ала збянтэжылася і адчула, як у яе сэрцы ўпершыню за апошнія гады варухнулася забытая рэўнасць. Муж знік з танцоркай, а Мендэль з Бэем абсмоктвалі нейкія пікантныя падрабязнасці з апошніх гадоў жыцця Марка Ваўчка.

Аркестр зайграў фрагмент з оперы Бартнянскага[1] «Алкіда», калі Ала ўстала з-за стала.

– Прабачце, я на хвіліну вас пакіну, – ніякавата сказала Мендэлю з Бэем.

Прайшла праз банкетную залу, адкрыла цяжкія дзверы і натыкнулася на чалавека, што жангляваў шаблямі. Ён размаўляў са слугой і жанчынай у каптуры. Ала разгублена агледзелася.

– Вам дапамагчы? – спытаў актор, што жангляваў шаблямі.

– Я шукаю свайго мужа, – сказала яна. – Ён кудысьці пайшоў з...

– Танцоркай?

– Так.

– Хадземце, я вам дапамагу яго знайсці, – сказаў актор.

Яны прайшлі праз залу з акварэлямі і афортамі Шаўчэнкі і маленькую залу з калекцыяй тульскіх самавараў, спусціліся на першы паверх, выйшлі на двор, і актор падвёў Алу да дома, у якім была некалі псярня.

– Яны недзе тут, – ціха сказаў ёй.

Ала штурхнула цяжкія дзверы. Тадэй сядзеў пры свечках за старадаўнім сталом з высокімі разьбянымі крэсламі, а на яго каленях, абхапіўшы рукамі за шыю, сядзела танцорка. Яны цалаваліся, і жанчына задаволена хіхікала. За сталом відаць была мармуровая скульптурка хлопчыка з тамбурынам і партрэты Тарноўскіх на сцяне.

– Дык гэта ты выкінуў чорт ведае колькі грошай, каб у псярні гэтага панскага маёнтка ціскацца з дзяўчынай без костак?! – абурылася Ала.

– Мендэль сказаў, што яна павінна выканаць ролю пакаёўкі і ў яе для мяне сюрпрыз, – адазваўся Тадэй, не здымаючы танцорку з каленяў.

– Гэта такі сюрпрыз?! – гнеўна крыкнула ў твар яму.

– Ды прагані ты гэтую істэрычку, – абазвалася танцорка, адрываючыся ад вуснаў Тадэвуша.

Ала ўжо губляла кантроль над сабой і ледзь стрымлівалася, каб не ўчапіцца ёй у валасы.

– Не прыніжайцеся, – узяў яе за руку актор.

Ён сказаў гэта такім голасам, што Ала моўчкі рушыла ўслед за ім. У небе свяціў вялікі мясісты месяц. Асветлены свечкамі палац нагадваў начны прывід. Над Маёрскай сажалкай вісеў туман. Было сыра. Ад абурэння і холаду Алу трэсла. Яна гатовая была расплакацца, актор гэта адчуў, абняў яе за плечы, рэзка прыцягнуў да сябе, і яе аж апякло гарачае дыханне і рукі, якія блыталіся ў складках яе нязграбнай спадніцы з крыналінам, і вусны, і язык, што пранікаў у яе.

– Нас могуць убачыць, – аж задыхнулася яна.

---

[1] Дзмітро Бартнянскі (1751-1825) – украінскі кампазітар, спявак і дырыжор. Ствараў музыку для прыдворнага асяроддзя і царкоўных харавых спеваў.

Мужчына глядзеў на грудзі Алы, што цяжка дыхалі, вырываючыся з дэкальтэ, і трымаў яе ў сваіх руках. Яны забыліся пра ўсё на свеце, цалуючыся за палацам сярод цёмных дрэваў, і Ала падстаўляла яму вусны і шыю, а ён апякаў яе пацалункамі і рукамі, якія рабіліся ўсё больш патрабавальнымі і бессаромна задзіралі на ёй спадніцу. Невядома, колькі часу прайшло, пакуль яны цалаваліся за палацам: паўгадзіны ці больш.

– Мне трэба ісці, – прашаптала яна і пацягнула мужчыну да асветленага палаца.

Ала вярнулася ў банкетную залу, расчырванелая і растрапаная. Аркестр стомлена іграў свецкі кант Ведэля, а Бэй распавядаў Тадэю нейкую смешную гісторыю з жыцця манахаў.

– Я стамілася, – сказала Тадэю.

– Павячэрай, за ўсё заплачана, – супакоіў яе муж.

– Я хачу спаць, – раздражнёна перапыніла яна яго.

– У такім выпадку мы вас пакідаем, – падняўся з-за стала Тадэй. – А вы можаце працягваць.

– А мы і працягнем, – аблізнуўся Раман Бэй. – Я яшчэ не еў парасё з хрэнам і інжыр з грушамі.

Тадэй устаў, лёкай паднёс яму медную паласкальніцу, ён спаласнуў рот, выцерся ручніком, і яны сышлі з залы, дзе працягваў іграць аркестр ды балявалі Аляксандр Мендэль з Раманам Бэем.

Тадэй з Алай вярнуліся ў флігель. У іх спальні ўжо мітусілася пакаёўка. Яна шархацела прасцінамі і размаўляла колькі з Тадэем. Алу душыла з'едлівая рэўнасць, яна бачыла, што жанчына, якая была танцоркай і пакаёўкай у адной асобе, маладзейшая, прывабнейшая, нахабнейшая, у яе дзіўнае цела, ад якога млелі на балі мужчыны. Але падалося, што яна тут лішняя, і яна выйшла з флігеля. Над маёнткам Тарноўскіх вісеў туман. З палаца даносіліся гукі стомленага аркестра. Дзесьці на паркавых прысадах брахалі сабакі.

– Ала, ты ідзеш? – пачула голас Тадэя.

Яна зайшла ў спальню – вузкі пакой з двума ложкамі і высокай столлю. Тут было сыра і халодна. Пакаёўка прынесла ім электраабагравальнік, які з'ядаў кісларод. Пакой награваўся, але галава ад гэтага рабілася цяжкай.

– Чаму ты не хочаш трохі падыграць? – абняў яе Тадэй.

– Гэта ўсё несапраўднае: і гэтая ноч, і гэтая спальня, і нашая рэўнасць, – адсутным поглядам зірнула на яго яна.

– Чаму? – пагладзіў яе валасы.

– Памешчыкі не начавалі ў флігелі. Тут начавалі слугі.

– А што ж сапраўднае? – пацалаваў яе ў шыю.

Яе душу разрывала рэўнасць да маладой жанчыны з гнуткім і моцным целам і ўспамін пра подых гарачага дыхання чужога мужчыны. Тадэй прыпаў вуснамі да яе грудзей, доўга іх цалаваў, і калі ёй падалося, што яна гатовая аддацца любому мужчыне, які апынуўся б з ёй у гэтым ложку, слізганула рукой па яго жываце і адчула ягоную маленькую, завялую плоць...

– Ты пытаеш, што сапраўднае? А сапраўднае тое, што ў нас так нічога і не выйшла, – зашаптала яна і адвярнулася да сцяны.

Да раніцы ў маёнтку Тарноўскіх брахалі сабакі, а пад вокнамі блукалі п'яныя акцёры і музыкі.

## 12

Усю дарогу Ала, Тадэй і Мендэль слухалі расповяды Рамана Бэя. У Кіеў яны прыехалі ўвечары. Стомленая Ала прыняла ванну, паразмаўляла з Насцяй і легла спаць. Яна не чула, калі да яе лёг Тадэй. Спала трывожна. Пад раніцу ёй прыснілася, што гуляе ў лесе пад Скамарохамі. Выйшла на паляну, зарослую глыбокім і чыстым мохам. Мох пераліваўся на сонцы, мякка прыгінаўся пад нагамі, і яна адчувала, як прыемна ісці залітай сонцам лясной палянай, ды нечакана ногі праваліліся, і яна ўпала ў пячору. Яе падхапіў нейкі мужчына, задраў сукенку і пачаў гвалтаваць. Яго твар яна не бачыла, але адчувала яго ў сабе, гарачага і палкага. І ад гэтых вострых перажыванняў прачнулася.

Стаяла нейкая асаблівая цішыня. Такая цішыня бывае толькі перад абуджэннем. Не спявалі птушкі, не гулі аўтамабілі, не было чуваць ні чалавечага смеху, ні сварак, ні брэху сабак. За вакном цадзіўся слабы світанак і размываў рэшткі ночы. Над лесам гарэла светлая паласа, зацягвала гарызонт брудным зарывам і прыцiскала да зямлі світальны туман.

«Трэба ўставаць і пачынаць усё спачатку», – падумала яна і пайшла на кухню гатаваць сняданак мужу і Насцечцы.

У сем гадзінаў яна разбудзіла дачку і Тадэя, дапамагла Насцечцы сабрацца ў школу, глядзела, як яны снедаюць, а потым правяла іх да машыны і памахала рукой.

Яна не ведала, што ў гэты дзень Тадэй сустрэнецца з Аляксандрам Мендэлем. Размова адбылася на Старавакзальнай і была непрыемнай.

– Спадар Мендэль, – ледзяным тонам сказаў Тадэй, і ў голасе яго заклекатала лютасць. – Вы лічыцеся добрым псіхатэрапеўтам, і я вам нядрэнна плаціў. Чаму пасля вашых сеансаў і гэтага недарэчнага дзейства ў Качаноўцы ў маіх адносінах з жонкай нічога не змянілася?

– Аляксандр Мендэль можа многае, але ён не Гасподзь, – развёў рукамі той. – Я магу дапамагчы разабрацца ў вашых інтымных праблемах, але не магу зрабіць нават такой дробязі, як знізіць кошты на Бесарабскім рынку[1]. І тым больш, не магу вярнуць сэксуальную цікавасць да вашай жонкі, калі вы яе страцілі.

– Але ў пачатку нашай сустрэчы вы казалі, што можаце, – абурыўся Тадэй.

– Калі б Аляксандр Мендэль мог вярнуць маладосць, спадар Швагуляк, то што б рабілі рытуальныя канторы? Яны б абанкруціліся. А я – чалавек гуманны і не магу пазбавіць кавалка хлеба войска далакопаў, бо гэтыя людзі таксама павінны неяк жыць.

– Дык што мне рабіць? – густа пачырванеў Тадэй.

– Паспрабуйце аднавіць цікавасць да жыцця з іншымі жанчынамі. Разалія Ліфшыц была мудрай жанчынай. Яна вадзіла дзяўчат да Вінічэнкі, Вінічэнка з імі кахаўся, але заставаўся з Разаліяй Ліфшыц.

– Але мая Ала – не Разалія Ліфшыц.

– На жаль... На жаль, – захрускатаў пальцамі Мендэль.

Нейкі час Тадэй стрымліваў у сабе лютае жаданне даць яму поўху.

– А як клічуць танцорку, якая іграла ролю пакаёўкі? – у рэшце рэшт спытаў ён.

---

[1] Бесарабскі рынак – самы дарагі харчовы базар Кіева.

– Гэтага я не ведаю, але дам вам тэлефон рэжысёра Рамана Бэя, які дапаможа яе знайсці.

Яны холадна развіталіся. У аўтамабілі Тадэй набраў нумар Бэя. Слухаўку доўга ніхто не падымаў, але нарэшце пачуўся самаўпэўнены і трохі раздражнёны голас:

– Я слухаю вас.

– Мяне клічуць Тадэй Швагуляк. Вы рабілі на маю замову вечар у маёнтку Тарноўскіх.

– І што? У вас да мяне нейкія прэтэнзіі?

– Я хачу даведацца імя і тэлефон танцоркі, якая іграла ролю пакаёўкі.

– Гэта – канфідэнцыйная справа, – засоп Бэй у слухаўку. – Я не магу вам даць яе тэлефон.

– Я вам заплачу, – разгарачыўся Тадэй.

У слухаўцы стала ціха, і праз некаторы час зноў пачуўся голас Рамана Бэя:

– Колькі?

– А колькі вы хочаце?

– Тры тысячы грыўняў, – шолах у слухаўцы. – Тры тысячы за нумар і тры тысячы за тое, што я з ёй пра ўсё дамоўлюся.

– Пра што?.. – разгубіўся Тадэй.

– Я ёй скажу, што вы маеце намер падтрымліваць з ёй сур'ёзныя адносіны, – сказаў Бэй.

– Давайце імя і нумар – і я заплачу.

Але Раман Бэй быў непарушны.

– Спачатку сустрэнемся, вы заплоціце грошы, я дам нумар і пры вас з ёй пра ўсё дамоўлюся.

– Праз дзве гадзіны на Падоле[1], у рэстаране «Шчэкавіца», – сказаў Тадэй.

Яны сустрэліся ў «Шчэкавіцы», і Тадэй замовіў на дзве персоны казацкі суп з белымі грыбамі, бануш з брынзай ды скваркамі і каву. Калі Бэй даеў бануш, Тадэй заплаціў яму шэсць тысячаў грыўняў, Бэй схаваў грошы, дастаў з кішэні тэлефон, набраў нумар і прамовіў голасам старога спакусніка:

– Як маецца самая сэксуальная жанчына Кіева? Не вельмі добра?! Што за праблемы? Я дапамагу іх вырашыць. Тут на цябе паклаў вока адзін заможны чалавек з сур'ёзнымі намерамі. Зрэшты, ты яго ведаеш. Той, што замаўляў ноч у маёнтку Тарноўскіх. Узгадала? Ён хоча з табой сустрэцца. Дык як? Вось бачыш! У цябе ўжо настрой падняўся. Ён табе патэлефануе. Ну, пакуль! Па-па!

Бэй задаволена дапіў каву.

– Яе клічуць Вольга Фафлей. Запішыце тэлефон, – і прадыктаваў Тадэю нумар жанчыны.

З Фафлей яны сустрэліся ў гэты ж дзень на Шаўкавічнай[2]. Ён завёз яе ў рэстаран «Царскае сяло». Яна замовіла ўсё, што было ў меню, і, калі падалі «Шато Брыдуар» і Тадэй разліў віно, жанчына хуценька выпіла свой келіх.

– Не спяшайцеся, – перапыніў яе Тадэй. – Віно трэба пакатаць спачатку на языку. У розных месцах язык па-іншаму перадае смак.

---

[1] Падол – гістарычная частка Кіева, старажытны раён рамеснікаў. Распасціраецца ўздоўж правага берага Дняпра і Кіеўскай гавані.

[2] Шаўкаўнічная – вуліца на Пячэрску, у прэстыжным раёне Кіева.

Фафлей не любіла доўгіх прэлюдый і адразу перайшла на ты:

– Як ты ставішся да кахання ўтрох?

Швагуляк падавіўся рыбінай косткай і доўга кашляў, а Фафлей біла яго па спіне кулачком.

– Двое мужчынаў і жанчына, ці дзве жанчыны і мужчына? – асцярожна пацікавіўся ён.

– Дзве жанчыны і ты.

– О, вельмі цікава! – ажыў Тадэй. – А хто будзе другой жанчынай?

– Мая сучка Жана, бультэр'ер, – адпіла віно Фафлей. – Калі я кахаюся з мужчынамі, на яе нападае такі сум, што яна пачынае скуголіць і лезці ў ложак. У такія моманты яе трэба пачасаць за вушкам, сказаць некалькі цёплых словаў. Мужчыны гэтага не разумеюць і пачынаюць яе адштурхоўваць. А Жана грубасці да сябе не любіць. Яна можа і ўкусіць. Я рассталася са сваім афіцыйным трэцім мужам праз сваю сучку. Хоць, калі шчыра, ён мне проста надакучыў.

– Што ж... Трэба абавязкова з ёй пазнаёміцца, – разгублена сказаў Тадэй.

– Тады кідаем гэты рэстаран і едзем знаёміцца! – усклікнула Фафлей. – Жыццё кароткае, мой пупсік.

## 13

Пасля паездкі ў Качаноўку паміж Тадэем і Алай усё было як раней, і яна адчувала, што ў іх адносінах нічога не змянілася. Жанчына звязвала гэта са стратай апошніх ілюзій на тэрапію Аляксандра Мендэля. Тадэй пачаў пазней прыязджаць дадому, і Ала здагадвалася, што ён праводзіць вечары з танцоркай. А яна ўсё часцей думала пра мужчыну, што жангляваў шаблямі ў маёнтку Тарноўскіх. Па дарозе з Качаноўкі яна чула, як Бэй распавядаў, што ўсе акцёры, акрамя танцоркі, сабраныя з кіеўскіх тэатраў. Таму вырашыла наняць няньку для Насцечкі, якая сядзела б з ёй, пакуль Ала будзе наведваць тэатральныя пастаноўкі. Яна не была заўзятым тэатралам, і ў тэатры пачала хадзіць на спектаклі, каб праглядзець галерэі акцёраў. Яго фатаграфію яна знайшла ў Маладым тэатры[1]. Аглядаючы ў антракце партрэты акцёраў у вестыбюлі, яна знайшла знаёмы твар. Яго звалі Дзяніс Пуленка. З партрэта на Алу глядзеў саракагадовы чалавек з ярка выяўленым раманскім тыпам мужчынскай прыгажосці. Дома праз інтэрнэт яна знайшла тэатральную афішу і даведалася, што ён будзе граць на наступным тыдні ў чацвер. У яе яшчэ быў час, і Ала спрабавала прыслухацца да свайго сэрца. Хацела разабрацца ў сабе, ці яе гэта мужчына і ці варта марнаваць на яго час. З такой знешнасцю ў яго, напэўна, завышаная самаацэнка. Ірвучы сябе сумненнямі, патэлефанавала Аляксандру Мендэлю і папрасіла сустрэцца. Ён правёў яе ў свой кабінет і прапанаваў сесці.

– Ведаеце, я доўга думала над сваім жыццём, калі прыходзіла да вас і распавядала пра сваё мінулае, – сказала яна. – Пасля маёнтка Тарноўскіх я зразумела, што ў нас з Тадэем разбураныя ўсе шанцы вярнуць хоць тое кволае сямейнае шчасце, якое было да сустрэчы з вамі. Я ўжо не веру ў каханне з жалю або разліку. Я веру толькі ў каханне, што выклікае экстаз, акрыляе і абуджае да жыцця. Такая любоў і з'яўляецца рэлігіяй. Аскетычная рэлігія для мяне нічога не вартая, гэтак жа, як адносіны паміж

[1] Малады тэатр – кіеўскі тэатр на вуліцы Прарэзнай, 17.

мужчынам і жанчынай без аргіастычных перажыванняў. Толькі каханне з моцнай эмацыйнай і эратычнай сувяззю ўзносіць мужчыну і жанчыну над эгаізмам, уласцівым кожнаму чалавеку. Сваё каханне я звязваю не з інстынктам працягу роду, а з развіццём сваёй асобы. Мужчына, якога я кахаю і хачу яму нарадзіць дзяцей, павінен раскрыць лепшае, што закладзена ў маёй натуры, чаго я сама не ведала да таго, як апынулася з ім у ложку. А вы лічыце, што адсутнасць кахання можна кампенсаваць, выправіўшы мазгі? Каханне – гэта такая штука, што альбо яно ёсць, альбо яго няма. Яго нельга прыдумаць на вашых сеансах.

– Але я не прыдумляў, – паспрабаваў запярэчыць Мендэль. – Я толькі спрабаваў раздзьмуць агонь, які згас. Дарэчы, як вы сабе ўяўляеце таго чалавека, якога шукалі ўсё жыццё? Што вы ад яго чакаеце?

– Гэта простыя жаночыя фантазіі, – уздыхнула яна. – Я ўяўляю, як муж мяне распране, будзе захоплена казаць, якая я прывабная, і дакранацца ўсюды, а потым зробіць так добра, што я забуду пра свой стэрыльны ад кахання дом, пра рахункі ў банку і свабоду перамяшчэння па ўсім свеце. І я згодная жыць з ім у нейкім Жабчым ці Завітным Бажанні[1].

– А дзе гэтае Завітнае Бажанне?

– Вы туды не паедзеце. На Данбасе.

– Сапраўды далёка, – прамармытаў ён.

На імгненне яе ахапіла нервовая паспешлівасць.

– Ах, пане Мендэль, пане Мендэль! Вы раіце, каб я зноў пачала раздзімаць агонь. Толькі цяжка яго раздзьмуць, калі не засталося нават жару. Асабліва, калі яго і не было.

– Дзевяць гадоў вы паспяхова імітавалі пачуцці. Чаму вы не жадаеце гэта рабіць далей? У многіх сем'ях мужчыны з жанчынамі жывуць проста як блізкія людзі. І неяк дажываюць жыццё.

– У мяне скончыліся сілы для імітацыі, і ў майго мужа таксама.

– І што вы збіраецеся рабіць?

– Мне здаецца, што без кахання чалавек мучыцца на гэтым і будзе мучыцца на тым свеце. Таму паспрабую знайсці тое, чаго я ўсё жыццё шукала. Пасля паездкі ў Качаноўку я зразумела, што ў нас з Тадэем ўжо няма рэзерву ні на пяць, ні, тым больш, на дзесяць гадоў нашых горкашлюбных дзён. І адзінае, што мне застаецца, гэта заняцца пошукамі мужчыны, пакуль я маладая і яшчэ падабаюся іншым. Мне здаецца, што і мой муж ужо заняўся вырашэннем гэтай праблемы.

– Вашаму мужу патрэбная актыўная, раскамплексаваная жанчына, сапсаваная і вульгарная. Танцорка, якую падабраў Раман Бэй, яго ідэальна задаволіла б. А вам трэба знайсці рамантычнага мужчыну, моцнага, гарачага, здольнага на ўчынак, такога, пра якога ўсё жыццё марыла вашая маці.

– Дык мне падыходзіць жанглёр з шаблямі?

Мендэль замоўк і прыслухаўся, як цікае ў серванце гадзіннік.

– Жанчыны адчуваюць лепш, які мужчына ім падыходзіць. І ў гэтым вам ні з кім не трэба раіцца.

Ала падзякавала і выйшла з яго кватэры.

У чацвер яна пакінула дачку з нянькай, купіла букет чырвоных ружаў і пайшла на спектакль. І калі ўбачыла на сцэне Дзяніса Пуленку, то забылася пра ўсё на свеце. Калі б пасля яе спыталі, пра што быў спектакль, яна б

[1] Маецца на ўвазе далёкі закінуты куток.

не змагла нічога сказаць. Ала сачыла толькі за яго тэмбрам, інтанацыямі, мімікай, жэстамі, рухамі, імкнучыся адкінуць тое, што ён іграў, і зразумець гэтага чалавека, які ўсё больш і больш прымушаў яе губляць галаву. За той спектакль яна адчула яго больш, чым свайго мужа за дзевяць гадоў сумеснага жыцця. Пуленка быў мужчынам яе тыпу. Але ці быў ён мужчынам, якога яна шукала ўсё жыццё? І ці свабоднае было ягонае сэрца? І ці прагнула яно гэтак жа горача вялікага кахання, як хацела яго ўсё жыццё сэрца Алы? Да канца спектакля яна аж дрыжэла ад таго, што вось-вось з ім сустрэнецца. А калі скончыўся спектакль і на сцэну пачалі падымацца з кветкамі гледачы, паднесла ружы Дзянісу Пуленку і ціха сказала:

– На сцэне вы сыгралі больш пераканаўча, чым у маёнтку Тарноўскіх. І калі можаце мне даказаць, што гэта не так, я з задавальненнем вас паслухаю за шклянкай марціні.

– Вы запрашаеце?

– Пасля спектакля буду чакаць вас ля тэатра.

Яна выстаяла чаргу ў гардэробе, апранулася, выйшла на Прарэзную, азябла і падняла каўнерык у паліто. Было холадна. Бралася на замаразкі. Калі зніклі апошнія гледачы, з тэатра выйшаў Дзяніс Пуленка.

– Вы не змерзлі?

– Холадна ля вашага тэатра.

– Я паспрабую вас сагрэць. Дарэчы, як вас завуць?

– Ала.

– Непадалёк ёсць тэатральная кавярня «Дом Берганье», дзе мы маглі б з вамі пасядзець. Я на машыне.

– Я таксама.

– У такім выпадку я буду ехаць першым, а вы – за мной.

У «Доме Берганье» было няшмат людзей, яны знайшлі вольны столік, і, пакуль мужчына замаўляў дэсерт і марціні, Ала разглядала інтэр’ер кавярні, выкананы ў стылі савецкага касмапалітызму сямідзясятых гадоў. Нарэшце афіцыянт прынёс марціні, шакалад, нарэзку з ківі, ананасаў і апельсінаў.

– Вы вельмі добры актор, – усміхнулася Ала. – Як вы сумяшчаеце ігру на сцэне з шаблямі? Адчуваецца, што падтрымліваеце сябе ў добрай фізічнай форме.

– Калі я быў студэнтам тэатральнага інстытута, – адпіў марціні Дзяніс Пуленка, – то прыдумаў гэты танец з шаблямі і зарабляў ім грошы на карпаратыўных вечарынках, на адной з якіх мы пазнаёміліся з Раманам Бэем. Але я ўжо даўно ў яго не танцую. Гэта толькі ў Качаноўцы – упершыню за апошнія дваццаць гадоў. А наогул я – драматычны актор.

– Я вельмі рада, што ўбачыла нарэшце вашую сапраўдную ігру, – прыгубіла келіх Ала. – Пасля маёнтку Тарноўскіх у мяне застаўся горкі прысмак, таму вып’ем за тое, каб у жыцці было ўсё натуральней, чым на сцэне.

– Часам жыццё – яшчэ большая ігра, чым на сцэне. Гэта вам кажа чалавек, за плячыма яго – зруйнаваны шлюб і досвед адзінотнага жыцця.

– У вас ёсць дзеці?

– Дарослая дачка.

– Замужам?

– Яшчэ не.

– А вашая былая жонка?

– У яе іншы мужчына і сумеснае з ім дзіця.

– Хочаце сказаць, што, маючы вакол столькі прыхільніц, вы адзінокі?!

– Некалькі разоў спрабаваў жыць з жанчынамі, але ўсё скончылася, як і ў першы раз. А вы?

– У мяне муж і дачка, але каб захаваць сям'ю, мой муж наняў спектакль у маёнтку Тарноўскіх. Зрэшты, што я вам пра гэта распавядаю? Вы самі былі яго ўдзельнікам, – сумна ўсміхнулася яна.

– Я развёўся з жонкай, бо, як і вы, не меў гармоніі ў сям'і, – сказаў Пуленка. – Пасля гэтага я перажыў такую дэпрэсію, што ў мяне абвастрылася інтуіцыя на разведзеных людзей. Я адразу заўважаў адзінокіх мужчынаў і жанчын, і мне здавалася, што сучасная сям'я перажывае нечуваны крызіс, вакол масава распадаюцца сем'і, таму многія маладыя людзі баяцца ўзаконьваць свае адносіны, а жывуць грамадзянскім шлюбам. Я пачаў шукаць усё пра гісторыю сям'і ў інтэрнэце і хадзіць у Парламенцкую бібліятэку, пакуль не зразумеў, што платонаўская ідэя правільная. У кожнага чалавека ёсць свая палавінка, і са з'яўленнем сацыяльных сетак больш людзей зможа яе знайсці. Мне здаецца, што толькі ў канцы дваццатага стагоддзя людзі падышлі да такой сям'і, у якой будуць задавальняцца духоўныя, фізічныя, культурныя і матэрыяльныя праблемы. Раней перад сям'ёй такіх задачаў нават не ставілі. Людзі спарваліся, каб працягнуць род. Мужчыны заводзілі бясконцыя інтрыгі, а жанчыны хутка зношваліся і старэлі, бо нараджалі шмат дзяцей.

– Вас цікава слухаць, – усміхнулася Ала. – У вас прыемны голас і выразная міміка, але ўжо позна. Я павінна ехаць. Дзякуй за гэты вечар.

– А вам за кветкі і за ўвагу, з якой мяне слухалі.

Мужчына разлічыўся за вячэру, правёў яе да машыны, і перад тым, як яны раз'ехаліся, папрасіў:

– Вы не ўспрымеце гэта зноў за якую ігру, калі я папрашу ваш тэлефон і куды-небудзь запрашу?

– Куды? – іранічна спытала яна.

– Трэба падумаць.

– Дык падумайце, – усміхнулася Ала і прадыктавала яму свой нумар.

Праз дзень ён патэлефанаваў. Яны сустрэліся раніцай на Грушэўскага ля музея выяўленчага мастацтва.

– Вы збіраецеся шакаваць Інстытут фальклору і этнаграфіі, дзе я працую, ці весці мяне ў музей?

– Чаму шакаваць?

– Там вы знойдзеце сваіх прыхільніц, якія будуць здзіўленыя, калі ўбачаць мяне з вамі.

– Зберажэм жа інтрыгу для вашых калег да іншага разу, – узяў яе пад руку ён. – Я хачу вас пазнаёміць з майстрам змяркання. Змярканне – гэта пераход, які раскрывае ўсе цёмнае і светлае ў чалавеку.

– Як пафасна вы кажаце, – засмяялася Ала.

Яны зайшлі ў музей, Пуленка ўзяў квіткі і павёў яе міма карціны.

– А што, мы нічога не будзем глядзець?.. – разгубілася яна.

– У музей трэба хадзіць на аднаго або некалькіх мастакоў. Калі вы пачнеце глядзець усё запар, у вас прытупляецца яркасць успрыняцця.

– Давяраю вашаму акцёрскаму досведу, – усміхнулася яна.

Ён узяў у сваю далонь яе гарачую руку і падвёў да карціны.

– Вось дзеля чаго я вас сюды прывёў. Усе ведаюць Мікалая Піманенку[1]

---

[1] Мікола Піманенка (1862-1912) – украінскі мастак-рэаліст.

паводле карцін «На мосціку», «Жняя», «Вяселле ў Кіеўскай губерні». А на самой справе ён – майстар змяркання. Паглядзіце на карціну «Кіеўская кветачніца». Бачыце? Прыгожая босая дзяўчына з кошыкам кветак у змрочным горадзе. Як тонка перададзены наступ змяркання... Калі доўга глядзець на карціну, то здаецца, што прыцемкі згушчаюцца.

Яна адчувала зусім побач яго дыханне, і яго рукі, якія сціскалі яе далоні, а потым абнялі за плечы і падвялі да іншай карціны.

– А гэта – «Гарачы чацвер». Звярніце ўвагу на падсветленыя твары людзей, на іх міміку, на іх перажыванні, на цемрыва, якое адганяюць палкія свечкі.

Дыханне было зусім побач. Яна павярнула галаву і сустрэлася з яго вуснамі. За іх спінамі зарыпеў паркет, і з суседняй залы выйшла назіральніца за карцінамі. Алу апёк яго прагны пацалунак, абвостраны падглядваннем работніцы музея.

Яны моўчкі выйшлі з музея выяўленчага мастацтва, селі ў яго машыну і кудысьці паехалі. Сваю машыну Ала пакінула ля музея. Яна ні пра што не думала і ўсю дарогу слухала музыку. Ёй было ўсё роўна, куды ён яе вязе. Яна хацела нарэшце прыехаць кудысьці туды, дзе нішто не звязвае яе з мінулым і з тымі бязрадаснымі начамі, калі яна слухала, як, адвярнуўшыся да сцяны, спіць муж. На Траешчыне[1] Пуленка завёў яе ў нейкі падрапаны пад'езд. Яны падняліся на ліфце на сёмы паверх. Мужчына адкрыў дзверы. Зайшлі ў кватэру і ў калідоры пачалі цалавацца і здымаць адно з аднаго вопратку. Ён падхапіў яе на рукі і панёс да вялікага ложка, асцярожна паклаў і пачаў абследаваць вуснамі кожную выемку і грудок яе цела, быццам выпіваючы ўсю яе недалюбленасць за жыццё. Яна забылася пра сваё мінулае. Не памятала, колькі мінула часу, як апынулася ў гэтым вялікім ложку, на якім Дзянісу Пуленку аддаваліся жанчыны, якія так і не змаглі звіць гняздзечка ў ягоным сэрцы. Пасля шматгадзіннага кахання яны ляжалі, прыціснуўшыся адно да аднаго. Мужчына дакрануўся рукою да яе акуратна падстрыжанага кусціка.

– Табе падабаецца? – спытала яна.

– Гэта лепшая кветка, якая заквітнела ў маім садзе.

– У цябе ёсць што выпіць? – прытулілася да яго Ала. – Хоць бы кавы.

Мужчына пайшоў на кухню, і неўзабаве спальня напоўнілася водарам кавы. Ён з'явіўся голы з падносам у руках, паставіў паднос з двума кубачкамі на край ложка.

– Кава ў ложак – любімы капрыз многіх жанчын, – весела сказаў Пуленка.

– А ў цябе іх было сапраўды шмат?

– Трохі было, – усміхнуўся ён.

– Значыць, твае пацалункі і пацалункі пакаёўкі запланаваў Мендэль?

– А што?

– Як што? Ты цалаваў мяне за грошы?! – кінулася на яго з кулачкамі.

Мужчына абняў яе і не даваў біць.

– Асцярожна – вывернеш каву, – засмяяўся ён. – Я не думаў, што знайду тое, што шукаў.

– А я думала, – укусіла яго жанчына.

– Не кусайся!

---

[1] Траешчына – непрэстыжны жылы раён Кіева.

– Буду кусацца, бо як толькі цябе ўбачыла з шаблямі, то падумала, што адбіла б цябе ў любой іншай.

Яна не магла растлумачыць, чаму так лёгка і свабодна стала на душы, быццам з яе звалілася гара, што прыціскала яе ўсе гады, калі стала дарослай. Упершыню ў жыцці Ала адчула сябе шчаслівай каля гэтага чалавека і падумала, што не варта трымацца за сваю шчасную сям'ю дзеля Насцечкі. Нават калі яна пачне думаць, што ў яе жыцці ўсё склалася, як у Зосі Бабелі.

Яны дапілі каву і ляжалі побач.

– А ў цябе ёсць тэлефон таго тоўстага рэжысёра, што арганізаваў вар'яцкую ноч у маёнтку Тарноўскіх?

– Навошта ён табе?

– Хачу даведацца, як скончыла жыццё жанчына, што ўмела выкарыстоўваць мужчынаў.

– Я дам табе яго нумар, – пашукаў у мабільным тэлефоне.

Ала набрала нумар і пачула ў трубцы гуллівы голас:

– Хто мяне хоча?

– Мяне клічуць Ала. Памятаеце баль у Качаноўцы?

– У вас вельмі выразныя вочы і ўсё астатняе таксама, – засакатаў у тэлефон Бэй.

– Мяне цікавіць, як сканчаюць жыццё такія жанчыны, як Марка Ваўчок.

– Калі мы сустрэнемся, я раскажу вам гэтую дзіўную гісторыю.

– Дык раскажыце цяпер, а калі сустрэнемся, то пагаворым лепш пра каханне.

– Пра каханне я гатовы з вамі размаўляць усю ноч, – сказаў Бэй і адпусціў Але такі салёны камплімент, што нават голая і ў абдымках Дзяніса Пуленкі яна пачырванела да кончыкаў вушэй. – Але калі вам так хочацца даведацца пра гэта цяпер, то слухайце, але дайце слова, што са мной абавязкова сустрэнецеся.

– Даю слова.

– То слухайце, – прыцмокнуў Бэй. – На піку сваёй славы праз уплывовых французскіх палюбоўнікаў аповесць Маркі Ваўчок «Маруся» атрымала прэмію Французскай Акадэміі і была рэкамендавана для вывучэння ў французскіх школах. І дзе? У Францыі, дзе за многія стагоддзі так і не змаглі запомніць, што такое Украіна, лічачы яе асобным рэгіёнам ці то Румыніі, ці то Расеі, ці то Руанды. Талстой, Тургенеў, Герцэн, Мендзялееў, Боткін, Флабер, Жуль Верн, Праспэр Мэрымэ пускалі сліну і шалелі ад Маркавічанкі. А жанчыны не маглі ёй дараваць, што яна разбурае сем'і, выкарыстоўвае мужчынаў і разбівае ім сэрцы. Яе цярпелі, пакуль ускружвала галовы старэйшым мужчынам, і калі яна ўзялася за маладзейшых, што па ўзросце падыходзілі ёй у сыны, і тыя пачалі праз яе страляцца, атручвацца, вешацца, супраць яе ўзбунтаваліся ўсе інтэлігентныя жанчыны Расійскай імперыі.

І вось знайшлася сваячка Апанаса Марковіча, якая ўвасобіла бліскучы план знішчэння і без таго небездакорнай рэпутацыі Марка Ваўчка. Калі Маркавічанка адкрыла часопіс, у якім друкавала пераклады замежных пісьменнікаў, дык наймала бедных дзяўчат, якія за капейкі рабілі ёй пераклады, а яна падпісвала іх сваім імем. Каб адпомсціць за Апанаса Марковіча, дзяўчына перапісала чужы пераклад Андэрсана. Марка Ваўчок падпісала яго сваім імем, а ёй не заплаціла. Неўзабаве ў літаратурных

колах разгарэўся скандал, і Маркавічанку абвінавацілі ў плагіяце. Яна не магла прызнацца, што на самой справе на яе працаваў гурт літаратурных наймітаў, якім яна не даплочвала ці зусім не плаціла. Факт плагіяту быў даказаны канчаткова. І ўсе пакрыўджаныя Маркавічанкай мужчыны і жанчыны, якія зайздросцілі ёй чорнай зайздрасцю, сваю нянавісць выплюхнулі на яе, і яна ад сораму ўцякла ў глыбінку, дзе схавалася ад скандалу.

Каб падтрымаць сваю маці, да яе прыехаў сын са сваімі аднагодкамі, сярод якіх быў Міхаіл Лобач-Жучэнка, што пасля Апанаса Марковіча стаў другім яе афіцыйным мужам. Старасць Марка Ваўчок правяла ў Нальчыку далёка ад літаратурных салонаў сярод нецалаваных хлопчыкаў, якіх вучыла замежным мовам, свецкім манерам і мастацтву заваёўваць жаночыя сэрцы. Нарэшце слава пра ўменне Маркавічанкі выкарыстоўваць мужчынаў з найбуйнейшых літаратурных салонаў Еўропы дайшла да Каўказа, і кожная маці хацела бачыць свайго хлопчыка калі не пасляховым палюбоўнікам, дык хоць бы мужчынам, які не стане ахвярай распусных жанчын.

Адзін з яе платных заняткаў быў прысвечаны паэзіі мужчынскага ўчынку, на якім яна вучыла будучых кавалераў, што хоча пачуць ад іх жанчына і што яны павінны рабіць, каб стаць заваёўнікамі, а не ахвярамі прыгожага полу.

– Скажы, мой маленькі Серж, – звярталася яна да аднаго хлопчыка, – якія ты ведаеш шляхі да заваёвы жаночага сэрца?

Яна сядзела ў цяжкім крэсле з чорнага дрэва, мажная, у пашытай у лепшых мадыстак Тбілісі цёмнай сукенцы, што хавала ўзрост і паўнату. Яе твар быў схаваны пад вэлюмам, а ўся прастора вакол яе была напарфумленая дарагімі духамі і ўсё яшчэ адчувальнымі жаночымі флюідамі.

– Ёсць два шляхі для заваёвы сэрца дамы, – адказаў хлопчык. – Шлях грошай і славы і шлях жарсці і безразважнага ўчынку. Жанчыны любяць учынкі на мяжы паэзіі і вар’яцтва.

– Выдатна, мой хлопчык, – какетліва сказала Марка Ваўчок. – Проста бліскуча! А зараз падыдзі бліжэй і пакажы іншым кавалерам, што ў сапраўднай дамы схавана пад сукенкай. Не бойся, – грудным голасам сказала яна.

Серж, падобны да маладзенькага козліка, у якога яшчэ толькі прабіваліся рожкі, прыўзняў край сукенкі, і ўсе ўбачылі поўныя ногі і дарагую бялізну з карункамі. Ад хвалявання ў хлопчыка натапырыліся штонікі, ён пачырванеў і поўнымі любові вачыма глядзеў на сваю настаўніцу.

– Ах, Серж, Серж, – гулліва паківала пальцам яна.

Вакол яе стаялі чырвоныя, як вараныя ракі, хлопчыкі і хавалі рукамі сваю ўзбуджаную дзіцячую плоць.

Раман Бэй замоўк і ў трубцы пачулася яго далёкае сапенне:

– Дык калі мы сустрэнемся?

– Некалі абавязкова сустрэнемся.

– Я вырашу вашыя інтымныя праблемы, – забуркаваў ён.

– А я ўжо іх вырашыла, – засмяялася Ала.

– З Дзянісам Пуленкам?

– Чытаеце чужыя думкі?

– У такім выпадку жадаю вам шчасця! – раздражнёна абарваў размову Бэй.

Ала адчула, што зноў хоча кахання і накінулася на мужчыну. Яны доўга і ненаедна кахаліся, а потым яна ў знямозе адкінулася на падушцы, а мужчына ляжаў на ёй і злёгку пакусваў ёй спіну.

– Што ты там ўва мне так глыбока шукаеш? – млява сказала яна. – Думаеш знайсці скрынку з цукеркамі?

– Шукаю ключ да твайго сэрца.

– Але сэрца не з таго боку, – засмяялася яна. – Павінна прызнацца, што за адзін дзень з табой я мела больш кахання, чым за ўсё жыццё.

Стрымаўшы жарсць, яны ўзяліся за рукі, пайшлі на кухню і згаладала елі шпроты з чорным хлебам і пілі зялёны чай.

– А дзе ліса, якую ты тады знайшоў?

– На балконе.

Яна выйшла на балкон і ўбачыла ў клетцы лісу. У яе быў сумны і зацкаваны выгляд.

– А ты вылечыў яе?

– Вылечыў.

Ала падышла да яго і паклала руку на плячо.

– Зробіш для мяне тое, што папрашу?

– Што менавіта?

– Я хачу, каб ты выпусціў лісу.

– Сёння?..

– Менавіта сёння.

Ён паглядзеў у яе шчаслівыя вочы, дажаваў шпроты і кіўнуў:

– Тады збірайся.

Было ўжо далёка за поўдзень, калі Дзяніс Пуленка паставіў клетку з лісой на задняе сядзенне, а на пярэдняе пасадзіў Алу, і яны выехалі з Кіева. На Роменскім тракце была кволая плынь машын, і ён хутка гнаў аўтамабіль.

Перад Альшанамі спыніўся.

– Дзесьці тут яе збіў аўтобус.

Узяў з задняга сядзення клетку і аднёс ад дарогі.

– Ну, вылазь.

Ліса высунула галаву з клеткі, панюхала паветра, асцярожна выйшла і трушком пабегла ў лес.

– Бяжы! – радасна запляскала ў ладкі жанчына.

Яны глядзелі, як аддаляецца ліса, узяліся за рукі і пайшлі да «Опеля», які стаяў на збочыне. У машыне Ала азірнулася і ўбачыла, як знікае за дрэвамі ярка-рыжая ліса.

– Мне здаецца, што гэта душа мая вырвалася на волю, – сказала яна.

– Ты не баішся пачынаць усё спачатку?

– З табою я нічога не баюся, – прыхінулася да яго.

Нейкую хвілю яны сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, і жанчына слухала, як моцна б’ецца ў мужчыны сэрца. Ёй падалося, што яна стаіць на краі скалы, над стромай, і рыхтуецца скочыць у пеністае мора. Пачуццё страху, казытлівае жаданне скачка і лёгкі голас, які нашэптваў ёй на вушка, што яна не разаб’ецца, выплыве, прымусілі паглядзець на засяроджаны твар мужчыны. Ён павярнуў ключ запальвання, матор завуркатаў, і яны паехалі ў прыцемкі да цяжкіх аблокаў, якія паўзлі насустрач старэнькай патрапанай машыне.

Інгвар Амб'ёрнсэн



...толькі цяпер да мяне дайшло,
што я адзінокі...

# Частковая прысутнасць

***Апавяданні***

*Пераклад з нарвежскай Лідзіі ЁХАНСЭН.*

*Фота Цінэ ПОППЭ.*

***Са зборніка «Чорная маці» (1994)***

## ЧАЙКА

Яны схадзілі ў кіно, а пасля выпілі пару келіхаў віна ў бістро. Калі вярталіся дадому, убачылі на заднім двары чайку. Вялізную птушку, якая, звычайна, наводзіць на роздум пра мора і порты. Чайка стаяла, не варушачыся, ля бакаў для смецця і паглядала на іх.

– Божа! – вымавіла яна. – Гэта ж чайка.

Ён прамаўчаў, яна мела рацыю. Гэта была чайка.

– Скажы што-небудзь! – папрасіла яна. – Можа, яна хворая?

І што яму на гэта адказаць? Ён сказаў:

– А можа, і не хворая.

– Хворая, ну як жа, – сказала яна, і ён заўважыў, што яна выпіла больш за яго. – А то чаму яна не ўзлятае.

Добра. Хворая ці не хворая, яму не хацелася сварыцца з-за нейкай чайкі.

Яе раздражняла, што яму спадабаўся фільм, а віно аказалася не такім сухім. Цяпер на заднім двары яна знайшла жывую чайку, а тая была хворая, таму – баста. Калі б яна не была хворая, то паляцела б. А так стаіць сабе ля бакаў са смеццем і пазірае на іх.

– Так, так. Паглядзім. – Ён накіраваўся да дзвярэй.

– Што ты збіраешся глядзець? – яна ішла за ім. – Хутка дванаццаць.

Яму хацелася адказаць, што ніхто не сядзіць і не чакае гэтую птушку, але ён прамаўчаў. Замест гэтага заўважыў:

– Што, па-твойму, нам рабіць?

– Не ведаю, – адказала яна.

Яны вячэралі позна, а пасля сядзелі на кухні і слухалі радыё. Класічную музыку, яму здавалася, што ігралі Шапэна, ёй нічога не здавалася. Яна ўстала з-за стала, узяла шклянку з малаком і пайшла да вакна.

– Яна ўсё яшчэ там стаіць, – глынула халоднага малака.

Ён запаліў цыгарэту.

– Чуеш, што я кажу?

– Чую. Не звяртай увагі.

– Мне гэта не падабаецца, – сказала яна. – Гэта мяне нервуе. Яна стаіць там, быццам нечага чакае.

– Гэта людзі чакаюць, – сказаў ён. – Калі яна цябе нервуе, дык лепш ідзі лажыся.

– А чайка будзе там стаяць? Не смяшы мяне!

Ён нічога не адказаў. Гэта давалася цяжка, але ён нічога не адказаў.

– Выкліч паліцыю!

– Не, не магу. Часу – палова на першую, ды яшчэ ноч на суботу. Паліцыі і без таго хапае бандытаў і панажоўшчыкаў. І што, па-твойму, я ім скажу? Што маёй жонцы пагражае вялізная чайка, якая стаіць ля бакаў са смеццем? Ты хочаш, каб мяне забралі ў псіхушку?

– Ніхто мне не пагражае. Але я не люблю глядзець на птушак, якія пакутуюць.

– Яна не пакутуе. Я ўпэўнены, што з ёю ўсё ў парадку. Яна проста глыбока задумалася.

– Божа, – сказала яна. – Ну, трэба табе цяпер выдурняцца?

Яна пайшла ў ванну. Ён чуў, як яна мачылася, а пасля шархацела туалетнай паперай. Там, адкуль яна родам, спраўлялі патрэбу пры адчыненых дзвярах.

Ён выключыў радыё і падышоў да вакна. Чайка стаяла ўнізе ў прыцемках і не варушылася.

Яна пераапранулася ў начное і зноў прыйшла на кухню.

– А што, калі які дурны кот з'явіцца? Там унізе іх поўна.

– Тады, я ўпэўнены, прырода пойдзе сваім парадкам.

Яму раптам захацелася заплакаць. Здацца. Выплакаць гэта. Як малому, бывала, тады яму рабілася лягчэй, а цяпер сядзела ўсё намнога глыбей.

– Думаю, табе трэба схадзіць уніз і забіць яе, – сказала яна.

Пакуль ён стаяў і чысціў зубы, яму ўспомнілася першая рыбіна, якую ён злавіў. Яму было сем, стронга тая важыла больш за кілю. Нейкая сіла цягнула ўніз у цемень жвіра, у бок, яму супрацьлеглы. Пазней, калі рыбіна паддалася, ляжала на траве і хапала ротам паветра, ён вучыўся пераразаць

рыбе горла і ламаць хрыбеціну. Гэта было лягчэй, чым здавалася. Усё тое лета ён прастаяў з вудай у навакольных затоках, а калі надышла восень, яго дарэмна намагаліся навучыць алфавіту.

Яна прыйшла да яго ў ванны пакой і паўтарыла жаданне.

– Не, і я не хачу больш чуць пра гэтую птушку, – адказаў ён.

Яны леглі. Спярша яна, а пазней ён. Яна адвярнулася да сцяны. Ён быў жанаты з ёю даволі доўга і ведаў, што яна не спіць і пазірае ў цемру. Толькі б нічога не сказала, думаў ён. Толькі б зараз яна нічога не сказала, а то я не ведаю, што зраблю.

Яна нічога не сказала. Яны моўчкі ляжалі ў цемры. Так прайшло паўгадзіны. І тут яна вымавіла такім тонам, нібы прайграла апошнюю бітву:

– Пайду сагрэю малака.

Нешта ўзарвалася ў ім. Ён адкінуў набок коўдру, рэзка ўстаў і раззлавана апрануўся. Пасля выйшаў на лесвіцу і пабег уніз.

Чайка ўсё яшчэ там стаяла.

Ён выцягнуў палку з мятлы і асцярожна пайшоў да птушкі. Ён адчуваў на спіне позірк жонкі. Чайка пачала нервова перабіраць лапамі і адсоўвацца далей у цень. Ён павольна набліжаўся да яе, паціху ўздымаючы доўгую палку над галавою. Затым яны спыніліся. Ён адчуў, як праз браму падзьмула холадам, і падумаў: вось зараз я гэта зраблю, зараз я пастаўлю кропку ў гэтым кашмары. Ён напружыў цяглiцы і падумаў, што гэта мусіць быць толькі адзін удар, адзін удар па птушынай шыі, з усяе сілы.

Раптам чайка кінулася яму між ног і пабегла далей у цемру паўз дамы, лапочучы крыламі і нязграбна перабіраючы лапамі.

Ён раптам застаўся сам-насам з палкаю ад мятлы.

Калі ён вярнуўся, яна ўжо легла. У кватэры пахла малаком і мёдам. Яму было неспакойна, у скронях тахкала, ён хадзіў туды-сюды з кухні ў залу. Туды-сюды, туды-сюды. Раптам яна вырасла ў дзвярах у спальню і спытала, ці хутка ён прыйдзе і ляжа.

– Не, – адказаў ён. – Напэўна, пайду прайдуся.

Яна ўздыхнула:

– Чаму ты заўсёды з-за ўсяго так злуешся?

– Ні на што я не злуюся. Думаў пайсці прагуляцца.

– Божа, – сказала яна. – І куды ты пойдзеш сярод ночы?

– Нікуды. Проста пайду прайдуся, – адказаў ён.

## КАВА З ХОЛГЕРАМ

Холгер патэлефанаваў ля адзінаццатай раніцы. Я прывык, што пра самае страшнае паведамляюць сярод ночы, а ён патэлефанаваў ранкам і загадаў неадкладна прыязджаць. Да гэтага я аказаўся надзіва не падрыхтаваным. Я кінуў у сумку пару кашуляў і нешта з бялізны. Пасля выйшаў на вуліцу і перахапіў таксоўку. Я даўно не адпачываў і быў стомлены і абяссілены. Вочы самі заплюшчваліся, а рукі цяжка ляжалі на каленях. Першы раз за дужа доўгі час я маліўся Богу. Я прасіў яго, каб мне не давялося доўга чакаць самалёта ў Гамбургу.

Я казаў, як ёсць. Што памірае мой брат. Гэта тэрмінова.

Праз дзве з нечым гадзіны мы прызямліліся ў аэрапорце Берлін-Тэгель.

З таксоўкі да Шпандау[1] я назіраў за дзіўнымі падзеямі. Шэрае лютаўскае неба кішэла груганнём. І не толькі неба. Дзясяткі тысячаў груганоў расселіся на дахах, агароджах і ліхтарах. Яны былі паўсюль. Я ніколі не бачыў столькі гругання. Мне б і ў галаву не прыйшло, што такое можа быць у вялікім горадзе. Стаяў страшэнны шум, які цалкам паглынаў гул гарадскога транспарту. Я яшчэ падумаў, што гэтую карціну мне трэба запомніць. Я думаў зацяганымі фразамі з другараднага фільма. Калі мой брат ляжаў і паміраў, чорныя птушкі пазбіраліся на самы вялізны гругановы сход, якога свет яшчэ не бачыў. Цэнтр Берліна. Птушкі мяне раздражнялі. У іх было нешта непрыстойнае. Шафёр за ўсю дарогу не вымавіў ні слова, адно мацюкаўся сабе пад нос кожны раз, калі прамой наводкай падала на капот альбо ветравое шкло...

Мы даехалі да Гэслерштрасэ, гаманкая зграя засталася ззаду, аўтамабіль выглядаў не вельмі. Я разлічыўся, і таксоўка паехала назад – у гушчыню «баявых дзеянняў».

Паветра было свежае і прахалоднае, ветрам варушыла валасы. Нейкі час я стаяў на тратуары. Я ведаў, што на гэты раз мне не выкруціцца. Пара секунд, каб сабрацца з духам. Я не ведаў, ці там ужо маці. Недарэчная думка, бо яна напэўна ж там. Аднак цяжка было ўявіць усіх траіх у адной кватэры. Мой брат, які ляжыць і памірае. Холгер. І мама.

Мне няёмка было званіць у дзверы. Як чужому. Мне хацелася ціхенька павярнуць у замку ключ і адразу зрабіцца адным з іх – прыціхлым, быццам я нікуды не з'язджаў.

Дзверы адчыніў Холгер, і я адразу зразумеў, што спазніўся. Ён плакаў, але тое, што мой брат памёр, я зразумеў не па ягоных пустых вачах і не па пачырванелым, крыху набрынялым твары. А па тым, як ён сябе трымаў. Я успомніў, як паміраў бацька. Як мы ўсе, пакуль ён дыхаў, жылі каля яго, нібы пасцісканыя спружыны. І як мы яшчэ больш натужваліся, калі даўжэлі паўзы паміж уздыхамі. А калі ўсё скончылася, адбылося нейкае фізічнае спаражненне, нібы праз слёзы выходзіла стома.

Холгер абняў мяне сваімі вялікімі рукамі. Ён сказаў, што Ханс памёр. Што мы ўсе разам спазніліся. І зноў заплакаў.

На кухні ля стала сядзелі два паліцэйскія. Маладая жанчына і малады мужчына. У кожнага ў руках кубак кавы, фуражкі зняты. Яны няўпэўнена падняліся, калі я ўвайшоў, па чарзе павіталіся са мной за руку і прашапталі сваё імя, нібы прасілі прабачэння, я толькі крыху пазней зразумеў, што менавіта гэта яны рабілі.

– Мы чакаем доктара Крамэра, – паведаміў Холгер. – Таму, уласна,... – і ён слаба кіўнуў рукою ў бок паліцэйскіх. Я быў удзячны, што яны задаволіліся адным кіўком галавы, а не пачалі гаворку пра фармальнасці.

– А маці? – я заўважыў, што на стале стаяла чатыры кубкі кавы.

Холгер кіўнуў галавой у бок залы і спальні і цяжка сеў побач з жанчынай-паліцэйскім. Ёй, па ўсім відаць, цяжка было захоўваць афіцыйнасць.

Маці сядзела ля ложка і трымала брātаву руку. Ён памёр. Я бачыў яго апошні раз недзе месяц таму, але з таго часу ён нібы схуднеў на дваццаць кіляў. Ён нагадаў мне драздзянятак, якіх я кожнае лета знаходжу на дарожках у парку.

---

[1] Шпандау – адміністратыўная акруга Берліна.

Медыкі з “хуткай” падвязалі яму падбароддзе – дужа ветліва з іх боку. Вочы яго былі заплюшчаныя.

Я прысеў на незаняты зэдлік, таксама падсунуты да ложка, і падумаў, што вось яны і пасядзелі разам.

Маці сказала нешта, не помню дакладна, здаецца, што я хутка ўправіўся.

Седзячы ля ложка, я ўспомніў, як некалі ў дзяцінстве мы часцяком дражнілі брата за чырвоныя пульхныя шчокі.

– Яму цяпер спакойна, – сказала маці. – Паліцэйскія пайшлі?

Мне хацелася адказаць не, але замест гэтага я заплакаў.

Прыйшоў доктар. Чалавек памяркоўны. Ён выканаў неабходнае хутка і дбайна, а пасля зрабіў тое, што не ўваходзіла ў яго абавязкі: сеў каля нас. Паліцэйскія пайшлі, і Холгер папрасіў мяне патэлефанаваць у пахавальнае бюро. Сам вярнуўся на кухню, каб паставіць яшчэ кавы, маці ўвесь час на яго паглядала, аж пакуль ён не знік у дзвярах. Доктар сказаў, што хутчэй за ўсё Ханс памёр лёгкай смерцю. Заснуў і не прачнуўся. Маці яго не слухала.

Ля шостай прыйшлі з пахавальнага бюро. Ім нялёгка далося занесці труну наверх па вузкіх сходах, і я ведаў, што ім спатрэбіцца дапамога, каб знесці яе ўніз. Маці абмывала Ханса сама, а я з Холгерам і доктарам сядзелі ў зале разам з хлопцамі з пахавальнага бюро. Холгер схадзіў па пляшку V.S.O.P.[1], і мы выпілі з доктарам па кілішку, пасля доктар пайшоў. Двое з пахавальнага бюро стаялі ля вакна і назіралі за рухам транспарту.

Пазней мы з братам знеслі труну ўніз. Двое з пахавальнага бюро ішлі спераду, а Холгер і я – ззаду. На кожнай пляцоўцы нам даводзілася ставіць труну амаль на рабро, каб развярнуцца; павыходзілі суседзі і стаялі ў дзвярах, мне чулася краканне груганоў, і зрабілася моташна, балелі рукі, хацелася крычаць, а Холгер усю дарогу плакаў.

Ужо ўнізе ён сказаў, што мне трэба пагаварыць з маці. Што цяпер мне проста неабходна з ёй пагаварыць.

У тую ноч я застаўся ў маці. Мы не спалі. Маці ўвесь час гаварыла пра Ханса і бацьку, нібыта цяпер яны ўз'ядналіся, пра нейкае адлюстраванне майго з ёю зямнога існавання. Яны з бацькам цярпець адно аднаго не маглі, падумаў я. Не забывай гэта.

Далёка за поўнач яна сказала:

– Я ніяк не магу зразумець. Гэты ж здаровы. А той не...

Яна замоўкла, маўчаў і я.

– Калі гэта здарылася, я сядзела і піла з ім каву, – працягвала яна. – Я ніколі раней яго ў вочы не бачыла.

– Мам, яны пражылі разам дзесяць гадоў. Яго завуць Холгер, – сказаў я.

– Так, – працягвала яна, – калі паміраў Ханс, я сядзела і піла каву з Холгерам. Я ніколі нікому з нас гэтага не дарую.

## ДОЖДЖ

Ідзе дождж. Дождж ідзе ўвесь час. Калі я прыехаў, ішоў дождж, і цяпер ідзе дождж. Цэлы тыдзень бесперастанку ідзе дождж. Удзень і ўначы. Паўсюль мокра, а сёння ў канаве я ўгледзеў патанулага пацука. Я, бачы-

---

[1] V.S.O.P. – марачны каньяк.

це, рэгулярна выходжу на шпацыр. На доўгі шпацыр па дажджы. І вось сёння ўдзень я ўбачыў гэтага пацука. Ён папросту патануў. Я ў гэтым не сумняваюся. Ва ўсякім разе ён ляжаў у канаве – нежывы і мокры. Вось яно як, падумаў я. Ты там валяешся, а я тут стаю. І рушыў далей.

Пляжы апусцелі. Нават самыя заўзятыя купальшчыкі паз’язджалі дадому. Нічога не зробіш – верасень. Дробны пясочак узяўся крапкамі і стаў падобным да напаўзастылага цэменту, на які нехта памачыўся. На сцяжынках для шпацыру мне іншым разам сустрэнецца стары чалавек або яшчэ і сабака, але часта я нікога не бачу. Па дажджы я хаджу тут зусім адзін.

У пансіянаце самі не ведаюць, чым мне дагадзіць. Просяць прабачэння ад імя Госпада нашага. Безумоўна, гэта восень, але такога надвор’я ніхто не прыпомніць. Мяне пасялілі ў нумары на дваіх з выхадам да мора, хаця я быў адзін. За каву і дэсерт грошай не бралі. І гэта нягледзячы на тое, што я ні разу не выказаў ніякага расчаравання надвор’ем. Расчароўвацца мне няма прычыны. Я лічу, што з дажджом добра. Я доўга гуляю па ўзбярэжжы або сяджу каля вакна і пазіраю на прыроду, якая павольна адмірае.

Я зусім перастаў піць.

## НОВЫЯ ПАКОІ

***Апавяданне са зборніка «Частковая прысутнасць» (2003)***

### I

Пасля працоўнага дня мне захацелася зрабіць ёй нешта прыемнае, але раптам я ўспомніў, што больш за два месяцы назад яна памерла. Па першым часе так і было. Здаралася, я на кароткія імгненні забываў, што Марыт больш няма са мною. Няма ў гэтым свеце. І мне рабілася сорамна, што само па сабе было неверагодна абсурдна – у моманты пазітыўнага ўзрушэння заўсёды думаць пра яе як пра жывую, як у моманты кахання. Як цяпер. Працоўны дзень скончыўся, і я пайшоў да плошчы вузкімі вулачкамі, ахінутымі лістападаўскай цемрай. Якраз тут мне і прыйшло ў галаву парадаваць яе добрым біфштэксам. Як я ўжо казаў: некалькі кароткіх імгненняў шчаслівага забыцця. Мая жонка памерла, нічога не зробіш. Аднак выява далікатнай ялавічыны залегла ў маёй свядомасці; я нават падумаў, што змагу з’есці за дваіх.

Была дажджлівая і халодная пятніца. Я вырашыў, што як толькі прыду дадому, дастану бутэльку добрага чырвонага віна. Самага лепшага. Адкаркую яго і пастаўлю праветрыцца, нагрэцца да пакаёвай тэмпературы, а сам тым часам засмажу мяса. У мяне была пляшка “Ermita Alta, Grand Reserva 91”, на якую я ўскладаў пэўныя надзеі. Дужа ўдалы набытак, нават па мерках дацкага парома, абышоўся танна. Натуральна, яго не паставіш перад знаўцамі вінаў, але ж мне не выстаўляць яго перад нейкімі там знаўцамі. Апроч таго, я сам не горшы за знаўцаў. Я навучыўся крыху разбірацца ў віне на вячэрніх курсах. Мы з жонкаю запісаліся на гэтыя курсы зімою, за год да таго, як усё здарылася. Мы нават атрымалі дыпломы, але сарамліва засунулі іх далей у шуфляду адразу, як прыйшлі дадому. Мы адмовіліся ад членства ў вінным клубе, што неяк натуральна ўзнік, нібы працяг курсаў. Як кажуць, кожнаму сваё, а цяпер у мяне няма нічога.

Хіба нічога? У мяне было жыццё. Я хадзіў па залітых дажджом вуліцах і жыў. Быў у добрым здароўі. Дужы.

Я накіраваўся ў лаўку да Мартынсэна. У яго найлепшая ялавічына.

Апроч таго, ён нешматслоўны. Скажа пару словаў пра тое-сёе і маўчыць. Рэжа ялавічыну так, ён ведае, як мне падабаецца, а наастачу плявузгне нешта пра мясцовыя зімы, маўляў, каму яны трэба такія, як сёлета.

Пазней я купіў міндалевай бульбы і пакуначак свежых грыбоў. Цыбулі дома хапала.

І пайшоў туды. Дамому. Ад канторы да старых каменных будынкаў ісці было далёка, але я заўсёды хадзіў пешкам. У любое надвор'е. На паўдарозе мяне заспеў снег. Вялізныя снежныя камякі падалі на дахі машынаў і тратуары. Непадалёк ад канторы ўся гэтая любата рабілася вадой, я прайшоў далей – і пабачыў горад, закутаны ў белае покрыва.

Было прыгожа. А яшчэ, калі ў горадзе ідзе снег, то з гукамі нешта адбываецца. Яны робяцца прыглушанымі. Колы машынаў па брукаванцы і асфальце грукочуць, нібы праз нейкі фільтр. На ўсё кладзецца своеасаблівы спакой. Ішоў я і думаў пра ежу, якую меўся гатаваць, пра тое, што пасля сяду з рэштай віна ў зале і, мусіць, крыху пачытаю. Я нанова адкрыў для сябе Гамсуна.

Калі я зайшоў у двор, то спыніўся і крыху пастаяў. Снег пакрываў кветнікі і каменную кладку. Нідзе ані следу. На смеццевыя бакі белай шапачкай накідала снегу.

Я хацеў быў адчыніць парадныя дзверы, калі маю ўвагу прыцягнуў цень ля дваровай мятлы. Абрысы нейкага прадмета, падобнага на цыгару. Я нахіліўся і падабраў яго.

Гэта была аўтаручка, якую Марыт падарыла мне на пяцідзесяцігоддзе. Дарагая ручка, "Паркер".

Я не ведаю, пра што я тады падумаў. Калі ўвогуле нешта думаў. Але я памятаю, як страпянулася ў грудзях сэрца. Як сэрца зрабілася большым за галаву.

Пасля я пабег па сходах, у адной руцэ трымаючы ручку, а ў другой пакет з прадуктамі.

Дзверы ўзламаныя. Прыадчыненыя. Я падумаў, што вось і са мною адбылося тое, пра што пішуць у газетах у рубрыцы "Здарэнні". Нехта прабраўся ў тое, што было маім. Нашым. Я стаяў не варушачыся. Час ішоў, а я стаяў і прыслухоўваўся, мо пачую знакі чужой прысутнасці ў кватэры.

Але я нічога не чуў. Адно прыглушанае мармытанне радыё недзе ў глыбіні кватэры. Або прайгравальніка. Памятаю, спяваў Нік Кейв[1]. Такое нельга забыць.

Нарэшце, я ўвайшоў у кватэру.

Вялікая блакітная пасудзіна, прывезеная з Гамбіі, якая служыла падстаўкай для парасонаў, ляжала разбітая ля дзвярэй у прыбіральню. Зацягнуць яе з сабою ў самалёт было пеклам, і мы яшчэ доўга смяяліся, успамінаючы, як усе члены экіпажа выказваліся на гэты конт. На мяне лаяліся, як маглі, але пасудзіна была таго вартая. Выглядала так, нібы яе разбілі машынай для эспрэса, якая зараз стаяла не на сваім месцы. Усе фатаграфіі Мортэна Крогвалда[2] былі сарваныя са сценаў, рамкі патрушчаныя, шкло пабітае. З ім я выпадкова сустрэўся ў Голуэі[3]. Мы пасябравалі. Фатаграфія мёртвай марской птушкі ляжала пашкуматаная і патаптаная пад старой Бібліяй, якая

[1] Кейв, Нік (нар. у 1957 г.) – аўстралійскі рок-музыкант.
[2] Крогвалд, Мортэн (нар. у 1950 г.) – знакаміты нарвежскі фатограф.
[3] Голуэй – горад у Ірландыі.

засталася ад маіх дзеда з бабаю. І паўсюль – паперы. Прыватныя паперы. Дом. Падаткі. Праца. Сярод вітальні – блакітны школьны дзённік. Прашу вызваліць ад заняткаў плаваннем з прычыны зацяжной прастуды. Тры дні праляжаў у ложку. Кішэчны грып. Круглы дзявочы почырк маці. Я ўвайшоў туды, дзе ўсё раней было маім, але цяпер гэта ў мяне адабралі. Адабралі: кіпа рахункаў у ванне. Лязо валялася на падлозе. Адзенне параскідана паўсюль у спальні і зале. Нажом распаролі матрац на двуспальным ложку, напырскалі гарчыцы на канапы і фатэлі, на сцены і столь. Музычны цэнтр і дыскі былі перастаўленыя, тэлевізар таксама. Яны спаражніліся ў шуфляду са сталовымі прыборамі. Я званітаваў у ракавіну і выбег з кватэры.

Апынуўшыся ў двары, я заўважыў, што да гэтай пары сціскаю ў руцэ аўтаручку.

Я кінуў яе праз агароджу.

Плакаць было цяжка. Слёзы сядзелі дужа глыбока. Я плакаў, калі яна памерла, тады атрымалася. Цяпер усё па-іншаму. Нібы слязам заткнулі выйсце вільготным камяком смецця і валосся; з намагання паплакаць атрымліваўся адно кашаль. Я ішоў, кашляў і плакаў. І ўвесь час адчуваў, што ўва мне нешта закрываецца. Я гэта не пражыву. Яно не пройдзе для мяне незаўважаным. Рамку патрушчылі. Толькі цяпер да мяне дайшло, што я адзінокі. Мусіць, нават вельмі адзінокі.

Не разбіраючы дарогі, я туляўся па вуліцах.

Снег пайшоў гушчэй, пацямнела. На тратуарах амаль нікога не было, а на асветленых скрыжаваннях і шашы ўздоўж прыбярэжнай сцяжыны для шпацыру вілася чарада машын, якія блісκалі чырвонымі фарамі і пыхкалі смуродам, забруджваючы ноч. Так, менавіта ноч, нават калі яшчэ не было сямі, менавіта ноч; я перайшоў вуліцу, праціснуўся паміж машынамі, якія ледзь рухаліся, і накіраваўся на прыстань, на самы яе край.

Было ціха.

Блакітна-зялёнае святло ад ліхтара крыва клалася на ваду. На маё здзіўленне, я выразна бачыў рэльеф дна. Дробны пясочак. Шына. Цень ад рыбы, якая праплыла збоку па цячэнні. Я сеў на скрыню з пяском, якім прыцярушваюць лёд, і запаліў. З нагоды 250-гадовага юбілею горада газета стракацела навінамі – малымі і вялікімі, – якія друкаваліся ў розныя гады. Маю ўвагу прыцягнула невялікая нататка за 1934 год: у тэксце я пабачыў сваё ўласнае прозвішча. Прапаў мужчына, як я пазней высветліў, мой далёкі сваяк, яго шукалі два дні. Пазней яго знайшоў патрульны канстэбль, напісалі, што ён “сядзеў на дне ля ўсходняй прыстані”. Ён не ляжаў у вадзе, яго не выкінула на бераг – ён менавіта сядзеў на дне. Смешна, а ўсё-ткі смерць. Гэта лёгка было ўявіць. Як цячэннем варушыць яму валасы, а ён сядзіць на дне, на дробным пясочку, нібы дзіця ў пясочніцы. Мёртвы. А тут сяджу я. Такі жывы, аж свярбіць.

Мне захацелася пайсці і сесці на першы цягнік, у самы лепшы вагон. Паехаць далёка. Альбо пасяліцца ў гатэлі. І ў абодвух выпадках мне давядзецца сустракацца з людзьмі, а гэтага сёння мне менш за ўсё хацелася. З’явілася вострае пачуццё таго, што ўсё абрыдла. Трэба было б у паліцыю... Але пра тое, што са мною здарылася, калі я пабачыў разбітую на дробныя друзачкі блакітную пасудзіну, я расказаць не змог бы. Падпісвацца было няма пад чым.

А як труп мог сядзець на дне?

Гэта таксама нельга было растлумачыць.

Я паліў цыгарэту за цыгарэтай. Ад гэтага мне зрабілася моташна і нездаровілася, і калі ваніты падступілі, я выкінуў цэлы пачак у мора. Ён упаў на тонкую плёнку паўзверх пясчанага дна і застаўся там ляжаць. Гэта павінна было скончыцца. Пасля трыццаці з гакам гадоў гэта, нарэшце, павінна было скончыцца.

Пазней толькі рух уніз і ўверх па вуліцах. І снег.

Недзе гадзіны ля чацвёртай з'явіліся першыя снегаачышчальнікі. Было крыху за сёмую, калі я пайшоў у кавярню на чыгуначным вакзале, каб выпіць філіжанку кавы. Я замёрз, і трэба было назад да людзей.

Цяпер замест кавярні тут месціўся кіёск "Нарвэсэн". Я ж ведаў. Даўно ўжо. Памяшканне было тое самае, толькі пасля рамонту. Сцены, у якія паўядаліся плямы нікатыну, пафарбавалі ў чыста-белы колер і аздобілі чорна-белымі даўняшнімі фотаздымкамі станцыі. Кароль Хокун на пероне. Вялізны паравоз. На адным здымку кавярня была такой, як у маім дзяцінстве, мусіць, здымалі недзе напачатку пяцідзясятых. Мне раптам падумалася, што гэтае месца ніколі не прызначалася для падарожных. Ні ў той час. Ні ў гэты. Калі я быў малым і мой дзед браў мяне сюды, то ўсе, хто чакаў цягніка, сядзелі ў залі чакання побач з білетнымі касамі. У чыгуначную кавярню заходзілі выключна сталыя наведвальнікі. Прытомленыя мужчыны, кожны са сваім пачкам махоркі на самакруткі на квадратным фанерным століку. Пілі піва або вараную каву. Не п'яныя, але працвярэжаныя або нападпітку. Ніякіх жанчын, за выключэннем фру Ларсэн, якая стаяла за прылаўкам, але затое ў яе былі вусы. Тут я сядзеў у кожную нядзелю на працягу ўсяго дзяцінства. Я сядзеў на высокім крэсле, махаў нагамі і назіраў, як чырвоныя бляшаныя попельніцы з надпісам "Cinzano" напаўняліся тоўстымі жаўтаватымі недапалкамі. Я шукаў і не знаходзіў тое слова, якое магло апісаць тутэйшы настрой, тут не было мітусні, у адрозненне ад перону, куды прыбывалі і адкуль адыходзілі цягнікі, дзе вішчэлі паравозныя гудкі і траскучым голасам бубніў гучнагаварыльнік, а тут – прыглушаныя размовы, павіслыя фразы, курыва, старыя мужчыны ў паношаным адзенні. Так, я шукаў слова, але ў дзіцячым рэпертуары няма слова смутак, адно безыменны досвед.

Дзіўна было зноў сюды трапіць. Тая самая рамка, але іншая карціна. Я сам дарослы і знясілены. За прылаўкам – малады в'етнамец з задуменнымі вачыма. Я выпіў гарачай кавы, але есці па-ранейшаму не хацелася, нават калі хаос у тым, што некалі было маім домам, здаваўся далёкім і нерэальным. За тыя гадзіны, пакуль я туляўся па вуліцах і мерзнуў, змянілася маё ўнутранае ўяўленне пра кватэру. Зараз у маім уяўленні яна была пустая. Вычышчаная. Сто дзесяць квадратных метраў глянцавага паркету. Белыя незаплямленыя сцены. І нічога болей. Ані друзачкі. Я ўявіў, як паўночны вецер – халодны і чысты – носіцца па пакоях: усе вокны насцеж. Гэта не сон. Гэта ўспамін. Мы засяліліся ў студзені, каля дваццаці гадоў таму. Не памятаю чаму, але першы раз у кватэры я начаваў адзін. У мяне з сабою нічога не было, акрамя спальнага мяшка, пасцілкі, цыгарэт і запальнічкі. Рабочыя пакінулі вокны адкрытымі насцеж, каб выветрыўся пах фарбы і шкіпінару, я хадзіў па пакоях і адчуваў сябе шчаслівым уласнікам. Гэта было нашае. Калі мы толькі пабраліся, мы жылі ў цеснай трохпакаёўцы ў шматкватэрным доме ў прыгарадзе. Цяпер я мог закінуць галаву і паглядаць на гіпсавыя разеткі і ляпніну на вышыні трох метраў і дваццаці сантыметраў нада мною. І я памятаю, з якой тугой я думаў пра рэчы, якія павінны прыбыць наступнай раніцай. Усе гэтыя пакоі мусілі заставіцца

рэчамі... не толькі тымі, што мы назапасілі за сумесна пражытыя гады, але й жыццём, якое мы яшчэ мусілі пражыць.

Цяпер я сядзеў тут, нібы Іоў, які страціў веру.

На дварэ пачаўся дождж. Глухі і дакучлівы. Да перона прыбыў цягнік, праз кроплі на шыбах я разгледзеў абрысы людзей. Вузкавокі выйшаў у непагадзь і вярнуўся з пачкам газетаў, дастаўленых з Осла. Я адмоўна кіўнуў, калі ён запытальна на мяне паглядзеў. Ён зняў мокры пластык з пачкаў і расклаў газеты на штатыве ля прылаўка. Пасля сам прымасціўся на табурэтцы са свежай VG[1] і запаліў.

Я так жудасна стаміўся. Аўтаматычна хацеў быў папрасіць яшчэ кавы, але страўнік сказаў не. Паліць не хацелася, нават гледзячы на пачкі з тытунём і цыгарэтамі за прылаўкам. Пах цыгарэты, раскуранай прадаўцом, не вабіў і не раздражняў. Паліць я кінуў даўно.

Ля восьмай я схадзіў у прыбіральню. Калі верыць майму адбітку ў люстры, справы ішлі нядрэнна. Чырвоныя вочы, натуральна. Лёгкая няголенасць. Але ў апошнія гады я прывык галіцца неахайна. Мо акурат з гэтае прычыны я вырашыў ісці на працу. Праўда, нічога іншага мне не заставалася. А што да наведвальнікаў, ну дык на тое ў мяне свой ўласны кабінет. Звычайна непажаданага вэрхалу ля майго стала не было. Зазвычай працоўны дзень выглядаў так: я самотна сяджу ў сваім цесным кабінеце ў канцы калідора. Дзесяць-дванаццаць тэлефанаванняў за дзень. Нехта прасуне галаву ў кабінет і адтарабаніць нешта, я паслухаю ў паўвуха. Перабіраю паперы. Падпісваю. Адпраўляю далей. Апошнія гады мы працуем па зменным графіку, так што спяшацца няма чаго. Я няспешна спаласнуў твар ледзяной вадой і пайшоў з вакзала.

Толькі пасярод Дронінгенсгата, калі я пабачыў кантору, заціснутую паміж хімчысткай і былой грамадскай лазняй, да мяне дайшло, што сёння субота. Святло гарэла толькі на першым паверсе ля прыёмнай стойкі. Мігала галагенная трубка. Ці то ў мяне ў вачах мігцела? З надасыпу? Не. Гэта пачалося даўно. Некалькі дзён таму. Галагенная трубка пачынала мігцець і перагарала.

Я падняўся на другі паверх, адамкнуўшы дзверы ў кабінет, застыў на парозе і не адразу ўвайшоў. Нібы чужаніца.

Я зачыніў за сабою дзверы, у калідоры нікога. Іншыя кабінеты закрытыя. Было цемнавата, але святло я не ўключаў. У гэтай канторы я працаваў апошнія восем гадоў, але ніколі раней не бываў тут адзін. У мяне была праца, якую можна было браць дадому. І раптам я звярнуў увагу на мінулы час: *"у мяне была праца"*.

На пісьмовым стале стаяў фотаздымак Марыт. Я выняў яго з рамкі і ўтаропіўся ў кавалак шэрага кардону. Пустая шэрая паверхня. Я высунуў са стала шуфляду. Там нічога не было, акрамя сашчэпак і ручкі з рэкламай нейкай страхавой кампаніі. Ручка навяла мяне на думкі пра "Паркер", які я знайшоў учора ўвечары каля параднага ўваходу, выраз "страхавая кампанія" мяне раздражняў, я кінуў ручку ў сметніцу. Фатаграфію жонкі сунуў ва ўнутраную кішэню пінжака.

Пасля я, мусіць, заснуў.

Прачнуўся, калі ў кабінеце зусім сцямнела. Я сядзеў у канторскім крэсле, гадзіннік паказваў дваццаць хвілінаў на пятую. Я праспаў восем гадзінаў і не памятаў, ці снілася мне нешта. Вакол пусты кабінет, цёмна хоць вока выкалі. Я падыйшоў да вакна.

---

[1] Папулярная таблоідная газета "Verdens Gang".

Па вуліцы тупала старая кабета з цяжэннай сумкай у руках, зноў ішоў снег.

Нехта недзе смяяўся. Смех быў нізкі, нейкі вуркатлівы, я падумаў пра пажадлівасць, юр...

Я рэзка павярнуўся.

Нікога. Дзверы зачыненыя. Я падышоў да іх і прыадчыніў. У канцы калідора адчыненыя дзверы ў кабінет Банга. На лінолеум падала святло. Мы клічам яго Банг. Яго завуць Уле Ёган, натуральна, чалавека называюць па імені, але ў канторы яго ўсё роўна называлі Бангам. Мабыць, таму што прасцей. Смяяўся ў сваім кабінеце Банг. Як я ўжо сказаў, дзверы расчыненыя, а якраз насупраць дзвярэй вісела люстэрка. Адтуль, дзе я стаяў, мне было відаць усё, што адбываецца ў кабінеце Банга, у люстэрку. Банг сядзеў на краечку пісьмовага стала, засунуўшы рукі ў кішэні. Перад ім на каленях стаяў новенькі з бухгалтарскага аддзела і рабіў мінет. Я крыху здзівіўся, бо ў Уле Ёгана Банга была жонка і двое малых дзяцей. Акрамя таго, я ніколі не чуў, каб Банг так смяяўся. Увогуле, я ведаў яго як чалавека, якога не так проста рассмяшыць.

– А ты добры хлопчык, Хэльге! – сказаў Банг. Ён дастаў правую руку з кішэні і пагладзіў Хэльге па галаве. – Добры хлопчык!

Я адступіў назад. Сітуацыя была абсурднай. Банг – тыповы бюракрат. А кабінет, дзе ён і новенькі гэтым займаліся, асацыяваўся ў мяне толькі з адным: падагульняючым паседжаннем па пятніцах. Месца, дзе гомасэксуальным каханнем і добрымі хлопчыкамі нават не пахла.

Я ціхенька пракраўся назад у свой кабінет і зноў прысеў да стала.

Банг ці быў неспатольным, ці сам скарыстаў магчымасць зрабіць прыемнае іншаму.

Было за сем, калі яны, нарэшце, пайшлі. З нейкай прычыны яны перашэптваліся, навошта той шэпт, калі ўсё скончылася. З акна я бачыў, як новенькі з бухгалтарскага аддзела перайшоў вуліцу і, не азіраючыся, пакрочыў у горад.

Не ведаю, ці доўга я так стаяў. Доўга, мусіць. Праязджалі машыны. Чуліся абрыўкі размоваў. Нейкі падлетак выкрыкваў назву футбольнай каманды. Нехта смяяўся.

Раптам на маім стале зазваніў тэлефон.

Зрабілася страшна. Усё гэта падавалася ненатуральным. Нібыта раптам загаварыў камень. Я з дня ў дзень, з году ў год прыходзіў сюды на працу, і ўвесь час брынчаў той самы тэлефон, і рука аўтаматычна цягнулася да трубкі. Але цяпер...

Прыглушанае трынканне прабірала да касцей. Я чамусьці не сумняваўся, што званок быў неяк звязаны з узломам кватэры. У нейкі момант я нават падумаў, што тэлефанаваў сам злачынца. Што ўвесь гэты кашмар працягваецца. Адзінае, у чым я быў абсалютна ўпэўнены, дык гэта ў тым, што трубку я не падыму. Цяпер мне ніхто не патрэбны.

Здавалася, што прайшоў год, пакуль тэлефон, нарэшце, заціх.

Я выйшаў на двор, спыніўся на прыступках, аўтаматычна палез у кішэню па цыгарэты і запальнічку. Я кінуў паліць, у мяне нават не было той славутай цягі да курыва, але частка мозга, якая адказвае за рытуалы, пэўна, яшчэ не атрымала патрэбнага сігналу. Пакуль я па старой звычцы шнарыў па кішэнях, за некалькі імгненняў да таго, як зразумець, што я нічога не знайду, у маёй свядомасці намалявалася карціна. Я на незнаё-

май вуліцы, стаю, засунуўшы рукі ў кішэні шыняля. Шынель салдацкі, абшарпаны і брудны, я таксама быў брудны і абшарпаны. Апроч таго, мая галава была перавязаная акрываўленымі бінтамі. Я выглядаў, як салдат, што вяртаецца з фронту.

За апошнія гады гэтая карціна мне мроілася не аднойчы. Іншым разам фон карціны прымаў выразныя абрысы. А бывала, абрысы былі амаль сцертыя. Але незалежна ад таго, што са мною адбывалася, – а звычайна, нічога асаблівага – пад канец я апынаўся перад зачыненымі сталёвымі дзвярыма старога прыбытковага дома. Бязлюднага дома. Зрэдзьчас праз гэтыя дзверы я прабіраўся ўнутр, а то заставаўся стаяць перад дзвярыма з адчуваннем разгубленасці і прыкрасці. Заўсёды даймаў мароз. Калі мне ўдавалася прабрацца ў сярэдзінк, я апынаўся ў тым самым пакоі, падобным на занядбанае заводскае памяшканне, пафарбаванае ў жоўта-карычневы колер.

У гэтым месцы ў маіх успамінах прагал. Чорная дзірка. Я, мусіць, спыняўся перакусіць у нейкай забягалаўцы. Ва ўсякім разе, калі я зноў вяртаўся да свядомасці, есці мне не хацелася. Я стаю на старым мосце праз чыгуначныя пуці і пазіраю ўніз на скрыжаванні рэек, як яны пераплятаюцца і разыходзяцца прэч ад станцыі, прэч ад горада. Зноў нацерушыла снегу. Чорныя лініі на белым фоне. Чароўная графіка. Пада мною пратахкаў грузавы цягнік, пацягнуўся некуды паўз ф'ёрд. Мне відаць далёкія агні лакаматыва, аж да самога Квамэна[1], дзе рэйкі рэзка паварочваюць на захад, у густы яловы лес. Сюды я прыходзіў, яшчэ калі быў малы. Тут збіраліся хлопцы з усяго горада. Нібы каралі, стаялі мы на гэтым мосце і паглядалі, як прыбываюць і адыходзяць цягнікі. Я памятаю, якое моцнае ўражанне на мяне рабіў гэты перагон, калі я бачыў яго праз вакенца купэ. Калі мы некуды выпраўляліся на цягніку. Або вярталіся дадому. І ў першым, і ў другім выпадку я нечага чакаў. Я да гэтай пары не здолеў пазбавіцца гэтага пачуцця напружаннага чакання, дарма што ўсе іншыя ўражанні прытупіла жыццё. У нашай сям'і па мамінай лініі былі адны чыгуначнікі. З гадоў чатырох або пяці я пачаў ездзіць на цягніку без дарослых, тады мне на шыю вешалі шнурок з паперчынай. Маё імя, месца прызначэння, Аскер, дзе жылі мае дзядзька і цётка. Самому ехаць на цягніку было зусім не страшна. Паперка на шыі была фармальнасцю. Я быў знаёмы з кандуктарамі, і яны ведалі, на якой станцыі мяне высадзіць. Кожны раз – казка, але казка з добра вядомым канцом. Жылы масіў пакрысе радзее і саступае месца лесу. Або будынкі пачынаюць ціснуцца адзін да аднаго і гуртавацца ў горад. Некалі ў сямідзясятых гадах чыгуначныя пуці праходзілі паўз Вэрфтэт[2]. Дык вось недзе ў кропцы "ігрэк" паміж старым і новым часам засталася стаяць адна пахіленая сядзіба. Адна чыгуначная ветка зарасла пустазеллем і маладым лесам. Другая прыняла на сябе транспарт грузаў і людзей у поўным аб'ёме. У той час я пайшоў у гімназію ў суседнім горадзе. Тры гады, дзень у дзень, праходзіў я паўз гэту сядзібу. Стары будынак з захінутымі фіранкамі, які пакрысе занепадаў.

Цяпер мяне неадольна туды цягнула.

Частку дарогі мне давялося ісці па шпалах. Гэта было небяспечна, бо ветка праходзіла пад скалой, якую ўзрывалі дынамітам, каб пусціць праз

[1] Квамэн – мястэчка ў фюльке Согн-ог-Ф'юранэ.
[2] Вэрфтэт – раён Бергена, горада на паўднёвым захадзе Нарвегіі.

яе цягнік. Абапал каляіны ў скале нічога не было. Ніякай шчыліны, каб схавацца, калі ідзе цягнік. Мяне чамусьці гэта супакойвала. Я мог разлічваць толькі на свае ўласныя ногі. Жыццё залежала ад хуткасці крокаў. Пакрысе за маёю спінаю заціхалі гукі горада. Станцыйныя агні таксама цьмянелі, а ў цемры я бачыў лепей.

Сядзіба стаяла на невялікім узвышшы, адкрытая шэраму зімоваму небу. Даўно я яе не бачыў, аж з той пары, як перасеў на машыну. За гэты час дзе-якія шыбы ў вокнах павыпадалі і былі застаўленыя фанернымі лістамі, якія пакрысе набракалі і гнілі. Старая шкляная веранда, прасела, нібы ўкленчыла. Некалі з сядзібы адкрываўся цудоўны від на ф'ёрд. Цяпер вокны, быццам падслепаватыя вочы, углядаліся ў занядбанае лакаматыўнае дэпо па той бок пуцей. Вецер шоргаў адарваным вадасцёкам на лушпінні белай фарбы. Разруха. І акрамя разрухі і заняпаду больш нічога.

Уваходныя дзверы былі пакрытыя тоўстай шматслойнай фанерай, такой, якую выкарыстоўваюць апалубшчыкі. Мне ўспомнілася, што мне сніліся сталёвыя дзверы. Але цяпер гэта было на яве, такія дзверы без інструмента не адолець. Я ўважліва агледзеў вокны. Звонку ўсе яны былі цэлыя. Дзіўна. Я яшчэ адумаў, які сэнс намертва прыкручваць на дзверы фанерныя шчыты, калі шыбы ў вокнах хістаюцца. Але калі я падышоў бліжэй, то ўбачыў, што паўсюль былі навешаны аканіцы, але чамусьці знутры.

Я абышоў сядзібу вакол.

Як я ўжо сказаў, шкляная веранда амаль ляжала на зямлі. Заходзіць у хату праз яе было небяспечна. А мне туды карцела. Неадкладна. З ф'ёрда дзьмуў ледзяны вецер, і ад доўгіх блуканняў па снезе ногі ў мяне прамоклі. Вечка ў склеп з заходняга боку сядзібы таксама напалову згніло. Аднак адкрывалася без асаблівых высілкаў. На лесвіцы было поўна бляшанак з фарбаю і рознага ламачча. Дзверы з хаты ў склеп стаялі непрыкрытыя, а калі я падышоў да іх бліжэй, то пабачыў, што яны вырваныя. Мне падалося гэта дужа дзіўным. Раней я ніколі ў жыцці не бачыў вырваных дзвярэй. А тут другі раз за суткі. Хаця гэтыя вырвалі даўно. Відно па пакалупаным дрэве.

Я расчыніў дзверы. Запахла цвіллю і гніллём. Цемра паўстала перада мною, нібы сцяна.

Я ўспомніў адзін выпадак, пра які мне некалі расказваў бацька. Каля дома, дзе мы жылі, стаяла паветка з дровамі і коксам. Аднойчы зімовым вечарам я пайшоў туды з бацькам, каб прынесці для грубкі паліва. Мне было пяць гадоў. І пакуль бацька чакаў, калі вочы звыкнуцца з цемрай, ён раптам адчуў, як я схапіў яго за руку. Вось і ўвесь выпадак, але бацька пераказваў яго безліч разоў. Ён згадаў пра гэтую дзіцячую руку, нават калі паміраў.

І тут раптам у мяне ўзнікла неадольнае жаданне схапіць каго-небудзь за руку, каго-небудзь, дужэйшага за мяне.

Я што, запальнічку таксама выкінуў? Здаецца, не. Цыгарэты паляцелі ў ф'ёрд, але не помню, каб следам ляцела запальнічка. Канечне, калі я стаяў на парозе канторы і поркаўся ў кішэнях, я там нічога не знайшоў, але... яна ляжала ў кішэні пінжака. Белая запальнічка "Бік".

Нічога асаблівага ў склепе не было. Склеп як склеп. Звычайная ніжняя частка заняпалага дома. Пазелянелы бак ля сцяны. Праселая паліца, на падлозе цэлыя і бітыя слоікі. Закуток для коксу альбо бульбы, падперты двума іржавымі роварамі без колаў. Усё, што ўяўляла нейкую каштоўнасць, даўно было адсюль вынесена. Недзе па-за межамі жмутка святла, на цэмент падалі цяжкія кроплі вады. Крутая лесвіца вяла да другіх дзвярэй.

Самі дзверы былі знятыя з завесаў і ляжалі на падлозе ў пыле. Зайшоў. У другія пакоі вялі двое іншых дзвярэй. Я зайшоў на ранейшую кухню. Прасторна. З кухні выхад на задні двор. Аканіцы на вокнах. Прыладжаныя на хуткую руку. Вялікія цвікі неахайна загнаныя ў раму. Пасярод пакоя – фанерны стол, а так больш нічога. Нават старую ракавіну адкруцілі і забралі. Адно іржавыя абрысы на сцяне. Як жа я здзівіўся, калі ўбачыў, што ў двух вялікіх пакоях стаяла нямала мэблі. Спярша гасцёўня ў важкім цёмным дрэве, мусіць, чырвоным. Стол і фатэлі заваленыя стосамі даўнішніх газетаў і часопісаў, рэшткі канапы, недаедзенай мышамі і пацукамі. Масіўны буфет супраць тарцовай сцяны, на ім – ваза з засохлай ружай. Ва ўнутраным пакоі было прыблізна так, як, па маіх меркаваннях, і павінна было быць, калі тут жылі. Мінус нейкія цацкі і дробязі. Мінус карціны на сценах. На іх месцы святлелі выліналыя квадраты на бардовых шпалерах. Вялікі, на ўсю сцяну камін з неапрацаванага каменю. Старая канапа, пашкоджаная вільгаццю. Два глыбокія скураныя фатэлі. У адрозненне ад кухні і гасцёўні, тут паўсюль былі лямпачкі. На столі, на сценах і на двух нізенькіх століках бліжэй да вакон. Гнілыя дываны на падлозе, некалі такія каштавалі нятанна, я крыху пра такое ведаю.

Я патушыў агонь, запальнічка зрабілася нясцерпна гарачаю. Раптам пачуўся нейкі грукат, які нарастаў, я не адразу скеміў, што гэта ішоў цягнік. Я наблізіўся да вакна і прытуліўся лобам да ледзяной шыбы. Ніжэй вачэй, паміж доскамі, прыбітымі звонку, была шчыліна. Крыху прыгнуўшыся, я пабачыў праз цемень цягнік, які ішоў міма. Пабачыў светлыя купэ. Людзей, якія паглядалі праз вокны, чыталі газеты або пілі каву. Як часта я і сам вось так сядзеў, ехаў куды-небудзь або адкуль-небудзь. Седзячы ў купэ, я намагаўся ўявіць, як выглядае пакінуты дом у сярэдзіне, прыкінуць, хто яго гаспадары і чаму з'ехалі. За нейкае імгненне да таго, як цягнік мінуў, мая ўвага пераключылася на іншае. Зараз там сядзяць іншыя людзі і цікавяцца тым самым. А тут стаю я, з мокрымі нагамі і моцным адчуваннем, што нешта тут так. Што я без дай прычыны кінуўся на ўцёкі. Ну добра, узлом. Здараецца. У такім выпадку тэлефануюць у паліцыю і страхавую кампанію. А калі чалавек сам не ў стане прыбрацца... Божа, ды знойдзецца нейкая фірма па прыбіранні памяшканняў, якая напэўна яшчэ і не такому бязладдзю давала рады. Мая катастрофа, насамрэч, – гэта для кагосьці звычайная праца.

Аднак: гэтая праца была не мая.

Мне не хапіла сілаў прыняць тое, што на мяне звалілася.

Светлыя вокны прамільгнулі і зніклі. Нібы фільм, які скончыўся знянацку.

Ізноў зрабілася ціха.

У сумежным пакоі, пэўна, былой бібліятэцы, мне трапілася старая канапа. Не сухая, але і не дужа вільготная. Я прынёс газет з гасцёўні і заслаў яе. Сцягнуў з ног мокрыя боты і шкарпэткі. Зняў пінжак і лёг, засунуўшы ногі ў рукавы. Накрыўся палітом.

Мне снілася, што я памёр. Цела ў мяне не было, аднак кеміў я добра. Я перамяшчаўся ў прасторы, падобнай да той, якая мяне звычайна акружае. Дамы і вуліцы. Мора і неба. Адно што людзей не было. І адзінае, што я чуў, было нейкае шамаценне. Нібы нехта зусім побач поркаўся ў паперах. З'явілася адчуванне, што за мною назіраюць. Было непрыемна, але непрыемна на нейкі незнаёмы лад – адчуванне, якое не перадаць словамі. Я паглядаў

ва ўсе бакі адначасова. Я бачыў царкоўныя шпілі ўдалечыні, а хутка і сам быў царкоўным шпілем. Адчуванне штыкетніку: ён рос ува мне і рабіўся карцінай, нібы я нараджаў яго, пускаў на свет. Так. Краявіды ўзнімаліся ўва мне і рабіліся рэчаіснасцю праз маё ўнутранае сузіранне. Нібы я фармаваў уласны свет, раскрываў яго. І ўвесь час за мною нехта або нешта назірала. Мне яшчэ ніколі такое не снілася, мне ўвесь час здавалася, што я не сплю, што гэта смерць, яна не страшная, не брыдкая – так, але не страшная таму, што цяпер ты там, дзе няма ні небяспекі, ні абяцанняў. Цяпер ты, нарэшце, цалкам належыш самому сабе. Раптам адчуванне сябе знікла, і ўсё разам... Як там гаворыцца пра безымяннае? Пра няўяўнае?

Не магу сказаць, што я прачнуўся. Я ляжаў у забыцці. Не мела аніякага значэння, з расплюшчанымі ці залюшчанымі вачамі, бо я ўсё роўна бачыў тое самае. У пакоі пакрысе прыбывала шараватага ранішняга святла. Святло рабіла выразнейшымі контуры ўсяго навокал. Дзвярны праём акантавала блакітнай стужкай. Далей у кутку паказалася старое лязо, і мне на імгненне ўспомніўся мой станок для галення, якім я яго бачыў на падлозе ў ванне. Я засунуў руку пад паліто, у пакоі было холадна, зноў выцягнуў руку і засунуў пад паху. Але рука несла з сабою холад, я ляжаў і дрыжэў. Мне было так нясцерпна холадна.

Шкарпэткі ні на грам не прасохлі. Боты таксама. І тут я заняўся тым, чым займаўся гады ў рады. Фіззарадкай. Рукі ўгору. Прысеў-устаў. Бег на месцы, пацягнуцца і нагнуцца. І так хвілінаў дваццаць. Дапамагло. Лістапад, праўда, быў і на дварэ, і ў будынку, але тэмпература бясспрэчна плюсавая.

У паўзмроку пакоі выглядалі па-іншаму. Прасторней і таму... яшчэ пусцей. Апроч таго, паўсюль было неверагодна брудна: пры святле запальнічкі я бруду не бачыў.

З калідора, праз які я сюды трапіў, на другі паверх вяла лесвіца. Наверсе было тры пакоі і цесны закуток. Адзін пакой быў зачынены на ключ. У закутку на падлозе я знайшоў пыльны ручнік. Я парваў яго на паскі і закруціў на ногі. Шкарпэткі паклаў пад кашулю.

Чакаючы надыходу прыцемак, я ўладкаваўся ў гасцёўні за чытаннем вільготных штотыднёвікаў з іншага часу.

Я ведаў, што да дома можна было дабрацца неяк прасцей, не так, як я дабіраўся мінулай ноччу. Што яшчэ можна было скарыстаць бакавы чыгуначны шлях, ніжэй ад галоўных, якія вялі з горада. І я помніў, дзе праходзіў гэты вузенькі прыватны шлях, але ён быў абнесены высокай агароджай, калючым дротам і яшчэ чорт ведае чым. Імгненнае расчараванне змянілася незвычайнай палёгкай. Тут я знайшоў сабе бязлюдную выспу, і гэта амаль на краі горада.

Я перачакаў у садзе, пакуль пройдзе цягнік, і пакрочыў па небяспечнай частцы дарогі праз скалу. Наперадзе заблішчэлі агні чыгуначнай станцыі. Я разглядзеў у прыцемках цёмныя абрысы людзей на пероне. Прыгнятальная карціна. Нібы яны стаяць і чакаюць маіх тлумачэнняў, а не цягніка. Справаздачы пра тое, чаму я менавіта такі, а не іншы. За ўсе перамены, якія са мною адбыліся. Мне б толькі яшчэ крыху часу, думаў я. Зусім крыху. І я зноў зрабіўся б такім, якім быў да таго, як усё здарылася. Я ішоў паміж складскімі памяшканнямі і далей па трасе, якая вяла да дома. Да запраўкі ля скрыжавання ісці далёка, але часу ў мяне было процьма. Пешаходная сцяжынка на ўсім працягу трасы асветленая добра: машыны, якія грукаталі паўз мяне ў чатыры рады, мяне ніякім чынам не тычыліся. Рэшту дарогі я ішоў лесам.

Я быў цалкам не падрыхтаваны да тых пачуццяў, што навярнуліся на мяне, калі я выйшаў з-за дрэваў і пабачыў вялізную паркоўку і запраўку. Нібы мяне тут не было некалькі дзесяцігоддзяў, а не некалькі гадзінаў. Зноў прыйшоў на ўспамін сон, які я бачыў мінулай ноччу, і вярнулася адчуванне, што я мёртвы, што я даўно памёр.

Я адганяў сон. Ён вяртаўся. Я яго зноў адганяў. Паўсюль былі людзі, і я сашчапіў кулак і падняў яго перад сабою.

Палягчэла, калі я зноў рушыў. 7651, думаў я. 7651. Вакенца банкамата выпіналася са сцяны, крыху правей ад уваходных дзвярэй. Мяне не трэсла. Я цвёрда стаяў на нагах. Націснуў код і атрымаў тры тысячы. Усё прайшло, як па масле, і я вырашыў за пакупкі таксама расплаціцца карткай.

Я ўвайшоў. Узяў усё, што мне трэба было. Рукі ў мяне не трэсліся.

Той ноччу я быў шчаслівы. Гэта былі мае першыя шчаслівыя гадзіны з тае пары, як памерла Марыт. Ад спальнага мяшка пахла чысцінёй і навізной, мне было цёпла. У пакоі цёмна, але калі трэба, то ліхтарык заўсёды пад рукою. Я яго не ўключаў. Мне хацелася ляжаць у цемры. Я вырашыў пачакаць са святлом, пакуль не пазатыкаю ўсе шчыліны ў вакне, што выходзіць на чыгуначныя пуці. Такі план-мінімум на заўтра, думаў я. Заўтра мне будзе чым заняцца. Трэба зрабіць так, каб святло не сачылася ў цемру. Пакуль іншыя ў канторы будуць перакладаць паперы з аднаго стоса ў другі, пакуль яны будуць абмяркоўваць, чаго мяне няма на працы, я тым часам буду заклейваць слаямі старых газет, старых навінаў, вакно ў гэтым пакоі, каб ніхто не здолеў разгледзець маё святло.

На двары з рэгулярнымі прамежкамі часу грукаталі па шпалах цягнікі. То на захад. То на ўсход. Раз-пораз чуўся цяжкі, мерны стук колаў, а я ляжаў сабе ў хаце, глыбока занурыўшыся ў сябе самога.

## II

Міналі дні. І ночы. Пакрысе я днямі прызвычаіўся спаць або драмаць, а па начах займацца справамі. На шпацыр выходзіў часта. Хадзіў уздоўж чыгуначных пуцей у горад. Пазбягаў ажыўленых вуліц, месцаў і рэстаранаў. Трымаўся глухіх закуткоў і ціхіх начных завулкаў ля порта. Спачатку я баяўся напаткаць каго-небудзь са знаёмых, але пакрысе мне зрабілася абыякава. Здаралася, я падыходзіў да нейкага кіёска і купляў паесці гарачага. Бутэрбродаў з розным начыннем мне і ў хаце хапала, усё неабходнае для іх я купляў на запраўцы ля скрыжавання. Ну так, мяне ахапіла абыякавасць, але я ўсё роўна валачыўся па ціхіх вулачках горада. Часам я спыняўся і думаў: ці я зрабіў нешта дрэннае? Не, нічога дрэннага я не зрабіў. Спатыкнуўся не я. Ці я ў вышуку? Не. Наўрад ці. Натуральна, нехта з працы мог патэлефанаваць у паліцыю і абвясціць мяне ў вышук. І што з таго? Наколькі мне вядома, яшчэ нікому не забаранялася пакідаць сваю ўласную кватэру незачыненай на ключ. Акрамя таго, у паліцыі, нават у такім невялікім горадзе, былі справы важней, чым шукаць чалавека, які заяўляў пра сваё існаванне праз рэгулярнае выкарыстанне банкаўскай карткі. Я часта ёю карыстаўся. Пакрысе ў маіх кішэнях назбіралася вялікая кіпа грошай. Знешне я, вядома, выглядаў, як валацуга. Адрослая барада і непрывабнае паліто. Затое я быў пры цвярозым розуме і цяміў стоадсоткава. Раней я баяўся насіць грошы ў партманэ. А цяпер я папросту туляўся з тоўстым пачкам купюр у руцэ, а рука ў кішэні. Банкаўскую

картку я трымаў у павязцы, якая туга перацінала левае сцягно. Амаль ля самай пахвіны. Аднойчы, была палова чацвёртай раніцы, мне ўзбрыло ў галаву пайсці да квартала, дзе я жыў. Я хадзіў кругамі, думаў пра нешта, пакуль не апынуўся непадалёк ад свайго дома. Аднак не, не пайду. Павярнуў назад да старой сядзібы ля чыгункі. Назад да сваіх новых пакояў. Я цалкам разумеў, што такога не можа быць, ды я і *не хацеў*, каб такое магло быць. Але з іншага боку гледзячы, яшчэ адзін дзень у гэтай безадказнасці падаваўся збавеннем. Я мог вярнуцца да людзей, калі заўгодна. На новым месцы пачаць новае жыццё. Нічога складанага тут не было. Я мог бы прыйсці ў нейкую дзяржкантору і сказаць, як ёсць. Сказаць, што на некаторы час выпаў з каляіны. Што не вытрымаў, калі нехта ўварваўся ў мой прыстанак. Ці знайшоўся б нехта, скажам, у службе сацыяльнай дапамогі, хто б не зразумеў? Ці не атрымаў бы я дапамогі, тым больш, што прасіў бы зусім драбязу – усяго нейкую там дзясятку? Хутчэй за ўсё, усё прайшло б на ўра. Завальваецца заможны дармаед і просіць грошай на новае жыццё. Грошай на продаж уласнай маёмасці ў сто дзесяць квадратных метраў. А яна ж яшчэ ў дадатак апячатаная. Паліцыяй або іншымі якімі ўладамі. Яна стаіць і чакае, пакуль я прыму рашэнне. Але, разумееце, мне хацелася б пачакаць з прыняццем гэтага самага рашэння.

Але вось праз пару тыдняў са мной здарылася тое, што я праз некаторы час буду лічыць сваім Паваротным момантам. Я вярнуўся да сядзібы ля чыгункі недзе гадзіне а другой. Як зараз памятаю, у радасным настроі, бо ў кантэйнеры для смецце ля новабудоўлі знайшоў дыхтоўны экзэмпляр "Каралеўскіх сагаў" Сноры Стурласана[1]. Па дарозе назад я ішоў і думаў, як гэтая кніга магла трапіць на гару патрушчанай цэглы і смецця. Мне даўно абрыдла чытаць падшыўкі старых штотыднёвікаў. Сагі Сноры – гэта скарб, і гэты скарб трапіўся мне. Мне хацелася прачытаць іх ад вокладкі да вокладкі пры святле ліхтарыка.

Але калі я падняўся па прыступках са склепа ў вітальню, я заўважыў перад сабою нешта светлае. Чаго тут раней не было.

Гэта быў пусты пачак цыгарэт "Прынс".

Адразу ўсё закруцілася, як у віры. Адразу ўсё застыла на месцы.

Я стаяў, прыслухоўваўся. У мяне было адчуванне, што я адзін у хаце, а адчуванне мяне не падводзіць. За тыя дні і ночы, што я правёў тут ля чыгункі, я зрабіўся пільным. Усё ж прабіраючыся да кухні і далей у пакоі, я ступаў ціхенька, на дыбачках. А перад тым, як увайсці ў свой пакой, я некаторы час прастаяў ля дзвярэй.

Там нікога не было.

Я праляжаў рэшту ночы на спальным мяшку, так і не распрануўшыся. Было холадна, але цярпіма. Ліхтарык не запальваў, а кнігу паклаў побач з сабой на канапе. Яна была прыемная навобмацак. Час ад часу ў цемрыве я то падымаў яе, то зноў апускаў.

Цягнікі пайшлі ля пятай раніцы. Я ляжаў і чамусьці думаў пра свайго далёкага родзіча. Таго, што сядзеў на дне, непадалёк ад усходняй прыстані. Я ляжаў упоцемках і пазіраў на свет ягонымі вачыма. Побач па цячэнні праплыла рыбіна, тая самая рыбіна, якую я бачыў, седзячы ў той лядашчы вечар на скрыні з пяском, якім прыцярушваюць лёд. Я бачыў яе ў глыбіні вады, у зеленаватым святле ад ліхтара на прыстані. Вось яна віхляста

[1] Сноры Стурласан (1179-1241) – ісландскі скальд, гістарыёграф.

плыве ў мяне перад вачыма – вялізны тлусты губань з напаўразяўленым ротам і пярэстымі плаўнікамі. Рыбы прыгожыя, любіла казаць Марыт. Не варта іх есці.

Здаецца, што не спіш. Здаецца, што не спіш некалькі гадзінаў запар, а сам тым часам адключаешся. Чалавечы розум поўны ілюзіяў. У сне мне здавалася, што недзе нада мною аб прыстань трэцца корпус карабля, але калі мяне выкінула, нарэшце, на паверхню мяне самога, я адразу ж зразумеў, што гэта грукае нешта ў сцены дома. Не, не сапсаваны вадасцёк. Яго я даўно ададраў. Гукі даносіліся з вуліцы; нешта церлася аб панэль дома якраз насупраць майго задраенага вакна. Якраз з таго боку, дзе я прызвычаіўся спускацца ў склеп.

Я зусім не хваляваўся. Уяўляў, як тут ляжу. З непрычыненымі дзвярамі, а мне і так добра, яны ж не зачыняюцца. Тое або тыя, хто пасылае гэтыя нябачныя хвалі ў мае вушныя ракавіны, у мой мозг, мне не падуладныя. Ёсць людзі, з якімі ў гэтым свеце нам наканавана сустрэцца. З аднымі сустракаешся твар у твар, іншыя мінаюць у прыцемках, пакідаючы пасля сябе хіба водгулле. А ёсць такія, якіх і не чутно, і не бачна. Яны крадуць тое, што табе належыць, а потым абавязкова яшчэ і насе...уць табе на кухні.

Цяпер мне не было чаго губляць, акрамя самога жыцця. Я, праўда, не ведаў, ці яно зрабілася больш вартым, але нешта ўсё роўна змянілася. У далечыні ад рэчаў я адчуваў сябе надзейней. Або, хутчэй, абыякавей. Тое, што сэрца затахкала так неўтаймоўна, калі я зглездзеў сёння пусты пачак ад цыгарэтаў, было рэфлексам з мінулага. Я ў гэтым цалкам упэўнены.

Так я ляжаў, прыслухоўваўся і чакаў, акрамя гэтага мне няма было чаго рабіць. Раз-пораз я пазіраў на зялёныя стрэлкі, якія працягвалі мераць час на маім прыдалонні.

Мінула чвэрць гадзіны.

Я раптам пачуў крокі ў пакоі нада мною.

Крокі ў пакоі, зачыненым на ключ.

Я не паверыў. Такога не магло быць.

Нехта прабраўся ў хату, падняўся па прыступках наверх у зачынены пакой, а я не пачуў ані гуку.

Страшна мне не было. У хаце знаходзіўся нехта яшчэ. Вось і ўсё. Не, а вось і не ўсё: крокі ў пакоі нада мною былі лёгкія, амаль бясшумныя. Адно шамаценне трухлявага пакрыцця на падлозе выдавала, што там нехта ходзіць. Я разумеў, што ніякага мордаварота там не было. Баяцца няма чаго. Я раз за разам паўтараў, што баяцца няма чаго. Аднак мне, пэўна, усё роўна было страшна. Бо калі гэта быў не мордаварот, то... Мне пяцьдзясят тры гады, і я належу да другога часу. Цяпер я гэта разумею. Я вырас у гэтым горадзе і заўсёды, заўсёды, калі да нас у дзверы грукалі, то грукалі мужчыны. Панурыя мужчыны, якія смярдзелі спіртам і памыямі і якія чакалі на двары, пакуль маці зробіць ім якіх бутэрбродаў і нальне ў пляшку з-пад малака халоднай кавы. Уламваліся і кралі заўсёды мужчыны, выганялі з хаты заўсёды мужчынаў. Але жанчын – ніколі. Дзяцей? Такое нельга было нават і ўявіць сабе. Толькі мужчынаў, я яшчэ падумаў: такіх вось самых мужчынаў, як я сам. Мужчынаў, якія ўткнуліся ў сцяну, або ў тое, што ім здаецца сцяной.

Я ўстаў. Я падышоў да вакна і зірнуў на двор праз адтуліну паміж двума дошкамі. Развіднела. Я не вымавіў ані гуку, я ў гэтым упэўнены, але наверсе раптам пацішэла. У гэта цяжка было паверыць. Нібы нехта злавіў перамены ў частаце біцця майго сэрца. Нібы нехта стаяў наверсе

і прыслухоўваўся да свайго ўнутранага радыё, намагаючыся злавіць праграму, за якую я быў адказны. Там наверсе стаяў чалавек і ведаў, што я існую, што я тут, у хаце.

Зноў пачуліся крокі. Бразнула жалеза. Замок. Вяртаючыся да старой канапы, я адчуў, як смярдзела ад швэдра. Калі я апошні раз мыўся гарачай вадой? Я не помніў. Я глядзеў на сваё бруднае адзенне, і мне кісла засмярдзела самім сабой.

Раптам пачалася адліга. Так бывае, калі жывеш недалёка ад мора. Чырвоны слупок тэрмометра мітусіцца то ўверх, то ўніз. Часу ўсяго за шостую, імжэла, збіралася на дзень, які зжарэ снег, а далёка з ф'ёрда будзе чуваць сігнальны горн. Сляды я разглядзеў адразу. Невялікія, але дакладна не дзіцячыя. Калі я ішоў садам і выбіраўся да чыгуначных пуцей, я ведаў, што ў хаце, на другім паверсе, стаіць жанчына і назірае за мной. Я не павярнуўся, бо кожны дзень мае свае законы, якія не трэба парушаць. Яна стаяла там і паглядала на мяне, і менавіта я нешта быў ёй вінаваты, а не наадварот. Акрамя таго, я быў у даўгу перад сваім уласным пачуццём годнасці, гэта я да болю добра ўсвядомліваў. Літаральна кажучы, з таго часу, як банкаўскай карткай, шчыльна прывязанай да сцягна, я парэзаў сабе нагу. Я ўявіў картку, пакрытую скарынкай засохлай крыві. Мне балела кожны раз, калі я рабіў крок, а ў дадатак яшчэ гэты смурод, ад якога я не мог пазбавіцца, толькі цяпер я пачаў яго заўважаць.

Я вымушаны быў наведаць каго-небудзь, хто не задаваў бы мне пытанняў, на якія я не ў стане быў адказаць.

Хаця стары маёр адно пытанне ўсё-такі мне задаў. Затое гэта пытанне было вартае золата, і з адказам не прагадаеш. Я адказаў, што мне трэба схадзіць у душ і памыць бялізну. Колькі разоў за гэтыя гады я праходзіў паўз будынкі Арміі выратавання на Рэпербангата[1]? Тысячу? Дзесяць тысячаў? Знешне стары абшарпаны каменны будынак, але за панурым фасадам усё прыбрана і прыгожа. У холе пахла мыйным сродкам, а са сталовай па ўсім калідоры разыходзіліся рэзкія пахі ежы і цыгарэтнага дыму. У душавой я застаўся сам-насам з гэтым старым чалавекам.

– Здымай усё, што на табе ёсць, – сказаў ён. – Можаш прыйсці за сваім адзеннем пасля абеду, калі высахне. А пакуль паходзіш у іншым.

– Не, сказаў я. – Я...

А што, уласна, я хацеў сказаць? Часу не хапіла знайсці адгаворку. Думкі займала тое, што я смярджу і больш не ў сілах трываць свой уласны смурод. Я думаў таксама пра свайго новага суседа, або, дакладней, таго, да каго я прысуседзіўся. І ўсё.

Ён пасміхнуўся:

– Мне дужа шкада, але тут нельга хадзіць голым, пакуль мыецца і сушыцца адзенне. Бараду пакінеш ці мне схадзіць за прыладамі для галення?

– Дзякуй, – сказаў я. – Я пагалюся.

– Адзенне кідай проста на падлогу. Калі ёсць што каштоўнае, можаш пакуль пакінуць у мяне.

Не. Нічога каштоўнага ў мяне не было.

[1] Рэпербангата – назва вуліцы.

Я зайшоў у кабінку і зачыніў за сабою дзверы. Сцягнуў з сябе адзенне і кінуў на падлогу. Ключы ад кватэры і скрутак з тысячнымі купюрамі паклаў на вузенькую палічку для шампуня і мыла.

Я ададраў бінт са сцягна. Вострым краем пластыкавай карткі нагу парэзала глыбока; і на якую халеру трэба было яе так туга прыбінтоўваць да сцягна. Я асцярожна адмыў картку ад крыві і таксама паклаў на палічку.

Я мыўся амаль паўгадзіны.

Калі я выйшаў у душавую, поўную пары, адзення майго на падлозе не было. На лаўцы ляжаў новы камплект. Не ведаю, чаго я чакаў. Ну проста не ведаю. Я бачыў сябе ў такім самым адзенні, якое насілі некалі старыя бамжы. Кароткія або закатаныя нагавіцы. Кашуля, як у лесаруба. Нейкая старая куртка. Адзенне, якое на ўвесь свет крычыць пра крушэнне і рэзкі заняпад.

Маёр прынёс бялізну і шкарпэткі, блакітную кашулю і цёмныя нагавіцы. Навёханькі бардовы швэдар. Нагавіцы сядзелі, як па мне шытыя. Каля рукамыйніка ляжалі прылады для галення, у тым ліку нажніцы на грубую работу.

Пазней, калі я націраў шчокі і падбароддзе адэкалонам, у мяне з'явілася амаль неадольная цяга абчыкрыжыць мокрыя патлы. Мне хацелася быць не такім, якім я быў да і пасля гэтага фатальнага ўзлому. І тут, нарэшце, хлынулі слёзы, якія сядзелі ў мяне ў горле некалькі тыдняў.

Я выйшаў на вуліцу абстрыжаны амаль пад нуль. Галаве было холадна. З вадасцёка крапала, а па вуліцах, у гразі і слаце павольна поўзалі машыны. Маё паліто адправілі ў хімчыстку, а замест яго выдалі мне шэрую куртку на падшыўцы. Боты былі амаль сухія.

Я паснедаў у Сялянскім доме[1]. Я даўно не чуў, каб нехта хадзіў сюды есці. Апетыт у мяне быў неўтаймаваны. Бекон і тры смажаныя яйкі, чатыры лусты хлеба і цэлы кафейнік кавы. Нейкі час я сядзеў і чакаў, але не: жаданне запаліць цыгарэту так і не з'явілася.

Думаў: я павінен ёй растлумачыць. Я павінен ёй гэта растлумачыць, пакуль у мяне ёсць жаданне, я не хачу з'явіцца сярод ночы, нібы прывід.

Ужо набліжаючыся да саду, я зразумеў, што спазніўся. На нізенькай агароджы, якраз каля лядачай зашклёнай веранды, вісеў бела-сіні паласаты матрац. Ён быў уздоўж і ўпоперак патыканы нажом, з яго, нібыта вантробы, тырчэла белае начынне. Акно на другім паверсе было расчыненае насцеж. Зноў мне ўспомніўся мой растрыбушаны прытулак. Самае страшнае – падраныя матрацы на тым месцы, дзе шмат гадоў была нашая спальня. Разуменне, што нехта ўварваўся туды, пашматаваў і той матрац, якім мы карысталіся, і той, якім не карысталіся, на ім мая жонка пры жыцці адпачывала. Гэта было найгоршае. Гэтага я не вытрымаў.

Пакой на другім паверсе пуставаў. У кутку, далей ад вакна я пабачыў на насціле пылу абалонку матраца, які некалі там некалі ляжаў. І паўсюль на старым лінолеуме валяліся недапалкі, падобныя да белых і жоўтых чарвякоў. Голыя сцены былі цалкам размаляваныя з балончыка ўсіх магчымых

---

[1] Сялянскі дом – некалі гатэль і сталоўка для сялянскай моладзі, якая прыязджала ў горад; у меню традыцыйна значыліся простыя сялянскія стравы, адметнай рысаю было тое, што там не падавалі алкагольных напояў.

колераў. "Exit"[1]. Адно гэтае слова. Exit памножаны на тысячу. Або пяць тысячаў? Адно па некалькіх маленькіх плямах і вузенькіх пасачках можна было здагадацца, што шпалеры некалі былі белыя з блакітным раслінным арнаментам. Я падышоў да вакна і зачыніў яго. Уявіў, як яна тут стаяла і паглядала мне ўслед, калі той раніцай я сыходзіў. Глядзела, як аддалялася спіна няпрошанага госця і заракалася спыніць адносіны. Я намагаўся выкінуць яе з галавы, гэтаксама, як намагалася яна выкінуць з галавы мяне, і ў гэтым быў вялікі смутак. Я не здольны сказаць гэта па-іншаму. Абставіны былі да нас неміласэрныя. Тады я не мог даць рады сваёй бездапаможнасці, ужо не кажучы, якой бездапаможнай была яна. Мы размінуліся адно з адным, мы, пэўна, ніколі больш не сустрэнемся. Як яна апынулася ў гэтым пакоі, на матрацы, які цяпер вісеў у садзе, у мяне не хопіць фантазіі ўявіць. Цяжка было зразумець нават тое, як я сам апынуўся ў гэтым доме.

Калі я праз некаторы час спусціўся ў свой пакой, я заўважыў, што знік спальны мяшок.

Ну знік, дык знік. Грошай у мяне было дастаткова. У нейкай ступені яна правільна зрабіла, што забрала спальны мяшок сабе. Справядліва.

Гадзіне а пятай я зноў пайшоў у горад. У мяне і ў думках не было падмануць давер маёра. Я хацеў вярнуць пазычанае адзенне і нацягнуць на сябе сваё ўласнае. Заплаціць за душ і хімчыстку. У гэтым небяспечным тунэлі праз скалу, дзе цягніком мяне папросту магло расціснуць, я пабачыў яе знак. Па абодва бакі ад пуці. "Exit". За пылам і граззю распыленае з балончыка слова ледзь праступала; даўно яна сюды заходзіла. Пазней я бачыў яе графіці паўсюль па дарозе да Арміі выратавання. На будынку чыгуначнай станцыі і на сцяне "Нарвэсэна". На драўляным штыкетніку і дарожнай агароджы. Высока на адной з труб плавільнага цэха; страшна было нават уявіць, як яна так высока залезла. Неверагодна. Я хадзіў гэтымі вуліцамі і завулкамі і да таго, як са мною здарылася гэтае няшчасце, і пасля, але ні разу не заўважаў гэтых знакаў-графіці. Цяпер яны былі паўсюль. Некаторыя – ледзь заўважныя, напалову сцертыя – красаваліся тут, мусіць, гадамі. Некаторыя зусім свежыя, я нават думаў, што фарба застанецца на пальцах, калі да іх дакранусца. Паўсюль яна была такою блізкаю, але разам з тым такою неверагодна далёкаю, як і тая, што памерла.

Калі я падышоў да памяшканняў Арміі выратавання на Рэпербангата, першым жаданнем было павярнуць назад. Уваходныя дзверы стаялі непрычыненыя і да мяне даносілася струнная музыка. Я ніколі не быў набожным. Не маё. Нават калі жонка памерла, падавалася ненатуральным размаўляць са святаром пра пахаванне. Цяпер я стаяў тут і саромеўся, бо мне хацелася зайсці, а зайсці не мог. Саромеўся да слёз.

Нарэшце, зайшоў. Па справе, як я сабе растлумачыў.

Вялікая зала была запоўненая напалову. Калі я ўвайшоў, спявалі "Ён песня мая і ўцеха мая". Я думаў, пабачу зборышча бамжоў, і яны тут сядзелі, але аўдыторыя складалася большасцю з маладзейшых і старэйшых людзей, якія належаць да майго сацыяльнага кругу. Дакладней, належалі. Сярэдні клас у невялікім нарвежскім горадзе. Мне раптам падумалася, што тут знойдуцца людзі, якія мяне ведаюць, бо ў горадзе ўсе адно аднаго ведалі. Але ніхто не чуў, як я зайшоў, ніхто не павярнуўся, і я ўладкаваўся на апошнім радзе, бліжэй да выхаду.

Я заўважыў, што маёра сярод прысутных не было. Я думаў, пасяджу

[1] "Выхад" (*анг.*).

крыху і пайду пагляджу, мо ён у кабінеце, але раптам я заўважыў, што ён стаіць побач са мной. Яго рука ляжала на маім плячы, але твар быў павернуты да сцэны, піяніна, і чатырох музыкаў з гітарамі. Я разгубіўся. Мне хацелася выскачыць адсюль і бегчы прэч, але не мог жа я скінуць руку з пляча – гэты спакойны цяжар, большае, чым звычайны сяброўскі жэст. Побач са мной стаяў чалавек, які жадаў мне толькі дабра. І самае абсурднае, так, самае ганебнае ў гэтай сітуацыі было тое, што ў мяне перад вачыма стаяў Банг і гэты новенькі з бухгалтарскага аддзела. У напаўасветленым кабінеце. Банг трымае руку на галаве новенькага. Яго прапаведніцкі голас. “А ты добры хлопчык. Добры хлопчык”.

Маёр нагнуўся да мяне, калі скончылі спяваць:

– Пайшлі! – загадаў ён.

Я падняўся і пайшоў услед за ім у кабінет.

Ён зачыніў за намі дзверы, падыйшоў да пісьмовага стала і прысеў на край. Мне ўспомнілася, як я некалі вымушаны быў ісці ў кабінет завуча. Ён таксама так сядзеў. Я тады нічога дрэннага не зрабіў, справа тычылася выбітай шыбы, але я ўзяў усю віну на сябе, таму што ведаў, хто гэта зрабіў і што робяць са стукачамі ў школьных дварах. Я і сам здзівіўся, калі да мяне дайшло, што я пераказваю гэтую гісторыю старому маёру. Я ніколі ў жыцці пра гэта яшчэ нікому нават не заікнуўся.

Ён слухаў, схіліўшы галаву набок.

Калі я скончыў, ён сказаў:

– Мы заўсёды пачынаем не з таго канца. І гэта ў нас самае невытлумачальнае. Ты еў што-небудзь?

Я адказаў, што еў, што ў мяне ўсё добра. Мне не хацелася працягваць “не пра той канец”.

Ён паказаў на вялікі мяшок для смецця ля дзвярэй:

– Тваё адзенне. Тое, што на табе, пакінь сабе, будзе ў што пераапрануцца. Тваё паліто прышлюць з хімчысткі не раней заўтрашняга дня.

Пасля ён назваў сябе і мяне аж страсянула. Натуральна, ён гэта заўважыў.

– Мы знаходзім людзей у Калькуце і Новым Арлеане. Насамрэч, менавіта гэтым мы і знакамітыя. Натуральна, акрамя нашага ўменне перабіраць струны на гітары.

– Мяне хто небудзь шукаў? – спытаў я. – Тут?

Ён пільна на мяне паглядзеў. Пасля пахітаў галавой.

– Прынамсі, мне пра гэта невядома. А зараз табе трэба дадому. Ідзі! Ідзі дадому. Мо мне цябе правесці? Мне цябе правесці?

Не, я не хачу дадому. Я не хачу, каб мяне нехта праводзіў. Я ад усяго адмаўляўся, а пасля распавёў, што сам выцясняю таго, хто сапраўды мае патрэбу ў прытулку. Нейкага падлетка, а мо нейкую маладую жанчыну. Гэта раптам легла на мае плячы невыносным цяжарам.

– Але ж ты яе не бачыў? – спытаў ён.

Я адмоўна кіўнуў:

– Яна мяне бачыла.

– Не думай больш пра яе. Ты нічога дрэннага ёй не зрабіў. Яна не баіцца такіх, як ты.

Такіх, як я?

Натуральна, ён быў з ёю знаёмы. Але мяне раздражняла тое, што ён думаў, што мяне ведае.

Я ўзяў смеццевы мяшок з памытым адзеннем і пайшоў.

Было зусім цёмна, калі я вярнуўся ў старую сядзібу. Напаўдарозе я ўспомніў, што забыў купіць новы спальны мяшок. Удвая крыўдна, бо я заходзіў на рынак і набыў сабе паесці і новы газавы балон. Цяпер у мяне нават старога паліто не было, каб накрыцца. Было не холадна, але імжэла; я прамок.

Няхай.

Я стаяў некаторы час у садзе, не наважваючыся зайсці. Акно на другім паверсе было зачыненае, але сапсаваны матрац так і ляжаў у кустоўі. Я яшчэ падумаў, мо акно зноў зачыніла ветрам.

У склепе я адразу пачуў пах цыгарэтнага дыму. А калі падняўся ў калідор, то заўважыў аранжавы вугольчык на самім версе лесвіцы на другі паверх. Я спыніўся, пачакаў, пакуль вочы прызвычаяцца да цемры і хутка разгледзеў абрысы жаночай постаці. Яна сядзела на лесвіцы.

Я нешта сказаў, ужо не помню што.

Яна не адказала. Цыгарэтны агеньчык перамясціўся з рота і направа ўніз, пасля зноў да рота. І ўсё.

Я пайшоў да сябе. Сабе адзначыў, як падумалася мімаволі: пайсці да сябе.

Крыху пазней наверсе пачуліся крокі, але пакрысе яны аддаліліся і, нарэшце, зусім сціхлі. З пакою нада мною не чулася ані гуку.

Пасля таго, як я ўключыў газавую плітку на часопісным століку і выцягнуў прадукты, неспакой, які раней мяне пераследаваў, зусім знік. Свечкі закончыліся, але блакітнаваты агеньчык пліткі асвятляў прыцемкі. Я адкрыў пачак з сачавічным супам і выліў яго ў рондаль. І пакуль суп грэўся, я нарэзаў хлеба і кілбасу ладнымі кружэльцамі. *"Яна не баіцца такіх, як ты!"* Не баіцца, ну і не трэба. Ён, напэўна, ведаў, што кажа, гэты стары начальнік войска Хрыстовага.

Я паеў. Пасля выключыў плітку і сядзеў у прыцемках.

У розных напрамках ішлі цягнікі. Я лёг галавою на стол і задрамаў.

Як толькі развіднела, я зноў пацягнуўся ў горад.

На Хавнэгатэн[1] я наткнуўся на Банга. І звярнуць было няма куды. Я заўважыў яго яшчэ здалёк. Банг, ён высачэнны, над усімі прахожымі ўзвышаецца. Ён ішоў прама на мяне, я толькі і паспеў падумаць, нясе сюды халеру. Не ўсё адно, калі раз і назаўжды з гэтым разабрацца? Раней ці пазней. Я быў упэўнены, што мае рэчы даўно прыбралі з майго стала, і не збіраўся яго або каго-іншага прасіць дазволіць мне ізноў развесці на ім гармідар. Я адчуваў нейкую палёгку: маёр мяне прыстойна-ткі прыапрануў, астатняе мяне не турбавала. Збольшага. Хіба што сэрца забілася крыху часцей.

Мы спыніліся і некаторы час моўчкі паглядалі адзін на аднаго. Наколькі я яго ведаў, для яго было натуральным адвесіць нейкі з'едлівы каментар, але цяпер ён папросту выглядаў фанабэрыстым. Працадзіў маё імя і дадаў:

– Ты не можаш так апусціцца!

Вось яно што, дык так называецца тое, што я зрабіў?

Ён узяў мяне за руку. Ён па-сяброўску ўзяў мяне за руку:

– Пайшлі са мною, зараз жа. Мы ва ўсім разбярэмся, што скажаш?

За яго спінаю, на будынку фірмы па пракату аўтамабіляў вісеў рэкламны шчыт. Вялізная рэклама жаночай бялізны. Пышная прыгажуня ляжкамі ўгару; там, дзе цела ўзнімалася найвышэй, красаваўся надпіс "Exit".

---

[1] Хавнэгатэн – назва вуліцы.

– Жыццё не заканчваецца, – працягваў ён. – Здарылася трагедыя, але жыццё на гэтым не заканчваецца. Халера, гаворка ж пра рэчы!

Не, думаў я. Гаворка тут не пра рэчы. Гаворка пра ўсё тое, што знаходзіцца ў цэню гэтых самых рэчаў.

Вытрымаць яго погляд было немагчыма, цяпер маю ўвагу прыцягвала вялізная кабета па-за яго спінаю. Дарожны знак паказваў аднабаковы рух, на ім таксама надпіс “Exit”.

– Мы цябе шукалі, – аварыў ён. – Усе з канторы выходзілі на вуліцы і шукалі цябе.

Я выслабаніў руку і хутка пайшоў прэч. Гэтая раптоўная прыязнасць была мне невыносная.

Пад вечар я выправіўся ў суседні горад. На цягніку. Уладкаваўся ля вакна і паглядаў на стары дом, згублены ў прыцемках. Ані душы; пару секунд – і праехалі. Я зайшоў у неблагі рэстаран, наеўся і напіўся ўволю. Апошні раз я піў даўно, таму захмялеў хутка і больш не заказваў. Пазней купіў дзве тоўстыя свечкі і новы спальны мяшок. Тутэйшыя гандлёвыя цэнтры заўсёды выстаўлялі калядны асартымент раней, чым нашыя, вітрыны крамаў былі ўжо аздобленыя да Калядаў. Я бадзяўся па вуліцах і ўспамінаў леташнія Каляды. Свята дома з самім сабой, свіныя рэбры і кілбасы. Сёлета... я думаў, пайду на плошчу, пакладу тысячу крон у калядны казанок Арміі выратавання, і з лёгкім сумленнем паем і вып’ю з імі. Гэтая думка прыйшлася мне даспадобы. Буду сядзець і спяваць дзіцячыя песенькі для дарослых, можа, нават з тым або тымі, хто мяне абакраў. Я сам сабе заўсміхаўся, пэўна, дало ў галаву віно.

Калі я вярнуўся, яна сядзела ў залі. Яна сядзела, не варушачыся, ля стала і паглядала на газавы агеньчык. Яна паснедала. Затушыла цыгарэту проста аб чырвонае дрэва, паміж маслам, хлебам і бляшанкамі з ежай. Я машынальна дастаў цыгарэту з яе пачка і прыкурыў ад пліткі. Мякка ўдарыла ў патыліцу, пабегла ніжэй па целу аж да самых пальцаў на нагах. Не вынімаючы з рота цыгарэты, я запаліў тоўстыя свечкі і выключыў газ. Яна сядзела, я пачаў хадзіць па пакоі. Туды-сюды са светлавога кола. Такім чынам я мог разглядзець яе спераду, ззаду і збоку. Няцяжка было зразумець, чаму яна не баіцца такіх, як я. Яна была мускулістая для сваіх сямнаццаці-васемнаццаці гадоў. Я яшчэ падумаў, што плыўчыха. Шыракаплечая. У яе ўвогуле ўсё было шырокае. Рот адпавядаў падбароддзю. Не прыгажуня, але, як кажуць, нешта ў ёй было. Яна выпраменьвала сілу і ўпартасць. Яна была не з тых, што здольныя прасіць. Валасы коратка падстрыжаныя, светлыя, з цёмнымі паскамі на скронях. Вочы не разгледзеў, думаю, што яна на мяне ўвогуле іх не падымала. На ёй быў светлы прасторны ваўняны швэдар і такія штаны колеру хакі, дзе паўсюль кішэні. Яна проста сядзела, паліла цыгарэту за цыгарэтай і тушыла акуркі ў стол.

Ад цыгарэты мне запякло ў кончыкі пальцаў. Я ўзяў пусты пачак ад сачавічнага супу і кінуў туды акурак. Пасля прыбраў прадукты і старанна выцер стол. Згроб рэшткі ежы і акуркі ў бляшанку.

– Я магу з’ехаць, сказаў я. – Калі хочаш.

Яна пацiснула плячамі.

– Але калі табе ўсё роўна, я пажыву тут яшчэ крыху. Мне няма куды ісці.

Гэта была няпраўда. Я мог ісці, куды хацеў.

– Я скажу, – адказала яна. – Калі табе з’язджаць.

Яна паднялася. Узяла цыгарэты, але завагалася. Кінула пачак мне на

стол. Я адкрыў яго. Тры цыгарэты. Скрутак з тысячнымі купюрамі разам з банкаўскаю карткай я з некаторых часоў захоўваў у боце, але ў кішэні штаноў ляжала дзвесце крон. Я паклаў грошы на стол. Яна выцягла некрануты пачак з адной са сваіх глыбокіх кішэняў і замест яго забрала сабе купюру.

Пасля яна знікла са светлавога кола.

Я не чуў, як яна падымалася наверх па лесвіцы. Адно – гук яе крокаў спярша ў мяне над галавою, а пасля ў глыбіні дома.

З тае ці іншае прычыны яна памяняла базу. Я яшчэ падумаў: нібы котка, якая шукае сабе новы зацішны куток. Мне раптам прыйшло на думку, што параўнанне я выбраў нятрапнае. Наўрад ці ў яе ўвогуле быў калі-небудзь зацішны куток.

*"Я скажу, калі табе з'язджаць".*

Яе не было некалькі дзён і начэй. Я забраў паліто з Арміі выратавання. Маёра не бачыў, паліто аддаў мне малады чалавек у цывільным, якога, мусіць, пра мяне загадзя папярэдзілі. Паліто было чыстае, як новае, я хацеў быў заплаціць. Мне не дазволілі.

Я пачаў хадзіць у кіно. Гадзінамі сядзець у бібліятэцы і чытаць газеты.

Мне было сумна. Я працаваў усё сваё жыццё, а пакрысе прыйшло адчуванне, што жыццё праходзіла паўз мяне, не пакідаючы ад сябе ані знаку. Усё ж я па-ранейшаму вяртаўся ў сядзібу, калі пачынала цягнуць на сон. Есці ў гэтым свінушніку мне больш не хацелася; ранкам і ўвечары я купляў паесці ў вулічных кіёсках. Ад цягарэтаў я хутка зноў адмовіўся: кідаць, дык кідаць. Усё часцей я думаў пра першую сустрэчу з маёрам, калі я папрасіўся схадзіць у душ і памыць бялізну. Як ён падразаў мае валасы, як я заракаўся пачаць новае жыццё. Так яно ў думках і засталося. Нічога асаблівага не адбылося, я папросту пагрэбаваў працягнутай рукай маёра і, апроч таго, паплыў прэч ад выратавальнага круга, які Банг, не зразумела чаму, мне кінуў. Дакладней кажучы, я не апусціўся, як ён выказаўся, але я дакладна напляваў на ўсё. Дні ішлі сваім няспешным ходам, гэтаксама, як і задоўга да таго, калі памерла жонка. Я разумеў гэта. Што маё жыццё *па сваёй сутнасці* ніяк не змянілася, калі толькі не глядзець на яго з боку, як, напрыклад, Банг ды іншыя.

Дзіўнае прызнанне. Нібы ты прыехаў у іншую краіну, а ў кішэні ў цябе грошы, якімі ты прывык карыстацца дома.

Бывала, што я яе шукаў. Асабліва калі бадзяўся па вуліцах уночы або позна ўвечары. Бывала, што я ляжаў на канапе і ўслухоўваўся, ці не пачуюцца яе крокі. Але нічога чуваць не было. Яна як скрозь зямлю праваліласяся. Я не песціў да яе аніякіх бацькоўскіх пачуццяў. У мяне не было аніякіх незадаволеных патрэбаў у клопаце пра некага, ужо не гаворачы пра... Не, не гэта. Але яна зрабілася Тою. Тою, якая ходзіць тымі самымі вуліцамі, што і я, тымі самымі дварамі, але ў іншай сістэме, нябачнай для большасці староннiх назіральнікаў, высока ўзняўшы свой сцяг, яна размалявала палову горада; яна пабывала там, дзе мала хто бываў. Зусім выпадкова нашыя шляхі перакрыжаваліся ў занядбаным доме, мы ледзь дакрануліся адно да аднаго ля стала, за якім некалі збіраліся на пышныя абеды сямейнікі, за якім вяліся не такія гутаркі, як наш ашчадны абмен куцымі фразамі. І аднак: той самы пакой, той самы камін, стол, праўда, цяпер сапсаваны недапалкамі і вадою, якая крапала з другога паверха праз дзіркі ў столі.

Пасля настала ноч. Я спаў цяжка і прачнуўся ад таго, што нехта спрабаваў мяне раскатурхаць.

Гэта была яна.

– Пайшлі са мной! Хутчэй! – прыспешвала яна.

Спрасоння я нічога не зразумеў. Яна паўтарыла. Каб я ішоў за ёй. Мне падалося, што яна была нейкаю іншаю. Нейкай устрывожанай, нібы нешта яе дужа напалохала. Я ўстаў, і яна, нічога не гаворачы, схапіла мой спальны мяшок; паліто яна ўжо накінула на плечы. Яе спалох перадаўся мне, і тут да мяне данесліся гукі матора і ляскат цэпу. Сюды нехта прыехаў. Пачулася, як адкрываецца вялікая жалезная брама.

Я пайшоў за ёю ў залу і далей па лесвіцы, на другі паверх. Было цёмна, як у коміне, але я арыентаваўся на яе светлы швэдар, які мільгаў наперадзе. Паўз пакой, дзе быў разасланы яе матрац, да бакоўкі, дзе пару тыдняў таму я падабраў анучы і абматаў імі ногі замест мокрых шкарпэтак.

Вузенькая лесвіца вяла на гарышча, і калі я караскаўся за ёю, я падумаў, што гэта адбываецца не са мной. Ты сталы чалавек; гэта, напэўна, паліцыя, я не зрабіў анічога благога, а ўцякаю. Чаго мне хавацца на гарышчы з маладой дзяўчынай? Са мной адбывалася нешта, а рады гэтаму я даць не мог.

На гарышчы было так цёмна, што паднясі руку да вачэй – усё роўна не ўбачыш. Прапаў нават светлы швэдар. Раптам я пачуў, як пстрыкнула запальнічка, і яе твар апынуўся побач з маім. У жаўтаватым святле я разглядзеў, што ў яе карыя вочы. І зубы не нашмат святлейшыя, а калі яна адкрыла рот і папрасіла мяне патрымаць запальнічку, смурод гнілля агарнуў мяне. Я зрабіў, як яна хацела, і ў кволым святле ўбачыў, як яна зацягвае наверх лесвіцу і зачыняе за намі дзверы.

– Туды! – яна махнула рукою.

Я думаў, што пабачу на падлозе спальны мяшок, які яна ўкрала, але на посцілцы ляжала толькі звычайная шэрая коўдра. Пэўна, спальны мяшок яна некаму загнала, ён быў амаль новы. Я скруціў свой набыты наўзамен спальны мяшок і ўсеўся на ім.

– Што адбываецца? – спытаў я.

– Нам не трэба размаўляць, – адказала яна.

Яна запаліла цыгарэту.

Матор заглух, яшчэ калі ў поцемках мы падымаліся на гарышча. Цяпер пачулася, як ляскаюць дзверы машыны і грукоча цэп.

Было ціха. Доўга. Пэўна, усяго некалькі хвілінаў, але ўсё роўна падалося доўга. Пасля галасы. Хоць і далёка-далёка пад намі, але ў хаце нехта быў; цяпер нехта швэндаўся па пакоях, якія я звык лічыць сваімі ўласнымі. Нехта прыехаў машынаю. У некага быў ключ ад замка, які боўтаўся на браме. Толькі цяпер я глянуў на гадзіннік на руцэ. Стрэлкі свяціліся і паказвалі без дваццаці пяці тры.

У тую ноч, без дваццаці пяці тры нехта паставіў Карэллі[1] на прынесеным з сабою прайгравальніку, за два паверхі ніжэй ад нас, і ў той самы час яна затушыла цыгарэту ў падлогу, закрыла рукамі вушы і пачала хістацца ўперад і назад, седзячы побач са мною ў цемры.

Да нас дасяглі пералівы скрыпак; прыгожа, музыку, напэўна, уключылі на ўсю моц, бо я чуў яе выразна. Так, прыгожа, але ў той жа час непрыемна: тут было не месца гэтым мяккім гукам, не ў гэты час, не сярод ночы, не ў гэтым напаўразваленым котлішчы. Гэтая музыка належала часу да заняпаду, калі ў сядзібе яшчэ жылі людзі, калі чыгуначны пуць яшчэ не разгалінавалі. Але раптам да падслуханай у Нябёсаў музыкі Карэллі далучыліся іншыя гукі

[1] Карэллі, Арканджэла (1653-1713) – знакаміты італьянскі кампазітар эпохі барока.

– плач, які нарастаў; безабаронны, роспачны плач, які паглынуў гармонію, які прымусіў гармонію да здзеку з таго, што ўявіць сабе мне бракавала фантазіі. Пасярод скрыпак і віяланчэлей плакала дзіця, а нехта смяяўся, іх было некалькі, тых, што заходзіліся смехам, хто даўно выйшаў з дзяцінства.

Я адцягнуў яе руку ад вушэй:

– Што гэта?

Яна рванула руку назад. Зноў закрыла вушы і пачала хітаць галавой.

Ва мне ўзняўся страх, нібы сцяна. Гэтаму не было ні канца, ні краю. Мне не хапіла розуму закрыць вушы, як яна.

Яшчэ горш зрабілася, калі ў хаце зноў усё сціхла.

Калі машына паехала адсюль прэч.

З яе і слова было не вырваць. Яна лягла на падлогу і падцягнула калені да падбароддзя. Заплюшчыла вочы. Закрылася ў сабе. Я падабраў яе запальнічку, якая валялася на падлозе, мне давялося паважданцца, каб адкрыць дзверы на гарышча і спусціць уніз лесвіцу.

Унізе, праз шчыліны ў дошках, прыбітых да вокнаў, шэрымі дзідамі ўразалася ранішняе святло. Усё было па-ранейшаму.

Не. Смярдзела нечым кіслым. Нехта ванітаваў каля каміна.

Мне страшна было падумаць, што тут адбывалася. Я не мог заставацца ў гэтым доме больш ні на хвіліну, мне трэба выбірацца адсюль, прэч, зараз жа.

У склепе паміж рознага хлам’я ляжаў камень, абточаны лёдам і пяском. Ён быў памерам з вялікую бульбіну і добра ляжаў у руцэ. Я чуў, як заводзіўся матор і машына ад’язджала, але ўсё ж.

Камень у руцэ, а рука ў кішэні паліто. Я выйшаў на світанні і пабег да чыгуначнага пуці, у галаве стаяў гэты жудасны смех, плач і музыка. Паўз мяне прастукаў коламі цягнік, я спыніўся і пачаў разглядаць твары людзе ў асветленых купэ. Я стаяў той зімовай раніцай на ўсеагульных агледзінах, як статуя.

*“Ідзі дадому. Мо мне цябе праводзіць?”*

На ўсім шляху я не выпускаў камень з рукі. Твары. Фасады. Exit. Ранішняя мітусня.

У вітальні на падлозе ляжала нейкая цыдулка. Усё, што было цэлага, я пакінуў. Маёр. Я ведаў, што мне больш ніколі не хацелася з ім сустракацца зноў, што ад гэтага моманту ён болей не існаваў для мяне. Яшчэ гэтае “ўсё, што было цэлага”, ды тут не было чаго пакідаць: я стаяў пасярод выдаленага файла, ground zero[1]. Я выкіну абсалютна ўсё, што толькі на мне было, звонку і знутры; думаў спаліць.

Я пераходзіў з аднаго пакоя ў другі. Бела. Нядаўна пафарбавана. Гола. Падлога памытая і наглянцаваная так, што паркет аж блішчыць.

Я парасчыняў усе вокны, сцюдзёнае паветра ўварвалася ў кватэру. Я сеў на падлозе, там, дзе раней стаяла канапа, праваліўся ва ўспаміны пра яе скураную ўтульнасць і даўспамінаўся да таго, што заснуў глыбокім сном.

Калі я прачнуўся, быў вечар. Сцямнела. Пайшоў снег. Дробненькі парашок ляцеў на падлогу ў зале і на кухні. Прыгожа. Я задубеў ад холаду.

Я хацеў зачыніць акно ў зале, выцягнуў з кішэні паліто звязку ключоў, ды так і застаўся стаяць: у адной руцэ ключы, а ў другой камень.

І раптам да мяне дайшло, што менавіта трэба было зрабіць, каб нерухома сядзець на дне ф’ёрда.

[1] Эпіцэнтр выбуху (*англ.*).



# Свет яго асобы

***Да 80-годдзя Рыгора Барадуліна***

***24 лютага Рыгору Барадуліну споўнілася б 80 гадоў. 2 сакавіка будзе першая гадавіна яго смерці. «Адышоў унікальны для Беларусі і не толькі для Беларусі паэт, апошні паэт незямной красы, – сказаў, адыходзячы следам за сябрам, іншы выбітны паэт – Генадзь Бураўкін. – Гэта вельмі рэдка здараецца, што прыходзяць паэты такой сілы. Але шчасце, што здарылася».***

***Шчасце, бо ён пакінуў нам цэлы сусвет – сусвет сваёй паэзіі, без якой даўно ўжо немагчыма ўявіць беларускую паэзію, дзе Барадулін у адным шэрагу з Багдановічам, Купалам і Коласам. Сусвет беларускай мовы, без якой не магло быць не толькі паэзіі Барадуліна – не магло быць яго самога. Нарэшце, сусвет сваёй асобы, яркай, самабытнай, у нечым складанай і супярэчлівай, але па-над усім гэтым – геніяльнай. Наша шчасце палягае яшчэ і ў тым, што ўсе мы былі, ёсць і цяпер ужо да скону застанемся сучаснікамі Рыгора Барадуліна, ці, як ён сам прасіў называць яго, дзядзькі Рыгора. Шчасце, бо мы былі не толькі ягонымі чытачамі і аматарамі яго чароўнага слова – многія з нас былі яго спадарожнікамі, сябрамі ці таварышамі. І было б несправядліва, калі б мы пакінулі свет яго асобы выключна ў сховішчах сваёй памяці, бо фігура Барадуліна, яго паэзія дадзены не толькі для другой паловы XX і пачатку XXI стагоддзя – яны дадзены беларусам навырост. І дзеля памяці Рыгора Барадуліна мы павінны, мы мусім пакінуць свет яго асобы тым, хто прыйдзе следам за намі.***

**Сяргей Шапран**

## Валянціна БАРАДУЛІНА

### Пяцьдзясят тры гады разам

Нас з Рыгорам пазнаёміў Мікалай Піпчанка, які вучыўся з ім на адным курсе, толькі на аддзяленні журналістыкі, і быў старастам універсітэцкага аркестра, у якім я іграла на домры (калі жыла ў Гродне, я вучылася ў музычнай школе і іграла на скрыпцы). Гэта было ў 1957 годзе, калі я паступіла на першы курс філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аднойчы Піпчанка прапанаваў Рыгору: «Хочаш, пазнаёмлю цябе з першакурсніцамі?» І вось яны прыйшлі ў наш інтэрнатаўскі пакой знаёміцца. Рыгор адразу не спадабаўся мне: худы, валасы дыбам, нос здаровы. А яшчэ голас – я доўгі час цярпець яго не магла, бо ў Грышы голас быў як, у каменданта нашага інтэрната. Пакуль прывыкла... Да таго ж ён не любіў саколак з кароткімі рукавамі (толькі ў старасці стаў трохі насіць, а так звычайна рукавы закасваў), і стаяў на парозе ды нерваваўся. У Піпчанкі ж былі хворыя ногі, ён таксама не мог спакойна стаяць, і так яны абодва з нагі на нагу пераміналіся. Яны не падабаліся мне абодва.

Мне ж перад тым паспелі распавесці, які Барадулін таленавіты паэт, але я была абыякавая да паэзіі і нават на філалагічны факультэт не збіралася – паступіла выпадкова. Начытаўшыся дэтэктыўнай літаратуры, я насамрэч прыехала паступаць на юрыдычны факультэт. Дакументы прымалі ў будынку біяфака, прымалі на ўсе факультэты. Тады да мяне і падышлі два дарослыя хлопцы: «Дзеўчанё, навошта вам гэты юрфак? Паступайце на філфак! У вас будуць адразу дзве спецыяльнасці: руская мова і літаратура і беларуская мова і літаратура...» Пасля я шукала іх, але дарэмна – мусіць, яны ўжо скончылі ўніверсітэт. Іх нібыта Бог паслаў, бо, вядома, інačай бы з Рыгорам я не сустрэлася. Мне было ўсё роўна, куды паступаць, і я падала дакументы на філфак. Гэта і вырашыла мой далейшы лёс.

Хоць дома ў нас гаварылі па-руску, але беларускую мову, якую мы вывучалі з другога класа, я таксама ведала, бо школьная настаўніца Раіса Антонаўна чамусьці любіла мяне больш за іншых, ёй падабаліся мае сачыненні, і яна часта выклікала мяне на ўроках, каб я чытала ўслых. Я сапраўды прыгожа чытала, бо ўсё-такі была з акцёрскай сям'і. Чытала да таго моманту, пакуль у мяне не пачынаўся хрып... Раіса Антонаўна была прыгожая белабрысенькая жанчынка, беларусачка-беларусачка... Мы не разумелі, калі яна казала «ўбіць кол»: «кол» мы яшчэ неяк «даравалі» ёй, а «ўбіць» проста забівала нас.

Увогуле, дзеці злыя па натуры, хуліганістыя, асабліва ў пятым-шостым класах. У гэтым узросце мы мазалі класную дошку алеем ці салам, каб на ёй нельга было пісаць. Ці палілі кінастужку і кідалі яе ў дымаход – пакоі ацяпляліся «галандкамі», і ў класе стаяў такі смурод, што нас выганялі. Урок быў сарваны. Ці зачынялі дзверы ў клас знутры, а самі вылазілі ў акно. Настаўніца ці настаўнік хоча патрапіць у сярэдзіну, а дзверы зачыненыя... У нашым класе было толькі пяць дзяўчынак – астатнія хлопцы. Вядома, яны і былі завадатарамі.

Аднак яшчэ пра першую сустрэчу. Абодва яны – Барадулін і Піпчанка – прыйшлі без кветак, без падарункаў, без анічога, проста прыйшлі знаёміцца, тыя былі яшчэ кавалеры! Пра што мы тады гаварылі, абсалютна не запомнілася, бо абодва былі мне нецікавыя. Мяне нават не зачапіла тое, што Рыгор быў паэтам. Так мы пазнаёміліся і, здавалася, усё на гэтым.

А пасля я захварэла, якраз напярэдадні нейкага ўніверсітэцкага вечара. Рыгор жа тым часам паспеў забыцца, як я выглядаю, і падчас вечара запрасіў на танец дзяўчыну з біяфака, якая была троху на мяне падобная, мо вялікімі вачыма. Але

яна была поўненькая, я ж была маленькая і худзенькая, важыла сорак шэсць кілаграмаў, Грышавы аднакурснікі называлі мяне «фарфоравая статуэтка». Рыгор пасля расказваў, што калі запрасіў тую дзяўчыну танцаваць, дык думаў, што гэта я, аднак у хуткім часе зразумеў, што нешта не тое, дакладней – не тая.

Потым Піпчанка яшчэ раз прывёў Рыгора – толькі пасля гэтага мы і пачалі сустракацца. Першы пакой, у якім я жыла ў інтэрнаце на вуліцы Бабруйскай, знаходзіўся каля акна, што было ў калідоры. Мы часта бавілі час там з Рыгорам – я на падваконні сяджу, ён побач стаіць. Ці гулялі тут жа ў скверыку. Пра што гаварылі, цяпер ужо не помню. І як Грыша прызнаваўся мне ў каханні, таксама не засталося ў памяці.

Прыгадваецца іншае. Аднойчы дзяўчаты з нашага інтэрнатаўскага пакоя пайшлі на пагрузачна-разгрузачную станцыю, прыйшлі задаволеныя, бо і работа лёгкая, і вінаграду наеліся, і не толькі грошай зарабілі – яшчэ і абедам іх накармілі. Наступным разам і я з імі пайшла, але нам не пашанцавала – трэба было разгружаць бульбу, прычым такімі цяжкімі віламі, што іх ад зямлі адарваць немагчыма было. Разгружалі з дзесяці раніцы да сямі вечара. Разгрузілі, мабыць, толькі траціну вагона, а пасля нас адхілілі ад працы, бо прыйшлі хлопцы – дарабляць нашу работу.

Калі вярнулася ў інтэрнат, рукі адрываліся, паднялася тэмпература. Дзяўчаты туга перабінтавалі мне рукі і паклалі ў ложак, накрыўшы ледзь не з галавой. Рыгор у той час пачаў ужо завітваць у наш пакой, прыйшоў і ў той вечар, яму сказалі, што я прастудзілася. А што было гаварыць, калі я ляжу, закручаная да самай шыі, каб ён не ўбачыў мае рукі. Але тут ён пачаў карміць мяне каўбасой і, каўтаючы тую каўбасу, я забылася і машынальна выцягнула руку. Рыгор адразу з пытаннем: «Чаму яна перавязаная?!» Дзяўчаты раскалоліся. Тады ўжо ён: «Не магла сказаць, каб пазычыў грошай?» Пасля, дарэчы, пару разоў я пазычала ў яго грошы, але якім чынам: адна дзяўчынка пазычала нібыта для сябе і перадавала мне. Я, канечне, аддавала, калі мама што прысылала, але мама не магла дужа мне дапамагаць, бо заробак у яе быў зусім маленькі.

Трэба сказаць, што Грыша ўмеў прыгожа заляцацца: і ручку падасць, і паліто дапаможа апрануць, і крэсла падсуне, і цераз канаўку перавядзе. Гэта, канечне, мела значэнне для такой барышні, якой я тады была. Але адкуль яму, вясковаму хлопцу, было ўсе гэтыя «палітэсы» ведаць? Сам ён не казаў, але я здагадвалася – ён жыў у інтэрнаце ў адным пакоі з палякамі, яны, відаць, і навучылі яго. Гэтым ён і падкупіў мяне... А ці чытаў мне вершы, таксама не помню. Запомнілася толькі, што, абыгрываючы маё прозвішча, падпісваў паштовачкі: «My only sun» – «Маё адзінае сонца»...

Ён быў не адзіны, хто заляцаўся за мяне. Быў яшчэ курсант артылерыйскага вучылішча, але Грыша хутка яго “адвадзіў”. Той курсант прыходзіў да нас у пакой, прыходзіў-прыходзіў, а пасля, мусіць, убачыў, што яму тут нічога не «выгарыць». Нават не помню яго імя... Быў яшчэ хлопчык з юрыдычнага факультэта. Мы ж усе разам вучыліся ў будынку на Чырвонаармейскай: філолагі, журналісты, юрысты. І вось адзін хлопец пачаў аказваць мне ўзмоцненыя знакі ўвагі. Але Грышавы сябры «ўстранілі» таварыша. Не ведаю, якім чынам, аднак не думаю, што яны яго білі. Мабыць, проста сказалі: адыдзі ў бок. Грышавы сябры – гэта хлопцы з журфака, з якімі ён найбольш тады сябраваў. Наогул кажучы, я ўжо нікога не помню з яго курса, яны ўсе даўно зрабіліся дзядзькамі і цёткамі. Дый я сама цяпер ужо адчуваю сябе на той узрост, які ў мяне ёсць, але доўгі час пачувалася значна маладзейшай. Я сталела дужа марудна: нашая дачка Ілона ўжо ў школу хадзіла, а мне па-ранейшаму хацелася ўсіх вакол называць дзядзямі і цёцямі. Але цяпер, калі прыйшло нездароўе, раптам адчула свой сапраўдны ўзрост...

І быў яшчэ школьны мой хлопчык Толя, царства яму нябеснае. Я паехала вучыцца ў Мінск, а ён усё хадзіў да маёй мамы, гуляў з ёй па парку. Такі ўжо быў залаты зяць, што суседкі па доме, смеючыся, пыталіся ў мамы: «Можа, ты ўжо ў нявесты да гэтага хлопчыка?» І хоць Толічак быў добры чалавек, але мне ён не падабаўся хоць бы таму, што быў бландзін, а я бландзінаў з маладых гадоў не люблю, чорную галаву адразу вылучу ў натоўпе. Да таго ж у мяне быў Рыгор, які быў лепшы за Толю... Аднойчы ён прыехаў да мяне на Новы год, і мы сустракалі яго ўтрох: Толя сядзеў з аднаго боку, Грыша з другога, адзін цукерку дасць, і другі, адзін яблык падасць, і другі... Калі Толя прыехаў іншым разам, яму сказалі, што я выйшла замуж (а насамрэч у іншы інтэрнат пераехала), дык ён вярнуўся ў Гродна і хуценька ажаніўся з дзяўчынай, якая толькі што скончыла школу і была падобная да мяне: з вялікімі вейкамі, гладка прычасаная. Праўда, жаніўся няўдала, пасля развёўся і жаніўся другі раз... У яго было слабое сэрца, і хоць быў доктарам, але памёр, не дажыўшы да сямідзесяці гадоў.

Жаніцца Рыгор хацеў ужо на першым курсе, але я чатыры гады супраціўлялася, бо мама прасіла: «Дачушка, ты толькі замуж не выходзь, іначай кінеш вучобу, як і я». Мама вымушана была пайсці з чацвёртага курса, бо якраз тады я нарадзілася. Таму пазней Рыгор і казаў: «Я гэтую кабылку чатыры гады пасвіў». Пасвіў-пасвіў дый дапасвіўся... За гэтыя чатыры гады ён прывучыў мяне да сябе, і я проста прывыкла да яго. У маладосці ён быў худы, насаты, валасы дыбам і постаць далёка не апалонская, а ў сталыя гады больш прыгожы стаў. Наша дачка казала, што ў Грышы ёсць такая складачка каля вачэй, якая сустракаецца толькі ў вельмі пародзістых азіятаў...

Не магу сказаць, што пакахала Грышу за ягоную паэзію – ён спадабаўся мне проста як чалавек. І ўсё жыццё я цаніла яго найперш як чалавека і толькі пасля – як паэта... Ён, канечне, быў не падобны на астатніх мужчынаў. Я ж была замкнёная і маўклівая, гэта жывучы з Грышам, разгаварылася. Ён жа, наадварот, быў вясёлым гаваруном, чым таксама падабаўся. Праўда, калі была маленькая, дык уяўляла сабе зусім іншага: вялікага ростам, з шавялюрай і... старога. У дзяцінстве за мной толькі хуліганы бегалі, а я любіла спакойных хлопчыкаў. І вось трэба ж было, каб мне патрапіўся такі шалёны...

23 лютага 1961 года мы гулялі вяселле. Зусім нядаўна даведалася, што 23 лютага – гэта дзень Святой Валянціны. Як рыдалі дзяўчаты, з якімі я жыла ў інтэрнаце!.. Вяселле спраўлялі на той кватэры, дзе мы тады жылі, гэта каля Опернага тэатра. Усяго на стале было поўна... Чамусьці запомнілася, што Грыша даў чырвоную дзясятку свайму аднакурсніку, каб ён купіў вады, а той падумаў: як гэта на ваду траціць дзясятку?! І купіў бутэлек пяць «сітро», а на астатнія грошы гарэлкі, хоць у нас скрынкамі стаяў кубінскі ром... Між іншым, пасля Грыша не мог сабе дараваць, што вымушаны быў абшчыпваць для вясельнага стала куранят. Чаму яны былі ў пер'ях, я забылася, але помню, што Грыша сядзеў з гаспадыняй кватэры на кухні і абшчыпваў тых куранят... Ён тады ўжо друкаваўся, і грошы ў яго былі – я нічога не патраціла на вяселле. Дый мне і не было з чаго траціць. Адзінае, што мама купіла мне дваццаць чатыры відэльцы і столькі ж лыжак і нажоў.

Дарэчы, чалавек, які сасватаў нас на тую кватэру, «адрэкамендаваў» Грышу гаспадыні: «Не засмучайся, гэты хлопец добра зарабляе». Тады самая дарагая кватэра ў Мінску каштавала 30 рублёў, з нас жа гаспадыня брала ажно 45, і Грыша плаціў. Гаспадыня мне адразу не спадабалася. Аднойчы яна хацела згвалціць Грышу, і ён крычаў на ўсю кватэру: «Валя, ідзі сюды!» А пасля зрабіў мне вывалачку: «Ніколі не пакідай мяне аднаго!»

Праз паўтары гады пасля таго, як пажаніліся, 18 ліпеня 1962 года, у нас з'явілася дачка Ілона. Я ляжала ў радзільным доме ў Гродне. Першы павітаць мяне прыйшоў Васіль Быкаў. Ён перадаў запіску, яна дасюль у мяне захоўваецца:

*«Валюша, поздравляю и радуюсь!*

*Только что звонил Гриша и поведал мне эту новость. У него всё в порядке. Передаёт тебе массу приветов. Что передать ему? Что нужно тебе?*

*Может быть, я смогу увидеть ваше сокровище? Сообщи. Я подожду».*

Помню, што паказвала малую яму ў акно... Увогуле, віншаванняў было шмат, былі і радыёвіншаванні, і тэлефанаграмы. А Грыша прыехаў толькі праз тры дні, бо «адзначаў» нараджэнне дачкі. Праўда, ён да апошняга спадзяваўся, што будзе сын. Нават калі яму ўжо сказалі пра дачку, усё адно пярэчыў: «Не можа быць! У мяне будзе сын!» Нават імя ўжо прыдумалі – Яраслаў.

Малая Ілона выліты Рыгор была. Зрэшты, яна і цяпер выліты Рыгор, толькі насы ў іх у розныя бакі, бо ў Ілоны качкай, а ў Грышы гарбаты. Ілона была дужа падобная на Рыгораву маму. Гэта ж Акуліна Андрэеўна прапанавала імя Ілона. Праўда, спачатку яна назвала яе Любай, але я запярэчыла: толькі цераз мой труп. Не падабаліся мне такія імёны: Любоў, Надзея, Вера, хоць маю стрыечную сястру і завуць Верай. У Вушачах жа ў нас быў сусед Латыш, у яго ўнучка на Украіне нарадзілася, назвалі яе Ілонай. Калі Акуліна Андрэеўна даведалася пра тое, прапанавала назваць гэтаксама і нашу дачку. Гэтае імя мне падабалася, а што да Рыгора – раз мама сказала, значыцца, так і будзе. Так і з'явілася наша Ілона. А магла ж быць Любоў Рыгораўна...

У выхаванні дачкі, а пасля і ўнучкі Дамінікі Грыша ніякага ўдзелу не браў, казаў: «Гэта пакуль яны маленькія, я не магу, а як за ручку можна будзе вадзіць, тады і будзем разам хадзіць». Прычым што пра адну, што пра другую, але практычна нікуды за ручку з імі не хадзіў. Запомнілася толькі, што быў на Камароўцы разам з Ілонай, калі ёй было гады два-тры, дый толькі таму, што я ў гэты час у бальніцы ляжала. А на Камароўцы тады прадавалі малдаўскае віно ў бочках, таму Грыша і хадзіў. Калі ж трэба было ісці ў дзіцячую паліклініку, дык са мной ішоў не Рыгор, а ягоны сябар Ваня Бурсаў. А Грыша ці на рукі баяўся ўзяць Ілону, ці што іншае – нават не ведаю. Але ж любіў, канечне, і Ілону любіў, і Дамініку...

Мая хатняя мянушка была Заяц, у Грышы – Воўк. У адным з вершаў ён так і пазначыў прысвячэнне – «З.». З гэтым прысвячэннем звязаны такі камічны эпізод: калі рыхтавалася да друку адна з яго кніг, яе рэдактар, мусіць, вырашыла, што за гэтым «З.» хаваюцца нейкія інтымныя рэчы і зняла прысвячэнне, каб не «кампраментаваць» Рыгора. Апроч Грышы і мяне ніхто больш не ведаў, хто такая гэтая «З.».

Хоць мову я, канечне, любіла – мову саму па сабе, але да паэзіі была абыякавая. Я не тое, што не люблю паэзію – яна мяне не кранае. Мяне кранае толькі музыка. Ад музыкі я магу разрыдацца нават пры людзях. Словы ніколі так не ўражвалі мяне... Пушкіна, Лермантава, Купалу і Коласа я, канечне, ведала, але толькі тое, што трэба было чытаць у школе. Я толькі аднойчы, у 8-м класе, зацікавілася паэзіяй, прычым той, што была па-за межамі школьнай праграмы, – Ігар Севяранін, Канстанцін Бальмонт, Сямён Надсан... Гэта была даніна юначаму свавольству: калі паэты не дазволеныя, значыцца, іх варта прачытаць. І калі паступала ва ўніверсітэт, не ведала ніводнага з маладых тагачасных паэтаў, у тым ліку і Рыгора.

Я закончыла школу з сярэбраным медалём. Самае смешнае, што адзіную «чацвёрку» атрымала па алгебры, якую найбольш любіла – нават больш за трыганаметрыю і геаметрыю. Той медаль недзе павінен быць і сёння – яго адразу, як пажаніліся, забраў Рыгор. «Ты згубіш», – патлумачыў. З-за гэтага медаля мне

для паступлення ва ўніверсітэт дастаткова было здаць экзамен па беларускай літаратуры і напісаць сачыненне. Дык на той выпадак, калі будуць пытацца пра маладую беларускую паэзію, мне назвалі імя Ніла Гілевіча, у якога тады выйшла першая кніга, а ў Рыгора кніг яшчэ не было. Яго «Маладзік над стэпам» з'явіўся ў 1959-м. Той экзэмпляр, што ён мне тады падараваў, я дасюль захоўваю.

Наогул, тое субяседванне – гэта асобная гісторыя. За сачыненне і экзамен па беларускай літаратуры я атрымала «пяцёркі». Але з сярэбраным медалём прымалі толькі пяць чалавек, нас жа было значна больш, і намесніку дэкана Рыгору Булацкаму падалося, нібыта «пяцёркі» мне паставілі несправядліва. Мо з-за майго прозвішча? І была прызначана вялікая камісія – мабыць, у першы і апошні раз такое было на філфаку. У яе склад ўваходзілі прарэктар і недзе трыццаць выкладчыкаў, прычым з усіх факультэтаў: геаграфічнага, матэматычнага – тых факультэтаў, якія ніякага дачынення да філалогіі не мелі. І ўсё з-за адной мяне. І пачалі задаваць ўсялякія пытанні: «Чаму паэма называецца "Рыбакова хата"? А калі нарадзіўся Максім Танк?..» У мяне ж, відаць, з-за нервовага напружання галава працавала як ніколі больш у жыцці – я выдавала адказы літаральна як кампутар. Затое калі выйшла з аўдыторыі, у мяне пачалася сухая істэрыка: я села на падлогу і рыдала, але слёз не было...

Так я паступіла на філфак. Намеснік дэкана Булацкі па-ранейшаму цярпець мяне не мог, затое любіў Грышу. У нас такі трохкутнік быў: Булацкі шанаваў Грышу і не любіў мяне; Рыгор любіў мяне; я не любіла Булацкага. Дарэчы, доўгі час Рыгор нават смехам нагадваў мне Булацкага, які вельмі быў мне не даспадобы проста фізічна: ён так усміхаўся, нібыта ўсмешку па зубах расцягваў, а вочы пры гэтым былі халодныя.

З ім звязаны такі эпізод. Нас, студэнтаў, адправілі на бульбу, а ў Мінск у той час прыязджаў вялікі амерыканскі піяніст Ван Кліберн, першы пераможца Міжнароднанага конкурса імя П. Чайкоўскага. Як я магла такое прапусціць?! Пакуль не выйшла замуж за Грышу, я хадзіла на ўсе філарманічныя канцэрты. Канцэртмайстар Аўэрбах нават ведаў мяне ў твар. Наогул кажучы, у маладосці я вельмі любіла тэатр і страшэнна – філармонію. А ў Грышы былі магчымасці купляць квіткі, дык я паглядзела ўсіх прыезджых знакамітасцяў, у тым ліку Ойстраха і ілюзіяністаў Кіо. І ў гэты раз не стала ні ў кога пытацца, а проста без дазволу паехала з бульбы на канцэрт, на два дні раней. Выклікае мяне Булацкі: «Чаму вы з бульбы з'ехалі?» – «Таму што ў мяне квіткі на канцэрт былі». – «Вы ставіце свае інтарэсы вышэй грамадскіх!..» Ён так крычаў на мяне, што я, не чакаючы, пакуль гэта скончыцца, выйшла і так грукнула дзвярыма, што выляцеў ключ з замка. Услед Булацкі крычаў, каб я вярнулася, але дарэмна. Ён пасля зноў выклікаў мяне ў дэканат, але я не пайшла. У выніку на наступны дзень з'явіўся загад па факультэце: «За грубасць і нетактоўныя паводзіны студэнтцы першага курса аб'яўляецца вымова». Загад павесілі на дошку ў калідоры, але нехта з Грышавых сяброў сарваў яго ў той жа дзень, з-за чаго я вельмі непакоілася, бо не выключала, што Булацкі падумае на мяне... Праўда, ён відавочна палагаднеў, калі даведаўся, што ў мяне закаханы Грыша.

Як прыняла мая мама Рыгора? Не прыгадаю цяпер іх першай сустрэчы. У мяне толькі застаўся фотаздымак, дзе мы ўсе разам у нашым пакоі ў гродзенскай камуналцы. Той пакойчык быў усяго дзевяць метраў і выглядаў, як пенал. Дык мы Грышу начаваць паклалі на падлогу паміж нашымі ложкамі...

Я ніколі не чула ад мамы нічога дрэннага пра Рыгора, але і нічога добрага таксама. Мусіць, яна думала – пажывем, а там відаць будзе. Скажаш што дрэннае – а раптам сямейнае жыццё не складзецца, і вінаватай будзеш. А скажаш добрае,

і жыццё не складзецца – таксама вінаватай будзеш. Тым больш што і Рыгор быў хлопец сціплы дый усё ж сімпатычны.

А што тычыцца Грышавай мамы, дык, па-мойму, я ёй спадабалася. Ва ўсялякім выпадку, яна адразу прыняла мяне. Памятаю, мы пайшлі разам у грамадскую лазню ў Вушачах, а мяне ўсе разглядаюць, і я не ведаю, якое месца тазікам прыкрыць! Акуліна Андрэеўна кажа: «Як на цябе пачнуць глядзець, ты задніцай да іх павярніся і не зважай!» І пасля ўжо расказвала, што ёй гаварылі пра мяне: «Добрая дзяўчынка, але ж дужа худзенькая, сама маленькая, ручкі тоненькія!» Грышу ж Акуліна Андрэеўна раіла: «Ты яе не чапай – яна цябе век не зачэпіць». Гэта была праўда. Я насамрэч не канфліктная, але ў Рыгора быў такі характар: яму трэба было зачапіць, каб я разнервавалася, тады толькі супакойваўся. У маладосці ён быў шкодлівы, гэта ўжо пасля сарака гадоў паспакайнеў, а бліжэй да старасці характар дужа змяніўся, значна лепшы стаў. Ён, напрыклад, перастаў бубніць, а то раней усё «бу-бу-бу-бу». Грышава мама казала, што і ягоны бацька быў такі бубніла – яны пасварацца, а ён усё дудзіць: «Ду-ду-ду-ду»...

Калі мы сварыліся з Грышам, я магла не размаўляць па некалькі дзён – у гэтым сэнсе я была зацятая. Я не помслівая, але, як кажуць, злапамятная. Я магу доўга не размаўляць, мне не патрэбны суразмоўца, а Грыша, наадварот, не мог маўчаць і адразу ішоў мірыцца. Наогул, калі мы сварыліся з ім пры маёй маме, яна заўсёды брала бок Рыгора. Калі сварыліся пры яго маме, яна таксама брала ягоны бок. Аднойчы я нават сказала ёй: «Калі б ваш сын каго-небудзь забіў, вы б сказалі, што той чалавек сам вінаваты». Яна засмяялася: «Праўда. Так і сказала б».

Рыгора выхоўвала адна Акуліна Андрэеўна. Ягоны бацька загінуў у партызанах падчас прарыву блакады. Акуліна Андрэеўна пасля хадзіла яго шукаць – ішла на трупны пах, але ўсё дарэмна. Можа, ён у балоце патануў. Падчас блакады суцэльны жах быў. Яна мне расказвала, што дзяцей і на купінах пакідалі, і душылі, каб яны не крычалі і не выдалі плачам немцам...

Рыгор быў не адзінае дзіцё ў сям'і. Акуліна Андрэеўна ў шаснаццаць гадоў выйшла замуж, і ў яе дзевяць гадоў не было дзяцей, а пасля Рыгора нарадзіўся яшчэ адзін хлопчык, але малым памёр, яшчэ перад вайной. Сам Грыша ніколі пра гэта не расказваў – я даведалася пра тое ад Акуліны Андрэеўны.

Грыша практычна нікога не ведаў са сваіх бабуль-дзядуль. Ён застаў толькі адну бабулю – маці Акуліны Андрэеўны. Дарэчы, яе дзявочае прозвішча – Гайко. А аднаго з дзядоў Рыгора звалі Галавіным. Праўда, Грыша называў яго Галвіньшам, але мне здаецца, што ён прыдумаў гэта.

Рыгор і Акуліна Андрэеўна былі дужа падобныя па характары. Грышава мама таксама любіла кампаніі і каб гасцей за стол усадзіць, і чарку трошачку ўзяць. Іх пяць жанчын звычайна збіралася, пяць удоў... У Акуліны Андрэеўны была сяброўка Арына – мама Грышавага аднакласніка. Яна, бывала, прыйдзе, каб пайсці ў кіно, а Акуліна Андрэеўна яшчэ не вырашыла ў што апрануцца – і тое прымярае, і гэтае. Таксама і Грыша: я ўжо апранулася і сяджу-чакаю, а ён усё збіраецца – то кашуля не тая, то гальштук...

Ён любіў прыгожа прыбірацца, і густ у яго быў, але ён мог купіць два аднолькавыя плашчы толькі таму, што яны былі з рознымі падкладкамі. Або чаравікі, у якіх была прыгожая падэшва. Я ж звычайна сціпла апраналася, бо па характары была не барахольшчыца. Праўда, любіла абутак і сумачкі – гэтага барахла ў мяне заўсёды было поўна. Грыша ж дужа любіў усялякія кепачкі-берэцікі. У Мішы Стральцова было тры ці чатыры бярэты, якія яму Рыгор падараваў. Ён дарыў, а пасля новы сабе купляў. Я яму нічога не купляла – ён усё сам сабе выбіраў. Памятаю, паехалі неяк у Маскву, ідзем па праспекце, раптам Грыша знікае – пяць хвілінаў яго не было, і вось ужо ідзе ў каракулевай кепачцы! Гэта ён, пакуль ішоў, убачыў у вітрыне.

Калі Акуліны Андрэеўны не стала, Грыша дужа перажываў... Памятаю, я неяк сядзела каля яе ложка, паіла яе вадой, а Грыша, затуманены, стаяў побач. І мне так шкада яе стала, што я не ўтрымалася і заплакала. Пасля Акуліна Андрэеўна сказала яму: «Відаць, Валька любіць мяне, бо заплакала». Я сапраўды добра да яе ставілася.

Яна памерла ўжо без нас. Пры нас яна страціла прытомнасць, а памерла ў бальніцы. Памерла ад раку.

У Рыгоравай сям'і ўсе былі праваслаўныя – і мама, і бабуля. І ў хаце ў Вушачах заўсёды была ікона. Праўда, я дасюль не ведаю, хто на ёй – мо нейкі святы, падпярэзаны шырокім поясам, а мо купец. Была яшчэ адна ікона, якую мы набылі ў Пскове, але яе скралі. Нас жа тройчы рабавалі ў Вушачах...

Калі Грыша нарадзіўся, праваслаўнага святара ў вёсцы не было, таму яго хрысціў ксёндз, які быў там праездам. Мусіць, вырашылі: хай хоць нехта дзіця пахрысціць. Хроснай была Філіцыя Антонаўна Міклашэўская, каталічка па веравызнанні. Так Рыгор стаў каталіком. А тое, што ён уніят, дык гэта ён сам пазней вырашыў. Пра гэта я даведалася толькі гадоў праз сорак сумеснага з ім жыцця. У нас дачка і ўнучка таксама хрышчоныя, але Ілона ў царкве, Дамініка ў касцёле – тады ўжо Рыгор, што называецца, вызначыўся з канфесіяй. Але думаю, што ўсё-ткі Бог адзіны для ўсіх – і для праваслаўных, і для каталікоў.

І Раство, і Вялікдзень у нашай сям'і было прынята адзначаць усё жыццё. На Вялікдзень я і яйкі фарбавала, і булкі пякла, і пасху тварожную рабіла, з цукатамі ды разынкамі. Праўда, калі Рыгор быў яшчэ малады, я не заўважала, каб ён калі-небудзь маліўся, а як ужо пастарэў, дык маліўся штовечар: я выходзіла з кабінета, дзе ён звычайна начаваў, і хвілін пяць-сем ён перад сном маліўся. І калі яшчэ мог, хадзіў у Чырвоны касцёл, але не адмыслова на імшу, а калі трэба было сустрэцца з ксяндзом Уладыславам Завальнюком...

Ці сапраўды Рыгор верыў? Зыходзячы з яго вершаў, думаю, што так... Праўда, мы з ім так і засталіся нявенчаныя. Апошнім часам ён не раз казаў, што хоча павянчацца. Мы нават дамовіліся, што калі ён памацнее, калі зможа стаяць на нагах, тады і паклічам ксяндза. Але Грыша не памацнеў, і мы не павянчаліся.

Усё-такі мы раслі ў атэізме. Мая мама таксама хрысціла мяне, калі мне было гады два. Хросную сваю не памятаю, але ведаю, што яна была беларускай, бо ў мяне захаваўся яе фотаздымак з надпісам з беларускімі канчаткамі: «На памяць хрэсніцы Валі ад хроснай мамы Ані».

Калі мама мая з'язджала на гастролі, пакідала мяне ў сям'і знаёмых, дзе бабуля вадзіла мяне ў царкву. Дасюль помню архірэя, якому трэба было ручку цалаваць, – рука ў яго была белая-белая і пульхная-пульхная, як булачка... Тое, што мама хрысціцца, я стала заўважаць, калі яна ўжо ў нас жыла. А я яшчэ насміхалася: «Ой, мама, ніколі не бачыла, каб ты малілася!» Цяпер, калі сама пастарэла, зразумела маю бедную маму... Колькі ж перажыло тое пакаленне!..

Мае бацькі працавалі ў мінскім Тэатры музычнай камедыі. Усе тады ездзілі на гастролі разам з дзецьмі, паехалі ў той раз на гастролі і мае бацькі. Паехалі ў Брэст. У той дзень павінны былі даваць аперэту «Вясёлая ўдава». Увечары была аперэта, а ў чатыры гадзіны раніцы пачалася вайна... Пасля я шмат чытала пра вайну, тады ж даведалася, што «Вясёлая ўдава» была любімай аперэтай Гітлера... Хоць мне было толькі два гады, але той абстрэл помню: я ляжала ў ложачку пад чырвонай коўдрачкай, на якой было шмат нечага, што блішчэла пры месячным ззянні. Гэта былі асколкі выбітага акна.

Помню павешаных: мужчына з барадой, яшчэ адзін мужчына і хлопчык. Хлопчыку было, відаць, гадоў пятнаццаць-шаснаццаць. Мама пасля сказала, што на іх было напісана: «Павешаны за крадзёж». Вось гэта я помню, а немцаў – не.

Не помню і свайго бацьку. Яго забралі немцы праз месяц, 20 ліпеня. У той дзень немцы забралі ўсіх мужчынаў з дома, у якім мы жылі. Мама гаварыла, што бацька паспеў апрануць штаны і надзець сандалі, так у майцы яго і павялі. Больш мы яго ніколі не бачылі. Мама ўсяго тры гады замужам была.

У мяне яшчэ была меншая сястрычка. Яна памерла ў час вайны. Ёй было месяцаў восем. Дасюль помню: мама стаіць у чарзе па малочны перагон – гэта такая шэрая, збялелая вада, якая застаецца пасля таго, як малако перагоняць праз сепаратар, – а насупраць мяне сядзіць нехта малы. Гэта была мая сястрычка Зіна. Мне было два гады, я была гультаяватым дзіцём, не хацела хадзіць і сядзела ў мамы на руках. Так мы абедзве і сядзелі – я і Зіна. А пасля яна захварэла на крупознае запаленне лёгкіх і за адзін дзень памерла. Такая жахлівая хвароба... Я дык была звычайным дзіцем, а сястрычка была беленькая і кучаравая. Мама расказвала: «Іду, а немец падыдзе і за шчочку Зіну: "Пупэн". «Пупэн» – гэта значыцца «лялька»... Мама гаварыла, што не здолела б нас абедзвюх пракарміць. Добра яшчэ, што яна ўладкавалася ў сталовую на лесанарыхтоўчых працах. Афіцыянткай ці пасудамыйкай, не памятаю ўжо...

Замуж мама больш ніколі не выйшла. Яна ўсё жыццё спадзявалася, што яе муж жывы... Я ўжо вучылася ва ўніверсітэце, прыехала неяк дадому, а мама кажа, што іх супрацоўнік Тэатра музкамедыі адпачываў у Сочы і бачыў там майго бацьку, які ў рэстаране на скрыпцы іграў. Мама мая, дурненькая, даверлівая мама сабрала ўсе бацькавы фотаздымкі і даслала іх у аддзел культуры гарвыканкама Сочы. Вядома, што ёй нічога не адказалі і фотакарткі не вярнулі.

У мяне засталася толькі стрыечная сястра Вера. Ёсць яшчэ стрыечны брат, які жыве ў Гродне, але ніякіх адносінаў я з ім не падтрымліваю. І ніякай асаблівай прычыны тут няма, проста стрыечныя – яны ўсё-ткі не родныя.

Што да дзядуль-бабуль, дык маміны памёрлі, калі яна яшчэ дзяўчынкай была. Ёй было гадоў трынаццаць, калі засталася адна, і яе ўзяла да сябе жыць настаўніца з Навазыбкава – гэта расійскі райцэнтр, побач з Гомельшчынай. Настаўніца дагадавала маму да шаснаццаці гадоў. За гэты час мама паступіла ў музпедвучылішча і скончыла настаўніцкія курсы. Але якая можа быць настаўніца ў шаснаццаць гадоў?.. Мама спадабалася аднаму вучню, які вырашыў пажартаваць: уторкнуў ёй у вуха аловак і паклікаў, яна рэзка павярнулся, і аловак увайшоў у вуха... «Гэта такі жахлівы боль, што табе не перадаць!» – прыгадвала яна.

У бацькі таксама з родных практычна нікога не засталося. Была сястра Соня, якая жыла ў Маскве. Мы з мамай двойчы ездзілі да яе, але яна баялася: маўляў, бедныя сваякі прыехалі... Хоць спачатку, гледзячы на мяне, плакала: «Вылитый Миша! И повадки, как у Миши». Яна была з 1912 года, ён – з 1915-га. Бацька маладзей за маму на год быў... Адзінае, што дасюль не магу цёці Соні дараваць: у Арзамасе жыла бацькава маці, гэта побач з Масквой, і цёця Соня магла б мяне звазіць – не такія ўжо вялікія грошы былі патрэбныя, але – не. Так я ніколі другую сваю бабулю не бачыла. Хоць, калі ўжо вучылася ва ўніверсітэце, пасылала ёй цукарын, бо ў яе дыябет быў... Праўда, як бабуля ў Арзамасе апынулася, дасюль не ведаю, бо яна паходжаннем з Магілёва. Мо ў час вайны эвакуіравалася...

А як мы з мамай апынуліся ў Беластоку, я не ведаю. Памятаю толькі, што жылі ў нейкай цёткі Лёдзі, Леакадзіі Багуты, яна была паходжаннем з Заходняй Беларусі. Жылі ў яе на кухні: наш з мамай ложак знаходзіўся якраз супраць вялікай пліты, над якой былі нацягнутыя вяроўкі і віселі мае сарафанчыкі. Мама любіла шыць мне сарафанчыкі з банцікамі, з брыжамі, з фальбонамі... У цёткі Лёдзі быў сын Уладлен, гадоў трынаццаці-пятнаццаці, але, Божа, як яна яго збівала! Гэта была сапраўдная фашыстка... Калі я ўжо вучылася ва ўніверсітэце, аднойчы бачыла цётку Лёдзю. «Якая ты зрабілася прыгожая! Якая ў цябе шыйка,

якія плечыкі!» – такія дзіўныя кампліменты зрабіла яна мне тады. Але я яе не любіла, бо помніла маміны аповеды, дый сама ж бачыла...

Увогуле, у памяці не засталося адчування, што вайна – гэта страшна, бо я была дужа маленькая. Нават павешаныя не выклікалі ў мяне ніякіх эмоцый – з-за ўзросту я не разумела, што гэта павінна быць жахліва. Мне сёння страшна робіцца толькі ад сірэны, якую зрэдчас чамусьці чую ў Вушачах, – нібы паветраная трывога. Калі чулі яе ў час вайны, хаваліся ў бамбасховішча. Вось гэта мяне з дзяцінства палохае.

Як Гродна вызвалілі, мы вярнуліся. У той час хор Рыгора Шырмы, у якім працавала мама, мог выязджаць на гастролі ажно на тры месяцы. Мама пакідала мяне суседзям – сваякоў жа ў нас не было. Не дзіўна, што я пачала дрэнна вучыцца, і мама ўладкавалася на працу ў Дом народнай творчасці (там, дарэчы, пазнаёмілася з Ірынай Міхайлаўнай Суворавай – будучай другой жонкай Васіля Быкава, бо менавіта там і месцілася рэдакцыя газеты «Гродненская правда», дзе працавала Ірына Міхайлаўна, а пазней і Васіль Уладзіміравіч). А на наступны год хор Шырмы перавялі ў Мінск. Калі б мама па-ранейшаму працавала там, я значна раней стала б мінчанкай. Але і лёс мой склаўся б іначай.

Самае крыўднае, што мама думала: калі бацька не быў вайскоўцам, дык яна не мае права пенсію за яго атрымліваць. Яна была далікатная жанчына, нават сарамлівая, і таму нікуды не звярталася і на свае капейкі гадавала мяне. Гэта ўжо значна пазней высветлілася, што яна ўсё ж мела права на пенсію... Сорак гадоў у яе пашпарце стаяў штамп, які сведчыў пра тое, што яна замужам, – пашпарты мянялі і ставілі штамп пра шлюб, дый яшчэ з такім правакацыйным прозвішчам: бацьку звалі Міхаіл Уладзіміравіч Монасзон, мама ў дзявоцтве была Таццяна Харлампіеўна Сталярова.

Мама гаварыла, што выйшла за майго бацьку, таму што ён быў скрыпач, а яна дужа скрыпку любіла... Яна прыгожая жанчына была: з вялікім лобам і вялікімі вачыма... Пасля вайны ўсе насілі аднолькавыя прычоскі: дзве каўбаскі і локаны, як у фільмах 1940-х. І ў мамы была такая ж самая прычоска...

У Гродне ў нас быў свой пакойчык у камунальнай кватэры. Цяпер той дом знаходзіцца пад аховай дзяржавы, бо гэта помнік архітэктуры ці XVII, ці XVIII стагоддзя. Двухпавярховы дом з мезанінам. У мезаніне мы і жылі. Падлога ў нашым пакоі была пасечана сякерай – мусіць, той, хто жыў тут у час вайны, дровы сек проста на падлозе.

Сваім парадным уваходам дом уразаўся ў парк. Уваходныя дзверы былі заўсёды зачыненыя, бо ў парку месцілася танцпляцоўка і ўваход каштаваў пяцьдзясят капеек, таму ўсе лазілі цераз плот якраз каля нашага акна. Колькі дзяўчат там свае спадніцы падрала! З другога боку дома таксама быў парк, дзе можна было пакатацца на лодках на рацэ. Але я ніколі не хадзіла на танцы і не каталася на лодках, бо бачыла гэта штодзённа са свайго акна. Хоць танцаваць любіла, але толькі танга і факстрот. Грыша таксама любіў танцаваць, але польку і вальс – якраз тое, што мне было недаспадобы. У мяне кароткі крок, а вальс патрабуе шырокага: тарам-тарам-тарам-пам-пам... Вальс-бастон я яшчэ магла танцаваць, бо там невялічкія крокі, два маленькія, адзін большы: раз-два-тры, раз-два-тры... Таму на вечарах Грыша звычайна танцаваў з іншымі дзяўчатамі. Але я не раўнавала, бо калі не люблю, дык што раўнаваць? Не будзе ж ён стаяць цэлы вечар...

Расла я ў доме, дзе маімі равеснікамі былі адны хлопцы, і таму мы гадоў з дванаццаці пачалі «ў вайну» гуляць – «ваявалі» з суседняй вуліцай. І штаб у нас быў на гарышчы, а я была санітаркай, і лазілі цераз плот, у мяне нават шрамы

былі, адзін дасюль застаўся, з тых «ваенных» часоў. Мы тады фарсіравалі Гараднічанку, якую «ванючкай» называлі, і я напаролася на бляху – кроў хлышча, а ні ў мяне, ні ў хлопцаў насовак не было – адны рагаткі. Дык мне гумкай ад рагаткі руку перацiснулі, і ўсім гуртом паімчалі дамоў. Ужо дома, паколькі ёду не было, рану адэкалонам залілі. З таго часу і застаўся шрам.

Хоць, здаецца, вайну пражылі, усе ж дзеці ваенныя, а чаго «ў вайну» гулялі?.. Дасюль памятаю, як ляжала восенню «ў засадзе» ў канаве. Калі пасля прыйшла дамоў, мама паглядзела на мяне, на маё чорнае суконнае паліто, такімі вялікімі вачыма... Яна не лаялася – яна проста глядзела на мяне з жахам... Зрэшты, немагчыма ўявіць, каб сёння трынаццацігадовая дзяўчынка, гуляючы «ў вайну», ляжала «ў засадзе» ў канаве з лістотай. Але я расла разам з хлопчыкамі і гулялася ў іх гульні. І я хутчэй палезла б біцца, чым Рыгор...

Вось ужо, мабыць, сорак пяць гадоў прайшло, а дасюль помню, як ехалі мы аднойчы ў тралейбусе, і прычапіўся да Рыгора незнаёмы хлопец, а побач стаялі яшчэ двое, якія, мусіць, ведалі Грышу, дык яны таго хлопца скруцілі і пачалі выводзіць на вуліцу, а Рыгор ззаду падскочыў і ручкай таго хлопца дзёўбнуў! А іншым разам з-за Рыгора беднага Рамана Тармолу пабілі. Гэта было ў рэстаране «На ростанях». Мы ўжо сыходзілі, а Грыша – ён жа быў языкасты! – сказаў хлопцам «вахлакі» ці нешта падобнае, дык яны падняліся, каб разабрацца з Грышам, аднак за яго заступіўся Тармола, хоць сябрамі яны не былі, нават недалюблівалі адзін аднаго, аднак тут ці карпаратыўны гонар спрацаваў, ці што іншае. І пачалася бойка – я такое толькі ў кіно бачыла, каб абрус паляцеў са стала разам з талеркамі і відэльцамі! Праўда, разбіраліся ўжо без нас з Грышам...

Неяк нехта напісаў такое глупства, нібыта Рыгор са Стральцовым біліся. Я наогул не ўяўляю, каб Грыша з некім біўся. Хоць у Мішы сапраўды быў цяжкі характар. Гэта ён на людзях быў такі далікатны, а дома – зусім іншы. Але Грыша дужа любіў Стральцова. Праўда, калі Міша патрапіў у ЛТП, Рыгор яго не наведваў, бо страшэнна не любіў, баяўся гэтых лякарань, і таму практычна ніколі не хадзіў ні да кога ў бальніцу, колькі яго знаёмых ляжала – ні да кога, здаецца, не прыйшоў.

Наогул кажучы, ён шмат каго любіў: Валодзю Нядзведскага, але ён рана памёр, Сымона Блатуна – таксама добры быў чалавек, прыгожы, далікатны і таленавіты. Любіў Шушкевіча, аднаго і другога, Аляксандра Дракахруста. Дужа добра ставіўся да Навума Кісліка, вельмі яго паважаў. Любіў яшчэ Васіля Сёмуху, Валянціна Тараса, якога зваў Тарантасікам. Праўда, Тарас у Рыгоравым уяўленні быў усё жыццё хлопчыкам – у параўнанні са старымі і мудрымі яўрэямі Навумам Кіслікам і Рыгорам Бярозкіным. Любіў Хаіма Мальцінскага, якога больш чым каго іншага перакладаў – мо тысячы паўтары радкоў, калі не болей. Дарэчы, Мальцінскі знешне быў вельмі падобны на Міхаіла Святлова, а ў паводзінах быў тыповы местачковы яўрэй.

Канечне, дужа любіў Грыша Караткевіча. Ён перазвоньваўся з ім па дваццаць разоў на дзень. Караткевіч быў па характары няпросты чалавек. Аднойчы мы нават пасварыліся з ім з-за яго жонкі Валі, бо Валодзя яе пакрыўдзіў, а я заступілася... Між іншым, сапраўднае яе імя – Ванда Ватковіч, Нікіціна – па першым мужы. Трэба сказаць, што характар Караткевіча я не дужа разумела, але і не імкнулася зразумець, бо, калі шчыра, Валодзя не вельмі падабаўся мне знешне, затое мне дужа даспадобы быў яго голас, тэмбр яго голаса... Дарэчы, вочы ў яго былі рознага колеру – адно шэрае, другое карае, да таго ж ён трохі касіў. Гэта было не надта заўважна, але я пра тое ведала, бо сама касая.

Мама Валодзі так і не прыняла Валю... Між іншым, вось хто мне вельмі падабаўся, дык гэта Валодзева мама: гэта была інтэлігентная жанчына, знешне

вылітая Ганна Ахматава... Аднойчы я прыйшла да іх, а яна нешта мыла ў тазіку. Пытаюся: «А чаму Валі не аддасцё памыць?» – «Не-не, лепей я сама!» Валодзева мама здавалася мне тады дужа старой, а ёй, відаць, было столькі ж, колькі мне цяпер, і сёння я разумею, што гэта не так ужо шмат...

Валодзю хлопцы любілі і паважалі за яго талент, але трошачкі пасмейваліся з яго – што ён такі шчодралюбны, што нібыта ў яго па дзіцяці ў кожным горадзе – такі ён дужы мужчына! Гэты міф Валодзя сам ствараў, а яго Валя была мудрай жанчынай і ведала ўсе гэтыя штучкі. Дапамагаючы яму ствараць гэты міф, яна ўсім расказвала, што Валодзю пастаянна тэлефануюць незнаёмыя жанчыны, пішуць яму лісты, прыходзяць да іх на кватэру і падаюць яму ў ногі!.. Мы з Грышам таксама пасмейваліся з гэтага.

Што ж тычыцца той гісторыі, калі яны ўтрох – Рыгор, Караткевіч і Кляўко – паехалі на вайсковыя зборы на Далёкі Усход, дык хоць Грыша пра гэта любіў расказваць, але гаварыў, вядома, не ўсё. (Увогуле, нельга сказаць, што ён дужа выдумляў сваю біяграфію – яму й не было з чаго выдумляць, дый патрэбы ў тым не было. Можа, толькі крыху рамантызаваў сваю цалінную паездку.) Вайсковыя зборы яны праходзілі ў газеце, у аддзеле пісьмаў. У самым такім аддзеле, які газетчыкі звычайна не любяць. Тым больш што да іх прыезду пісьмаў сабраліся цэлыя мяхі. Аднак паколькі яны тут, у сталіцы, налаўчыліся адказваць на падобныя пісьмы і асабліва доўга з чытачамі не размаўлялі, таму і на Далёкім Усходзе разабраліся з тымі мяхамі даволі хутка. А паколькі ўсе любілі чарку, дык іх там недалюблівалі за гэта...

Ужо калі надыходзіў час вяртацца ў Беларусь, раптам атрымліваю тэлеграму: «Тэрмінова трыццаць. Грыша». І больш нічога – ні табе «Валечка дарагая», ні табе «цалую». Я адразу зразумела: трэба трыццаць рублёў. Караткевічу не было каму дасылаць, у Кляўко жонка не прыслала б, таму тэлеграму даслаў адзін Грыша. Грошы я, вядома, адправіла...

Калі яны прыехалі, я іх не пазнала – худыя і высахлыя, бо цэлы тыдзень ехалі з Далёкага Усходу з пяццюдзесяццю капейкамі ў кішэні, прычым Грыша гэтыя пяцьдзясят капеек недзе на прыпынку адзін і праеў – мусіць, боршч купіў сабе. «Ты не наш чалавек!» – сказала я яму жартам, калі ён пасля распавёў мне... Між іншым пазней я вычытала, што, паводле гараскопа, Грыша – вытанчаны эгаіст, але ён са мной, вядома, не пагадзіўся...

Калі яшчэ казаць пра сяброў, дык да Васіля Быкава Рыгор ставіўся паважліва, вельмі цаніў яго, і не толькі таму, што яны былі землякамі. І хоць звяртаўся да яго на «ты», але, думаю, у душы ўсё роўна быў на «вы». З Быкавым Грыша сябраваў неяк асобна, бо і Караткевіч, і Стральцоў маладзейшыя былі. Па-другое, Быкаў быў стрыманы чалавек і не дужа кантактны. Але Рыгор любіў яго, што называецца, да страты пульсу. Праўда, Быкаў ніколі ў госці да нас не прыходзіў, хоць у Мінску мы доўгі час жылі побач – ён на вуліцы Танкавай, а мы на Рэспубліканскай. Думаю, што ён быў хатні чалавек і не любіў па гасцях гойсаць.

Што да Валодзі Някляева, дык ён, мне здаецца, быў найбольш блізкі да Рыгора ў апошнія гады. Невыпадкова ж Грыша некалі пакінуў Някляева для Беларусі – ён ужо лыжы ў Маскву навастрыў, а Рыгор літаральна за крысо яго ўхапіў...

З Генам жа Бураўкіным яны сябравалі не толькі таму, што адначасова вучыліся, але, найперш, думаю, таму, што былі землякамі... Помню Генадзева «камсамольскае» вяселле. Мне вельмі яго Юля падабалася – стройная і прыгожая... Наогул кажучы, у Рыгора з Генам былі розныя перыяды сяброўства, але гэта было абумоўлена, мабыць, тым, што Грыша быў своеасаблівы чалавек: мог ні за што палюбіць, а мог ні за што неўзлюбіць, і для гэтага не трэба было ніякай прычыны. Зрэшты, так бывае ў кожнага: ну не падабаецца табе нехта, хоць ты трэсні! Напрыклад,

Гілевіча Рыгор цярпець не мог, але з якой прычыны – не ведаю. Я неяк спыталася ў яго: «А чаму ў цябе так з Нілам?» Ён нічога не сказаў, толькі радаваўся, што Бураўкіна ад Ніла «адляпіў», і Быкава таксама, а то, кажа, такія ўжо сябрукі зрабіліся! Таму ўзяў і «адляпіў», а якім чынам – таксама не ведаю.

Што тычыцца яшчэ Бураўкіна, дык Грыша любіў яго не толькі як земляка, але і як паэта. Праўда, што да Генадзевай «Калыханкі», дык Грыша, памятаю, абураўся: «Як гэта "вачаняткі"?! Няправільна так казаць па-беларуску! Могуць быць "качаняткі", "кураняткі", а не "вачаняткі"». Хоць, па-мойму, «вачаняткі» таксама могуць быць, але Грышу гэта не падабалася... У яго самога, дарэчы, ёсць свае калыханкі, але яны ўсё-такі цяжкія: ён не мог проста нешта напісаць – яму абавязкова трэба было выкруціць так, што ні дзіця не зразумее, ні кампазітар... Мае дзеўкі не пад Грышавы, а пад мае калыханкі засыналі: я сама ім і казкі расказвала, і калыханкі пяяла...

Да таго ж Грыша быў вельмі ўдзячны Генадзю за тое, што ён зрабіў беларускім Дзяржтэлерадыё... Вялікімі сябрамі яны, мне здаецца, не былі, але былі добрыя таварышы. Дый невыпадкова ж у апошнія гады яны перазвоньваліся амаль кожны дзень... Калі Генадзь патрапіў у бальніцу, Рыгор дужа перажываў... Не дай Бог нікому, як пакутваў Бураўкін у апошнія дні. А Грышу Бог, мусіць, любіў – забраў адразу...

Любіў Рыгор і Глеба Лабадзенку, які прыйшоў да яго зусім яшчэ хлапчуком – пятнаццаць гадоў яму было. Глеба Грыша вельмі цаніў, лічыў, што ў яго вялікая будучыня.

Яшчэ адзін яго сябар – Ганад Чарказян, якому Рыгор сімпатызаваў найперш з-за таго, што ён, курд, тут, у Беларусі, адзін апынуўся. Да таго ж ажаніўся з рускай, мовы сваёй няма. І калі Ганад паехаў на нейкі час у Арменію, Грыша быў вельмі рады за яго... Курдаў жа сорак мільёнаў, а яны раскіданыя па ўсім свеце.

Але чым Рыгор яшчэ заўсёды вылучаўся – ён быў адным з нямногіх, хто дапамагаў маладым паэтам. Ён быў шчодры чалавек – мог і рыфму без шкадавання падарыць, і літаратурную ідэю падказаць. А колькі напладзіў гэтых паэтаў! Калі яму падабаліся ў некага два якія-небудзь радкі, ён мог, што называецца, за вушы прыцягнуць чалавека ў літаратуру, узвесці яго на літаратурны Алімп! Хай нават той чалавек і не быў варты гэтага. Не буду называць прозвішчы, але такія хлопцы ёсць. Я неяк сустрэла аднаго такога, якога перад тым шмат гадоў не бачыла і цяпер нават не пазнала яго – так ён раз'еўся і тым самым дужа ўразіў мяне... Вось жа таксама няўдзячны чалавек быў, царства яму нябеснае, бо гэта ж Грыша з будаўнікоў прывалок яго ў пісьменнікі. Больш за тое, дзякуючы сувязям у Саюзе пісьменнікаў літаральна за дзень дапамог яму аформіць кватэру, у якой мы раней жылі, на Рэспубліканскай. А пасля гэты нягоднік брудныя чуткі пра Грышу распаўсюджваў... Сапраўды, не рабі людзям дабра – не атрымаеш зла...

Шмат было гэтых хлопчыкаў, якім Рыгор даў пуцёўку ў літаратурнае жыццё, але далёка не ўсе апраўдалі яго надзеі. Нават не магу сказаць, хто ў сапраўднасці апраўдаў. Дый ніхто з іх цяпер ужо не піша – у адрозненне ад Рыгора, які да апошняга пісаў, хоць ужо і рукі не слухаліся.

Да таго ж, калі працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», Грыша быў адзін з нямногіх, хто заўсёды імкнуўся выдаваць кнігі тых пісьменнікаў, якія ўжо пайшлі з гэтага свету. У тыя часы нябожчыкаў не надта любілі перавыдаваць, а Грыша зусім па-іншаму да іх ставіўся.

Ці сядалі мы з ім у маладосці і гутарылі пра ўсё і ні пра што адначасова? Можа, і было такое, але я не прыгадаю цяпер, бо калі ўжо тая маладосць была. Божа мой, больш за паўстагоддзя прайшло... Дакладна памятаю, што пра кнігі і

ўвогуле пра літаратуру мы не гаварылі. Праўда, яшчэ ў маладосці ён нейкі час чытаў мне свае вершы, і я, калі нешта не падабалася, так прама яму і казала. Але гэта было чыста маё ўспрыняцце, я ніколі не была знаўцам паэзіі. Калі ж перастала рабіць заўвагі, дык і ён перастаў чытаць. Аднак яму патрэбная была чытацкая рэакцыя, ён павінен быў на нейкім выпрабаваць свае вершы, яго гэта сапраўды хвалявала. І першымі яго слухачамі звычайна былі сябры: Міша Стральцоў, Валодзя Караткевіч, Валя Тарас, а калі нікога ўжо з іх не засталося, чытаў Алесю Камоцкаму. Мне таксама зноў пачаў чытаць, калі мы сталі ў гэтай кватэры жыць.

Размаўляць у нас у сям'і было прынята і на беларускай, і на рускай мовах. Я дык з Грышам гаварыла ў асноўным па-беларуску, а з Ілонай і Дамінікай – па-руску. Грыша ж заўсёды гаварыў па-беларуску, апроч толькі тых выпадкаў, калі чалавек наогул не разумеў беларускай мовы – хто быў з Сярэдняй Азіі, Каўказа ці Масквы і Пецярбурга (праўда, Грыша лічыў, што палова Пецярбурга – гэта беларусы). Хоць размаўляць па-руску яму было, канечне, цяжка. Зрэшты, вострыя эпіграмы на масквічоў заўсёды па-руску пісаў...

Трэба яшчэ сказаць, што ён быў рады выхаду кожнай сваёй кнігі. На самапрыніжэнне не пакутаваў – ён ведаў цану сабе, ведаў, чаго варты, аднак ніколі не гаварыў, што ён – паэт. Нават не любіў, калі іншыя пазіцыянавалі сябе так. І ніякага какецтва ў гэтым не было: ён насамрэч не лічыў сябе такім ужо таленавітым і, дужа патрабавальна ставячыся да сябе, увесь час сумняваўся ў сабе – яму пастаянна здавалася, што можна было лепей напісаць. І калі б яму вярнулі ягоныя вершы і сказалі дапрацаваць, я перакананая, што Грыша ўсё перарабіў бы.

Напрыканцы 1990-х – на пачатку 2000-х быў такі час, калі інтэрв'ю ў яго практычна не бралі, сам ён у газетах і часопісах не друкаваўся, кнігі яго выходзілі зрэдчас. Гэта быў час нейкага яго забыцця. Сам ён, вядома, не паказваў, што яго гэта хвалявала, але, думаю, што перажываў. Ён не прызнаваўся ў гэтым сам сабе, а мне тым больш... Гэта ж натуральна для творчай асобы – чакаць ацэнкі, калі ведаеш, што нечага варты. А Рыгор ведаў, што ён нечага варты, ён не быў такім ужо сціплым. Тым больш што друкаваўся практычна ўсё жыццё – яшчэ з 1954 года, як толькі яго імя з'явілася ў літаратуры. І ўвесь час вылучаўся, яго імя пастаянна было на слыху. І хоць былі іншыя паэты, але Рыгор быў, вядома, найлепшы.

Аднак што тычыцца ўсялякіх узнагарод ды званняў, ён спакойна да гэтага ставіўся, хоць, як зноў жа кожнаму творчаму чалавеку, нейкае славалюбства яму ўсё-ткі было ўласціва. Але не магу сказаць, каб ён дужа перажываў з-за гэтых рэгалій, а калі і перажываў, калі не атрымліваў таго, што чакаў, дык хаваў гэта. І што да Нобелеўскай прэміі, дык, мяркую, ён усё-ткі спадзяваўся атрымаць яе...

Ці прысвячаў мне Рыгор яшчэ вершы? Шчыра кажучы, не помню. Калі пагартаць яго першыя зборнікі, там, безумоўна, знойдуцца такія вершы... «Я твой нявольнік, твой прыгонны...» – гэта ён мне прысвяціў. «Яблынькай маладой стаіш ты з першай завяззю...» Грыша напісаў, калі я была цяжарная. А сваёй вядомай «Журавінкай» ён спекуляваў пасля гадоў дваццаць! Там ёсць такія радкі: «Я цябе як раскусіў, аж заплюшчыў вочы». І хоць я зрабіла выгляд, што гэта ніяк мяне не чапляе, у сапраўднасці гэты верш дужа крануў мяне, але я ўсё жыццё паводзіла сябе так, нібыта нічога не здольнае зачапіць мяне.

Вось і «Маленне да твайго халаціка» – гэта было напісана ўжо не мне, а настаўніцы беларускай мовы, з якой Рыгор пазнаёміўся, мусіць, падчас аднаго з выступленняў у школе. У яе было не дужа распаўсюджанае імя – Рэгіна. Я бачыла яе толькі аднойчы, выпадкова, і таму не запомніла. Голас у яе быў хрыплаваты, нібы пракураны, хоць не думаю, што яна паліла, проста ў яе быў такі тэмбр. Я здагадалася, што гэта яна, калі яна аднойчы патэлефанавала нам дамоў, пыталася

Рыгора. Грышу я нічога не сказала – навошта яго расстройваць? Я разумела, што ў паэта павінны быць закаханасці, яму, як любому творчаму чалавеку, патрэбна нейкая падпітка. Не будзе жонка пяцьдзясят гадоў яго натхняць! Тым больш што Грыша звычайна хапаўся за нешта, а пасля даволі хутка астываў. Спачатку я, вядома, раўнавала, а пасля зразумела, што ўсё гэта, гаворачы па-руску, «преходяще». Зразумела, што ўсё роўна я ў яго адна... «My only sun»...

Не магу сказаць, што Рыгор дужа любіў гасцей – усё-ткі ён быў чалавек замкнёны і ў старасці вельмі стамляўся, калі нехта да нас прыходзіў. А як быў маладзейшы, дык сам любіў у госці хадзіць. Калі яшчэ выпіваў, дык у нас і ўдзень, і ўначы мітусня была. Я прыйду з працы, а дзверы ў кватэру не зачыненыя на замок – толькі заціснутыя на газету, і паўсюль спяць госці. Грыша – на тахце, а астатнія хто дзе. Ці раптам Грыша прывядзе гасцей гадзінаў у адзінаццаць вечара, і вось я збіраю на стол, хоць самой заўтра раніцай на працу, а Грыша спаць будзе – у яго не было абавязку штодзень на працу хадзіць. Іншыя жонкі выставілі б такіх гасцей на мароз, я ж ніколі нікога не выганяла... Дарэчы, раней прадавалася «гамза» ў пузаценькіх абплеценых пляшках, адна пляшка – тры літры. Аднойчы прыходжу з працы, а яны выпілі ажно сямнаццаць такіх пляшак! Праўда, ужо не помню, колькі іх пілі – два ці тры чалавекі.

Але і госці бывалі розныя... У мяне былі два пярсцёначкі, якія мне мама падаравала, а яшчэ першы і апошні раз у жыцці я купіла трохпрацэнтныя аблігацыі, і вось нехта ўсё гэта скраў... А аднойчы я гатавала торт «Напалеон», дык расклала каржы на канапе, як раптам незнаёмыя людзі прыносяць Грышу і кладуць прама на гэтыя мае каржы! Ён, п'яненькі, сядзеў на лавачцы на вуліцы і, відаць, баяўся падняцца дамоў. Гэта было, калі мы яшчэ жылі на вуліцы Бялінскага, значыцца, не пазней за 1969 год.

Увогуле, хто толькі не збіраўся ў нас! Музыканты, мастакі, пісьменнікі, акцёры, Грышавы аднакурснікі. Бывалі Валодзя Караткевіч, Міша Стральцоў, вядомыя ў той час спевакі Тамара Ніжнікава, Аркадзь Саўчанка, Віктар Кірычэнка, Віктар Чарнабаеў, Міхаіл Пушкароў... Чарнабаеў падкрэслена лічыў, што ён – бас, а Пушкароў яму пярэчыў: «Які ты бас? Ты барытон!» Яны пачыналі сварыцца, а Грыша іх уціхамірваў. Дарэчы, музыку ён не любіў, а калі спяваў, дык толькі вушацкія песні. Яшчэ любіў перапісваць вядомыя песні, напрыклад, замест радка «Не спится только ветерану» прыдумаў: «Не спиться б только ветерану», што, між іншым, вельмі падабалася народнай артыстцы СССР Ніжнікавай. Ці такія ўжо Грышавы радкі:

Бывал я с Нижниковой в свите.
С Аркашкой часто я лакал.
Кричал мне Кириченко Витя:
«Отцы, бокал, ещё бокал!»

Ён вельмі любіў пісаць экспромты на сурвэтках у рэстаранах, а пасля дарыць сябрам. Але Грышу баяліся патрапіць на язык, бо ў гэтым сэнсе ён быў бязлітасны, і калі яму карцела напісаць злую эпіграму – пісаў, зусім не шкадуючы чалавека. Пісаў як прыпячатваў. Прычым эпіграмы з'яўляліся літаральна ў адну секунду.

Па вялікім рахунку, вялікіх праблем з ім у мяне ніколі не было. Ён не ўсчыняў скандалу, калі была непрасаваная кашуля. Любіў абіраць бульбу, прычым яна атрымлівалася ў яго такая кругленькая, нібыта маладую аблупілі. І нават мог посуд памыць. Што ж тычыцца ежы, дык усё, што ні згатую, было, па яго словах, вышэй за ўсялякія пахвалы. У гэтым сэнсе Грыша не быў пераборлівы – еў усё, што ні

згатуеш. Вельмі любіў малочныя прадукты, асабліва малако, але я ўмудрылася адвучыць яго ад малака. Любіў штовечар есці мерзлае сала з часныком. Вельмі любіў свежую капусту, калі яна была на баранінцы ці свінінцы. Катлеты любіў, але асабліва адбіўныя – за раз мог ажно шэсць штук з'есці, прычым без гарніру (нават паўтараць не хачу, як ён называў той гарнір). Я пыталася: «Грыша, што ты робіш?!» – «А ты ж нічога мне не сказала!..» Ужо калі надакучыць фантазіраваць, дык я пыталася: «Ну, што табе зрабіць паесці?» – «Ай, што зробіш, тое і буду»... Я вось шкадую, што забылася апошнім часам пра клёцкі ды поліўку, смаку якіх я ў маладосці не разумела. Грышава маці поліўку без грыбоў рабіла – проста закалочвала мукой са смятанай дый зашкварвала... Праўда, па хаце Грыша нічога не рабіў. Пыласос браў у рукі двойчы за жыццё: калі мы першы пыласос набылі і калі другі – ён іх правяраў дый толькі... А калі перастаў піць, дык увогуле не было ніякіх праблем.

Піць ён кідаў двойчы. Першы раз у 1974 годзе, не піў месяцаў восем, але на Новы год сарваўся. І калі на першага мая сышліся ўсе Вялікадні разам, Грыша дужа доўга хадзіў па гасцях, у выніку ў яго здарылася атручэнне алкаголем. Ён патрапіў у бальніцу, а да яго – госці з каньяком. І ўрач па маёй просьбе папярэдзіў: «Калі вып'еце хоць пяцьдзясят грамаў – развітвайцеся з жыццём». Шчыра кажучы, я думала, што Грышу гэта не напалохае, але ён так спужаўся, што кінуў піць назаўсёды. Праўда, спачатку я яшчэ ахоўвала яго ад некаторых гасцей, каб не справакавалі яго, аднак ён ужо сам прыняў рашэнне больш ніколі не піць.

Чаму Рыгор піў? Гэта пачалося яшчэ ў студэнцкія часы, пасля працягвалася ў тых рэдакцыях, дзе ён працаваў. Ён не ад адчаю піў, бо і адчайвацца, па-мойму, не было чаго: ён друкаваўся, кнігі выходзілі, увесь час быў запатрабаваны, палітыкай не займаўся, а тое, што пісаў у стол? – шмат хто тады вымушаны быў так рабіць... Не было такой прычыны, каб піць... А мо піў яшчэ таму, што я такая памяркоўная жонка была. Але ж я вырасла ў доме, дзе былі або ўдовы, або старыя дзевы, і думала, што так і трэба, што ва ўсіх сем'ях мужчыны п'юць.

Адзінае, што магло дадаваць яму пакут, гэта тое, што беларуская мова не шанавалася. Але тады яна не была яшчэ ў такім загоне, як цяпер, каб гэтак піць з гора. Для Рыгора ж мова была ўсім, і ён бачыў, адчуваў, што яна гіне, што дзяцей, якія гавораць па-беларуску, усё менее і менее. Гэта цяпер мова стала паціху аднаўляцца, але адбываецца гэта не дзякуючы, а насуперак. Невыпадкова Грыша гаварыў апошнім часам, што цікавасць да мовы была б яшчэ большая, калі б яе ўвогуле забаранілі...

Ён не мог нічога не рабіць. Праўда, калі былі ў Вушачах, і ён не сядзеў за пісьмовым сталом, дык мог пайсці на возера – ці Вечалле, ці Ваўчэнскае. Ваўчэнскае блізка тут, а да Вечалля кіламетры чатыры. Аднак нельга сказаць, што ішоў без аніякай мэты, бо галава ўсё роўна ўвесь час працавала, і рыфмы, мусіць, таксама прыходзілі... У Мінску ж няма куды пайсці, дык мы маглі выйсці ў двор і крыху на лавачцы пасядзець – гэта перад тым, як ён зусім перастаў хадзіць...

Тэлевізар глядзеў толькі калі якая цікавая перадача, ці калі я пазаву што паглядзець. А звычайна цэлымі днямі, калі не трэба было некуды ісці, сядзеў у кабінеце і ці пісаў, ці чытаў. Праўда, пад канец жыцця чытаць стаў меней, я нават не бачыла яго апошнім часам з кнігай.

Яшчэ катоў любіў. Мы ўсё жыццё бяздомных катоў падбіралі. Аднаго ў сметніцы знайшлі, зусім маленечкага. Ён пражыў у нас шэсць гадоў, пакуль не патрапіў пад машыну. Пасля была котка Рыжуля, якая жыла ў нас без двух месяцаў дваццаць адзін год. А потым з'явіўся наш любы Мірон, чорны, пяшчотны і рамантычны кот. Яго Ілона знайшла на вакзале, яму ўжо гадоў шэсць было. Рыгор назваў

яго Міронам, бо так звалі яго ката, які быў у яго ў дзяцінстве. А які ж ласкавы і прыгожы быў кот! Вось гэты, Рысік, поўная процілегласць Мірону – ён толькі дазваляе, каб яго любілі. Яго кацяняткам Дамініка ў Вушачах падабрала. Назвалі яго Рычардам, скарочана – пан Рысь, а ў выніку атрымаўся Рысік. Грыша яго спачатку не прызнаваў, называў Усярысікам, а пасля палюбіў, гаварыў, што гэта самы прыгожы кот на свеце, а ўсё таму, што – вушацкі...

У маладосці Грыша заўсёды ўначы працаваў, а ў апошнія гадоў пятнаццаць ужо больш з раніцы: паснедае і сядзіць у кабінеце працуе. Ці, бывала, прынясу яму снедаць, а ён ужо за пісьмовым сталом... Пісаць у маладыя гады ён мог у розным стане. Здаецца, што нецвярозы ён пісаў нават лепш. У яго нават недзе пра гэта было: «З бадуна добра пішацца, з перавязанай галавой...»

Ці было яму знаёмае пачуццё натхнення? Думаю, што безумоўна, але ў тых выпадках, калі ў яго з'яўляліся ці лірычныя вершы, ці пра каханне. Філасофская ж паэзія была, мусіць, вынікам ужо доўгіх развагаў. І тут я павінна прызнацца, што не думала, што Рыгор – такі глыбокі чалавек і паэт. Мне здавалася, што ён найперш лірычны дый толькі, а калі прачытала ягоныя «Ксты», зразумела, што памылялася. Гэта было для мяне тым больш дзіўна, што Рыгор у апошнія гады не чытаў філасофскія кнігі. Значыцца, я проста недаацэньвала яго...

Ці патрэбны яму быў літаратурны сакратар? Не ведаю, можа, і быў патрэбны, але сам ён ніколі пра тое не казаў дый ні пра што падобнае ніколі не прасіў. Толькі ў апошнія дні я запісала некалькі яго вершаў пад дыктоўку, бо ён зусім ужо дрэнна пісаў.

Думаю, што ён усё ж быў геніем. І хоць ён са мной не пагадзіўся б, але мне здаецца, што ў беларускай літаратуры менавіта ён першы пісьменнік – паперадзе Багдановіча, Купалы, Коласа. Яны першыя таму, што былі раней за яго, але па ўзроўні першы ўсё-ткі Рыгор. Праўда, я ніколі не гаварыла яму пра тое. Наогул кажучы, я зрэдчас хваліла яго, такі ўжо ў мяне кепскі характар. Я і дзяцей сваіх, Ілону і Дамініку, рэдка калі хваліла. Мне не тое, што шкада было сказаць добрае слова... проста я занадта ўжо стрыманая. І не было ў мяне такога, каб лішні раз чмокнуць дочачку ці ўнучачку, таму яны і выраслі калючыя. Такі характар у мяне, відаць, ад мамы, бо яна таксама не дужа ласкавая была. Хоць я, канечне, шкадую, дужа шкадую цяпер... Бачачы гэтую маю стрыманасць і няласкавасць, мне яшчэ Акуліна Андрэеўна казала: «Ласкавае цялятка дзвюх матак сасе». Але Рыгора гэта, відаць, задавальняла, ён быў ласкавы за нас абодвух...

Ці цяжка было жыць разам з геніем? Вядома, цяжкавата. Мне так і казалі ягоныя сябры яшчэ ў маладосці, што я – маці-гераіня, бо магу жыць з такім вось чалавекам, і што ў мяне шасцёра дзяцей: дачка ды Рыгор, які адзін пяцёх варты, таму мне трэба бронзавы помнік яшчэ пры жыцці паставіць... У Рыгора ж былі такія чалавечыя якасці, якія мне з маладосці ў ім не падабаліся, аднак я даўно зразумела, што змагацца з гэтым, спрабаваць нешта змяніць у Рыгоры абсалютна марна. Таму й не спрабавала нешта перамяніць. Зноў жа, знаходзіла гэтым не дужа прывабным ягоным якасцям апраўданне, бо Рыгор быў не звычайным, а творчым чалавека. Я, напрыклад, саромелася сказаць каму-небудзь, што ён мне не падабаецца, а Рыгор абсалютна не саромеўся і мог сказаць дурню, што ён – дурань, і часам з-за гэтага ставіў мяне ў дужа няёмкае становішча. Гэта яго заўсёды вылучала: ён трываць не мог няшчырых людзей і ніколі не хаваў гэтага. Праўда, калі стаў мудрэйшы, дык зрабіўся спакайнейшы ды мякчэйшы. Гэта ў маладосці ён быў шустры і вясёлы, а ў старасці стаў поўнай процілегласцю сабе маладому. Аднак па-ранейшаму, як і ў маладыя гады, не мог дараваць людскіх слабасцяў. Вось я магла некага зразумець і дараваць яму, а Грыша – не. У гэтым

сэнсе ён быў бескампрамісны. І калі ты здрадзіў, значыцца, здрадзіў, і ніякіх апраўданняў табе няма...

Да таго ж, я вырасла без бацькі і ў камунальнай кватэры, дзе мужчынаў не было, і не ведала, якімі павінны быць адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі. Я думала, што так, як у нас было з Рыгорам, так ва ўсіх, і таму ставілася да гэтага як да непазбежнага, думала, што трэба проста нейк трываць, такі ўжо лёс. Відаць, таму мне было прасцей трываць нейкія такія рэчы, якія іншую жанчыну абавязкова напалохалі б. У дадатак у мяне яшчэ такі характар, што я, мусіць, з любым чалавекам ужылася б.

Зрэшты, я ніколі не шкадавала пра тое, што выйшла замуж за Рыгора. Усё жыццё мы пражылі роўна і спакойна, апроч, вядома, тых дванаццаці гадоў, калі ён піў... Я шкадавала толькі пра адно – што кінула музычную школу. Магчыма, з мяне не атрымалася б вялікай скрыпачкі, але музыка – гэта адзінае, што мяне заўсёды кранала... Праўда, яшчэ пра адну рэч цяпер шкадую... Грыша ніколі не гаварыў, што хацеў вялікую сям'ю. У нас жа маглі быць яшчэ дзеці, але ён казаў: «Сама глядзі...» Справа ў тым, што пакуль ён піў, я не хацела больш дзяцей, бо было страшна: а раптам адна з дзецьмі застануся... Вядома, я збаялася. І цяпер шкадую, што ў нас толькі адна дачка...

Ён, канечне, мог яшчэ пажыць, бо быў у прынцыпе здаровы, апроч хваробы Паркінсона, якая рабіла яго рукі паралізаванымі, з-за чаго ён пісаў такімі маленькімі літарачкамі, як макавае зерне. Апошні верш, прысвечаны Гену Бураўкіну, ніхто цяпер прачытаць не можа... Ён і на здароўе не скардзіўся. Можа, з-за таго, што я неяк сказала яму: «Ты сам сабе каркаеш, што ў цябе галава баліць – вось яна ў цябе і баліць». І сапраўды, апошнім часам ён нават на галаўны боль перастаў скардзіцца, хоць раней увесь час наракаў на яе... Вядома, 79 – таксама добры ўзрост, але ў Грышы яшчэ моцныя ногі былі. Ён, нават дажыўжы да такога сталага ўзросту, мог на адной назе прысесці і падняцца, хаця зусім не спартыўны быў. Не ваенны і не спартыўны. «На каго вы падобны, Барадулін?! – гаварыў адзін генерал яшчэ ў маладосці. – Вы на дырэктара піўзавода падобны!..»

Не ўпэўнена, што калі Грыша яшчэ мог выходзіць на вуліцу, яго пазнавалі незнаёмыя людзі, але ён думаў, што пазнаюць, і таму не захацеў, каб яго на калясцы вывозілі на вуліцу. Саромеўся сваёй бездапаможнасці. Такі стан дужа прыгнятаў яго.

Як Грыша перастаў хадзіць, дык госці самі пачалі да яго прыходзіць. Не скажу, што ўжо такім гужам, але амаль кожны дзень нехта быў, маладыя і старыя, нават з дзецьмі прыходзілі...

Праўда, яшчэ сэрца ў яго было слабенькае, але я пра свае таблеткі забывалася, а пра яго ніколі. Яны дасюль яшчэ ляжаць: ранішнія, дзённыя, вячэрнія... Але што найбольш шкада: у яго ж да апошняга былі ў галаве вершы... Ён збіраўся напісаць пра плашчаніцу, і нават кніга ў яго была пра гісторыю плашчаніцы, але так і не паспеў яе прачытаць.

Я і дасюль не ведаю, што ж сталася прычынай смерці: тромб ці ў галаву патрапіў, ці ў сэрца... Хутчэй за ўсё сардэчнае, іначай здарыўся б інсульт, а так ён адразу памёр... Зрэшты, я і цяпер да канца не ўсведамляю, што Грышы няма. Сёння раніцай прачнулася і падумала, што трэба снядант гатаваць. І так кожную раніцу...

Так, Грышачка, 53 гады былі разам, 54-ты пайшоў. І хоць гаварыў: «Адчуваю, што хутка памру», але, думаю, што ўсё-ткі сам не верыў, што так хутка пойдзе. Праўда, дзён за пяць да Грышавага сыходу да яго прыходзіў святар, малады прыгожы хлопец, здаецца, Павел. Прыходзіў, каб Рыгор прыняў прычасце...

У той апошні свой дзень Грыша прачнуўся як заўсёды – звычайна ён прачынаўся ў дзевяць гадзінаў, а палове дзясятай, сам уставаў і нават умудраўся перасесці з ложка ў крэсла. Пасля я прыносіла яму памыцца, затым сняданак... Ужо ўдзень да яго прыйшоў Валерый Дубоўскі, і яны прагаварылі гадзіны дзве, хаця, хутчэй, Валерый гаварыў, а Грыша больш слухаў... Затым я памыла і нарэзала яму яблыкаў. Праз нейкі час прыходжу: «А чаму ты яблыкі не еў?» Ён пачаў разварочвацца ад стала, я падышла да яго, абхапіла крэсла, у якім ён сядзеў, ён павярнуў галаву, хацеў нешта сказаць, але два разы неяк так усхліпнуў, і галава ўпала проста мне на рукі...

А апошнія яго словы... Ён сядзеў за сталом, я ляжала на канапе побач, ён паглядзеў на мяне і кажа: «Якая ты ў мяне прыгожая!» Гэта былі яго апошнія словы.

*Сакавік-чэрвень, лістапад 2014 г.*
*Запісаў Сяргей Шапран.*

## Генадзь БУРАЎКІН

### У адным часе з Геніем

З Рыгорам нас яднае не толькі родная Полаччына і вучоба ва ўніверсітэце, але і тое, што ўжо многія дзесяцігоддзі, ідучы па жыцці разам, мы служым самаму святому і дарагому для нас – роднаму слову.

Праўда, у нашых узаемаадносінах ёсць адна тонкасць, пра якую Рыгор, можа, і не падазрае. Справа ў тым, што для мяне даўно ўжо відавочна, што Барадулін – паэт вялікі, што ўжо сёння ён мае права знаходзіцца ў святым шэрагу, які пачынаецца з імёнаў Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Коласа. І таму ва ўсялякіх жыццёвых перыпетыях я заўсёды імкнуся падтрымліваць сябра, якога Васіль Быкаў называў «салоўкам роднага краю». Гэта вельмі дакладнае вызначэнне, паколькі, чуючы беларускае слова ў вершах Рыгора нават у наш змрочны, трывожны для матчынай мовы час, я ніколькі не сумняваюся, што яно павінна і будзе жыць. Таму, думаючы пра Барадуліна, я толькі радуюся, што ён ёсць і што ён побач – мой сябар, мой зямляк, мой Рыгор.

*17 лютага 2005 г.*

* * *

Гэтая кніга, «Вушацкі словазбор», для мяне вельмі дарагая не толькі таму, што гэта кніга Барадуліна, геніяльнага майго сябра, а яшчэ і таму, што ў ёй жыве мая, наша з Рыгорам, родная зямля – Полаччына. Са сцежкамі, з рэчкамі, з азёрамі, з усімі яе фарбамі. Разам з тым гэта кніга прыкметная яшчэ і тым, што дае, хай не поўны, але адказ на загадку, якую нясе ў сабе Рыгор, як любы вялікі паэт: адкуль ён? чаму ён такі? чаму жыве гэтым? А жыве ён роднаю зямлёй, народнымі думамі і памкненнямі, нарэшце, жыве роднай мовай. І пры гэтым паказвае ўзор таго, як трэба беражліва ставіцца да жывой, натуральнай, крынічнай мовы, паказвае ўзор таго, як пісьменнік павінен удзельнічаць у ачышчэнні сучаснай мовы ад канцылярызмаў і выпадковасцяў, і больш за тое – удзельнічаць у моватворчасці. Таму гэтая кніга для мяне не проста з’ява, а падарунак маёй душы.

Кажуць, што Барадуліна без беларускай мовы няма. А мне здаецца, што і беларускай мовы без Барадуліна ўжо таксама няма. Няма і не будзе. І колькі будзе жыць беларуская мова – столькі будзе ў ёй жыць Рыгор.

*15 лістапада 2013 г.*

* * *

Калі ўпершыню ўбачыў Рыгора, цяпер, канечне, дакладна не прыгадаю, але пазнаёміліся мы яшчэ падчас вучобы на першым курсе, прычым у самым пачатку першага курса, бо вучыліся разам на філалагічным факультэце БДУ: я на аддзяленні журналістыкі, а Рыгор на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры. Нават у адным інтэрнаце разам жылі. Я практычна адразу звярнуў увагу на вяртлявага і вельмі актыўнага хлопца і не толькі таму, што ён быў вяртлявы і актыўны, але яшчэ і таму, што хлопцаў на філфаку было мала. Так мы адзін аднаго і ўведалі. А далей было літаратурнае аб'яднанне пры газеце «Чырвоная змена», куды хадзілі я і Рыгор, і дзе мы чыталі свае першыя няўмелыя вершы, і дзе разам думалі і спрачаліся. Потым была радыёпраграма «На калючай хвалі», дзе здаралася ўсялякае, сур'ёзнае і несур'ёзнае...

З Рыгорам было, вядома, няпроста, бо характар у яго быў востры і задзірысты, і не кожны гэта разумеў. У нашых узаемаадносінах таксама былі няпростыя перыяды, і мы то збліжаліся з Рыгорам, то аддаляліся, аднак ніякай варожасці паміж намі, ніякага непаразумення ніколі не было. Дый сам Рыгор ані разу за доўгае нашае жыццё не расчараваў мяне. Больш за тое, ужо пасталеўшы, ён стаў не проста мудры – ён зрабіўся падобны на старога бухматага чмяля.

Я амаль ніколі не гаварыў яму, але яшчэ пры ягоным жыцці для мяне было відавочна, што жыву ў адным часе з геніем. Ці ўсведамляў гэта сам Рыгор? У мяне такое адчуванне, што ўсведамляў, але ніколі не тое што не гаварыў пра тое – нават ніяк не паказваў... Наогул кажучы, калі думаю пра наша пакаленне, мяне не пакідае пачуццё гонару – гонару за тое, што мы рабілі для беларушчыны, што мы рабілі для беларускай літаратуры. Божа мой, якія ўсё імёны: Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Рыгор Барадулін... І ўсё гэта адбывалася на маіх вачах, а часам, можа, і з маім удзелам...

Апошні раз ён пазваніў мне за некалькі дзён да свайго сыходу. Чытаў новае напісанае, пытаўся пра здароўе... Гаварыць пра Рыгора мне дасюль дужа цяжка, бо гэты боль яшчэ вельмі цяжкі, але сказаць неабходна...

*17, 18, 21 мая 2014 г.*
*Запісаў Сяргей ШАПРАН*

## Валянціна БЫКАВА

### Братка Рыгорка

Яшчэ мой браток Васіль гаварыў, што Рыгор – найлюбімы яго сябар, называў яго найдабрэйшым чалавекам. З Рыгорам Барадуліным я пазнаёмілася, мусіць, у 1976 годзе, як замуж пайшла і пераехала з Бычкоў у Ваўчо. Ён прыязджаў разам з маім братам і адразу спадабаўся мне. Раней чула пра яго ад Васіля – ён не раз казаў: «Паеду ў Вушачу да Барадуліна». Гаварыў яшчэ, што гэта найлепшы чалавек на свеце. А ў Ваўчо да мяне яны завітвалі ці абодва, ці адзін Барадулін, калі летам прыязджаў разам з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай у Вушачу, ці, калі была крапчэйшая ды маладзейшая і магла хадзіць, сама збяруся і пайду да іх у госці. Рыгор, калі прыязджаў, заўсёды званіў: «Валечка, прыходзь! Мы ўжо прыехалі». Дык я – лахі пад пахі – і да яго, а ён ужо сустракае – і руку пацалуе, і абцалуе, і стол накрые. Як ён любіў частаваць! І віно паставіць (мы з Валяй чаркамі, а Рыгор бутэлькай з намі чокнецца, бо сам тады ўжо не піў) і ўсё падкладвае і падкладвае, ды пытаецца: «Валечка, табе, можа, яшчэ?» – «Ай, не, – кажу, – дзякуй, я паела ўжо». Такі гасцінны быў чалавек. Але ж не толькі частаваць любіў – і гасцінцы ж пастаянна дарыў: «Валечка, вось тое вазьмі, вось тое, во табе гэтая куртачка падыходзіць, во табе гэтыя насочкі – табе цёпленька будзе...» Колькі мне адзёжы ўсялякай надарыў! Я кажу: «Рыгорка, мне ўжо хапае». – «Ай не, Валечка, бяры-бяры». І адмовіцца ж няёмка...

І вось так сядзім-гамонім, а пасля Рыгор пісаў Васілю: «Дужа люблю сястру тваю Валянціну, люблю з ёй разгаварываць. Яна адна засталася ў Вушачы, хто па-дзеравенску яшчэ гаворыць». Але я і сама любіла, як яны сойдуцца з Васілём ды пачнуць гаманіць. Васіль, як прыязджаў у Бычкі з Гродна, у асноўным па-руску гаварыў (як і бацькі нашы, па-дзеравенску – слова па-беларуску, слова па-руску), а як у Ваўчо стаў да мяне ездзіць, дык толькі па-беларуску.

Яны з Рыгорам так ужо сябравалі, так даражылі сваім сяброўствам, так шкадавалі адзін аднаго! А якія лісты дасылалі! Барадулін пісаў: «братка Васіль», а Васіль – «братка Рыгорка». Я й сама казала Рыгору: «Ты мой другі, пасля Васіля, брат». Я да яго на «ты» звярталася. Ён сам папрасіў не называць яго Іванавічам – толькі Рыгорам, дык я так і гаварыла. І ён да мяне на «ты» быў, усё Валечкай мяне называў, зязюлькай баравой...

Я любіла слухаць Барадуліна. Любіла, калі да яго госці ў Вушачу збіраліся пісьменнікі, дык Рыгор як прыдумае на хаду які смешны верш з чатырох радкоў, усе тады рагочуць!.. Барадулін вясёлы быў у маладосці, жартаваць любіў, але год ад года, чым далей, стаў нямоглы і не мог прыязджаць у Вушачу, і амаль нічога ўжо не гаварыў. Званю яму, пытаюся: «Рыгорка, як тваё здароўе?», а ён скажа ці «нічога», ці «сярэдне», а калі наогул «дрэнна», і больш нічога не кажа, і чуваць, што яму цяжка.

Калі выйшаў яго «Вушацкі словазбор», дык я ўвесь яго прачытала, так цікава мне было. Рыгор жа і мяне там успомніў... Я і раней чытала ягоныя кнігі, не ўсе, але чытала, падабаліся яны мне. І сама чытала, і іншым давала чытаць. А што да «Вушацкага словазбору», дык, канешне, цікавая кніга, але так у Вушачы цяпер не гавораць – усё болей па-руску, аднак упярод якраз так і было. І я так гаварыла, але і сама цяпер якое слова ўжо рускае кажу. Як даўней дома была, дык, напрыклад, гаварыла: «лехі садзілі», «ляху закапаю ў гародзе», а цяпер усе гавораць «градкі зробілі», дык і я кажу «градку закапала»... Але я ўжо не хаджу нікуды, і пагаварыць асабліва няма з кім, толькі з суседам, што жыве цераз дарогу: і сам стары, і ягоныя сын і нявестка, што жывуць у Вушачы, – яны цяпер мае самыя лепшыя сябры. І гавораць яны абыкнавенна, як у нас раней. Гэтаксама і Барадулін гаварыў...

Канешне, я сумую па ім і пастаянна ўспамінаю яго. Раней усё званіла яму, пыталася: «Як тваё здаровейка?» А цяпер няма каму і пазваніць... Дужа мне шкада Рыгора, ай, Божа, Божа... Як я любіла яго, і ён мяне любіў... Шкада мне ўсіх – і Барадуліна, і Бураўкіна шкада. Я і па Бураўкіну плакала, і па Барадуліну плакала...

*в. Ваўчо – в. Бычкі*
*5 лістапада 2014 г.*
*Запісаў Сяргей ШАПРАН*

## Арнольд МАКМІЛІН

### Паэт на ўсе часы

#### *Згадкі пра вялікага чалавека*

Я быў знаёмы з паэзіяй Барадуліна задоўга да таго моманту, калі меў гонар пазнаёміцца з ім асабіста, і прызнаваў яго першынство яшчэ падчас маёй першай спробы апісання і ацэнкі беларускай літаратуры (1977), аднак аддаў яму тады на заключных старонках маёй вельмі агульнай кнігі менш за абзац. У маёй апошняй манаграфіі (2010) Барадуліну прысвечаны ўжо – цэлы раздзел, які я дасылаў яму ў беларускай версіі, бо не ведаў, калі гэта яшчэ будзе апублікавана і колькі будзе жыць Рыгор, які ў той час быў цяжка хворы. Там я назваў яго паэтам на ўсе часы – у гэтае паняцце я ўклаў шырыню і глыбіню, разнастайнасць, гумар, але найперш – паэтычную вынаходлівасць гэтага выбітнага паэта.

Наша першая сустрэча адбылася ў Лондане ў лютым 1998 года. Таварыства «Вялікабрытанія – Расія» запрасіла Васіля Быкава, аднак афіцыйныя асобы паведамілі, што ён не зможа быць з прычыны нездароўя (тыповы савецкі трук, якому ніхто, вядома, не даў веры), і замест яго быў накіраваны Рыгор Барадулін. Адбылася чароўная, дасціпная і інфарматыўная гутарка, якая пакінула вельмі добрае ўражанне ва ўсіх прысутных. Таварыства пасяліла Барадуліна ў вялікім гатэлі, і мне было даручана правесці яго туды, а затым суправадзіць на вячэру ў рэстаран, што месціўся паблізу. Барадулін, сказаўшы, што вернецца праз дзесяць хвілінаў, накіраваўся ў свой пакой. Я тым часам пачаў у захапленні разглядаць барочныя статуэткі і іншае дэкаратыўнае аздабленне гатэля. Аднак праз паўгадзіны, а тым больш праз гадзіну нават гэтая веліч згубіла для мяне ўсялякую прыцягальнасць. Калі Барадулін, поўны прабачэнняў, нарэшце, з'явіўся, я ні пра што не пытаўся, не папікаў яго і, наогул, паводзіў сябе так, нібыта нічога не здарылася, і мы накіраваліся на вячэру. Падчас таго візіту мы з маёй жонкай Святланай таксама мелі задавальненне і гонар запрасіць Барадуліна на вячэру да сябе, і паэт паводзіў сябе яшчэ больш разняволена і адкрыта. У пазнейшыя гады, калі ён падпісваў мне паштоўку ці ліст, кожнага разу ён звяртаўся да мяне не іначай, як «вяльможны спадар», і я тлумачыў такі зварот маёй цярплівасцю падчас нашай першай сустрэчы. Яшчэ большым гонарам для мяне стаў подпіс да вясёлага фотаздымка ў чацвёртым томе яго Збору твораў, дзе я быў названы «англійскім беларусам». А праз некалькі гадоў ён зноў вельмі крануў мяне, калі прысвяціў мне «Самотны санет», хоць я ніколі ў жыцці не адчуваў сябе адзінокім. Магчыма, ён меў на ўвазе практычна адзіныя росшукі закінутага кутка славянскіх даследаванняў (большасць славістаў Вялікабрытаніі як тады, так і цяпер даследуе выключна расейскае). І зноў гэта быў вялікі гонар для мяне.

Кожнага разу, калі ў мяне быў шанс наведаць Мінск, мы сустракаліся, найперш у гатэлі «Юбілейны», дзе я звычайна спыняўся з прычыны лаяльнасці, бо КДБ абраў гэты гатэль для мяне яшчэ ў савецкі час. Там мы праводзілі інтэрв'ю ці проста гутарылі, да здзіўлення дзяжурных жанчын, якія тады сядзелі на кожным паверсе савецкіх гатэляў, каб бачыць, хто прыходзіць і сыходзіць. Ад самага пачатку Барадуліна суправаджаў яго нястомны сябар і памочнік эрудыраваны журналіст Сяргей Шапран. Пазней мы сустракаліся ў рэдакцыі «Белорусской деловой газеты», дзе Шапран у той час працаваў (пакуль улады не спынілі выхад газеты), вярталіся аўтобусам, спакойна размаўлялі, і пасажыры не мелі нават уяўлення, што іх спадарожнік – найвялікшы беларускі паэт. Іх турбоціла зусім іншае, што, зрэшты, зразумела, бо інтэлігенцыя – усяго толькі невялічкая частка беларускага насельніцтва, прадстаўнікам жа ўлады нават у галаву не ўзбрыдзе карыстацца грамадскім транспартам. Сам жа Барадулін, у адрозненне ад маіх беларускіх сяброў, асабліва Васіля Быкава, ніколі не запрашаў мяне дадому, бо сваю кватэру ён называў не інакш, як лазарэтам. Толькі аднойчы я меў магчымасць наведаць яго дома, калі Уладзімір Някляеў, у якога я спыняўся на ноч у 2012 годзе, прапанаваў завітаць да калегі-паэта. Гэта быў першы і апошні раз, калі я ўбачыў дом Барадуліна, пазнаёміўся з яго жонкай. Зробленыя тады фотаздымкі дасюль з'яўляюцца для мяне аднымі з найдаражэйшых. Аднак ужо тады гэты дзівосны амбасадар роднай літаратуры і Беларусі рыхтаваўся, як ён сам напісаў у адным з апошніх вершаў, пайсці «ў неба пехатою».

Рыгор Барадулін быў на рэдкасць плённым і шматгранным аўтарам, яго вершы ахоплівалі шырокі спектр жанраў, рытмаў, стыляў і тэм. Сярод найбольш дзівосных рыс яго паэзіі можна адзначыць выбітную здольнасць да словаўтварэння, жывасць вобразаў і непазбыўную свежасць уяўлення, якія прываблівалі некалькі пакаленняў чытачоў. Глыбокі патрыёт Беларусі, як і яго сябар Васіль Быкаў, ён з'яўляўся

маральным стаўпом сучаснай беларускай літаратуры і нязменна падтрымліваўся ўсімі, хто бачыў прамую сувязь паміж літаратурай і нацыяльнай свядомасцю.

Ведаць Рыгора Барадуліна было для мяне сапраўды вялікімі гонарам.

*Лондан, Вялікабрытанія*
*21 кастрычніка 2014 г.*
*Пераклад з англійскай Сяргея ШАПРАНА*

## Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

### Шчодрыя дэдыкцыі

Ашчадна захоўваю ў сваіх архівах некалькі дзясяткаў рукапісаў, аўтографаў і дарчых надпісаў народнага паэта Беларусі, наміnanta Нобелеўскае прэміі па літаратуры Рыгора Барадуліна.

Падчас свайго школьніцтва, навучання ў мастацкай вучэльні ды абітурыенцтва ведаў яго творчасць, што называецца, у межах праграмы. Студэнтам універсітэта стаў набываць ягоныя зборнікі, дэкламаваў верш «Філфакаўкам» на святочнай вечарыне.

А вось асабістае знаёмства адбылося ў Вязынцы, на традыцыйным студэнцкім свяце паэзіі 1982 года, якое я вёў, што і засведчыў на сваім здымку, надрукаваным пазней у альманаху «Дзень паэзіі», фотамайстар А. Каляда. Запомнілася сустрэча і тым, што якраз перад маім чытаннем аўтарскіх вершаў пры помніку Янку Купалу гучна загрукацела коламі электрычка, а паэт падбадзёрыў, маўляў, смялей, – чытай, мы пачуем!

Пасля былі і вучоба ў мэтра на семінары маладых літаратараў у толькі што адбудаваным Доме творчасці і адпачынку «Іслач» з першых аўтографам на «Маўчанні Перуна» (Дарагому Уладзіміру Сіўчыкаву – сваёй дарогі ў паэзіі і жыцці жадаю, верачы ў талент!), і сустрэчы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», і выступы перад камерамі ў тэлестудыях, і літсустрэчы з чытачамі, і ўдзел літаратурна-мастакоўскіх пленэрах у Бычках, на імпрэзах у Палацы мастацтва...

Пазней сталася так, што займеў права і магчымасць пазваніць яму ва Ушачу або завітаць дахаты на вуліцы Івана Мележа, пагаманіць у паэтавым кабінеце, застаўленым кнігамі, а перадусім слоўнікамі. Называў класіка і творцу мовы найначай як дзядзькам Рыгорам, што яму было вельмі да душы. І страшэнна не любіў ён, калі звярталіся да яго «Уважаемый (Дорогой) Григорий Иванович!» – запрашэнні з такім звароткам нечытаныя ляцелі ў сметніцу.

* * *

Зразумела, можна паблажліва ўсміхнуцца – маўляў, ці мала за сваё жыццё панапісваў класік віртуозных вершаваных прысвячэнняў?! Колькі іх хаця б у «радыёсвабодаўскай» кніжцы «Дуліна ад Барадуліна»?!

Але я «сваімі» барадулінскімі радкамі даражу.

Не змог паэт па стане здароўя прыйсці ў, на той час яшчэ наш, Дом літаратара на прэзентацыю анталагічнага выдання «Яна і Я: вершы і песні пра каханне», затое перадаў створаны экспромтам проста на трамвайным прыпынку, напісаны чорным атрамантам свой чытацкі водгук. Настолькі няўрымслівы і нават рызыкоўны, што маршалак тае аншлагавай імпрэзы, паэтаў цёзка і сусед, графік Рыгор Сітніца не насмеліўся агучыць яго са сцэны цалкам.

Няхай
Як у лірыка і выдаўца
Ва Уладзімера Сіўчыкава заўсёды
Хапае эмоцый
І моцы канца,

Зь якога пачатак
Бяруць народы!

*Дзядзька Рыгор*
*13.X.05*

***P.S.***
Жадаю ў мроях
Крыляць сакалом,
Шляхетна трымацца,
Элітніцца.
Нястомна і ў ложку,
І за сталом
Завіхацца зь нягнуткім калом,
Як Сітніца!

Кніжка, на якую так адгукнуўся мэтр, пачыналася своеасаблівай інтрадукцыяй – «Найвышэйшай песняй Саламонавай» у барадулінскім узнаўленні. Зборнік той распачаў даволі грунтоўную паэтычную серыю прыватнага выдавецтва «Радыёла-плюс», якое ачольваю ўжо дваццаць гадоў. Быў і застаюся вельмі ўдзячны дзядзьку Рыгору, што пагадзіўся напісаць прадмовы да тома выбраных твораў Максіма Багдановіча «Інтымны дзённік», а таксама да паэтычнай анталогіі «Крэмень і крэсіва», якая днямі, спадзяюся, патрапіць нарэшце на друкарскі варштат. Ну, а працаваць з паэтам над кнігаю з фантастычнай алітэрацыяй на супервокладцы «Рыгор Барадулін. Руны Перуновы. Выбраныя творы», укладаць яе разам з Алесем Камоцкім, замаўляць уступнае слова Уладзіміру Някляеву ўвогуле было за насалоду! Асабліва калі згадаць, што ўсе тамы серыі аздабляў сваімі творамі мэтр не толькі беларускае, але і ўсяе еўрапейскае графікі Арлен Кашкурэвіч, майстэрства якога дзядзька Рыгор шанаваў вельмі высока. Напэўна, хтосьці і не пагодзіцца, але «Руны Перуновы» – адна з самых прыгожых сярод сямі дзясяткаў барадулінскіх кніг. Можа, яшчэ і таму, што змешчаны ў ёй 24 партрэты паэта знаных фотамайстроў, а над дызайнам шчыраваў спрактыкаваны Міхаіл Драко.

На важкім барадулінскім зборніку «Ксты», які выйшаў незадоўга перад «Рунамі Перуновымі», бывае, перачытваю такі подпіс:

Знадзеена курсіў чакаў
Падкрэсьліць
Важную праяву,
Што не спазьніўся
Ўпарты Сіўчыкаў
Скарынаўскую
Доўжыць справу!

*Дзядзька Рыгор*
*17.X.05*
*Менск*

І гэтую дэдыкацыю ўспрымаў і ўспрымаю як пэўны аванс, які яшчэ доўга давядзецца адпрацоўваць. У пэўнай ступені ўдалося гэта, калі падгаварыў дзядзьку Рыгора забраць і перадаць нам машынапіс кніжкі дзецям з, ізноў жа, «рыклівай» назвай «Выпаў грук у грома з рук», які па зразумелых прычынах залежаўся быў у дзяржвыдавецтве.

У папцы быў вузкі аркуш з эпісталай:

*«Вяльможны спадар*
*Уладзімер!*

*Дзякуй за ласку і ўвагу!*
*Вы робіце справу, якая застанецца*
*ў вяках. Робіце тое, што рабіць бы*
*мусіла нармальная дзяржава.*
*Нашай не да культуры, не да клопату*
*пра мову, пра мазгі нацыі. Але Бог*
*зь ёй. Быў бы толькі здаровы Уладзімер*
*Сіўчыкаў і ўсё будзе.*
*Яшчэ раз – дзякуй і нізкі паклон!*

*Дзядзька Рыгор.*
*15.V.07*

*Перадаю Вам друкапіс дзіцячай кніжкі.*
*Зь Яна Бжэхвы вершы выбірайце самі – веру ў ваш густ*».

Цалкам пагаджаюся з класікам – на вялікі жаль, і сёння многае ў беларускай культуры, літаратуры і мастацтве робіцца не дзякуючы, а насуперак дзяржаве, яе культурнай, а дакладней, антыкультурніцкай палітыцы. Робіцца намаганнямі энтузіястаў, падзвіжнікаў і сапраўдных патрыётаў, насуперак “спрыянню” чыноўнікаў.

«Як на добры лад, – казаў дзядзька Рыгор, – дык дзяржава мусіла б даць палёгку ўсім выдаўцам беларускамоўнай, а тым болей – беларускамоўнай дзіцячай літаратуры, як тое колісь і было. Сёння ж гэта – з галіны фантастыкі!»

Папрасілі былі дапоўніць, асвяжыць друкапіс, як называў дзядзька Рыгор свае машынапісы з рукапіснымі праўкамі, зборніка «Выпаў грук...» некалькімі вершамі пра сучасныя рэаліі ды гаджэты. Без аніякай фанабэрыі ці сумненняў пагадзіўся ён, а літаральна праз пару тыдняў перадаў тэксты – пра ролікавыя канькі, пра электронную пошту, пра кампутар і інтэрнэт, паўжартоўна далажыў, працытаваў радок з Максіма Танка: «Выканана партыі заданне!» і дадаў: «Не ведаю, як атрымалася, але стараўся. Дзякуй шчыры за клопаты, за ўвагу! Чалом!»

Ахвотна даваў ён дазвол друкаваць вершы ў «Крынічцы. Хрэстаматыі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту», падказаў назву і на замову бліскуча пераклаў сем вершаў у кніжку «Качка-дзівачка. Польская паэзія дзецям: выбраныя старонкі з паэтаў XIX – пачатку XXI стагоддзяў».

Меў я за гонар і за радасць пабачыць свой выдавецкі лагатып і ягоныя дарчыя надпісы і на такіх выданнях, як камплект кніжкі з дыскам «Вяровіца», на кніжачцы хуткамовак «Воз вёз лёс».

* * *

Свае адносіны з дзядзькам Рыгорам у апошняе дзесяцігоддзе назваў бы творча-вытворчымі, але, натуральна, усплываюць і чыста пабытовыя цёплыя згадкі.

Набраў быў аднаго разу дамафон у ягоным пад’ездзе і пачуў нечаканае: «Ужо спускаюся!» Літаральна праз колькі хвілін, і праўда, паказаўся ў дзвярах разам з жоначкаю Валянцінай ды з валізкамі, з палёгкаю выдыхнуў: «Вас сам Бог паслаў!» Аказалася, што акурат гэтым часам трэба было яму чарговы раз класціся ў лечкамісію абследвацца ды папраўляць здароўе, а я быў якраз на машыне.

І чамусьці прыгадваецца эпізод, як быў ён у нашым офісе пры вуліцы Петруся Броўкі, а жонка запрасіла пакаштаваць яе ткемалі з лавашом. Без капрызаў, а хутчэй з цікаўнасцю прайшоў ён на кухню, паслухмяна частаваўся з піалы грузінскім соўсам са сліў...

* * *

Узяў на сябе адказнасць, склаў яшчэ адзін барадулінскі, пазвонны том вершаў і эсэ «Тастаме́нт. Выбраныя творы», што прымусіла перагартаць, перачытаць і «Маладзік над стэпам», і «Здубавецце», і «Босую зорку», і «Евангелле ад Мамы», і «Лісты ў Хельсінкі»...

Чакае і, дасць Бог, прычакае свайго часу рудаватая тэчка, падпісаная знаёмым почыркам, – друкапіс перакладаў з Восіпа Мандальштама з радкамі просьбы-запавету: «...Буду ўдзячны, калі Вас зацікавіць магчымасць выдання двухмоўкі».

*На Асяніны-2014*

## Рыгор СІТНІЦА

### Побач з Геніем

Пра гэтага Чалавека я згадваю напэўна часцей, чым нават пра сваіх крэўных і самых блізкіх. Бог распарадзіўся так, каб пасля шматлікіх і доўгіх пошукаў новага жытла я ўрэшце выпадкова – а ці ж выпадкова? – пасяліўся ў доме, які стаіць побач з домам, дзе жыў Паэт.

Цяпер думаю: «А дзе яшчэ я мог пасяліцца? Канечне ж, каля Барадуліна».

Мы былі знаёмыя й да таго. Трэба сказаць, што ніхто нас ніколі не знаёміў. Проста ў 1993 годзе 27 ліпеня падчас святкавання Дня Незалежнасці, калі Барадулін чытаў вершы з галоўнай сцэны таго свята каля Палаца спорту, я падыйшоў да яго. Мы павіталіся, павіншавалі адзін аднаго й абняліся. Ад тае сустрэчы нашае знаёмства дужа імкліва перарасло ў сяброўства. І тады, і цяпер трохі ніякавата – боязна называцца ягоным сябрам. Занадта вялікая адказнасць ёсць у гэтым званні, дый многія цяпер могуць гэтак сябе назваць. Аднак жа адчуваю на гэта Ягоны высокі дазвол і пэўнае маральнае права, бо дваццацігадовыя стасункі – амаль штодзённыя тэлефанаванні, шматлікія сустрэчы ў маёй колішняй майстэрні (знакаміты «Паддашак», дзе раней гаспадарыў Яўген Кулік), дужа частыя шпацыры й незлічоныя размовы, паўтара дзясятка кніг, падораных мне з дзівоснымі аўтографамі, урэшце, два геніяльныя вершы і некалькі гарэзлівых эпіграмаў, прысвечаных мне – вось тыя пазнакі сяброўства з Геніем, якое сталася для мяне Божым падарункам.

Згадкі пра Дзядзьку Рыгора мяне адведваюць дужа часта, бо і душа мая, і ўся мая навакольная прастора пазначаныя ягонай нябачнай прысутнасцю: кніга Барадуліна, думка Барадуліна, словы Барадуліна, падарунак Барадуліна, дом, пад’езд, сквер Барадуліна... Прыгадваецца ўсялякае, але часцей вясёлае, гарэзлівае: ну вось як гэткае.

Ранняй вясною 1996 года сустракаю Дзядзьку Рыгора на пероне станцыі метро «Кастрычніцкая». Паэт, які зусім нядаўна адсвяткаваў шэсцьдзесят першы дзень народзінаў, выглядаў цудоўна: жвавы, вясёлы, вострa-жартаўлівы. Тады Рыгор Іванавіч яшчэ працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», і гэта было штодзённым гонарам і святам для супрацоўнікаў і наведнікаў рэдакцыі. На жаль, гэтае свята праз некалькі месяцаў груба спыніцца: новапрызначаны дырэктар выдавецтва, літпасаджэнец Г. Марчук ледзьве не першым сваім загадам звольніць Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна з рэдакцыі, чым і пазначыць сваю, хоць якую, прыналежнасць да беларускай літаратуры.

Зрэшты, у кожнага генія былі тыя, хто іх бэсціў, закладваў, садзіў у турмы ці проста звальняў з працы, упіваючыся сваёй прымітыўнай уладаю над Геніем.

Але гэта між іншага, а зараз пра той, як цяпер сказалі б, барадулінскі перформанс у самым шматлюдным месцы сталіцы.

Тыя, хто ведаў Барадуліна, блізка, дый не толькі яны, памятаюць невялічкую чорную сумку, у якой Паэт заўсёды насіў даволі ёмістую біклажку, срэбную чарачку і некалькі канапак з барадзінскім (барадулінскім) хлебам ды вэнджаным салам. Мог быць яшчэ й часнык. Біклажка тая, ці не паўлітровая, была заўсёды поўная «фірмовага» барадулінскага напою: гарэлка, адмыслова наладкаваная рознымі спецыямі ды настоямі зёлак.

Многія з нас, панове, не забудуць тое райскае пітво, памножанае на любоў ды шчырасць даўно ўжо непітушчага частавальніка, які ад радасці хмялеў хутчэй, чым той, каго ён частаваў.

...Шматлюддзе станцыі метро «Кастрычніцкая» пачула голас Паэта, ад просьбаў якога адбіцца было немагчыма.

– Ну, Рыгорачка, ну, Грышачка, ну адну хацеў б чарачку...

– Дзядзька Рыгор, ну як можна, людзі ж вакол.

– Ды якія гэта людзі? Адныя зайздроснікі... Хай слінаю захлынуцца. Ну, Грышачка...

Дзясяткі здзіўленых вачэй бачылі, як пасярод перона адзін Рыгор налівае, а другі выпівае й закусвае класічнай канапкаю з салам ды часныком у прыкуску. Для паўнаты жанра не хапала хіба толькі салёнага агурка.

– Ну, Рыгорачка, ну, яшчэ хоць адну. Як гэта – не?.. А за маё непітушчае здароўе ці ж не вып'еш?.. Ну, як жа так...

А й праўда, ці ж можна было адмовіцца?

– Паглядзі, паглядзі, я ж казаў – зайздроснікі, ім жа таксама хочацца.

Тым часам вакол нас ужо сабраўся невялікі натоўп цікаўных «зайздроснікаў». Той-сёй пазнаў Паэта: галас, усмешкі, рогат...

Калі я выпіваў трэцюю, за здароўе ўсіх прысутных спадароў і спадарыняў, вакол раздаліся вясёлыя воплескі, а шчаслівы Паэт тым часам колькі разоў распісаўся на нейкіх, хто што знайшоў, паперчынах.

Прыгадваючы Яго, можна доўга распавядаць і пра нашую супольную вандроўку ў Талачын, дзе мы адкрывалі надмагільны помнік легендарнаму мастаку Лявону Баразне. Дарэчы, з гэтае вандроўкі пачалася пад прымусам і дабраслаўленнем Барадуліна мая легалізацыя ў беларускай літаратурнай прасторы.

Прыгадваецца таксама грандыёзная прэзентацыя Вялікай кнігі «Ксты» ў Чырвоным касцёле, а таксама ў касцёле Вушачаў, ды пасля гэтага смачная сяброўская бяседа на траве каля хаты Быкава ў Бычках.

Ах, як гэта было!

А яшчэ, паміж сотняў нашых сумоўяў, нельга забыць сустрэчу ў рэдакцыйным кабінеце Рыгора Іванавіча ў 1995 годзе, дзе мой шасцігадовы сын Міколка, можа, гадзіну спяваў Паэту беларускія песні, якіх ужо на той час ведаў безліч. Трэба, напэўна, сказаць, што ў хлапца ў паўтара гады выявіўся абсалютны музычны слых, неверагодная музычная памяць ды не абы-які голас, і спяваў ён паўсюдна: на вуліцы, у транспарце, у крамах... І гэта ўсё па-беларуску. Часцяком меў за гэта не толькі дабразычлівыя ўсмешкі ды ўхвалы, але й «ганарары» ў выглядзе цацак, цукерак ды іншых пачастункаў.

Усцешаны Паэт, наслухаўшыся малога, набраў тэлефонны нумар Быкава, і Васіль Уладзіміравіч пачуў «Купалінку», «Зорку Венеру», «Спадчыну», а мой сын, цяпер дваццацішасцігадовы прафесійны музыка, і сёння ганарыцца, што калісьці спяваў для двух нацыянальных Геніяў.

Цяпер, калі Дзядзька Рыгор ад нас далёка, ён не перастае пра сябе нагадваць нават містычнымі знакамі.

Неяк раніцай мая жонка Іна спраўляла свае кухарскія клопаты. Тоўстая кухонная дошка, ці не саракоўка, якая служыла гаспадыні больш за дваццаць

пяць гадоў, раптам раскалолася на дзве паловы. Ніякіх трэшчынаў дагэтуль на ёй не было. Гаспадыні ж неабходна было дарабіць распачатае: палезла шукаць па шуфлядках што-якое іншае, не спадзеючыся нешта знайсці. Але-такі знайшла. Ды што!.. Калісьці, у 1999 годзе, Барадулін, завітаўшы да мяне на ўлазіны, падарыў маёй сям'і невялічкую кухонную дошку з вершаваным аўтографам:

***РЫГОРУ СІТНІЦУ***

*на ўлазіны*

Хай ліха цвёрдым лобам вытнецца
Аб моцны ганак хаты Сітніцы!
Кілбас і кумпячыны горы
Хай усцілаюць стол Рыгора!
Палотнаў і радкоў багата
Хай будзе ў маладога брата!

Таксама *Рыгор*.
19.XII.99.

***P.S.***
Дым шчабятухі і гарбаты
Хай не мінае цёплай хаты.

На мой сорам, гэтая кухонная дошка шмат гадоў праляжала забытая і вось неспадзеўна пра сябе нагадала. Яшчэ не зусім разумеючы, што адбылося, мы зазірнулі ў каляндар. Гэта быў саракавы дзень па развітанні з Дзядзькам Рыгорам.

Ці трэба яшчэ каму што даводзіць?

Цяпер гэтая дошка вісіць у майстэрні над маім рабочым сталом, а некалі будзе вісець у музеі Барадуліна.

Штодня праходзячы праз ягоны сквер, праз ягоны двор, ля ягонага пад'езда, я ўяўляю знаёмую постаць, без якое і вуліца, і сквер, і дом губляюць сваю галоўную адметнасць. Уяўляючы яго, я раз-пораз прагаворваю сам сабе напісанае на ягоныя Дзевяціны.

І свет не абрынуўся.
Смерць для яго – толькі факт
У шэрагу іншых.
Вось дом, вось Лагойскі натомлены тракт,
І сквер, і ліхтар,
сакавіцкай смугою атулены...
Усё як заўсёды,
ды быццам знянацку падранены звер,
уздрыгвае сэрца:
ну як жа, ну як мы цяпер
без Барадуліна?!
Ну як без яго
гэты сквер, гэты дом, гэты двор?..
Ах, Дзядзька Рыгор...

*25-26 кастрычніка 2014 г.*

Ніл Гілевіч



...наконт генія зайздрасці мы, беларусы, можам з балгарамі пацягацца...

# У віры быцця

***Запісы розных гадоў***

*Працяг. Пачатак у №4 (71).*

**Чаму ж у нас, у Беларусі...**

Знаёмлюся з Сафіяй. Хаджу па вуліцах, спыняюся каля помнікаў, каля памятных дошак на сценах, заглядваю ў храмы. Раблю "адкрыцці" з гісторыі Балгарыі. У прыватнасці, даведваюся, што ў 1769 годзе іераманах Паісій Хілендарскі выдаў "Гісторыю славянабалгарскую" – упершыню ў гісторыі краіны. І гэта стала пачаткам балгарскага нацыянальнага адраджэння. І падумалася: а ў нас? У нашай дзяржаве ВКЛ яшчэ ў 1579 годзе была заснавана Віленская Акадэмія – першая ВНУ на беларускіх землях. Вядома, вучыліся ў ёй на латыні; дык і ва ўсіх універсітэтах Еўропы рабочай мовай была тады латынь. Але ж вучыліся ў Акадэміі дзеці тутэйшых ліцвіноў – мясцовых магнатаў, багатай шляхты, купцоў, якія яшчэ не былі апалячаны і называлі сябе – па назве дзяржавы – ліцвінамі (тэрміна "беларусы" ў афіцыйным ужытку не было). У акадэміі – хачу падкрэсліць – вучняў рыхтавалі да працы ў ВКЛ, і для ВКЛ – для Бацькаўшчыны.

Пра гэта думаю, азіраючы вынікі культурнага развіцця Балгарыі ад часоў Паісія да нашых дзён. Думаю: дык а чаму ж у нас ўсё не так? Зусім не так!..

*1960*

### А як знаюць і любяць у нас…

Усё жыццё, з малых гадоў, чытаў і чытаю кнігі рускай класічнай літаратуры і творы савецкіх пісьменнікаў пра барацьбу прыгнечаных народаў за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, за свабоду і незалежнасць. Не толькі ў кнігах, раманах ды аповесцях, але і ў артыкулах грамадска-палітычных дзеячаў, у тым ліку – знакамітых "мужоў дзяржаўных", падкрэсліваецца справядлівасць барацьбы за вызваленне з каланіяльнага ярма. Так К. Я. Варашылаў, гады два назад, з пачуццём захаплення гаварыў аб тым, як знаюць і любяць у СССР Тыля Уленшпігеля – "легендарного героя Фландрии, боровшегося за национальное освобождение своего народа" ("Правда" за 14.8.1958 г.). Сам Варашылаў! – Старшыня прэзыдыума ВС СССР, першая – юрыдычна – асоба ў кіраўніцтве дзяржавы.

Ну, а дзе і як гаворыцца ў нас пра герояў барацьбы за нацыянальную свабоду Беларусі? Напрыклад, пра Кастуся Каліноўскага? Як знаюць і любяць яго ў СССР?

*1960*

### А беларускай? А беларускай???

Колькі ў навуковых працах расіян фальсіфікацый нашай гісторыі, нашай культуры, літаратуры і мовы! Наўмысных, свядомых, – пра несвядомыя не кажу. Вось і вельмі вядомы фальклорыст М. К. Азадоўскі пра Зарыяна Далэнгу-Ходакоўскага напісаў: "Славуты дзеяч ранняй польскай фалькларыстыкі", "у поўнай ступені належыць і рускай, і ўкраінскай навуцы аб фальклоры" ("Гісторыя рускай фалькларыстыкі", т. II, с. 231, М. 1958).

Вось так: польскай, рускай і ўкраінскай... А беларускай? А беларускай??? Госпадзе Божа мой! Ну што ж гэта такое? Да беларускай навукі не належыць чалавек, які абследаваў як этнограф амаль усю Беларусь, запісаў сотні беларускіх народных песень і ўзоры жывой беларускай мовы! Мне чытаць такое асабліва крыўдна яшчэ і таму, што гэты выдатны навуковец (сапраўднае прозвішча Адам Чарноцкі) нарадзіўся "каля мястэчка Гайна на Лагойшчыне". Каля маёй Гайны!

Вядома, шмат папрацаваў ён і як даследчык гісторыі і народнай культуры суседніх славянскіх народаў. Але падаваць справу так, што да беларускай фалькларыстыкі ён не мае ніякага дачынення – гэта ўжо занадта! Разумею, адкуль гэта ідзе: ад агульнага – яшчэ з тых гадоў! – ігнаравання нейкай там беларускай мовы і беларускай духоўнай культуры. Рускае ўсё было кругом, рускае! І каля маёй Гайны – усё рускае...

Дарэчы, чаму Азадоўскі (а за ім і нашы этнографы) пішуць: Даленга? У старых польскамоўных выданнях чытаем: "Далэнга", праз "э". І гэта правільна. У нашай мясцовасці пашырана слова "недалэнга" (недалугі) – слабасільны, "дахадзяга".

*1961*

### З падуманага ў Славеніі

У нас, у Беларусі, у адрозненне ад Славеніі, няма навукі філасофіі, сацыялогіі, няма палітычных навук – усё гэта ўзяла на сябе мастацкая літаратура. Але – якая канкрэтна? Хіба ўся? У каго, як у Бальзака, можна вывучаць па яго раманах палітэканомію?.. Прычына? Адсутнасць на працягу стагоддзяў дзяржаўнай незалежнасці. Такія навукі на нацыянальнай глебе ў няволі развівацца не маглі.

*1966*

## Але яны былі балгарамі…

Адзін цікавы факт з гісторыі балгарскай літаратуры, якога я раней не ведаў, прымусіў мяне задумацца. Аказваецца, некаторыя выдатныя балгарскія паэты жылі, вучыліся і працавалі ў Солуні (у Грэцыі) і, натуральна, пісалі на грэчаскай мове. Але яны былі балгарамі, былі свядомымі балгарскімі патрыётамі, і ў іх паэмах і вершах усё да апошняга радка дыхала Балгарыяй, любоўю да яе, вернасцю ёй, болем за яе лёс. А на якой мове яны маглі ў Грэцыі пісаць, каб іх чыталі? На грэчаскай, вядома. Пазней іх творы былі перакладзеныя на балгарскую, і выдадзены ў Балгарыі, і вывучаюцца сёння па курсе гісторыі балгарскай літаратуры не толькі ва ўніверсітэтах, але і ў школах. Адзін з гэтых паэтаў (і перш за ўсё) – Грыгор Пырлічаў, аўтар выдатных паэм “Арматолас” і “Скандэрбей”. Калі была апублікавана “Арматолас”, у грамадскіх колах Грэцыі загаварылі пра Пырлічава як пра “другога Гамера”. Нават гэтак!..

Дык вось і ў Беларусі XIX стагоддзя многія (Чачот, Баршчэўскі, Лада-Заблоцкі і інш.) пісалі па-польску, але чуліся ліцвінамі (беларусамі). Яны – нашы! Дык пара вярнуць іх у нашу літаратуру канчаткова і безагаворачна.

*1967*

## Які ўжо час. Горкімі слязьмі

У Балгарыі я яшчэ больш зразумеў, што ёсць для нас страчаныя землі – Віленскі край з Вільняй, Беласточчына, Заходняя Смаленшчына са Смаленскам, Пскоўшчына з Невелем і Дзвінскам, Заходняя Браншчына... У Балгарыі які ўжо час плачуць – горкімі слязьмі, – па Вардарскай і Сопунскай Македоніі; у іх засталася толькі Пірынская, а тыя дзве – страчаныя назаўсёды...

Ах, тыя македонскія песні! Македонскія песні! Нясканчоны боль маіх балгарскіх сяброў!..

*1967*

## Гутарка з П’ерам Сегерсам

У канцы лета мінулага 68-га года ў Сафіі мае балгарскія сябры рашылі пазнаёміць мяне з французскім паэтам і выдаўцом П’ерам Сегерсам, які а тым часе таксама быў госцем Саюза пісьменнікаў Балгарыі (а можа – выдавецтва “Народная культура”, якое толькі што выпусціла ў свет томік ягонай паэзіі “Карані”). Я ахвотна згадзіўся з прапановай сяброў: а чаму б, сапраўды, не пазнаёміцца з шырока вядомым не толькі ў Францыі паэтам? Тым больш, што П’ер Сегерс – я гэта ведаў раней – належаў да прагрэсіўнага крыла французскай інтэлігенцыі, быў – у гады вайны – актыўным дзеячам антыфашысцкага супраціўлення, паплечнікам такіх выдатных асоб, як Робер Дэснос, Поль Элюар, Луі Арагон, чые кнігі друкаваў у сваім выдавецтве.

І сустрэча адбылася. Цягнулася яна нядоўга, не больш за паўгадзіны, бо зусім не ўваходзіла ў напружаны план прабывання Сегерса ў Сафіі. Як я зразумеў, мае сябры праявілі гэтую ініцыятыву дзеля мяне, ведаючы, што ні ў адной капіталістычнай краіне я не быў і ні з адным заходнееўрапейскім пісьменнікам не знаёмы.

Зусім не імпазантны з выгляду, сціпла апрануты, з дабрадушным, прыветлівым тварам інтэлігент. Узростам – гадоў шасцідзесяці. Просты ў манерах трымацца і гаварыць.

Ідучы на сустрэчу, я разлічваў задаць суразмоўцу адно галоўнае пытанне – і задаў: “Што вы ведаеце, пан Сегерс, пра беларускую літаратуру? Імёны якіх нашых паэтаў і пісьменнікаў вам вядомыя? Можа, з кім знаёмы асабіста?”

Не чакаў, што адказ Сегерса мяне ўзрадуе, але і не чакаў, што так страшна

агаломшыць. Не чакаў, што ведае шмат, але што назаве хоць колькі-небудзь імён, прынамсі класікаў, – не сумняваўся. Наіўны быў, дык і не сумняваўся. Не назваў нікога, ніводнага імені. "Купала, Колас, Багдановіч, нашы вялікія класікі", – падказваю яму. – "Не, не чуў такіх імён, не ведаю", – адказаў Сегерс. – "А нашых сучасных знакамітых паэтаў – Аркадзь Куляшоў, Максім Танк?" – "Не, на жаль, не чуў і такіх... Увогуле, мне здаецца, уся Францыя нічога не ведае пра беларускую літаратуру, хіба што які-небудзь універсітэцкі прафесар, вучоны-славіст..." І спытаў у мяне нешта накшталт: "А што ж вы, беларусы, так ціхенька жывяце, што і не відаць, і не чуваць вас?.." І я патлумачыў, як мы жывем, і чаму пра нас нічога або амаль нічога не ведаюць на Захадзе. І была ў маім патлумачэнні адна фразачка: "жывем у ценю вялікай суседкі – вось і не бачаць нас..."

На развітанне П'ер Сегерс падарыў мне свой балгарскі томік з такім подпісам: "Паэту Нілу Гілевічу, з вераю, што Беларусь выйдзе з ценю суседкі..."

*1969*

## Запісы з нататніка

Для мяне камунізм – высакародная вера ў чалавека, у вытокі чалавечнасці... па Хрысту. Рухальная сіла камунізма – любоў, а не класавая нянавісць, як у Карла Маркса і Леніна.

У 1968-м, у Фінляндыі, адбылася Міжнародная сустрэча пісьменнікаў. Ад Балгарыі ўдзельнічалі мае сябры Любамір Леўчаў і Клімент Цачаў; ад Францыі – Ален Роб Грыйе; ад Кубы – Нікалас Гільен... А ад Беларусі? Хто? Нікога. І вось так – увесь ХХ век. Чаму? Бо – не маем сваёй дзяржавы. Бо – нас няма. Дык хто мы? Чаму мы ў такім становішчы? Чаму мы – як у бліндажы, без еўрапейскага неба над галавой? Нас жа 9 мільёнаў!..

*1970*

## Хацелася заплакаць…

Шэсць гадоў таму, у Славеніі, у Шкоцкіх пячорах (быў там разам з іншымі слухачамі Летняй школы славенскай мовы на экскурсіі), да мяне падышоў інтэлігентны, з мяккімі рысамі твару, далікатны, нават як бы і сарамлівы чалавек – гадоў сарака на выгляд.

– Прабачце, вы з Беларусі? – спытаўся.

– Так, з Беларусі.

– А я з ГДР. Але лужычанін. Юрый Млынк.

– Млынк? Дык я завочна ведаю вас даўно, і вершы чытаў! А чаму ў спіску ўдзельнікаў няма вашага імя?

– Ёсць. Георг Мюллер.

– Георг Мюллер?

– Ну так, па пашпарце, на афіцыйнай дзяржаўнай мове. У пашпарце не можа быць Юрый Млынк. Георг Мюллер – гэта дакладны пераклад з лужыцкай на нямецкую...

На гэтым размова абарвалася, паклікалі ў аўтобусы.

Мне хацелася заплакаць. Божа ты мой! Нават прозвішча адабралі! Я думаў, што з усіх славян найгорш нам, беларусам. Таксама нашы самабытныя імёны пераараблялі на іншы, небеларускі лад (Тодар – на Фёдар, Якуб – на Якаў, Зміцер – на Дзмітрый і г.д.), але ж хоць прозвішчы засталіся! А тут – усё! І імя, і прозвішча. Лужычаніна ператварылі ў немца...

Нядаўна ад Алеся Траяноўскага, нашага выдатнага знаўцы лужыцкай мовы і літаратуры, пачуў сумную вестку:

– Пакончыў самагубствам Юрый Млынк. Памёрла летась жонка – і ён не вытрываў адзіноты. Жыццё для яго стала невыносным...

Славяне! Толькі славяне!..

*1972*

## "Лысагоршчына – радзіма Купалы"

Гэта – не маё вызначэнне, гэта словы Франца Гінтаўта з яго эсэ "Жменька думак, згадак пра Янку Купалу" ("Полымя", 1984, № 5). Так назваў ён першую часціну свайго эсэ (усяго іх – чатыры).

Імя і прозвішча аўтара гэтай публікацыі мне сустракалася ў друку і раней, але што ён такі дасведчаны (фенаменальна дасведчаны!) у біяграфіі і творчасці Янкі Купалы – я даведаўся толькі цяпер. Праз сорак два гады пасля смерці вялікага паэта.

Праз амаль столькі ж гадоў пасля таго, як я пачаў чытаць і засвойваць – з неймавернай любоўю і пранікнёнасцю – яго творы.

Дык вось з публікацыі Франца Гінтаўта я толькі цяпер даведаўся, што той куток Лагойшчыны, дзе прайшлі дзіцячыя і маладыя гады Яся Луцэвіча і дзе ён стаў паэтам, называецца Лысагоршчына. Дзіву даюся, што ні тады, калі я жыў у сваёй Слабадзе і вучыўся ў суседняй Гайне, ні пазней цягам дзесяцігоддзяў сталага жыцця я ніколі не чуў пра гэта ад людзей і нідзе не вычытаў у друку. Тым больш дзіўлюся, што значная частка гэтай Лысагоршчыны, уключна з купалаўскім Селішчам, да рэвалюцыі ўваходзіла ў склад "маёй" Гайна-Слабадской воласці (валаснoе ўпраўленне было ў Слабадзе). Ведаў, што дзесь там, дзе Малыя і Вялікія Бясяды, ёсць знакамітая Лысая гара, адна з дзвюх найвышэйшых гор у Беларусі (341 м), ведаў, што і вёска там з гэткаю назваю ёсць. Але слова Лысагоршчына не чуў.

І вось у надзвычай цікавым эсэ Франца Гінтаўта чытаю: "Беззямельны мой бацька вандраваў па абшарах Лагойшчыны, працуючы па запашках (...). У 1929 годзе мы пераехалі на хутар Ляўшова, побач з Акопамі і Селішчам. На гэтым хутары ў той час жыла сястра Купалы Марыя Аўлачынская (Луцэвіч). Янка Купала і яго жонка Уладзіслава Францаўна часта бывалі ў Акопах, бо там жылі паэтава маці і другая сястра Леакадзія, па мужы Раманоўская. Не міналі яны і Ляўшова. Давялося сустракацца мне з сям'ёй Купалы не толькі тут, на Лысагоршчыне, але наведваць іх дом і ў Мінску, дзе я вучыўся".

Значыць, "тут, на Лысагоршчыне". Вось так натуральна, па звычцы з маленства, называе гэны куток Лагойшчыны ў сваіх успамінах Франц Гінтаўт. Называе так, нібы чытачы гэта ведаюць – без патлумачэння, адкуль назва.

Чытаю далей: "У Селішчы прайшлі гады фарміравання асобы Купалы... Селішча было той печкай, адкуль, як кажуць, пачаў Янка танцаваць на паэтычным Парнасе. (...) Селішча і іншыя родныя для Купалы мясціны знаходзяцца на Лысагорскім узвышшы... Назва ўзвышша паходзіць ад Лысай гары, якая размясцілася каля Акопаў".

Усяго ў эсэ Гінтаўта слова "Лысагоршчына" і вытворныя ад яго "лысагорскія", "лысагорцы", згадваюцца не менш як пятнаццаць разоў. Аўтар падкрэслівае чароўную прыгажосць Лысагоршчыны, што было, вядома ж, адной з крыніц творчага натхнення Купалы. "...У Акопах жылі лысагорскія музы, яны спрыялі яго творчасці. З Вільні, Пецярбурга і Мінска Купала, калі толькі дазвалялі справы, рваўся сюды, у свой родны і мілы кут на Лысагоршчыне". Чытаю і – зноў і зноў перачытваю: "У свой родны і мілы кут на Лысагоршчыне". У свой родны і мілы кут... У свой родны і мілы... У свой родны...

Здаецца, мне вельмі трэба было вычытаць гэта. Для душы і сэрца трэба. Помню,

як вучнем сёмага класа я быў незвычайна ўражаны, раптам даведаўшыся, што зусім недалёка ад маёй Гаенскай Слабады падрастаў і станавіўся паэтам вялікі Купала, што ён неаднойчы бываў у Гайне (самае блізкае ад Прудзішча і Селішча мястэчка – лічаныя вёрсты, аднае воласці), напэўна, трапляў і ў Слабаду. Пра гэтае радаснае адкрыццё (якога земляка маю!) пазней у паэме "Сто вузлоў памяці" (1963-1964) я напісаў так:

Гэта ж тут ён калісьці
Любаваўся з пагорка
На знаёмы да болю
Дарагі краявід.

Гэта ж тут ён спыняўся
Па дарозе дадому,
Заварожаны шумам
Верхавін у бары.

Гэта ж тут, ап'янелы
Ад вясковага хмелю,
Ён пытаў у зязюлі,
Колькі год яму жыць...

Тут ён слухаў калісьці –
На начлезе і ў полі –
Тыя казкі-легенды,
Што жывуць і цяпер.

Тут яму назаўсёды
Песні ў сэрца запалі,
Тыя самыя песні,
Што і сёння гучаць...

Мне хацелася бегчы,
І крычаць, і пытацца:
"Ці вы знаеце, людзі?
Тут Купала хадзіў!.."

Хадзіў... А стаўшы знакамітым паэтам, неаднойчы прыязджаў. "Многія жыхары з Лысагоршчыны, – піша Гінтаўт, – успаміналі, як не раз Купала клапатліва дапамагаў ім даставаць лякарствы або накіроўваў хворых землякоў у Мінск і там стараўся давесці да добрага доктара".

З Лысагоршчыны выцякае рэчка Сліжанка – прыток Гайны. І адна, і другая – самыя блізкія мне з маленства рэчкі: у Гайне безліч разоў купаўся, а ў Сліжанцы лавіў вусаценькіх уюноў (часта шанцавала і на мянтузіка). Але ж і сама Гайна... Франц Гінтаўт піша: "Лысагоршчына не мае буйных рэк, значных азёр... Адсюль бярэ пачатак рака Гайна, даліна яе даволі глыбокая, маляўнічая, а ўздоўж рэчышча цягнуцца прыгожыя ўзгоркі і грады".

Прыгадваюцца радкі з верша Купалы "Я не сокал":

А я толькі верабейка,
Ўзрошчаны пад Гайнай.

Гэта значыць, паблізу мястэчка Гайна, якое стаіць на аднайменнай рацэ. Прыгадваецца і паэма "Адплата кахання", якая пачынаецца радком: "Пад Гайнай убогай жыў шляхціч багаты..."

Значную частку свайго эсэ Франц Гінтаўт прысвячае разгляду твораў, сюжэтна ў большай ці меншай меры звязаных з падзеямі, што мелі месца на Лысагоршчыне, і з жыццёвымі лёсамі канкрэтных людзей – лысагорцаў. ("Адплата кахання",

“Паўлінка”, “Раскіданае гняздо”, “Зімою”, “Сват”, “Страха”). Сведчанні аўтара зусім пераканаўчыя.

Якое шчасце, што Гінтаўт напісаў і апублікаваў гэтае эсэ! Які неацэнны падарунак зрабіў ён даследчыкам жыцця і творчасці Янкі Купалы і ўсім, каму дарага імя Паэта!..

А я цяпер буду ведаць, што па сутнасці і я – лысагорац. І ці няма ў гэтым нейкага фатальнага наканавання таго, што менавіта мне судзіў лёс напісаць паэму пра Лысую гару, хоць і пра зусім іншую?

*1984*

### Кожны раз, помню…

Калі, стаўшы аспірантам, пачаў браць са сховішчаў і чытаць беларускія газеты, часопісы, кнігі перадкастрычніцкіх і першых паслякастрычніцкіх гадоў, а таксама выданні былой Заходняй Беларусі, кожны раз, помню, сціскалася сэрца ад болю, ад думкі: “Божа! Якія былі людзі! І дзе ж гэта ўсё дзелася? Дзе дзеўся гэты дух шчырасці, чалавечай непасрэднасці, высокай прастаты? Як і калі перамянілася наша беларускае жыццё, страціла сваё самабытнае аблічча, ператварылася ў агульнасавецкі стандарт, у якім ужо нічога беларускага не засталося?”

*1985*

### У балгарскім часопісе…

У балгарскім часопісе для замежнай літаратуры “Панарама” (1987, №6) апублікаваны вялікі ўрывак з двухтомнай мемуарнай кнігі сусветнавядомага грэчаскага кампазітара і грамадскага дзеяча Мікіса Тэадаракіса “Дарогі архангела”. Як вынікае з тэксту, кніга завершана ў 1985 ці ў 1986 годзе. Імя Тэадаракіса добрыя чатыры дзесяцігоддзі было на слыху ўсяго дэмакратычнага свету, асабліва ў былым сацыялістычным лагеры. Постаць – у поўным сэнсе слова легендарная. Інтэлігенцыі вельмі імпанавала, што гэты бясстрашны змагар за новую, свабодную Грэцыю быў і выдатным кампазітарам, музыкам з вялікай літары. Яго “Першая”, “Другая” і “Трэцяя” сімфоніі, “Першая” і “Другая” санаты, “Эдып цар”, “Антыгона”, “Песня пра мёртвага брата” і іншыя творы прыняты шырокім светам. У 1960-я гады Тэадаракіс заняўся творчай апрацоўкай грэчаскіх народных песень, і выканаў гэту працу так бліскуча, што песні сталі папулярнымі ва ўсіх кутках свету. О, я помню тыя мелодыі, помню! Менавіта тады я і прызнаўся публічна, што з песень усіх неславянскіх краін я найболей люблю грэчаскія.

Тады ж, у 1968-м, я напісаў верш “Зімовае пасланне Мікісу Тэадаракісу”. У той час ён – у каторы раз ад гадоў ранняй маладосці – сядзеў у турме.

На досвітку сінім ярчэе мароз
І свеціцца іней на голлі бяроз.
На досвітку сінім я ціха пяю
Трывожна-балючую песню тваю,
Мікіс Тэадаракіс.

Я гэтую песню пачуў на людзях,
Яна крываточыць, як рана ў грудзях:
Пакуль хоць дзе-небудзь пясняр у турме –
Спакою на свеце не ведаць і мне,
Мікіс Тэадаракіс.

Каб мог я, таварыш, каб толькі я мог
Прайсці да цябе праз няволі парог –

На белых галінках табе б я прынёс
Чароўную казку зімовых бяроз,
Мікіс Тэадаракіс.

Сказаў бы: да скроняў ты іх прыкладзі
І срэбраным інеем боль астудзі.
А толькі на сэрца не трэба лажыць –
Хай сэрца палае, хай сэрца гарыць,
Мікіс Тэадаракіс.

"Дарогі Архангела" Тэадаракіса чытаюцца з неаслабнай цікавасцю. Бо напісаны, па-першае, з гранічнай шчырасцю, як споведзь перад людзьмі і Богам, а па-другое – дабрэннай мастацкай, пісьменніцкай мовай. Падам два кароценькія пасажы з гадоў юнацтва Мікіса.

"У сямнаццацігадовым узросце я папрасіў сустрэчы з маці і цёткай Элі, каб ажаніцца з ёю. "І дзе будзеце жыць? Што будзеце есці?"

Элі, майму каханню, было пятнаццаць гадоў, яна вярнула мяне назад у часы, калі ў Аргастолі і ў Патры я жыў з прывідамі. І без таго знаходзіўся ў працяглым духоўным пераўзбуджанні, якое ўсё больш мяне аддаляла ад штодзённай рэчаіснасці".

У хуткім часе сябры Мікіса наладзілі яму сустрэчу з Элі ў пакойчыку кнігарні, – яна не ведала, што ён там, бо сустракацца не хацела. Хітрасць сяброў спрацавала.

"Я пацалаваў яе ў губы і адчуў салёны смак. А я не чакаў яго. Тады я і ведаць не хацеў, што Элі была плоццю, як і ўсе жанчыны".

Зноў яны спаткаліся толькі праз тры гады.

"У 1945-м яна прыехала ў Афіны. Чула ад кагосьці, што мяне забілі ў час Снежаньскіх падзей, і цяпер узрадавалася, што я жывы. Прабылі разам цэлы адпаўднёвік. Доўгі час хадзілі па парку Запіон і па ўзгорку Філапапу, пакуль я набраўся смеласці сказаць ёй, што прыехала позна і што я кахаю другую дзяўчыну, якую зваць Мірта. Схіліла галаву на другі бок лаўкі, на якой мы сядзелі, і моўчкі заплакала. Пачакаў, пакуль супакоілася. Спачуваў ёй, і любіў яе, але думка мая лятала дзесьці там. Рассталіся сябрамі і з таго часу больш ніколі не бачыліся".

Хацеў бы прачытаць увесь двухтомнік Мікіса, але, але!

*1987*

## Вымушаны адказ аднаму беларускаму паляку

Калега! Я рашуча не прымаю Вашых палітычных абвінавачванняў на мой адрас і адкідваю іх як цалкам беспадстаўныя. Я ўсё свядомае жыццё працаваў на дружбу народаў, перш за ўсё славянскіх, а не на варажнечу паміж імі. Сведчаннем гэтаму прысуджаныя мне ордэны і медалі славянскіх дзяржаў, горы выкананых мною мастацкіх перакладаў са славянскіх літаратур, у тым ліку – з польскай. Я неаднойчы і ў друку, і з розных высокіх трыбун выказваўся за тое, каб палякі Беларусі (як і літоўцы, яўрэі, татары) мелі школы з вывучэннем сваёй роднай мовы, выдавалі свае газеты і часопісы, мелі свой нацыянальны тэатр і іншыя культурныя асяродкі. Але я рабіў і буду рабіць гэта не за кошт здрады нацыянальным інтарэсам сваёй краіны, не за кошт таго, каб паступацца правам беларускага народа быць гаспадаром на сваёй зямлі, на сваёй этнічнай і гістарычнай Бацькаўшчыне. І ўжо зусім было б недарэчы, калі б я, дзеля таго, што камусьці гэтага хочацца, заплюшчыў вочы на гістарычную ісціну.

Не рабіце, калі ласка, выгляду, што вы не ведаеце гісторыі, не ведаеце, калі і як пачалі запісваць палякамі многіх-многіх-многіх беларусаў былой Заходняй

Беларусі. Хочаце, каб я падняў са схову і публічна працытаваў дакументы з фактамі-сведчаннямі гэтага нялюдскага гвалту? Гэта мне зусім няцяжка зрабіць. Толькі ці будзе вам прыемна чытаць іх? А галоўнае – ці на карысць гэта будзе сучасным беларуска-польскім узаемінам?

У вас падымаецца рука пісаць: "мы патрабуем, каб Ніл Гілевіч папрасіў прабачэння ў нас, у палякаў..." Гэта – за што ж? За тое, што я ўсумніўся ў тым, што на Беларусі 400 тысяч этнічных палякаў? Вы абураецеся: "Быць ці не быць нам палякамі – гэта наша права, і вызначаць не вам". Ну а хто, шаноўны калега, даў маральнае права вам гаварыць за ўсіх беларусаў-католікаў Гарадзеншчыны, Берасцейшчыны, заходніх раёнаў Меншчыны і Віцебшчыны, якіх гвалтоўна ці ашуканствам запісалі ў палякі ў часы прафашысцкага санацыйнага рэжыму на тых беларускіх землях, што каля дваццаці гадоў былі пад акупацыяй Польшчы? Дык вось я не патрабую, а прашу вас: калі вы сапраўды інтэрнацыяналіст і хочаце, будучы грамадзянінам Беларусі, жыць у добрых сяброўскіх адносінах з беларусамі, асудзіце адкрыта, праз друк:

а) публічныя выступленні сучасных польскіх шавіністаў, якія лічаць, што землі на ўсход ад вядомай "лініі Керзона" аж за Віцебск, Магілёў, Полацк з'яўляюцца польскімі, сілком адабранымі ў Польшчы;

б) асудзіце хоць сёння, праз дзясяткі гадоў, гвалтоўную, без удзелу Беларусі, Рыжскую дамову 1921-га года, паводле якой палавіна Беларусі апынулася амаль на 20 гадоў у няволі, – ганебную дамову, пра якую вялікі беларускі паэт тады ж напісаў:

Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы!
Цёмных дарог махляры!

в) Асудзіце ўвесь той гвалт і здзек, які чыніўся з беларускага народа, яго мовы і культуры пры рэжыме Пілсудскага і яго наступнікаў у міжваеннай Польшчы, – гвалт, у выніку якога на тэрыторыі з насельніцтвам 4 мільёны беларусаў не засталося к 1939-му году ніводнай буларускай школы;

г) асудзіце выхаванне дзяцей у школах сучаснай Польшчы ў духу вялікапольскага шавінізму, убіванне ім у галовы бздуры, што нібыта ў Польшчы незаконна забралі землі Гарадзеншчыны, Меншчыны, Берасцейшчыны, Віцебшчыны, асудзіце як вельмі шкодную і небяспечную справу.

Па-сяброўску шчыра Вам раю: зразумейце самі і памажыце зразумець усім сваім таварышам, усім сваім знаёмым і незнаёмым аднапляменнікам, што сёння на двары не 1920-ты, а 1990-ты год, што беларускі народ ужо не той, якім быў яшчэ нядаўна, што вяртання назад не будзе ніколі, – і самае неразумнае з боку нашых суседзяў было б спадзявацца на іншае.

Вось і ўсё. А калі хто-небудзь з перахрышчаных у палякі беларусаў зноў захоча стацца беларусам, – давайце не будзем яму перашкаджаць у гэтым, бо гэта – прыватнасці, гэта яго права. Галоўнае – узаемапавага народаў-суседзяў. А ёй трэба навучацца, сама па сабе яна не ўзнікае.

*1990*

## На пераломе...

З сярэдзіны 60-х пачалі пашырацца, і вельмі інтэнсіўна, спажывецкія настроі, ранейшыя ідэалы замяніла набітая чырвонцамі "панчоха".

Сістэма адчула, што не спраўляецца – і дазволіла красці, абіраць дзяржаву, сацыялістычную маёмасць, агульнанародную ўласнасць.

Выкрыццё Сталіна было выкрыццём Партыі – Хрушчоў гэтага не разумеў. Пасля таго, што мы дазналіся ў 1956-1961 гг., ужо нельга было глядзець на

гісторыю СССР, на Вялікую Кастрычніцкую, на ЦК КПСС ранейшымі вачыма. Усё часцей сталі гаварыць пра "перараджэнне", пра "контррэвалюцыйны пераварот", ажыццёўлены Сталіным у 1929 годзе. На справе, не контррэвалюцыйны, а дварцовы, замест дыктатуры ЦК (дыктатуры пралетарыяту ніколі не было) канчаткова ўсталявалася дыктатура клікі на чале з правадыром.

Хрушчова, у кастрычніку 1964-га, "эвэкнуў" КДБ, які ўзяў краіну ў свае рукі, роля партыі была адсунута на другі план.

*1991*

### У Расіі – не супадае…

Выпадковая цытата: "Не давая перевеса любви к Родине над любовью к Отечеству" (У пісьме Цару з III аддзялення канцылярыі Яго Імператарскай Вялікасці, 1847 год). І так, "родина и отечество". "Родина" – гэта Украіна, Беларусь, "Отечество" – Расія, Расійская імперыя. Як і ў 1917-м; як і сёння – у 1991-м. Вось гэта і ўнушалася. Айчына! "Славься, Отечество наше свободное!.." Але ж па беларуску "отечество" – Бацькаўшчына, г.зн. зямля бацькоў. Гэта – і дзяржава, і родны край, Радзіма, Бацькаўшчына, У Расіі – не супадае. "Отечество" – гэта дзяржава, а "Родина" – родная зямля...

*1991*

### Для роднага філфака

У канцы сакавіка 1992 года філфак БДУ перасяліўся з вуліцы Чырвонаармейскай на вуліцу Карла Маркса, у будынак былой ВПШ (Вышэйшай партыйнай школы). Цудоўны будынак! Для сябе рабіла "руководящая и направляющая", для сябе! Радуюся і ганаруся, што мне ўдалося вырваць у прэм'ера Кебіча згоду на гэта. "У мяне, сказаў, былі іншыя разлікі, але старшыню Камісіі па адукацыі не паслухаць не магу... Забірайце!"

Філфак – другі па колькасці студэнтаў факультэт БДУ. І – візітная картка ўніверсітэта для ўсіх гасцей. У размове з Кебічам я напіраў на гэта.

*1992*

### Агулам – трагедыя народа

Чаму так лёгка многія беларусы пад гнётам пілсудчыны прымалі "пальшчызну"? Галоўная прычына – сацыяльна-эканамічнае становішча: хочаш мець працу, хочаш выйсці ў людзі – запісвайся палякам і пераходзь у каталіцкую веру. Гэта – па-першае. Па-другое, у многіх была вельмі нізкая, а то і зусім нулявая нацыянальная самасвядомасць. Па-трэцяе, непрыязнасць да бальшавіцкай Расіі, страх перад Саветамі. І таму – лепш Польшча, лепш падацца ў палякі. Усё роўна – не сваё, не беларускае.

Ну а чаму адразу ж пасля вайны дзясяткі тысяч беларусаў-заходнікаў падаліся ў Польшчу, а ў 1958-м – яшчэ дзясяткі тысяч? Не прынялі калгасаў; самапраўства бальшавіцкіх улад. Не прынялі задушэння правоў асобы. Вось і падаліся. У пошуках лепшай долі.

Агулам – трагедыя няшчаснага славянскага народа.

*1993*

### Дзякую за… горкую праўду

Газета "ЛіМ" ад 8.VII.1995 г. пад назвай "Трэба дайсці!" апублікавала ліст настаўніцы з г. Гарадка Марыі Верціхоўскай. "Я напісала гэты ліст, – зазначае

аўтарка, – для “ЛіМа”, але – напісаўся ён у форме ліста для Вас, Ніл Сымонавіч, таму спачатку прачытайце, калі ласка, Вы”.

Прачытаў... І стала яшчэ больш сумна. Шчырая патрыётка Беларусі і беларушчыны М.І. Вярціхоўская незадаволена працай ТБМ, якое не змагаецца за родную мову, як трэба. У лісце шмат горычы, болю, шмат крытыкі і, на жаль, мала разумення рэальных прычын бядотнага становішча нашай мовы, нашай культуры і ўсяго нашага, без чаго мы – не мы. Галоўная прычына – адна: упусцілі момант. Аддалі ўладу нелюдзям. Калі б не аддалі – усё б ішло сёння іначай. Што цяпер можа зрабіць ТБМ, калі ўладу захапілі ворагі беларушчыны! ТБМ – культурна-асветніцкая арганізацыя...

Горкія папрокі робіць настаўніца Верціхоўская некаторым беларускім пісьменнікам. Горкія – і зусім справядлівыя. Ну, сапраўды, хіба не сорам і ганьба? Цытую: “Мяне вельмі засмучае і непакоіць, што ў многіх беларускіх паэтаў, пісьменнікаў рускамоўныя дзеці, што засведчыла і БТ. (...) За некаторых крыўдна і сорамна. Ведаю выпадкі агрэсіўных адносін да беларускай мовы дзяцей... беларускіх пісьменнікаў. І працуюць жа гэтыя “родныя дзеці” і ў ВНУ, выкладаюць, скажам, замежныя мовы...”

Ну, так: і вельмі крыўдна, і вельмі сорамна!.. Для каго ж гаворым высокапатрыятычныя словы? Для каго, урэшце, пішам свае беларускія кнігі?..

Дзякую, шаноўная настаўніца, за гэту горкую праўду.

*1995, снежань.*

### А хто гэты нехта?

Нехта кажа і кажа, што сацыялізм – заганная сацыяльна-палітычная сістэма, што капіталізм – лепш. А хто гэты нехта? Хто кажа?

А гэта той, хто паспеў нагрэбці сотні мільёнаў даляраў з народных скарбаў і хоча загрэбці яшчэ гэтулькі – каб і астатачка не пакінуць працоўнаму чалавеку. Ну дык канечне – для такога капіталізм лепшы. Пры сацыялізме – пры сапраўдным, г. зн. сацыялізме “з чалавечым тварам”, – так рабаваць багацці народа ён бы не змог.

*1999*

### Пачатак вялікага павароту

Паводле Цветана Стаянава ў балгарскай літаратуры 1960-х гадоў заўважаецца адыход ад ужо моцна запанаванай тэндэнцыі – творчасць паэтаў і пісьменнікаў павінна выконваць прапагандысцкую ролю (па Леніну – “партыйная арганізацыя і партыйная літаратура”). Паяўляюцца маладыя творцы (Іярдан Радзічкаў, Васіл Папоў, Любамір Леўчаў, Андрэй Германаў і інш.), у чыіх кнігах пачынаюць пераважаць маральныя праблемы. Гэтак жа, як і ў нас, у нашай савецкай літаратуры. Наступіла пара вялікага павароту – ад прапаганды ідэй да адлюстравання праўды жыцця.

*2000*

### Дык а чаго ж праслязіўся?

Глядзеў па тэлевізіі дакументальны кінафільм пра Коста-Рыку і праслязіўся. У фільме паказана, як дзесяці-дванаццацігадовыя дзеці выхоўваюць кракадзілаў. Ёсць такі асобы від гэтых “прыгажуноў” – надта карысныя. Божа, як іх выхоўваюць тамтэйшыя школьнікі! Колькі ў гэтых дзяцей дабрыні і любові...

Дык а чаго праслязіўся? Не ведаю. Але так ужо бывала са мной неаднойчы. Сентыментальным зрабіўся.

*2000-я*

## Па-над усімі талентамі

Класік балгарскай літаратуры славуты Элін Пялін наконт геніяў (дзе і якія яны ёсць) сказаў: “Калі ў Балгарыі, то гэта будзе геній зайздрасці”.

Не ведаю, наколькі гэта справядліва ў дачыненні да Балгарыі, а што да Беларусі – абсалютна так. І гэтая халуйская, лёкайская рыса, якая ідзе ад жабрацтва, не дасць нам падняцца. Зайздрасць па-над усімі талентамі ў нас, зайздрасць!.. Асабіста я спазнаў гэтую нашую геніяльнасць так, як, бадай, ніхто, ніводзін з беларускіх паэтаў – маіх сучаснікаў: і старэйшых за мяне, і равеснікаў, і маладзейшых. Не згадваючы дзясяткі ўсякіх повадаў іншых, скажу: толькі з-за паэмы пра Лысую гару зайздроснікі-злоснікі намнога ўкарацілі маё жыццё. О, колькі яны ўелі нерваў, колькі ўгрызлі сэрца!

Так што наконт генія зайздрасці мы, беларусы, можам з балгарамі пацягацца.

*2010*

## “О, неразумны і юродзівы!”

Хачу падаць тут – у перакладзе на беларускую мову – хоць невялікі ўрывачак са знакамітай “Гісторыі славянабалгарскай” Паісія Хілендарскага – з твора, які ўжо амаль дзвесце гадоў для сыноў і дачок Балгарыі ёсць галоўнай настольнай кнігай, ёсць для іх і найпершым падручнікам, і святым запаветам, – кнігай на ўзроўні Святога пісьма, то бок Бібліі, з удакладненнем: не толькі для балгараў набожных, а для ўсіх, для ўсіх, для ўсіх... Вось гэты ўрывачак:

“Пачуйце ж вы, чытачы і слухачы, родзе балгарскі, вы, што любіце і маеце пры сэрцы свой род і сваю балгарскую айчыну і жадаеце зразумець і знаць усё вядомае пра свой балгарскі род і пра вашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў, цароў і патрыярхаў, як яны адпачатку жылі і прабывалі. Для вас патрэбна і карысна знаць тое, што вядома пра справы вашых бацькоў, як знаюць усе іншыя плямёны і народы свой род і мову, маюць гісторыю, і кожны пісьменны з іх ведае, расказвае і ганарыцца сваім родам і мовай. (...) Але ж некаторыя не хочуць нічога знаць пра свой балгарскі род і звяртаюцца да агульнай культуры і чужой мовы і не клапоцяцца пра сваю балгарскую мову, але вучацца чытаць і гаварыць па-грэчаску і саромеюцца называцца балгарамі. О, неразумны і юродзівы! Ты часу саромеешся называцца балгарынам і не чытаеш і не гаворыш на сваёй мове? Хіба балгары не мелі царства і дзяржавы? Столькі гадоў царавалі і былі слаўнымі і вядомымі на ўвесь свет і шмат разоў бралі даніну з дужых рымлянаў і з мудрых грэкаў. І цары, і каралі аддавалі ім у жонкі сваіх царскіх дачок, каб мець мір і любоў з балгарскімі царамі”.

На сто дваццаць гадоў пазней за гэты зварот Паісія да балгараў, з падобным словам звярнуўся да суродзічаў, да дзяцей маці-зямлі беларускай Францішак Багушэвіч – першы народны паэт Беларусі. На жаль, яго прадмова да “Дудкі беларускай” не стала настольнай кнігай для ўсіх-усіх беларусаў, не стала першым – для ўсіх-усіх – падручнікам. Не стала Святым пісьмом.

Ну, дык вось і маем. Скора і апошняя беларуская школка звядзецца.

*2010*

## Не стрываў і нахуліганіў

Недзе ў пачатку 1990-х прачытаў у “ЛіМе” падборку “сцішкоў” аднаго вядомага аўтара – такіх нягеглых, бездапаможных, сырых, што не праглынуць, і я не стрываў і нахуліганіў, напісаў такую эпіграму:

Рэдакцыі газеты “ЛіМ” з нагоды апублікавання...

А ідры-ж вашу маць
З гэткімі сцішкамі:
Колькі браўся чытаць –
Варацаў кішкамі.

Занёс рэдактару тыднёвіка. Канечне ж, не для публікацыі. Той ухваліў і патлумачыў, чаму "сцішкі" паявіліся ў нумары: імя і пасада. Трэба лічыцца.

*2013*

### У той жа час...

М.Г. Булахаў, працуючы над трохтомным даследаваннем беларускага прыметніка, выпісаў 10 тысяч адзінак гэтай часціны мовы. У т. л. 260 прыметнікаў, якія з'яўляюцца праславянскімі. Праславянскімі!

Міжволі, з пачуццём нацыянальнага гонару, думаеш: дык якая ж багатая яна, наша родная мова! 10 тысяч прыметнікаў! Які агромністы духоўны скарб! І ў той жа час горка-іранічна ўсміхнешся: а колькі іх у нашым – кожнага з нас – лексіконе? Тысяча?

### Якая ганебная абыякавасць!

Газета ТБМ "Наша слова" (28.8.2014 г.) напомніла, што 140 гадоў таму ў Вілейцы нарадзіўся слаўны сын беларускага народа, гарачы патрыёт Бацькаўшчыны, нястомны змагар за роднае слова, бліскучы публіцыст, высокааўтарытэтны дзеяч, адзін з усенародна прызнаных апосталаў нацыі Аляксандр Уласаў. Чалавек-легенда з кагорты Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Ластоўскага і многіх-многіх легендарных іншых.

Каб не пералічваць усё астатняе, чым дарага нам імя Уласава, нагадаю толькі тры факты. Першы: Уласаў – заснавальнік і шматгадовы (1906-1914) выдаўца газеты "Наша ніва", ролю якой у гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння цяжка пераацаніць. Менавіта "Наша ніва" была тым магічным асяродкам, вакол якога гуртаваліся, дужэлі, развіналі крылы ўсе тагачасныя літаратурныя сілы Беларусі і складвалася, арганізоўвалася, набірала моц нацыянальна-патрыятычная журналістыка. Можна пэўна сказаць, што без той палымянай трыбуны, якою была "Наша Ніва", наўрад ці так хутка, так імкліва разгарнуўся б усенародны рух у падтрымку беларускага нацыянальнага адраджэння. Рух, які пераможна завяршыўся стварэннем БНР (сакавік 1918), затым стварэннем БССР (студзень 1919), і, нарэшце, абвяшчэннем незалежнай Рэспублікі Беларусь (1991). Другое: заснавальнік і выдавец беларускіх часопісаў "Лучынка" для дзяцей і "Саха" для сялян. Гэта – у той дакастрычніцкі час, калі толькі пачыналася абуджэнне нацянальнай самасвядомасці ў нашых сялянскіх масах і было архіважна весці асветніцкую працу ў родным слове. Трэцяе: калі палавіну Беларусі загрэбла Польшча (1921), ён, ва ўмовах дзікага каланізатарскага рэжыму, быў арганізатарам і адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, якое адыграла вельмі значную ролю ў змаганні заходне-беларускіх патрыётаў супроць гвалтоўнай паланізацыі.

Вось – толькі тры моманты, якія вылучыў у патрыятычнай жыццядзейнасці Аляксандра Мікітавіча Уласава. А многае (членства ў прэзідыуме Найвышэйшай Рады БНР, заснаванне беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны ў Радашковічах і інш.) я мушу, на жаль, апусціць.

Грамадска-палітычнай дзейнасць Уласава высока цанілася ўладамі: у 1909 годзе сядзеў у царскай турме, пры паляках – у канцлагеры ў Стралкове, а пры Саветах, у 1939 годзе быў арыштаваны органамі НКУС і праз год сасланы ў канцлагер на поўнач Расеі. Там у сакавіку 1941-га і скончылася яго жыццё. Ні-

хто не пераняў руку забойцаў, ніхто не закрычаў: за што арыштоўваеце? за што ссылаеце? За што? За сыноўскую вернасць Беларусі? За беззапаветную любоў да роднай беларускай мовы?

Такія імёны, як Аляксандр Уласаў, у цывілізаваных дэмакратычных краінах запісваюцца на скрыжалях нацыянальнай гісторыі залатымі літарамі. Пра якое золата можам гаварыць мы, нашчадкі вялікага беларуса, калі яго памяць увогуле не ўвекавечана на прасторах Беларусі: ніякім знакам, ніякім помнікам, ніякай вуліцай – хоць бы ў Вілейцы, калі не ў сталічным Менску. Не заслужыў!

Нават дзе тлеюць косці – невядома.

Якая ганебная абыякавасць да роднай Беларусі і беларушчыны!

*2014, жнівень*



запісы

Зянон Пазьняк



...гэта былі хвіліны шчасця,
бо неба і воблакі ў паветры,
і зямля, на якой стаяў,
былі мае...

# Гісторыі з савецкага часу

## Апалінар

З Апалінарам Пупко я быў добра знаёмы. Часта бываючы ў Івянцы, заўсёды заходзіў з мастаком Эдвардам Агуновічам (які тут афармляў музей), часам, каб проста пагаварыць.

Уваход у сядзібу знакамітага скульптара-разьбяра пачынаўся праз вялікую высокую браму, па баках якой стаялі драўляныя ваяры, а па вуглах дома – карыятыды, кшталту Атлантаў, якія падтрымлівалі гзымс. Ну а сама сядзіба, двор, майстэрня – цэлы музей.

Тады размова тычылася ўсяго, але часта – Фелікса Дзяржынскага, знакамітага бальшавіцкага бандзёра, першага чэкіста-энкавэдыста. Дзяржынскія жылі непадалёк, кіламетраў за 15, у фальварку Дзяржынава (на той час – канец 60-х – там засталіся толькі падмуркі). Апалінар казаў, што Дзяржынскія былі неблагія людзі, свайго не цураліся. Адзін з іх (брат Фелікса) нават супрацоўнічаў з “Нашай Нівай”, пасылаў туды нейкія допісы, падтрымліваў газету і беларушчыну.

Фелікса ён таксама ведаў і казаў, што “Фэлька пайшоў убок”, звязаўся з бальшавікамі. І з таго часу, кажа, “мы яго не бачылі”.

Дзяржынскага саветы называюць “палякам”. Зразумела, што тут за “паляк”. Але гэта той выпадак, калі лепш маўчаць і не заікацца пра яго “беларускасць”, бо сорамна.

Музей стваралі ў белай двухпавярховай мураванцы ў цэнтры Івянца ў канцы плошчы. У падвальным памяшканні гэтага дома ў столі былі ўмураваныя шматлікія жалезныя крукі. Звычайна гаспадары рабілі такія крукі ў столі, каб можна было на іх падвешваць сала ды кумпякі. Гэта бяспечна ад мышэй і пацукоў. У 1939-1941 гг., калі тут былі бальшавікі, яны выкарысталі крукі па-свойму. У падвале чэкісты катавалі людзей. Іх падвешвалі за ногі на гэтыя крукі, білі па жываце і ўсяляк здзекваліся. “А ў гэты час, – расказваў Апалінар, – на сходах дома сядзеў энкавэдыст і на гармоніку нешта іграў, каб заглушыць крыкі з падвалу”.

Такім чынам “жалезны Фэлька” нагадаў у Івянцы пра сябе.

Недзе ў пачатку 70-х гэбісты зацікавіліся Дзяржынавым і рашылі стварыць там філіял музея Дзяржынскага. Забягаючы наперад, скажу, што ў пачатку 2000-х, захапіўшы ўладу ў Беларусі, яны пабудавалі нейкую жоўтую будыніну, тыпу падмаскоўнай дачы наменклатуры. І гэта нягледзячы на тое, што захаваліся фатаграфіі рэальнага дома Дзяржынскіх.

Назіраючы ўсю гэтую гісторыю (а я ў канцы 60-х удзельнічаў у афармленні музея ў Івянцы разам з Эдвардам Агуновічам і Анатолем Рыбчынскім) дзіву даюся, як гэтыя гэбісты, недалёкія ўвогуле людзі, дакладна адчувалі чужую для іх беларушчыну і як разумелі (часам на інтуітыўным узроўні), што ім трэба знішчыць, бо беларуская культура (як яны лічылі) была для іх шкодная.

Фальваркавы дом Дзяржынскіх цікавы ў сваім архітэктурным стылі і тыпалогіі шляхецкіх сядзібаў у Беларусі. Ну навошта ж гэбістам тое адбудоўваць? Зляпалі дачу-абракадабру. І для іх добра.

Але пачатак гэтай гісторыі адбудовы бандыцкага фальварка быў макабарычны. Усё, што звязана з імем гэтага нашага жудаснага земляка, несла з сабой разбурэнне.

На пачатку 70-х Лубянка прыслала з Масквы ў Менск генерала КГБ, які павінен быў праверыць турыстычны шлях з Менска ў Дзяржынава. (“Все должно было быть чисто и не будоражить зрителя”.) ЦК КПБ на чале з 1-м сакратаром стаў перад генералам на заднія лапкі, затаіўшы прававерны дых. У праверачны шлях суправаджаць гэбіста паехаў сам сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Аляксандр Кузьмін. Першая “закаручка” трапілася генералу на вочы ў Кіяўцы.

– А это что за х...ня? – кажа генерал, паказваючы на старажытную драўляную царкву (канец XVIII стагоддзя).

– А это раньше была церковь, – адказвае Кузьмін. – Сейчас производственное помещение совхоза Маньковщина.

– Да? А крест зачем?

– Остался от культового здания.

– Снести крест к чертовой матери! – даў загад лубянец.

У Тупальшчыне на пад’ездзе да Падневіч адбылася (без перабольшання скажу) культурная катастрофа.

– Остановись! – скамандаваў генерал кіроўцу. – Что это такое? – і паказвае ўправа на ўзгорак, парослы старым хваёвым лесам і абгароджаны старажытным магутным каменным мурам з традыцыйнай беларускай разынковай муроўкай.

– А это старое кладбище, – кажа Кузьмін, які трошкі падрыхтаваўся да паездкі, тое-сёе пачытаў ды паслухаў.

– Да? А каменные стены зачем?

– Традиция, – адказвае Аляксандар Трыфанавіч, адчуўшы нядобрае. – Говорят, здесь похоронен в XIX веке известный белорусский писатель Дунин-Мартинкевич.

– Националист?

– Да нет, вроде либерал.
– Небось помещик, а?
– Помещик, боролся с царизмом.
– Да? Интересно, как это он боролся?
– Знаете, поддержал восстание.
– Какое восстание?
– Было такое восстание революционных демократов против царя в 1863 году. Вот этот Мартинкевич за это даже в тюрьме сидел.

Генерал задумаўся, пазіраючы на мур, а потым і кажа:

– Вот что, Трифонович, не надо всё это нам для людей выпячивать. Пускай ученые там разбираются, а стену здесь снести. И без промедления. Путь должен быть чистым.

Лубянец, відаць, прыйшоў у раж ад пачуцця сваёй каманднай значнасці. Літаральна праз тры кіламетры, выязджаючы з Падневіч, мінаючы праз масток раку Іслач і прыгожы заросла стаў з левага боку, масковец павярнуў галаву ўправа:

– Что это за старье?

– О, это старая мельница, стоит здесь, наверно, уже сто лет, а может и больше, – адказвае Трыфанавіч.

– Хмы... – хмыкнуў масковец, – мельница? Это же чертовщина! Да еще в полуразрушенном состоянии. Ну разве мы можем это людям показать? Компрометация страны. Убрать, и побыстрее! Вообще, всё старое убрать!

Не ведаю, ці сказаў Кузьмін у адказ сваё “будет сделано”, але разбурана і знішчана ўсё было надзвычай хутка. Калі мы з Таварыствам аховы помнікаў паспрабавалі неяк дастукацца да Кузьміна (не ведаючы яшчэ, што ён сам тут задзейнічаны), то Кузьмін (як нам казалі) вельмі ўзлаваўся і “выйшаў з сябе”: “Няхай не сунуць нос не ў свае справы”.

Але справы былі якраз нашыя і свае. Інтэлігенцыя, як на пахаванні – апусціла рукі. (Памятаю, Яўген Кулік, той проста плакаў.) Тады я кажу Валянціну Ждановічу, фотажурналісту “Маладосці”:

– Валянцін, сядайма на “Запарожац” і паехалі па слядах манголаў, можа, яшчэ што ўратуем, даведаемся, напішам.

Мы паехалі. Млын у Падневічах быў разбураны. Валялася яго вадзяное кола. Я меркаваў, што можа ўдасца дзе знайсці каваную (з канца XVIII ст.) жалезную браму могілак. Яна сама па сабе была твор мастацтва.

Мур знішчылі наступным чынам. Прыгналі экскаватары і па перыметры знешняга боку выкапалі глыбокі роў. Потым магутнымі бульдозерамі спіхнулі мур у гэты роў, засыпалі і зараўнялі, а зверху паставілі рэдзенькі драўляны штыкетнік.

Неўзабаве мы даведаліся, хто гэта рабіў, хто кіраваў і да т.п. Паехалі шукаць тую вёску і той калгас (назвы цяпер не памятаю). Знайшлі. Заходзім у кантору калгаса, вітаемся, называемся, пытаем, дзе старшыня. У канторы незразумелае замяшанне і нібы перапалох. Потым нейкая асоба сказала, што пойдзе яго “шукаць”.

Хвілінаў праз пятнаццаць у дзверы ўвальваецца мардаты тып з саломай у валасах і пакамечаным тварам. Паглядзеў на нас злосна. Усё стала зразумела. Тут павінен быў быць доўгі падыход, магчыма нават з перспектывай на бутэльку (ад якой яго толькі што адарвалі).

Мы не паспелі дамовіцца пра свае паводзіны ў такіх нечаканых абставінах, і гаворку нецярпліва адразу пачаў Валянцін (якога распірала), прытым у лоб. Мардаты тып пачаў крычаць, што нічога не скажа. Дэбют быў сапсаваны, і гаварыць далей не мела сэнсу. Выйшаўшы, я Валянціну, праўда (хоць і маладзейшы ад яго), “уваліў” за яго недыпламатычнасць.

У Кіяўцы побач з царквой ляжала прыгожая спілаваная вежачка з крыжом.

Такія вежачкі мы бачым у беларускай архітэктуры з XVI стагоддзя. Тут была непарушаная традыцыя.

Мы паехалі ў Манькаўшчыну і размаўлялі з сакратаром партыйнай арганізацыі. Ён сказаў нам, што меў праблемы, бо ніхто ў ваколіцы не згадзіўся пілаваць крыж ні за якія грошы. Тады, кажа, Чайка (быў такі цемрашал у Валожыне, сакратар райкама) прывёз нам нейкага п'яніцу. Ляжаў пад плотам у Валожыне. Чайка яго падняў і прывёз. П'яніца, калі працверазеў, палез і спілаваў крыж.

– І што мяне абурае, – казаў нам сакратар з Манькаўшчыны (відаць, мясцовы чалавек), – што п'яніцу прывезлі з Валожына, а грошы прымусілі плаціць мяне. Амаль усю партыйную касу яму аддаў.

– Колькі заплацілі?

– 200 рублёў.

– О, пэўна, што пераплацілі, – кажу я. – Ёсць такса, хапіла б трыццаці. (Праўда, сакратар, здаецца, нічога не зразумеў.)

Пазней, будучы ў прафілакторыі пад Ракавам, я спаткаў медсястру з Манькаўшчыны і запытаўся, ці не ведае яна, што сталася з тым п'яніцам з Валожына.

– А ведаю, – кажа яна, – здох пад плотам.

Гісторыяў такога нішчэння культуры я ведаю сотні. Прааналізаваўшы, бачыш жудасную сістэму этнацыду, пагрунтаваную на нянавісці да ўсяго беларускага. Часам пры гэтым казалі розныя фальшывыя словы, прыдумвалі абгрунтаванні. Але словы не мелі значэння, бо вынік быў аднолькавы: разбурэнне і культурная катастрофа.

У 1969 годзе, падарожнічаючы па Прыпяці і Гарыні, мы (гэта Валянцін Жданові, Уладзімір Караткевіч і я) заплылі ў Давыд-Гарадок і пайшлі на старыя могілкі паглядзець на знакамітую Юраўскую драўляную царкву, якая захавалася з першай чвэрці XVIII ст. Каля царквы мы ўбачылі вялікія (пад два метры) каменныя крыжы з дзівоснай пластыкай укрыжаванага Езуса. Мы былі ўражаныя іх хараством і пластычнай выразнасцю гарэльефа. "Гэта нейкая невядомая, неапісаная яшчэ мастацкая школа пластыкі", – казалі мы і меркавалі, што крыжы маглі сягаць нават у XVIII стагоддзе. Пры бліжэйшым разглядзе, я думаю, што гэта ўсё ж XIX-е. Крыжы фармаваныя ў бетонных формах, зробленых дасканала. Але ў прынцыпе галоўнае было тут не ў датаванні, а ў іх эстэтычным хараstве. Крыжоў было шмат, больш за дванаццаць.

Паколькі царква была пад аховай дзяржавы, мы падумалі, што трэба неяк забяспечыць афіцыйнае захаванне крыжоў, бо некаторыя валяліся, паваленыя на зямлі, аб іншыя – хуліганы разбівалі бутэлькі.

Вырашылі, што ідзем у гаркам партыі (галоўную на тыя часы "інстанцыю" ўлады) і робім афіцыйную прапанову аб забеспячэнні захаванасці гістарычнай каштоўнасці. (Да гэтага часу не магу надзівіцца нашай наіўнасці – тры дарослыя вопытныя дзядзькі!)

Заходзім, паведамляем, хто мы і наконт чаго. Нам кажуць: "Шчяс, падаждзіця". Уваходзіць дама – сакратар па ідэалогіі, асоба ў чорным касцюме азіяцкай знешнасці з раскосымі вачыма, строгая і дзелавая. Я шапчу: "Валодзя, па-руску!"

Валодзя пачаў па-руску, старанна артыкулюючы шыпячыя і мяккае "р". Дама ўсё запісала (у тым ліку і прозвішча Караткевіч, якое, магчыма, чула ўпершыню).

– Хорошо, примем к сведению, – суха прамовіла ў канцы гэтая "манголяй".

Запанавала маўчанка. Дама глядзела на нас, мы – на яе. Гаварыць не было пра што. Сказаўшы яшчэ пару прыстойных фраз "о ленинской политике партии в области культуры", мы развіталіся і пайшлі, задаволеныя сабой, што падстрахаваліся.

У Менску я адразу пайшоў у сектар Збору помнікаў гісторыі і культуры Акадэміі навук і сказаў каму трэба пра крыжы (каб запланавалі экспедыцыю).

Праз месяц нашыя сябры паехалі ў Давыд-Гарадок. Крыжоў не было. Частка ляжала, патрушчаная на кавалкі. Астатнія бясследна зніклі.

У гэтым жа часе я выявіў дзівосны мураваны млын у Зараччы пад Браславам. Разынковая муравanka была выкладзеная кветкамі, фігурамі людзей, птушкамі, зоркамі, буслямі. Я зрабіў здымкі, надрукаваў артыкул у “Маладосці” пра “беларускі каменны арнамент”, уключыў выявы ў фотаальбом “Браслаўшчына”. Праз год млын разбурылі, знеслі, ліквідавалі. І доўга ляжалі адны руіны.

Потым я фатаграфаваў шмат чаго ўнікальнага ў Беларусі, але сказаў сабе: пакуль саветы тут будуць, друкаваць не стану. Бо калі не саветы разбураць, то чужы пражэрлівы подлы турыст нашкодзіць, ці проста скрадзе.

Я думаў тады: некалі ж прыйдзе, настане светлы час, дзеля якога варта жыць і змагацца, змагацца і жыць.

*24 чэрвеня 2013 г.*

## Лявон

Так супала: рамантызм у мастацтве і ўтварэнне нацыяў і новых краін. А паколькі супала, то няма ніякіх перашкодаў думаць, што рамантызм выхаваў новы тып асобы, здольнай ахвяраваць дзеля дабра ўсіх, дзеля вялікай светлай ідэі, за якую можна было пайсці на барыкады і смерць. Тут няма месца сквапнасці, меркантыльнасці, дзеянням дзеля ўласнай выгады, але ёсць пакліканне, пасвячэнне і любоў.

Эпоха рамантызму – магутная з’ява ў мастацтве. Яна доўжылася, практычна, больш за стагоддзе, захапіла літаратуру, музыку, жывапіс, архітэктуру (гістарызм) і тэатр. Потым распалася на часткі, перафармавалася ў сецэсію і мадэрн. У сэцэсіі адбылася дэманізацыя духу рамантызму, злучэнне ўяўленняў паганства, эстэтыкі Усходу і прэтэнзіі багатых, але малаадукаваных людзей на рэспектабельнасць і стыль. Можна параўнаць: як маньерызм стаў дэградацыяй рэнесансу, гэтак сэцэсія адлюстравала распад і ўпадак рамантызму.

Аднак, я не пра мастацтва, але пра адбітак яго ідэй у каштоўнасцях і перажыванні чалавечага духу.

Нацыянальнае адраджэнне ўспрыняло рамантызм як каштоўнасную мадэль паводзінаў у жыцці дзеля Айчыны. Людзі ішлі да людзей – у вёскі настаўнікамі, каб вучыць дзяцей дабру, культуры, мове, айчыннай гісторыі; лекарамі, каб лячыць народ, дапамагаць; кніганошамі, каб распаўсюджваць роднае слова; акторамі, каб несці са сцэны карціны народнай красы ды ідэі яднання; ксяндзамі, каб настаўляць паству ў любові да Бога, бліжняга, роднага і свайго, і нават баламутамі, каб падбіць сялян на змаганне.

Рамантызм паўплываў на палітыку (народнікі, адраджэнцы, будзіцелі) і асвету, на выхаванне, на грамадскія ідэі, сям’ю.

Ідэі апрашчэння, вяртання да народных вытокаў, ідэалізацыя сялянства ў XIX – пачатку XX стагоддзяў шырока адлюстраваліся ў літаратуры, мастацтве, тэатры Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, дзе (у адрозненне ад Захаду) было яшчэ духоўнае жыццё і кансалідаваўся народны рух.

Гэтыя тэмы і ідэйны кшталт выразна адбіліся ў творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Элізы Арэшкі (Ажэшкі), Станіслава Выспянскага, Льва Талстога.

Па сіле ўздзеяння на мадэль паводзінаў патрыятычнай моладзі ў грамадстве былой Рэчы Паспалітай, відаць, найбольшы ўплыў меў Станіслаў Выспянскі сваім знакамітым “Вяселлем”, упершыню пастаўленым на кракаўскай сцэне ў 1901 г., якое потым увайшло ў польскі тэатральны рэпертуар дзе толькі магчыма.

Фабулярная дзея п’есы заключаецца ў тым, што адукаваны паэт-інтэлігент, жыхар сталіцы і госць салонаў жэніцца з патрыятычных перакананняў (але па

каханні) з вясковай дзяўчынай, прыгожай, але простай, без асаблівых задаткаў і, зразумела, неадукаванай. Фонам у калізіі да тэмы ідзе галерэя вобразаў, дыялогаў і сентэнцый, якія паказваюць няздольнасць тагачаснага польскага грамадства змагацца за незалежнасць і свабоду.

Сацыяльным вынікам паказу "Вяселля" сталі рэальныя факты пераймання фабулы п'есы ў паводзінах людзей, якія данёс да нас тагачасны польскі друк. Польскія інтэлігенты-патрыёты нават шляхетнага паходжання сталі жаніцца з простымі сялянкамі і простымі дзяўчынамі, мяркуючы гэтым умацаваць здаровы сямейны патрыятычны дух і народную справу Польшчы праз аўтэнтычную польскую сям'ю.

У рэальнасці нічога добрага з гэтага не атрымалася (і не магло атрымацца), акрамя шкоды і ўскладнення лёсу. Але досвед такі быў. Як кажуць – тэорыя пацвердзілася практыкай.

Усе гэтыя рэмінісцэнцыі з гісторыі і мастацтва ўплываюць у мае думкі, калі ўспамінаю пра свайго добрага загінулага сябра – мастака Лявона Баразну.

Лявон нарадзіўся на Талочыншчыне 4 снежня 1928 года. Адбыўшы савецкае войска, вучыўся ў Менскім мастацкім вучылішчы па класе жывапісу. Але ўжо ў вучылішчы яго захапіла народнае мастацтва. Як прыроджаны мастак, ён убачыў тут такую глыбіню, харaство і дасканаласць эстэтычнай формы, што (акрамя захаплення) вырашыў цалкам рацыянальна пасвяціць сябе яго збіранню, асэнсаванню і пашырэнню ў творчае нацыянальнае жыццё. У 30-я гады і пасля вайны беларускае мастацтвазнаўства было практычна знішчана савецкім НКВД. Адраджаць трэба было ўсюды ўсё амаль што з нуля. Якраз памёр Сталін (1953 г.), і ў грамадскай атмасферы крыху пасвяжэла.

Лявон купіў капялюш, дажджавы плашч, закінуў за плечы паходны мальберт, кайстру з паперай, фарбамі, алоўкамі, узяў у рукі кій і пайшоў пехам па вёсках Беларусі збіраць, замалёўваць, фатаграфаваць творы народнай творчасці і ўжытку (найперш, адзенне, вопратку, арнамент).

Пра хлеб надзённы Лявон не пераймаўся, бо лічыў, што ў сваім народзе не прападзе. І не прапаў. Аднойчы зімой, ідучы па дарозе, ён захварэў. Адчуваў, што была моцная гарачка. Яго трэсла і аж вадзіла, кружылася галава. Над вечар дайшоў да нейкай вёскі, пастукаў у хату, папрасіўся пераначаваць, сказаў, што захварэў. Гаспадар паглядзеў на яго, пайшоў у сені і прынёс запыленую бутэльку з чорна-бурай вадкасцю. Адліў сабе чвэрць шклянкі, выпіў і потым – больш за палову Лявону і кажа: "Пі!"

– Што гэта? – спытаў Лявон.

– Настойка мухамораў на гарэлцы. Куляй, і заўтра будзеш здаровы.

Лявон выпіў. Яго паклалі на кажухі і кажухамі накрылі. Ён адразу праваліўся ў сон.

Прачнуўся днём адзін у незнаёмай святліцы. Была незвычайная лёгкасць у целе і ясная галава. Вярнулася здароўе.

Шмат было прыгодаў на гэтай яго дарозе. Пра некаторыя я пісаў раней, але не пра ўсё.

Была тады яшчэ прыгода, якая паўплывала на яго жыццё. Аднойчы ён начаваў у нейкай вёсцы. На раніцу селі з гаспадаром за стол перакусіць ды пагаварыць перад дарогай. Лявон усё кідаў позіркі на печ, дзе за фіранкай сядзелі, шапталіся і хіхікалі гаспадарскія дочкі. Адну ён прыкмеціў з вечара, і позіркі яго, як кажуць у такім выпадку, былі мэтанакіраваныя.

Гаспадар прыкмеціў і пытае:

– Дык што, можа каторая падабаецца?

– А ведаеш, гаспадару, падабаецца, – рагоча Лявон.

– Ну, дык бяры, калі падабаецца, – смяецца ў адказ дзядзька.

– А што, аддасі? Не шкода?
– Добраму чалавеку не шкода, – кажа дзядзька.
– Сур'ёзна?
– Якія жарты? Пойдзеш? – гукнуў ён за фіранку. Маўчанне. – Бачыш? Пойдзе, бо маўчыць.
А тады Лявон і кажа да дзеўкі:
– Збірайся. Паедзем.
Тая сабралася, і яны паехалі.
Выспянскі пісаў сваё "Вяселле" з натуры, з рэальнага факту, і да такога сюжэта, як з Лявонам, упэўнены, ніколі не дадумаўся б.

Тут мушу, аднак, зрабіць невялікае адступленне ад апавядання, каб зазначыць, што сямейныя праблемы майго сябра Лявона – гэта адлюстраванне становішча ўсёй беларускай адраджэнскай і патрыятычнай інтэлігенцыі таго часу, праблемы, якая ўзнікла на хвалі савецкай русіфікацыі і антыбеларускай палітыкі КПСС. Становішча стварылася настолькі крытычнае, што беларускаму інтэлігенту-адраджэнцу стала вельмі складана запачаткаваць паўнацэнную беларускую сям'ю. Практычна ўсе маладыя жанчыны з вышэйшай і сярэднеспецыяльнай адукацыяй (савецкі клас інтэлігенцыі), якія належалі да інтэлектуальнай, тэхналагічнай (медыцынскай, педагагічнай і да т.п.), творчай працы плюс сфера абслугі – практычна ўсе яны стоадсоткава былі зрусіфікаваныя, прытым ў большасці з неабарачальнымі ментальнымі зменамі. Ніхто з іх не гаварыў па-беларуску. Здавалася б, усё мусіла б быць наадварот. Жанчыны як больш кансерватыўны элемент павінны б больш захаваць мову. Але руская школа, аказваецца, у першую чаргу замбавала дзяўчынак. Вырашала школа, а не асяроддзе.
Для нас, маладых інтэлігентаў-беларусаў, гэта была сапраўдная жыццёвая трагедыя, банальная і прымітыўная – проста немагчыма было дабраць сабе пару. Пасля першага яе пытання – «почему разговаріваете по-белорусскі» – было другое: «зачем этот белорусскій язык?» Пасля другога трэцяе, такое ж. А потым пачынаўся галаўны боль.
Я ўсё гэта перажыў сам і ведаю, як вырашалі сямейнае ўладкаванне мае калегі і сябры. Мала каму пашанцавала, і праз мытарствы прайшла бальшыня. Мне добра вядомыя перэпетыі гэтай сацыяльнай праблемы нашага пакалення (амаль не адлюстраванай, як ні дзіўна, ні ў літаратуры, ні ў публіцыстыцы), але гэта ўсё ж асобная вялікая тэма, якую я тут не буду далей працягваць, аднак, гаворачы пра свайго сябра, часткова не мог абмінуць.
Лявон быў чалавек аптымістычны і рашучы, моцна верыў у свае магчымасці. Гэта яму спрыяла ў жыцці, але часта штурхала на вырашэнне складаных і нават тонкіх задач простымі метадамі. У праблеме стварэння беларускай сям'і ён прытрымліваўся рамантычнай пазіцыі апрашчэння і вялікіх клопатаў не бачыў. Галоўнае, каб жонка была беларуска з добрым сэрцам і шанавала сваё. Астатняе набудзецца, не патонем. Можна ажаніцца хоць з пастушкай, хоць з даяркай. Калі ў жанчыны ёсць здаровы беларускі грунт, то жонка будзе такой, як зробіш. Шчыра кажучы, мне гэта імпанавала. Я лічыў гэта сапраўдным мужчынскім падыходам. Можа, і сам паўтарыў бы ягоны «подзвіг», калі б жыццё ў каторы раз на простых прыкладах не перакуліла ўсё дагары нагамі.

Лявон прывёз маладую жонку ў Гародню, дзе працаваў у мастацкіх афармленчых майстэрнях, карыстаўся там вядомасцю ды павагай, меў неблагі заробак. Неўзабаве яны ўехалі ў новую двухпакаёўку, і Лявон уладкаваў сваю сужэніцу з чатырма класамі адукацыі ў вячэрнюю школу, каб вучылася. Пачаў шукаць ёй працу. Але тут яна зацяжарала, вучобу кінула, а працаваць не хацела. Галоўны яе

клопат стаў назіраць, каб муж прыносіў дахаты грошы, каб позна не прыходзіў, і даведвацца, дзе быў. А творчае жыццё мастака вядома якое. Ёй жа тое было незразумелае. Як з'явілася дзіця, у яе сфармавалася асаблівая манера размаўляць з мужам гучным крыкам, так, як крычаць, бывае, вясковыя бабы на мужыка п'яніцу. Калі ёй што не падабалася, яна не ўмела спакойна пра тое сказаць, не разумела, што значыць стрымлівацца ў словах. Увесь час гаварыла крыклівым голасам. Лявон спрабаваў ёй тлумачыць, чаму трэба не павышаць голасу, чаму трэба стрымлівацца, чаму трэба казаць абавязковыя словы "дзякуй", "прабач", "калі ласка", "ці можна?", "калі ты не супраць" і г. д. Яна слухала, а потым зноў, як заезджаная кружэлка: "што думаю, тое й кажу" (дакладней, тое і крычу).

Лявон сачыў за яе мовай і тлумачыў, чаму нельга перамешваць мову чужымі словамі. "Мы ўсюды гаворым па-беларуску, бо жывем у сваёй краіне, – казаў ён. – Калі хто чаго не разумее, то ты скажы, што трэба шанаваць родную мову. Прыйдзе час – і ўсё пераменіцца. І не дыскутуй, паварочвайся і ідзі".

Жонка слухала і пагаджалася. Але з гэтага было мала толку. Лявон браў яе на вернісажы, у мастацкія кампаніі і да т. п. Там яна звычайна маўчала, не праяўляла сябе ніяк.

Калі набліжалася здача замовы ці падціскалі тэрміны, то, звычайная справа, – трэба было працаваць дзень і ноч, прыходзіць позна, часам начаваць у майстэрні. Жонка, як правіла, пачынала скандаліць, падазраваць, дапытвацца, крычаць. Лявон разумеў, што яе паводзіны выкліканыя перайманнем нейкіх ідыёцкіх савецкіх стэрэатыпаў паводзінаў некультурных людзей. Ён быў збянтэжаны і крыху разгублены, зразумеў, што прывёз "ката ў мяшку". Але не хацеў адразу прызнаць сваёй памылкі, не пакідаў надзеі. Спрабаваў нават сам яе вучыць, абклаўшыся падручнікамі за пяты клас. Увесь час даводзіў ёй, што не можна зацыклівацца на грошах (тым больш, што на пражыццё хапала). Казаў, што трэба вучыцца, развівацца, дапамагаць Беларусі, берагчы культуру і г.д. Спрабаваў навучыць яе ткаць беларускія паясы і дываны, швачную машыну купіў. Мала толку. Яны арыентаваліся на абсалютна розныя сістэмы каштоўнасцяў, у іх быў супрацьлеглы прынцып успрыняцця каштоўнасцяў (ідэальна-грамадзянскі і матэрыяльна-бытавы) і ўражлівае несупадзенне культурных запатрабаванняў. Пры гэтым яна лічыла свой падыход правільным (маўляў, як ва ўсіх людзей), а ўзровень мужа – ненармальнасцю.

Зразумела, што з Лявонавага шлюбу, ва ўмовах, у якіх яму выпала з такой жонкай жыць, нічога добрага не магло атрымацца.

Рана ці позна ён мусіў быў прызнацца ў сваім бяссіллі нешта перамяніць, у сваёй памылцы і ілюзіях, а значыць і ў сваёй віне за непрадуманы крок і за ўсё, што сталася.

Такія павароты часам здараюцца (ды й тое больш у літаратуры) з маладымі ўзнёслымі дзяўчатамі, якія нафантазавалі сабе прынца, рыцара без страху і папроку, а замуж вышлі за сукінага сына з фізіяноміяй Алена Дэлона. А тут, во, можна сказаць, дзядзька, войска адслужыў і пагарэў на вясковай рамантыцы. Рамантычны шлюб разваліўся. Сяганне да карэнняў змарнавалася. Разышліся, як сышліся, пусціўшы на свет няшчаснае дзіця, доступ да якога Лявону быў нялёгкі (трагедыю гэтую я назіраў сам).

Патрыятычны рамантызм сыграў з Лявонам злы жарт. Калі б тая дзяўчына засталася ў сваёй вёсцы і выйшла б замуж за якога-небудзь свайго Віцьку, усё было б добра. Жылі б сабе і дзяцей напладзілі. Тут жа, як кажуць, здарылася, як здарылася.

Лявон пакінуў жонцы ўсё. Сам пайшоў, як стаяў. Вырашыў дагнаць страчанае і першым чынам прыехаў у Менск ды паступіў у Мастацкую акадэмію на аддзяленне ўжытковага мастацтва.

Нядзельным днём я сядзеў адзін у інтэрнацкім студэнцкім пакоі. У дзверы пастукалі. Зайшоў чалавек гадоў 35 у светлым паношаным бежавым паліто і зялёным капелюшы. “Баразна”, – працягнуў ён мне шырокую далонь. Аказалася, што інстытут выдзеліў яму інтэрнат і пасяліў якраз у той пакой, дзе быў я. Гэтак мы пазнаёміліся і сталі сябрамі на ўсё жыццё.

Пасля забойства сябра мне не раз прыходзілася пісаць пра ягоную дзейнасць, працу і творчасць, пра мастацкія альбомы беларускіх строяў і адзення, якія ён зрабіў у выніку вандровак, пра даследванне графікі Францыска Скарыны, пра ягоную творчую падтрымку народных калектываў, жывапіс і акварэлі, ды шмат яшчэ пра што. Не пісаў, аднак, пра падзеі яго асабістага жыцця.

Цяпер мінула шмат гадоў. Памяць захавала гісторыі і здарэнні, веданне пра іх можа быць карысным іншым дзеля разумення свету, у якім мы жывём.

Лявон вучыўся і пастаянна працаваў, ствараў эскізы касцюмаў для мастацкіх калектываў, быў у раз’ездах ды вандроўках. Неўзабаве мы арганізавалі ў інстытуце суполку АБМ (Аматары Беларускага Мастацтва). Лявон звазіў “аматараў” у Піцер паглядзець на беларускія скарбы ў расейскіх музеях. Студэнты вярнуліся ўражаныя і ўдзячныя. Я тады разам з Алесем Лабанком, Алесем Ціхановічам і Галінай Бальчэўскай узяўся падрыхтаваць вечар беларускай паэзіі, дзе чыталі вершы заходне-беларускіх паэтаў Васілька, Родзевіча, Сваяка, запрасілі Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча. Была поўная зала (а гэта асобаў 300-350) і вялікі розгалас, у выніку якога на нас пачаўся ціск і праз нейкі час мяне вытурылі з інстытута.

У інтэрнацкім пакоі нас было пяцёра студэнтаў: Лявон, я, Барыс Луцэнка, Валодзя Балабохін і Валодзя Таміла. Праз пару гадоў у выніку дзейнасці АБМ ціск пайшоў і на Лявона. Ягоная былая вясковая жонка панапісвала на яго (“какой он негодяй”) кучу лістоў у інстытут, у Міністэрства культуры, у Саюз мастакоў. Рэктар Павел Масленнікаў – чалавек здаровага сэнсу, які ведаў тую “справу”, выкідваў іх у сметніцу. Але потым кіраўніцтва інстытута змянілася, і Лявону даводзілася даваць тлумачэнні.

Аднойчы позняй восенню Лявон прыйшоў позна, быў сумны і заклапочаны. Потым кажа мне, што не ведае, што рабіць, дрэнныя справы. Даў мне пачытаць ліст. Гэта быў ліст дзяўчыны, вясковай настаўніцы (піянерважатай), закаханай у Лявона, якую душылі і пераследвалі ў школе за беларускія погляды і за знаёмства з “нацыяналістам” Баразной, прышывалі ёй “амаралку”, ставілі пытанне аб выгнанні з працы. Ліст быў шчыры і добры, адчувалася светлая істота і збянтэжаная душа. Нічога яна не прасіла, толькі пісала словы міласці, сведчыла, што ёй цяжка і не ведае, што рабіць – яе імя зганьбілі на ўвесь раён. Мяне моцна праняло тое, што я прачытаў.

– Ну, бачыш, – кажа Лявон, – сабакі, псіны, задзюбаюць дзяўчыну. А? Не ведаю, што рабіць.

Я распытаў пра іхнія адносіны, ці даўно яе ведае і да т.п., але, ведаючы яго гісторыю з вясковай жаніцьбай, маўчаў. Лявон то сядзеў, то ўставаў, то глядзеў у вакно. “Затуркаюць, псіны, зацюкаюць!” – абураўся. А потым глядзіць на мяне і кажа неяк па-дзіцячы (а сам старэйшы ад мяне на 15 гадоў):

– Ну дык што тут рабіць?

Тады я кажу:

– Калі ты хочаш уратаваць яе ад ганьбы і пераследу і калі яна для цябе нешта значыць, то ёсць толькі адзін шлях, які ўсё вырашыць.

– Ну?

– Жаніся. Бяры яе з ксяндзом, папом ці без папа, прывозь сюды ў Менск, і хай яны там падушацца. Так, як напісаны гэты яе ліст, дрэнная дзяўчына не піша. Тут без фальшу. Светлая душа.

– Дык кажаш – жаніцца? – Лявон ажывіўся.

– Рашай сам, – кажу, – толькі цяпер. Збірайся і едзь. Цягнік на Гародню ў 23.50.

– А і праўда. Усё. Еду.

Лявон хутка сабраўся. Потым кажа:

– Халера, і гальштука няма.

Я даў яму свой чырвоны гальштук:

– Во, – кажу, – якраз вельмі добра, да піянерважатай едзеш. – Лявон засмяяўся, і мы паляцелі на вакзал.

Праз нейкі час Лявон прывёз маладую жонку Марылю, разумніцу і з гумарам. Яна адразу ўпісалася ў нашае мастацкае беларускае жыццё. Кватэру яны нанялі непадалёк ад мяне, у раёне "Возера". Неўзабаве адна за адной нарадзіліся дзве дзяўчынкі. Лявон хадзіў заўсёды вясёлы і ўвесь час жартаваў. Працаваў ён Галоўным мастаком Мастацкага фонду Саюза мастакоў БССР, займаўся любімай справай, быў вельмі вядомай і пазнавальнай асобай у культурным жыцці Беларусі.

15 жніўня 1972 года яго забілі ў цэнтры сталіцы, як стала зразумела, у выніку распрацоўкі савецкага КГБ па барацьбе з беларускім нацыяналізмам. Забойцы – два браты-крымінальнікі, расейцы, дзеці палкоўніка КГБ, які займаўся аховай Дома ўраду. Суд і камуністы ўсяляк стараліся выгарадзіць забойцаў, каб прысудзіць ім меншы тэрмін. Асноўны забойца адмовіўся даваць паказанні і цвердзіў увесь час толькі тры словы: "Я сын Сталіна". Яго гэтаму падвучылі, інакш бы шмат што адкрылася.

Забойства Лявона Баразны ўскалыхнула тады нас усіх. Гэта была вялікая страта для Беларусі. Яго магіла, як і магіла Каліноўскага, і сотняў іншых ахвяраў Масквы, засталася неадпомшчанай, і гэты спіс павялічваецца.

*6 траўня 2013 г.*

## Сем сорак

Некалі ў канцы шасцідзясятых мне давялося быць у Бабруйску. Там я спаткаў свайго сябра Міхася Каладзінскага – актора лялечнага тэатра, з якім мы акурат вучыліся ў аспірантуры па спецыяльнасці тэатразнаўства. Тэатр гастраляваў у горадзе, і мы, перакінуўшыся словамі, пайшлі ў бабруйскі рэстаран павячэраць і пагаварыць.

Бабруйск за саветамі выглядаў адметным горадам. Там жыло шмат габрэйскага насельніцтва, якое ацалела пасля вайны. Калі зранку прыязджаеш на бабруйскі рынак, то нібы на Блізкі Усход. Людзей ужо шмат. Увесь час пад'язджаюць то грузавікі з калгасаў, то проста фурманкі, з якіх выладоўваюцца вясковыя цёткі з кашамі, "вандзэлкамі", вёдрамі, бідонамі, хатулямі. Тут жа да іх пад'язджаюць габрэйскія "рыкшы" (як я іх назваў) з двуколавымі самаробнымі вазкамі і так дзелавіта і сур'ёзна пачынаюць накладаць увесь гэты тавар на свае каламажкі. Цёткі, бывала, камандуюць: гэта туды, тое сюды, з гэтым асцярожна. "Ну, усё, Іцка, вязі вунь туды ў канец". Іцка вязе, а баба ідзе збоку і па рынку разглядаецца. "Рыкшы", як правіла, усе людзі пажылыя, відаць, бедныя пенсіянеры, і апранутыя надзвычай блага, у нейкіх старых "фуфайках" (савецкая вопратка зэкаў і калгаснікаў), залатаных каптанах, стаптаных чаравіках. Зарабляюць яны няшмат (даюць капейкі), але за дзень, відаць, крыху набіраецца. "Рыкшаў" вельмі шмат.

Ужо гадзінаў каля 11 з'яўляюцца на рынку габрэйскія кабеты – хатнія гаспадыні. Яны ходзяць каля латкоў, грузавікоў, фурманак, выбіраюць курэй, мацаюць, гандлююцца. Увесь рынкавы народ, як я тады думаў, ну якраз, відаць, як сто гадоў таму. Я, канечне, памыляўся. Тое, што я бачыў, была савецкая бедната, якая выжывала, як умела. Калі б бальшавікі ліквідавалі рынкі, – народ задыхнуўся б. А так – была нейкая аддушына.

Атмасфера на рынку была ўвогуле надзвычай прыхільная. Прыемна там было круціцца. Спакойныя позіркі, жарты, беларуская мова і ўсе – свае. Я заўважыў, што Іцка гаварыў па-беларуску, і нават некаторыя хатнія гаспадыні гандляваліся з цёткамі, устаўляючы цэлыя беларускія фразы ў свой рускі “пранонс”.

У сэнсе мовы габрэі ўвогуле фенаменальны народ. За саветамі яны падтрымлівалі ўладу і гаварылі па-расейску. Але, як правіла, яны ведалі беларускую мову, а калі не ведалі і (калі трэба), то гаварыць па-беларуску яны маглі ўжо праз тры дні, а то і праз ноч. (Тым часам ведаю шмат беларусаў, якія пастаянна ашываліся каля беларускага руху і гадамі не маглі слова сказаць па-беларуску. Таксама фенаменальны народ.)

Апалінар Пупко мне расказваў, што калі ў 1939-м у Івянец прыйшлі бальшавікі, то першымі пабеглі іх спатыкаць местачковыя габрэі. Назаўтра яны ўжо сядзелі ў сельсавеце, райсавеце, загсе, райфо, райпо, сельпо – ва ўсіх органах савецкай улады і ўсе (!) гаварылі па-руску. Фантастычна! Пры Польшчы ж ніхто нідзе не гаварыў і не вучыўся па-руску. Калі хто казаў па-руску, то і “загрымець” можна было – лічылі, што бальшавік. А тут – за ноч усе па-руску.

Надзвычай мабільная супольнасць. Жывучы на Захадзе, я назіраў, як адбываюцца выбары ў Кангрэс, у мясцовае самакіраванне і г. д. У тых раёнах Нью-Ёрка, дзе жывуць габрэі, там і мясцовае самакіраванне габрэйскае. А робіцца ўсё проста. Агітатары абзваньваюць тэлефонных абанентаў, абыходзяць кватэры і ўсім кажуць: наш дэпутат, напрыклад, Міша Брук-Красны, усе галасуем за яго.

Усё. Справа зроблена. Рыва звоніць па тэлефоне і першае, што кажа:

– Тася, ты ведаеш, за каго мы галасуем?

– Так, ведаю, – адказвае Тася, – за Мішу.

Галасаваць за свайго ідуць усе, нават з “вокерамі” і на інвалідных калясках (“вілчэрах”). Ніякіх дыскусіяў. (“Сказалі галасаваць за Мішу.”)

Пагаварыце вы такім чынам з беларусам (не, не на Захадзе – у Беларусі). У яго ж “свая думка”. Ён лічыць, што трэба так, як ён лічыць. Ён сам сабе аўтарытэт. (І звычайна галасуе за ўладу.) За ўвесь час эміграцыі на Захадзе, пачынаючы з пачатку XX стагоддзя, беларусы ніколі і ні разу не выставілі свайго чалавека дэпутатам у мясцовае самакіраванне. Праўда, беларусы адзіная нацыя ў Амерыцы, якая не селіцца разам (кожны асобна) і не стварае ўнутраннай фінансава-эканамічнай сістэмы арганізацыі, бо не займаюцца бізнесам (кожны выжывае сам).

Часам людзі любяць пасмяяцца з экстравагантнасці габрэяў (смех – гэта станоўчая з’ява ў дачыненнях паміж этнасамі). Але не ведаю, колькі яшчэ тысячаў гадоў трэба нам, беларусам, пражыць, каб навучыцца ад іх хаця б салідарнасці, хаця б не таптаць сваё перад свіннямі, “не пляваць у студню”.

Дык вось, прыйшлі мы з Міхасём у рэстаран, селі за столік, па баках азіраемся. За суседнім столікам сядзяць два маскалі танкавых войскаў – маёр і капітан. Маёр круглатвары з тоўстымі губамі, плоскім носам і рыжымі павекамі (ды й сам рыжы). Капітан худы, сур’ёзны, падцягнуты, негаваркі.

Маёр грэбліва азіраецца вакол і ўвесь час нешта гаворыць. Капітан маўчыць. Яны, відаць, тут упершыню, у гэтым Бабруйску.

– Нет, мля, Серёжа, смотри, мля, одни евреи. Даже в оркестре евреи. Но это понятно, мля, музицируют, на скрипке пилят, – выказваецца маёр. – Слышь, куда мы попали?

Мы таксама з Мішам гаворым, але не пра габрэяў, а пра лялечны спектакль “Дзед і Жораў”. Праз нейкі час чую, як маёр кажа капітану ў паўголаса:

– Серёга, слышь, смотри, мля, за тобой сидят два еврея и по-еврейски чешут.

Я засмяяўся пасярод гаворкі. А Міхась:

– Ты чаго?

– Я падумаў, Міхась, а ты часам не жыд? І завуць цябе падазрона – “Міша”.

Ад здзіўлення Міхась адкрыў рот і глядзіць на мяне. Тады я тлумачу яму, што пра нас падумалі за суседнім столікам тыпы ў пагонах.

– Асталопы нейкія, – кажа Міхась. – Гэта як у Талстога ва “Уладзе цемры”, памятаеш: “У горадзе Гродна жывуць адны басурманы і гавораць не па-руску”.

Зайграў аркестр, нам прынеслі салаты ды адбіўныя. Вячэраем, віном запіваем. А маскалі, гляджу, гарэлку п’юць. Ну як жа інакш – “русский водка”. І вось, калі яны амаль выпілі тую бутэльку, бачу, што ўвесь свет, што быў вакол іх, стаў ім моцна не падабацца.

– Слушай, ну надоело, мля, – непаслухмяным языком кажа маёр. – Что это они всё эту трындю играют? Или мы не в России, мля! “Барыню” давай, слышь, “Барыню” играй.

Некалькі кліентаў павярнулі галовы паглядзець, хто крычыць, а аркестр таўчэ сваё “сем сорак”.

Маёр устае і, з цяжкасцю лавіруючы паміж столікамі, падыходзіць да аркестра і заказвае іграць “Барыню”, кладзе дзесяць рублёў. Аркестр пачынае іграць “Барыню”. Маёр спрабуе танцаваць, тупаючы нагамі. Ніхто не танцуе, глядзяць на маёра. Некаторыя падплясваюць з-за столікаў. Потым выйшла адна пара і пачала “плясаць”.

У гэты час (аркестр яшчэ не скончыў іграць) падыходзіць малады габрэйчык, кладзе дваццаць рублёў і заказвае іграць “сем сорак”. Аркестар іграе “сем сорак”. У зале нешта зразумелі і прыкметна ажывіліся, дружна высыпалі з-за столікаў танцаваць “сем сорак”.

Ізноў жа, не закончыў аркестр граць – падыходзіць рыжы маёр, кладзе дваццацьпятку і кажа:

– “Барыню”, ребята! Да хорошенько!

Аркестр робіць кароткі перапынак і грае “Барыню”. Маёр танцуе, махаючы рукамі і стукаючы ботамі ў паркет. Усе паадварочваліся ад сталоў і назіраюць за танцамі.

Тут падыходзіць нейкі таўстун з вусікамі (з выгляду – загадчык базы), акуратна адлічвае трыццаць рублёў і кажа іграць “сем сорак”. Перадышка – і гучыць “сем сорак”. Усе кідаюцца з энтузіязмам танцаваць.

Бачу, як маёр падыходзіць да капітана і нешта абмяркоўвае, даказваючы. Капітан круціць галавой, маёр насядае. Чую абрыўкі фраз у грукаце аркестра: “Серега, надо, понимаешь... вставь фитиль, мля..., всё нормально, мля...” і г.д.

Капітан лезе ў кішэнь, дастае кашалёк і дае грошы маёру. Маёр падыходзіць да аркестра, шырокім рухам кідае 50 рублёў (нехта ў залі: “Ух, ты!”) і раве:

– “Барыню”, ребята! Все время, сколько сможете!

– Это сколько товарищ маёр сможет танцевать, – ветлівым голасам устаўляе піяніст.

– Я смогу, мля, не ваше дело! Я плачу! “Барыню”! Да погромче! Да поживее! Вы настоящие маэстро, ребята! Давай!

Аркестар грае “Барыню”. Пазбягаліся афіцыянткі. Нават з кухні нехта прыбег зірнуць адным вокам. Маёр, як певень, пайшоў па кругу, пляскаючы сабе па кумпяках і дубасячы ботамі ў паркет. Публіка назірала, як за футболам. Некаторыя пацяшаліся, некаторыя глядзелі моўчкі, але няўважлівых не было.

Маёр танцаваў доўга і, нарэшце, зняможаны, з пераможаным выглядам паплёўся на месца, плюхнуўся ў крэсла і да капітана:

– Ну, что, мля. Знай наших! Вот так надо жить! А то заснули, мля. Еще сто грамм! – махае рукой маёр, – “и танки наши быстры!”

Перапынак зацягнуўся. Падобна на тое, што маскаль усё ж уставіў “фитиль” габрэям і шумна гірчэў за сталом, рагочучы на ўсё горла.

Зала неяк прыніжана прыціхла. Усе заняліся нейкімі сваімі размовамі, як

быццам нікога нічога не абыходзіць. Часткова, можа, яно так і выглядала. У гэты час неяк непрыкметна аднекуль збоку склератычнай паходкай пасунуўся да аркестра стары габрэй. Семяніў ён павольна, і ўсе яго заўважылі. Стала ціха. Габрэй падыйшоў да піяніста, кінуў на клавішы сто рублёў і, картавячы, злосна прашыпеў: “Сем согак”.

Першымі запляскалі мы з Міхасём, а за намі ўся зала. (Патлумачу, што 100 рублёў – гэта сярэднемесячная зарплата сярэдняга савецкага чалавека. Савецкія людзі жылі ад зарплаты да зарплаты, “вольных” грошай не мелі.)

Выходзячы з рэстарана, каля аркестра ў добрым настроі гукаю музыкантам:

– Ну, што, хлопцы, добра гралі! Кожны б вечар па пары такіх дурняў, вы б мільянерамі былі.

Вышлі, Міхась і кажа:

– Вось тое і яно – хоць не наша перамога, а ўсё ж прыемна.

– Уяві, калі б у зале замест габрэяў былі б беларусы. Што б было? – пытаюся я.

– Куражыўся б масковец за пяць рублёў цэлы вечар, – уздыхнуў Міхась, – а беларусы яшчэ б падтанцоўвалі, нічога не разумеючы. Яшчэ добра, калі б не абазваў усіх дзярмом.

– Ага, – кажу. – І галоўнае тут – “нічога не разумеючы”.

– А ведаеш, – кажа Міхась, – бытавая сведамасць мае вялікае значэнне. Калі на ўзроўні бытавой сведамасці нацыя мёртвая, то яна ўжо і сапраўды мёртвая.

– У нас на Віленшчыне гэтая “барыня” не прайшла б усё ж, – кажу я. – Справа не ў “барыні”, а ў тым, што за гэтым стаіць.

Мы размаўлялі яшчэ доўга пра гэты ўвогуле нязначны і нават нікчэмны выпадак, магчыма, не аддаючы сабе справы, што з’яўлялася прычынай нашага ўзбуджэння. Пазней я мог сфармуляваць тое дакладна – гэта пачуццё бяссілля і безабароннасці перад савецкай акупацыяй.

Аднойчы ў маладыя гады я быў у цэнтры Беларусі ў запаветнай мясціне, на запаветнай рацэ. Пах аеру і цьмянцу, цішыня і чыстая плынь, у якой адбіваліся белыя воблакі. Вось яна, мая любімая і дарагая! Мая зямля. І я тут з ёй разам. Як добра, думаў я.

Калі так думалася, я пачуў у небе гнюсны трымцячы гук. Высока-высока ляцеў ваенны рэактыўны самалёт. Я проста фізічна адчуў, які ён чужы і што там сядзіць савецкі лётчык. І калі б ён захацеў, мог бы выпусціць у мяне ракету, і ў маю любімую і каханую, дзе пахне аер і цішыня. І ўсведамляеш да дрыжыкаў у целе, што мая зямля – не мая, што і неба ўжо не маё, і маскаль у маім паветры. І я зусім безабаронны, як ягня пад лязом.

26-га жніўня 1991 года, назаўтра, пасля аб’яўлення Незалежнасці Беларусі, я выйшаў на двор і ўзіраўся ў неба, у блакіт, у белыя воблакі нада мной, як некалі там, дзе люстраная плынь. Гэта былі хвіліны шчасця, бо неба і воблакі ў паветры, і зямля, на якой стаяў, былі мае...

А калі дзе пачую “сем сорак”, то абавязкова ўспомню Бабруйск і рыжага маёра, дык нават неяк і смешна робіцца.

*28 чэрвеня 2013 г.*

Анатоль Астапенка



...у паэтаў з Музамі свае адмысловыя стасункі...

# Алкагольныя эцюды

***З новай нізкі аповедаў***

## Муза Сабачага сквера

Антон першым заўважыў Яе – танюсенькую, высокую і вельмі прыгожую дзяўчыну, лёгкую, як парушынка, і разам з тым хуткую, як маланка. Яна выглядала і нават паводзіла сябе нібы звычайны чалавек, але так было гэта толькі на першы погляд.

– Муза, глядзіце муза! – закрычаў Антон.

– Бачу, бачу, – імгненна падхапіў я, захоплены з'яваю незямнога стварэння.

– Муза, муза, муза... – лямантаваў Антон, – глядзіце, усе людзі! Вунь яна!

Муза падляцела да нашага "святочнага стала", утворанага з абруса – учарашняй газеты "Труд", выпіўкі – трох, яшчэ некранутых, бутэлек партвейна "Хірса" і закускі – невялікай горкі смажанай мойвы па 12 капеек за кіло, якая красавалася ў цэнтры газеты.

Я хацеў было запрасіць Музу да стала і ўжо адкрываў рот, як раптам убачыў, што адкаркаваныя бутэлькі, якія ўрачыста

стаялі на варце марской драбязы, пападалі і віно жвавенька палілося на савецкі друкаваны орган.

– Во зараза! – закрычаў Лёнік, які толькі што прынёс гэтыя бутэлькі. Ён быў ганцом і цяпер раз'юшна развярнуўся да Музы:

– Кыш! Кыш! Кыш!

– Ратуйце, ратуйце віно, – падказаў нейкі мінак.

Але ніхто з нас нават не здрыгануўся. Віно павольна разлівалася па газеце "Труд", пералівалася на траву і пачало падмочваць нашыя сцёгны.

Муза ласкава глядзела на нас. Яе ўсмешка была пяшчотная і добрая.

Я апусціў вочы долу, каб паглядзець, ці не трапіла віно на яе туфлікі і папярэдзіць яе. Прыгледзеўшыся, убачыў, што папярэджваць Музу няма неабходнасці. Яна лёгенька лунала ў паветры, павольна калыхалася пад кожным павевам цёплага летняга ветрыка. Ейныя туфлікі нябеснага колеру знаходзіліся на невялікай вышыні ад зямлі, можа, сантыметраў на сорак, і былі нерухомыя.

"А як жа яна стаіць на паветры? Гэта ж не па законах... фізікі", – бязглузда замітусілася цвярозая думка.

Здавалася, Муза некага шукае сярод нас... і не знаходзіць.

Каго ж?

І тут я ўспомніў, што сёння няма паэта Міколы. Апошнім часам ён быў вельмі засмучаны, казаў што нічога вартага не пішацца. Маўляў, няма натхнення, бо не прыходзіць Муза.

І ўчора з'ехаў на радзіму ў Васілевічы, каб, можа, там набрацца таго натхнення.

А Муза прыйшла сюды.

– Яна шукае Міколу! – крыкнуў я хлопцам і павярнуўся да Музы: – Пачакайце, мы зараз патэлефануем яму, ён у Васілевічах! – сказаў я.

Але Муза і так усё зразумела. Яна пачала губляць сваю матэрыяльнасць, яе цела рабілася ўсё больш празрыстым, і праз яе постаць стала бачная спачатку трава, а потым і бярозка, што стаяла на ахове скверыка пры ўваходзе. Яна імкліва знікала, але паспела сказаць апошнія словы, адрасаваныя, відаць, Міколу:

– Я знайду цябе! Толькі ты чакай і не пі... віна! Інакш мяне не ўбачыш! А гэтыя няздары хай п'юць! Хай задушацца, – скончыла яна зусім па-жаночы.

І канчаткова знікла.

Мы моўчкі паглядалі адзін на аднаго. Нават Лёнік маўчаў.

...На "стале", то бок газеце савецкіх працоўных "Труд" непаўторным хараством балтыйскага бурштыну зіхацелі тры поўненькія бутэлькі "Хірсы".

...Мікола прыехаў праз тыдзень. Ён быў вельмі сур'ёзны і, як булгакаўскі Іван Бяздомны, паабяцаў, што вершаў пісаць болей не будзе, бо не мае натхнення. "Наліце, хлопцы", – дадаў ён у канцы.

Якая размова адбылася ў яго з Музай – ніхто з нас так і не даведаўся. Але, калі меркаваць па тым, што Мікола сваё абяцанне не стрымаў – нічога сур'ёзнага не было ў той гаворцы. Так, чарговая спрэчка паэта з Музай. У паэтаў з Музамі свае адмысловыя стасункі, хто іх разбярэ.

*Гэтая падзея адбылася 17 ліпеня 1973 года (роўна 40 гадоў таму) у гэтак званым "Сабачым скверы", які знаходзіўся каля стадыёна "Дынама" на ўзгорку... Цяпер там адміністрацыйны будынак – Міністэрства замежных спраў. Сабачы сквер быў улюбёным месцам сустрэч нашай зямляцкай мінскай каманды ў складзе мяне (Антона Кулона), Антона Доўжыка, Лёніка Сохара і Міколы Захаранкі, які ў той дзень адсутнічаў па ўважлівай, як бачым, прычыне.*

## Брага Налібоцкай пушчы

– Пад'ём, алкашына! – пракрычала жонка мне ў вуха, – Валодзя ўжо прыехаў!

Я паспрабаваў адкрыць левае вока і асэнсаваць пачутае. "Валодзя... Валодзя..." – ліхаманкава круцілася ў прапітай галаве. "Ванька быў, Коля... Потым Сяргей падыйшоў. А ніякога Валодзі не было. Можа на той "Вермут" каля "Трох тапаляў" нехта падкатваў? Не, то быў сусед Вася... Які такі Валодзя?"

І раптам, успомніўшы, пахаладзеў ад страху. Валодзя быў сябрам нашай сям'і: ягоная жонка і мая некалі вучыліся разам, і калі мы ўсе перажаніліся, то працягвалі сябраваць ужо сем'ямі. Учора мы дамовіліся ехаць у грыбы ў Налібоцкую пушчу. Валодзя нядаўна купіў машыну – новенькі "Запарожац" і абяцаў звазіць усіх на гэтым цудзе тэхнікі ў лес.

"У лес!!! Божа ж мой, у лес! Туды, дзе няма ні піва, ні гарэлкі. Ды і самагонкі не знойдзеш – вёсак няма, у Налібоцкую пушчу ж едзем. Я там пamру!!!" – біліся аб чарапную каробку горкія думкі.

– Усе сабраліся? Прашу на пасадку! – зычным, агідна радасным голасам запрасіў Валодзя.

Пачалі ўсаджвацца. Вялае, здранцвелае цела доўга не хацела ўпіхвацца на задняе крэсла, куды вырашылі мяне памясціць, бо ў пасадцы спераду мне адмовілі. Надта моцны перагар быў.

Дарога сярод зялёнага масіву пушчы была цудоўнай. Гэта быў куток некранутай прыроды, і кожны, хто трапляў у той зямны рай, адразу набываў узнёслы радасны настрой і стан датычнасці да чагосьці вечнага...

Але мяне Налібоцкі рай не кранаў. Я быў у паўзабыцці, прытомнасць перыядычна часткова пакідала мяне, а калі я пачуў слова "Прыехалі!", хацеў закрычаць: "Рана прыехалі. Спачатку на піва, на піва, на піва!", але прамаўчаў, пакорліва абраўшы шлях на Галгофу.

І кожны крок па лясных сцежках нагадваў мне Крыжовы шлях Збавіцеля, жонка здавалася Понціем Пілатам, а сябры – рымскімі легіянерамі. Мяне хацелі ўкрыжаваць. З грыбоў траплялiся сыраежкі ды маслякі, але нагнуцца, каб іх падняць я не мог, бо тут жа бразнуўся б на зямлю, не дайшоўшы да Лобнага месца. А добрага Кірынеяніна Сымона, які б дапамог несці крыж, побач не было.

"Божа, дапамажы выжыць! Дай сілы, дай моцы", – ліхаманкава паўтараў я пра сябе. – "Не дай памерці!" – як казаў мой сусед і сябра Віця Каваль...

Ішоў і зноў, і зноў паўтараў – "Божа, ўратуй мяне!... Божа..."

Так я прабадзяўся па Налібоцкім лесе, можа, цэлую вечнасць. Але потым Валодзя сказаў, што прайшло не больш за гадзіну, калі я ўбачыў гэта... Перыядычна мы перагукваліся "Ау, Ау...", ці: "Валодзя!", "Ніна!", "Віта!" – каб не згубіцца. У той момант я якраз збіраўся адказаць на покліч "Ау!" і ўжо адкрыў рот, як раптам сярод густога зарасніку ўбачыў яе. Не, яна не была іншапланетнай істотай, і не была ведзьмай, якіх звычайна хапае ў густых, некранутых лясах Беларусі.

Яна – была агромністай бочкай, шчыльна замаскаванай галінкамі хвоі і ламаччам. Бочку такіх вялізных памераў – не менш за 300 літраў – я бачыў упершыню.

Я прадраўся праз тую маскіровачную заслону да сваёй лясной знаходкі і зазірнуў унутр бочкі. Божа ж мой! Бочка-велікан была на тры чвэрці запоўненая бурлівай мутнай вадкасцю, ад якой зыходзіў непаўторны шчымліва-родны пах брагі.

Я часта думаю: гэта Госпад мяне пачуў, ці то была выпадковасць? І скажу вам – выпадковасцяў не бывае. Знайсці бочку брагі ў такім вялізным лясным масіве, як Налібоцкая пушча, яшчэ нікому не выпадала. Я – першы і апошні. Бо імавернасць такой падзеі блізкая да нуля.

Склаўшы ў лодачку далоні, я даволі ўдала зачарпнуў трохі бражкі і прагна

выпіў. І тут жа яшчэ, і яшчэ. О, што гэта была за амброзія! Смачней напоя я не піў! Брага ўжо мела даволі значны градус і, як кажуць, гатовая да ўжывання. Хутка градус дайшоў да маёй змарнелай душы і пахмельны сіндром пачало адпускаць. І свет, і, больш таго, – сусвет пачалі набываць свае звычайныя абрысы “лепшага з міроў”, жыццё вярталася да мяне. Гэта было маё ўваскрашэнне пасля Галгофы.

– Валодзя, Валодзя! – загаласіў я на ўсю моц. – Ком цу мір, хутчэй, ком цу мір!

– Што крычыш, як на пажар. Я ўжо тут. Якраз збочыў у твой бок ад жанчын, каб іх! Так надакучылі!...

– Глядзі, глядзі што я знайшоў!

І тут я паказаў Валодзю маю знаходку, бо ён яшчэ яшчэ не павярнуўся тварам да бочкі.

– Ого! Што гэта? Вось дык цэбар! Няўжо з бражкай?

Ён павярнуўся зноў да мяне і, убачыўшы мой задаволены пахмялёны твар, адразу сцяміў, што да чаго:

– От шанцуе п’яніцам! Гэта ж трэба – і тут знайшоў! У пушчы! Людзі тут не жывуць, дзічэйшая прырода, цывілізацыя за 50 км, а ён бочку пойла знайшоў! Ты ўжо, я бачу, пахмяліўся?

– Пэўна ж. Праўда, шклянкі тут няма, прыйшлося так, рукамі... Давай і ты. Можа, у машыне якая шклянка ёсць?

– Якая шклянка, мне ж нельга, я за рулём. – спахмурнеўшы сказаў мой сябра-аўталюбіцель і праз момант, нешта пралічыўшы, дадаў:

– Але дома і я вып’ю. І ведаю, як даставіць... Пайшлі.

Мы вярнуліся да машыны. Аказалася, што ў багажніку “Запарожца” знаходзіцца тры пустыя трохлітровыя слоікі, якія Віта набыла для варэння, і чатыры двухлітровыя для той жа мэты. Але іх забыліся выкласці.

Хутка слоікі аказаліся поўненькімі. Кошыкі, праўда, наадварот – пустымі. Але гэта мяне зусім не бянтэжыла. Здароўе – перш за ўсё. Нездарма за любым святочным сталом галоўны тост які? Канечне, гэты: “За ваша здароўе!”

...Задаволеныя, мы вярталіся з грыбоў. Я з Нінай ды Валодзя з Вітай. Не дарма прайшоў уікенд. Не кожнаму так пашэнціць. Вось суседзі – таксама ездзілі ў грыбы, а што прывезлі? Два кошыкі нейкіх чарненных грыбоў, што завуцца, здаецца, грузды. Ці радоўкі? Ці яшчэ як... Не, не пашанцавала суседзям. У нас жа поўненькая машына не чаго-небудзь, а адборнай лясной брагі, ад двух кубкаў якой валіць з ног.

Што ні гавары – пашанцавала нам... з грыбамі.



Сяргей Шапран



…ён не натужваўся, не стараўся
быць беларусам.
Проста быў…

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

## ЛЮДМІЛА

На Далёкі Усход Някляеў паехаў адзін. Але чакаў, што за ім паедзе каханая. Ён быў ужо жанаты і – «любовь была ослепительная»[1]. Яе звалі Людмілай.

Зрэшты, для Някляева ўсе жанчыны, якіх ён кахаў, «ослепительные». Ён развітваўся з адным каханнем, калі яно заканчвалася, раскідваў абдымкі наступнаму, але ўсе, каго кахаў, былі «нябесныя жанчыны. Я не варты ніводнай з іх»[2].

Пазнаёміўшыся з Людмілай Гембіцкай 15 жніўня 1965 г., Някляеў зноў, пасля школьных спробаў, пачаў весці дзённік (адсюль і дакладная дата знаёмства) – агульны сшытак у чырвонай вокладцы, чарнільныя запісы ў якім ад вільгаці з часам паплылі. Узяцца за дзённікавыя запісы змусіла «некоторая собственная запутанность»[3], але найперш вось гэтае знаёмства.

«– Меня?.. Мила. А Вас?

– Володя. Зайдёмте?..

*Працяг. Пачатак у №6 (73).*



*Студэнт Літаратурнага інстытута імя Горкага. Масква, 1972 год.*

[*Неразб.*][4] был косой, моросящий и нудный дождь, [*неразб.*] вовсе не похожий на весенний. Через запотелые стёкла автобуса еле вырисовывались смутные силуэты привокзальных башен и закутанная в плащи, [*неразб.*] только что сошедшая с электрички... И, вроде бы, ничего не изменилось от того, что внезапно влетела в автобус курносая девушка в красном вымокшем пальто с неуклюже громоздящимся в маленьких руках кожаным портфелем и ящиком для посылок. Запыхавшись от бега, она шумно уселась рядом со мной и, положив свою ношу на колени, всецело поглотилась тем, что поочерёдно ловила то и дело падающие портфель и ящик.

– Слушайте, по-моему, вот здесь Вашему ящику будет удобнее.

– Вы думаете? Ну, пожалуйста.

Она отдала ящик, и я забросил его за спинку заднего сиденья.

– Вы художник?..

– С чего Вы взяли?..

– Ну, как же, блокнот, карандаш...

[...] И вот уже на лестнице.

– Как Вас зовут?

– Мила.

Заходим в комнату. Её дом рядом. Дочитываю ей стихи, и мы сидим долго и в то же время мало и разговариваем о поэзии, театре, музыке. [...]

– Ты уже уходишь?

– Да. Надо тащить тётке ящик.

– Я провожу тебя.

Мы выходим на грязную улицу, она прыгает по сухим островкам и совсем по-детски приговаривает:

– Сюда, туда, раз, два, ещё раз... А я уже пропрыгала. Ну, чего [*неразб.*] ты стоишь, иди быстрей.

И я шлёпаю прямо по лужам и тащу в левой руке познакомивший нас ящик»[5].

«*6/VI.65 г.*

Родная моя, здравствуй!

[...] Уж очень грустно мы расстались, уж очень печальные были у тебя глаза. Но всё равно, всё равно ничего другого я тебе сказать не могу.

[...] Разве я могу жить без твоих глаз, губ, рук, без твоей улыбки, голоса, без твоей любви [?] Как же мне без тебя?.. Ты далеко. Но ты в моём я, в моём “живу”, ты в моём сердце. Что будет, если я потеряю тебя? Но разве можно потерять своё сердце? [...]».[6]

«Солнышко моё маленькое, здравствуй!

Сообщаю, что погода сейчас сумрачная, всё время дожди и дожди, и небо серое и обтрёпанное, словно старый поношенный валенок моей бабки Олимпиады. И если бы я не знал, что где-то совсем, по сути дела, недалеко ходит, улыбается и грустит тёплое, ласковое и живое солнышко, то, пожалуй, растворился бы в этих сиротливо-угрюмых тучах, в уже поблёкших сонных деревьях, в непроветренном сыром удушье приближающейся осени. Бывает, правда, что её вовсе и не видно.

Совсем по-весеннему журчит переполненная речушка, очумелые скворцы носятся над крышами, и не понять, то ли они поют, то ли визжат, словно кошки, а в окно надменно стучат расшикаренными головами фрайеристые пунцовые георгины. И тогда я думаю о тебе по-особому тихо, по-особому нежно и ласково, и чуть-чуть с грустью. И становится хорошо и тепло, и даже уютно, особенно если вокруг тишина [...], и я шёпотом говорю тебе: я люблю тебя, очень, очень люблю тебя, маленький мой кусочек счастья. И плевать на то, что шли мы к нашему перекрёстку очень разными дорогами, плевать на то, что твоя дорога началась раньше моей, плевать на то, что нам встречалось на пути, что мы обходили и во что вливались, что отбрасывали и что тайно, скрытно оставляли в себе: сейчас есть ты, и больше чем – есть мы. [...] Не важно, каким будет наше счастье – долгим или коротким, трудным или лёгким [...]. Уже за одно то, что ты живёшь, за то лишь, что ты мне встретилась, я целую твои руки.

На бумагу, на эти строчки малиновой тенью наплывает закат. Очень жаль, что я не художник. Такого раньше я не видел. На самом краю горизонта ветер разорвал грозовые тучи и солнце подсвечивает снизу, словно настольная лампа в жёлтом абажуре, и делит тучи на трёхцветный кусок мохнатой ваты, которая ворочает усищами, цепляется за далёкий лес и, голубея, оседает на еле приметные пики елей. А следом снова ползут на солнце тучи и, не доползая, рвутся, рвутся, рвутся, и какой-то волшебный художник мгновенно перекрашивает их суконную серость в багровую, жёлтую и голубую шкуру распластанного зверя. Я думаю, вот бы такую шубу Инке в комиссионку. Расхватали бы по кускам. А над головой всё та же серость, и скоро снова застучит по запотелым стёклам дождь, и снова Ваня ворвётся в комнату и с досадой швырнёт на диван так и незапущенного сегодня раскрашенного Змея Горыныча. Не везёт бедняге змею: никак ему не взлететь. [...]

*14/VIII. [1965 г.]*»[7]

«Ласточка родная моя, добрый день!

Ты не представляешь, как я скучаю без тебя. [...]

Звёздочка ненаглядная, я очень, очень, очень тебя люблю, я люблю тебя больше, чем кто-либо когда-либо мог кого-то любить, в 1000 раз преувеличивая.

Прости, может быть, я повторяю старые слова, но я знаю только те, которые придумали люди. Я сказал бы тебе сейчас сотни неземных слов, но на бумаге их не прочитать, не понять, их нужно видеть глазами любви.

Может быть, при встрече с тобой я опять промолчу в ответ на твоё: “Ну, скажи что-нибудь!” – а теперь, если бы ты была рядом, я наговорил бы тебе столько слов, сколько ты от меня никогда не слышала.

А так, по привычке, приходится молчать.

Да, о пустяках. Работаю так себе, смотрю телевизоры, в общем, не “по любви” работаю. Живу на квартире, тоже так себе.

Рыбунька, я жду твою фотографию, я хочу видеть твоё лицо.

*20/I-66 г.* *г. Брест*»[8]

«*[1966 (?)]*

Золка! Мне сейчас хочется плакать, совсем, совсем так, как плакала ты, а я уже давно, давно не вспоминаю такого момента, чтобы мне хотелось плакать. Я научусь, я обязательно научусь быть добрым, быть добрым умной, сердечной добротой, и ты, слышишь, ты меня научишь этому. Я тебя об этом очень, очень буду просить.

Я очень люблю тебя, Людок, люблю невероятной любовью, всей, на которую способно моё сердце. Но я знаю, что это не предел того, что оно может чувствовать, оно будет любить тебя ещё сильнее, ещё больше прежнего. Только его надо, его обязательно надо научить быть добрым, хотя бы наполовину таким, как твоё.

Я очень хочу, чтобы ты была счастлива, чтобы ты была самым счастливым человеком на свете. Я очень хочу быть всегда с тобой, я очень хочу любить тебя. Очень прошу: пойми меня всего. Кое-что из своего я скрываю даже от тебя, но только то, что нужно знать мне одному [...]. Но когда мы будем вместе, навсегда вместе, я расскажу, объясню тебе всё [...]. И тогда ты поймёшь то, что сейчас для тебя кажется непонятным и ненужным [...]»[9].

Апынуўшыся пасля заканчэння тэхнікума спачатку на Далёкім Усходзе, пасля ў Сібіры і на Поўначы, Някляеў усур'ёз думаў пра тое, каб жонка прыехала да яго, і таму пісаў у лістах да яе: «...может быть, найдётся место и в Норильске, а если не в самом Норильске, то тут рядом есть релейка, 40 км, ходит электричка. Можно и там, главное, чтобы в Норильске жильё. А вот как раз в нём самая главная загвоздка»[10]. «Ну что, изумительная моя? Может, поедем в Дудинку, а? Всё равно и здесь тундра, и там тундра. Так там мы хоть жить вместе будем. А тут с жильём никак. [...] Ты здесь – моя первейшая необходимость, а пока – мысли о тебе. И если вдруг не будет никакой возможности тебе приехать, я всё брошу и вернусь обратно. В Норильске работу тебе я уже почти подыскал, почти потому, что нет тебя самой. [...] Не знаю, заработаем ли мы здесь хоть на колёса к машине, пусть нет, чёрт с ней. Обойдёмся. Приедешь, будем с тобой ужасно много читать, заниматься. Обязательно оба серьёзно займёмся иностранным. [...] Где будем жить – в Норильске ли, в Дудинке, в Игарке – неважно. Везде одинаково. В самом Норильске 2 кинотеатра, а с театра местного проку не много. Да не в этом суть. В театр можно и из Дудинки приезжать. Если бы ты была тоже каким-нибудь "монтёром", я бы с тобой вообще в тайгу уехал, на точку. Ходили бы на охоту, стреляли медведей и пили спирт»[11].

Ужо з цягам гадоў Някляеў распавядаў: «Мы поженились, когда мне было 19. Она была старше на пять лет, у неё уже был ребёнок – Илона[12]. Очень тяжело этот ребёнок стал моим ребёнком. У меня была страшно дурная ревность: это должно быть только моим, а кто-то этим владел... [...]

Шло время. Я ночами кидался из дома, бегал по каким-то улицам, речкам, болотам, стиснув зубы, проклиная всех, и в первую очередь этого человека, которого, к слову, так никогда и не увидел... [...]

Мне в голову била одна ревность! А потом я стал рассуждать. Дело в том, что на Севере, где я работал после окончания техникума, я получил дозу облучения, мог никогда не стать отцом... И я понял вдруг, что Людмилу с пятилетней Илонкой мне Бог послал! [...]

И потом она отпустила меня надолго, как отпустит не каждая. Я тогда был радиомехаником, неплохо зарабатывал, когда решил: надо ехать в Москву, учиться в Литинституте. Людмила была лаборанткой, получала 60 рублей. Тем не менее, сказала: если чувствуешь, что надо, – езжай. Я возвращался домой – и всё было безупречно, она всячески старалась показать, что всё нормально. Но случился момент, после которого я перешёл на заочное и вернулся в Минск. Я просто однажды открыл шкаф. Я помнил, что раньше там были кофточки, пальто, плащик... А тут я увидел одну курточку, одну кофточку и одни красные штаны. Всё остальное Людмила продала»[13].

Для таго, каб перайначыць лёс, каханая жанчына – дастатковая прычына. І ўсё ж у Мінск з Масквы Някляеў вярнуўся не толькі праз каханне.

## ГАЎРУСЁЎ

Яўген Еўтушэнка прыгадваў: «Когда я познакомился в конце шестидесятых с ещё совсем молодым Некляевым, он буквально засыпал меня цитатами из поэзии

шестидесятников, ища в них ответы на мучившие его внутренние вопросы. Он понял одно: Родине надо помочь – поэзией, в чьё гражданское предназначение он поверил навсегда, став новым патриотом по Чаадаеву – с открытыми глазами»[14] («шестидесятник белорусский, только чуть-чуть припоздалый»[15], – так далучыў Някляева да шасцідзесятнікаў Еўтушэнка).

Рыгор Барадулін пісаў: «У паэзію Уладзімер Някляеў прыйшоў у самы час. Прынёс сьвежае дыханьне й вочы не задымленыя мэтадам сацыялістычнага рэалізму. Рамантык і рэаліст паядналіся ў адной асобе, у адной натуры»[16]. І іншым разам: «...Някляеў – гэта недзе, думаю, і малады Караткевіч, і малады Ясенін. У Някляеве спалучана ўсё найлепшае. Вядома, параўнанне заўсёды небяспечнае, але Валодзю можна параўнаць таксама і з нашымі класікамі, калі тыя яшчэ былі маладыя, арыгінальныя і непаўторныя. Яго можна параўнаць з тымі, хто ішоў у літаратуру нетрадыцыйным шляхам, ішоў буяна і свавольна. Някляеў – гэта шматгранная асоба...»[17]

Ён сапраўды ўваходзіў у літаратуру нетрадыцыйна. Пакуль ягоныя аднагодкі складалі вершы, пісалі першыя кнігі на філфаку Белдзяржуніверсітэта, ён «сканчаў універсітэты» ва Уладзівастоку, Нарыльску, Тайшэце. Ствараў біяграфію. Лёс.

У гэты час ён піша пераважна па-руску – так, у адным з ягоных сшыткаў на 96-ці старонках выключна вершы на рускай мове, напісаныя ў перыяд са жніўня 1966 г. па сакавік 1967-га. І першыя публікацыі на пачатку 1970-х – таксама па-руску[18]. Але ў хуткім часе разам з расійскімі пачалі з'яўляцца публікацыі і беларускіх вершаў[19]. Рыгор Барадулін згадваў, што памятае Някляева яшчэ маладым: «...Ён прыносіў мне свае першыя вершы, і хоць у нас троху розніца ва ўзросце, аднак, думаю, мы адразу спадабаліся адзін аднаму. [...] Ён жа пачынаў пісаць па-руску, але ў яго, як і ў Багдановіча, праявілася генетычная цяга да беларускага слова. Вось якраз па генетычнай праяве беларускасці Някляеў блізкі да Багдановіча»[20].

Някляеў гэтак тлумачыў, чаму не змог, не стаў пісаць па-руску: «Этому есть очень простое объяснение: я не знаю русского языка так, чтобы писать на нём стихи. Потому что если рассматривать язык не только как коммуникативное средство, а как материал, как инструмент – да как угодно! – как единственную возможность вообще осмыслить всё, что происходит в этом мире и в тебе, иного способа мышления, чем через родной язык, нет... Чтобы сохранялись эмоция, энергетика, надо знать не эти пять-шесть сотен слов, которые мы используем с тобой во время разговора, а помнить все те слова, которые постигал в детстве. Это так называемый пассивный лексический запас – сто тысяч слов, которые есть в словаре! Поэтому когда пишешь на том языке, который, вроде бы, знаешь (а в моём случае – на русском), вдруг тупо упираешься в невозможность точно передать свои эмоции, ощущения, интонации – всё то, что и является искусством. В результате лезешь в словари. Но пока ищешь это слово, эмоция уходит»[21].

Праўда, іншым разам усё ж прызнаў, што пісаць мог бы і па-руску, але перашкодай была метафізічная праблема: «Я дастаткова добра ведаю расейскую мову, каб напісаць па-расейску верш. Але прысьніць верш па-расейску я не магу»[22].

Тым не менш першая кніга Някляева ледзьве не выйшла на рускай мове – яна ўжо была падрыхтаваная да друку ў маскоўскім выдавецтве «Молодая гвардия», што ўсіх здзівіла, «бо ў той час, каб выдаць кнігу, а тым больш першую, трэба было выстаяць у чарзе з дзясятак гадоў»[23]. Аўтарам прадмовы да кнігі быў Рыгор Бурадулін, які сведчыў: «Некалі я напісаў прадмову да ягонай першай кнігі. Кніга была па-руску – і я прарочыў рускаму, народжанаму ў Беларусі Паэту вялікую будучыню»[24]. Аднак «рускі, народжаы ў Беларусі Паэт», нечакана для ўсіх рукапіс забраў. «Там на мяне глядзелі, як на хворага, – прыгадваў ён. – Паэт Вадзім Кузняцоў, які працаваў у выдавецтве "Молодая гвардия" загадчыкам аддзела паэзіі і які пазней стаў маім перакладчыкам, наўпрост спытаў: "Ты ідыёт?.." Я

адказаў, што я не ідыёт, а беларускі паэт, на што ён заўважыў, што гэта, мусібыць, адно і тое... Але сарказм ягоны мяне не пахіснуў, бо ўва мне сядзела адно: калі ўжо я беларускі паэт, дык першая кніга абавязкова павінна быць беларуская»[25].

У гэты ж самы час у Мінску, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» Някляеву паабяцалі выдаць яго беларускую кнігу. «Але вялікая будучыня – і тым самым маё прароцтва – не адмянілася [...], – пісаў Р. Барадулін. – Невялічкая рэчка Крэўлянка, на берагах якой прайшло маленства Паэта, перамагла ў ім магутную Волгу, на беразе якой нарадзіўся ягоны бацька. Гэта, як і ўсё ў Някляеве, амаль неверагодна, але здараюцца ў свеце, дзякуй Богу, дзіўныя, неверагодныя рэчы.

Мы займелі ў айчыннай літаратуры выключнага творцу»[26].

Сам жа Някляеў распавядаў пра той свой незвычайны па мерках і сённяшняга часу дэмарш: «У выбары я не вагаўся: першая кніга павінна быць беларускай. Бо пра карані, пра Крэва.

Прыехаў з Масквы ў Менск падпісваць дамову, а мне паказалі адмоўную (так званую закрытую) рэцэнзію. На чатырох аркушах. Зваротная старонка апошняга аркуша была ў плямінах ад сала, са слядамі нажа – і пахла цыбуляй... Нейкія людзі ў выдавецтве пілі, закусвалі, пасцяліўшы на рэдакцыйным стале газету, пад якую падклалі, што пад руку патрапіла, каб стол не парэзаць.

Паэзія тады ўяўлялася мне храмам – і гэта было, як лаянка ў храме. Не сама рэцэнзія, якую, як пасля прызнаўся яе аўтар, яго змусілі напісаць, а тое, як абышліся з ёй, са мной і з самім храмам ягоныя служкі. Я быў гатовы ўзненавідзець усю беларускую літаратуру...»[27]

«РЭЦЭНЗІЯ
на рукапіс зборніка вершаў “КРЫЛО”[28] Уладзіміра НЯКЛЯЕВА

Знаёмства з рукапісам зборніка “Крыло” пакідае дваістае ўражанне. З аднаго боку, перад намі несумненна здольны чалавек, якому хочацца сказаць сваё слова ў паэзіі. Адчуваецца пэўнае тэхнічнае ўмельства, спроба разнастаіць тэматыку і рытміку сваіх твораў. З другога боку, зусім відавочная залежнасць ад гатовых узораў, карацей кажучы – літаратуршчына. Там, дзе аўтар у аснову твораў бярэ жыццёвыя ўражанні, атрымліваецца пераканаўча і запамінальна:

Ой, гуляла сцюжа ў полі
Ой гуляла...

Вечарэла. Цётка Поля
Песні нам спявала.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
...Дзе трава-мурог,
Там мой сокал лёг.
Што ж лятаў ты, сокал,
Ад мяне далёка?..
*(“Успаміны”)*

Хораша, шчыра, натуральна. Мы выразна бачым жанчыну, што і праз столькі гадоў балюча перажывае сваю адзіноту, бачым, як “дагараў агонь у печы, трапятаў на столі”. Разумеем мы і канцоўку, хоць і не зусім зграбную:

А за вокнамі зіма ды зіма,
А над комінам, бы птушка якая,
Адзінота крылы доўгія прастае (выпроствае?).

Урэшце, радок можна выправіць. Бянтэжыць іншае – навошта было аўтару ставіць сябе і сваю каханую ў вельмі двухсэнсоўную сітуацыю:

Тваее рукі... Тваее плечы...
Песні цёткі Полі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І не час мне было цябе абдымаць...

Спроба “асучасніць” верш “свабодным” выяўленнем паводзін закаханых аказалася няўдалай, хадульнай. Балансіраванне на разнапланавых рэчах можа прыводзіць да пошласці, што і атрымалася. Тое ж самае можна сказаць і пра верш “Жартоўнае”:

Прыбягае ў лес Алеся
Па суботах да мяне.

Мы настроіліся на лірычны лад, на жартаўлівую нечаканаць (загаловак інтрыгуе!), і раптам – літаральна ў наступных радках! – чытаем такое:

Кажа – слухай, ведай – кажа,
Што за домам, што за лесам
Баюць людзі, піша прэса
Аб табе, як аб прапажы.
Мы сядаем піць чаі.
Вочы ў вочы, слова ў слова,
І цячэ наша размова,
Нібы лесам ручаі.
Бесталковая па сэнсе...
Я кажу: кідай размову...
Што далей было ў тым лесе,
Нам вядома, больш нікому.

Жарт, мякка кажучы, тапорны, нягледзячы на ўсю шматзначнасць апошніх радкоў, “бесталковы па сэнсе”.

Зрывамі з прастаты ў хадульнасць пярэсціць пераважная большасць вершаў:

Шкадую мураша,
Расплюшчанага ботам.
Пад косамі траву
І дрэва пад пілою
Шкадую —
            аж раву
Звярынаю тугою.
*(“Мне б мець душу, як сталь”)*

Гэта – пазёрства чысцейшай вады. Калі ў прыведзеным выпадку яго можна лічыць у нейкай меры міжвольным (зробім скідку на нявопытнасць, на няўменне валодаць словам), то ў вершы “Вадэвіль у двух актах” – яно свядомае. У “першым акце” аўтар шырокім жэстам запрашае заходзіць да сябе ўсіх людзей – шчаслівых і самотных – разам разважыць радасць і бяду, бо сам чалавек ён шчыры... “верш скляпаў (і гэта без іроніі!). Неблагі... Не горшы з усіх маіх вершаў”.

У “другім акце” мы чытаем наступнае:

Стук у дзверы.
– Хто вы?
– Незнаёмы.
– Што вам трэба?
– Увогуле нічога.
– Ну тады ідзіце сабе з богам.
– Як жа так... Някляеў вы?
– Някляеў.
– Ведаеце хто я?

– Не ўяўляю.
– Я чытач, я верш у вас знайшоў.

Ці не зарана станавіцца ў позу мэтра, якому няма адбою ад чытачоў?[29]
Пачуццё меры і густу аўтару трэба развіваць і развіваць, каб не пісаць так:

Так вусны адрываюцца ад вуснаў.
Так цела адрываецца ад цела.
*(“Позні лістапад”)*

Альбо:

...адзін аднаго
Не знайсці не маглі,
І цяпер,
Каб адзін аднаго не згубіць,
Мы крык-накрыж,
Крык-накрыж.
*(“Крык-накрыж”)*

Ці нават так:

Чаўнакі рук каханай
З трапяткімі пальцамі-вёсламі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я марыў пра славу,
Я марыў сваю Венеру
Высекчы з мармуру слоў,
Каб стыць і нямець перад цудам...

Я марыў знайсці тыя струны,
Што гучалі на арфе Арфея,
І знайсці тыя фарбы,
Якімі Мадонну ствараў Рафаэль.

Усё гэта – мёртвая кніжнасць, за якой не адчуваеш непасрэднага чалавечага хвалявання. І неяк няёмка становіцца, што пошукі паэтычнага слова аўтар уяўляе наступным чынам:

Мая матуля,
Я песню страціў.

Пайду шукаць, куды яна зляцела.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Пайду барамі ўздоўж Вяллі-ракі,
Пайду альшанікам уздоўж ракі Гярвяткі,
І буду птушак выпускаць з рукі,
І біць у ладкі,
І буду птушак выпускаць з рукі.
*(“Збяры мяне ў дарогу, маці”)*

Дзіўнай нечаканасцю здаецца паэтызацыя нібыта нацыянальных рыс беларусаў наступнае:

Пара дзяцюкоў
Табе такіх падкіне аплявонаў,
Што на чацвёрах папаўзеш дамоў.
*(“Уступ да ненапісанай паэмы”)*

З незразумелай настойлівасцю аўтар узнаўляе рэлігійныя звычкі:

На бібліі і на каране
Благаслаўляю нас дваіх.
*(“Каханая, цудоўна жыць на свеце”)*

І ўжо зусім несур’ёзна гучыць прысвячэнне верша “Іпадром” – “А. Каўбенаву, жакею. Ранеце, гнедай кабыле”.

А між іншым, пры жаданні аўтар можа быць без лішняга мудрагельства паэтычным, што сведчыць верш “Вытокі”, прысвечаны Коласу і Купалу:

Падобны на шэпт збажыны
І на плёскат азёрны імёны,
Якія паэтам сваім Беларусь даравала —
Колас...
Купала...

Запамінаецца верш пра асколак, якім бацька быў паранены ў гады вайны: яго

З-пад сэрца (бацькавага – *С. Г.*) дасталі
У сорак трэцім...
Я не браў
Ніколі той свінец у рукі,
Бо ведаю, што прапячэ
Ён мне далоні!
*(“Я нарадзіўся ў сорак шостым”)*

Добрыя штрыхі сустракаюцца ў вершах “Хтось затворам праклацаў”, “Штрыхі вайны”, “У самалёце”, “Засуха”, “Нядзеля з дзяўчынкай”, “Сола на саксафоне”, “Кевалач”, “Нафтавікі”. Гэтыя вершы сведчаць, што аўтар умее бачыць паэзію ў будзённых праявах жыцця. Але, па-першае, такіх твораў малавата, а па-другое, некаторыя з іх вымагаюць стылістычнай дапрацоўкі, таму аб выданні зборніка гаварыць яшчэ рана.

Уладзімір Някляеў – чалавек малады, у яго ўсё яшчэ наперадзе. І калі ён з большай патрабавальнасцю будзе ставіцца да слова, будзе браць у аснову сваіх твораў трапяткія праблемы сучаснасці, ён, несумненна, даможацца істотнейшых поспехаў.

*Сцяпан Гаўрусёў*

*12.06.73 г.*»[30]

«Раптам атрымліваю адмоўную – так званую ўнутраную, выдавецкую – рэцэнзію. І мяне адусюль пачынаюць адпіхваць. “Ты лішні, лішні, чаго прыпёрся? Нас тут без цябе хапае”, – прыгадваў Някляеў. – Сьцяпан Гаўрусёў рэцэнзію напісаў, зямля яму пухам. Я любіў яго, энергетычна моцнага ў сваіх першых кнігах. Ягоны радок “Я вырас пад гарматнымі стваламі...” стаў нібы эпіграфам да ўсёй творчасьці пакаленьня, якое называлі “пакаленьнем, апаленым вайной”. Ды і ён, Гаўрусёў, да мяне, як старэйшы сябар ставіўся, а вось... Пасьля вінаваціўся: “Прабач, мне сказалі... А рэцэнзія, ты ж ведаеш, 25 рублёў...” Ён тады ўжо даволі моцна выпіваць пачаў...»[31]

У выніку Някляеў зноў зазбіраўся ў Маскву.

## ПАНЧАНКА. КІРСАНАЎ

«В 69-м году минувшего столетия издательство “Мастацкая літаратура”, в которое отослал я рукопись своей первой книги, очень удачно располагалось напротив входа в ресторан “Минск”. Года через три, когда рукопись помурыжили и зарубили, я решил уехать в Москву, где готовилась к изданию моя книга на

русском языке – и никто её не рубил. Я учился в Москве в Литературном институте, меня брали на работу на Центральное телевидение, всё у меня там было хорошо.

В день отъезда пришёл я забрать рукопись белорусской книги, и Бородулин, встретив меня на узкой нейтральной полосе между издательством и рестораном, сказал, что, коль уж я навсегда уезжаю, так надо бы проститься по-человечески[32]... Сам-то он тогда уже не пил, поэтому пришлось мне прощаться за двоих – и в результате не смог я осилить совсем недалёкий путь от ресторана к вокзалу, в иное будущее. Кабы судьба на руках в вагон занесла и на полку положила, уехал бы, да вот не судьба...

Пока приходил я в себя и осознавал произошедшее, Бородулин отдал мою рукопись на повторную рецензию, которая была написана прямо на титульном листе и оказалась короче пути к вокзалу: *"Калі выдаваць першыя кнігі вершаў, дык такія"*. И подпись: *Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі*[33].

В те времена вернуть рукопись к жизни мог только тот, чей авторитет был выше авторитета рецензента, книгу зарубившего, а таким авторитетом обладали лишь народные поэты. Бородулин хотел отдать рукопись ещё и Аркадию Кулешову, но решили, что два народных поэта на одного ненародного рецензента будет чересчур[34]. Тем более что к рецензенту я хорошо относился и его рецензия на отношения не повлияла. Разве только чуть, когда он признался, что ему *сказали*, какую написать рецензию. Мол, раз обретается Некляев в Москве, так пускай у москалей и издаётся»[35].

Тут трэба забегчы наперад і сказаць, што яшчэ неаднойчы пасля Пімен Панчанка палічыў неабходным даць ацэнку паэтычнаму таленту Уладзіміра Някляева. Да прыкладу, напісаў у 1987-м: «Помніце, я заўсёды верыў і веру і ўсюды сцвярджаю, што Вы – адзіны па-сапраўднаму таленавіты, арыгінальны і патэнцыяльна вялікі паэт (з сярэдняга пакалення). У чым з любоўю і распісваюся»[36].

Да таго ж трэба зрабіць удакладненне і назваць яшчэ адну прычыну, па якой Някляеў адмовіўся ад «рускай» кніжкі. Прычыну, якая, па яго словах, «может показаться опять же придурочной, однако она имела существенное значение. Задумчивое значение, я бы сказал»[37]: «Ніяк і ні з кім, вядома ж, не раўняюся, але я меў уласны вопыт вершаванага пісьма па-руску, нават кніга ў Маскве павінна была выйсці. І яна выйшла б, каб сапраўды бліскучы рускі паэт і віртуозны знаўца мовы Сямён Кірсанаў, прачытаўшы рукапіс, не сказаў мне: "Всё это насколько хорошо, настолько не по-русски". Я чакаў ад яго, паэта з эпохі Блока, Маякоўскага, Хлебнікава, любога прысуду, толькі не такога. Помню, што з нечаканкі нават пакрыўдзіўся і згадаў ягоную крэўную нацыянальную прыналежнасць: "У-у, а яшчэ рускай мове вучыць мяне будзе". Толькі Кірсанаў на тое пляваў і, папіваючы каньячок з каўкай, як двойчы два давёў мне, што паэзія – гэта не граматыка і не сінтаксіс, і нават не лексіка. Ва ўсякім разе гэта не прамыя значэнні слоў, а тое, што адбываецца з імі ў іх спалучэннях і аддаленасцях. Гэта найперш інтанацыйны спосаб мыслення, менш ці больш метафарычны. "А ў цябе, – ён сказаў, – усё добра, толькі ўсе словы слоўнікавыя, інтанацыя не руская і спосаб мыслення не рускі. Не ведаю, якія, але не рускія"»[38].

Такім чынам, дзякуючы Сямёну Кірсанаву і Рыгору Барадуліну дый пры дапамозе Пімена Панчанкі, а таксама невытлумачальнай метафізіцы, якая завецца лёсам, застаўся Някляеў у Беларусі і ў беларускай літаратуры.

## «СКУЛЬ ТЫ ВЫСКАЧЫЎ?»

Філосаф Валянцін Акудовіч значна пазней, ужо ў 1996 г., выказваў меркаванне, што Някляеў усё ж не зусім беларускі паэт, хоць і піша на беларускай, роднай

яму, мове. «Порой мне кажется, – тлумачыў ён падчас гутаркі з Някляевым гэты свой выраз – «не зусім беларускі», – что контекст белорусской поэзии не принимает поэзию Владимира Некляева, он как бы вытесняет её из себя, выталкивает. Или, что, может быть, и более верно – наоборот, сама Ваша поэзия не совсем вписывается в этот контекст, как не в свой размер, она как бы ищет иного пространства. (“Не з тымі пайшоў і дарогай не той”.) Может быть, причина в том, что Вы как поэт были сформированы огромным пространством былого союзного поэтического государства и Ваша поэтика, вольно или невольно сориентированная на поэтическую “галактику” от Бреста до Курил, не находит себе места в одном локальном измерении? Или здесь что-то иное? А может, такой проблемы вообще нет, и это не Ваша проблема, а моя? Но тревожат слова:

Ты з тых,
Чый шлях – зваротны.
Да чужых
Святых
Ты рушыў са сваімі.

Где ваши святые?» І Някляеў у адказ: «Никакой проблемы нет, личной моей проблемы. Все святые мои в Крево, в Сморгони – где ж им ещё быть? Язык материнского молока, язык снов и бабушкиных сказок – белорусский. Моё метафизическое сознание сформировано здесь, без подгонок вкладывается в матрицу местного быта. Может быть, Крево – не Беларусь?

И всё же проблема как будто есть. Не моя проблема, а связанная со мной, для меня придуманная. [...]

Пожалуй, Вы точны в ощущении вытеснения, выталкивания собственного моего текста из того, что Вы называете контекстом белорусской литературы. Но не контекст же производит это действо, не с чертовщиной ведь мы имеем дело. Всё гораздо проще: я изначально оказался словно пришлым, лишним, со стороны явившимся в *родную литературу*. Не в литературу даже, а в литературный театр, где не предполагалось моего участия, потому что пьеса была уже написана, роли распределены и начинались генеральные репетиции. Думаю, Василь Зуёнок не обидится, если я вспомню, как он высказал мне в простоте своей общее литературное мнение: “Скуль ты выскачыў раптам, як чорт з канапель, і што цяпер з табой рабіць: адкрываць ці закрыць адразу?” Шутейно, конечно, сказано было, но за шуточкой этой как что-то стояло, так и стоит – и я вовсе не имею в виду Василя Зуёнка, который с присутствием моим искренне смирился и теперь ему даже как бы рад»[39].

Някляеў ад пачатку быў «свой сярод чужых і чужы сярод сваіх». Літаратуразнаўца Любоў Турбіна пісала напрыканцы 1990-х: «На поўны голас імя Уладзіміра Някляева загучала ў беларускай паэзіі пад сярэдзіну 70-х гадоў. На той час у самым росквіце творчых сіл было пакаленне “шасцідзясятнікаў”, якія даволі хутка прызналі ў маладым паэце свайго паплечніка»[40], аднак у ліку тых «шасцідзясятнікаў», «якія даволі хутка прызналі» ў Някляеве «свайго паплечніка», Л. Турбіна назвала толькі аднаго – Рыгора Барадуліна. Між іншым, гэтая акалічнасць, відаць, і дала падставу напісаць цяпер ужо Барадуліну, што «Уладзімер Някляеў прыйшоў у літаратуру парыўна, але не надрыўна, з парогу адразу на кут, але без пакут. Яго адразу заўважылі й запаважалі»[41].

## КАРАТКЕВІЧ

Пазней Любоў Гарэлік, аналізуючы першую кнігу Някляева і падводзячы пэўныя вынікі, адзначала, што «без зазнайства і позы У. Някляеў абвясціў сябе вучнем Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, М. Танка», але, «безумоўна, першая

кніга У. Някляева вельмі няроўная ў мастацкіх адносінах. Сапраўды, ёсць і хлёсткія радкі, і пазёрства, і эскізнасць, расплывістасць вобразаў, і цьмяныя мясціны, якія завісаюць у паветры, але ва ўсім – у творчых удачах і праліках бачацца настойлівыя пошукі ўласнага стылю, памкненне захаваць чысціню і першароднасць мастацкага слова»[42].

Калі казаць пра паэтычных папярэднікаў, якія нейкім чынам паўплывалі на літаратурны густ Някляева, дык ён сам называе некаторыя імёны: «В школе переписывал в тетради строки Лермонтова, Есенина, Блока [...]»[43]. А іншым разам казаў: «...не ўяўляю свайго жыцця без твораў А. Пушкіна, М. Лермантава, П. Элюара, Г. Апалінэра, Я. Купалы, М. Багдановіча. Вельмі люблю творчасць А. Куляшова, Я. Еўтушэнкі, Р. Барадуліна, П. Панчанкі, І. Шклярэўскага, Ю. Кузняцова. Са сваіх аднагодкаў – беларускіх паэтаў – больш за ўсіх цаню А. Разанава»[44]. Да таго ж называў яшчэ Д. Апдайка, Д. Стэйнбека, Д. Сэлінджэра, У. Фолкнэра, Э. Хемінгуэя[45]. І ўспамінаў:

«Когда-то в школе меня спросили:

– Что такое поэзия?

Я не знал, как ответить. Но, подумав, сказал:

– Пушкин.

Класс рассмеялся.

Учительница переждала смех, наклонилась ко мне и добавила тихо:

– И Некрасов.

Она очень любила Некрасова»[46].

Аднак наўрад ці Някрасаў (які пазней стаў персанажам даволі дзіўнага някляеўскага апавядання «Бары-бэры»), альбо нават Пушкін паўплывалі на станаўленне менавіта беларускага паэта Някляева так, як тыя, з кім звёў яго лёс у адным часе. Неяк ён прызнаўся, што больш за паэзію любіць толькі паэтаў, і адзін з самых любімых – Уладзімір Караткевіч, з якім яго пазнаёміў на пачатку 1970-х Рыгор Барадулін, таксама, дарэчы, адзін з найлюбімых. «Уладзімір Сямёнавіч шмат каму ўскалыхнуў душу – і мне таксама. Не скажу, што тое, што называецца беларускай сьвядомасьцю, цалкам у мяне ад яго, але ў нечым – і найперш у цікаўнасьці да беларускай гісторыі, увогуле да беларушчыны – так, – гаварыў Някляеў. – На мяне, на рускага па бацьку чалавека, паўплываў – як на беларуса – не адзін Караткевіч. Гэта яшчэ – Куляшоў і Панчанка (яны паспрыялі выхаду маёй першай кнігі), Танк, Барадулін, Стральцоў... У меншай ступені Быкаў. Канечне, ён чытаўся, ягоныя аповесьці захаплялі, кожная з іх ставалася падзеяй, але тагачасны Быкаў быў... як бы гэта сказаць... толькі часткова беларускі. А Караткевіч – увесь.

Вельмі істотна тое, што беларускасьць ягоная выглядала – і была – натуральнай. У гэтым не было нічога штучнага, ён не натужваўся, не стараўся быць беларусам. Проста быў. І калі ты задаваўся пытаньнем: “А якім павінен быць беларус?..” – дык глядзеў на Караткевіча і думаў: “Можа, менавіта такім?..”»[47]

«Быў 73-ці год. Рыхтавалася да друку мая першая кніга, і я дамовіўся з адным паэтам, што прыйду да яго з пляшкай, каб пагаварыць пра праблемы, якія ўзніклі пры падрыхтоўцы рукапісу. Прыходжу гадзіны ў чатыры, а там ужо сабралася кампанія, прычым, з самай раніцы – гэта можна было зразумець па колькасці пустых пляшак. Была субота ці нядзеля – адным словам, выхадны дзень, паколькі на працу ніхто не спяшаўся. Хоць гэтыя людзі маглі не пайсці на працу і ў будзённы дзень – свята яны заўсёды насілі з сабой.

І вось, увайшоўшы, я ўбачыў, што дзверы ў ванны пакой адчынены, а ў ванне ляжыць Уладзімір Караткевіч. Праўда, ляжаў ён апрануты і сухі, трымаючы ў руках трубку ад душа і спрабуючы выклікаць «хуткую дапамогу»:

– “Хуткая”... “Хуткая”... Гэта “хуткая”? Я болей не магу з гэтымі п’янтосамі жыць! Забярыце мяне адсюль! Зратуйце...

Бачачы, што гаспадар кватэры таксама ўжо ніякі, і выпіць мне тут ні з кім не выпадае, кажу Караткевічу:

– Уладзімір Сямёнавіч, я – “хуткая дапамога”.

– А на табе крыж ёсць? – раптам пытае Караткевіч.

Крыжыка на мне не было.

– Няма на мне крыжа.

– Дык якая ж ты “хуткая дапамога”?

– Без крыжа, але “хуткая”... Ці ў вас ёсць хутчэйшая за “хуткую”?..

“Хутчэйшай” не было... Урэшце пераканаў яго неяк, мы абняліся і выйшлі на вуліцу. Сеўшы ў таксоўку, Караткевіч сказаў:

– Паедзем дахаты!

Аднак недзе пасярэдзіне дарогі перадумаў:

– Не. А чаго дахаты? Паедзем да мяне на лецішча!

Я, шчыра кажучы, не ведаў – можа, лецішча ў Караткевіча недзе і ёсць, але дзе? Ні разу не чуў пра яго. Можа, думаю, недзе пад Оршай? Тым не менш згаджаюся:

– Паехалі.

А ў той час таксі каштавала не так, як цяпер – ездзіць можна было. У мяне ж з сабой было рублёў сорак, за гэтыя грошы можна было ажно да Вільні даехаць. Я толькі спытаў:

– Куды ехаць?

– На Магілёўскую шашу.

У тым баку знаходзіўся Дом творчасці “Каралішчавічы”. Едзем, а Уладзімір Сямёнавіч распавядае:

– Мы зараз прыедзем, у мяне там такое лецішча! Ты не ўяўляеш, якое лецішча! Не ведаеш, які там цуд! Нават не прысніш, як там прыўкрасна! А самае наўпрыкраснае там тое, што пад вокны гарою насыпаліся з дубоў залатыя жалуды!

Так тваю растак, думаю я, можа, жалуды і насыпаліся, але ж вясна! І асцярожна заўважаю:

– Пара ж года нібыта...

Ён у адказ:

– Дык яшчэ ў тым годзе насыпаліся. І такія жалуды, што мадзеюць і мадзеюць! Нічога з імі не робіцца...

Так мы даехалі да “Каралішчавічаў”. Разважаю: цяпер у Дом творчасці звернем, там вып’ем – і ўсё будзе добра, без жалудоў абыдземся. Але Караткевіч раптам кажа:

– Не, далей! Там налева! Бач мне, хітры знайшоўся!

Карацей кажучы, заехалі мы ў лес і пайшлі шукаць тое Караткевічава лецішча. Шукалі так: Уладзімір Сямёнавіч падыходзіў да якога-небудзь дрэва і казаў:

– Недзе тут. Чакай... Вось гэтая сасна, а за ёй...

Ну, а пасля вунь за тым клёнам... за тым касагорам... І ў чым заключаўся ўвесь фокус: ён не тое, што дурыў мяне – ён сапраўды шукаў сваё лецішча, якое стаіць сярод дубоў і пад вокнамі якога высяцца горы залатых жалудоў! Ён ужо ўвесь быў у гэтым толькі што прыдуманым ім сюжэце. Не вырываць жа Караткевіча з яго! Таму і хадзіў я ды гукаў:

– А можа, на гэты бок?.. Можа, на той?..

Пошукі лецішча працягваліся больш за гадзіну, пакуль таксіст, ходзячы за намі, не вытрымаў і не сказаў усё, што ён пра нас думае. Толькі тады павярнулі дадому.

– Нічога, іншым разам знойдзем, – супакоіў мяне Караткевіч...

Неаднойчы ўсе мы былі сведкамі такіх яго выдумак. І хоць разумелі, што

Уладзімір Сямёнавіч зноў штосьці выдумляе, ніхто не праціві́ўся ягоным выдумкам. Гэта быў чалавек, які пастаянна тварыў – пісаць у такім стане ён не мог, таму й пачынаў нешта вынаходзіць, каб весялей жылося. Ёсць людзі, якія, выпіўшы, робяцца агрэсіўнымі ці проста спяць, ад Караткевіча ж дабрыня ішла хвалямі, адна за адной. Гэта быў фантан дабрыні, фантазіі. Такой дабрыні, што ты раптам разумееў, што для Караткевіча ты не абы хто, ты – дарагі для яго чалавек, і ён хоча падзяліцца з табой тым, што сам мае. Быць побач з ім, знаходзіцца ў яго аўры цягнула пастаянна... Гэта, можа, не надта адпаведнае слова – чалавекалюбівы, але Караткевіч быў менавіта чалавекалюбівым, гэта праўда»[48].

Між іншым, у рамане Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» цытуюцца вершы некаторых паэтаў (Р. Барадуліна, А. Вярцінскага) і як бы адным-двума штрыхамі накіданы іх вобразы, але ўсё ж з найбольшай любоўю выпісаны вобраз Караткевіча. Ён нават (што у някляеўскай прозе рэдкасць) партрэтны:

«Павярнуўшыся, я блізка, твар у твар, убачыў дзецюка з русявымі, што хваляй спадалі на лоб, валасамі і з гэткімі ж мякка-насмешлівымі, як і голас, вачыма, якія, пры ўсёй мяккасці позірку, нечакана здзіўлялі, нават насцярожвалі тым, што былі рознакаляровыя: правае вока – шэра-зялёнае, а левае – светла-карычневае, арэхавае, якое глядзела да таго ж паўз цябе, нібы трохі косячы. [...]

– Ды што вы перапудзіліся! – прайшоўшы да стала, за якім сядзелі запалоханыя кансультанты, паставіў перад імі пляшку гарэлкі рознаколеравокі дзяцюк. – Гэта ж Палкоўнік! [...]

Па скон жыцця Кім застаўся дысідэнтам, легендай Менска, насамрэч вольным, хоць і двойчы адсядзелым, гараджанінам, якому ў кабінеце літкансультантаў Саюза пісьменнікаў працягнуў руку дзяцюк з рознакаляровымі вачыма:

– Караткевіч. Уладзімір.

З рэдкай, нават выключнай для ягонага з’едліва-нахабнага характару павагай Палкоўнік пацісну́ў працягнутую яму руку. Уладзімір Караткевіч яшчэ не быў легендай, да легенды далёка было, але Палкоўнік нібы наперад ведаў, каму руку паціскае»[49].

## «ЗНАМЁНКА»

Вярнуўшыся з Масквы, Някляеў працуе ў маладзёжнай газеце «Знамя юности». Спачатку карэспандэнтам, затым літкансультантам, кіраўніком літаратурнага аб’яднання «Радуга». Разам з журналістамі В. Ледзеневым, В. Холадам і эканамістам О. Наважылавым ён засноўвае ў «Знамёнцы» аддзел сатыры і гумару «Пятница», які ў тыя часы карыстаўся надзвычай вялікай папулярнасцю і дзе, дарэчы, друкаваліся гумарэскі самога Някляева[50].

Віктар Ледзенеў пазней прыгадваў: «Пад сярэдзіну 60-х мы з Някляевым згубілі адзін аднаго. Ён скончыў свой тэхнікум сувязі, паехаў на Далёкі Ўсход, на Поўнач. Я апынуўся ў Паўднёва-Ўсходняй Азіі – на в’етнамскай вайне. Вярнуўшыся ў Менск, прафесійна заняўся журналістыкай. Валодзя паступіў у Літаратурны інстытут у Маскве – і нечакана, як і ў пачатку 60-х, зноў аб’явіўся ў пачатку 70-х. Яму было ўжо не пятнаццаць, а дваццаць пяць – і ён патэлефанаваў мне, шукаючы працу. Я працаваў тады ў рэдакцыі газеты “Знамя юности” разам з Валерыем Холадам, у якога былі добрыя адносіны з галоўным рэдактарам, і па нашых рэкамендацыях Някляеў прынялі ў штат рэдакцыі»[51].

Сам Някляеў распавядаў пра гэты перыяд свайго жыцця: «По нынешним понятиям я был журналистом “жёлтой прессы”. Я писал о кроликах, о куропатках, о каких-то спектаклях, музыке, обо всём, только чтобы меня где угодно напечатали и заплатили гонорар»[52]. Хоць гэта, вядома, перабольшванне, якое выглядае нават

Галіна



...мы плывем у бясконцасць,
у вечнасць, згукі якой дзіўным чынам
люструюцца ў творах тых,
хто прыслуханы да сваёй Бацькаўшчыны...

# Прыслуханасць.

***Пётра Багданаў. Крок да сябе***

***Звычайна мастакі шукаюць вобраз вачыма. Але ёсць тыя, хто здольны не толькі ўбачыць, але і пачуць першасную гармонію, каб потым перанесці яе на палатно альбо, у рэдкіх выпадках, на паперу. Тое, што Пётра Багданаў не толькі бачыць, але і чуе свае вобразы, я зразумела на персанальнай выставе ў родным яго Лагойску. Кожная быццам спавядала сваю непаўторную мелодыю, а разам яны стваралі незвычайную колеравую сімфонію, на дзіва сугучную жывапіснаму восеньскаму наваколлю. У Мінску і Гародні персанальныя экспазіцыі былі іншымі.***

## Парушэнне канонаў

Творы мастацтва ніколі не з’яўляюцца перад вачыма выпадкова. Яны раптам выплываюць з гісторыі, каб выявіць, вобразна акрэсліць нешта на сёння вельмі важнае, сутнаснае. І калі наш старэйшы сын Алесь прывёз з Варшавы рэпрадукцыю старажытнай фрэскі IX стагоддзя, знойдзенай у Фарасе

ў сярэдзіне стагоддзя ХХ выдатным польскім археолагам Казімежам Міхалоўскім, цудам уратаванай ад затаплення падчас будаўніцтва Асуанскай плаціны, я ўбачыла, што яна дзіўным чынам рытмічна, каларыстычна сугучная аднаму з твораў Пётры Багданава. У фрэсцы, дзе ўвасоблена Святая Ганна, ёсць тая ж мелодыка ліній, тая ж узнёсласць і глыбокае задуменне, што і ў карціне "Анёл II".

Інтэрнэт дапамог мне здзейсніць захапляльнае падарожжа ў мінулае, я была заінтрыгаваная неўтаймоўным шукальнікам старажытных скарбаў, патрыётам роднай зямлі геніяльным археолагам Міхалоўскім, і тымі, не менш апантанымі і адчайнымі хрысціянамі, што ў IX стагоддзі сярод мусульманскага свету збудавалі адкапаны з пяску ў сярэдзіне ХХ стагоддзя манастыр. Хрысціянства прыйшло на тыя егіпецкія землі з Візантыі, і менавіта тут дзіўным чынам перапляліся дзве плыні, што ішлі ад Юстыніяна і Феадоры. У гэтую праблему, спадзяюся, у мяне яшчэ будзе час заглыбіцца. Але нам зараз важныя вобразы святых, якія так кранаюць нас сваім жывым, не зусім кананічным аблічам. Хаця на той час каноны толькі выпрацоўваліся, толькі складаліся. Выдатны рускі філосаф Павел Фларэнскі параўноўваў канон з берагамі. У ракі таксама ёсць берагі, і ад гэтага яе плынь толькі набывае сілу. Так і іканапісец, падпарадкаваны пэўным кананічным правілам, калі пачуцці перапаўняюць яго, здольны напісаць надзвычайны паводле эмацыянальнага ўздзеяння абраз. На пачатку іканапіс падначальваўся канонам найперш дзеля таго, каб святыя не сталі ідаламі.

Але, як сведчыць гісторыя, часам мастакі дзеля таго, каб дастукацца да сэрца кожнага, парушалі канон. Самы яркі прыклад – творы нашых майстроў, драўляная скульптура XVII-XIX, ды і ХХ стагоддзяў, у якой натуральна спалучаліся дахрысціянскія і хрысціянскія традыцыі. На Беларусі засталося дастаткова скульптурных помнікаў эпохі барока. Вытанчаныя, далікатныя, залачоныя святыя – сапраўдныя нябесныя пасланнікі. Дыханне перахоплівае ад хараства. Але былі ж і скульптуры, падобныя да апосталаў Пятра і Паўла з калекцыі Музея старажытнабеларускай культуры. Стаптаныя ногі, рукі ў мазалях, глыбокія зморшчыны на ілбе. І да каго хутчэй прыйдзе просты чалавек са сваёй крыўдай? У іх было штосьці ад старажытных стодаў, якім даўней пакланяліся нашыя продкі, але гэта былі хрысціянскія святыя, што прынялі пакуты, самі цярпелі, значыць, і нам дапамогуць перажыць усе дадзеныя лёсам выпрабаванні.

На пачатку 1990-х, калі Беларусь шукала свой шлях у будучыню, мастакі, пісьменнікі, кампазітары разам з гісторыкамі, археолагамі раз-пораз вярталі нас у мінулае, каб трывалей адчувалі мы сябе ў дні сённяшнім і з надзеяй глядзелі ў будучыню. Менавіта тады, у 1993 годзе на адной з рэспубліканскіх мастацкіх выставаў у Палацы рэспублікі з'явілася серыя карцінаў Пётры Багданава "Жыццясны драўлянае скульптуры". Строгі, заглыблены ў сябе "Апостал Пётра", з трывогай застылая ў маленні "Марыя Магдаліна", узнёслы "Архангел Міхаіл"... Такія, якімі ўбачылі святых народныя майстры і агучыў колерам, наблізіў да нас Пётра Багданаў. Рэпрадукцыі гэтых працаў у канцы 1990-х былі змешчаны ў часопісах "Маладосць", "Мастацтва", пра іх хораша напісаў адзін з выкладчыкаў Пётры жывапісец Алег Маціевіч: "Засваенне пластычных сродкаў выразнасці, цэльнасці беларускай драўлянай скульптуры не было толькі выпадковым эпізодам ягонага творчага жыцця. Пётра Багданаў свядома лагічна карыстаецца колерам, цэльным сілуэтам фігуры на кантрастным фоне, імкнецца надаць сваёй працы знакавасць..."

Так, Пётру Багданаву пашанцавала на настаўнікаў – Віктар Грамыка, Алесь Марачкін, Алег Маціевіч...

Але, шукаючы аснову жывапіснай плыннасці і мастацкай дзёрзкасці, я б вярнулася ў Лагойск, адкуль Пётра родам, дзе самі плаўныя лініі ўзоркаў нагадваюць жаночае цела, дзе павольна, у задуменні цячэ рэчка Гайна. На адным з тых узгоркаў у маленстве Пётра гартаў альбомы з рэпрадукцыямі мастакоў, потым пісаў эцюды,



*Прафесар кафедры жывапісу Віталь Герасімаў (злева) вітае Пётру Багданава на адкрыцці персанальнай выстаўкі ў Лагойску.*

браўшы першыя ўрокі ў выдатнага народнага майстра, ганчара і жывапісца Сямёна Саўрыцкага. Ён і параіў адоранаму хлапчуку паступаць у Мінскае мастацкае вучылішча, дзе кумірам для тагачаснай моладзі стаў жывапісец Альгерд Малішэўскі. Прырода як стыхія, як музыка, што можа быць перададзена праз жывапіс. Той самы філосаф Павел Фларэнскі падзяляў мастакоў на мастакоў дня, для якіх галоўнае малюнак, контур, знешняе падабенства, і мастакоў ночы. І Сезан, творчасцю якога з юнацтва захапляўся Пётра, і Альгерд Малішэўскі былі мастакамі ночы. Можа быць, менавіта засвоены з юнацтва жывапіс без берагоў і дазволіў Пётру Багданаву не зважаць на каноны, разумець і даносіць да нас самую сутнасць той ці іншай з'явы, чалавека альбо той самай драўлянай скульптуры? Дыпломная праца, трыпціх "Народныя святы" ("Вербніца", "Сёмуха", "Свята куста") (1992) уражвала той самай разняволенасцю, свежасцю, натуральнасцю ўспрымання. Вобразы быццам выплывалі з туману, заварожвалі. І пасля на свет глядзеў скрозь іх...

Значна пазней, ужо на пачатку 2000-х у Пётры Багданава з'явілася серыя "Анёлы майго жыцця". І калі рэальнасць у першых ягоных творах праступала як бы скрозь туман, то Анёлы выглядаюць зусім рэальнымі, кожны са сваім характарам, сваім настроем. І ён, гэты настрой не столькі адбіваецца на тварах Анёлаў (як тут не згадаць "Аплакванне Хрыста" Джота), колькі ў лініях, агульным каларыце, той самай няўлоўнай мелодыі, якую не перадасі словамі, але можна перадаць у жывапісе.

Не ведаю, ці бачыў Пётра Багданаў падчас Маладзёжнай выставы ў Польшчы, на якой ён у свой час экспанаваў свае карціны, фрэскі, якія археолаг Міхалоўскі прывёз з Фараса, ці адбіліся гэтыя вобразы ў ягонай падсвядомасці. Але тое, што зусім нечакана выведзеная лініяй мелодыя "Святой Ганны" з дзявятага стагоддзя загучала ва ўнісон з адным з Анёлаў дваццаць першага стагоддзя... Гэтае раптоўнае рытмічнае супадзенне не магло не ўразіць.

***І я зрабіла першае адкрыццё.*** Напісаны паводле канона твор мае магутнае ўздзеянне, перад ім застываеш у задуменні. Выкарыстанне ў кананічным творы зваротнай перспектывы, калі амаль віртуальны залаты фон прапускае тваю душу туды і вымушае цябе самога засяродзіцца, прадстаць перад святым. А вобраз, у якім канон парушаны, дзе пачуцці, бы вада цераз край, здаецца, працягвае табе руку, узіраецца ў тваю душу, уздымае над рэчаіснасцю, і ўжо не толькі душа, цела тваё робіцца лёгкім, бязважкім...

## Метамарфозы жанчыны

Археолагі сцвярджаюць, што чалавек перш пачаў спазнаваць і вобразна асэнсоўваць жывёлу, потым жанчыну... Дакладней за ўсё Пётру Багданаву пра ягоныя творы сказаў адзін з вясковых дзядзькоў: “Ты ж быццам душу ў жанчын выцягваеш!” Так, знаўца жаночага хараства, Пётра Багданаў пакланяецца, кажучы ягонымі словамі “някідкаай прыгажосці, унутранай гармоніі, сапраўднай жаноцкасці...”

Японцы кажуць, што з гадамі душа чалавека выходзіць на ягоны твар. Мастак здольны ўгледзець гэтую душу ў табе ад самага нараджэння. Пётра Багданаў услаўляе не столькі Жанчыну-Маці (у эпоху протарэнесансу яе называлі строга – Маэста), колькі спакуслівую, вабную, трапяткую, жывую Жанчыну Ранняга Адраджэння, эпохі Бацічэлі. Менавіта гэта дазваляе жывапісцу перадаваць безліч пераўтварэнняў, безліч розных паводле гучання колеравых гармоній, праз цела бачыць душу... У сучасным мастацтве ню часам ператвараецца ў гульню, у эратычныя, а то і парнаграфічныя паддаўкі. Ва ўвасабленні натуры я б магла параўнаць Пётру Багданава хіба што з Алесем Ксяндзовым. Але калі ў Алеся Ксяндзова кожная мадэль падобная да пярліны, па якой сцякае, якую напаўняе святло, у Пётры Багданава, каларыста ад Бога, кожны з жаночых вобразаў мае сваё адметнае колеравае ззянне, як каштоўныя каменьчыкі — сапфіры, рубіны, смарагды...

Алесь Ксяндзоў неяк заўважыў, што форма цела мадэлі можа нагадваць той або іншы музычны інструмент. Пётра Багданаў чуе і перадае нават не асобную мелодыю, а паўнагучную паліфонію, колеравым рэхам якому адгукаецца ўсё наваколле. І пры гэтым творы застаюцца вельмі інтымнымі і камернымі. Як прызнаўся сам мастак: “Усё, што напісана, – пра жанчын. Нават калі не было такой задумы, а проста пісаў тое, што хочацца... атрымлівалася – пра жанчын. Мне часта задаюць пытанне, хто яна – тая, каго ты малюеш? Гэта нейкі вобраз, які жыве па-за рэальнасцю. Твой пэндзаль вядуць не ўспаміны пра нешта канкрэтнае, а хутчэй жаданне чагосьці. Гэта ўвасабленне пачуццёвага, на ўзроўні падсвядомасці”. І ягоныя творы, разглядаючы, варта слухаць – “Каштанавы ранак”, “Сон”, “У лазні”, “Восеньская цнота”, “Восеньская рапсодыя”... Ягоны першы настаўнік у мастацтве ганчар Сямён Саўрыцкі сцвярджаў,



*Пётра Багданаў. “След вечаровага промня”. Палатно, алей, 2005 г.*

што Лагойскія пагоркі нагадваюць пластыку жаночага цела, ён вырабляў эратычную кераміку і традыцыйныя беларускія збанкі, гарлачыкі, гаршчочкі, у якіх ягоныя чуйныя рукі таксама лавілі лініі жаночага хараства. Пра гэта, дарэчы, у часопісе “Мастацтва” пісаў Пётра Багданаў.



*Пётра Багданаў. “Анёл I”. Палатно, алей, 2001 г.*

***Тут самы час падзяліцца яшчэ адным адкрыццём:*** кожная жанчына прыўносіць у гэты свет сваё адметнае святло, яно можа саграваць, апякаць, раніць... І не толькі адзенне, але і цела. Нябачная для многіх, але заўважная для мастака, душа пульсуе, як камертон гармоніі для блізкіх, родных, для ўсяго свету.

## Філасофія існасці

І яшчэ адно адкрыццё: у сапраўдным мастацкім творы люструецца час і прасвечвае вечнасць... Пётра Багданаў увайшоў у мастацтва, калі моладзь шмат вандравала па Беларусі, збіралася на Купалле, Каляды, да помніка Купалу і Багдановічу, калі моладзь шмат чытала. І ў Пётры Багданава ёсць творы, прысвечаныя Багдановічу, Скарыну, на апошняй юбілейнай Купалаўскай выставе экспанаваўся ягоны твор “След вечаровага промня”. Ён зрабіў шмат ілюстрацый, аформіў нямала кніжак. У тым ліку першыя кнігі Анатоля Казлова, Барыса Пятровіча і іншых вядомых сёння далёка за межамі Беларусі пісьменнікаў. Пётра Багданаў таксама быў і ў Германіі, Польшчы, Расіі, Швецыі... Ягоныя творы сёння ёсць у музейных і прыватных калекцыях у ЗША, Украіне, Расіі, Галандыі і іншых краінах. Але для Пётры Багданава найважней дыялог з тымі, хто побач. Вельмі арыгінальныя творы ён напісаў падчас пленэраў, прысвечаных незабыўнаму Язэпу Драздовічу. Шмат гадоў Пётра Багданаў выкладаў на кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, потым у Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І.В. Ахрэмчыка, дзе вучацца таленавітыя дзеці з усёй нашай рэспублікі, шмат зрабіў на пасадзе намесніка дырэктара. Сярод ягоных вучняў таксама шмат вядомых мастакоў, як і ён, апантаных жывапісам. Дастаткова назваць Глеба Отчыка, Вольгу Піскун і іншых... Мяркую, што і ягоныя сыны Алесь і Януш, хоць кожны з іх ідзе ў жывапісе, у мастацтве сваім шляхам, таксама ягоныя вучні, бо ўмеюць слухаць і чуюць натуру.

У Пётры Багданава ёсць шмат партрэтаў... І з гадамі яны раптам адкрываюць сваю прыхаваную сутнасць. Містычным чынам актрыса Зоя Белахвосцік зараз робіцца ўсё больш падобнай на вобраз, які мастак увасобіў больш за дваццаць гадоў таму... Ён піша нацюрморты і пейзажы, пераўтвараючы імпрэсіяністычна схопленыя вобразы ў сутнасці кветак, рэчаў, краявідаў... Ізноў ён парушае ўсе каноны, але пры гэтым застаецца верным самому сабе...

Мастакі шчаслівыя людзі. Іхныя вобразы не патрабуюць перакладу. Але зараз


*Пётра Багданаў. “Вечар на Свіслачы”. Палатно, алей, 2000 г.*

я хачу перакanaць, што і слова чагонебудзь вартае.

*З ненапісанага*. Яшчэ ў канцы 1980-х Пётра марыў напісаць партрэт свайго Настаўніка Сямёна Саўрыцкага, якога ён разумеў, здаецца, глыбей за самых родных. Яму бачыўся вобраз Ганчара, народжаны з жывапіснай стыхіі, па каларыце сугучнай той гліне, з якой Бог стварыў чалавека, а майстар усё жыццё ляпіў, выкручваў на коле, абпальваў цёплы на дотык посуд... Пётра Багданаў напісаў пра свайго Настаўніка некалькі цудоўных артыкулаў.

Сёння творы Сямёна Саўрыцкага і ягонага вучня Пётры Багданава знаходзяцца побач у экспазіцыі Лагойскага музея.

*Са страчанага*. Мастакі часта запісваюць, шкодзяць, а то і выкідаюць свае творы. І гэтаму немагчыма супрацьстаяць. Нават не сфатаграфаваны, але і цяпер перад маімі вачыма напісаны на Іслачы чвэрць стагоддзя таму начны краявід са стогам сена, у якім лашчыцца, песціцца пад халаднаватым месячным святлом дзяўчына...

Ніколі Пётра больш не пісаў падобнага. Але адна з гарадзенскіх журналістак, калі рабіла рэпартаж пра выставу Пётры, назвала свой матэрыял “Фліртсонца і месяца”... І я зразумела, што святло таго страчанага твора дзіўным чынам праступіла ва ўсіх астатніх.

Пётра Багданаў не любіць лішніх словаў. Калі браць палюсы, альбо, дакладней, берагі ягонай засяроджанасці, прыслуханасці да свету, я б згадала два творы – “Зорны збор”, дзе прасвечвае бязмежны космас (каб пісала інтэрв’ю, абавязкова згадала б, што ў войску Пётра служыў на Байкануры), і “Ловы”, дзе хлапчук у лодцы вось-вось выцягне свой нерат. І родная Гайна можа стацца бязмежнаю ракою часу. Усе мы плывем у бясконцасць, у вечнасць, згукі якой дзіўным чынам люструюцца ў творах тых, хто прыслуханы да сваёй Бацькаўшчыны.

Сяргей Кавалёў



...адсутнасць яскравых твораў крытык звязвае з творчай імпатэнцыяй пісьменнікаў, а імпатэнцыю... з іх філалагічнай адукацыяй...

# У жанры шляхецкай гавэнды

***Рэцэнзія на кнігу Ігара Запрудскага***

***І.М. Запрудскі. Метафізіка беларускай крытыкі. – Мінск: БДУ, 2013. – 220 с.***

Напачатку колькі слоў тлумачэння, чаму рэцэнзія на кнігу, выдадзеную ў 2013 г. напісана так позна. У мае рукі “Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі” трапіла толькі ў 2014 г., дзякуючы руплівасці аўтара. Выдадзеная накладам 100 асобнікаў у выдавецкім цэнтры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кніга не была прызначана для продажу ў кнігарнях, а толькі для карыстання ў рамках вучэбнага працэсу. Фактычна, звычайны чытач, не меў шансаў пабачыць гэтую кнігу, несумненна вартую ўвагі аматараў нацыянальнай літаратуры.

У кнізе “Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі” незвычыйная не толькі назва, але і гісторыя напісання. Аўтар добра вядомы ў асяроддзі навукоўцаў-беларусістаў як гісторык літаратуры XIX ст., даследчык творчасці Адама Кіркора, Вінцэся Каратынскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны. Выпускнік філалагічнага




факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры, Ігар Запрудскі абараніў у 2000 г. кандыдацкую дысертацыю "Творчасць Адама Кіркора: ад Рамантызму да пазітывізму" (навуковым кіраўніком быў прафесар Алег Лойка), выдаў курс лекцый "Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя" (Мінск, 2003) і манаграфію "Па дарозе на Парнас. Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя" (Мінск, 2012). Апошняя з названых кніг была прызнана найлепшай публікацыяй у галіне гуманітарных навук за 2012 год на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Каўнасе (2013).

І раптам знаны даследчык літаратуры XIX ст. выдае зборнік артыкулаў і рэцэнзій, прысвечаных прозе Міколы Купрэева і Леаніда Маракова, паэзіі Вальжыны Морт і Віктара Вабішчэвіча, крытычным артыкулам Ірыны Шаўляковай, змагаецца з надзённымі праблемамі бягучага літаратурнага працэсу: правінцыйнасцю беларускай літаратуры, пасіўнасцю крытычнага цэха, агрэсіўным наступленнем сучаснай рускамоўнай літаратуры на Беларусі. Зрэшты, поўнай неспадзянкай гэтая кніга сталася толькі для чалавека, які не чытаў артыкулаў і рэцэнзій Запрудскага пра сучасную літаратуру ў беларускіх часопісах і газетах, які не ведае, што ён некалькі гадоў працаваў па сумяшчальніцтве загадчыкам аддзела крытыкі часопіса "Маладосць".

Прычыны, якія падштурхнулі Ігара Запрудскага кінуцца ў вір бягучага літаратурнага працэсу, агучаны ім у "Прадмове" да кнігі: клопат за лёс айчыннай літаратуры і незадаволенасць станам літаратурнай крытыкі.

"За два дзесяцігоддзі наша літаратура карэнным чынам змянілася. Зрушылася з мёртвай кропкі безальтэрнатыўнасці дагматаў сацыялістычнага рэалізму і беларуская крытыка. Але чаму ж яе сучасны стан у абсалютнай большасці сапраўды заангажаваных супольнікаў літаратурнага працэсу выклікае глыбокую незадаволенасць, занепакоенасць і нават пратэст?" — задае эмацыянальнае пытанне аўтар кнігі. Сябе Ігар Запрудскі называе прыхільнікам "рэальнай крытыкі", ключавымі прынцыпамі якой з'яўляюцца *шчырасць, праўдзівасць* і *імкненне ўзбудзіць цікавасць да роднага прыгожага пісьменства*. Цікава, што лейтматывам прадмовы з'яўляецца матыў спадзявання. Аўтар спадзяецца, што на працягу дваццаці гадоў быў не толькі сведкам, але і ўдзельнікам літаратурнага працэсу, што праніклівы і ўважлівы чытач зразумее кампазіцыйную пабудову кнігі, і, самае галоўнае, спадзяецца "быць небескарысным для тых, хто жадае далейшага развіцця беларускай літаратурнай думкі і прызнання яе аўтарытэту ў грамадстве". Уражвае ў "Прадмове" спалучэнне веры ў пранікліваць і мудрасць чытача з прыхаванай няўпэўненасцю аўтара ва ўласных сілах, ці, дакладней, у слушнасці свайго звароту да крытычнага жанру. Гэтая няўпэўненасць адчуваецца на працягу ўсёй кнігі: цікавы, удумлівы артыкул пра Максіма Багдановіча заканчваецца сказам: "Спадзяюся, што публікацыя гэтых маіх даўніх назіранняў небессэнсоўная"; у вострым, дыскусійным тэксце "Сапраўды-2" раптам гучыць пытанне: "Быць можа, памыляюся і я, імкнучыся ажывіць айчынную крытыку?"

Чаго няма ў прадмове, дык гэта тлумачэння даволі дзіўнай назвы кнігі: "Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі". Няма такога тлумачэння і ў анатацыі. Калі верыць назве, найноўшая кніга Ігара Запрудскага – пра крытыку: яе асноўныя прынцыпы і праблемы. Калі верыць прадмове і анатацыі, яна – пра беларускую літаратуру: ад Максіма Багадановіча і Максіма Гарэцкага да Алеся

Разанава і Вальжыны Морт. Змест кнігі пацвярджае яе дваістую прыроду: пераважная большасць артыкулаў прысвечана ўсё ж такі *літаратуры,* але найбольш важныя і распазнавальныя тэксты – менавіта *крытыцы*: “Сапраўды (пра крытыку ўвогуле і крытыку ў прыватнасці)”, “Сапраўды-2 (Як скрасці левы чаравік?)”, “Пост САПРАЎДЫ, або БАДАЙ-2”, “Хроніка аднаго панядзелка, ці Міфа- і структуралагема “новага” літаратурна-крытычнага дамастрою”. І нават “фірмовы” артыкул пра беларускую прозу “Пра некаторыя тэндэнцыі ў беларускай прозе (кампілятыўны канспект з дапаможнікаў па сучаснай літаратуры)” заканчваецца разважаннямі пра беларускую крытыку, прычым разважаннямі вельмі вобразнымі і эмацыянальнымі: “У крытычнай “прадукцыі” апошняга часу заўважаецца навязлівае з’яўленне тэкстуальных фрагментаў, якія ўмоўна можна назваць “лямантам” гаротных крытыкаў. Многім цяпер падаецца адпаведным духу часу, што такі суб’ект літаратурнага працэсу, як крытык, стаў не проста другасным, а лішнім. <...> З-за адсутнасці цэнзуры ў атмасферы творчай свабоды пісьменнікі “распеaзаліся”, часта нават не прапануючы і намёку на “грандыёзныя” мастацкія здзяйсненні, пачуваюць сябе ледзь не медыумамі, якія, натуральна, павінны быць па-за крытыкай. Усё, што ні напіша творца, – дарэчы, бо сам аўтар можа патлумачыць невыпадковасць любой дэталі, нюансу, ходу думкі. Пры гэтым забываецца, што як чытач, так і крытык у прынцыпе не могуць быць тоеснымі аўтару. Сёння крытык пачасту змушаны апраўдвацца, няёміцца, пачуваючы сябе адзіным апранутым чалавекам на нудысцкім пляжы аголеных творцаў, якія, як дзяўчаты перад дэфларацыяй, і хочуць “крытыкі”, і панічна баяцца яе”.

Такім чынам, новы праект Ігара Запрудскага – *кніга пра крытыку* (тэарэтычныя разважанні) і, адначасова, *кніга крытыкі* (практычныя ўзоры “рэальнай крытыкі”), а яшчэ гэта – падсумаванне прачытанага і перадуманага аўтарам за апошнія дваццаць гадоў, своеасаблівыя *мемуары* назіральніка і ўдзельніка літаратурнага працэсу. Пасля кожнага артыкула ў зборніку пазначаны год напісання (ад 1995 да 2012 г.) і менавіта храналогія стварэння тэкстаў вызначае кампазіцыю кнігі. Вось чаму артыкулы пра Уладзіміра Караткевіча і Івана Мележа папярэднічаюць артыкулам пра Максіма Гарэцкага і Максіма Багдановіча, а рэцэнзія на “Дзярэчынскі дыярыюш” Міхася Скоблы папярэднічае рэцэнзіі на “Успаміны Сапліцы” Генрыка Жавускага. Акрамя таго, кніга падзелена аўтарам на дзве часткі: “Артыкулы і нататкі” і “Рэцэнзіі і водгукі”, але гэты падзел даволі ўмоўны і ў выпадку некаторых тэкстаў неапраўданы: напрыклад, “водгукі” “Торад і сейбіты ветру (у цянётах магічнага рэалізму)” і “Кнігі-людзі-парадоксы” смела можна было змясціць у раздзеле “Артыкулы і нататкі”.

З першых старонак кнігі Ігара Запрудскага адчуваецца дасканалае веданне аўтарам гісторыі нацыянальнай літаратуры, добрая тэарэтычная падрыхтоўка, канцэптуальнасць мыслення, уменне аналізаваць творы, арыгінальнасць гіпотэз і высноў. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць хаця б некалькі тэкстаў з “Метафізікі беларускай літаратурнай крытыкі”. Ігар Запрудскі пацвярджае сваю рэпутацыю прафесійнага гісторыка беларускай літаратуры XIX ст. у рэцэнзіях на першы том анталогіі “Беларуская літаратурная спадчына”, перавыданне ананімнай паэмы “Тарас на Парнасе” і творы Генрыка Жавускага і Тадэвуша Булгарына. Ён смела сцвярджае сябе як даследчык беларускай літаратуры XX ст. у артыкулах, прысвечаных творчасці Максіма Гарэцкага, Максіма Багдановіча, Івана Мележа, Міхася Стральцова, Алеся Разанава, Міколы Купрэева, Валянціны Коўтун. І ўрэшце не баіцца выступаць у ролі заўзятага літаратурнага крытыка, ацэньваючы найноўшыя тэксты Андрэя Федарэнкі, Адама Глобуса, Міхася Южыка, Анатоля Казлова, Вальжыны Морт, Нікі Ракіцінай.

Выказванні Ігара Запрудскага пра беларускую літаратуру вылучаюцца вобразнасцю і змястоўнасцю:

“Роўна 100 гадоў таму кволы беларускі літаратурны саджанец упершыню абгарадзілі, каб не патаптала скаціна, і ўзяліся паліваць і даглядаць. Гэтая сціплая загародка называлася “Наша ніва”. Насуперак скептыкам сёння ў ёй вырас рэальны нацыянальны літаратурны баабаб, які прагне амаладжэння”.

“Толькі нікчэмнік будзе адмаўляць дасягненні беларускай літаратуры савецкага перыяду. Але, як ні журботна гэта прызнаць, у адрозненне ад свежай генерацыі, усе “бээсэсэраўскія” творцы былі ў агульнаэстэтычным плане рэдуцыраванымі. Хацеў хто ці не, але мусіў пацвярджаць сваю ідэалагічную добранадзейнасць, свае жанравыя і стылявыя шуканні”.

“Сённяшні манапаліст, пакаленне філалагічнае, паступова сыходзіць. Са сваіх дзяцей яно не выхавала ў такой жа ступені прагных да творчага дыктату паслядоўнікаў. На змену прыходзяць унукі – пакаленне лінгвістычнае, якое рускі культурны вектар-арыенцір мае на ўвазе толькі як шараговы і пазаштатны”.

Аналізуючы артыкул Міхася Стральцова пра паэзію Уладзіміра Хадыкі, аўтар “Метафізікі беларускай літаратурнай крытыкі” трапна заўважае, што Стральцоў, “пішучы пра лірыку Хадыкі, нібы характарызаваў і ўласную вершатворчасць”. Вызначаючы сутнасць паэтычнай манеры Алеся Разанава, Ігар Запрудскі слушна называе “медытатыўную заглыбленасць у пэўны эмацыянальны стан, насычанасць і напружанасць думкі і, як ні парадаксальна, абстрагаванасць дэталізаваных апісанняў”. Справядліва адзначае крытык наяўнасць шматлікіх запазычанняў і ўплываў у паэзіі Вальжыны Морт: “Хочаш не хочаш, а мусіш задумацца, колькі рысачак-штрышкоў і нават элементаў-абрысаў самой паставы WM было запазычана яе творцам з перакладных англійскага, польскага і ўкраінскага камрадаў”.

Але галоўная адметнасць кнігі Ігара Запрудскага ў кантэксце сучаснай беларускай крытыкі заключаецца не ў сукупнасці выказаных аўтарам цікавых думак і добра напісаных тэкстаў, а менавіты ў манеры выкладання матэрыялу, у выбранай аўтарам творчай стратэгіі. І тут мы зноў вяртаемся да паняцця “рэальнай крытыкі” і трох кітоў, на якіх яна трымаецца: шчырасць, праўдзівасць, імкненне зацікавіць роднай літаратурай чытача.

У *шчырасць* аўтара “Метафізікі беларускай літаратурнай крытыкі”, у ягоную чытацкую любоў да роднай літаратуры і боль за яе сучасны стан верыцца *a priori*, інакш бы ён не прамяняў надзейную, абжытую тэрыторыю гістарычнага літаратуразнаўства на адкрытую для ўсіх вятроў прастору літаратурнай крытыкі, дзе творцы-пісьменнікі і прафесійныя крытыкі напэўна ўспрымаюць яго як дзівака-неафіта. Зрэшты, неабыякавасць аўтара кнігі да лёсу айчыннай літаратуры выразна праяўляецца ў большасці артыкулаў і рэцэнзій: і разважліва-аналітычных, і эмацыянальна-палемічных.

Што гарантуе *праўдзівасць* Ігара Запрудскага як крытыка? На думку аўтара, менавіта ягоная непрыналежнасць да карпаратыўнага цэху крытыкаў і да пісьменніцкага асяроддзя ўвогуле, адсутнасць задачы абслугоўваць інтарэсы той ці іншай тусоўкі, “раскручваць” творчасць сяброў і падтрымліваць агульныя “правілы гульні ў літаратуру”. “Не будучы карпаратыўным крытыкам, я адбіраў прыклады не тыя, што “за”, а паказальныя”, – папярэджвае ён у адным з артыкулаў. А ў другім прызнаецца: “Я ж не заўзяты крытык, які павінен штосьці пісаць ледзь не па абавязку. Прызнаюся, я аматар...”.

Застаецца рэалізаваць трэці прынцып: *узбудзіць цікавасць да роднага прыгожага пісьменства* ў сучаснага чытача (“І сёння мяне многае засмучае ў артыкулах і рэцэнзіях, апублікаваных у перыёдыцы: асабліва калі пра шэры і незмястоўны твор яшчэ і пішацца нецікава...”). Вядома, шчырасць і праўдзівасць выкананню гэтай няпростай задачы спрыяюць, але каб выклікаць сапраўдную цікавасць чытача да беларускай літаратуры, трэба пра яе па-іншаму пісаць: востра, захапляльна, з нечаканымі параўнаннямі і эмацыянальнымі аўтарскімі адступленнямі. Як белетрызаваную аповесць, як шляхецкую гавэнду, як **мемуары**.

Увогуле, мемуарны жанр аўтар ставіць вышэй за навуковы дыскурс: *кніга крытыкі і пра крытыку* пачынаецца з успамінаў пра асабістую сустрэчу студэнта Ігара Запрудскага з пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам, апісанне сустрэчы заканчваецца эмацыянальным заклікам: "...давайце не саромецца і, галоўнае, не ленавацца пісаць успаміны, бо ніякія, нават самыя цудоўныя, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы не дадуць нашчадкам жывога ўяўлення пра тое, што было, было калісь!"

Уплыў мемуарнай прозы, такіх яе разнавіднасцяў, як дыярыуш, шляхецкая гавэнда, выразна адчуваецца ў стылі кнігі "Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі": агульныя разважанні пра літаратурны працэс і аналіз канкрэтных твораў аўтар раз-пораз перамяжоўвае ўспамінамі з асабістага жыцця, шчодра перасыпае прыказкамі і прымаўкамі.

Філасофскія паняцці і літаратуразнаўчыя тэрміны ("гарызонт чакання" Х-Г. Гадамера, "звышлітаратура" А. Адамовіча) суседнічаюць у артыкулах і рэцэнзіях Ігара Запрудскага са з'едлівымі народнымі выслоўямі і фразеалагізмамі: "Пакуль не ўкусіць уласная вош, ніхто не варухнецца", "Хвалі каня пасля дарогі, а пана (пісьменніка) – як выцягне ногі", "Як пакуль свежым вокам з маёй званіцы відаць..." Апафеозам "фальклярызацыі" крытычнага стылю з'яўляецца наступны апакаліпсічны малюнак сучаснага літаратурнага працэсу: "Крытыкі засяроджаны на нюансах і канцэптуальна маўчаць, быццам ім каровы языкі аджавалі. Пісьменнікі матыляцца, як мухі ля святла, каля "сваіх" выданняў. За выключэннем некаторых імёнаў, многія цяперашнія белетрысты пішуць так моцна, як кот брыкаецца. "Паэзіі" сёння хапае, ды "крэпкіх" вершаў – вельмі мала. У агульнай масе шматлікія лірыкі "спяваюць", нібы тыя жабракі пад касцёлам. Пад акампанемент іх журботных галашэнняў ціха канае пераклад, які ў незалежнай Беларусі – ні дома, ні замужам. Драматургія пры тэатрах, як той п'яны пры плоце: адпусціць, дык паваліцца. Аднак ёсць ніштавата драматургаў, у якіх творчага сораму, як у пеўня мяса на шпорах. Але ўсе разам салідарна ўпэўнены, што крытыка ім трэба, як свінні завушніца".

У кнізе цытуюцца або згадваюцца многія пісьменнікі і літаратуразнаўцы, як беларускія (Антон Гарэцкі, Аляксандр Гроза, Ялегі Пранціш Вуль, Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Дубоўка, Алесь Адамовіч, Віктар Каваленка, Міхась Тычына), так і замежныя (Фёдар Дастаеўскі, Артур Конан-Дойл, Фрыдрых Ніцшэ, Томас Ман, Эрых Марыя Рэмарк, Маргарэт Мітчэл, Колін Макалоў, Ралан Барт, Джон Гарднер). Цытаты з аўтарытэтных літаратурных крыніц раз-пораз перамяжоўваюцца згадкамі пра выпадкі з асабістага жыцця аўтара кнігі. У кнізе пад амбіцыйнай назвай "Метафізіка беларускай крытыкі" можна прачытаць наступны пасаж: "Прыходжу дахаты. Жонка сустракае: "Так стамілася – мыла вокны, выцірала пыл, рыхтавалася да Вялікадня, так што вячэру, калі ласка, падагрэй сам". Уласная стома, дзённыя ўражанні, затым згаданы чамусьці неблагі артыкул заходняга аўтара пра механізмы і спружыны міфалагізацыі... Карацей, я эгаістычна не згадзіўся. Жонка зазлавала. Самотна вячэраючы, думаў, што і сапраўды мы жывём у сілавым полі міфаў і не толькі палітычных, але і сямейных. Ранішняя рытуальная кава і вячэрняя стома".

Адсутнасць яскравых твораў у сучаснай беларускай літаратуры крытык звязвае з творчай імпатэнцыяй пісьменнікаў, а імпатэнцыю... з іх філалагічнай адукацыяй: "Значны адсотак нашых пісьменнікаў прайшоў праз філфакі ВНУ. І тут таксама карані пісьменніцкай імпатэнцыі. Філфакі – жаночыя ўстановы з адметным светасузіраннем. І рэдкія там "кропелькі" мужчынскай прысутнасці асуджаны на выключнасць і заканамерныя комплексы".

Падобныя біяграфічныя ўстаўкі, як і фразеалагічныя аздабленні, безумоўна, ажыўляюць стыль кнігі, але не заўсёды ідуць ёй на карысць. Тое ж самае можна

сказаць пра палемічны пафас і дыскусійнасць, характэрныя для большасці артыкулаў і рэцэнзій Ігара Запрудскага. Як вядома, не запальвае іншых (слухачоў, чытачоў) той, хто сам не гарыць. І чытаць пранікнёныя, вобразна-эмацыянальныя тэксты куды цікавей, чым нудныя, псеўданавуковыя разважанні, перасыпаныя мноствам мёртвых тэрмінаў. Але ў некаторых палемічных артыкулах Ігара Запрудскага сустракаеш такое напластаванне аргументаў і контраргументаў, што здаецца, нібыта аўтар спрачаецца сам з сабой і адразу пра ўсё на свеце ("нешта пра нішто"), забыўшыся пра заяўленую тэму. Чытаючы такія артыкулы, як "Сапраўды (пра крытыку ўвогуле і крытыку ў прыватнасці)", "Сапраўды-2 (Як скрасці левы чаравік?)", "Пост САПРАЎДЫ, або БАДАЙ-2" згадваеш яшчэ адзін папулярны жанр беларускай літаратуры XIX стагоддзя, які напэўна паўплываў на аўтара "Метафізікі беларускай літаратурнай крытыкі": *гутарку* ("Гутарка старога дзеда", "Гутарка Данілы са Сцяпанам", "Гутарка двух суседаў" і інш.).

Праграмная арыентацыя на займальнасць, імкненне зацікавіць чытача выразна адчуваецца ў парадаксальных, "барочных" загалоўках артыкулаў і рэцэнзій: "Партрэт Караткевіча ў імпрэсіўнай рамцы, або давайце пісаць успаміны", "Настальгічная навацыя, або Водар іранічнага блазенства (пра аповесць Васіля Быкава «Воўчыная яма»), "Алхімія слова, ці Антынафталін для споду літаратурнага куфра («Кніга ўзнаўленняў» Алеся Разанава)", "Выкананы запавет, або Па слядах тутэйшых д'артаньянаў («Успаміны Сапліцы» Генрыка Жавускага)" і інш. Што праўда, у пагоні за эфектным, "дэтэктыўным" загалоўкам аўтар часам губляе пачуццё меры, і "блішчасты" загаловак замест таго, каб прыцягваць увагу, пачынае раздражняць: "Боскасць, босасць і Паэзія, ці сверб секулярызаваных кантычак", "Прыдуманая наўмыснасць, альбо Нешта пра «ні пра што» (імпрэсіяніцкія выявы зборніка Віктара Вабішчэвіча «Уражанне»)" і інш.

Паспрабаваўшы вызначыць галоўныя асаблівасці крытычнай манеры Ігара Запрудскага, я вырашыў суаднесці свае суб'ектыўныя ўражанні з меркаваннем прафесійнага даследчыка творчых стратэгій у беларускай крытыкі і звярнуўся да грунтоўнага артыкула Маргарыты Аляшкевіч "Стратэгіі поспеху ў беларускай літаратурнай крытыцы" ("Studia Białorutenistyczne", 2013, t. 7, s. 177-195). Як ні дзіўна, я не знайшоў там ані радка пра аўтара "Метафізікі беларускай літаратурнай крытыкі", ніводнай спасылкі на ягоныя шматлікія публікацыі. Згадаліся сумныя словы Ігара, сказаныя ў прыватнай размове: "Прафесійныя крытыкі аднесліся да маёй кнігі без энтузіязму". І яшчэ ўспомнілася ягонае выступленне на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Каўнасе (2014) з дакладам "Творчая спадчына Ф. Багушэвіча ў кантэксце беларускага нацыянальнага адраджэння XIX – пачатку XX стагоддзяў", якое ён нечакана скончыў згадкай пра сваю прыгоду з крытыкай і песімістычнай высновай: "Здаецца, дарэмна я "хадзіў" у крытыку".

Дык вось, хацелася б запярэчыць Ігару Запрудскаму. На маю думку, ягоны паход у крытыку быў недарэмны, карысны для нацыянальнай літаратуры, і яго варта працягваць. Сведчыць пра гэта зборнік "Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі", якому няма аналагаў у беларускай крытыцы, як няма аналагаў гутаркова-гавэндзярскаму крытычнаму стылю аўтара. Для мяне галоўная каштоўнасць кнігі Ігара Запрудскага заключаецца ў сустрэчы двух культурных далягладаў: XIX стагоддзя і сучаснасці, і ў спалучэнні дзвюх метадалогій: гістарычнага літаратуразнаўства і бягучай крытыкі. Цікава ўбачыць найноўшую беларускую літаратуру ў гістарычнай перспектыве і "прымерыць" на творчасць нашых сучаснікаў погляды і выказванні Аляксандра Грозы, Ялегія Пранціша Вуля, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Антона Луцкевіча. У гэтым бачыцца наватарства і непаўторнасць кнігі "Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі".



кнігапіс

Леанід Галубовіч



...Кася піша свае вершы
ў "заходне-еўрапейскім фармаце"...

# Сцерагчы цемру

## *Рэцэнзія на кнігу Касі Сянкевіч "Гарбата з незабудак"*

*Калі любіш паэзію*
*Маўчы, не гавары нікому...*
Н. Артымовіч

Заводзячы гаворку пра Паэзію, я маю на ўвазе не вершаскладанне і нават не адмысловую версіфікацыю, а літаратурную мастацкую творчасць – магію ўсхваляванай душы і ўстрывожанасць духу. Аднак тое, што можна было б Ёй (Паэзіяй) назваць, аказваецца вялікай рэдкасцю, у тым ліку, як ні дзіўна, і на бібліятэчных паліцах з сусветнай класікай. Зразумела, што нават у двух чалавек не будзе адзінага вызначэння ў паэтычных прыхільнасцях: адзін возьме за ўзор М. Багдановіча, а другі П. Броўку, гэты прывядзе ў прыклад "Раманс" ("Зорка Венера..."), той – "Пахне чабор"... І абодва мецьмуць рацыю ў адстойванні свайго паэта. Аднак у вызначэнні Паэзіі справа палягае не ў адным выбітным вершы і не толькі ў вершах увогуле, а ў цэльнай гармоніі Паэта як творцы і чалавечай асобы ў адной іпастасі. Бо калі кажам, што талент ад Бога, то можам казаць, што і сам

Паэт, адораны такім талентам, таксама ад Яго. Значыць, ёсць лёс, наканаванне і, у рэшце рэшт, прызванне Ім (Паэтам) быць. Не толькі пісаць вершы, ствараць прыгожае мастацтва, але, у пэўным сэнсе, з'яўляцца яго зямным жывым увасабленнем (адбіткам, адлюстраваннем, калі хочаце). Што гэта значыць? Гэта азначае ўскладанне на сябе адказнасці за несумненнасць і непахібнасць свайго вобразнага прароцтва (пісьма-тэкста), поўнай адкрытасці свету як у грахоўнасці, так і ў святасці ўласнага жыцця. А яшчэ гэта змірэнне з тым, што ты пажыццёва асуджаны не выходзіць за межы Слова, якім пазначаны твой талент, як і з тым, што служыш сваёй творчасцю Яго вялікасці Слову, а не прыхамаці яго шматлікіх *спажыўцоў*...




Такі вось высакамоўны ўступ атрымаўся. Перавяду дух... Ёсць адчуванне ўласнай творчай стомленасці і вінаватасці, незапатрабаванасці і няспраўджанасці... Адсюль і гэты, з чытацкага боку погляду, дыдактычны пасаж...

Таму і да іншых хацелася б ставіцца з ужо вызнанай на ўласным вопыце мерай творчай спагады і паразумелай крытычнасці. І ўсё ж, разгортваючы новую кніжку вершаў яшчэ невядомага табе аўтара, мяне заўжды не пакідае хваляванне сустрэчы з ***мастацкай навіной***, з нейкім маланкавым азарэннем таго таленту, пра які я казаў вышэй. Не толькі ў вершах паэта, але і ў выяўленым яго чалавечым вобразе.

Такая вось запеўка перад тым, як падзяліцца сваімі ўражаннямі ад зборніка вершаў "Гарбата з незабудак" беластоцкай паэткі Касі Сянкевіч. Яна яшчэ даволі маладая. Ёй толькі 23 гады. Мастачка па адукацыі і, пэўна, па прызванні (скончыла Мастацкі ліцэй імя Артура Гротгера ў Супраслі, цяпер студэнтка мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта). Я не меў магчымасці азнаёміцца з яе першым зборнікам "Дачка ружы".

Адразу адзначу, што Кася піша свае вершы ў "заходне-еўрапейскім фармаце", дазвольце мне гэтак назваць такі спосаб пісьма агулам. Я тут кажу пра верлібр і свабодны (можа нават лепш сказаць, адвольны) верш, да якога сучасных, у пераважнай большасці дэмакратычных, творцаў падштурхнула сама цывілізацыя (урбанізацыя, тэхнакратыя і глабалізацыя ладу і ўкладу жыцця). І цяперашні прагматызм, безумоўна. Адпала патрэба ў высілках захавання метрыкі верша, яго рыфмоўкі і непарушнасці пэўнай формы. Гэткі спосаб вершаскладання з'яўляецца нейкім чынам пераходным мастком ад прозы да паэзіі і наадварот. Падобныя творы больш спрошчаныя, не так маляўнічыя і менш эмацыйныя, чым вершы класічныя... Я кажу найперш не пра выбітныя паэтычныя рэчы, якія здараюцца пры любых раскладах, а пра агульную масу напісаных вершаваных тэкстаў. Зразумела, што рыфмаваць цяжка і марудна, для гэтага трэба мець своасаблівы талент. Пісаць верлібрам, ды яшчэ "шыфраваным" (я так бачу і разумею жыццё, а вы разумейце як зможаце, сыходзячы з таго, што я напісаў) нашмат лацвей... Адвольны верш звёўся да даступнай паўсядзённасці, ім пішуць ледзь не дакладныя і вытворчыя паперы. Таму трэба мець усё ж тонкі талент, каб і ў гэтай форме заставацца Паэтам... На жаль, гэткая з'ява пакуль вялікая рэдкасць у нашай літаратуры.

Не забываецца, як аднойчы на пачатку перабудовы С. Грахоўскі на парозе Дома літаратара нервова і ўпэўнена заяўляў некаму з маладых калег, што такіх вершаў, якія піша А. Разанаў, ён пры жаданні можа напісаць цэлы мех за адну ноч...

Такіх, на жаль, Сяргей Іванавіч так і не напісаў.

І раз ужо зачапіўся за Алеся Разанава, то не магу не ўспомніць і пра выбітную беластоцкую паэтку Надзею Артымовіч, не без уплыву якой, як мне думаецца, выявілася літаратурнаму свету і яе зямлячка К. Сянкевіч. Дык вось хочацца

напомніць нашым маладым паэтам трапнае вызначэнне Н. Артымовіч, што тычылася паэзіі і адначасна было як бы фармулёўкай, датычнай яе ўласнай творчасці: *“У творчасці паэта ёсць адзін важны верш. Усе астатнія вершы з’яўляюцца тлом, ценем, у якім паэт схаваны. Не заўсёды творца ўсведамляе цалкам значэнне тых спратаў і схованак. Сапраўдная паэзія – гармонія. Гармонія, дасканаласць. І таму так цяжка паддаецца аналізу. На якім слове пачнецца верш, на якім слове верш скончыцца? Пра гэта ведае толькі паэт. Але гэта не выключае іншых варыянтаў прачытання вершаў чытачамі. Аўтарскія лагічныя акцэнты ў вершы глыбока прыхаваны. (...) Мой верш ёсць выказваннем і недаказам. Вядомасць ці ананімнасць маёй паэтычнай творчасці не мае для мяне ніякага значэння*”.

Шчыра кажучы, адштурхнуўшыся ад гэтага выказвання, лягчэй патрапіць у паэтычны і агулам мастацкі (чалавечы, дзявочы) свет К. Сянкевіч.

Колькі слоў пра назву зборніка. Калі па шчырасці, то піць “гарбату з незабудак” не тое што немагчыма, але, па ўсім, небяспечна з пункту гледжання нашага фізічнага здароўя. Такую гарбату можна замаўляць толькі ў замроеным стане, для душы, як кажуць, у яе лірычна-вобразным увасабленні... Нездарма паэтка як бы папярэджвае і сябе і нас адначасна, нагадваючы ў адным са сваіх вершаў:

не ведаю пра што я павінна была забыцца ўчора
п’ючы гарбату з незабудак.

Менавіта не *ўспомніць*, а ***забыцца***... Вельмі тонкі перакрутны троп...

У беластоцкай паэткі сваё бачанне, свой малюнак жыцця і такое ж пра яго ўласна-пажаднае ўяўленне (адстаронена-мастацкае)... Яна *крэсліць* вершы (не малюе, а ў лепшых выпадках выкрасае) падобна як Адам Глобус: адной лініяй – без адрыву рукі, погляду і дыхання... Але, як ні дзіўна для мастачкі, у яе вершаванай прасторы мала колераў і ўвогуле яркіх фарбаў... Свет пераважна чорна-белы і, можна сказаць, абстрактны, тады як чалавек і яго стасункі са сваім духоўным атачэннем блізка-кроўныя... Паміж словамі, вобразамі, думкамі, пачуццямі сашчэпы вельмі слабыя, умоўна-адцягнутыя, так што чытачу нярэдка даводзіцца самому *збіраць пазлы* рассыпанага ў прасторы тэкста верша. Такія вершаваныя тэксты К. Сянкевіч па сваёй адстароненасці, унутранай хаатычнасці і пустаце ў паўзах хоць і маладаступныя, аднак жа, разгадаўшы для сябе адзін з іх (уразумеўшы яго), па той жа методзе можна паспрабаваць *дайсці* і да ўсіх іншых...

Пераважна маладая паэтка высноўвае (выяўляе) сваю аўтарскую ідэю (задуму, натхняльны эмацыйны пасыл) праз дробную шараговую бытавую дэталь, душэўны імпульсіўны зрух, цьмяную метафару, аддалены таямнічы намёк, не да канца выразны сімвал...

Сыходзячы з усяго вышэй напісанага можна падумаць, што ўсе вершы К. Сянкевіч ад пачатку не разлічаны на шырокага чытача, ды нават і на яго вузкае кола, бадай, не разлічаны, а – найперш на самую сябе (іх аўтара і гераіню)... Вершы з сябе для сябе самой. Праз іх яна ўжываецца ў свет, сталее і набіраецца вопыту. Аднак кожнаму аўтару хоць з кімсьці ў гэтым свеце ўсё ж хочацца *падзяліцца сабой*, сваёй творчасцю (не разгалосіць яе таямніцу, а завабіць ёй) мала спадзеючыся, што нехта знойдзе канчатковы шыфр для яе разгадкі. У нашым выпадку чытач хутчэй падзівіцца і роспачна развядзе рукамі... Як ні спрабую, маўляў, а не магу ўвайсці ў гэтыя тэксты, нераўнуючы як некалі ў “дзверы” вершаў Н. Артымовіч браўся ўвайсці А. Разанаў. Не, ён то якраз і ўвайшоў, але сваім шляхам, і толькі таму, што ўсяму там, у паэтычным прытуле Артымовіч, надаў сваё бачанне, вычуванне і разуменне. Скажам, зрабіў спробу прыватызацыі і еўрарамонту... Хоць па словах самой Н. Артымовіч:

Паэты паміраюць тады
калі знойдзены дакладныя адрасы
сытыя жэсты

Таму не хацелася б нават і блізка падступацца з падобнай мэтай да паэзіі К. Сянкевіч. Няхай лепш яна (яе паэзія) застаецца *нераспазнанай*... а значыць, больш прыцягальнай.

Сыходзячы з гэтага, паспрабуем усё ж нияк увайсці ў разрэджаны слой атмасферы паэтычнага космаса К. Сянкевіч. Як мне здаецца, яна хоча паказаць нам не віднае і відавочнае, а тое, што заценена і не відно, хоча правесці чытача не праз святло, а праз паўзмрочнае сутонне сваіх вычуванняў і рэфлексій, бо жадае быць не *заўважанай*, але ***заўважнай*** – прыкметнай, як дымны цень месячнай ноччу, пра які пісаў Ф. Цютчаў:

Вот наша жизнь, – промолвила ты мне, –
Не светлый дым, блестящий при луне,
А эта тень, бегущая от дыма.

Вось, нават у самым пачатковым вершы зборніка гаворыцца:

няма гадзін позніх
няма і ранніх
ёсць толькі секунды
пераплеценыя паміж пальцамі птушак

Што хацела сказаць паэтка? Ды нічога асаблівага. Проста сказанае набыло метафарычную форму адказа на пытанне: чаму не затрымліваецца час? Апошні радок і гаворыць нам, што ён – адлятае...

Падобная завуаляванасць (іншаказаннне) сімвалічна абазначаная ў пераважнай большасці вершаў К. Сянкевіч. Як і ў гэтай празе, гэта значыць, пожадзе чыстага сэнсу і ўваскрашэнні прамінулага:

гэта праўда –
ёсць такі сшытак
праўды пра мяне
ёсць такое месца для сонца
з другога боку зямлі
у сне іду сваёй сцежкай
да пачатку

Ці зноў жа – пра нашу чалавечую патайбытнасць, адзіна якой можам даверыцца і даверыць сваё існае, што захоўваем у недатыкальнасці і першароднай чысціні і вобразнай незаплямленасці, адкуль я скарыстаў метафарычны элемент у назове гэтай рэцэнзіі:

усю цемру можаш сцерагчы
яе цяжкую зброю трымаеш над ложкам
не без віны як кожны
чаму ж расказваеш ёй пра мяне
я нават табе
пра цябе не згадваю

Дзе нават згадка пра каханага прапускаецца праз сябе, як праз чысцец:

Я купіла табе луг,
ды забылася
падарыць яшчэ дождж.
Ты не мог дараваць мне букетаў –
прыносіў сасновае голле...

Нельга не адзначыць шматпланавасць і шматпластавасць, але, на жаль, не пластычнасць вершаў паэткі, якія падчас маюць структуру шматпавярховага дома, яшчэ не заселенага і не абжытага (дарагі кошт і дзіўная непадыходзячая планіроўка)... Ці не таму час ад часу праяўляецца ў яе радках падсвядомае адчуванне сваёй недасканаласці і несамадастатковасці, асабліва ў небяспечных і крытычных сітуацыях, якія пагражаюць зямной адзінотай, як у вершы "Месяц":

рэшта дня
цяжка ляжала ў тваім
капелюшы ўспамінаў
расчаравалі людзі
месяц не скончыў
маляваць ноч

Пасля такіх падступстваў няма чаго здзіўляцца наступным высновам:

Гледзячы ў люстра ў ванне
у пустым пакоі падчас сну
пішу вершы дзякуючы табе
я авалодала мастацтвам
плачу крывёй

Прымаючы да ўвагі, што перадапошняе слова верша чытаецца ў рознанацыянальным падвойным сэнсе (плач***у***, пл***а***чу), усё ж тыя высновы падаюцца роўнавартаснымі з мастацкага погляду ў абодвух сваіх варыянтах.

Адным словам, паэтка амаль адкрыта кажа:

Я вяртаюся, па новых
правілах.
Цябе няма, прымаю пад увагу гэты факт.
Ты плод майго ўяўлення.
Вернешся, раней ці пазней
з краю неіснавання.

Зраблю некалькі канкрэтных заўваг.

Магчыма, недасканалае веданне мовы з прычыны яе абмежаванага ўжытку не дазваляюць паэтцы вымалёўваць больш аб'ёмную, густую, шматкаляровую і рознастылёвую карціну яе ўласнага свету. Нярэдка складаецца ўражанне абсечанасці і каструбаватасці ў некаторых паэтычных канструкцыях, як вось і ў гэтым вершы:

бачыла цябе ў згнілым святле
іржавых
планетаў
была тваёй даланёю
той самай у абодвух водблісках

Альбо:

Ядвабная надзея ўжо высцілае
маю галаву ўнутры...

Бо падсвядома паэтка і сама міжволі выносіць прысуд асобным сваім няўдачам:

стра<u>хі хі</u>міі дэманічнай нефізічныя
экстрасенсорныя адчуванні афізіялагічныя
жаху ад слова больш чым ад ільва...

Аднак прысутнасць вельмі трапных лірычных радкоў згладжвае і прытушоўвае гэтыя і некаторыя іншыя хібы вершаў паэткі. Скажам, такіх вось:

на канцы дажджу, дзе мокрае сонца
там мае слёзы смуткуюць па табе...

Ці вось гэтая (напрыканцы верша “Вада”) глыбокая і нечаканая подумка паэткі, што змушае здзіўлена запыніцца на прачытаным:

...Чысціня падае на зямлю,
толькі тады робіцца брудам.

Агулам у шмат якіх вершах трапляюцца такія запальныя іскрыстыя радкі, паэтычныя вобразныя знаходкі і адкрыцці: *“я растаптала кветку што бегла за мной”, “мае валасы адрастуць толькі тады калі перастане рваць іх гора”, “матыль кахання памёр перш чым перастаў быць вусенем”, “недакладныя рыфмы падзеяў анафарычна паўтараюцца”, “аракула шукаю не давяраю вуснам”, “пакажы, як усміхаешся, жуючы штодзённы горкі хлеб пакуты”, “сэрца б’ецца хутчэй чым магу бегчы за табою”*...

Пазначанасць, а лепш сказаць, знакавасць паэзіі Касі Сянкевіч заключана, на мой погляд, менавіта вось у гэтым вершы і вынесена паэткай для чытача як ключ да разгадкі яе паэзіі (расчытвання, расшыфроўкі), але не як ключ да замка тых “дзвярэй”, якімі спрабаваў адчыніць свет паэзіі Надзеі Артымовіч яе калега Алесь Разанаў, – хутчэй як адмычка толькі ўваходных дзвярэй, каб апынуцца ў глыбокай задумцы перад усімі далейшымі яе ўнутранымі “зачыненасцямі”:

прынада голасу
прынада слухання
наркотык паэзіі
фантазія
вера ў нябачную эмоцыю
нетыповую для нас
бо не хоча тлумачыцца параўнаннямі

Калі падводзіць нейкую рысу пад гэтымі маімі блытанымі і нярэдка, мабыць, супярэчлівымі разважаннямі адносна вершаванага зборніка Касі Сянкевіч, які пабачыў свет у серыі “Кнігарні пісьменніка”, то, надаючы ўвагу і паказваючы на адметнасць творчасці маладой беластоцкай паэткі (а заадно і захавальніцы нашай моўнай ідэнтычнасці), яе творчай адоранасці, і спадзеючыся на яе больш яркі і глыбокі паэтычны плён, адвітаюся з чытачамі яе ўласнай літаратурнай характарыстыкай:

Гэтая справа не для абмеркавання.
Прыгадай
апошнюю ўсмешку,
апошні наш сум.
Пра тое магла б быць
напісана паэма,
а ёсць толькі гэты кароткі
верш.

# Час збіраць косці

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Таццяна Барысік. Жанчына і леапард. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 56).**

Зборнік апавяданняў — непрыдуманых гісторый — магілёўскай літараткі Таццяны Барысік «Жанчына і леапард» з’явіўся ў серыі «Кнігарня пісьменніка». Большасць сюжэтаў, з якімі вы сутыкнецеся ў гэтым зборніку, — узятыя з нашага паўсядзённага жыцця. Беларуская правінцыя на мяжы тысячагоддзяў, клопаты, праблемы і радасці сучасных вяскоўцаў і гараджан, уся гама чалавечых пачуццяў знаходзяць сваё адлюстраванне ў невялікіх апавяданнях пісьменніцы. Узор сучаснай жаночай прозы — лаканічна і дасціпна, захапляльна і філасафічна, з пранікненнем у псіхалагічныя таямніцы чалавечых стасункаў.



**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. №2, 2014. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 278 с.**

Пабачыў свет альманах «Брама» №2, які асвятляе літаратурнае і культурнае жыццё Магілёўшчыны і выдаецца Магілёўскай абласной філіяй Саюза беларускіх пісьменнікаў. На старонках выдання апублікаваныя творы 33 аўтараў, якія працуюць у паэзіі, прозе, перакладзе, літаратуразнаўстве і публіцыстыцы. Знайшлося месца і для сатыры і гумару.

Асобны раздзел прысвечаны мемуарыстыцы — спадчыне, успамінам і дакументам. У прыватнасці, матэрыялам да 90-годдзя Валянціна Ермаловіча і да 25-годдзя Таварыства беларускай мовы.

*«Брама — гэта выхад у вялікі свет, магчымасць паказаць суседзям, і не толькі, які магутны творчы і вытворчы патэнцыял маюць усе тыя, хто знаходзіцца пад абаронай Брамы,* — піша Яраслаў Клімуць ва ўступным слове да новага нумара. — *Таму мы чакаем, што ў Браму будуць уваходзіць не толькі людзі пашаноўнага ўзросту, але і моладзь, бо на яе будзе ласціся тая вялікая місія захавання, прадаўжэння і развіцця нацыянальных каштоўнасцяў».*



**Генадзь Лапацін. «Ікона звалась свячой...» Абрад «Свяча» ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны. – Гомель: Барк, 2013. – 116 с.**

У кнізе ўпершыню ў беларускім народазнаўстве сабраныя разам, класіфікаваныя і інтэрпрэтаваныя звесткі пра ўнікальны абрад «Свяча», распаўсюджаны на Гомельшчыне і Магілёўскім Падняпроўі. Аўтар на падставе ўласных назіранняў кваліфікавана вылучае структуру абраду, аналізуе яго сучасны стан, абгрунтоўвае яго значнасць і неабходнасць захавання. Асаблівую каштоўнасць маюць аўтэнтычныя запісы абраду «Свяча», зробленыя ў часе фальклорных экспедыцый Генадзем Лапаціным і яго калегамі – супрацоўнікамі Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый імя Ф. Шклярава.

**Віктар Казько. Час збіраць косці. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 340 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 57).**




У новую кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Віктара Казько ўвайшлі тры аповесці, у якіх аўтар запрашае чытачоў у падарожжа пакручастымі сцежкамі чалавечае памяці, дзе будзённасць перагукаецца з трывожным сном, поўным прарочых і сімвалічных праяваў, заклікае прыслухацца да глыбокіх філасофскіх, месцамі містычных, а ў выніку заўсёды аптымістычных і жыццесцвярджальных думак і разваг. Акрамя аповесці «Час збіраць косці», якая дала назву кнізе, у зборнік увайшлі творы «Прахожы», «І нікога, хто ўбачыць мой страх». Шукайце ў кнігарнях вашага горада!

**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №2, 2014 / укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 254 с.**




У зборніку апублікаваныя паэзія, проза, творы для дзяцей, краязнаўства і літаратуразнаўства. Звяртаецца ўвага і на гісторыю Гомеля, і на захаванне памяці творцаў і іх пісьменніцкай спадчыны, і на традыцыйную культуру беларусаў. У выданне ўвайшлі тэксты на беларускай і рускай мовах не меней як 37 аўтараў.

Як адзначае ў прадмове ўкладальнік альманаха "Палац", старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, *"мы спадзяёмся, што беларускамоўны чытач знойдзе наш альманах і прачытае яго, адчуе подых нашага змагання і нашую веру, што мы пераможам... А мы крок за крокам будзем ісці далей, будзем рупіцца, каб падрыхтаваць новыя, і цяпер ужо заканчваем збіраць творы для трэцяга нумара "Палаца"*.

"Дзеяслоўцы" ж, разам з усёй прагрэсіўнай літаратурнай грамадскасцю, цешацца актывізацыі літаратурнага працэсу ў рэгіёнах, мажлівасці аўтараў знайсці свайго чытача і зычаць і "палацаўцам", і "брамнікам", і ўсім іншым беларускім творцам плёну ў нашае агульнае супольнае працы на карысць Бацькаўшчыне. Супольна – пераможам!

**Анатоль Трафімчык. 1939 год і Беларусь: забытая вайна. Мінск: А.М. Янушкевіч, 2014. — 226 с.**




Кніга сталага аўтара "Дзеяслова" Анатоля Трафімчыка прысвечаная найбольш супярэчлівым пытанням, звязаным з удзелам беларускага народа ў падзеях пачатку Другой сусветнай вайны. З беларусацэнтрычных пазіцый даецца падрабязны аналіз прычын, перадумоваў і хады ваеннага канфлікту, характарызуецца месца і значэнне Беларусі ў палітычных гульнях еўрапейскіх дзяржаваў міжваеннага часу. Асаблівая крытычная ўвага надаецца праблеме "вызвалення" і "аб'яднання" Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. і ўсталявання там савецкай улады. Аўтар паставіў перад сабою задачу паглядзець на пачатак Другой сусветнай вайны з пазіцыі беларускіх палітычных і нацыянальных інтарэсаў. Дзякуючы гэтаму, даўно вядомыя факты і ацэнкі атрымалі іншае гучанне і вымярэнне... Галоўная думка кнігі – Другая сусветная вайна пачалася для Беларусі менавіта ў 1939 годзе. Аўтар ушчэнт разбівае штампы пра "вызваленчыя" матывы ў палітыцы сталінскага Савецкага Саюза адносна Заходняй Беларусі, створаныя савецкай ідэалагічнай машынай. Вялікае месца ў выданні таксама адводзіцца рэакцыям грамадства на палітыку новай савецкай улады на заходнебеларускіх землях у першыя гады Другой сусветнай вайны.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (68-73) за 2014 год

***Юбілеі. Памяць***



***Тэатр. Сцэна***



***Прачытанне***



***Сумоўе***



***Гісторыя***



***Палата №6***



***Крытыка. Кнігапіс. Паралелі***

# Нашыя аўтары

**Амб'ёрнсэн Інгвар** – нарвежскі празаік. Яго творчасць – сацыяльны пратэст у падтрымку людзей, вымушаных жыць на мяжы грамадства, слабейшых і неабароненых дзяржавай усеагульнага дабрабыту. Дэбютаваў у 1981 годзе (раман «23-я палата»). Нарадзіўся ў 1956 годзе ў м. Тэнсбэрг (Нарвегія). Жыве ў Гамбургу (Нямеччына).

**Астапенка Анатоль** – публіцыст, навуковец. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі МАІТ. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Пад псеўданімам Антон Кулон выдаў кнігу эсэ «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Багданава (Сачанка) Галіна** — празаік, мастацтвазнаўца. Аўтар кніг прозы «Папяровыя замкі», «Чалавек без адраса», «Дом іхняе мары», «Сакрамэнта». Нарадзілася ў 1961 годзе ў Крычаве на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Будовіч Таццяна** — паэтка, крытык. Навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Максіма Багдановіча Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання», «Нагаварыцца з зоркамі» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Памёр у 2014 годзе.

**Вайцяшонак Марыя** — паэтка, празаік. Аўтарка кніг прозы «Сярод блізкіх людзей», «Жанчына каля люстэрка», «Сад нявіннасці», «Кола», «Асадніца», кнігі для дзяцей «Каму расказваюць казкі на два вушкі», кнігі вершаў «Серпень». Выступае таксама з апавяданнямі і казкамі. Нарадзілася ў 1942 годзе ў Змяінагорску (Алтайскі край). Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Першазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дарохін Павел** – паэт. Скончыў гістфак БДУ (гісторык, мастацтвазнаўца) і магістратуру. Удзельнік розных мастацкіх (у тым ліку комікса, карыкатуры) і музычных («Купалаўскія вакацыі», «Адбор на «Бардаўскую восень») конкурсах, праекту «На шляху да сучаснага музея». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Даніленка Валадзімір** – украінскі празаік, крытык, літаратуразнаўца. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія «Благовіст» (1999), імя Івана Агіенка (1999), «Березіль» (2010), прэміі Валерыя Шаўчука (2013). Аўтар кніг прозы «Місто Тіровиван», «Сон із дзьоба стрижа», «Газелі бідного Ремзі», «Кохання в стилі бароко», «Капелюх Сікорського», «Тіні в маєтку Тарновських», «Грози над Туровцем»; кнігі крытыкі «Лісоруб у пустелі», п'есы «Гроші для Йонеско». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Туравец на Жытоміршчыне (Украіна). Жыве ў Кіеве.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ёхансэн Лідзія** – перакладчыца. Скончыла раманскае аддзяленне перакладчыцкага факультэта МДЛУ, факультэт замежных моваў і мовазнаўства ўніверсітэта Ніжняй Нармандыі (Францыя), магістратуру пры гуманітарным факультэце ўніверсітэта Осла (Нарвегія). Нарадзілася ў 1979 годзе. Жыве ў Осла

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Час збіраць косці» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў «ЛіМе», «Крыніцы», «Нашай ніве» і інш. выданнях. Аўтарка кнігі «Матылі». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Лукашук Аляксандар** – празаік, публіцыст, эсэіст. З 1999 года – дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода. Аўтар кніг «Зьдзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцьця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «Сьлед матылька. Освальд у Менску», «Зкімбызымбы» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Макмілін Арнольд** – брытанскі філолаг-славіст, прафесар, папулярызатар беларускай літаратуры. Доктар славянскай філалогіі. Прафесар рускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта. Сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Англа-беларускага таварыства. Даследаваў навуковую дзейнасць Я.Ф. Карскага, Я. Чачота, творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, В. Быкава і інш. У 2010 годзе ў Лондане выйшла яго новая кніга «Напісанае ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 1970-х гадоў да нашых дзён». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Ньюкасле (Англія). Жыве ў Лондане.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку, дзе і жыве.

**Пазьняк Зянон** — палітык, гісторык, паэт, фотамастак. Аўтар кніг «Браслаўшчына», «Рэха даўняга часу», «Сапраўднае аблічча», «Курапаты», «Глёрыя Патрыя», «Беларуска-расейская вайна» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў мястэчку Суботнікі на Іўеўшчыне. Ад 1996 года ў палітычнай эміграцыі. Жыве ў Варшаве.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Сіўко Франц** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «З чым прыйдзеш...», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Асіметрыя», «Дзень бубна», «Выспы», «Эдэм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Лаўрэат літаратурных прэмій «Полымя» і «Залаты апостраф». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар» і інш., а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт, творы друкаваліся ў газеце «Ніва», часопісе «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы». Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску Падляшскім, дзе і жыве.

**Сцяпан Уладзімір** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў м. Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.